# ЭДУАРД САМУЙЛЁНАК

## ЗБОР ТВОРАЎ

*у двух тамах*

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:

*Міхась Лынькоў*
*Іван Шамякін*
*Іван Мележ*

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
*Рэдакцыя мастацкай літаратуры*
Мінск 1952

# ЭДУАРД САМУЙЛЁНАК

# ЗБОР ТВОРАЎ
## Том I

*Апавяданні*
*Аповесці*
*П'есы*

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
*Рэдакцыя мастацкай літаратуры*
Мінск 1952

## *ЭДУАРД САМУЙЛЁНАК*

Эдуард Людвігавіч Самуйлёнак, таленавіты беларускі празаік, нарадзіўся 23 ліпеня 1907 года ў Пецербургу. Бацька яго, Людвіг Сцяпанавіч, быў родам з Полаччыны. У горадзе ён працаваў спачатку чорнарабочым, потым швейцарам, прадаўцом газет і наборшчыкам. У 1918 г. Людвіг Самуйлёнак быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Жонка яго, Мальвіна Вікенцьеўна, пераехала з Эдуардам і яго малодшымі братамі, Генрыхам і Альфрэдам, на радзіму мужа у вёску Бандзелі, Дрысенскага раёна, Полацкай вобласці. Мясцовасць гэту, неўзабаве пасля іх пераезду, захапілі белапалякі, і сям'я была разлучана з бацькам.

Пасля вызвалення Беларусі ад белапольскай акупацыі Людвіг Сцяпанавіч вярнуўся да сям'і і пачаў працаваць пільшчыкам. Малы Эдуард яму дапамагаў. Ён хадзіў з бацькам на заработкі ў бліжэйшае мястэчка і па суседніх вёсках. Увесь свой вольны час ён прысвячаў кнігам, нястомна пашыраючы свае веды чытаннем. У 1924 г. у суседнім мястэчку Росіца арганізавалася пры актыўным удзеле Эдуарда камсамольская ячэйка. Эдуард праводзіў сходы моладзі і вечары самадзейнасці, працаваў у хаце-чытальні, рэдагаваў насценгазету, якую сам і афармляў.

Восенню 1928 г. ён паслаў у рэдакцыю акруговай газеты «Чырвоная Полаччына» свой верш аб барацьбе беларускіх партызан з белапалякамі. Верш гэты сведчыў аб літаратурных здольнасцях аўтара, і газета апублікавала яго пад назвай «Партызаны». Потым яго надрукавалі ў полацкім літаратурным альманаху «Зарніцы» (1928 г.).

З гэтага часу Эдуард Самуйлёнак зрабіўся сталым селькорам газеты «Чырвоная Полаччына», на старонках якой часта друкаваліся яго допісы пра калектывізацыю, пра культурна-асветную працу на вёсцы, пра жыццё на граніцы.

У 1929 г. Эдуард Самуйлёнак быў прызван у Чырвоную Армію. Вайсковую службу ён адбываў у Смаленску, радавым на аэрадроме. Служыць доўга яму не давялося. У сувязі з хваробай ён быў дэмабілізаваны раней тэрміну. З 1930 па 1934 г. Самуйлёнак працаваў спачатку літработнікам, потым загадчыкам аддзела і адказным сакратаром рэдакцыі газеты «Чырвоная Полаччына».

Газета была для Эдуарда Самуйлёнка першай літаратурнай школай. Праца ў газеце развіла ў маладога пісьменніка назіральнасць, вастрыню ўспрыймання, здольнасць адгукацца на ўсё новае, лаканічнасць стылю.

Частыя паездкі па калгасах у якасці карэспандэнта акруговай газеты давалі Самуйлёнку багаты матэрыял для назіранняў, для абагульненняў. Ён бачыў рост новых людзей, збіраў і ўдумліва вывучаў факты, знаёміўся з прататыпамі герояў сваіх будучых літаратурных твораў. Жыццё натхняла яго на стварэнне аповесцей і апавяданняў, у якіх ён імкнуўся адлюстраваць тыя змены ў жыцці народа, якія адбываліся на яго вачах. У гэты час напружанай і нястомнай працы ён дбайна вывучаў класікаў марксізма-ленінізма.

На працягу 1931—1934 гг., не пакідаючы працы ў газеце, Эдуард Самуйлёнак напісаў апавяданні і аповесці «Русалчыны сцежкі» (1931), «Цагліна каземата» (1932), «Паляўнічае шчасце» (1933), «Тэорыя Каленбрун» (1933), «Пункт апоры» (1933), «Герой нацыі» (1934).

Усе гэтыя творы характэрны ў першую чаргу сваёй актуальнасцю, сваёй арганічнай сувяззю з жыццём. У гэтых творах удумлівы і назіральны пісьменнік імкнуўся адлюстраваць і абагуліць тое новае, што ён бачыў пільным вокам мастака ў навакольнай рэчаіснасці і што мела рашаючае, прынцыповае значэнне ў яе далейшым развіцці.

У апавяданні «Русалчыны сцежкі», не гледзячы на некаторую схематычнасць вобраза кулака, паказан адзін з яркіх эпізодаў класавай барацьбы на вёсцы ў часы вялікага соцыялістычнага наступлення, у дні першай калгаснай вясны. Малады пісьменнік імкнуўся адлюстраваць у гэтым невялікім творы гістарычную асуджанасць кулацтва.

Асабліва прыцягвала ўвагу Самуйлёнка праблема станаўлення новага, соцыялістычнага чалавека, які выхоўваецца партыяй ва ўмовах, створаных савецкай рэчаіснасцю. Ён бачыў выразныя рысы чалавека соцыялістычнай будучыні сярод рабочых гарадской прамысловасці, сярод сялян калгаснай вёскі, сярод прадстаўнікоў савецкай інтэлігенцыі. Праблема паказу новага чалавека савецкага

горада і вёскі цікавіла пісьменніка з самага пачатку яго літаратурнай дзейнасці. Тэма станаўлення новага чалавека праходзіць амаль праз усю творчасць Самуйлёнка.

Цікавіла пісьменніка таксама і тэма пераемнасці рэвалюцыйнай барацьбы, арганічнай сувязі пакаленняў, кожнае з якіх па-свойму вырашае задачу, пастаўленую перад ім гісторыяй, пасляхова працягваючы справу, распачатую папярэднім, старэйшым пакаленнем барацьбітоў. Такую пераемнасць бачыў Эдуард Самуйлёнак у рэвалюцыйнай дзейнасці партыі большэвікоў. Да гэтай тэмы неаднойчы звяртаецца пісьменнік. Ёй прысвечана ранняе яго апавяданне «Цагліна казэмата». Значнае месца адведзена гэтай тэме і ў рамане «Будучыня». Мы сустракаемся з гэтай тэмай і ў апошнім творы Самуйлёнка, у п'есе «Пагібель воўка».

У апавяданні «Цагліна казэмата», напісаным у студзені 1932 г., малады пісьменнік паказвае, як узнікае сярод перадавых каменшчыкаў соцыялістычнае спаборніцтва, як шырыцца яно на будаўнічым аб'екце, уцягваючы новыя кадры маладых рабочых.

Каменшчыкі разбіраюць будынак старой царскай турмы, які высіцца ў цэнтры горада, як змрочны сімвал самадзяржаўнага прыгнёту. На месцы гэтага «каменнага мяшка» яны пабудуюць палац культуры, рабочы клуб. Ініцыятарам новых метадаў работы з'яўляецца стары каменшчык — комуніст Сцяпанавіч. Прыклад яго ўдарнай работы натхняе ўвесь калектыў. Нават бузацёр Апенка, які не зжыў яшчэ рэшткі адсталай сялянскай псіхалогіі, пачынае даваць рэкордныя нормы выпрацоўкі.

Пры разборцы аднаго з казэматаў рабочыя знаходзяць цагліну з надпісам: «Наперад, таварышы!» Пад надпісам выразана дата, імя і прозвішча таго, хто пісаў. Высвятляецца, што ў гэтым казэмаце знаходзіўся сярод іншых зняволеных сын Сцяпанавіча, большэвік, удзельнік узброенага паўстання, асуджаны царскім судом і пакараны смерцю ў 1907 г., у часы рэакцыі. Ён і зрабіў гэты надпіс-заклік перад смерцю.

Знаходка глыбока ўсхвалявала рабочых. Яна нібы перагарнула перад імі жывую старонку гісторыі рэволюцыйнага руху. Яна набыла характар пераклічкі паміж пакаленнямі барацьбітоў за лепшую будучыню чалавецтва. Разбор будынка турмы быў скончаны раней тэрміну, вызначанага ў партыйным камітэце. На месцы турмы пачалася пабудова рабочага клуба. І ў аснову гэтага новага будаўніцтва была пакладзена цагліна з надпісам барацьбіта, які загінуў за рэволюцыю.

Тэма соцыялістычнай працы арганічна спалучаецца ў гэтым апавяданні з тэмай сувязі, пераемнасці паміж старэйшым і малодшым

лакаленнямі, паміж папярэднікамі і прадаўжальнікамі, паміж стваральнай працай будаўнікоў соцыялізма ў нашы дні і той гераічнай рэволюцыйнай барацьбой большэвікоў у мінулым, якая падрыхтавала глебу і зрабіла магчымымі перамогі і дасягненні сучаснасці.

У «Цагліне казemата» Самуйлёнак робіць першую спробу стварыць вобраз старога рабочага-комуніста, вобразы маладых рабочых-комсамольцаў.

Апавяданне гэта яшчэ недасканалае паводле сваіх мастацкіх сродкаў. Вобразы недастаткова разгорнуты, яны маюць эскізны характар. Мова гэтага твору, які з'яўляецца адной з першых спроб пераходу аўтара ад газетнага нарыса да апавядання, сухаватая. Ёй далёка яшчэ да выразнай, вобразнай і сакавітай мовы пазнейшых твораў Самуйлёнка. Але ў гэтым апавяданні, таксама як і ў іншых яго ранніх творах («Русалчыны сцежкі», «Пункт апоры»), мы бачым наяўнасць асноўных характэрных рыс творчасці Самуйлёнка, якія вызначылі аблічча яго як пісьменніка. Гэта — актуальнасць тэмы, арганічна звязанай з сучаснасцю, цікавы сюжэт, драматычная напружанасць, шпаркае развіццё дзеі, уменне вылучыць на першы план асноўнае, галоўнае, і, нарэшце, спалучэнне тыповага з незвычайным.

У апавяданні «Цагліна казeмата» незвычайным здарэннем, якое ажыўляе дзею і рухае наперад развіццё сюжэта, з'яўляецца знаходка рабочымі цагліны з надпісам сына Сцяпанавіча. Пры ўсёй сваёй незвычайнасці гэта здарэнне абсалютна рэальнае. Яно арганічна звязана з рэчаіснасцю, з жыццёвай практыкай.

Тое самае можна сказаць і пра апавяданне «Пункт апоры», напісанае Самуйлёнкам у лістападзе 1933 г. Вуснамі аднаго з герояў гэтага твора, былога лётчыка, потым канструктара самалётаў, Сяргея Пятровіча, аўтар выказвае свае ўласныя погляды на фантазію: «Фантазія, што не мае ніякага дачынення да рэчаіснасці... Гэта — пагібель паэтаў, вынаходцаў і мастакоў. Адракаюся ад яе! Геній чалавека ў тым, што ён крылатую фантазію сваю падпарадкаваў навуцы, форме і памеру і ў крылатую рэчаіснасць ператварыў».

І ў апавяданні «Пункт апоры» аўтар кладзе ў аснову сюжэта незвычайны факт, рэдкае здарэнне, але праз гэтую незвычайнасць ён раскрывае і паказвае зусім рэальныя рысы, уласцівыя перадавым рабочым, большэвікам, характэрныя для свядомых прадстаўнікоў працоўных, для людзей, якія змагаюцца за соцыялізм.

У калектыве — пункт апоры для чалавека, — сцвярджае аўтар. «Калі ты прышоў служыць партыі, — гаворыць ён вуснамі свайго героя, — аддай ёй усяго сябе, да кроплі, дарэшты, ідзі нага ў нагу з

іншымі, куды вядзе яна. І калі перамагае калектыў — значыць, перамагаеш і ты, і ў гэтым тваё адчуванне жыцця і твая поўнакроўная радасць».

Моцна гучыць у гэтым ранім апавяданні характэрны наогул для ўсёй творчасці Самуйлёнка матыў савецкага патрыятызма.

У «Пункце апоры», таксама як і ў «Цагліне казэмата», мы бачым першыя спробы пісьменніка падыйсці да стварэння вобразаў гарадскіх рабочых-комуністаў. Таксама як і ў «Цагліне казэмата», вобразы гэтыя намечаны эскізна, яны яшчэ не разгорнуты, не паказаны ў сваёй жывой і ўсебаковай канкрэтнасці. Тым не менш, значэнне такіх вобразаў рабочых-комуністаў, як Бегельман і Арндт, таксама як і вобраза былога рыжскага рабочага, савецкага лётчыка Эрнста Бірга, вельмі істотнае. Пры дапамозе іменна гэтых вобразаў аўтар правільна вырашае пастаўленую перад сабой праблему.

Раннія апавяданні «Цагліна казэмата» і «Пункт апоры» адыгралі немалаважную ролю ў далейшым творчым развіцці Эдуарда Самуйлёнка. Гэта былі першыя спробы, першыя накіды, першыя подступы да той вялікай тэмы рэволюцыйнай барацьбы, якая праходзіць праз усю творчасць Самуйлёнка і якая знаходзіць сваё найбольш удалае вырашэнне ў яго рамане «Будучыня».

Тэме социялістычнай працы і фарміравання новага чалавека ў калгаснай вёсцы прысвечана пісьменнікам невялікая аповесць «Паляўнічае шчасце», напісаная ім таксама ў 1933 г.

Героем гэтай аповесці з'яўляецца старшы конюх калгаснай стайні і заўзяты паляўнічы Лаўрэн. Праз гэты характэрны і маляўнічы вобраз Самуйлёнак паказвае, як растуць ва ўмовах калгаснай вёскі нават старыя людзі, большая частка жыцця якіх прайшла ў дарэволюцыйны час, як яны перавыхоўваюцца, ператвараючыся ў свядомых будаўнікоў социялістычнага ладу.

Пісьменнік даводзіць сваёй аповесцю, што шчасце асобнага чалавека залежыць ад шчасця ўсяго калектыва. Яго асабістае шчасце заключаецца ў агульным добрабыце. Лаўрэн на ўласным вопыце пераканаўся, што калгаснае жыццё не толькі не супярэчыць асабістым інтарэсам калгасніка, але садзейнічае ім. Трэба толькі правільна спалучаць асабістае з грамадскім. Сваёй працай Лаўрэн садзейнічаў росквіту і добрабыту калгаса і ў выніку гэтага ажыццявіліся яго даўнія мары.

Паказаўшы новыя формы жыцця і працы на вёсцы, даўшы рад цудоўных малюнкаў зімняй прыроды, пісьменнік канцэнтруе ўвагу чытача на тым, як змяняецца чалавек у новых умовах, створаных Вялікай Кастрычніцкай социялістычнай рэволюцыяй, як расце яго свядомасць і культурныя запатрабаванні, як фарміруюцца ў ім

новыя, сацыялістычныя адносіны да свету. Зроблена гэта ў вобразнай, паэтычнай форме, з добрым веданнем людзей калгаснай вёскі, з вялікай увагай да мастацкай дэталі. Прывабны і жыццёвы вобраз Лаўрэна з яго ясным і здаровым светаадчуваннем выклікае да сябе спагаду і сімпатыю з боку чытача. Душэўнай сіле і чыстаце вобразаў людзей савецкай вёскі з іх спакойнай упэўненасцю ў правільнасці выбранага імі шляху адпавядаюць прыгожыя малюнкі зімняй прыроды.

Савецкага чалавека Самуйлёнак паказвае ў яго развіцці, у рэальных магчымасцях яго далейшага росту, закладзеных у рэчаіснасці.

А. А. Жданаў у сваім дакладзе аб часопісах «Звезда» і «Ленинград» гаварыў: «Паказаць гэтыя новыя высокія якасці савецкіх людзей, паказаць наш народ не толькі ў яго сённяшнім дні, а і зазірнуць у яго заўтрашні дзень, дапамагчы асвятліць пражэктарам шлях наперад, — такая задача кожнага добрасумленнага савецкага пісьменніка. Пісьменнік не можа плясціся ў хвасце падзей, ён абавязан ісці ў перадавых радах народа, паказваючы народу шлях яго развіцця. Кіруючыся метадам сацыялістычнага рэалізма, добрасумленна і ўважліва вывучаючы нашу рэчаіснасць, стараючыся глыбей пранікнуць у сутнасць працэсаў нашага развіцця, пісьменнік павінен выхоўваць народ і ўзбройваць яго ідэйна. Адбіраючы лепшыя пачуцці і якасці савецкага чалавека, раскрываючы перад ім заўтрашні яго дзень, мы павінны паказаць у той-жа час нашым людзям, якімі мы не павінны быць, павінны бічаваць перажыткі ўчарашняга дня, перажыткі, якія перашкаджаюць савецкім людзям ісці наперад».

Эдуард Самуйлёнак пісаў «Паляўнічае шчасце» ў той час, калі калгаснае жыццё было яшчэ з'явай новай. Малюючы ў рэалістычных вобразах дзень тагочаснага калгаса, пісьменнік убачыў у ім і раскрыў перад чытачом выразныя рысы дня заўтрашняга. Вобраз Лаўрэна, таксама як і іншыя вобразы аповесці, быў створаны з рыс, якія пісьменнік наглядаў у жыцці і якія ён здолеў паказаць у развіцці. Эдуард Самуйлёнак адлюстраваў у сваім творы тыя зрухі, дзякуючы якім арганізацыйна ўмацаваліся і развіліся калгасы, зрабіўшыся ў нас асноўнай формай сельскай гаспадаркі. Сцвярджаючы і прапагандуючы ў сваім творы гэтае новае, пісьменнік тым самым дапамагаў змяняць і пераўтвараць жыццё. Ён паставіў і паспяхова вырашыў мастацкімі сродкамі праблему, якая мела асноўнае, рашаючае значэнне для развіцця і ўмацавання калгасаў. Ён паказаў у мастацкіх вобразах адданасць савецкіх сялян калгаснаму ладу, адпаведнасць грамадскіх інтарэсаў асабістым інтарэсам калгаснікаў,

рост свядомасці новага савецкага чалавека і ролю ў гэтым працэсе сацыялістычнай працы.

Значнае месца ў творчасці Самуйлёнка займае антыфашысцкая тэма. Тэма гэта была для яго арганічнай. Жывучы на граніцы, на рубяжы двух супроцьлеглых сацыяльных сістэм, Эдуард Самуйлёнак непасрэдна бачыў ворагаў Радзімы ў самым рознастайным абліччы, сам удзельнічаў у барацьбе з імі. Юнаком ён неаднойчы дапамагаў пагранічнікам выяўляць і лавіць шпіёнаў, дыверсантаў і кантрабандыстаў.

У 1933 г., калі Самуйлёнак напісаў «Паляўнічае шчасце» і «Пункт апоры», абстаноўка на заходняй граніцы Савецкага Саюза значна ўскладнілася. Гэта быў год фашысцкага перавароту ў Германіі. У выніку сусветнага эканамічнага крызіса, які абвастрыў супярэчнасці паміж імперыялістычнымі дзяржавамі, паміж капіталістамі і рабочым класам, уладу ў Германіі захапілі самыя раз'юшаныя і рэакцыйныя, авантурыстычныя прадстаўнікі фінансавага капітала, якія бачылі выхад з супярэчнасцей ва ўстанаўленні сваёй тэрарыстычнай дыктатуры і ў развязванні новай сусветнай вайны. Пачалося ўзмацненне фашысцкіх агрэсіўных тэндэнцый і ў панскай Польшчы. На заходніх граніцах СССР узнікла рэальная пагроза ваеннай небяспекі.

У савецкім друку многа пісалася ў той час аб становішчы ў Германіі і Польшчы. У газеце «Чырвоная Полаччына» штодзённа друкаваліся матэрыялы аб рэвалюцыйнай барацьбе польскага рабочага класа, аб агрэсіўных планах фашысцкай ваеншчыны.

Асаблівасцямі гэтай абстаноўкі і было абумоўлена з'яўленне такіх антыфашысцкіх твораў Эдуарда Самуйлёнка, як «Тэорыя Каленбрун» і «Герой нацыі».

Напісаная ў 1933 г. аповесць «Тэорыя Каленбрун» прысвечана выкрыццю подлых замыслаў польскіх фашыстаў, выкрыццю шпіёнскай тактыкі органаў разведкі панскай Польшчы. Пісьменнік паказвае безгрунтоўнасць самых вынаходлівых, самых пачварных прошукаў фашысцкай ваеншчыны, асуджанасць капіталістычнага ладу.

Аповесць «Тэорыя Каленбрун» напісана па ўзору прыгодніцкіх раманаў. У гэтым творы пісьменнік звярнуў асноўную ўвагу не на псіхалагічнае раскрыццё вобразаў, а на развіццё сюжэта, на дынамічнае чаргаванне падзей, на драматычную напружанасць сітуацый. У аповесці створан рад вобразаў польскіх фашыстаў, прадстаўнікоў агрэсіўнай замежнай ваеншчыны, але ўсе яны маюць плакатны характар. Ім супроцьстаўлены камуністы, прадстаўнікі рабочага класа, — сержант Дроб, Крамарчык, Врон. Гэта цвёрдыя, настойлівыя і непахісныя людзі, бязмежна адданыя ідэям рэвалюцыйнай барацьбы і вызвалення працоўных, але вобразы іх таксама пазбаўлены

жыццёвай канкрэтнасці, яны паказаны аўтарам схематычна, у агульных рысах.

Тэма пільнасці, мабілізацыйнай гатоўнасці супроць правакацый замежнай рэакцыі, узнятая Самуйлёнкам у «Тэорыі Каленбрун», была вельмі актуальнай і своечасовай.

Савецкая Беларусь была ў тыя часы фарпостам Савецкага Саюза на рубяжы з капіталістычным захадам. Зразумела, што гэтая тэма не магла не хваляваць і аўтара і чытача пагранічнай рэспублікі.

Антыфашысцкай тэме прысвечана і невялікая аповесць Самуйлёнка «Герой нацыі», напісаная ў жніўні 1934 г. на матэрыяле класавай барацьбы ў фашысцкай Германіі пасля захопу ўлады Гітлерам. Пісьменнік апавядае пра трагічны лёс беспрацоўнага інваліда першай імперыялістычнай вайны Франца Штанге, які загінуў ад рукі фашыстаў у часе свайго самаахвярнага выступлення па радыё з заклікам да рэвалюцыйнай барацьбы супроць фашызма, супроць пагрозы новай вайны. «З вас цягнуць жылы, вас абкрадваюць на кожным кроку, а потым вас пагоняць пад кулі для нажывы другіх, вас зробяць калекамі, а вас па кроплі выцягнуць душы», — звяртаецца ён да натоўпу на пляцы, у часе нацыянальнага свята. «Гэта гавару я, Франц Штанге, які на ўласным вопыце ведае, чым канчаюцца нацыянальныя святы з фанфарамі!.. У вас сёння адбіраюць апошні кавалак хлеба, а потым адбяруць саміх вас ад вашых дзяцей... Ёсць праўдзівыя, сумленныя людзі! Яны ведаюць, што робяць, іх ніхто не купіць за золата. Сілу іх не зломіць ніякая сіла. Яны ведаюць, куды павесці вас, тых, хто рукамі сваімі зарабляе хлеб свой. Гэта — комуністы! Так гавару я, Франц Штанге, што праліваў кроў за Германію і крывёю якога гандлявалі... Я хачу адкрыць вам вочы!»

З гэтымі словамі праўды на вуснах гіне інвалід Штанге пад ударамі раз'юшаных фашыстаў. І словы гэтыя не страцілі свайго значэння і на сённешні дзень у капіталістычных краінах, дзе імперыялісты, падпальшчыкі вайны, ізноў бразгаюць зброяй, ізноў усімі спосабамі спрабуюць ашукаць працоўных людзей сваёй хлуслівай прапагандай, рыхтуючы новую сусветную бойню.

Антыфашысцкай тэме прысвечаны апавяданні Самуйлёнка «Урачыстая меса» (1936) і «Сустрэча» (1937), напісаныя пад уражаннем падзей грамадзянскай вайны ў Іспаніі.

Сваімі антыфашысцкімі творамі Эдуард Самуйлёнак рыхтаваў чытача да будучай самаадданай і жорсткай барацьбы з фашызмам.

У 1934 г. малады пісьменнік пераехаў у Мінск, дзе цалкам пры-

свяціў сваё жыццё літаратурнай працы. У тым-жа годзе ён быў на Першым Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў у Маскве.

У 1934 г. вышла з друку асобным выданнем «Тэорыя Каленбрун», а ў 1935 г. — першы яго зборнік пад назвай «Пункт апоры», у якім былі змешчаны «Русалчыны сцежкі», «Цагліна казэмата», «Паляўнічае шчасце» і «Герой нацыі».

У маі 1935 г. Эдуард Самуйлёнак паехаў у Грузію. У выніку гэтай паездкі, якая адыграла ў яго жыцці і творчасці вялікую ролю, Самуйлёнак напісаў першую кнігу рамана «Будучыня» аб барацьбе грузінскага народа супроць меншавікоў і замежных інтэрвентаў і аб устанаўленні ў Грузіі савецкай улады. Гэта быў першы буйны эпічны твор на беларускай мове, які знаёміў чытача з жыццём і барацьбой працоўных Грузіі і гэтым спрыяў далейшаму культурнаму збліжэнню народаў савецкай краіны, умацоўваючы іх непахісную дружбу.

У рамане «Будучыня» Самуйлёнак паказвае маральную перавагу працоўнага народа над прадстаўнікамі класа эксплаатататараў, над замежнымі імперыялістамі і іх прадажнымі прыслужнікамі — меншавікамі.

У гэтым рамане асабліва ярка і выразна выявіліся творчыя асаблівасці пісьменніка. У ім знайшло сваё найбольш поўнае ўвасабленне ўсё тое, што цікавіла і захапляла Самуйлёнка з самага пачатку яго літаратурнай дзейнасці.

Малюючы падзеі гістарычнай барацьбы грузінскага народа ў 1921 г. за ўстанаўленне савецкай улады, Самуйлёнак стварыў цэлую галерэю яркіх і каларытных вобразаў грузінскіх бальшавікоў, рабочых, сялян-паўстанцаў, інтэлігентаў. Праз гэтыя шматлікія і рознастайныя вобразы пісьменнік раскрывае і паказвае высокія маральныя якасці сыноў грузінскага працоўнага народа. Высакароднасць, самаадданасць, любоў да радзімы, душэўная чыстата характэрны для ўсіх герояў рамана. Героі «Будучыні» — людзі вялікай душэўнай сілы і маральнай велічы. Усе іх выдатныя якасці падпарадкаваны адной мэце — барацьбе за вызваленне, за перамогу працоўных, за светлую будучыню. Дзеля гэтай высокай мэты яны не шкадуюць свайго жыцця. Сярод герояў рамана вылучаюцца вобразы бальшавікоў Тэафіла Габісонія, Канстанціна Курыдзе, Бесо Коркія, Захарыя Імедашвілі.

Пісьменнік паказвае, як пад уплывам партыйнага кіраўніцтва стыхійны партызанскі рух сялян набывае арганізаваны характар і свядомую мэтанакіраванасць. Сяляне сяла Сабакучава ідуць на паўстанне, бо на гэта штурхаюць іх непасрэдныя жыццёвыя інта-

рэсы, да гэтага вядзе іх логіка падзей. Сапраўдную-ж сілу паўстанчы рух сялян набывае толькі тады, калі ён зліваецца ў адзін магутны паток з рэвалюцыйнай барацьбой рабочых, калі ім кіруюць большэвікі.

У рамане паказан палітычны і маральны распад меншавікоў, якія прадавалі сваю радзіму імперыялістам і трымаліся за ўладу толькі пры дапамозе замежных інтэрвентаў. Большэвікі паказаны аўтарам, як сапраўдныя патрыёты. Яны змагаюцца на чале народа супроць уціску айчынных капіталістаў і памешчыкаў, за незалежнасць сваёй краіны ад імперыялістычных дзяржаў, за развіццё сваёй нацыянальнай культуры, за пераўтварэнне прыроды і выкарыстоўванне яе багаццяў на карысць працоўнага народа.

У рамане «Будучыня» аўтар зноў вяртаецца да праблемы перасемнасці пакаленняў, якая праходзіць праз многія яго творы. Барацьбу грузінскага народа пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі супроць меншавіцкага ўрада Ноя Жорданія ён паказвае як вынік усёй папярэдняй шматгадовай дзейнасці большэвікоў Закаўказзя.

Ва ўспамінах старога рабочага, большэвіка Тэафіла Габісонія, паўстае перад чытачом вобраз вялікага Сталіна ў гады яго рэвалюцыйнай дзейнасці ў Батумі. Габісонія ўсхвалявана расказвае пра юнага Сталіна селяніну-паўстанцу, які прышоў да яго для наладжвання сувязі з партыйным кіраўніцтвам. Калі Габісонія гаворыць пра Сталіна, узыходзіць сонца. Словы старога большэвіка гучаць урачыста і велічна: «У доме Сільвестра Ломджарыя за семнаццаць гадоў таму назад, сустракаючы новы год, наш правадыр Сосо Джугашвілі ўзняў кубак і сказаў словы, якія запалілі душы нашы верай, надзеяй і прагнасцю барацьбы. Я памятаю, як сказаў ён гэта. Адкінуўшы рукой непакорныя свае валасы, ён абвёў усіх нас ясным поглядам благародных сваіх вачэй, ён з вялікай любоўю глянуў на нашы адкрытыя сэрцы, ён хораша ўсміхнуўся нам і сказаў: «Вось ужо і развіднелася! — сказаў ён. — Хутка ўстане і сонца. Гэтае сонца будзе ззяць для нас. Верце ў гэта, таварышы!»

У аснову ўспамінаў Габісонія пісьменнікам быў пакладзен сапраўдны гістарычны факт: «31 снежня 1901 года на канферэнцыі прадстаўнікоў гурткоў галоўных прадпрыемстваў афармляецца батумская социял-дэмакратычная арганізацыя (у мэтах канспірацыі канферэнцыя была праведзена пад выглядам сустрэчы новага года на кватэры С. Ломджарыя). Таварыш Сталін на гэтай канферэнцыі выступаў 4 — 5 разоў з яркімі прамовамі аб задачах рэвалюцыйнай социял-дэмакратыі. Канферэнцыя вылучыла кіруючую партыйную групу на чале з таварышам Сталіным, якая фактычна ады-

грала ролю Батумскага камітэта РСДРП ленінска-іскраўскага напрамку» [1].

Эдуард Самуйлёнакператварыў у мастацкія вобразы, поўныя высокай рамантыкі, канкрэтны факт з гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Закаўказзі.

Усё ў гэтым эпізодзе хвалюе чытача, усё авеяна прадчуваннем блізкай перамогі працоўных. Прасякнутыя непахіснай верай словы старога рабочага, яснае, светлае ранне і ўзыход сонца зліваюцца ў адну гарманічную сімфонію, поўную вялікай эмацыянальнай сілы. Цёмны пакой, бяссонная ноч і слабы, чадны агеньчык капцілкі, які гасне ад подыху свежай раніцы з адчыненага акна, успрымаецца чытачом, як увасабленне змрочнай рэчаіснасці, супроць якой змагаюцца героі рамана, а ўзыход сонца нібы сімвалізуе блізкае і няўхільнае вызваленне народа, якое даўно, яшчэ на зары рэвалюцыйнага руху, было прадвешчана правадыром, тую светлую будучыню, у бліскучых праменнях якой развеюцца і знікнуць назаўсёды прыкрыя цені мінулага.

Малюючы рэвалюцыйныя падзеі ў Грузіі ў 1921 г., Самуйлёнак некалькімі жывымі штрыхамі паказвае ў сваім рамане і тое значэнне, якое мела ў барацьбе грузінскага народа супроць меншавіцкага ўрада дзейнасць выдатных дзеячоў комуністычнай партыі, верных паплечнікаў вялікага Сталіна — таварышоў Кірава і Орджанікідзе.

У аснове творчасці Эдуарда Самуйлёнка ляжыць характэрная асаблівасць социялістычнага рэалізма — праўдзівае адлюстраванне рэчаіснасці ў яе рэвалюцыйным развіцці. Глыбока праўдзівы паказ народнага жыцця спалучаецца ў яго з імклівай накіраванасцю наперад, марай аб светлай будучыні, воляй да барацьбы за гэту будучыню. Рэалістычным вобразам яго твораў уласцівы характэрныя рысы, якія можна бачыць у рэчаіснасці. Героі Самуйлёнка заўсёды імкнуцца да шчасця народа, да лепшага жыцця. Яны непахісна вераць у будучыню, змагаюцца за ажыццяўленне сваёй мары. Сваёй дзейнасцю яны змяняюць жыццё і самі змяняюцца, растуць і ўдасканальваюцца ў працэсе гэтай барацьбы.

Раманам «Будучыня» Самуйлёнак значна пашырыў тэматычныя рамкі і праблематыку беларускай літаратуры. Выдатны майстра сюжэта, ён імкнуўся пісаць творы актуальныя, патрэбныя, карысныя і цікавыя. Яркае, незвычайнае, цікавае ён шукаў і знаходзіў у навакольным жыцці, у рэчаіснасці.

[1] Л. Берия. «К вопросу об истории большевистских организаций в Закавказье», Москва, 1947, стр. 30.

Высокую ідэйнасць твора і рэалістычную, усебаковую абмалёўку герояў свайго рамана ён смела і ўдала спалучаў з вострым і стройным сюжэтам, з нечаканымі развязкамі і напружанай драматычнасцю дзеі, не парушаючы пры гэтым ні жыццёвай, ні гістарычнай праўды.

Героі рамана «Будучыня» часта трапляюць у выключныя, складаныя абставіны. За іх дзейнасцю, за іх подзвігамі з напружаннем і хваляваннем сочыць чытач. Але ва ўсіх гэтых незвычайных і вострых сітуацыях з найбольшай паўнатой і выразнасцю праяўляюцца іх жыццёвыя, характэрныя рысы і якасці сапраўдных бальшэвікоў, рэволюцыйных барацьбітоў, людзей рабочага класа, сыноў працоўнага народа. Карыстаючыся рэдкай, незвычайнай з'явай, выключным фактам Самуйлёнак паказвае праз гэтую рэдкую з'яву, праз гэты незвычайны факт тыповыя рысы совецкіх людзей.

Іменна так раскрываецца аўтарам вобраз маладога бальшэвіка Бесо Коркія з яго высокароднасцю і самаадданасцю, палымянай любоўю да радзімы і высокай палітычнай свядомасцю. З хваляваннем сочыць глядач за дзейнасцю Бесо ў Тбілісі, за тым, як знікае ён з тэатра, дзе раскідваў бальшэвіцкія лістоўкі, як яго ловяць шпікі, як ён трапляе ў турму, як уцякае з-пад расстрэлу і знаходзіць сабе гасцінны прытулак і дапамогу ў інжынера Андрэя Міхайлавіча.

Вобраз бальшэвіка Канстанціна Курыдзе таксама раскрываецца аўтарам у дзеянні, на фоне складаных і незвычайных сітуацый. У радзе вострых па сваёй драматычнасці эпізодаў Курыдзе паказан як чалавек рашучага баявога дзеяння, як бясстрашны і пераконаны рэволюцыянер, мужны, знаходлівы і справядлівы, як выдатны вайсковы арганізатар і палітычны кіраўнік, які заўсёды ўмее знайсці агульную мову з масамі. Успомнім такія эпізоды, як выратаванне галоднага хлапчука з Украіны і гутарка з англійскім генералам, як наведванне Курыдзе князя Абхазава, як ліквідацыя карнага атрада і, нарэшце, смелы захоп баржы з вайсковай амуніцыяй і медыкаментамі.

Усе гэтыя падзеі і здарэнні, таксама як і эпізод, калі Тапурыя трапіў на кургане ў палон, але здолеў папярэдзіць аб небяспецы сяброў, напісаны жыва і дынамічна. І адначасова вобразы герояў усебакова абмаляваны і псіхалагічна раскрыты на высокім ідэйна-мастацкім узроўні.

«Рэволюцыйны рамантызм, — гаварыў у сваім выступленні на Першым Усесаюзным з'ездзе совецкіх пісьменнікаў тав. Жданаў, — павінен уваходзіць у літаратурную творчасць як састаўная частка яе, бо ўсё жыццё нашай партыі, усё жыццё рабочага класа і яго барацьба заключаецца ў спалучэнні самай суровай, самай цвярозай

практычнай работы з найвялікшай героікай і грандыёзнымі перспектывамі».

Рамантыка, якой абвеяны героі Самуйлёнка, мае глыбокія карэнні ў рэальным жыцці. І інжынер Андрэй Міхайлавіч, які самаахвярна вывучае адвечныя мінгрэльскія балоты ў мэтах пераўтварэння Калхіды ў субтрапічны сад, і стары паляўнічы Тапурыя, які імкнецца да светлага і радаснага жыцця, і сяляне-паўстанцы, якія пакінулі родны дом, каб з вінтоўкаю ў руках паўстаць за справядлівасць і волю, — усё гэта змагары, якія ператвараюць у рэальнасць самыя смелыя свае мары.

Іх мара — гэта цвёрдая і непахісная ўпэўненасць у светлай будучыні, у непазбежнай перамозе комунізма. Яны не толькі мараць, але і змагаюцца за ажыццяўленне сваіх мар. Іх мары не разыходзяцца з жыццём. Наадварот, яны звязаны з ім. Яны ажыццяўляюцца ў барацьбе, у дзеянні. Яны рухаюць наперад развіццё рэчаіснасці, яны ператвараюцца ў рэальнасць.

Усім станоўчым героям «Будучыні» ўласцівы дзейсныя, актыўныя адносіны да жыцця. Гэта — мужныя і сумленныя людзі, якія любяць жыццё, стваральную працу і волю, імкнуцца да праўды, дабра і справядлівасці. Яны змагаюцца за тое, да чаго імкнуцца.

Героям «Будучыні» і іншых твораў Самуйлёнка ўласціва ў высокай меры пачуццё сапраўднага гуманізма. Так, інжынер Андрэй Міхайлавіч усе свае сілы і здольнасці прысвяціў справе служэння чалавецтву. Усё сваё жыццё марыць ён аб асушэнні Калхіды, аб пераўтварэнні адвечных гнілых балот у суцэльны вялікі субтрапічны сад. Гэтай высокай мэце ён бескарысліва аддае і свой час, і свае веды, і сваё здароўе, не патрабуючы ўзамен нічога. Шчасце людзей і развіццё навукі — вось ідэал, якому ён аддае ўсяго сябе да канца.

Шчасце людзей не з'яўляецца для Самуйлёнка разуменнем абстрактным. Героі Самуйлёнка, як і сам аўтар, цвёрда пераконаны ў тым, што зрабіць людзей шчаслівымі немагчыма без устанаўлення социялістычнага ладу. Сцвярджэнне гэтай ідэі з'яўляецца асноўнай мэтай усіх яго твораў. Дасягненне шчасця людзей пісьменнік не ўяўляе сабе без барацьбы супроць усяго таго, што перашкаджае гэтаму шчасцю, і героі Самуйлёнка актыўна змагаюцца супроць ворагаў працоўнага чалавецтва, супроць сіл рэакцыі, супроць капіталістычнага рабства, супроць усіх тых, хто хоча трымаць народ у стане прыгнечання, эксплаатацыі і невуцтва.

У сваім «Апавяданні пра гуманізм» Самуйлёнак вуснамі героя выказвае свой уласны погляд на прыроду социялістычнага гуманізма. Калі гутарка ў гэтым апавяданні заходзіць аб тым, што «пачуццё гуманізма ёсць вышэйшая адзнака культуры» і што ў гэтым заклю-

часцца прагрэс чалавецтва», ён дадае: «гледзячы, які гуманізм... І гледзячы, хто яго выказвае і да каго выказвае».

І героі Самуйлёнка ўсімі сваімі паводзінамі і ўсёй сваёй дзейнасцю сцвярджаюць гэта разуменне. Такія людзі, як бальшэвікі Курыдзе і Коркія, рана прыходзяць да думкі аб неабходнасці барацьбы, з ёю звязана ўсё іх свядомае жыццё. Другія (Тапурыя, Андрэй Міхайлавіч) прыходзяць да ўсведамлення праўды больш складаным шляхам, у выніку жыццёвага вопыту, пад уздзеяннем падзей рэчаіснасці. Іх свядомасць фарміруецца пад уплывам перадавых прадстаўнікоў рабочага класа — бальшэвікоў. Так, стары паляўнічы Тапурыя, добры чалавек і прыроджаны гуманіст, летуценнік і выдумшчык, які любіць апавядаць фантастычныя байкі дзецям, які шкадуе звяроў, які птушку ніколі не заб'е без патрэбы, грозна і ўпэўнена ўзнімае сваю стрэльбу на чалавека, на ворага працоўных. Да гэтага штурхае яго логіка падзей. Ён узнімае зброю для абароны правоў народа, за шчасце людзей. Ясны розум і сумленнае сэрца Тапурыя, яго багаты жыццёвы вопыт прыводзяць яго ў рады партызан, і ён, як герой, гіне за справу працоўных.

І стары інжынер Андрэй Міхайлавіч, які спачатку таксама стаяў у баку ад палітыкі, цалкам захоплены сваімі навуковымі доследамі і праектамі, пераконваецца ў тым, што здзейсніць свае планы, ператварыць у жыццё свае гуманістычныя задумы ён зможа толькі разам з народам, у барацьбе пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі. На прыкладзе такіх людзей, як інжынеры Андрэй Міхайлавіч і Гогіберыдзе, як паляўнічы Тапурыя, як сяляне-паўстанцы, пісьменнік паказвае, якім чынам сумленныя людзі розных пакаленняў, рознага стану, асветы і ўзроўню культуры ішлі да ўсведамлення сацыялістычнай рэвалюцыі.

Раман «Будучыня» прасякнут глыбокім пачуццём інтэрнацыяналізма. Аб гэтым сведчыць у першую чаргу характар абранага аўтарам матэрыялу. Жыццё і барацьбу грузінскага народа беларускі пісьменнік здолеў увасобіць у яркія мастацкія вобразы, створаныя з веданнем нацыянальных асаблівасцей, з любоўю і павагай да сваіх герояў.

Ідэі міжнацыянальнай еднасці працоўных аўтар сцвярджае і вобразам рускага інжынера Андрэя Міхайлавіча, які нястомна працуе для дабрабыту і шчаслівай будучыні грузінскага народа, і эпізодамі з украінскім хлопчыкам Гіго, якога выратаваў ад галоднай смерці грузін Курыдзе і выхаваў грузін Імедашвілі. У рамане ёсць цудоўная сцэна, калі народ у Тбілісі перад будынкам савецкага пасольства з захапленнем слухае прамову трыбуна рэвалюцыі Сергея Міронавіча Кірава, які быў у той час паслом РСФСР у Грузіі. Ідэю пралетарскага інтэрнацыяналізма сцвярджаюць і заключныя раз-

дзелы «Будучыні». У іх паказана дапамога, якую атрымаў грузінскі народ ад Савецкай Расіі ў сваёй барацьбе з меншавікамі і замежнымі імперыялістамі.

Працуючы над «Будучыняй», пісьменнік дбайна вывучаў матэрыялы па гісторыі і этнаграфіі Грузіі, знаёміўся з грузінскай мовай, літаратурай і фальклорам.

Мастацкія сродкі Самуйлёнка ў рамане «Будучыня» вельмі багатыя і рознастайныя. У эпічных тонах апавядае ён пра жыццё і звычаі грузінскага народа, пра асаблівасці прыроды Грузіі. Шмат у рамане лірычных старонак, прысвечаных пачуццям, думкам і перажыванням простых людзей. Малюючы вобраз Тапурыя, пісьменнік карыстаецца мяккімі, лірычнымі фарбамі. Сцэны, прысвечаныя дзецям, напісаны з сардэчным гумарам, з лагоднай усмешкай. Патэтычнай усхваляванасцю, узвышаным і ўрачыстым пафасам прасякнуты старонкі рамана, якія апавядаюць пра суровую і гераічную барацьбу працоўных (успаміны Габісонія, выступленне Кірава, заключная сцэна ў тэатры).

Ярка паказаны ў рамане і прыгнятальнікі народа: асобаатрадчык Гунава, палкоўнік, які ўзначальвае карную экспедыцыю супроць сялян, паручык Мучаідзе, гандляры і спекулянты Сымон Гамрэкелі і Саламон Пачулія. Характарызуючы намеры, учынкі і паводзіны ворага, Самуйлёнак трапна карыстаецца прыёмамі сарказма і іроніі. Пісьменнік выкрывае звярыную сутнасць ворагаў, іх бязмежны эгаізм, здрадлівасць і хлуслівасць. Вострым палітычным памфлетам гучыць апісанне канцэрта, арганізаванага меншавіцкімі «шарманшчыкамі і панталоншчыкамі» ў гонар вядомых прадстаўнікоў другога Інтэрнацыянала Каўцкага, Вандэрвальдэ і інш., якія прыехалі ў Грузію.

Эдуарду Самуйлёнку ўласціва надзвычай тонкае і глыбокае адчуванне прыроды. Упершыню гэта якасць праявілася ў «Паляўнічым шчасці», дзе карціны зімовай прыроды адпавядаюць здароваму і яснаму светаадчуванню героя, людзей калгаснай вёскі. У «Будучыні» апісанне прыроды адыгрывае сярод іншых мастацкіх сродкаў асабліва значную ролю. Пейзаж ніколі не з'яўляецца ў Самуйлёнка самамэтай. Апісваючы гістарычныя падзеі, малюючы рэалістычныя вобразы людзей, Самуйлёнак паказвае іх на фоне канкрэтнай абстаноўкі, у арганічнай сувязі з натуральнымі ўмовамі, у якіх дзейнічаюць яго героі. Жыццё людзей у «Будучыні» звязана арганічна з жыццём прыроды. У пейзажы, у малюнках прыроды пісьменнік часта знаходзіць патрэбную дэталь, паралель, якая дае магчымасць чытачу глыбей адчуць і зразумець значэнне падзей, звязаных з лёсам таго ці іншага героя. Пры дапамозе пейзажа пісьмен-

нік дае нам адчуць душэўныя перажыванні чалавека. Карціны прыроды ў «Будучыні» часта сугучны настроям людзей і характару тых падзей, якія адбываюцца ў рамане. Але ў асобных выпадках пісьменнік карыстаецца пейзажам для таго, каб падкрэсліць драматызм падзей шляхам кантраста паміж ясным спакоем прыроды і трывожным станам людзей, недарэчнасцю, несправядлівасцю таго, што робіцца ворагамі народа.

Мова рамана «Будучыня» значна адрозніваецца ад мовы яго першых літаратурных твораў. Кожны герой гаворыць сваёй індывідуальнай мовай, з характэрнымі для яго асаблівасцямі лексікі. У рамане ўдала перадаецца рытміка і каларыт грузінскай мовы.

Раман «Будучыня» быў задуман як трылогія. Над першай кнігай пісьменнік працаваў, вярнуўшыся з Грузіі, з восені 1935 да вясны 1938 г. Адначасова ён, не гледзячы на цяжкую хваробу (туберкулёз горла), напісаў п'есу «Сержант Дроб» (паводле сваёй аповесці «Тэорыя Каленбрун») і падрыхтаваў да друку зборнік апавяданняў «Дачка эскадрона», які вышаў у свет у 1937 г.

Мы ўжо адзначалі раней, што для творчасці Самуйлёнка заўсёды было характэрна актыўнае сцверджанне савецкага ладу жыцця, што ён быў пісьменнікам пераважна савецкай тэмы, што тыповае і характэрнае для савецкай рэчаіснасці, для савецкіх людзей ён любіў паказваць праз незвычайныя, але жыццёвыя і законамерныя факты. Адным з яркіх прыкладаў гэтай асаблівасці Самуйлёнка з'яўляецца яго маленькае апавяданне «Дачка эскадрона», якім пісьменнік адгукнуўся на прыняцце Сталінскай Канстытуцыі.

Дзве маленькія дзяўчынкі з беларускай вёскі, сёстры-сіроткі, згубілі адна адну ў часе баёў з белапалякамі ў 1920 г., калі фронт праходзіў праз тую мясцовасць, дзе яны жылі. Бацькі іх былі забіты, але дзяўчынкі не загінулі. Савецкая Радзіма, чулыя савецкія людзі замянілі ім бацькоў. Адну з сясцёр падабраў на полі бою кавалерыйскі эскадрон, камандзір якога выхаваў дзяўчынку, як дачку, даўшы ёй сваё прозвішча. Кожная з сясцёр доўга не ведала пра лёс другой, бо яны былі ў той час яшчэ зусім малыя. Сустрэліся яны выпадкова, ужо дарослымі жанчынамі, на з'ездзе Саветаў, які прыняў Сталінскую Канстытуцыю. Адна з сясцёр, дырэктар фабрыкі, была дэлегатам з'езда. Другая, «дачка эскадрона», вядомая артыстка-спявачка, выступала ў канцэрце, які быў наладжаны для дэлегатаў.

І тут у аснову сюжэта пісьменнік паклаў хоць і жыццёвы, верагодны, але рэдкі і незвычайны факт, паказаўшы праз яго тыповую з'яву — шчаслівы лёс двух сясцёр-сіротак, якія ў савецкіх умовах не толькі былі выхаваны без бацькоў, але і атрымалі магчымасць усе-

бакова развіць свае здольнасці, зрабіцца выдатнымі людзьмі — кожная ў сваёй галіне. Тыповасць гэтай з'явы і арганічную сувязь яе з савецкай рэчаіснасцю пісьменнік падкрэслівае тым, што сустрэча сясцёр адбываецца ў часе прыняцця краінай Сталінскай Канстытуцыі.

У 1938 годзе Эдуард Самуйлёнак напісаў п'есу «Пагібель воўка». У аснову сюжэта гэтай п'есы аўтарам быў пакладзен змест аднайменнага, пачатага ім яшчэ ў 1931 годзе, але няскончанага рамана. Тэма п'есы прысвечана барацьбе савецкіх людзей на граніцы з ворагамі народа, шпіёнамі і дыверсантамі. Да гэтай тэмы, блізкай і знаёмай пісьменніку з юнацтва, ён падышоў з уласцівай яму сур'ёзнасцю і ўдумлівасцю, як буйны мастак-рэаліст, які імкнецца асэнсаваць найбольш складаныя з'явы рэчаіснасці. Драматычны эпізод з пагранічнага жыцця, пакладзены ў аснову сюжэта, ён увасобіў у яркія і жывыя вобразы, паказаў па-свойму праўдзіва, смела і пераканальна характэрныя рысы і асаблівасці таго часу.

У гэтай п'есе, дзея якой адбываецца ў беларускім пагранічным калгасе ўвесну 1937 года, выразна акрэслены вобразы савецкіх людзей, верных патрыётаў сацыялістычнай Радзімы, і раскрыта звярынае, воўчае нутро ворагаў народа. Пісьменнік расказвае пра барацьбу простых савецкіх людзей за непарушнасць дзяржаўнай граніцы, пра іх шчырую дапамогу адважным і пільным пагранічнікам, пра любоў беларускага народа да сваёй вялікай сацыялістычнай Радзімы.

П'есай «Пагібель воўка» пісьменнік, для творчасці якога была заўсёды характэрна арганічная сувязь з жыццём свайго народа, адгукнуўся на актуальныя пытанні сучаснасці. Гэты твор быў напісан пад непасрэдным уплывам той барацьбы, якую вяла партыя і ўвесь народ з агентурай фашызма, з трацкісцкім ахвосцем, з бухарынцамі і нацыяналістамі.

На тэму аб падрыўной дзейнасці ворагаў, аб барацьбе савецкіх людзей са шкоднікамі, шпіёнамі і дыверсантамі, было напісана на тым гістарычным этапе жыцця нашай радзімы нямала п'ес, але ў большасці сваёй гэта былі творы слабыя, схематычныя, павярхоўныя, і таму яны даўно забытыя.

Вобразы п'есы «Пагібель воўка» глыбока рэалістычныя. Яны характэрны і тыповы таксама, як характэрны і тыповы былі для таго часу ўмовы, у якіх гэтыя вобразы дзейнічаюць. П'еса прасякнута пачуццём часу і моцным нацыянальным каларытам. У п'есе адчуваецца добрае веданне аўтарам беларускай вёскі і яе людзей, добрае веданне ім жыцця на граніцы.

Нідзе не парушае Самуйлёнак цэльнасці і псіхалагічнай абгрунтаванасці характараў, нідзе не адыходзіць ад прынцыпаў рэалістычнай

драмы. Перад гледачом дзейнічаюць жывыя, канкрэтныя людзі з ярка выяўленымі індывідуальнасцямі. Раскрываючы варожую сутнасць лесніка Харкевіча, пісьменнік паказвае, наколькі ўсё яго светаразуменне чужое сучаснаму жыццю, наколькі яно звязана з асуджаным на гібель капіталістычным светам эксплаатацыі, наколькі Харкевіч і падобныя яму не маюць глебы пад нагамі, не маюць трывалых карэнняў у нашай рэчаіснасці. Глядач увесь час адчувае асуджанасць воўка-Харкевіча, немінучасць пагібелі яго і ўсяго яго кодла. Глядач ведае і разумее, што як ні зваротлівы і хітры гэты воўк, усёроўна ён будзе выкрыт, злоўлен і знішчан, бо супроць яго дзейнічае не толькі згуртаваны калектыў савецкіх людзей, але і бязлітасная логіка гістарычнага развіцця.

Харкевіч, Шабінскі. Абабурка, Французевіч, Вырвіч, Мікола — усе гэтыя ворагі асуджаны яшчэ раней, чым яны з'явіліся на сцэну. І, тым не менш, яны небяспечны. Яны нямала яшчэ могуць нарабіць шкоды працоўнаму народу, пакуль існуе капіталістычны свет. Аб гэтым папярэджвае пісьменнік. І гэта вельмі пераканальна паказана ў п'есе.

Усе ворагі, выведзеныя ў п'есе пісьменнікам, самі адчуваюць сваю асуджанасць, самі разумеюць безгрунтоўнасць сваіх намаганняў, разумеюць сілу і непераможнасць савецкага ладу.

У гутарцы з Шабінскім, Харкевіч заяўляе: «Сказаць папраўдзе, каб гэта найбагацейшы чалавек быў — мы яго ўжо даўно з торбаю па свеце пусцілі-б. Але тут не адзін чалавек, не адны рукі. Сто вачэй пільнуюць, сто рук працуюць. Яны не нанятыя. Яны для сябе стараюцца. Гэта вялікая сіла народа, процi яе цяжка, пане мой, ісці, а папаўся — прапаў, ураз цябе на зямлі не будзе!»

Харкевіч у абмалёўцы аўтара — не абстрактнае, схематычнае ўвасабленне ворага наогул, а яго канкрэтная рознавіднасць, характэрная для ўмоў таго часу. Харкевіч паказан поўна і ўсебакова. Ён — схаваная спружына ўсіх падзей і здарэнняў. Але героем п'есы з'яўляецца не Харкевіч, а беларускі народ, які будуе новае жыццё ва ўмовах сацыялістычнай рэчаіснасці. Народ, увасоблены ў вобразах калгаснікаў Мірона Бокуця, Міхася Буйно, Лук'яна Рабічкі, Язэпа, Данілы, Сцепаніды, рыбака Анісіма, студэнткі Насці, настаўніцы Ліды, сакратара райкома Дабрыніна, лейтэнанта Усенка і шмат іншых. Гэта — новы, светлы і радасны свет людзей сацыялізма, перад сілай якога блекнуць, слабеюць і знікаюць змрочныя прывіды мінулага. Гэта — вобразы магутнага і непераможнага народа, перад маральна-палітычным адзінствам і згуртаванасцю якога бяссільна злоба Шабінскіх, Харкевічаў і Абабурак.

Значнае месца займае ў п'есе вобраз Мірона Бокуця. Гэта —

прадстаўнік старэйшага пакалення совецкіх людзей, за свае пераконанні ён дванаццаць год адбыў на царскай катарзе. Удзельнік рэволюцыі і грамадзянскай вайны, Мірон Бокуць быў адным з першых арганізатараў калгаса ў сваёй вёсцы, куды стары цясляр вярнуўся, каб сустрэць канец свайго жыцця на бацькаўшчыне.

Гэта мудры і нямногаслоўны чалавек з'яўляецца ў п'есе тыповым прадстаўніком совецкага калгаснага сялянства, жывым увасабленнем яго поглядаў, яго розуму і сумлення. У вобразе Мірона Бокуця адчуваецца ўнутраная сіла і цвёрдасць, вялікая і глыбокая перакананасць у сіле народа. Ён — дбайны і клапатлівы гаспадар і абаронца калгаснай маёмасці. Аборы, фермы, свіран — усё пабудаваў ён для калгаса ўласнымі рукамі.

Для сумленных людзей гэта — добры, справядлівы і спагадны чалавек, а для ворагаў — суровы і бязлітасны суддзя. Калі на прыёме ў Абабуркі высвятляецца, што той збіраецца беспадстаўна арыштаваць калгасніка Рабічку, Мірон Бокуць смела кідае яму ў твар: «Няспраўядліва судзіш, начальнік!»

Мірону Бокуцю ўласціва пачуццё адказнасці за справу не толькі перад сваёй вёскай, перад сваім калгасам, але і перад усім народам.

Мірон Бокуць верыць, што марны і дарэмны ўсе спробы і намаганні ворагаў. Гэтыя думкі Мірона, гэтую яго ўпэўненасць падзяляюць і ўсе астатнія калгаснікі. «Няўжо яны сілы нашай не разумеюць? — здзіўляецца калгаснік Язэп. — Ім таварыш Сталін сказаў: вашай зямлі не хочам, сваёй вяршка не аддамо, і не лезьце лепей з лычам свінячым у наш совецкі агарод! Сказана гэта ім было? Сказана!.. Усёроўна паўзуць на жыватах. Ну, куды-ж ты проціў усёй народнай сілы прэш, морда ты аблезлая? Перапаўзе, бадзяецца па лесе, папранічнікам клопат, нам неспакой... Усёроўна-ж цябе, праклятага, зловяць. Ну, куды ты тут падзенешся? Значыць, у іх мазгі такія, што яны сілы нашай не могуць зразумець. І ад гэтага нам толькі лішні клопат».

Душэўная роўнавага і яснасць характэрны для Мірона Бокуця. На старасці год ён убачыў у родным калгасе ажыццяўленне колішніх сваіх запаветных мараў, ажыццяўленне той далёкай мэты, да якой ён імкнуўся, за якую змагаўся і пакутаваў на катарзе, якой аддаў лепшыя гады свайго жыцця. Працуючы над калгаснай брамай да свята, ён з бацькоўскай цеплынёй і зычлівасцю звяртаецца да Ліды і Насці: «Ну, што вы тут шэпчаце, хітрыя вы лісічкі!» І ў адказ на словы Ліды аб тым, што «Насця наша нечага засумавала», гаворыць: «Э, што ваш дзявочы сум! Сардэчка не так стукнула, хто-небудзь на яго быстрым вокам глянуў — вось і маркота ваша

ўся. Вы на мяне паглядзіце: я колькі год пражыў на свеце, успомніць пра ўсё — дык, здавалася-б, сэрца не вытрывае!.. А я хаджу сабе вясёлы, і лёгка мне і добра. Не такое ў нас жыццё, каб сумаваць, галубкі вы мае... Да старых маладосць варочаецца!»

Мірон Бокуць з'яўляецца носьбітам асноўнай ідэі твору. Нібы падагульваючы падзеі п'есы, ён гаворыць у фінале: «Вось як мінулае мне ўспамінаецца... Кожны ў душы воўка насіў, кожнаму смага нажывы сэрца смактала, бо не нажыцца — значыла загінуць. А нажыцца — ад слабейшага адабраць. І толькі той не выяваў, хто за ўсіх слабейшы быў, і той прападаў. І такіх было — многія тысячы... І вось у тую нешчаслівую пару давялося мне чуць прароцкія словы. Паміраў у нашым цэнтрале чалавек адзін з рабочых. Катарга яму была без тэрміну, бо ён быў большэвік. А сказаў ён мне словы такія: «Ты малады, Мірон... Ты дажывеш можа да тых часоў, калі надыйдзе пагібель воўка, і зломяць дашчэнту рабочыя рукі сілу багацця»... Многа ад той пары мінула гадоў. І прышла-ж пагібель воўка. Вось мы тут дружнай сям'ёй... Нам няма з-за чаго сварыцца, нам няма з-за чаго аднаму на аднаго нападаць, мы вольныя совецкія земляробы, багатыя ад працы сваёй, шчаслівыя людзі, мы зямлю сваю вольную, радзіму любім, смагі-нажывы мы не ведаем, багаццю прыяцеляў сваіх не зайздросцім, а радуемся, ворагаў народа працоўнага не баімся, а яны баяцца нас! Ды слава-ж ім, вялікім сынам партыі большэвіцкай, якія ішлі на пакуты і смерць прынялі за нас яшчэ тады, калі мы, цёмныя, па гразі поўзалі, брат брату за горла ўчапіўшыся! Слава Сталіну, правадыру магутнай і грознай сілы нашай, герою і першаму чалавеку ў нашым народзе і ва ўсім свеце, як вялікі ён і шырокі!.. Затое-ж за ўсё, што ў шчасці жыве, што магутным расце і здаровым, за тое, што ніколі народ наш працоўны прыгнёту і няволі не зазнае, за тое, што радзіма наша на дзіва ўсяму свету квітнее, прыміце нізкі наш паклон, слаўныя большэвікі!»

У гэтых заключных словах Мірона сфармулявана асноўная ідэя ўсяго твору. Сам аўтар надаваў гэтаму вобразу прынцыповае значэнне. Працуючы над п'есай, ён пісаў рэжысёру: «Праз Мірона мы павінны паказаць пераемнасць класавай барацьбы з пакалення ў пакаленне, гістарычную ролю большэвікоў, якія з царскіх засценкаў вяшчалі аб «пагібелі воўка». Пагібель воўка — гэта, канешна, алегорыя, але яна павінна быць дарэшты зразумелай і ў даным выпадку з'явіцца асноўнай ідэяй п'есы. Пагібель воўка, увасобленага ў фашызме, пагібель уласніцкага воўка ў самой істоце совецкага чалавека—вось ідэя». І далей: «Задача ў тым і заключаецца, каб... зрабіць Мірона не хадзячай рэліквіяй царскай катаргі, а звычайным,

простым чалавекам, які хоць і гаворыць не зусім звычайныя рэчы, але не асабліва рэзка вылучаецца з агульнага асяроддзя».

Сцэны драматычна напружаныя і псіхалагічныя, накшталт сцэны паміж Харкевічам і Насцяй, сцэны ў кабінеце Абабуркі, сцэны выкрыцця ворагаў, чаргуюцца ў п'есе Самуйлёнка з жанравымі і масавымі сцэнамі.

Цёплым і лагодным гумарам прасякнуты жанравыя сцэны: спрэчкі паміж загадчыцай птушынай фермы Сцепанідай і мужам яе Данілам, загадчыкам жывёлагадоўчай фермы і адначасова кіраўніком вакальнага гуртка.

Масавыя сцэны ў калгасе ажыўляе таксама і прывабны вобраз старога рыбака Анісіма, які прагне «ўвабраць» сома не менш, як на шэсць пудоў, каб унесці і сваю долю ў частаванне гасцей на свята.

Жанравыя і масавыя сцэны ў калгасе прасякнуты светлым, жыццерадасным духам народнасці. Ва ўсіх гэтых сцэнах і вобразах раскрываюцца пісьменнікам і патрыятычны настрой савецкіх людзей, і ясны погляд іх на жыццё, і свядомыя адносіны іх да сацыялістычнай працы і сацыялістычнай уласнасці. Сцэны пабудовы святочнай брамы і рэпетыцыі вакальнага гуртка характарызуюць таксама свядомасць калгаснікаў, рост культурных запатрабаванняў, іх імкненні да ведаў і мастацтва.

Народныя сцэны ў калгасе, ясныя і светлыя, супрацьстаўляюцца змрочным па каларыту сцэнам, у якіх раскрываецца агідная дзейнасць ворагаў. І гэты рэзкі кантраст, гэты антаганістычны канфлікт паміж прадстаўнікамі двух варожых светаў, які ўзмацняецца канфліктам сямейным, з'яўляецца асновай сапраўднага драматызма п'есы.

П'еса напісана жывой, вобразнай, эмацыянальнай і каларытнай мовай. Яна поўна трапных народных выразаў. Гаворка дзейных асоб перасыпана лаканічнымі і выразнымі рэплікамі, якія адпавядаюць і характару і настроям персанажаў.

Аптымістычная ў самой сваёй аснове, п'еса «Пагібель воўка» прасякнута духам савецкага патрыятызма. Народ у асобе Мірона Бокуця, Міхася Буйко, Лук'яна Рабічкі, Нічыпара, Язэпа, Сцепаніды, Данілы, Анісіма і інш. упэўнен у сваіх сілах, у сваёй будучыні, у правільнасці свайго ладу жыцця. Ён арганічна не церпіць у сваім асяроддзі чужых, варожых элементаў. Ён не баіцца ворагаў, ён верыць у непазбежнасць «пагібелі воўка» ва ўсім свеце.

Апошнія старонкі гэтага твора смяротна хворы пісьменнік дапісваў у ложку. Заўчасная смерць не дала яму магчымасці закончыць

і належным чынам адшліфаваць п'есу. Гэта адчуваецца ў драматургічнай нераспрацаванасці фінала. Лішняй з'яўляецца па сутнасці другая карціна першага акта (размова Харкевіча і Шабінскага ў яме). Гэта карціна не рухае наперад развіццё дзеі. Яна мае характар чыста ілюстратыўны.

Аднак недаапрацаванасць некаторых вобразаў (Насця, сакратар райкома Дабрынін, настаўніца Ліда, лейтэнант Усенка) і канца п'есы, выкліканая заўчаснай смерцю пісьменніка, не перашкодзіла поспеху гэтага твора, прасякнутага пачуццём савецкага патрыятызма, гарачай любоўю да сацыялістычнай Радзімы і нянавісцю да яе ворагаў.

У 1940 г. п'еса «Пагібель воўка» была паказана ў Маскве на дэкадзе беларускага мастацтва і сустрэла станоўчыя водгукі ва ўсесаюзным друку. Яна была перакладзена на рускую мову.

Убачыць прэм'еру сваёй п'есы на сцэне тэатра пісьменніку не давялося. «Сваю п'есу «Пагібель воўка», — успамінаў К. Чорны, — ён напісаў ужо будучы хворым. У цяжкім стане свайго здароўя закончыў ён і раман «Будучыня». Цяжкая хвароба — туберкулёз — адабрала ў яго голас. Ён ужо ледзьве хадзіў, ледзьве шаптаў словы, але нястомна працаваў і давёў пачатыя творы да канца. Ён спяшаўся пісаць, бадзёрыўся да апошняй хвіліны, гумар ніколі не пакідаў яго. Зусім хворы, у пасцелі, ён пісаў творы аб смелых і мужных савецкіх людзях, аб радасным жыцці, расказваў пра гераіку нашых дзён, пра барацьбу за сацыялізм. Чалавек вялікага таленту і выключнай працаздольнасці, ён узбагаціў беларускую літаратуру творамі, якія горача палюбіў наш чытач».

31 студзеня 1939 г. Урад СССР узнагародзіў Эдуарда Самуйлёнка за выдатныя заслугі ў галіне мастацкай літаратуры ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Вестка аб гэтай узнагародзе застала пісьменніка ў санаторыі «Сасноўка» пад Віцебскам. «Выказваю сваю радасць і ўдзячнасць за высокую ўзнагароду, якой удастоілі мяне партыя і ўрад. Гэта высокая ацэнка маёй работы. Я аддам усе сілы на карысць горача любімай радзімы».

Гэта былі апошнія, напісаныя ім радкі.

Эдуард Самуйлёнак памёр 12 лютага 1939 года, поўны творчых сіл і энергіі, поўны няздзейсненых планаў і задум. Смерць Самуйлёнка была вялікай стратай для беларускай літаратуры.

Гэта быў пісьменнік шырокага творчага дыяпазону. Позірк Эдуарда Самуйлёнка быў накіраваны заўсёды наперад, у заўтрашні дзень. Творы яго прасякнуты бальшэвіцкай ідэйнасцю. Ён жыва адгукаўся на важнейшыя падзеі свайго часу, вырашаючы ў сваіх творах актуальныя праблемы грамадскага жыцця. І ў «Паляўнічым

шчасці», і ў «Будучыні», і ў «Пагібелі воўка» ён паказвае і разумее жыццё і яго перспектывы з пункту погляду тых задач, якія ставіла і ставіць перад народам і краінай комуністычная партыя. Усе творы яго прасякнуты гарачай любоўю да Радзімы, да працоўных людзей і нянавісцю да ворагаў, да прыгнятальнікаў, да свету капіталістычнай эксплаатацыі, да ўсяго, што перашкаджае чалавеку ісці наперад.

В. ВОЛЬСКІ.

## *Русалчыны сцежкі*

У праменнях сонца трапеча паветра, насычонае пахам жыццедосных сокаў зямлі. Блудзіць па полі парыўны і мяккі вецер. Хлебным потам сцякае разамлеўшая, распараная зямля.

Па полі, з краю ў край, ідуць даўгім шэрагам аратыя-калгаснікі. Плугі лёгка рэжуць падатную, пухкую глебу, і, скрыгочучы каменнем, адвальваюцца ў баразны кавалкі старадаўніх межаў. Коні ў такт хады вымахваюць галовамі, налягаюць на межах аратыя, і ўсё больш шырэе трохкутнік калгаснае пахаці, руйнуючы межы і прымежкі.

— Праклятыя... — шэпча Хвошч. — Ой, праклятыя, каб на вас дванаццаць ліхаманак... Каб вас... чорная смерць...

Ён схіляе галаву і асцярожна абмацвае горла.

— Нічога, — думае ён, — зараз адыйдзе... Лягчэй будзе.

І задыхаецца. Задыхаецца ад злосці. Бунтуе ў гневе цяжкая кроў, аж не стрымлівае сэрца, і робіцца ад гэтага цела чужым, безуладным, вільготным ад зімнага поту.

Ён сядзіць пры дарозе на камені, утуліўшы галаву ў плечы. Сядзіць шырокі, грузны, нерухомы, нібы ажырэўшы каршун, што страціў здольнасць лёту. Ён адчувае, што ўстаць не можа, няхопіць сілы ўзняць вялізнае

чэрава, і толькі варухнуцца, кроў моцным штуршком ударыць у галаву, і потым застанецца ён ляжаць, нерухомы, на пыльнай дарозе, каля старадаўняга каменя.

Таму сядзіць ён, не рухаецца, тлуміць злосць. Азірае поле, цяжка варочае налітымі крывёй вачыма, калі з'яўляцца на адным з узгоркаў калгасныя аратыя і, нахіляючы галаву, стараецца стрымаць гвалтоўны штуршок бунтуючай крыві. Калі-ж зніжнуць аратыя, зноў азірае поле панурым поглядам.

Ён бачыць шырокі прастор, ахоплены па ўскраях рамай дальніх лясоў, пярэсцячы абшарамі свежай ільснячай пахаці, бляднавай зелянінай яшчэ не ўзнятай цаліны, сакавітай рунню азіміны, жоўтацветам лапуховых лагчын... Ён прыглядаецца да таго, як трапеча па балоцістых нізінах радкавы яшчэ беразняк, як хістаюцца баязлівыя чырвоналістыя асінкі, і лісце іх чырвоным золатам прасвечвае скрозь дым меданоснага квітнення пушыстых, раскарачлівых лозаў.

Сонца над полем, глыбокая сінь неба, і ўцякаючыя ўдаль кучаравыя воблакі... І спевы жаўранкаў, зліваючыся з мелодыяй вызваленай чалавечай працы.

— Праклятыя... — шэпча Хвошч. — Праклятыя!

... На ўзгорку, над балотам, што завецца «Русалчыны сцежкі» — стаіць вялікі дом. На яго белых комінах дробнымі цаглінкамі выведзены лічбы. Цаглінкі шліфаваныя і таму ільсніць здалёк:

«1905»

Каля дома шчыльна згуртаваліся крутымі гонтавымі дахамі надворныя будоўлі. На ўзгорак, выгінаючыся, успаўзае дарога, і пры ёй, крыху воддаль ад дома, быў высокі чорны крыж. За домам сад, што хвалямі зеляніны спадае з узгорку да самага ўзмежжа балота. Гэта былы хутар Сымона Хвашча.

— Былы!

... Хвошч зноў праводзіць па горле скурчанымі пальцамі.

Зараз над ганкам дома вісіць невялікая шыльда:

ЧАТЫРОХГАДОВАЯ ШКОЛА
КАЛГАСА
«СПЕЛЫ КОЛАС»

Крыжа супроць дома няма. Замест яго тырчыць з зямлі чорны, нібы абгарэлы, пень.

... Крыж гэты пастаўлены ў 1920 годзе, калі ўпотайкі данеслі Хвашчу, што сын яго, Мацей, расстрэлены па прысуду трыбунала недзе пад Смаленскам. Капітан Мацей Хвошч не паспеў уцячы з белапалякамі і пайшоў разам з бандай у лясы. Гэта не ратавала яго.

Тады перад домам вырас чорны крыж. І набожныя людзі, праходзячы, знімалі шапкі, не ведаючы, навошта паставіў Хвошч крыж супроць свайго дома. А Хвошч, як і заўсёды, маўчаў. Ён прывык, каб супроць яго дома знімалі шапкі, нават і ў тым выпадку, калі-б там не стаяў крыж.

Так цягнулася некалькі год, да самага таго моманту, калі Хвошч падаў старшыні калгаса, свайму быўшаму батраку, ключы ад гаспадаркі і, схоплены за горла першым прыпадкам душачай хваробы, зваліўся на падлогу.

Тады ён пусціўся на хітрыкі — паказаў сябе смяротна хворым, — і калгаснікі, з літасці да знішчанага ворага, пакінулі яму адзін пакоік у доме. Сядзеў Хвошч усю зіму, з дня ў дзень, у гэтым пакоіку і панура прыслухоўваўся да гоману за сцяной.

... Дзеці не пажадалі бачыць перад школай распрасцёртую, панурую здань, і ад крыжа застаўся невысокі чорны пень.

Па полі ідуць коні і людзі. З кожнай хвілінай пашыраецца калгаснае поле, і хутка бераг пахаці, нібы прыбываючая вада, падступіць да хутара і ахопіць яго хвалямі барознаў.

— Не... — прахрыпеў Хвошч. — Н-не!

Сцяў зубы, з нечалавечым напружаннем сіл устаў на ногі і хвіліну стаяў хістаючыся, няўпэўнены. І калі зразумеў, што небяспека мінула, выцягнуў рукі са сціснутымі кулакамі і, стоячы гэтак, агромны, з вырачанымі вачыма і пасінелым тварам, — крыкнуў у прасторы поля:

— Крывавымі слязьмі абмыецеся! Адпомшчу-у-у...

І слухаў, стоячы, нібы чакаў адказу. Вецер дыхнуў адгалоскамі дальніх переразвонаў ручаёў і жаўранкаў.

Хвошч завярнуўся і няверным, хістаючымся крокам пайшоў па дарозе.

* * *

На ўзбярэжжы балота, пад садам, было ціха і прытульна. Хвошч спыніўся і прыслухоўваўся некалькі хвілін у баязні зноў учуць ненавісныя спевы. Але было ціха. Вецер прылятаў зрэдку, слабыя былі яго подыхі, ад якіх толькі ледзь чутна шапацела зжоўклае, леташняе трысцё.

У стаўках, чыстых ад павучыння раскі, крактала жабы, звінелі ў кустах сініцы-лазоўкі, ды са свістам, рэжучы пружкае паветра, праносіліся ўвысі чародкі качак. Хвошч адчуў, як паступова супакойваецца бег усхвалявавыных думак, і прысеў на ўзмежжы. Скруціў цыгарку і, атрасаючы рэшткі тытуну з крыса ў далонь, па-звычайнаму ўжо, крыва ўсміхнуўся:

— Круты ў мяне характар, ад гэтага і хвароба прыступае. Ой, зацяты характар!

І тут-жа ўспомніў, як некалі ўдарыў у гневе батрака Змітру. Ударыў цэпам, і ўдар прышоўся па твары. Змітра хварэў некалькі тыдняў, а потым нечакана звар'яцеў і ўкінуўся ў калодзеж, дзе і загінуў.

Ківае ў задуманасці галавой Хвошч:

— Круты, зацяты характар, і мажліва памерці ад гэтага давядзецца...

І ўздыхнуў. З высокага ўзбярэжжа было добра відаць усю пространь балота. І за чорнай хмарай лазовага гушчару Хвошч бачыў далёкі сонечны ўзгорак супроцьлеглага берагу. Там блішчэў на сонцы драніцай даха вялікі дом з белымі комінамі. Навокал яго хаваліся ў зелені саду надворныя будынкі. Прыгожы быў малюнак, і Хвошч зноў мімаволі ўздыхнуў.

Над дахам дома ў глыбокай сіні неба мільгацела чырвоная кропка.

... Гэта адзін з лепшых былых панскіх фальваркаў. Высокі дом на ўзгорку над балотам, поўкружжам навокал яго стадолы, свіраны, пуні. А на белых комінах дома шліфаванай цэглай выведзена дата пабудовы:

Было жыццё... Бедната не смела ўзняць вачэй на гаспадара хутара «Хвашчоўка» — Сымона Хвашча. Стаяў Хвошч, гандляр хлебам і жывёлай, на адной дошцы з панам. Нават больш заможныя ламалі перад ім шапкі. І для таго, каб падкрэсліць сваю роўнасць з панам, аддаў Хвошч свайго сына ў тую-ж юнкерскую школу, дзе вучыліся панскія сыны, і насупроць панскага фальварка пабудаваў свой. Пабудаваў так, што нельга нічым адрозніць адзін ад другога. Гэта быў цень, адбітак панскага фальварка.

І на белых комінах свайго дома загадаў Хвошч вывесці шліфаванай цэглай імя шчаслівага года. Тады быў голад, і вясковая бедната за бясцэнак аддала сваіх кармільцаў.

Ішлі гады, і паабапал балота, на адлогіх узгорках, стаялі падобныя адзін да аднаго два фальваркі.

Хвошч сціснуў зубы і ціхенька застагнаў.

... Зараз над ганкам яго дома шыльда. Калгасная школа. Над панскім фальваркам развінаецца чырвоны сцяг. Калгас «Спелы колас».

Шуміць трысцё на балоце...

Сонца праменні песцяць зямлю.

Прылегшы на локаць, Хвошч блукаў вачыма па балоце. Разлеглася яно ўздоўж, на многія вёрсты перасякае палі і лясы. І канчаецца зараз-жа за двума фальваркамі. І калі будаваўся дом Хвашча, ён часта ездзіў навокал балота, каб праверыць, ці так робіцца тое альбо іншае, як зроблена на фальварку. Па балоце-ж адвеку ніхто не хадзіў. Імшаныя палянкі асоўваюцца пад малейшым дотыкам. У лазовым гушчары ззяюць нязмеранай глыбінёй вокны. Хліпкае, здраднае балота. Тыя, хто хаця скраю ўзыходзіў на балота, апавядаюць яшчэ, што па ім скрозь чарнеюць сцежкі. Яны закручваюцца навокал кустоў, сплятаюцца і расплятаюцца, крочаць па купінах, нават ідуць проста цераз багны, і ўсё вядуць некуды ўглыб, у таемны гушчар, дзе ніколі ніхто не ступаў нагой. І таму балота назвалі «Русалчыны сцежкі», і па вёсках старыя апавядаюць, што калі-б хто пайшоў гэтымі сцеж-

камі, вадзілі-б яны па адным месцы, пакуль чалавек не трапіў-бы ў багну.

На ўскраі балота чарнее панурая хвоя. Гледзячы на яе, Хвошч усміхнуўся, успомніўшы:

Там, пад хвояй, вузкае глыбокае акно, зарослае па ўскраях трысцём. Некалькі год таму назад гэтае акно глынула труп чалавека з жарнавым каменем на нагах. Следства не знайшло ні забітага селькора, ні яго забойцаў.

— Сымону Рыгоравічу добры дзень! — данёсся з балота хрыплы выкрык.

Хвошч уздрыгнуў і адкрыў вочы.

У зараслях трысця, увязшы па калена ў дрыгву, стаяў невялікага росту чырвонатвары чалавек. Шапку ён трымаў у руках, і руды яго калматы чуб стаяў дыбам. Ён імжыў вочы ад сонца, і дробны яго чырвоны тварык расшчэпліваўся гнілазубай усмешкай:

— Сымону Рыгоравічу добры дзень!

— Гэта ты, Гузок? — спытаў няўпэўнена Хвошч.

— Я, — адказаў чалавек. — А чаго ты тут сядзіш пры балоце?

— А ты чаго на балоце шукаеш?

— Качак падбіраю! — крыкнуў Гузок, шлёпаючы да берага. — Стаміўся, ажно дух зацінае... Цьфу, ліха, якое слізкае балота.

Правальваючыся на кожным кроку, ён, нарэшце, выбраўся на ўзмежжа і, падышоўшы да Хвашча, падсунуў яму да твару шапку, запэцканую ў гразь. З шапкі выглядалі прадаўгаватыя зялёныя яйкі.

— Вось. І кішэні поўныя. Чатыры гнязды па дванаццаць яек. Яешня, хай цябе камар з'есць!

Ён пераступіў з нагі на нагу, шмыгнуў пасінелым наском і нясмела папрасіў:

— Дай закурыць, Сымон Рыгоравіч!?. Пагрэцца. Змерз у балоце.

Ён сквапна сачыў за тым, як, не спяшаючыся, скручваюць цыгарку таўстыя пальцы Хвашча і, пацiскаючы плячыма ад холаду, апавядаў:

— ...І такая была бяда, Сымон Рыгоравіч, што з рук вон. На работу кожны дзень, спаць па паказаных

гадзінах... Цьфу ты ліха! Дай сярнічачку... Добра, што дурным прыкінуўся, а то сядзець-бы яшчэ шэсць месяцаў. Не дай бог!

— Даўно выпусцілі?

— У пятніцу. Акурат пад вечар.

— Каторы ўжо раз сядзеў?

— Чацверты раз... — адказаў Гузок, пушчаючы дым носам. — Не павязло, мацеры іх агурок... Чатыры разы засыпаўся і ўсё на дробязі. Аж крыўдна. Ну, чацверты не дасядзеў, і на пятым ужо, калі пападуся, — галава далоў, вышлюць!

Хвошч з укосу аглядаў яго ступленую постаць, босыя, запэцканыя ў гразь ногі і крыва ўсміхаўся. Гузок быў самым адважным злодзеем у ваколіцы.

— Няма на чым рукі пагрэць, хоць трэсні, — разважаў Гузок. — Сочыць міліцыя. Вось і прыходзіцца качак крыўдзіць. На лёгкай страве сяджу.

— У мяне таксама цяжкія часы...—сказаў Хвошч.— Раскулачылі.

У гэтую хвіліну ўздрыгнула паветра. Над балотам паплыў гул. Абодва ўзнялі галовы, азіраючыся па баках.

— А вунь, — паказаў за балота Гузок. — Трактар арэ. Вунь, на ўзгорак палез!

Хвошч глянуў у тым кірунку і ўбачыў, як па ўзгорку папоўз, падобны здалёк да жука, трактар. За ім цягнуўся след узаранай зямлі.

— На тры баразны дзярэ праклятьі, — сказаў Гузок, сплёўваючы акурак. — Вось гэткага канька звудзіць! Га? Сымон Рыгоравіч!

Але Хвошч не адказаў. Ён глядзеў на далёкі ўзгорак. Яго вочы не адрываліся ад зіхацеўшай кропкі чырвонага сцяга, што здаваўся іскрай, сарваўшайся з вогнішча і нягаснучым шматком полымя лятаючай над дахамі. І ў гэты момант вынікла думка. Хвошч адчуў, як рэзка таўхнула сэрца.

Праз момант ён зноў глядзеў на далёкую чырвоную зорку. Думка стала строга акрэсленым планам, жудасным і прывабным, надзеяй помсты, і ад яе цяпер залежала прывесці гэты план у выкананне.

— Ты можаш перайсці ўначы балота? — спытаў ён Ґузка.

Той паціснуў плячыма:

— Гледзячы куды.

— Упоперак, да комуны.

— Тут магу, — адказаў Гузок. — Тут ты мяне ў мяшку занясі, дык вылезу. Мог-бы і ўздоўж прайсці, але ўначы ўсё-ж небяспечна. Бухнеш у багну, вось табе і могілкі.

— Добра, — сказаў Хвошч.

— Безумоўна, і ўдзень не кожны пройдзе, — апавядаў Гузок, — але я хаджу і ўначы. І паміж іншым, сцежкі не русалкі, а качкі вытапталі. Вось. Плятуць бабы языком... А ты куды, Сымон Рыгоравіч?

— Хадзем да мяне, на хутар, — сказаў Хвошч. — Ёсць такая справа, дзе рукі пагрэеш. Пойдзеш?

— Чаму-ж не? — адказаў Гузок. — Напрыкрыла на лёгкай страве.

Хвошч яшчэ раз глянуў у напрамку комуны і сціснуў кулакі.

— Хадзем.

* * *

Пасля трэцяй шклянкі, калі Гузок ап'янеў і, пазіраючы асавелымі вачыма, пачаў апавядаць розныя гісторыі, Хвошч рашуча перахіліўся цераз стол.

— Гузок, — сказаў ён, — мы людзі свае. Нам няма чаго ездзіць аднаму навокал другога. Скажу проста. Ёсць справа, на якой ты можаш зарабіць і пры тым аддзякаваць мне за маё да цябе дабро. Ты павінен...

Хвошч глянуў у твар затаіўшага дыханне Гузка.

— Ты павінен падпаліць калгас... — сказаў ён шопатам. — Можаш?

— Магу, — адказаў Гузок, тупа гледзячы на сцяну. — Але гледзячы, колькі будзе заплочана.

— Аддам усё, што маю. Пяцьдзесят рублёў.

— Выходзіць, — згадзіўся Гузок. — Гані іх сюды.

Хвошч абапёрся на стол.

— Сёння ўначы. Пойдзеш проста цераз балота. Я дам бутэльку з газай і шматок пакулля. Як вылезеш з балота, ідзі да стайняў. Там павець. На ёй стары гонтавы дах. Астатняе ведаеш сам.

— Выходзіць, — кіўнуў галавой Гузок, — гэтая справа мне падабаецца. Але грошы зараз!

Хвошч палез за пазуху.

— Трымай. Я табе веру, Гузок. Не здрадзіш. І яшчэ...

Ён памаўчаў, і памятыя паперкі дрыжэлі ў руках.

— Калі ў вокнах будзе святло, лезь назад у балота і чакай...

Хвошч задыхнуўся.

— Патрэбна, каб усе спалі... Каб ні адзін не вылез жывым... Разумееш?

— Разумею, — адказаў Гузок. — Няхай спяць, гэта не мая справа.

Грошы выслізгнуліся з рук Хвашча.

— Балота схавае сляды,—гаварыў Гузок, сціскаючы грошы ў кулак. — Няхай сто сабак прышлюць. Разумна ты выдумаў, Сымон Рыгоравіч! Вып'ем?

Па стале пакацілася пустая бутэлька. Гузок нахіліўся да Хвашча.

— Сымон Рыгоравіч. Даўно ў цябе хацеў я запытаць. Навошта ў цябе на комінах дзевятнаццаць, колца і пяць... Га?

Хвошч неадрыўна глядзеў у акно і не чуў пытання Гузка. Над дальнімі лясамі, калышучы валавяна-шэрым брухам, напаўзала на датляваючую зару вялізная хмара. На поле паціху асядаў змрок. Надыходзіла ноч.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі Гузок бязгучна знік за дзвярыма, Хвошч два разы павярнуў ключ і, хістаючыся, намацваючы ў пацёмках сцяну, дабраўся да стала. Грузна рухнуў на ўслон і сказаў упоўголаса:

— Я буду спаць... Я нічога не ведаю... Гарыце да белых костачак, каб попел ваш на чатыры вятры развеяла... Каб...

Хвошч прагна хапіў у сябе паветра. Навокал стаяла мёртвая ціш, і бурая цемра, здавалася, націскала на вочы. Хвошч выцягнуў руку і абмацаў бутэльку.

— Віп'ю. Буду піць. Каб прачнуцца заўтра, не чуўшы вашых енкаў. А там, у пунях, трактары... машыны... У стайнях жывёла... Спіце! Аб вас паклапаціўся Сымон Рыгоравіч Хвошч. Спіце!

Ён піў доўга, не адрываючыся, пакуль не выпала бутэлька з адрантвелай рукі. І адразу абмякнуў, адваліўся да сцяны. Падыходзіў сон, моцны, неадступны, і ў вачах грузнымі хвалямі калыхалася цемра.

* * *

Было душна, і здалёк даносіліся глухія перакаты грымотаў. Зрэдку пацягваў вецер. Упала некалькі кропляў дажджу.

Гузок павольна пасоўваўся ўперад, асцярожна намацваў зыбкую паверхню балота. Навокал лёгка звінела сухое трысцё. З багнаў даносіўся цяжкі пах гнілі.

— Каб, галоўнае, не трапіць у багну, — думаў Гузок, стараючыся захаваць роўнавагу. — Чорт яе ведае, дзе тая сцежка падзелася...

Але сцежкі не было. Замест яе пад нагой асунуўся мох, і Гузок выратаваўся тым, што хутка падаўся ўсім целам назад. Уперадзе хліпнула і забулькатала дрыгва.

— Недарэчы напіўся, — сказаў Гузок. — Якраз хаўтуры ўтворыш. Цьфу, ліха... Трэба ехаць улева.

Ён завярнуўся і асцярожна пачаў падавацца ў бок ад акна. Узбіўся на шчытна пераплёўшыйся паміж сабой лазняк і палез нацянькі, абдзіраючы твар і рукі ў кроў. Гушчар нечакана разарваўся, пасвятлела, і Гузок, паспешна ступаючы, страціўшы баязнь небяспекі, ахоплены нястрымным жаданнем хутчэй выбрацца з балота, правальваючыся ў дрыгву, ледзь не паўзком раптам вылез на ўскрай балота.

У мутнавым змроку начы перад ім выразаўся ўзгорак з купай будоўляў наверсе. Гузок глыбока ўцягнуў у сябе паветра.

Гэта і быў калгас. Чорны профіль дома, які ўзвышаўся над будоўлямі і садам, ясна вырысоўваўся на тле змрочнага неба.

Гузок яшчэ раз уздыхнуў і прыслухаўся. Было ціха зусім. Толькі рэхталі жабы, ды дзесьці глыбока ў балоце натужна крычаў дзяргач. Крычаў працяжна і глуха...

Гузок, утуліўшы галаву ў плечы, прыгінаючыся да зямлі, асцярожна, крок за крокам, пачаў выбірацца з хлюпаючай дрыгвы. На ўзмежжы спыніўся і паслухаў зноў. Тая-ж мёртвая ціш.

Тады ён пружкім, лёгкім крокам, размераным бегам пасунуўся на ўзгорак, усё так-жа прыгінаючыся да зямлі, непрыкметны і бяззычны, нібы здань. Гэта была сістэма, выпрацаваная практыкай цёмных начэй.

І вось... Рука абмацала нізкі дах павеці. Гузок, азіраючыся на бакі, выцягнуў з кішэні бутэльку і з-за пазухі жмут пакулля. Прыслухаўся зноў. Ціш.

Па-звычайнаму прыемна пахнучая газа каўтнула ў бутэльцы. Яшчэ момант... Успыхнуў дрыжачы агеньчык сярнічкі і знік. Гузок упэўненым цвёрдым рухам ускінуў жмут на дах, і адразу-ж выбухнуў агонь. Дрыгнуў і рассунуўся змрок, агонь паслӑўся па даху, уядаўся ў шчыліны і пабег вышэй, аблізваючы дах гібкімі язычкамі.

Гузок, нахіліўшыся, як вецер, ляцеў з узгорка.

— Хутчэй... Хутчэй у балота!

Дабраўшыся да кустоў, ён прытаіўся каля высокага карча згніўшай бярозы.

Над дахамі калыхаўся чырвоны туман.

— Угараецца... — падумаў Гузок і мацней прыціснуўся да карча.

Бліснула полымя. Даўгім языком гнутка лізнула сховы цемры і пачало расці ўшыр, раздавацца, выцягвацца ўгору...

Гузок пастулова, па меры таго, як уцякала з узгорка ноч, падаваўся назад, крок за крокам улязаў у гушчар. Ён не зводзіў вачэй з агню.

Яшчэ хвіліна...

Вялізны стоўб полымя, з трэскам, дарэшты знішчаючы змрок, узмыў угору, хіснуўся і рассыпаўся мільёнамі іскраў. Ружовыя воблакі дыму паплылі ў бяздонне ночы. І ноч дрыгнула і адступіла прэч. На небе калыхнулася і папаўзла крывавая пляма зарава.

Пацягнуў вецер... Закруцілася полымя... Стоўб агню прыгнуўся і магутнай, знішчаючай хваляй паслаўся па дахах.

Грымела мора агню, і ў яго пераможных грымотах была пагроза ўсяму жывому.

Увязшы па калена ў дрыгву, ушчэмлены ў гушчары, Гузок шаптаў:

— Пагараць... Пагараць усе, агурок іх мацеры!..

І раптам над балотам пранёсся трывожны гул. Мядзяным голасам крычаў аб пажары звон... Званілі ззаду, за балотам.

— Што гэта? — зашаптаў Гузок, адчуваючы, як зімныя дрыжыкі пабеглі па хрыбце.

— Што гэта?.. Звоняць у калгасе!

І ў гэты момант ірвануў вецер. Полымя хіснулася ўбок, і два белыя коміны глянулі лічбамі:

«1905»

Тады Гузок зразумеў.

— А-а-а!.. — дзіка крыкнуў ён, хапаючыся за галаву. — А-а-а!.. Ратуйце-е-е! — Ён замітусіўся на месцы. Потым кінуўся бегчы да палаючага хутара.

— Сымон Рыгоравіч!.. Сымон Рыгоравіч!

Ногі непаслухмяна распаўзаліся ў дрыгве, Гузок падаў, спатыкаўся, і калі, нарэшце, вылез на ўзмежжа, да яго даляцеў, пакрываючы грымоты полымя, пранэзлівы, нечалавечы крык роспачы і болю.

— Ратуйце! Ра-туй-це!

Гузок бег да хутара. Праз вокны дома вырывалася полымя. У той момант, калі ён дабег да пажару, супроць дома, як урытая, на поўным скаку спынілася павозка з пажарнай машынай. Комунары, не зважаючы на расшохранага Гузка, хутка завіхаліся, выпрагаючы коней.

— Гэта я! — у адчаі крыкнуў Гузок. — Гэта я падпаліў.

Ён кінуўся да агню, але зараз-жа быў схоплены дзесяткам рук. І ў гэты-ж момант, разам з палаючай рамай акна, на двор вывалілася нешта падобнае да таўшчэразнага мяшка і скурчылася на зямлі, ахутанае дымам і іскрамі.

Гэта быў Хвошч.

*1931 г.,*
*красавік.*

## *Цагліна каземата*

... Глухая ноч. Лютуе вецер. Шуміць дождж, і енчыць дрот правадоў. Недзе глыбока ў прадонні цемры гаснуць нясмелыя агні. Неспакойным сном, пад свіст і гул непагоды, засынае горад.

І толькі ён, вартавы цэнтральнага паста, застаецца адзін з жывых перад тварам звар'яцелай стыхіі. Цэнтральны пост — гэта пляцоўка на вышыні чацвертага паверха, на самым падзеле даха турмы. Гэта чатырохкутны ліст чыгуна, абгароджаны пераплётам поручняў, прыціснуты падобным да грыба прыдашкам. Па гэтым гулкім лісце чыгуна крочыць узад і ўперад, крочыць навокал стаўба, што трымае прыдашак, чалавек у шэрай шынелі.

Стыгнуць пальцы, што сціскаюць вінтоўку. Твар ледзянее пад ударамі ветру. Знобкія струменні дажджу спаўзаюць за каўнер і ўядаюцца ў цела.

Кідаецца чалавек у шэрай шынелі. Беспарадна шукае прытулку ад ветру і дажджу. Гэтага прытулку няма.

Святло дугавых ліхтароў на двары турмы — не святло, а каламута. Калышуцца ліхтары, і плешча нясмелымі адценнямі на дах турмы гэтая агідная, бурая каламута. Яна адстаялася ў чатырохкутніку сцен агароджы, нібы вада ў іржавым вядры, і нячыстая лягла на брудны асфальт двара.

І суровыя інструкцыі турмы: вартавы цэнтральнага паста павінен бачыць двор і сцены агароджы і трымаць сувязь з вартавымі сцен і ўнутранага патруля — зведзены нанішто. Нічога не ўчуць, нічога не ўбачыць.

Узнесены высока над горадам, у чорную і дзікую ноч бездапаможна кідаецца чалавек. Сціскае ў руках непатрэбную вінтоўку і крочыць з кута ў кут і навокал стаўба.

За бартом пляцоўкі глухая ноч. Лютуе вецер. Шуміць дождж. Плача дрот правадоў і так, як залівае вада галоўні раскіданага вогнішча, тушаць хвалі цемры святло дугавых ліхтароў.

Вартавы падбягае да ўскраю пляцоўкі, перахіляецца цераз поручні і крычыць у роспачы, сабраўшы апошнія сілы:

— Ка-ра-ул! Слухай!

Адказу няма. Вецер і ноч паглынулі крык. Маўчаць пасты. Маўчыць турма.

Трывожны сон пануе пад сховамі казематаў.

І зноў крычыць вартавы. Крычыць распачліва і са страхам у голасе:

— Слу-хай!

І зноў паглынае ноч гэты працяглы крык, лозунг турмы.

Вартавы зноў крочыць па гулкім метале. Знобкім холадам апальвае рукі вінтоўка. Ён забываецца на інструкцыі і закідвае за плячо рамень стрэльбы. Ён хавае кісці рук у рукавы і апіраецца плячыма аб стоўб, што трымае прыдашак.

Больш не будзе хадзіць па пляцоўцы вартавы цэнтральнага паста. Будуць праходзіць дні і ночы, будзе грымець вецер і дождж, будзе бушаваць мяцеліца, будуць галасіць правады, будзе смяротным маўчаннем маўчаць турма.

Будуць крочыць падкаваныя салдацкія боты, і будзе мерна званіць пад нагой вартавога чыгун пляцоўкі цэнтральнага паста. Але гэты вартавы больш не ступіць нагой на звонкую пляцоўку.

Бо ён згубіў прытомнасць, што зусім не прадугледжана інструкцыямі для варты. Бо ў гэты час цераз

паўтарасажнёвую сцяну агароджы, на турэмны двор, саскакваюць адна за адной бяззычныя і рухавыя постаці, і ўжо няма ніводнага з вартавых усходняй сцяны і ўнутранага патруля. І бадай-што не застанецца ў жывых і сам вартавы цэнтральнага паста.

* * *

Чыгунныя пліты сцёрліся пад безліччу крокаў вартавых, што прайшлі на працягу дзесяткаў гадоў па звонкім чыгуну. Засталася іржавая сцежка навокал стаўба. А ў пустых казематах, у вільгаці сцен, пад цвілымі скляпеннямі камер, у гулкіх калідорах, на іржавых спляценнях аконных кратаў, у смуродным, гнілым нутры пабудовы турмы зусім нічога не засталося ад тых, чыё жыццё загасла ў гэтым каменным мяшку...

Сцяпанавіч адвёў вочы ад іржавае паверхні чыгуннай пліты пляцоўкі. Ніць думак, чарга паслядоўных вобразаў перажытага, парвалася.

Сцяпанавіч убачыў унізе, пад сабой, руды хрыбет даха, чатырохкутнік двара, а навокал — пярэстую блытаніну гарадскіх дахаў, пасечаную каляінамі вуліц.

Сонца ўзнімалася з-за сініх далёкіх лясоў. Раніца над горадам была спавіта вэлюмам дыму фабрычных комінаў. Горад абуджаўся. Вуліцы звінелі. Ішлі рабочыя дзённых змен.

Сцяпанавіч з вышыні пляцоўкі адрозніваў у плыні пешаходаў работніц тэкстыльнай фабрыкі імя Лібкнехта ад работніц фабрыкі Швейпрома, рабочых механічнага завода ад рабочых сталеліцейнага. Яны ішлі суцэльнай паводкай: тэкстыльшчыкі, ліцейшчыкі, друкары, рабочыя электрастанцый, дэпо, лесапілак, цагельняў. Яны спяшаліся паспець да тае пары, пакуль ускрыкнуць рознагалосымі гудкамі тыя, што пакуль яшчэ маўкліва выкідваюць у ранішнюю сінь воблакі светлашэрага дыму.

Час-ад-часу ад пешаходаў адлучаліся рабочыя ў жоўтых брызентавых блузах. Гэта былі будаўнікі. Яны праходзілі цераз вароты і з'яўляліся на вузкім турэмным двары. Да Сцяпанавіча далятаў гоман. Рабочыя рассяда-

лiся паўз сцен.агароджы, стаялi гурткамi, праходжвалiся па двары — чакалi пачатку работ.

Сцяпанавiч насунуў шапку на патылiцу так, як гэта ён рабiў у днi маладосцi. Шугануў вецер, крануў жорсткiя, з срэбрам сiвiзны, валасы. Сцяпанавiч з нязвыклаю выразнасцю адчуў тое, што лягло на плечы грузам, цяжэйшым ад шасцi дзесяткаў гадоў, беззваротна знiкла ў сiнi перажытага i больш не звярнуцца яму назад. Шафранавы твар Сцяпанавiча, стары, суровы, пасечаны змаршчакамi твар, кранула маладая i спакойная ўсмешка.

Прысадзiстая, напоўразбураная абстрэлам у часы грамадзянскай вайны пабудова турмы, што цэлых дзесяць гадоў глядзела сляпымi вачыма пустых казематаў на росквiт новых дзён, будзе разбурана. Вялiзныя дваццацiфунтовыя цаглiны перажуюць сталёвыя скiвiцы камнедрабiлак i створаць матэрыял для бетоннай масы. Замест распоўзлай турмы, ад сцен агароджы якой агiдлiва адсунулiся акуратныя i чыстыя пабудовы вакзала i спуджана разбеглiся вулiцы i завулкi, у поўнай хорашасцi i дасканалай выразнасцi сваiх кубiчных форм вырасце на вакзальным пляцы пабудова рабочага клуба. Пругкi iльсняны асфальт залье тое месца, дзе прыгнятала зямлю цяжарам тысяч тон цэглы, жалеза, цэменту пабудова турмы.

I ён, брыгадзiр Сцяпанавiч, на чале атрада будаўнiкоў прышоў камандаваць разгромам гэтага каменнага мяшка. Ён стаяў на пляцоўцы паста, як на капiтанскiм памосце. Перад iм рассцiлаўся атулены ў зелянiну сквераў i садоў горад, шматпаверхiя дамы, комiны фабрык i заводаў якога засланялi краявiд, аценены празрыстымi напластаваннямi дыму.

Гэта быў горад, у якiм некалькi дзесяткаў год пражыў Сцяпанавiч. Барацьба Сцяпанавiча аплацiла кожны камень у гэтым горадзе. Ёй аддаў Сцяпанавiч усё, што мае чалавек у жыццi. Зараз гэты горад быў уласнасцю тых, што iшлi на поклiч заводаў звонкiмi, ранiшнiмi вулiцамi. Значыць, уласнасцю Сцяпанавiча быў гэты горад i гэтыя iмкненныя днi з iх рытмам працы, падпарадкаванай адзiнаму плану, адзiнай камандзiрскай

волі партыі. Ніколі барацьба Сцяпанавіча не была па-за калектывам, і гэты магутны калектыў атрымаў перамогу. Значыць, атрымаў перамогу і Сцяпанавіч.

Такім чынам, мае права ён, Сцяпанавіч, стары пролетарый, стаяць на капітанскім памосце і гаспадарчым вокам пазіраць на жыццё і работу роднага горада, на каменнях якога была кроў і пот яго і яго братоў па класу.

А калі так, гэтым аплочана барацьба.

І яшчэ раз усміхнуўся гораду, раніцы і сонцу брыгадзір Сцяпанавіч.

* * *

Гучным басам равеў гудок дэпо. Абкураныя корпусы цэхаў вагонных майстэрняў чадзілі чорным дымам кароткіх сваіх дымароў. Перад вачыма будаўнікоў, як на далоні, была работа вялізнага і складанага механізма чыгуначнага вузла. Ад самага вакзала, што, выгінаючы круты хрыбет зашклёнага даха, паглынаў у сябе безліч шляхоў, рухаліся даўжэзныя склады вагонаў, праносіліся, вымахваючы струменні пары, клапатлівыя манеўравыя паравозы, перабягалі постаці людзей. Лязгалі буферы, пяялі дудкі сігналістаў, грымелі жалезам майстэрні дэпо, і над усім гэтым панаваў голас галоўнага гудка, што настойліва вёў нізкую басавую ноту. Прыходзіла на работу дзённая змена.

— Гэта вось дык работа, — стукнуў ломам у склёпку на карнізе муляр Апенка. — Паглядзець, дык для вока прыемна!

— А чым наша горш? — спытаў яго комсамолец Рубінчык. — Будаўнікі — ганаровая прафесія.

Апенка панура агледзеў шэрагі рабочых, якіх расстаўлялі па даху тэхнік і Сцяпанавіч, паглядзеў сабе пад ногі і зноў стукнуў ломам. З карніза пасыпаўся парашок іржаўкі.

— Ганаровая. Гэтай падле скуру лупіць, — матнуў рудым чубам Апенка.

Рубінчык усміхнуўся:

— Праўда, да мярцвечыны падобна.

— Паскудства, — са злосцю сказаў Апенка. — Труна, чорт.

Ён раптам моцным ударам прабіў ліст даха і пакінуў у ім лом старчмя.

— Непарадкі, Рубінчык. Наскрозь непарадкі.

— У чым ты бачыш непарадкі, таварыш Апенка?

— Усюды.

Апенка пасунуўся бліжэй да Рубінчыка.

Дарэмна разбураюць гэтую хатку. Ці мала ў нас прыяцеляў? Мала такіх, што не толькі пасадзіць, расстраляць трэба? Дык вось, у гэтую кватэру, калі ласка, і сядайце. Яна якраз прыстасавана. А то ў нас іспраўдом. Чырвоны куток ім, сукіным сынам, раз у дэкаду лазню! Я-б ім паказаў лазню, больш не засвярбела-б!

Апенка паказаў магутны кулак.

— Во! Бачыў фідуцыю?

Чорныя вочы Рубінчыка заіскрыліся смехам. Ён агледзеў вялізную постаць Апенкі з галавы да ног. Той канчаткова зазлаваў, і палымнеючы яго чуб бурна лез з-пад шапкі.

— Я-б ім, гадам! — крычаў Апенка, вымахваючы кулакамі. — Я-б ім паказаў раз у дэкаду лазню!

— Апенка, не зваліся! — крыкнуў нехта з рабочых.— Костак не падбярэш.

— Апенка праўду кажа, — заўважыў маленькі і спакойны рабочы, што заўсёды і ўсюды трымаўся ззаду.— Варта паслухаць.

І ён, па звычцы, зайшоў і прыстроіўся за шырокім хрыбтом Апенкі, што, патрасаючы кулакамі, напіраў на Рубінчыка.

— Ты толькі слухай, што Апенка табе набаіць, — падштурхнуў нехта з рабочых маленькага.

Рабочыя збіліся цесным гуртком навокал Рубінчыка і Апенкі. Тыя, што знаходзіліся далей, прыслалі даведацца ў чым справа.

Нарэшце, Рубінчыку ўдалося злавіць Апенку за рукаў блузы.

— Пачакай, Апенка, — сказаў Рубінчык спакойна.— Тут-жа зусім простая справа.

— Цішэй, таварышы!

— Совецкая ўлада, — сказаў Рубінчык, — за ўвесь час яшчэ ні разу не ўключыла ў планы будаўніцтва пабудову турмаў. Гэта нам не патрэбна. А гэтая-ж турма патрабуе такіх сродкаў для рамонту, што на іх можна пабудаваць цалкам новую пабудову. Такім чынам, што нам з ёй рабіць? Мы яе, разбураем і выкарыстаем яе будаўнічы матэрыял. Вось і ўсё.

— Усё? — кпліва спытаў Апенка.

— Ёсць і другі бок. Ворагаў рэволюцыі пролетарыят карае бязлітасна. Але мы не гноім сваіх ворагаў у каменных мяшках. Дармовая патрата сродкаў і ніякага выхаваўчага эфекту. Мы альбо знішчаем ворага фізічна, альбо пакідаем жыць, але ў такіх умовах, каб ён не гніў зажыва, а здолеў выправіць сваю віну перад пролетарскай рэволюцыяй. Безумоўна, гэта кажацца ў адносінах тых, хто не заслугоўвае на кару смерцю. А такія турмы, як гэта, для нашых мэтаў, таварыш Апенка, не падыходзяць. І нават каб яна была зусім цэлай, наўрад ці была-б яна выкарыстана як турма. Вось зараз усё.

— Правільна, — сказаў нехта з грамадкі рабочых.

— Твой гнеў справядлівы, таварыш Апенка, — закончыў Рубінчык. — Але ворагаў не трэба караць іх-жа метадамі.

— Зусім правільна.

— Можа яно і правільна, — пакруціў галавой Апенка. — Але, каб на маю руку, я-б з імі разабраўся!

І зноў вялізны кулак Апенкі пагразіў яго класаваму ворагу.

У гэты момант сціх гудок дэпо. Адзін за другім выходзілі са строю галасы фабрык.

— Хлопцы, рыхтуйся! — крычаў памочнік брыгадзіра, комсамолец Бекман. — Разбівайся на групы па шэсць чалавек.

Пад ботамі рабочых угіналася жалеза, грымеў і дрыжэў дах і здавалася, што нутраным, цяжкім стогнам енчыць старая пабудова.

Прабягаючы міма, тэхнік скінуў куртку і абцёр рукавом пот на ілбу.

— Пагрэеце ручкі, хлапцы, — сказаў ён. — Скрозь цэ-

мент, кладка ў пяць цаглін, і толькі дзве ўнутраных сцяны — гідраўлічная вапна. Ліха яе матары.

Ен пабег далей, і пад яго нагамі пражжавелыя, гнуткія лісты загаварылі надломаным, скрыпучым голасам.

— Закачвайце жалеза ў скруткі. Лістам не пушчайце, — даваў указанні Бекман.

— У Амерыку заляціць.

Не лезьце на карніз, — папярэджваў Сцяпанавіч. — Наскрозь іржавы.

Нарэшце, усё было гатова. Сцяпанавіч узняў руку і па-вайсковаму, выразна скамандаваў:

— Па-чы-най!

І разам усе ўзняліся, і ўдарылі ламы. Прарэзліва рыпнула жалеза. Яшчэ і яшчэ раз дружныя ўдары. Задрыжэў і загуў дах. Вецер праляцеў і змёў парашок іржаўкі.

Ламы разбівалі швы склёпкі лістоў, ірвалі і камячылі жалеза, прабівалі лісты, закручваючы іх у скруткі, і пасоўваліся бліжэй да карніза даха, пакідаючы за сабой голыя рэбры кроквaў.

Нарэшце перакаціўся цераз карніз першы вялізны скрутак, і з ляскатам, перакручваючыся ў паветры, раскідваючы шмацце склёпак, паляцеў уніз. Удар жалеза аб камень даплыў здалёк, нібы рэха дальніх грымотаў. За тым пераваліўся цераз карніз яшчэ адзін скрутак, потым яшчэ і яшчэ. Неадступна, напорам, закачвалі ламы заструпелую, іржавую скуру мёртвай пабудовы.

Сцяпанавіч прабраўся па аголеных кроквах да коміна, абапёрся на яго плячыма і задумаўся. Проста перад ім, недалёка ад агароджы турмы, пасцілаліся, паблескваючы сталлю, рэйкі. На двары паравозарамонтнай майстэрні, нізкай і абкуранай, абшырнай пабудовы, рэек было густа, і яны здаваліся спляценнем павуціння. Там, на двары, сярод гэтага сталёвага спляцення, на заваротнай пляцоўцы, перад самымі варотамі майстэрні, павольна заварачваўся вялізны паравоз. Навокал яго завіхаліся, падобныя да рухавых жучкоў, рабочыя. Бязжызны волат паслухмяна і спакойна заварачваўся, намерваючы сваім востраносым катлом у правал дзвярэй майстэрні.

Адсопваючыся, вынырнуў з-за шэрагаў таварнага

паражняка манеўравы паравоз, прагрукаў на стрэлках, зручна выпісаў поўкола і апынуўся пад самым тэндэрам гіганта.

У вароты павольна прайшоў доўгі кацёл, бліснула арматура ў будцы машыніста, і праз момант манеўравы адкаціўся назад з пляцоўкі. Дзверы майстэрні, шырачэзныя і чорныя, жарлочна раззяўляліся.

Манеўравы заклапочана свіснуў, загрукаў на стрэлках і памкнуў, перасякаючы сталёвую блытаніну, некуды ў глыб вузла наводзіць парадак у запоўненых паражняком тупіках.

— Запарылі чыгуначнікі добрую машыну, — сказаў малады голас за плячыма Сцяпанавіча. — Абязлічка ў іх, відаць, яшчэ не здохла.

Сцяпанавіч азірнуўся. Ззаду стаяў тэхнік.

— Дзе абязлічка? — спытаў Сцяпанавіч.

— Ды там, у дэпо. Паравоз угробілі. Хіба ты не бачыў? А яшчэ гаспадаром цябе ў ва ўсім горадзе лічаць. Ай-яй-яй... І ў газеце партрэт давалі. А ён знявечаны паравоз прагледзеў.

Тэхнік жартаваў, і малады твар яго расплываўся ў поўназубай усмешцы.

Сцяпанавіч паклаў яму на плячо руку.

— Я думаў аб чыгунцы, Сымон, — сказаў ён. — Аб чыгунцы і аб гэтай турме. І паравоз хаця заўважыў, але аб абязлічцы не падумаў. Безумоўна, дыхае яна яшчэ.

Сцяпанавіч памаўчаў і потым, нібы наважыўшыся ў думках, хутка сказаў: — Я табе калі-небудзь раскажу гісторыю аб чыгунцы і аб гэтай турме. Гэта для цябе будзе проста, як палітграмата.

Сцяпанавіч сціснуў бровы, і твар яго стаў пануры.

— Гэта цяжкая гісторыя, Сымон.

— А зараз нельга? — нясмела спытаў тэхнік.

— Зараз нельга, — адказаў Сцяпанавіч. — Вось ты лепш схадзі на той канец даха і паглядзі, каб сезонныя надта не крышылі жалеза. Шкода.

Тэхнік паслухмяна завярнуўся і пайшоў у паказаным Сцяпанавічам кірунку туды, дзе навесіўся над карнізам агромністы скрутак жалеза. Сцяпанавіч праводзіў по-

глядам высокую і стройную постаць тэхніка і ўздыхнуў. Ён быў моцны і спрытны.

... Гэткім быў некалі Пятро.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Рабочыя працавалі дружна. З кожнай хвілінай перавальваліся цераз карніз важкія рулоны жалеза. Угінаўся пад ударамі ламоў дах. Адвальваліся пласты штукатуркі сцен, і рудое воблака іржаўкі спавівала дах і цягнула па ветру над вакзальным пляцам.

На пляцы застанаўліваліся людзі, збіваліся ў гурткі і наглядалі за тым, як лятуць, перакручваючыся ў паветры, скруткі жалеза, нібы з хрыплым карканнем падаюць на зямлю падстрэленыя драпежныя птушкі.

* * *

На другі дзень дах быў зняты і кучай іржавага ламачча ляжаў на двары. У цесныя, глухія скрынкі казематаў, дзе панавала вільгаць і агідная цвіль, упершыню за даўгія гады глянула сонца. Толькі вокны ніжніх паверхаў, забраныя ў краты, прасвечвалі цьмяна, нібы налітыя вадой. У воблаках атрутнага пылу, вапны і цэменту працавалі брыгады рабочых. Цэглу спушчалі ўніз па жалабах, смецце папросту выкідвалі за сцяну. Для бетоннай масы патрэбна чыстая цэгла. Гэтак-жа скідвалі на спецыяльна адгароджаны ўчастак двара жалеза мантажу сцен і сталявання. Унізе рабочыя-сезоннікі складалі цэглу ў штабелі.

Званіла, грымела жалеза, шоркала па жалабах цэгла, час-ад-часу з грукатам адвальваліся на падлогу камлыгі сталявання. Па гнуткіх мастках прабягалі рабочыя, што падвозілі цэглу да жалабоў, і гналі перад сабой нагружаныя тачкі.

Усё гэта з першага дня работ было пастаўлена пад кіраўніцтвам Сцяпанавіча выразна і планава. Работа ішла бесперабойна і хутка. Яго брыгада была на чале. Людзі працавалі з запалам, і нават неахвотны Апенка

падцягнуўся і перавыканаў норму. Астатнія сто чалавек, што былі разбіты на чатыры брыгады, раўняліся ў рабоце на брыгаду Сцяпанавіча.

Да сканчэння работы палова сталявання была знята. Сцяпанавіч запісаў на дошцы ў калідоры лічбы выпрацоўкі брыгад і сказаў тэхніку:

— Дзённая выпрацоўка перавыканана на пяць процантаў.

— Раскідаем турму, як воронняе гняздо, — адказаў тэхнік. — Па-баявому працуюць хлапцы.

Ад гэтага ў Сцяпанавіча быў добры настрой. Дадому ён ішоў наўмысля больш доўгім шляхам, каб зірнуць на пабудову маста на рацэ. Стоячы на ўзбярэжжы, Сцяпанавіч доўга аглядаў рыштаванні маста, на якіх ва ўпартай рабоце завіхаліся людзі. Адобрыў работу паравога крана, які, выцягваючы шыю, насіў часткі фермаў будучага маста і з захаванай сілай, асцярожна, клаў на пасціл агромністыя жмуты метала, а потым, не спяшаючыся, з развагай, зноў нахіляў сваю доўгую шыю над крутабокай лайбай.

Слухаў музыку будоўлі. Раскатамі, у разнабой, пасцілаючы над ракой гонкае рэха, працавалі малаткі клёпшчыкаў. Звінелі пілы, грукаталі молаты і сякеры, цяжка бухалі капры на пабудове дамбы. Па берагах снавалі аўтамабілі, што падвозілі матэрыялы. На гэтай пабудове работа ішла поўныя суткі. Над першай аркай — фермай маста шырокай ветраззю напяўся пад ветрам чырвоны транспарант:

УДАРНАЯ ПАБУДОВА
ПАВІННА БЫЦЬ СКОНЧАНА
ДА 7-га ЛІСТАПАДА

— Добра, — сказаў Сцяпанавіч сам сабе. — Слаўна працуюць. Выглядае на чалавечую працу. Мы таксама павінны скончыць клуб да Окцябра. — Не спяшаючыся, пайшоў па ўзбярэжжы, намерваючыся выйсці наўкольнай дарогай на сваю вуліцу. Але раптам вырашыў:

— Насця, мусіць, толькі што прышла. Няхай спраўляецца. Зайду ў партком. — І завярнуў назад. Партком знаходзіўся на другім паверху клуба будаўнікоў. У ка-

лідоры яшчэ Сцяпанавіч учуў, што ў парткоме спрачаюцца. Два галасы перабівалі адзін аднаго. Чмялём гуў бас, і нешта выкрыкваў слабаваты тэнарок.

— Куніцкі і Бейлінсон, — усміхнуўся Сцяпанавіч, намацваючы ручку дзвярэй.

У пакоі ўскалыхнулася воблака дыму.

— Сцяпанавіч! — загрымеў бас. — Лёгкі на паміне.

Куніцкі ўстаў з-за стала і, паціскаючы руку Сцяпанавіча, другой, вольнай, пасунуў крэсла. Маленькі Бейлінсон, што сядзеў на падаконніку, ветліва кіўнуў Сцяпанавічу і пачаў корпацца ў партфелі.

— Аб чым сход? — спытаў Сцяпанавіч. — Чаго вас разносіць?

— Гутарым наконт вас, — адказаў Куніцкі. — Хацелі аж на дом па цябе пасылаць, але вось добра, ты сам зайшоў.

Куніцкі сядзеў, нахіліўшы над маленькім столікам вялізную камлыгу свайго тулава, і, здавалася, ціснуў на гэты касабокі столік невымоўна цяжкім грузам вялікага свайго цела. Ён прыплюшчваў стомленыя вочы, твар быў шэры і таксама стомлены. У зараслях чорных вусоў Куніцкага пахрыпвала загаслая люлька. Бейлінсон, які неадрыўна пісаў нешта ў блакноце, таксама меў стомлены выгляд. Вығалены твар прасвечваў жаўцізной, і на запалых скронях віліся срэбныя ніці.

У пакой напаўзалі цені змяркання, аднекуль з-за сцяны наплываў гул галасоў. У суседнім пакоі, відаць, адбывалася нейкае пасяджэнне. Было душна і накурана. Сцяпанавіч агледзеў сцены, прабег поглядам па дыяграме выканання работ на аб'ектах будаўніцтва.

— Патрэбны тэмпы, — сказаў Куніцкі. — Тэмпы давай, старычок ты мой!

— Якія тэмпы?

— Такія. Большэвіцкія.

— Хіба ў нас дрэнныя тэмпы?

— Я гэта таксама казаў, — азваўся Бейлінсон. — Лепшых тэмпаў цяжка і чакаць.

Куніцкі пастукаў чарашком люлькі аб пазногаць.

— Эх, вы! Задаволіліся!

Бейлінсон саскочыў з падаконніка і схапіў аберуч свой таўшчэразны брызентавы партфель.

— Я пайшоў, — кінуў ён, прабягаючы да дзвярэй. — Можна спазніцца. Дагаварвайцеся без мяне.

Куніцкі адкінуўся да сцяны.

— Мала, Сцяпанавіч. На два метры выбралі толькі трое. А справімся мы з задачай тады, калі індывідуальная выпрацоўка дасць у дзень два з паловай метры. Інакш, мы зблытаем планы.

— Дайце больш людзей.

— Нельга. Няма вольнай рабочай сілы. Калі пачнецца будаўніцтва, будуць і землякопы, і муляры, і каменшчыкі, і бетоншчыкі, а зараз разабраць пабудову — ваша задача. А для таго, каб разабраць яе ў тэрмін, патрэбна, каб кожны рабочы выпрацаваў у дзень два з паловай кубаметры разбору.

Сцяпанавіч устаў і пайшоў да акна. Ён убачыў раку і на ёй будаўніцтва. Там ясна гарэлі агні. Вячэрні змрок ахутваў гарадскія вуліцы. Сцяпанавіч глядзеў на раку, на агні, а ззаду, з поўцёмнага кута пакоя, прыглушана рыкаў голас Куніцкага.

— Калі горсовет вынес пастанову разабраць турму, я адразу вырашыў, што на чале работ павінна быць твая брыгада. Гэта самыя надзейныя хлопцы. Да таго яшчэ, як прыступіць да будаўніцтва клуба, перад намі шмат работы. Скрыначку патрэбна разабраць, выкапаць катлаваны, перапрацаваць цэглу на драбілках — работы шмат. Галоўнае тут — у тэрмін скончыць разбор. І гэта ваша задача.

Куніцкі змоўк.

— Два з паловай кубаметры! — прашаптаў Сцяпанавіч. — Кладка ў пяць цаглін і цэмент.

Ён ведаў, што гэта азначае. Для таго каб разабраць на працягу рабочага дня два з паловай кубаметры таўшчэразнай турэмнай сцяны, ачысціць кожную цагліну, патрэбна будзе працаваць так, каб не было адрыву ні на адну хвіліну, каб быў чоткім і ўпраўным кожны рух. Брыгада на гэта можа не згадзіцца.

Перад вачыма Сцяпанавіча паўстаў твар бузацёра Апенкі. За ім вынікла яшчэ некалькі, якія заўсёды спра-

чаліся з адміністрацыяй наконт расцэнак, зрывалі нават здзельшчыну...

Але зараз-жа суровым поглядам глянуў комсамолец Бекман, насмешліва ўсміхнуліся гарэзлівыя вочы Рубінчыка, з'явіўся кучаравы Змітрок і сур'ёзны Андрэй, і Сцяпанавіч аднаго за другім пералічыў ударнікаў сваёй брыгады. Гэта былі адданыя, моцныя рабочыя.

Сцяпанавіч думаў. Ён сам, з самага пачатку работ, вопытным вокам спрактыкаванага будаўніка бачыў, што разбор пабудовы, калі не будзе дададзена рабочай сілы, зацягнецца. Сцяпанавіч спадзяваўся іменна на тое, што прыдуць новыя сілы. І яны былі неабходнымі, хаця брыгады муляроў і сезонныя рабочыя працавалі напорна і ўпарта. Зараз стала зразумелым, што гэтых новых сіл няма. Патрэбна ўзняць тэмпы да такой ступені, аб якой нават сам Сцяпанавіч думаў як аб невыканальным.

— Ці вытрымаюць? — пытаў сам сябе Сцяпанавіч. — І як іх падняць на гэтую справу?

Куніцкі маўчаў. У пакоі было ціха. Зрэдку з-за сцяны наплываў гоман. За акном успыхнулі агні вуліц, і ў пакой пацякло малочнабелае поўсвятло. Сцяпанавіч напружана ўтаропіўся ў акно.

— Сам вазьмуся за работу, — думаў Сцяпанавіч. — І дакажу, што ўсё-такі два з паловай выпрацаваць можна.

Куніцкі ў куту асцярожна, нібы не жадаючы трывожыць Сцяпанавіча, кашлянуў. І Сцяпанавіч хутка адвярнуўся ад акна і падышоў да стала.

— Вось што, Рыгор, — сказаў ён. — Ты ведаеш, што азначае два з паловай. Але мы гэта зробім. Хлапцы прымуць. Я сам стану на чале ўдарнікаў і пакажу, як умеюць працаваць старыя будаўнікі. Іншага няма ў нас выхаду.

— Руку! — загрымеў у адказ Куніцкі. — Мазольную руку тваю, старычок!

І рука Сцяпанавіча патанула ў магутнай далоні Куніцкага.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сцяпанавіч задуманы ішоў вячэрнімі вуліцамі. Яго абганялі гурткі звонкагалосай моладзі, заклапочаныя людзі з партфелямі, рабочыя начных змен. Заліваючы

брук святлом фар, пралятталі аўто. Грукалі на стрэлках ясна асветленыя, падобныя знадворку да ліхтароў, трамваі. Вітрыны магазінаў, рэкламы кіно струменілі белае святло электрычнасці.

Сцяпанавіч ішоў і думаў аб тым, што і ў бязладдзі, на першы погляд, вулічнага руху ёсць суровая планавасць жыцця. Сцяпанавіч думаў аб тым, як чотка і планава працуе вялізны механізм жыцця і будаўніцтва, што падпарадкаваны адзінай камандзірскай волі партыі. Сцяпанавіч думаў аб тым, што і ён сам ёсць маленькая, але надзейная частка гэтага механізма. Яго шэсцьдзесят гадоў абточваў разцамі дзён барацьбы і працы варштат жыцця, і шчыльна, раз назаўсёды прыгнаў на прызначанае месца ў магутным калектыве.

Павольна, задуманы ішоў Сцяпанавіч вячэрнімі вуліцамі, і вецер, лагодны і моцны, павяваў у твар і шалясцеў абшмальцованым брызентам рабочай блузы Сцяпанавіча.

* * *

Першым на ўсходах ішоў Бекман. За ім Андрэй і Змітрок. Апошнім — Сцяпанавіч. Унізе грукалі па чыгунных прыступках і перагаварваліся астатнія комсамольцы і двое ўдарнікаў, што прынялі выклік Сцяпанавіча. Астатнія з брыгады Сцяпанавіча засталіся на двары. Яны і рабочыя іншых брыгад не прынялі выкліку і перад тым, як прыступіць да работы, спрачаліся і зацягвалі пачатак работ.

На апошняй пляцоўцы, дзе праз правал разабранага сталявання ў поўзмроку казематаў прарвалася святло дня, Бекман спыніўся і прытрымаў Сцяпанавіча.

— Я ўпэўнены, што мы выканаем два з паловай, — сказаў ён. — Патрэбна толькі поўная мабілізацыя ўсіх сваіх унутраных сродкаў. Ніводнага лішняга руху.

— Ты, Бекман, кажаш шмат лішніх слоў, — сурова адказаў Сцяпанавіч, — мабілізацыя ўнутраных... Гэта ненадзейныя словы. Інтэлігенцкія. Папросту, па-рабочаму, цісні колькі ўлезе.

— Націснем, — азваўся Андрэй. — Шкада толькі, мала нас. Здрэйфілі, нягоднікі.

— І Міхась. А яшчэ комсамолец.

— Нічога, разгуляюцца.

Сцяпанавіч і комсамольцы з самага пачатку адчулі, што на іх устанавілася несупынная ўвага ўсяго калектыва. Аб гэтым сведчылі кароткія погляды ў іх бок, частыя перашэптванні. Рабочыя знарок праходзілі міма іх, а тыя, што падвозілі цэглу да жалабоў, кожную хвіліну паведамлялі аб тэмпах работы групы Сцяпанавіча рабочым астатніх брыгад, якія працавалі ў правым крыле пабудовы.

Група Сцяпанавіча была на віду ўсяго калектыва. Аб кожным дзесятку цаглін, які перавышаў звычайныя тэмпы, ведалі ўсе, пачынаючы ад муляроў, што разбіралі сцены, да сезоннікаў, якія складалі штабелі на двары і падрыхтоўвалі пляцоўку для камнедрабілак.

І таму самі па сабе ўзнімаліся тэмпы работы. Перад абедзенным перапынкам кудлаты Апенка змерыў метрам выбраную ім плошчу і здзіўлена пакруціў галавой.

— У чым справа? — спытаў яго сусед.

— Блізка метр з чвэрцю нагнаў, — сказаў Апенка, збянтэжана аглядаючыся па баках. — Цьфу, чорт яе...

— Дык што, табе крыўдна?

— А ты што, мо' пацешыць думаеш? — агрызнуўся Апенка.

Сусед змоўк, а Апенка пачаў разважаць аб тым, што дарэмна ён не прыняў выкліку групы Сцяпанавіча, і аб тым, што ў спаборніцтве чалавек працуе, як машына, і заражае сваім запалам іншых.

— Метр з чвэрцю да поўдня не нагнаў, бо галаганіў на бакі, — думаў Апенка. — Але калі ўзяўся-б як належыць, дык-бы нагнаў. А калі-б столькі сама з поўдня, дык-бы якраз да вечара і было два з паловай метры і нават з пагонам. Чаго-ж мяне дзёрла, дурня...

Апенка паглядзеў на работу суседа, а потым зазірнуў у другую каморку і пабач. Там рабочы не выбраў яшчэ і метра, так як і сусед Апенкі.

— Крыху адсталі.

Ён хвіліну пастаяў, а потым, асцярожна ступаючы, пай-

шоў калідорам да групы Сцяпанавіча. Першым ён убачыў брыгадзіра. Сцяпанавіч разбіраў прасценак акна. Механічнымі рухамі, без промаху, кірка выбівала цагліны з іх цэментавых гнёздаў. Сцяпанавіч падхопліваў цагліну левай рукой і, не азіраючыся, адкідваў ад сябе, на сярэдзіну каморкі. Кожны рух быў разлічаны. Зрываў і замяшання не было. Сцяпанавіч працаваў так, як працуе зладжаная, вывераная машына.

Комсамольцы працавалі без кашуль. Абкураныя пылам, які прыставў да потных цел, яны працавалі кіркамі з напорыстасцю і запалам. Глуха стукалі кіркі. Абсыпалася вапна штукатуркі і цэмент гнёздаў. Мерна грукала цэгла, падаючы на асфальт падлогі.

Апенка прыкінуў на вока выпрацоўку Сцяпанавіча і пачухаў патыліцу.

— Паўтара кубаметры!

Тое самае было і ў комсамольцаў. Нават у Андрэя з Бекманам нагадвала на метр і тры чвэрці. Апенка завярнуўся назад, але ў гэты час Сцяпанавіч, які, здавалася, не прыкмячаў навокал нічога, спытаў:

— Ты што-ж, таварыш Апенка, зусім ужо забаставаў?

Апенка ад нечаканасці паткнуўся на пракладку для тачак.

— Я забаставаў? — пераспытаў ён. — Гэта я забаставаў?

Сцяпанавіч не адказаў. Ён працягваў работу.

Апенка хацеў сказаць, што яго выпрацоўка не на многа адстала ад выпрацоўкі ўдарнай групы, але ўспомніў, што ён сёння першым выступіў супроць Сцяпанавіча, і ўстрымаўся. Ён завярнуўся на месцы і пайшоў, з сілай расціскаючы абцасамі хрусткія камкі цэменту і цэглы.

Рука звычна схапіла абшмальцованую рукаяць кіркі. Апенка скінуў у кут шапку і ўпорыста расставіў ногі.

— Ну, зараз я вам пакажу забастоўку, — сказаў ён.— І нашы не горш за вашых.

І з усяго размаху садануў кіркай.

Апенка ірваў з усіх сіл. Ён не бачыў, як за яго хрыбтом, у калідоры, спыніліся двое рабочых, паглядзелі на яго выемку, пераглянуліся і зніклі. Таксама ён не надаў увагі і таму, што часцей загрукала кірка суседа. Апен-

ка адвальваў цэлыя камлыгі сцяны, крышыў пліткі цэменту, разрозніваў цагліны так, як і Сцяпанавіч, механічна адкідваў іх левай рукой назад. Апенка даўно ўжо скінуў кашулю, і па яго шырокім хрыбце, паміж буграмі мускулаў, сцякалі клейкія струменні поту.

А брыгады ў гэты час неафіцыяльна ўступілі ў соцспаборніцтва з групай Сцяпанавіча. Гарачка тэмпаў перакінулася ў правае крыло пабудовы, падвоіўся лік выбранай цэглы. Сезоннікі ўнізе спачатку блыталіся, не спраўляліся з суцэльнай паводкай цаглін, і ўсхапіліся толькі тады, калі з гары сышоў адзін з тачачнікаў і крыкнуў бліжэйшым:

— Хлапцы, не развешвайце вушы! Там, нагары, так садзяць, што дух вон. Не адставайце, бо сорамна будзе.

І двор закіпеў клапатлівым муравейнікам.

Калі забразгала чыгунная дошка, абвяшчаючы абедзенны перапынак, толькі рэдкія адзінкі рабочых з'явіліся на дварэ. Большасць засталася на сценах. І калі зноў азваўся чыгун, новая плынь цаглін з шолахам рушыла па жалабах, зрушылася з месца машына соцыялістычнага спаборніцтва і пайшла, з кожнай хвілінай набіраючы хуткасць.

За поўгадзіны да сканчэння работы тэхнік прайшоў па ўсіх кутках і адзначыў у блакноце, што выпрацоўка вырасла ледзь не ў два разы.

* * *

Сцяпанавіч заканчваў прасценак. Да адведзенай вугалем лініі заставаўся пласт у дзве цагліны. Лінія азначала тры кубаметры. Норма, на якую выклікаў Сцяпанавіч будаўнікоў, была ўжо выканана. Але патрэбна было закончыць тую рэкордную норму, якую вызначыў сабе Сцяпанавіч.

Праходзілі апошнія хвіліны работы. Сцяпанавіч кідаў погляды на комсамольцаў. Андрэй, Бекман і Змітрок заканчвалі ўжо трэці кубаметр. Іх рухі былі ўпэўненымі і спакойнымі. Іншыя спяшаліся, але Сцяпанавіч бачыў, што і яны да канца работы закончаць гэтую звышударную норму.

Сцяпанавіч выламаў першую цагліну апошняга пласту. Заставалася зняць некалькі дзесяткаў цаглін для таго, каб выняць апошнюю, з якой аддаўна, відаць, адпала штукатурка, і яна бурай плямаю засталася на тле шэрай сцяны, на ўзроўні з умураваным у сцяну столікам.

Ззаду разлегліся галасы комсамольцаў.

— Скончылі хлапцы, — падумаў Сцяпанавіч. — Зараз ужо ўдараць у дошку.

Ззаду па жарстве зарыпелі крокі.

— Заканчвай работу, Сцяпанавіч. Роўна палова на пятую.

Зазвінела кінутая кірка.

Сцяпанавіч стомлена прысланіўся да сцяны і падаў тэхніку акуратна ачышчаную цагліну, тую, што хвіліну таму назад бурай плямаю маячыла ў куту прасценка.

— Апошняя.

— Гэта трэба звар'яцець, — сказаў тэхнік. — Тры метры. Ты герой, Сцяпанавіч!

У дзвярах камеры стаўпіліся комсамольцы.

— Селі мае акумулятары, хлопцы, — сказаў ім Сцяпанавіч з крыўдай у голасе. — Селі! Стаміўся крыху.

Бекман падышоў і паклаў яму руку на плячо.

— Гэткія старыя, як ты, Сцяпанавіч, — сказаў ён, — больш варты за маладых, такіх, як наш Міхась.

— З мяне ў яго гады, — сказаў кучаравы Змітрок, — больш за кубаметр пяску высыпецца.

У грамадцы ўспыхнуў смех.

Тэхнік, падгушкваючы на руках апошнюю цагліну Сцяпанавіча, сказаў:

— Апенка выгнаў ледзь не тры кубаметры. Уся брыгада выпрацавала не ніжэй двух і тры чвэрці.

Унізе, на дварэ, паўторна забразгала дошка. Шмат хто з рабочых не пакінуў яшчэ работы, выганяючы рэкордную норму. У калідоры стала цесна. Скончыўшыя работу прышлі паглядзець на выпрацоўку ўдарнай групы. Рабочыя аглядалі выемкі і перагаварваліся.

— Гэта, брат, вылупілі.

— Аж не верыцца.

— А галоўнае, Сцяпанавіч.

— Заядлы, сваё даказаў.

— Ён, брат, табе не раўня. Стары муляр, з добрага матэрыялу злеплены.

— Факт.

Рабочыя адзін за адным уціскаліся ў заваленую цэглай каморку. Сцяпанавіч слухаў іх гутаркі і разумеў, што тут няма і цені ліслівасці. У грудзях расло хвіліну таму назад страчанае пачуццё ўпэўненасці і сілы.

Апенка, які стаяў на самым парозе, першым крыкнуў:

— Качаць Сцяпанавіча.

З калідора дружна падтрымалі:

— Правільна!

— Качаць брыгадзіра!

Сцяпанавіч адмахнуўся і, мінаючы дзесяткі рук, што выцягнуліся да яго, уціснуўся ў кут.

— Пакіньце, хлапцы. Косці парасцярушыце.

Комсамольцы наступалі, але ў гэты час ім загарадзіў дарогу тэхнік. Ён паказаў усім цагліну, якую дагэтуль трымаў у руках.

— Глядзіце. На цагліне прозвішча Сцяпанавіча, — са здзіўленнем у голасе сказаў ён.

— Што? — выдыхнуў Сцяпанавіч. — Што ты кажаш?

— Вось.

Тэхнік падаў Сцяпанавічу важкую цагліну. Сцяпанавіч не ўбачыў на ёй нічога, акрамя невыразных рысак на яе шурпатай паверхні, і перадаў цагліну Бекману.

— Чытай, — сказаў ён коратка.

Голас яго дрыгнуў, і Сцяпанавіч прагна схапіў у сябе паветра.

Адразу стала ціха. Людзі зразумелі, што адбылося нешта нязвыклае.

— Тут напісана, — сказаў Бекман. — Тут напісана: «Наперад, таварышы! Пятро Бычкоў!»

Бекман зазірнуў ва ўсхваляваны твар Сцяпанавіча:

— І яшчэ лічбы.

— Лічбы? — рэхам азваўся Сцяпанавіч.

— Шостага, адзінаццатага, дзевяцьсот сёмага. Ледзь можна разабраць.

Сцяпанавіч правёў рукавом па ілбу, нібы абцёр пот.

— Пятро... — прашаптаў ён. — Пятро... сынок. Пятро Бычкоў.

Яшчэ больш глыбокая, шчыльная ціш прыціснула людзей. Бекман беспарадна трымаў у руках цагліну. Рабочыя моўчкі паглядалі на брыгадзіра, а Сцяпанавіч прымжыў вочы і стаяў нерухома, апіраючыся плячыма аб сцяну.

І першым парушыў маўчанне сам-жа Сцяпанавіч. Ён падышоў да Бекмана і асцярожна ўзяў з яго рук цагліну. Гэтак-жа асцярожна ён абвінуў яе крысом сваё брызентавае курткі і накіраваўся да дзвярэй. Людзі моўчкі расступіліся.

Сцяпанавіч хісткім, няпэўным крокам прайшоў па калідоры і знік на завароце.

* * *

Паміў суставы тупы боль, у грудзях квола ўздрыгвала сэрца, штуршкамі прыліваў да галавы млявы цяжар, і час-ад-часу дрыжыкі прабягалі па целе. Сцяпанавіч павярнуўся на ложку і абапёрся на локаць.

— Захварэў, — падумаў ён з тугой.

Ён ляжаў, прымжыўшы вочы, і прыслухоўваўся да мяккай, спакойнай цішы. Зараз ва ўсім горадзе, акрамя фабрык на ўскраіне, таксама панавала ціш адпачынку. У пакоі Сцяпанавіча было цёпла і ўтульна і гэта зусім не дапасоўвала да яго думак і адчуванняў. На рагу стала, паміж вазонаў кветак, якія старанна вырошчвае дачка, чарнеў у святле газнічкі чатырохкутнік цагліны і гнаў з пакоя мяккую ціш адпачынку. Ад цагліны пазіхала вільгаццю і холадам казэмата, гэта быў згустак перадсмяротнай тугі чалавека.

Сцяпанавічу здавалася абразай тое, што ў пакоі ціш і цяпло і ўзгадаваная жаночай рукой утульнасць.

Думкі Сцяпанавіча імкнулі назад, у прошласць. Бунтавала сэрца, і толькі сілаю волі глушыў Сцяпанавіч боль. Прыходзілі кароткія хвіліны сну, на момант ахутваючы разгарачаны мозг вэлюмам спакою, а потым зноў заставаўся Сцяпанавіч адзін на адзін са сваімі думкамі і болем сэрца.

Чорны чатырохкутнік цагліны злавесна вырысоўваўся ў святле газнічкі.

Так праходзілі доўгія гадзіны ночы.

Раніцой, калі рознагалоса крычалі гудкі, прышоў доктар. Ён быў малады, кучаравы, з дзівоснымі акулярамі на кірпатым носе. Ён умомант распрануўся, у вокамгненне накінуў на сябе снежна-белы халат, і ў пакоі Сцяпанавіча расплыўся церпкі пах лекаў.

Доктар падышоў да ложка і звінціў стэтаскоп.

— Не варта хварэць, Даніла Сцяпанавіч, — сурова сказаў ён.

Гэты доктар быў сынам старога сябра Сцяпанавіча, і ён памятае доктара яшчэ з тых часоў, калі той мурзатым хлапчуком бегаў у адной кашулі па завулках ускраіны.

— Паслухай сэрца, — сказаў Сцяпанавіч. — Няма ніякага цярпення.

Доктар доўга ціскаў трубкай стэтаскопа грудзі Сцяпанавіча. Нарэшце, выпрастаўся, зняў акуляры і працёр іх берагам свайго халата.

— Я вам скажу, Сцяпанавіч. Адпачыць трэба. Палячыцца. Я пакіну вам рэцэпт. Прымайце лекі. Папраўцеся. Але памятайце. Ніякай работы!

Апранаючы паліто, доктар нязычліва паглядзеў на цагліну на стале і дакончыў:

— А то ў вас не толькі рэкорды на рыштаваннях, але і на стале цэгла, і пад сталом, і, мабыць, яшчэ пад падушкай. Жарты! Тры метры!

— Глупства тры метры! — сказаў Сцяпанавіч. — Не ад іх я лёг! Цагліна гэтая па сэрцу мне ўдарыла!

Доктар асцярожна прычыніў за сабой дзверы.

— Нічога асаблівага, — учуў Сцяпанавіч. — Крыху падгуляў стары з сэрцам. Няма чаго непакоіцца. Паправіцца. Але фізічна працаваць яму цяпер нельга.

Сцяпанавіч зразумеў, што дачка ўвесь час стаяла пад дзвярыма, і ўзрушаны паклікаў:

— Насця!

Яна ўвайшла і наблізілася да ложка.

— У цябе сёння выхадны?

— Выхадны.

— Дык вось што, Насця, — сказаў Сцяпанавіч, — схадзі, калі ласка, на пабудову і даведайся ад тэхніка, як ідуць справы, скажы, што я паслаў, хай напіша запісачку.

Насця пайшла, а Сцяпанавіч зноў занурыўся ў неспакойныя думкі. Ён уяўляў сабе, як сёння раніцой, даведаўшыся аб яго хваробе, Апенка, па сваёй натуры гультаяваты і аматар усялякіх канфліктаў з адміністрацыяй, наўмысля для таго, каб дарэзаць тэхніку, скажа:

— Што мы коні, альбо не? Ці гэта чалавечая работа? Вунь Сцяпанавіч, стары рабочы, і то захварэў.

Яго падтрымаюць іншыя, менш свядомыя, пачне спадаць спаборніцтва. Комсамольцы, зразумела, не здадуць, але адны не здолеюць направіць справу. Разбор зацягнецца і збытае планы будаўніцтва.

— Не, не можа гэтага быць... — шаптаў Сцяпанавіч, з нецярпеннем чакаючы крокаў Насці. — Не можа быць і не будзе гэтага.

Але моцнай упэўненасці не было.

Насця прышла хутка. Сцяпанавіч нецярпліва схапіў лісток са знаёмага блакнота.

«Соцспаборніцтвам ахоплены ўсе брыгады. На чале — комсамольская група. Апенка вызначыў сустрэчную норму. Выпрацоўка ўчорашняга будзе перавыканана». Так пісаў тэхнік.

Сцяпанавіч паклаў лісток пад падушку і заспакоена прымжыў вочы.

Надвечар прышоў Куніцкі. Ён агледзеў Сцяпанавіча і паківаў галавой.

— Надарвалася старая кабылка? — спытаў ён, прысаджваючыся на бераг ложка.

Сцяпанавіч не здолеў адказаць, як расчыніліся дзверы і з'явіліся яны. У пакой адзін за адным асцярожна ўвайшлі Рубінчык, Андрэй, Бекман, Змітрок, тэхнік, а за ім, дасягаючы галавой столявання і крыху збянтэжаны сваім нязвыклым ростам, Апенка.

Будаўнікі прывіталіся з Куніцкім і паціху прымасціліся ў пакоі, хто дзе мог. Першым загаварыў Бекман.

— Зараджаем акумулятары, Сцяпанавіч? — спытаў ён.

— Пamaleньку, — адказаў за Сцяпанавіча Куніцкі. — А што ў вас чуваць?

— А мы разгортваем тэмпы.

— Усе брыгады далі два з паловай, — зазначыў тэхнік. — Комсамольская група — тры.

— Гэта добрая выпрацоўка, — заўважыў Куніцкі. — Гэта па-ўдарнаму.

— А колькі вызначыў Апенка? — спытаў Сцяпанавіч.

— Тры з паловай.

— Выпрацаваў?

— А чаму-ж не... — прысаджваючыся на крэсла, адказаў Апенка. — Безумоўна. Толькі вось яны адселі ад маёй нормы. Цыкорыя ім паперла.

— Трэба будзе мне з табой падужацца, Апенка, — зазначыў Куніцкі. — Цікава, хто каго абярнуў-бы.

— Пойдзем на тры з паловай? — спытаў Апенка.

— Я цябе на чатыры выклікаю, — адказаў Куніцкі.

— У Куніцкага, — заўважыў Змітрок, — у яго паўтары конскія сілы. Не лезь, Апенка.

Усе засмяяліся.

У гэты час Бекман падышоў да стала і нахіліўся над цаглінай. Ён уважліва агледзеў яе шурпатую паверхню і няроўныя радкі літараў і лічбаў. У рысках іх залягла зялёная цвіль. У пакоі зараз-жа стала ціха. Усе сачылі за Бекманам. Той агледзеў цагліну з другога боку і асцярожна паклаў на месца.

— Сцяпанавіч, што гэта за цагліна?

Гэта было пытаннем усіх пяцярых, і нават Куніцкі здзіўлена, іспытваючы глянуў на Сцяпанавіча.

Сцяпанавіч стомлена прымжыў вочы.

— Га? Сцяпанавіч, — параспытаў Бекман.

— Гэта не цагліна, таварышы, — адказаў Сцяпанавіч. — Гэта, браткі, камлыга крыві.

* * *

... Пад самай столлю, у невялічкім паглыбленні сцяны, аплеценая калючым дротам, слаба свяціла электрычная лямпка. Святло яе гублялася ў іржавым спляценні дрота, і каземат быў наліты жаўтаватай каламутай, у якой праступалі толькі плямы вільгаці на сценах і спадах скляпення. І яшчэ, якраз насупроць лямпкі, выразаўся чатырохкутнік акна, забранага ў падвойныя краты, з крутым адхонам падаконніка.

Тупая ціш была ў казэмаце.

Пяць смяротнікаў маўклівым гуртком сядзелі на нарах. Праходзілі апошнія хвіліны цішы, якая мела быць канцом іх жыцця. Людзі ў маўчанні чакалі, калі гулка застогне чыгун усходаў і з грукатам прыкладаў канвою да дзвярэй падыйдзе няўхільная і бязлітасная смерць.

Цяклі хвіліны, набліжаўся канец.

Семнаццацігадовы Пятро Бычкоў быў самым малодшым з асуджаных. Ён усёй сваёй істотай пратэставаў супроць пагібелі ў глыбокай і душнай цішы са звязанымі назад рукамі. Але ён не ведаў, што сказаць таварышам, што зрабіць, каб зруйнаваць ціш, якая паралізавала цела, і сустрэць смерць з смелым і гордым тварам. Чаканне спазмай сціскала горла і душыла думкі.

І Пятро саскочыў з нараў і пайшоў да дзвярэй.

Ён ішоў так, нібы гэтыя акаваныя жалезам, звінчаныя і скляпаныя безліччу вінтоў і склёпак, спаяныя і прашытыя цяжкія дзверы павінны былі расчыніцца. Але выцягнутыя рукі сустрэлі зімны метал. Пятро абмацаў швы склёпак і спыніўся. Рукі нервова пачалі абмацваць дзверы. Пятро скрабаў пазногцямі галоўкі балтоў, пальцы коўзаліся па гладка абточаным метале. Дзверы былі недаступнымі. Яны адгарадзілі ад Пятра і іншых чатырох волю, жыццё і заўтрашні дзень.

Пятро размахнуўся і ўдарыў кулаком. Дзверы азваліся глухім, ледзь чутным звонам.

— Пустыя ўнутры, сволачы, — падумаў Пятро з тугліваю нянавісцю і яшчэ раз з усяе сілы ўдарыў у дзверы. І зноў заглушаны звон.

Пятро схапіў абодвума рукамі каўнер халата і моцна тузгануў. Па падлозе пакаціўся гузік.

— Даволі маўчаць! — крыкнуў Пятро. — Даволі!

Голас задушыла ціш. На нарах ніхто не крануўся. Пятро, аглушаны ўласным выкрыкам, хвіліну стаяў бездапаможны, а потым нахіліўся і адшукаў на падлозе гузік. Гэта быў гузік з салдацкага шыняля. Пальцы абмацалі абрысы крылляў арла.

Пятро агляну́ў камеру і астанавіўся поглядам на адным з найбольш асветленых кутоў, пад акном. Ён знайшоў сродак знішчыць заклятую ціш.

Аднастайнае, рэзкае шорканне данеслася з кута. Цэг-

ла ўступала націску металу. Бераг гузіка пакідаў пад сабою сляды.

Работа Пятра ценькім струменем руху безупынна разварушвала застаялы амут цішы казената, і паступова прыходзілі ў сябе адрантвелыя ў чаканні смерці людзі.

— Што ты там робіш, Пятро? — спытаў адзін з іх.

— Помнік будую, — адказаў Пятро.

Бераг гузіка зрабіўся вострым. Пятро абмацаў рыскі і ўпэўніўся, што першая літара глыбока ўгрызлася ў цагліну. Пройдуць дзесяткі гадоў, перш чымся вытравяцца бегам часу гэтыя шрамы на целе турэмнай сцяны. Да тае пары косці пяцярых сатлеюць у зямлі, а цагліна казената ўсё яшчэ будзе крычаць бура-крывавымі літарамі, крычаць так, як крыкнуў некалі з-пад шыбеніцы семнаццацігадовы дружыннік Пятро Бычкоў:

«Наперад, таварышы!»

Цагліна, што ўпітала ў сябе смяротную тугу чалавека, будзе крывавай плямаю выглядаць са сцяны да тае пары, покуль будзе стаяць туман.

Рыпела цагліна, пахрупвала злёгку, нібы-та грызлася ў падполлі мыш.

З нараў зноў спыталі:

— Які помнік, Пятро?

— Помнік тым, што спіхнулі з рэек карны эшалон, — адказаў Пятро.

— Гэта значыць нам?

Пятро не адказаў. Яго раптам апаліла думка, што ён можа не паспець. З падвоенай сілай, да крыві праціраючы скуру, ён узяўся за работу. З нараў устаў чалавек, прайшоў у кут, дзе працаваў Пятро, і бяззычнай ценню прытаіўся за яго плячыма. Следам за ім прышоў другі. Потым узняліся яшчэ двое.

Людзі маўчалі, але жудаснай цішы адрантвелага чакання ўжо не было.

Скрогат цагліны пад металам безупынна падточваў камлыгу цішы, якая прыціснула людзей тут, у засені шыбеніцы, і кожны зык чалавечага голасу ператварала ў напамінак аб пагібелі, ператварала ў грознае рэха крокаў смерці. Ціш паказвала ўсю ненадзейнасць чалавеча-

га голасу, гаварыла аб тым, што ён будзе расціснуты пятлёй, якая змыкнецца і парве галасавыя звязкі.

Аднастайны скрогат і хруст цагліны гаварыў змучаным людзям аб механіцы барацьбы, аб неўміручай волі, сіле і барацьбе братоў па класу. І пяць асуджаных з захапленнем прыслухоўваліся да хрусткага шолаху, як да велічнай сімфоніі змагання, якая пазбавіла іх страху перад шыбеніцай. Бо калі загіне слабы чалавечы голас, не загіне сіла і рух, не загіне барацьба і жыццё калектыва.

Пятро спыніў работу. Абцёр пот рукавом і сказаў:

— Падрыхтуйце яшчэ адзін гузік. Гэты сціраецца.

Адзін з асуджаных спытаў:

— Ты і нашы прозвішчы выпішаш, Пятро?

— Безумоўна... Калі ўпраўлюся...

— У мяне гузікаў няма, — адказаў бліжэйшы да Пятра. — Завязкі.

— У мяне гэтак сама.

— І ў мяне, — сказаў чацверты. — Што рабіць?

— У мяне ёсць. Дапамажыце вырваць.

І чацвёра асуджаных накінуліся на пятага. Камячылі халат, у ліхаманкавай паспяховасці вырывалі гузікі з мясам.

І раптам адзін спуджана выдыхнуў:

— Драўляныя!

Пятро, сціснуўшы зубы, упоўголаса вылаяўся. Прабег пальцамі па пазасталых гузіках і ўпэўніўся, што яны таксама драўляныя. Тая адрабінка металу, што ён трымаў у руках, была адзінай, якую маглі выкарыстаць асуджаныя з усяго награмаджэння металу навокал.

Некалькі хвілін у каземаце стаяла ціш. Яна зноў пачынала наступ на чалавечыя нервы.

Пятро сказаў:

— Я напісаў толькі сваё прозвішча. Гузіка хопіць толькі для таго, каб напісаць дату.

— Дык пішы, Пятро, — падштурхнуў яго адзін. — Мы ўжо хай застанемся.

І зноў разлегся хрусткі шолах. І так праходзіў час.

А потым...

Унізе выразна рыпнулі дзверы. Панёсся заглушаны гоман.

— Ідуць!!!

— Нічога, я скончыў, — сказаў Пятро ўстаючы. — Гатова.

Усходы гулі пад дзесяткамі ног. Звінелі чыгунныя прыступкі. Па калідоры нехта прабег нячутнымі амаль крокамі.

Гэта надыходзіла смерць.

А ў каземаце гатовыя яе сустрэць стаялі ў куту шчыльным гуртком, з смела ўзнятымі галовамі, пяць асуджаных членаў баявой дружыны РСДРП.

* * *

У ноч, калі павінны былі павесіць пяцярых, страшэнна лютавала непагода. Вецер выў, сказытаў, з несутрымнасцю вар'ята налятаў на горад. Імчалі нізка над зямлёй грузныя хмары. Ледзяны дождж прашываў ноч.

Маўчаў горад. Былі выключаны рубільнікі электрастанцый, загаслі вулічныя ліхтары, вітрыны магазінаў, агні рэстаранаў і тэатраў. Горад застыў у жудкай цемры. Маўчалі яго заводы і фабрыкі. Маўчалі меднагалосыя паравозы. Спыніўся рух у артэрыях чыгуначнага вузла.

Ліхтары стрэлак, семафораў, сеці асвятлення былі загашаны. Ноч шчыльна прылягла на рэйкі, і ў яе абнімках зніклі бясконцыя склады вагонаў і астыглых, загашаных паравозаў. Забастоўка замкнула стрэлкі, загасіла топкі, выключыла маторы.

Маўчаў горад. Толькі вецер выў, ды грымеў дождж. Адзіным святлом былі нясмелыя агеньчыкі ў рэдкіх вокнах ускраіны, адзіным рухам — цоканне капыт конных патрулёў паліцыі і казакаў.

Апоўначы, пад сцяной паравозарамонтнай майстэрні цесным гуртком збіліся людзі. Тут былі навалены горы металалому і было зацішна.

Дваццаць чалавек стаялі ціха. Яны нечага чакалі і насцярожана ўглядаліся ў ноч, туды, дзе на астыглых шляхах гуляў вецер. Цягнуліся хвіліны і складаліся ў дзесяткі іх. Выраставлі гадзіны і адыходзілі прэч. Людзі

стаялі цесным гуртком і ні адзіным словам не абазваўся ніводны з іх.

Проста супроць іх, у адлегласці сотні сажняў, паўставалі чорныя сцены турэмнай агароджы, а з-за іх узнімалася белая, асветленая дугавымі ліхтарамі, пабудова турмы. Яна мела ўласнае асвятленне. Забастоўка не здолела загасіць агні яе ліхтароў, і пануры абрыс яе чотка выразаўся на чорным тле ночы. Гэта было адзіным, што бачылі людзі.

Горад схаваўся ў ноч. Цемра акрыла ўсё навокал, і толькі распоўзлы корпус турмы выглядаў асветленай глухой скрынкай, нібы знарок намаляваны для насцярожаных вачэй маленькага гуртка, што прытаіўся ў горах металалому.

І людзі ўпарта глядзелі на турму і насцярожана абмацвалі вачыма цемру навокал.

Шлі хвіліны. Вырасталі гадзіны і адыходзілі прэч. Буяніў вецер. Шумеў дождж.

— Ідуць, — прашаптаў нехта. — Слухайце!

Людзі прыслухаліся. Нічога не было чутна. Толькі стагнаў вецер. Толькі шумеў дождж.

— Падрыхтаваць зброю, — коратка загадаў першы.

І зараз-жа ўголас спытаў:

— Хто ідзе?

Недзе бразгануў ліст жалеза, і прыглушаны голас адказаў:

— Рэвалюцыя.

— Бура, — адказаў першы.

На хрыбце гары ламачча з'явіліся дзве постаці і бязгучна пасунуліся да ашчэранага аружжам гуртка.

— Свае.

— Ну?

Адзін з тых, што прышлі, адказаў коратка:

— Павесіць. Зацверджана.

— Так.

І людзі хвіліну маўчалі. Потым адзін з тых, што прышлі, загаварыў хутка ўпоўголаса:

— Зараз атрымана тэлеграма. Прысуд прывесці ў выкананне. Іх павесяць сёння перад світаннем. На лётасць

катаў не было чаго і спадзявацца. Мы павінны самі выратаваць сваіх таварышоў — членаў нашай дружыны.

Ён памаўчаў, нешта абмяркоўваючы.

— Драбінкі ёсць? — спытаў ён.

— Ёсць.

— Аружжа гатова?

— Так.

Ён прытуліўся да сцяны.

— Слухайце.

Людзі яшчэ больш шчыльна збіліся пад сцяной, і кожнае слова начальніка дружыны сустрэла глыбокая ўвага.

— Вось план. Турма стаіць адным бокам да пляца, другім да нас. На рагах яе сцен чатыры вежы. Дзве да пляца, дзве да нас. На даху цэнтральны пост. Вартавога добра відаць, калі падыйсці бліжэй да сцен. Патрэбна рабіць так. Утрох ідуць да галоўных варот, што выходзяць у завулак, і знімаюць вартавога тым спосабам, які будзе ім растлумачаны. Разам з гэтым яны пераразаюць правады на шчыце над варотамі, удвух застаюцца на месцы, а адзін паведамляе мне. Роўна а чацвертай гадзіне асуджаных выводзяць на двор. Да гэтага часу павінна быць пакончана з вартавымі ў варотах і ізаляваны тэлефоны турмы. Гэтак сама павінны быць прыстаўлены да сцен драбінкі. Роўна а першай гадзіне і адной хвіліне я страляю па цэнтральнаму пасту, бо вартавы надта добра відаць з-пад сцяны. Мой стрэл — сігнал для нападу на вартавых вежаў. На кожную вежу ідуць па двое. Страляць проста з зямлі... Сцяпанавіч!

— Я.

— На вакзальным пляцы, перад турмой, стаіць гарадавы. Калі хлопцы пачнуць страляць па вартавых, што на вежах ад пляца, ты пакладзі гарадавога. Ён, выклікаўшы трывогу, можа нас загубіць. Гэта тваё заданне.

— Так.

Начальнік працягваў.

Цераз сцены лезці тады, калі загаснуць тры ліхтары на турэмным двары. Адзін з нашых выключыць частку асвятлення турмы як сігнал для нас, што асуджаныя на двары. Тады дружна на сцяну, галоўны ўдар на канвой, і нашы таварышы будуць вольнымі. На трэцім шляху, супроць вадакачкі, стаіць паравоз пад парамі. Яшчэ адна

заўвага. На сценах каля драбін застаецца па аднаму чалавеку. Іх задача: ісці апошнімі і зараз-жа перацягнуць драбіны і спусціць іх на двор. Гэта адзіны выхад. Таму трэба трымаць драбіны ўвесь час на ўвазе, і як толькі той, што будзе на сцяне, выйдзе са строю, патрэбна неадкладна замяніць яго. Усё.

Начальнік памаўчаў.

— У нас яшчэ поўгадзіны. Прыступаем да справы. План усім зразумелы?

— Так, — адказаў дружны шопат.

— Хто ідзе да галоўных варот, даткніся мне да пляча.

Начальнік адчуў тры моцныя штуршкі.

— Так. Адыйдзіце ўбок. Хто на правую і левую вежы?

Зноў чатыры дотыкі.

— На вежы да пляца?

Моцна штурханулі ў плячо.

— Адыйдзіце ўбок, хто да драбін?

Гурток пачаў раставаць. Людзі адыходзілі ўбок.

— Сцяпанавіч!

— Я.

— Выдайце яму вінтоўку.

— Ёсць.

— Да галоўных варот! Па выкананні задання паведаміць мне пад правую вежу.

— Ёсць.

— Да галоўных варот! Падрыхтуйцеся.

— Так.

— Сцяпанавіч, ідзі. Каб не было промаху.

— Не будзе промаху, — адказаў Сцяпанавіч і паціснуў руку начальніка.

— Да вежаў з боку пляца.

— Слухаем.

— Падрыхтавацца.

Сцяпанавіч пайшоў, асцярожна ступаючы ў блытаніне рэек, а цераз некалькі хвілін нячутнымі крокамі ў розных кірунках рушылі да турмы групы дружыннікаў.

Хутка прайшлі хвіліны. Слаба трэснуў стрэл. Яму адказалі кароткія нервовыя пачкі стрэлаў.

— Па пастах, — недзе далёка мільгнула думка. — Пара!

Шырокаплечы гарадавы недаўменна затаптаўся на месцы і замахаў рукамі.

Сцяпанавіч з зімным спакоем прыцэліўся і нават не ўчуў стрэлу. Толькі моцным штуршком аддала ў плячо вінтоўка.

Гарадавы пахіснуўся і павольна асеў на зямлю. У гэты момант загаслі ўсе да аднаго ліхтары турмы, ноч затапіла пляц. А стрэлы застукалі ўзмоцнена, рассыпаліся дробнымі адзінкамі, грукалі залпамі, рваліся пачкамі.

Сцяпанавіч, сціскаючы вінтоўку, рынуўся ўперад да завулка, які меў яго вывесці пад сцены турэмнай агароджы. І зараз-жа адкінуўся ад сцяны пакгауза. На пляц ад вакзала, з громам капыт, з крыкам, выццём, вылецеў конны атрад...

— Прапала! — апаліла мозг Сцяпанавіча страшная думка. — Казакі!

Ён кінуўся ў завулак, каб хутчэй далучыцца да дружыны, але цераз некалькі крокаў яго сустрэў хрыплы воклік.

Сцяпанавіч пазнаў аднаго з дружыннікаў, і той пазнаў яго.

— Уцякай, Сцяпанавіч, — хрыпнуў ён. — Начальнік загадаў адступленне. Бяжы да вакзала. Дружыну разбілі!.. На двары рота жандармаў і казакі... Я бягу ў дэпо...

Дружыннік знік у цемры.

Сцяпанавіч, трымаючыся сцяны пакгауза, павольна пабрыў да вакзала. Страляніна сціхла. Зноў ноч абнімала зямлю, вецер біў у твар дажджом.

І толькі дайшоўшы да вадакачкі, Сцяпанавіч зразумеў выразна, што ўсё прапала, што разам з правалам адчайнасмелага плана загінуў Пятро, загінулі лепшыя пролетарыі-дружыннікі. Асцярожна прыставіў Сцяпанавіч да сцяны цяпер ужо непатрэбную вінтоўку і, стаўшы на калені, прыціснуў да мокрай і зімнай зямлі свой разгарачаны твар.

І ў гэты момант на яго наваліўся невымоўна цяжкі груз. Недзе ўдушліва лаяліся, тупы боль прайшоўся па целе і нехта здалёку сказаў:

— Вяжы рукі.

— Канец, — было апошняй думкай Сцяпанавіча.

. . . . . . . . . . . . . . . .

— ... Пятра і яго таварышаў павесілі ў наступную ноч,— дакончыў Сцяпанавіч. — Дваццаць дружыннікаў, і ў тым ліку начальнік, былі забіты на месцы. Трох павесілі, а астатніх адправілі на катаргу, у тым ліку і мяне. Я сядзеў у гэтай-жа турме два гады і мне апавядалі... Ты ведаеш, Куніцкі, што-нібы аб старым Айбіндары?

Куніцкі кіўнуў галавой.

— Дык, вось, стары Айбіндар апавядаў мне, што ў каземаце смяротнікаў ёсць цагліна з надпісам майго сына. Я яе шукаў, калі разбурылі турму, і не знайшоў...

Сцяпанавіч памаўчаў.

— І вось зараз яна сама мне трапіла ў рукі.

Хвіліну было маўчанне, потым Змітрок спытаў:

— А што з тым, які бег да дэпо?

— Гэта быў правакатар, — адказаў Сцяпанавіч. — Ён прадаў дружыну. Яго праз некалькі месяцаў потым забілі рабочыя дэпо. Забілі гайкамі, як сабаку.

Сцяпанавіч адкінуў галаву на падушку і зняможаны застыг.

Апенка ў два крокі дасягнуў дзвярэй і, моцна грукануўшы імі, выбег з пакоя.

Бекман падышоў да ложка Сцяпанавіча і абапёрся на прыгалоўе.

Сцяпанавіч ляжаў нерухома. Навокал узрушаныя, з урачыстымі строгімі тварамі стаялі людзі яго брыгады. Куніцкі задумана паскубваў вус.

Праз некаторы час Сцяпанавіч адкрыў вочы, і скупая сляза скацілася па жоўтай шчацэ...

* * *

Зноў была сонечная раніца. І прызыўна грымелі гудкі. Звонкімі ранішнімі вуліцамі ішлі на работу дзённыя змены. На далёкім краявідзе ўставала сонца, і абмыты яго праменнямі абуджаўся горад. Глыбілася сінь неба. Раставалі ў ім напластаванні дыму і ранішніх туманаў. Прызыўна моцна крычалі гудкі.

У гэтую раніцу быў скончаны разбор пабудовы турмы. Заданне было выканана на пяць дзён раней тэрміну. І ў гэтую раніцу прышоў на работу Сцяпанавіч.

Ён агледзеў шэрагі землякопаў, што працавалі ў равах катлаванаў, і па хісткіх мастках, пракладзеных над ямамі для вапны, прайшоў на пляцоўку, дзе грымелі, глынаючы цэглу, камнедрабілкі. Тут ён паклаў у штабель, з якога паступала цэгла ў гыркаючае горла драбілкі, прынесеную ім цагліну.

Ён не бачыў, як схапілі цагліну казэмата клыкі драбілкі і размяздзжылі яе ў шчэбень. Ён глядзеў на чалавечы муравейнік на пляцоўцы будаўніцтва. Ён бачыў акрэсленыя катлаванамі першародныя формы той пабудовы, якая нараджалася на месцы турмы, на тым месцы, дзе загінуў яго сын, яго таварышы, дзе загінулі лепшыя людзі яго партыі і класа. Гэта быў кол на магіле мінулага. Не было турмы. Не было яе агароджы. Нічога не засталося ад каменнага мяшка.

І гэтым былі аплочаны дні працы і барацьбы.

Нараджалася пабудова, якая ў поўнай хорашасці і выразнасці сваіх магутных і дасканалых форм узнімецца над пярэстай блытанінай дахаў ускраіны і заззяе шклом шматлікіх вокнаў.

Ён, Сцяпанавіч, будзе камандаваць будаўніцтвам.

Няма мінулага. Нават цені, ганебнай і страшнай, не засталося. Новыя дні ў творчым росквіце паўстаюць перад вачыма Сцяпанавіча. За гэта змагаўся Пятро, дружыннікі, за гэта змагалася партыя, клас. Барацьба аплочана. Глыбела сінь неба. Трапяталі праменні сонца. Звінеў горад. Крычалі гудкі.

*1932 г.,*
*студзень.*

## *Пункт апоры*

Вогненны замак палаў... Білі ў вокны, пасцілаючыся па шыбах, языкі вялікага агню, бляск іх быў несцярпімым для воч... Золата і чырвоная медзь плавіліся там. У невымоўна высокай тэмпературы метал ператвараўся ў патокі вогненнай вадкасці. Здавалася: выбухнуць зараз з вышынь шматлікіх паверхаў грандыёзныя фантаны магмы, і не будзе ратунку ніводнай жывой істоце гэтага горада...

— Так гінулі палацы Пампеі, — падумаў Сяргей Пятровіч. — Толькі мора ўзбуранага нехапае, хмар чорных і вінтападобных бліскавіц. Натура для Брулова.

Замак палаў... Набліжалася грозная развязка. Агіднае разбурэнне павінна было даканчыць справу агню. І тут, — чары пачалі гаснуць раптоўна і хутка па меры таго, як адчыняліся вокны супроцьлеглага дома. І не раз'яранае пекла выбухала праз вокны, прастадушны фікус — няхітрая ўцеха гаспадынь — выглядаў адтуль... І не пагрозныя дымы, а мірны вецер, вячэрні, гарэзны ветрык абцякаў сцены белага вялікага дома і для ўласнага капрызу выдзімаў у вокнах несамавіты парус фіранкі. Чары гаслі, бо адчыняліся вокны, і шыбы не маглі больш адбіваць на сабе праменняў заходзячага сонца.

Унізе, у глыбі, недзе там на вуліцы, ішла вайсковая частка з аркестрам. Усё насельніцтва супроцьлеглых кватэр зацікаўлена звесіла галовы, пазіраючы на вуліцу.

Кожны хацеў паслухаць музыку. Сонца загасла на шыбах. Вогненны замак без часу згінуў.

І Сяргей Пятровіч прымірыўся.

— Гэта невытворчая фантазія, — падумаў ён. — Фантазія, што не мае ніякага дачынення да рэчаіснасці, ні ў якай меры не можа быць увязанай з рэальнасцю. Такога роду фантазія не каштоўна. Гэта — пагібель паэтаў, вынаходцаў і мастакоў. Адракаюся ад яе! Геній чалавека ў тым, што ён крылатую фантазію сваю падпарадкаваў навуцы, форме і памеру і ў крылатую рэчаіснасць ператварыў яе. Рэальнасць бязлітасна скрышыла мой вогненны замак. Патрэбна мець практычныя сродкі для выкарыстання фантазіі, інакш гэта мары, глупства!

Сяргей Пятровіч прайшоўся па коўзкім лінолеуме кабінета. Сёння быў выключна добры настрой.

А музыка ўнізе набліжалася. Музыка грымела. Гэта была пераможная, узнятая музыка. Пелі высокімі і чыстымі галасамі меншыя трубы; іх песню мужна падтрымлівалі, як-бы неслі на сабе, дыктуючы крок, магутныя басы і гулкі барабан.

Сяргей Пятровіч хутка ўзяў з этажэркі касцяны нож для разрэзвання кніг. Ён падышоў да дзвярэй, што вялі на балкон. Ён узрэзаў хрупкую, пажоўклую паперу, што склейвала форткі зашклёных дзвярэй. Вялікі павук сарваўся з рамы, ацаніўшы абстаноўку, у вокамгненне спусціўся на сваім уласным парашуце і знік у першай-жа шчыліне. Сяргей Пятровіч усміхнуўся з гэтакага спрыту павука і разрэзаў паперу на другіх дзвярах.

Музыка, свежае паветра, прасякнутае праменнямі сонца, чоткі марш сотняў ног, радасная вясна ўварваліся ў суровы пакой Сяргея Пятровіча. Ён нават адступіў на крок перад напорам святла, зыкаў вясенняга паветра. Цэлых два гады не быў на балконе Сяргей Пятровіч, і шкляныя дзверы, і пажоўклыя скарупкі паперы на іх, як маглі, абараНялі яго спакой ад гулу гарадскіх вуліц.

Ясная медзь аркестра праплывала пад самым балконам. За ёй чотка маршыравалі стройныя рады людзей. Па тратуарах цёк стракаты, па-вясноваму ажыўлены натоўп. Лакіраваныя жукі-аўто нездаволена таўпіліся на скрыжаваннях вуліцы.

І гул... Вячэрні гул адпачынку горада ў аправе музыкі, сонца, вясновага сіняга і глыбокага неба...

Сяргей Пятровіч вышаў за балкон, абапёрся на балюстраду і зірнуў уніз. І тут... здарылася.

Знобкі халадок скубнуў сэрца, зімныя дрыжыкі, нязвыклая пустата і лёгкасць адчуліся ва ўсім целе. У вачах калыхнуўся, перакруціўся ўвесь свет, мяшаючы мазаічную стракатасць тратуараў з зялёнымі чатырохкутнікамі ўзводаў... Нахіліліся сцены высачэзных камяніц і бяззычна рынулі на бедную галаву Сяргея Пятровіча... Вялізным намаганнем волі яму ўдалося адвесці амаль беспрытомны ўзрок ад жудаснай глыбіні там, унізе. Сяргей Пятровіч адвярнуўся плячыма да вуліцы. Ён глянуў у нутро пакоя праз адчыненыя балконныя дзверы. Ён убачыў звычайную абстаноўку свайго кабінета: упэўнены ў сабе, прысадзісты, грузны рабочы стол, зялёны абажур лямпы, суровы парадак папер, стройныя рысы чарцяжоў на сценах і запылены асколак прапелера над дзвярыма. І на гэты асколак паглядзеў Сяргей Пятровіч. Здалося, рэчы глядзелі іранічна на яго, заблуканага ў прасторы паміж зямлёй і небам на вышыні чацвертага паверху.

Сяргей Пятровіч успрыняў покліч верных сяброў. Ён увайшоў у пакой, зачыніў старанна адну за другой палавінкі балконных дзвярэй, з жалем паглядзеўшы на неабдумана ўзрэзаныя жоўценькія скарупіны паперы. Потым ён сеў у крэсла за сталом і прызвычаеным жэстам адшукаў на рагу стала каробку папярос і паверх яе — запалкі. І так, седзячы ціха, Сяргей Пятровіч змог да самай глыбіні адчуць сваё няшчасце.

Знаёмы, блізкі свет акружаў яго, спрабуючы ўцвердзіць у істоце спакой і роўнавагу. Але з такім-жа поспехам, — думаў Сяргей Пятровіч, — выгляд кастылёў мог дапамагчы ўстанаўленню спакою чалавеку, якому ампутыравалі нагу. Сяргей Пятровіч закурыў і не наўмысна паклаў абвуглены агарак запалкі за бронзавую пазуху задуманага паэта, што яўна беззаконна трэці годназіраў за работай інжынера-авіяканструктара.

— Вось калі яно... прышло,— падумаў Сяргей Пятровіч. Запылены асколак прапелера вісеў над дзвярыма.

Дарагая памяць баявой машыны!.. Помнік баявых вышынь!..

Сяргей Пятровіч выцягнуў запалку з-за пазухі паэта. Ён скамячыў, скрышыў яе ў пальцах.

... Над вечар аднаго дня ў ліпені 1920 года над гэтым горадам з'явіўся большэвіцкі самалёт. Гэта быў знішчальнік «Н'юпор XXI». Сяргей Пятровіч спакойна вёў машыну, выкідаючы цераз борт пачкі лістовак; упершыню аглядаў гэты горад з вышыні 1500 метраў.

Плыло над горадам сіняватае воблачка і ў засені яго маскаваўся «Н'юпор». Сяргей Пятровіч быў спакойны. Выгодным і прызвычаеным было пілоцкае сядзенне, плылі ў лёгкім дрыжэнні стрэлкі прыбораў, з нязвыклай, нечаканай чоткасцю працаваў зношаны матор. Сяргей Пятровіч час-ад-часу перахіляўся цераз борт, праводзячы вачыма палахлівую чараду белакрылых лістовак.

І вось, калі перахіліўся так Сяргей Пятровіч, нечакана ўбачыў ён у сябе пад крылом распрасцёртую, драпежную постаць варожай машыны, убачыў, як у віхры яе прапелера ўзляцеў белы пух лістовак. І тут толькі ўспомніў Сяргей Пятровіч, што ў горадзе штаб варожых сіл, што «Н'юпор XXI» — машына, забракованая адзінаццаццю экспертнымі камісіямі, што матор, васьмідзесяцісільны «Гном», расхлябаны і напоўразбіты, што да цвёрдай паверхні зямлі тысяча пяцьсот метраў, што адзіная надзея — кулямёт.

У гэты-ж момант на плоскасцях «Н'юпора», паблізу ад пілоцкага сядзення, успухлі згубныя бугаркі. Гэта азначала, што вораг — упраўны кулямётчык. Ён лез на Сяргея Пятровіча нахабна, горкай, стараючыся папасці ў зону, якой не мог дасягнуць кулямёт «Н'юпора».

Вось твар варожага пілота... Яго чорныя акуляры... Уважлівы, пільны твар і бляск срэбных наплечнікаў на чорнай скуры камбінезона. І вось — кароткія ўспышкі стрэлаў... І згубныя новыя бугаркі. Усё гэта — у адну сотую хвіліны. Усё гэта — як цень з экрана...

Сяргей Пятровіч зрабіў віраж улева. І тут, з левага боку, аднекуль з'явіўся яшчэ адзін «Спад». Ён цёмнай масай з гулам пранёсся над «Н'юпорам». І там — кароткія ўспышкі агню. Сяргей Пятровіч, зацкаваны, на момант

глянуў угору, і ў гэты час калёсы трэцяга «Спада» абагналі яго, ледзь не зачапіўшы, шчоўкнула куля ў стойку, адразу некалькі прабоін з'явілася ў казырку, на плоскасцях успухалі бугаркі... Сяргей Пятровіч узяў ручку ад сябе, і «Н'юпор» нырнуў уніз. І тут ледзь не стыкнуўся з чацвертым «Спадам», які ўзлятаў яму насустрач, паўтараючы манеўр першага. Бліснулі стрэлы, паветра, спрасаванае шалёным разлётам двух машын, візгуча крыкнула ў вушы Сяргею Пятровічу...

Большэвіцкі самалёт апынуўся ў смяротных цісках... Калыхалася ў глыбіні далёкая і страшная зямля...

— Прапаў! — падумаў, сціскаючы зубы, Сяргей Пятровіч.

Але рулі дзейнічалі яшчэ безадмоўна, яшчэ працаваў стары матор. Секунды, рашучасць і ініцыятыва пілота былі шансамі ратунку яго жыцця і машыны, адзінай на вялікім участку фронта. І Сяргей Пятровіч цвёрда ўзяў ручку на сябе, даў поўны газ; машына крута палезла ўгору, у сцяжках завыў вецер. Гэта было само па сабе небяспечна.

Тры «Спады» выстраіліся ў рад, ішлі насустрач, намераныя віхрам свінца збіць уніз адзінокую машыну з чырвонымі зоркамі на крыллях і фюзеляжы. Чацверты «Спад» ішоў крыху воддаль, на выпадак непрадбачаных манеўраў большэвіцкай машыны.

І гэтыя манеўры наступілі нечакана хутка. Перш, чым пілот чацвертага «Спада» паспеў згадаць, куды падзеўся «Н'юпор», перш, чымся тры пілоты «Спадаў» здолелі зразумець, чаму «Н'юпор» палез свечкаю ўгору,— на чацверты «Спад», з гары, коршунам кінуўся «Н'юпор». На гэты раз для «Спада» скончылася дрэнна. У пярэдняй частцы, каля цэнтраплана, паказаўся дым, завілося рудое полымя, абарваўся гул матора, і «Спад» рынуў уніз, ахутаны агнём, нібы ясная паходня, пакідаючы за сабой доўгі вогненна-дымны след.

Чырвоны пілот аказаўся таксама нядрэнным кулямётчыкам. Трое бледных, разгубленых пілотаў у страху глядзелі ўслед гінучаму «Спаду» да той пары, пакуль на фоне зеляніны гарадскіх садоў у апошні ўжо раз бліснула яго полымя. І гэтых секунд разгубленасці было досыць

для развароту большэвіцкай машыны. Пілоты «Спадаў» не паспелі нічога прадпрыняць, калі наперарэз іх курсу, абсякаючы бляск іх прапелераў, віхрам пранёсся «Н'юпор». «Спады» кінуліся ў бакі, але было позна. Пярэдні з іх папаў у паветраны струмень «Н'юпора», скруціўся ў штопар і ў пагібельным паветраным смерчы знік... Яго шэры цень невыразна мільгнуў у глыбіні.

Большэвіцкая машына развярнулася зноў і збоку накінулася на адзін з пазасталых «Спадаў».

І пілоты зразумелі, што звязаліся з паветраным д'яблам. Першы «Спад» даволі ўдала выкруціўся з-пад шалёнага націску «Н'юпора», даў поўны газ і кінуўся ў кірунку на поўдзень. І калі пан лейтэнант, пілот «Спада», нарэшце, азірнуўся, то недалёка ад сябе заўважыў таварыша, што вінавата прабіраўся ў засені яго крылляў. Далёка на краявідзе раставала чорная кропка. Гэта ляцеў назад самалёт з пяцікутнымі зоркамі на крыллях і фюзеляжы.

Паны лейтэнанты абмяняліся выразнымі жэстамі глыбокага спачування адзін другому і шляхетнай пагарды да хама «Н'юпора», які дасягнуў перамогі дзякуючы спрыяючаму злучэнню абставін і, як потым адзначылі газеты, «дзякуючы выключным баявым якасцям машыны».

Пасля гэтага паны лейтэнанты паменшылі газ.

Калі Сяргей Пятровіч апынуўся на сваім аэрадроме, — ён падлічыў бугаркі на крыллях, дзіры ў стойцы і казырку. Усяго налічвалася шэсцьдзесят сем прабоін...

Вось якую бліскучую старонку з мінулага падсунула Сяргею Пятровічу ў гэтую сумную хвіліну недарэчы ўслужлівая памяць. Цераз дзесятак з лішкам гадоў ён, які танцаваў над гэтым горадам на велізарнай вышыні шалёны танец, які называўся «гроб», і нічога, акрамя баявога захаплення, не адчуваў, — у гэтым-жа горадзе, на зямлі, на чацвертым паверсе, на вышыні, з якой самыя кволыя людзі па гадзінах звешваюць насы без усялякай рызыкі для здароўя, ён, баявы пілот грамадзянскай вайны, адчуў галавакружэнне.

— Вось яно як... — сказаў Сяргей Пятровіч і кінуў акурак.

— Арол стаў курыцай!

І доўга сядзеў задуманы Сяргей Пятровіч. Потым пасунуў да сябе шэрую паперку тэлеграмы. Гэта быў правільны крок з яго боку. Гэта магло вывесці з ушчымляючай пустаты, з тужлівага адчування згубленай сілы.

«Ваш праект прыняты камісіяй, — значылася ў тэлеграме. — Іспыты мадэлі паказалі высокую якасць машыны».

Дзіцянё тэхнічнага майстэрства Сяргея Пятровіча, вынік яго ўпартай двухгадовай працы, лёгкакрылая найпрыгажэйшая мадэль самалёта прадстала сёння перад камісіяй, у складзе якой — вялікія мастакі авіяцыі, тварцы магутнейшых паветраных караблёў, заваяваццелі грандыёзных прастораў паветранага акіяна. І вось — тэлеграма. Партыя віншуе з перамогай. Ён апраўдаў сябе на даручаным яму ўчастку работы. Вось у чым яго сіла пасля згубленых крылляў!

Але гэтага не адчувае Сяргей Пятровіч. Яго мазгі не дабіраюцца да схаванага ў лаканічных фразах тэлеграмы сэнсу. Ён, ахоплены вялікай слабасцю духа, не ўспрыймае гэтага. Ён глядзіць на асколак прапелера, на патрушчаны, пабіты кавалак лакіраванага дрэва.

— Дарагая памяць баявой машыны... Дарагая памяць згубленых крылляў... Трагічны лёс старадаўняга Ікара, — лепш за мой... Ён, згубіўшы крыллі, загінуў. Я згубіў крыллі — і застаўся жыць. Калі круціцца галава на чацвертым паверсе, што-ж было-б там, на вышыні?

І так як глядзіць хворымі вачыма аперыраваны калека на кастылі, што да ложка прынёс яму санітар, так глядзеў Сяргей Пятровіч на абстаноўку свайго кабінета, на тэхнічныя прылады, на кнігі, на чарцяжы. Ён прыкуты да зямлі, ён не зведае больш радасці вольнага лёту, не ўзбярэцца больш выдатны пілот у кабіну, і яго скураная рукавіца, узнятая ўгору, больш ніколі не запатрабуе:

— Старт!

У 1916 годзе пілот упершыню ўзяў у рукі штурвал парусінавага «Фармана». У 1926 годзе ён пакінуў сядзенне пілота баявога разведчыка. І больш ніколі...

Вялікая слабасць духу агарнула Сяргея Пятровіча. Яго акружалі рэчы: суровыя стопкі кніг, стройныя, упэўненыя ў сваёй дасканаласці чарцяжы на сценах; прыса-

дзісты, шырокі стол па-сяброўску падсоўваўся да яго; рэчы, што акружалі Сяргея Пятровіча апошнія шэсць гадоў, якія дапамагалі яму ў рабоце. Гэтыя добрыя рэчы! Яны таўпіліся навокал, як-бы стараючыся давесці яму карыснасць яго работы, даказаць яму сваю адданасць, падкрэсліць тое, што яны для яго неабходны так, як работа яго неабходна краіне.

Памочнікі ў крапатлівай рабоце, верныя сябры доўгіх рабочых начэй, яны стараліся выцягнуць яго з віру бяссэнснай рамантыкі, у які нечакана трапіў гэты суровы сухаваты інжынер.

Але чалавека душыла туга... Безразважная туга па ўтрачанай стыхіі.

За шырокім рабочым сталом пануры сядзеў Сяргей Пятровіч, маленькі чалавек з пасівелымі віскамі. Ён глядзеў на асколак прапелера, што вісеў над дзвярыма кабінета. Ён не зводзіў з яго вачэй. Ён думаў, ён тужыў...

Прайшло поўгадзіны. За вокнамі шумеў вячэрнім ажыўленнем горад. Сяргей Пятровіч, заклаўшы рукі за спіну, хадзіў, ссутулены, узад і ўперад па коўзкім ліналеуме кабінета. Так ён заўсёды хадзіў праз доўгія ночы, абдумваючы дэталі; падыходзіў да стала, нахіляўся над ім, рабіў выкладкі, вылічэнні, выкрэсліваў профілі дэталей, тварыў машыну. Ішлі, цягнуліся доўгія гадзіны, адпачываў горад, спала вуліца, спаў дом, шчоўкаў маятнік гадзінніка, а Сяргей Пятровіч упарта хадзіў узад і ўперад і толькі тады спыняў сваю хаду, калі прыходзіў да пэўнага вываду.

Але цяпер ён да вываду не прышоў. Ён яго зрабіць не мог, бо ішоў памылковым шляхам. Ён мог сказаць толькі тое, што адчуваў. І ён сказаў:

— Я гэтага баяўся горш, як смерці.

За вокнамі шумеў веснавым ажыўленнем горад.

Па вуліцы Сяргей Пятровіч ішоў задуманы. Яго штурхалі на тратуарах, але гэта не выклікала рэагавання з яго боку. І толькі адзін выпадак прыцягнуў да сябе яго ўвагу: на тратуар ускочыла рослая светлавалосая дзяўчына з-пад самых калёс грузавіка, што з гулам пёр на пад'ём нейкі металёвы груз. Ад сустрэчы з пругкім плячом дзяўчыны Сяргей Пятровіч яшчэ доўга адчуваў

дотык у сваім уласным плячы. Але гэты непрыкметны і звычайны выпадак паслужыў повадам да таго, што Сяргей Пятровіч пачаў зварочваць увагу на шумнае жыццё вуліцы, у якім ён сам быў маленькай і непрыкметнай адзінкай з тысяч гэткіх-жа адзінак. Істота Сяргея Пятровіча вышла з-пад гіпнозу ўласных, замкнутых перажыванняў. Сяргей Пятровіч успрыняў пульс, тэмп і настрой калектыва, і гэта падштурхнула яго рабіць высвады. Калектыў уздзейнічаў на адасобленую адзінку.

Сяргей Пятровіч усё ішоў у невядомым кірунку. Хутчэй за ўсё ён павінен быў прыйсці сваім сталым маршрутам у невялікі сквер у цэнтральнай частцы горада. Сяргей Пятровіч пачаў зварочваць увагу на наўкольнае і нават больш — адчуў нейкую прыўзнятасць.

Напрыклад, Сяргею Пятровічу заўсёды падабалася рабочая і студэнцкая моладзь. Вось ідзе грамадка. Адзін нясе футбольны мяч. Гэта, відаць, каманда. Значкі ГПА на крутых грудзях выглядаюць так, як можа выглядаць само здароўе, сама сіла, сама поўнакроўная маладосць! І Сяргей Пятровіч велікадушна даруе чарговы штуршок. Гэта — скромная дань футбольнай камандзе, што варочаецца з баявога поля. Пры гэткіх абставінах не ўсцеражэшся, каб каго не штурхнуць!

Сяргей Пятровіч усё любіў ставіць на сваё месца. І ён тут-жа падумаў, што кожны з гэтых хлопцаў можа быць пілотам, кожнаму з іх можна даверыць машыну. Пранілівы, шукаючы розум, працавітыя навыкі, упартасць, фізічная сіла — гэта патрэбныя даныя. І над усім — аддданасць сваёй справе, якая з'яўляецца справай партыі. У гэтым — даныя вялікіх традыцый выхавання ў калектыве. У гэтым — асноўнейшая вартасць нашай моладзі. Бясспрэчна, гэтым хлопцам можна даручыць машыну!

І тут недзе здалёк пачуў Сяргей Пятровіч голас уедлівай тугі:

— А табе ўжо нельга даручыць машыну!

Сяргей Пятровіч прыбавіў крок.

Крылы!

Крычалі адмысловыя літары афішы, і чалавек у лётным адзенні эфектна вырысоўваўся на фоне гафрыраванага фюзеляжа прыгожай машыны.

Сяргей Пятровіч пастаяў хвіліну ў ваганні перад афішай. І потым заняў месца ў чарзе, што вяла да акенца касы.

Гэты вечар быў незвычайным. Ён павінен быў выступіць перад фронтам пражытых дзён Сяргея Пятровіча на два крокі ўперад і застацца так стаяць нароўні з нямногімі іншымі, якія заўсёды ёсць у жыцці кожнага чалавека незалежна ад таго, памятае ён іх ці не.

У залітым святлом электрычнасці файе, дзе штучныя дэкарацыйныя расліны множыліся дзесяткамі люстраў у дзівосны сад, перад вачыма Сяргея Пятровіча ўзнікла даўно забытая дэталь і разварушыла далёкія цені дзён. Так узносіцца з дна ручая, узмытае выпадковым струменем плыні, пажухлае лісцё.

Сяргей Пятровіч убачыў у самым цэнтры чалавечага сціснення, у цэнтры патоку, што ўліваўся ў глядзельную залу, постаць у чорнай скураной тужурцы. Чалавек ростам сваім узвышаўся над усімі іншымі. Яго шырачэзныя плечы, масіўныя, выразна, па-прафесіянальнаму ссутуленыя, павольна плылі над натоўпам. Чалавек не азіраўся, і твару яго Сяргей Пятровіч не ўбачыў.

Тут ублытаўся нечакана Сяргей Пятровіч у люстравую і дэкарацыйную камбінацыю. Ён рашуча ступіў наперад, намерваючыся прабіцца цераз натоўп, і сустрэў халоднае шкло люстра. Ён змяніў курс, хацеў абмінуць пальму, і трапіў на другое люстра. Сяргей Пятровіч, нарэшце, зразумеў, што знаходзіцца ў састаўленым люстрамі куце, і вымушаны быў рухацца павольна, якраз у адваротны бок, чым намерваўся ісці раней. І тут ён убачыў, як шырокія плечы на момант затрымаліся ў праходзе, загароджваючы ўваход у залу, і, нарэшце, зніклі за партэрамі.

Сяргей Пятровіч пакарыўся неабходнасці. Ён увайшоў у залу і заняў сваё месца адным з апошніх. Лямпачкі папярэджваючы мігалі. Сяргей Пятровіч на адно імгненне ўбачыў наперадзе шырокія, магутныя ссутуленыя плечы. Гэты чалавек сядзеў так, нібы трымаў у руках штурвал і адначасова ўглядаўся ў цыферблаты прыбораў, правяраў усё складанае абсталяванне кабіны пілота. Не магло быць ніякіх сумненняў. Наперадзе Сяргея Пятровіча сядзеў ён, баявы таварыш, адзін з лепшых

пілотаў і большэвікоў, што змагаліся побач з Сяргеем Пятровічам у грамадзянскую вайну.

Загасла святло. Цёмнае нутро залы ўзрэзаў прамень з праекцыйнай будкі. Палатно экрана налілося жыццём. Зала зацікаўлена прыціхла. Але Сяргей Пятровіч не глядзеў на тое жыццё, што трапятала на экране. Зусім іншае ад тых падзей, што развіналіся там, убачыў ён. Убачыў з нязвыклай, неўласцівай успамінам, чоткасцю. Паўсталі і прайшлі перад вачыма яго памяці дні і людзі незабыўных і ўжо далёкіх гадоў.

... Гарадок В. 1918 год. Фронт.

У вузкіх, цёмных і пустых вуліцах шалее жорсткі вецер, узнімаючы туманы снегу. Ён завальвае горад сыпкімі хмарамі, ён гоніць снежныя смерчы з пустых палёў, ён кідае іх на горад, круціць над прыціхшымі дахамі снежныя слупы, з гулам рассыпае іх у вуліцах. Люты мароз скаваў зямлю. Гарадок стуліўся ў даліне, рэдкія агні, што павольна гаснуць, сведчаць аб тым, як замірае жыццё пад навалай раз'яранай стыхіі.

У вялікім доме на гарадскім пляцы два акны асветлены праз усю ноч. У халодным пакоі за сталом сядзіць заспаны тэлеграфіст, захутаны ў вялікае футра. Ён не выпушчае з акрэпшых пальцаў абмарожанай рукі рычажок тэлеграфнага апарата «Юз». Апарат нешта выстуквае на халастым хаду. Дзейнічаюць токі ад другіх перадач. Тэлеграфіст захутваецца ў футра, насоўвае шапку на вочы, але моцна сціскае рычажок. Сон падступае да яго. Ён стойка змагаецца са сном.

І раптам ажывае апарат. Паўзе істужка. Тэлеграфіст адразу адчувае. Ён выпростваецца, папраўляе істужку, накіроўвае на ролік.

Начальніку Н-скага авіяатрада... — выбівае апарат.

— Днявальны! — гулка ў пустым пакоі разлягаецца голас тэлеграфіста.

Апарат стракоча далей.

— Чаго? — не менш гулка адказвае, пачакаўшы, грубы голас з сяней.

— Спіш, чорт! Днявальны!.. Сып па таварыша начальніка! Па карыдоры налева.

Грукаюць у сенях важкія крокі і сціхаюць. Стракоча апарат.

Праз хвіліну на парозе з'яўляецца маленькая постаць у доўгаполай скуранай тужурцы. Тэлеграфіст устае.

— Тэлеграма, таварыш начальнік.

Начальнік падыходзіць да стала. Ён глядзіць на істужку. Глядзіць спакойна адзін толькі момант і потым хуткім рухам пасоўвае на патыліцу лётны шлем. Твар начальніка жоўты ад бяссонніцы — усхвалёваны.

*«Начальніку авіяатрада,* —

чытае ён, —

*Па атрыманых звестках праціўнік актыўна прасоўваецца на ўсход. Станцыя М. захоплена. У сувязі з гэтым загадваю, не гледзячы на ўмовы надвор'я, прыбыць у горад П. да 10 гадзін 30 хвілін 25 кастрычніка».*

Начальнік глядзіць на распоўзлыя сырыя літары тэлеграфнай істужкі. Ён ацэньвае становішча.

Там, на ўскраіне горада, на полі, завіруха гуляе над адкрытымі машынамі атрада. Мароз пранік у кожны атам метала. Гэта яшчэ не галоўнае. Галоўнае ў тым, што гаручага ўсяго пяць кілограм на ўвесь атрад. Да станцыі чыгункі семдзесят пяць кілометраў. Але і гэта не галоўнае. Галоўнае ў тым, што станцыя, куды павінна прыйсці цыстэрна бензіну для атрада, у руках ворага. Адтуль і наступаюць цяпер ланцугі нямецкіх акупацыйных войск, трымаючы кірунак проста на гарадок, дзе на ўскраіне, на полі, стыгнуць прыкутыя да зямлі машыны Н-скага авіяатрада. Узляцець нельга. Перавезці машыны няма на чым. Там, у глыбі ночы, у гэты ліхі час, на далёкіх палях вырашаецца лёс авіяатрада. Стрымаюць разрозненыя, дробныя атрады чырвоных войск націск акупантаў — будзе адтэрміноўка, можна будзе вышукваць сродкі эвакуацыі атрада. Не стрымаюць... тады што?

Да горада П. дзвесце пяцьдзесят кілометраў...

— Тэлеграфісты, чэрці... — бурчыць з футра грубы застуджаны голас. — Колькі памылак на пяць слоў уклеілі!

Тэлеграфіст забаўляецца, адганяе сон.

Начальнік хутка выходзіць з пакоя.

Тэлеграфіст занураецца ў шубу і ўціскаецца ў кут.

А начальнік у гэты час прабіваецца цераз мяцеліцу. Густы паток ледзянога паветра проста збівае з ног; ро-

гат і гул стаіць над горадам; вецер аж прыўзнімае чалавека ад зямлі. Колкі снег высцёбвае вочы. Начальнік абмацвае на шлеме акуляры і апускае іх. Іней пакрыў шкло. Начальнік брыдзе ў шэрай муці, і яму здаецца цяпер, што ён не на зямлі, а ў паветры; машына папала ў шторм, і ёй пагражае штопар.

— Стой! Хто ідзе?

Вартавы прапускае начальніка. Той уваходзіць у дом, узнімаецца па ўсходах, вобмацкам адчыняе дзверы. Слаба асветлены вялікі пакой. На падлозе спяць людзі. Над сталом нахілілася постаць дзяжурнага.

У шчыліне аконнай шыбы тонка і візгуча вые вецер. Нібы хто грае на грэбені.

Начальнік знімае акуляры.

Пілот Руніч, дзяжурны, падыходзіць да начальніка і прыкладвае руку да лётнага шлема.

— Пяць чалавек на пасту, — рапартуе ён, — камісар, таварыш Бірг з механікамі правярае становішча машын. Астатнія спяць.

— Пабудзіце людзей!

Людзі хутка ўстаюць, спяшаючыся, апранаюць сваё скуранае адзенне. Руніч папраўляе агонь у лямпе. На ўсходах грукаюць крокі. Адчыняюцца дзверы, і ў воблаках пары з'яўляецца гіганцкая постаць лётчыка Бірга. За ім у пакой працісківаюцца два механікі.

— Гэты мароз можа нам нарабіць спраў, — гаворыць Бірг. — Што новага, начальнік?

Начальнік моўчкі падыходзіць да стала.

— Трэба грэць маторы,— гаворыць Бірг, знімаючы з рук вялізную пярчатку.— А чым грэць і як грэць — невядома. Коўдрамі, ці што, іх грэць?

Начальнік, нахіліўшыся над сталом, выматвае з кішэні сваёй тужуркі істужку. Людзі абступаюць стол. У іх насцярожаныя, суровыя твары. Адчуваецца, што ў начальніка дрэнныя навіны. Толькі дзяжурны Руніч невядома чаму крыва ўсміхаецца і паскубвае гонкую палоску маладых, па-французску завітых, вусікаў. Начальнік гэта заўважае. Мімаходам адзначае пра сябе.

Істужка, нарэшце, выпрастана.

— Загад аб эвакуацыі. Гаручага няма. Станцыя захоплена немцамі. Такім чынам, калі туды і прышла ўжо цыстэрна, для нас ад гэтага ніякай карысці. Немцы развіваюць наступ у нашым кірунку. Наколькі

гэты наступ паспяховы — цяжка сказаць, але калі ў нас не зменіцца становішча з гаручым, мы пастаўлены перад пагрозай: альбо здаць машыны ворагу, альбо знішчыць іх. Мы павінны эвакуіравацца якімі-б там ні было спосабамі. Мы павінны захаваць машыны для ўзброеных сіл пролетарскай рэволюцыі. Думайце над гэтым, таварышы.

Людзі маўчаць. Начальнік абводзіць поглядам усіх па чарзе. Бірг паглядае на візгучае акно і задумана водзіць пальцамі па шчаціне падбародка. Лётчык Туманаў нешта напружана абмяркоўвае, прыкусіўшы губу. Пілоты Галубенка, Рустанян, малады і смяшлівы Заяц глядзяць на кволы агеньчык лямпы. Астатнія стаяць у засені. Усе маўчаць.

І тады разлягаецца тонкае хіхіканне.

— Чаго вам смешна, Руніч? — пытае начальнік.

— Мне смешна, што людзі могуць часам трапляць у такое дурацкае становішча, таварыш начальнік, — адказвае Руніч.

Бірг паварочваецца ў бок Руніча. Той нібы не заўважае. Ён запальвае сігарэту. Гулліва бліскае камень пярсцёнка.

— Сёння мы ні ў якім разе не можам эвакуіравацца, — гаворыць Туманаў.

— У горадзе кроплі газы няма, не толькі бензіну, — дадае Галубенка.

— Калі гэткае становішча будзе працягвацца, — дадае Заяц,— мы прасядзім тут вечнасць. Пры даных умовах мы не авіяцыя, а, выбачайце за выраз, абоз.

— Яшчэ горш за абоз,— хіхікае Руніч.— Той дык, ва ўсялякім разе, здольны самастойна перасоўвацца па зямлі.

Кароткі, прыглушаны гоман прабягае па ўсёй групе людзей і становіцца зноў ціха. Раз'юшана зуніць вецер у шчыліне шыбы.

— Усё, што вы сказалі, таварышы, — гаворыць начальнік,— мне вядома самому. Сёння мы маглі-б узляцець толькі пры тых умовах, калі-б ужо зараз бакі машыны былі напоўнены гаручым. Уся наша надзея ў тым, што немцы яшчэ на працягу двух сутак не даб'юцца да горада. Я хачу атрымаць якую-небудзь канкрэтную прапанову.

— Я маю канкрэтную прапанову, — кажа Бірг. — Я лічу неабходным абгаварыць яе з табой асабіста.

Начальнік укладвае істужку ў кішэнь.

— З гэтага моманту дзяжурным па атраду з'яўляецца таварыш Туманаў, — гаворыць начальнік і бачыць зняважлівую ўсмешку на тонкіх губах Руніча. Таму начальнік выпростваецца яшчэ больш, ва ўвесь свой рост. Ён з націскам, раздзельна вымаўляе словы:

— Дзяжурным па атраду з'яўляецца таварыш Туманаў. На час адсутнасці Туманава абавязкі дзяжурнага выконвае таварыш Заяц. Зараз таварышы Бірг і Туманаў пойдуць за мной.

Трое выходзяць. Яны яшчэ на ўсходах уздзяваюць акуляры і ідуць у шэрай імгле, трымаючыся за рукі. Яны ідуць бясконца доўга. На самай-жа справе да кватэры начальніка ўсяго толькі некалькі дзесяткаў метраў. Нарэшце наперадзе бліскае агеньчык, і тут-жа ўсе трое ўпіраюцца ў сцяну.

Яны ўваходзяць у замарожаны пакой начальніка.

— Твая прапанова, Бірг?

— Грузавік і трое баявых хлопцаў. Нядаўна я быў у майстэрнях. Рабочыя кажуць, у трыццаці пяці кіламетрах адгэтуль ёсць невялікі завод. Там цыстэрна нейкага гаручага. Наколькі яно здатна, не ведаю, але гавораць, што ў гэтых... бензінках яно гарыць добра. На бензінкі яго і расцягваюць.

— У якім кірунку трэба ехаць на завод?

— У кірунку станцыі!

— Небяспечна, Бірг!

Бірг паціскае плячыма:

— Сядзець, склаўшы рукі, па-мойму, яшчэ больш небяспечна.

Хвіліну ўсе маўчаць. За вокнамі вые вецер, густым голасам, працяжна гудуць правады.

— Вазьму гранаты і кулямёт. Яшчэ нічога невядома, таварыш начальнік. Дзікая ноч. Немцы могуць быць яшчэ бліжэй да нас, чым мы мяркуем, і ў той-жа час іх можа не быць на заводзе. Трыццаць пяць кіламетраў — гэта не так далёка. Трэба толькі знайсці лапаты. Дамкрат ёсць.

Начальнік думае хвіліну.

— Добра. Таварыш Туманаў. З Біргам паедуць Рустанян, Дубінін і Слядзеўскі. Мы рызыкуем пілотамі,

Бірг! Яны комуністы, гэта наша ядро! Не лезь на ражон, Бірг! Можа стацца так, што не будзе ні гаручага, ні пілотаў. Звярнуцца старайся да васьмі гадзін раніцы. Апошні тэрмін.

Бірг падцягвае рэмень шлема і ўздзявае пярчаткі.

— Таварыш Туманаў, — працягвае начальнік, — пазвані ў гарнізонны салдацкі камітэт. Патрэбна ўзмацніць варту каля машын.

Начальнік запінаецца.

— ... на ўсякі выпадак: людзей дапускаць да машын толькі па прапусках дзяжурнага. Комуністаў ставіць на самых адказных месцах. Сувязь са мной — увесь час па тэлефону. Усё. Дык ты зараз едзеш, Бірг?

Туманаў ідзе да дзвярэй. Начальнік сціскае вялізную руку Бірга ў пярчатцы. На парозе Бірг спыняецца.

— Мне не падабаецца Руніч, — гаворыць ён. — Слізкі тып! Добра, што ты яго зняў з дзяжурства. Закончаны белагвардзеец.

— Ён будзе адхілены ад кіраўніцтва машынай, — гаворыць начальнік.

Дзверы зачыняюцца.

Начальнік некалькі часу думае. Потым выходзіць з пакоя, ідзе цёмным калідорам, адчыняе дзверы. На стале пастуквае тэлеграфны апарат. У куце ўсхрапвае футра. Перамог тэлеграфіста сон! Але чырвоная, апечаная марозам рука ляжыць на рычажку апарата. Начальнік тармошыць футра. Тэлеграфіст прачынаецца. Больш не будзе спаць тэлеграфіст.

— Перадавайце.

Начальнік дыктуе. Выстуквае апарат.

На многія вёрсты, праз ноч, дзе гуляе сівая завіруха, працягнуліся і гудуць над мёртвымі палямі, над абмарожаным шчаціннем пералескаў правады. У горадзе, у адным з пакояў ясна асветленага дома, пачынае стукаць апарат. Тэлеграфіст, там, далёка ў горадзе, чытае:

*«Гаручага пяць кілограм. У горадзе запасаў гаручага няма. Прыняты меры да яго вышукання. Чакаю далейшых распараджэнняў. Начатрада Аперан».*

Бурная ноч лютуе над зямлёй.

Над многімі дзесяткамі вёрст галосяць правады...

З фото, перакрэсленага сінім алоўкам, глядзяць на начальніка колкія вочы, і тонкія губы крывяцца ў зняважлівай і здзеклівай грымасе. Начальнік глядзіць у

гэты наглы твар. І Руніч вытрымлівае погляд начальніка. Нават (здаецца так начальніку) прыўзнімаюцца губы ў кутах і бліскаюць з-пад іх залатыя каронкі зубоў у наглейшай, подлай усмешцы хітрага і труслівага ворага.

— Сволач! — шэпча начальнік. — Гадзіна!

І ён яшчэ раз паўтарае гэтае слова:

— Га-дзі-на!!!

У вобразе, які выклікае гэтае слова,— уся нікчэмнасць здрады, уся нізасць удару нажа з-за вугла. Гэтае слова выступае як-бы характарыстыкай да наглай морды на фото.

Начальнік успамінае, што перад ім стаіць дзяжурны па атраду Заяц. Начальнік кладзе фотакартку на стол, узнімае налітыя вялікім цяжарам бяссонніцы вочы. Заяц выкладвае з маленькай палявой сумкі пачку паперак.

— От! Дакументы, што датычацца Руніча, як чырвонага пілота. Пачка пакамечаных паперак на момант затрымліваецца ў паветры, на шляху да начальніка. І з іх мякаці, як-бы ўзрэзваючы яе сваімі вострымі кутамі, вылузваецца тонкая, асляпляюча-белая паперка. На ёй бачыць начальнік герб Расійскай імперыі. Пальцы дзяжурнага хутка разгортваюць паперку. Гэта вексельны бланк. І на белым полі гербавай паперы — размашысты, дробны почарк:

«Мною, паручнікам Рунічам, — чытае начальнік,— узяты некаторыя часткі з матора машыны «Моран-Парасоль». Зроблена гэта зусім свядома, у поўным розуме і цвёрдай памяці. Мой «Моран» не павінен служыць большэвікам. У даным выпадку гэты вексель не даўгавая распіска, а пацверджанне таго, што памянёныя часткі знаходзяцца асабіста ў мяне, у аднаму мне вядомым месцы, і здаць іх назад я ні ў якім разе не намераны. У чым і распісваюся».

Узорчатыя віткі подпісу чарвячкамі варушацца на паперы.

— Вы агледзелі машыну?

Заяц нечакана ўсміхаецца белазубай, узрадаванай усмешкай:

— Таварыш начальнік! Руніч прамахнуўся! Ён быў вельмі ўпэўнены ў тым, што ўдасца вывесці «Моран»

са строю, і напісаў гэты вексель загадзя. Яму ўсёроўна прыдзецца па ім плаціць!

Заяц падсоўвае паперкі да начальніка.

— Машына агледжана, таварыш начальнік. Я сам яе праверыў. Няма ніякай псоты. Руніч тры разы спрабваў прабрацца да яе, і ўсе тры разы яго не дапускалі вартавыя. «Моран» ратавала ваша распараджэнне аб допуску да машын толькі па пропусках. Руніч-жа ў гэтым убачыў асабістую небяспеку. Ён збег пасля таго, як аказаліся безрэзультатнымі спробы дабрацца да машыны.

З той-жа пачкі затлушчаных паперак выслізгваецца другі белы кавалак. Гэта звычайная паперка. На ёй сінія, вадзяністыя знакі лінеек.

«Бывайце, хамы! — уголас чытае начальнік. — На жаль, не ўдалося мне паднесці вам пару падарункаў. Спадзяюся атрымаць маральную ўзнагароду ад бамбёжкі вашага магільніка. Гэтага я даб'юся, даю слова афіцэра. Руніч».

Заяц хавае вочы ад утомленага погляду начальніка. Ён сціскае кулакі.

— Вораг! От-бы з ім зрэзацца калі давялося ў паветры!

— Вораг! — паўтарае начальнік. — Гадзіна! Позна мы заўважылі гадзіну!

— Затрымаць яго ўжо нельга, таварыш начальнік. За горадам, у полі, завіруха замяла сляды. Ён знік у невядомым кірунку.

Начальнік маўчыць. За сцяной гудуць правады і здаецца, што прыслухоўваецца да іх тужлівага гуду начальнік.

— Зараз дзве гадзіны ночы, — кажа Заяц. — Роўна суткі, як няма Бірга.

— Роўна суткі,— згаджаецца начальнік.— Правільна. Роўна суткі, таварыш Заяц.

Цяпер маўчаць абодва. Мяцеліца абсыпае снежнай жарствой абмёрзлыя, лёдам аблітыя вокны. Вецер вые, праносячыся вуліцай. Другія суткі бушуе непагадзь з часу ад'езду групы Бірга. Начальнік не спіць ужо трэція суткі. Прыпухлыя павекі абязволена апускаюцца, туманам дрымоты засланяючы зрок. Заяц глядзіць на начальніка ў цярплівым чаканні. І калі начальнік пад-

німае вочы, — сустракае цёплы, прыязны, спагадлівы погляд дзяжурнага.

— Табе трэба крыху паспаць, таварыш начальнік.

— Вораг... — гаворыць начальнік. — Ворагі навокал, Заяц!.. Ворагі пралетарскай рэвалюцыі... Пятля!.. Брудная вяроўка ў наёмных лапах... Пятля на горле маладой краіны пралетарскай дыктатуры. Мы не дамо сціснуцца гэтай пятлі! Мы не дамо аблытаць вяроўкамі крыллі нашых машын... Заяц! Мы... Што ты гаворыш, Заяц? Спаць? У такую хвіліну? У такі час?..

Начальнік зноў сплюшчвае вочы. І праз момант адчыняе іх. Яны гараць, гэтыя вочы, на зняможаным твары.

— Я табе не сказаў галоўнага. Стрыманы наступ немцаў. Яны паралізованы з флангаў, ім цяжка разгарнуцца. Мы, здаецца, выігрываем два-тры дні. Калі досвіткам не з'явіцца Бірг, мы пашлем разведку па яго маршруту. Мы павінны грудзьмі прабівацца праз гэтую безвыходнасць.

Начальнік устае.

— Ахову пляцоўкі ўзмацніць. Тры чалавекі на машыну. Гарнізонны салдацкі камітэт высылае раніцой атрад для ўмацавання ацаплення. Заўтра ў горадзе пачнецца эвакуацыя ўстаноў. Падрыхтаваць да эвакуацыі ў тыл нашу базу і выступіць ёй а шостай гадзіне раніцы. У сувязі з дызертырствам Руніча будуць, бясспрэчна, паветраныя разведкі над нашым лагерам і таксама бамбёжка. Не сумняваюся, акрамя таго, што немцы прымуць больш рашучыя аперацыі супроць горада. Авіяатрад — ласы кавалак.

Начальнік апіраецца рукой на стол і выпростваецца. Ён як-бы хоча скінуць з плеч цяжкі груз бяссонніцы.

— Правесці самую дбайную маскіроўку, выставіць кулямёты, весці пастаянны паветраны нагляд. Ні ў якім разе не страляць да той пары, пакуль не стане ясна, што нас заўважылі з паветра і ўстанавілі месцазнаходжанне пляцоўкі. Нікому нікуды не адлучацца і ні з кім ні ў якія размовы не ўступаць. Раніцой, так, прыблізна, а сёмай гадзіне, ты зойдзеш зноў да мяне.

Начальнік падыходзіць да акна і хвіліну глядзіць на срэбны наплыў лёду на падаконніку. Ён як-бы заварожаны гэтым бляскам і адварочваецца толькі тады, калі Заяц у нецярпенні пераступае з нагі на нагу.

— Ідзі, таварыш Заяц. Дзейнічай. Па-мойму, усё-такі мы знойдзем выхад.

Начальнік застаецца адзін.

Ціха ў халодным пакоі, у наскрозь астуджаным, вялізным гэтым доме. За вокнамі, патрасаючы ноч, лютуе завіруха. Начальнік прыслухоўваецца, нямаведама чаму, насцярожана і пільна. У доме ціха. І поўна дзікіх галасоў за яго сценамі.

Тады начальнік вымае з кішэні невялікі тонкі нож у абітай аксамітам похве. Бліскучая палоска сталі ўразаецца ў лёдавы наплыў на падаконніку. Адскаквае хрусткі кавалачак лёду. Яшчэ ўдар. Яшчэ кавалачак сіняватага крышталя. Начальнік укладвае нож у кішэню. Ён бярэ абодва кавалкі лёду і прыціскае іх да прыпухлых, успаленых павек.

Так вынаходзіць начальнік сродак барацьбы з бяссонніцай. Зімная, калючая ігла холаду ўпіваецца ў павекі, павольна пранікае скрозь чарапную каробку. Яна пранікае да самых мазгоў, гэтая калючая ігла холаду, яна ўпіваецца ў мазгі, выганяючы з іх клетак млявую расслабленасць, устанаўляючы ў іх халодную яснасць. Ужо боль адчуваюць мазгі, кратаецца астрыё іглы там, але начальнік не аднімае ад воч крышталікаў лёду. Ён прыціскае іх да павек далонямі, і два струменьчыкі талай вады сплываюць па яго твары і разбіваюцца кроплямі на чорнай скуры тужуркі.

Сон выгнаны. Ёсць яснасць. І яснасць гэтая, ва ўсёй сваёй страшнай аголенасці, паўстае перад ім.

...Грузавік увяз у глыбокіх снягах, і не прыедзе больш Бірг разам з трыма лепшымі пілотамі атрада. Тут людзі мерзнуць каля нежывых машын, не суджана больш самалётам узляцець у паветра, і не дасць іх начальнік ворагу. Сваімі рукамі зруйнуюць чырвоныя лётчыкі крохкія крыллі сваіх машын! Шырокім поўкругам, абыходзячы горад здалёк, на дзесяткі вёрст навокал ідуць войскі акупацыі, а насустрач ім прабіраецца здраднік, белагвардзеец Руніч. Самае страшнае — няма групы Бірга, няма гаручага і нельга яго набыць... Сціскаецца мёртвая пятля навокал горада, сціскае жменьку людзей і чараду крылатых машын...

Шэры твар начальніка акрываецца мярцвянай бледнасцю. Ён адчувае, як слабне сіла яго духу, як тупы адчай, нязнаны дагэтуль, варушыцца ўнутры, азнобам

страху і разгубленасці напаўняючы істоту. Ці да твару комуністу і камандзіру разгубленасць і адчай?

Начальнік садзіцца за стол. Ён сціскае рукамі стомлены лоб. Ён думае. Ён адшуквае спосабы ратунку з таго хаосу думак і адчуванняў, што пануе ў стомленых мазгах. Ён нічога не знаходзіць. Затое, ачнуўшыся, ён знаходзіць перад сабой паперку. Яе прынёс доўгавязы тэлеграфіст, і яго не заўважыў начальнік. Значыць, ён не думаў, а спаў?

Начальнік пасоўвае паперку да сябе.

«Зводка штаба паведаміла: праціўнік значнымі групамі, адрываючыся ад сваіх флангаў, рухаецца ў кірунку горада».

Начальнік адкідае ад сябе паперку.

Ноч! Дзікая ноч!

Але ці да твару комуністу і камандзіру роспач і разгубленасць? Ці да твару?

І начальнік зноў нахіляецца над сталом. Ён хоча знайсці спосаб. Ён правярае ў думках правільнасць сваіх загадаў. Перамагаючы нечалавечую ўтому, не жадае зыходзіць з паста начатрада Аперан.

За сцяной, уціхаючы, падвывае вецер.

За вокнамі яшчэ ноч.

Дзень прыходзіць нечакана. Нясмелыя адценні далёкіх праменняў сонца кладуцца на мёрзлыя шыбы. Прыход дня начальнік прыкмячае толькі тады, як белая муць досвіткаў уваходзіць у пакой і залівае кволы агеньчык лямпачкі, зводзячы на нішто яго падслепаваты бляск. Прыходзіць дзень.

І ў гэты-ж момант прыходзіць той, каго двое сутак напружана чакаў начальнік і ўвесь атрад. Адчыняюцца дзверы. Цэлае воблака пару ўрываецца ў пакой. Ледзь умяшчаючыся ў раме дзвярэй, стаіць вялізны чалавек. Гэта стаіць Бірг.

Начальнік хутка ідзе яму насустрач.

— Нічога не прывезлі, — кажа Бірг, яшчэ не зачыняючы дзвярэй. — Угробілі машыну, згубілі кулямёт. Пехам прыцягнуліся.

Начальнік сціскае яго за локаць.

— Усе жывы, Бірг?

— Усе. Як адзін чалавек.

Бірг адхіляе начальніка і зачыняе дзверы. Потым ідзе да стала і гасіць лямпачку. Белы туман досвіткаў

упаўзае ў пакой. Пасля гэтага Бірг апускаецца ў крэсла. Начальнік бачыць: у Бірга абмарожаны і азызлы твар.

— Дрэнныя справы, начальнік.

— Дрэнныя...

— Ты садзіся. Не так непрыемна будзе слухаць.

І Бірг чакае, покуль сядзе начальнік на трохногае крэсла насупроць. Пасля гэтага ён скручвае цыгарку. Не спяшаючыся, запальвае запалку.

Сіні дымок плыве над сталом.

— На заводзе, начальнік, не было ніводнай кроплі бензіну. Цыстэрны і той нават не было. Чорт яе ведае, куды яна падзелася. Словам, мы праехалі на станцыю.

— У распалажэнне ворага?

— У распалажэнне ворага. У тую-ж самую ноч. Прасёлкамі. Тапіліся ў снягу, але вылезлі да самай станцыі. Абследавалі яе. Здаецца, там не толькі немцаў не было, сабакі ніводнай блізка не знаходзілася. І мы знайшлі ў тупіку нашу цыстэрну. Вёдры мы дагадаліся адгэтуль узяць... Ты сабе ўяўляеш, якая распачалася работа? Якой мы рыссю хадзілі з гэтымі самымі вёдрамі?.. Ад цыстэрны да грузавіка было не менш як тры чвэрці кілометра, бліжэй нельга было пад'ехаць... Ты сабе ўяўляеш, як мы спяшаліся, як мы нерваваліся?.. І калі Дубінін спаткнуўся каля самага грузавіка і выліў першае вядро бензіну, я думаў, хлопцы знішчаць яго на месцы. У нас было толькі тры вядры.

— Вас накрылі на станцыі?

— Мы нацадзілі ў бочку пятнаццаць вёдзер бензіну... На большае не адважыліся. І ехаць прасёлкам, старым следам, таксама не адважыліся. Мы дзёрнулі па шасе...

— І тут папаліся?

Бірг нахіляе галаву.

— На конны раз'езд. Здаравенныя баварцы, я табе скажу, коні ў іх, што паравозы. У нас заела стужку ў кулямёце, акрамя таго, падбілі нам матор і абедзве пярэднія шыны. Мы з'ехалі ў канаву замест таго, каб прабіцца. І запусцілі па полі на сваіх на двух. Яны сунуліся ззаду, але снег для коней занадта глыбокі, даганяць-жа нас пехам было бяссэнсна. Мы часалі на зайздрасць усякаму зайцу. Ну, яны крыху пастралялі нам у плечы. Мы адстрэльваліся. На тым і скончылася. Словам, правалілі мы заданне, таварыш начальнік.

— І як вы дабраліся?

— Да горада было сорак кіламетраў. Мы кружылі па лясах, ішлі прасёлкамі, нарэшце, узбіліся на свой атрад. Яны нас хутка вывелі на шасе пад горад. У атрадзе гэтым — салідныя хлопцы. Матросы і петраградцы-рабочыя. Я думаю, што толькі гэтаму атраду мы абавязаны. Даўно былі-б немцы ў горадзе. Хаця ў іх, відаць, сілы тут небагатыя...

— Памыляешся. Перад намі цэлая дывізія. Гэта яны таму замарудзілі, што ім падціскаюць флангі. І ўсё-ткі, яны ўжо выпраўляюцца. Правае крыло перакідвае групы конніцы і пяхоту. Яны абыходзяць горад з усходу. Следам перамяшчаецца ўвесь правы фланг дывізіі. Калі ім не перарэжуць дарогу, мы заўтра будзем у мяшку разам з тым атрадам, што цяпер абараняе нас у кірунку станцыі. Не забудзься, што з тылу ў нас толькі наша ўласная база, якую мы накіравалі сёння ў П. У немцаў, акрамя таго, ёсць аэрапланы.

— Цяпер, як знайшлі грузавік, — панура кажа Бірг, — яны будуць паварочвацца больш крута. На баку гэтай смуроднай пасудзіны напісана «Н-скі авіяатрад». На які чорт, каму ў галаву прышло гэта напісаць? Зусім лёгка здагадацца, што ў горадзе авіяцыя, і калі ездзілі на станцыю, у тыл ворага, з-за бочкі бензіну — сама логіка падказвае, што авіяцыя сядзіць без гаручага. Не! Гэтага я сабе дараваць не магу!

— Можаш не турбавацца, — крыва ўсміхаецца начальнік. — Да немцаў дэзертыраваў Руніч.

І толькі цяпер разражаецца ўсё нервовае напружанне Бірга. Яго агромны кулак з абмарожанымі, апухлымі пальцамі са страшнай сілай абрушваецца на стол. З лямпы падае шкло.

Начальнік бачыць у сініх вачах Бірга пагрозныя маланкі.

І ў гэты момант у пакой прасочваецца аддалёны гул матора.

Начальнік хапае са стала бінокль і выбягае за дзверы. Бірг, яшчэ амаль непрытомны ад гневу, ідзе за ім.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На дварэ ўжо зусім светла. Вецер парывісты і вільготны. Адліга. Слаістыя, шэрыя хмары заслалі неба і навіслі там, напластаваныя адна на адну нерухомымі снежнымі гурбамі. Чорная кропка на фоне гэтых хмар

вырастае з кожным момантам. Начальнік глядзіць у бінокль, бачыць, як падкідвае самалёт сустрэчны паток паветра і заўважае на плоскасцях машыны — крыжы.

— «Таубе»! Трывогу, Бірг!

Маузер Бірга гулка ўдарае тры разы.

Зараз-жа, воддаль на пляцоўцы, разлягаюцца тры стрэлы.

Хутчэй! На пляцоўку!

Дзве жанчыны, што неслі ваду, ставяць вёдры ў снег і задзіраюць галовы ўгору. На дварэ чысценькай сядзібы стаіць мужчына ў чорным чыноўніцкім паліто і глядзіць у тэатральны бінокль. Усё гэта на хаду заўважае начальнік.

— Хутчэй! Хутчэй! — спяшаецца Бірг. — Хаця-б з кулямётамі не замарудзілі...

Пагражаючa нарастае гул матора. Машына сгрома падае. Ужо простым вокам можна бачыць чорныя крыжы на белых плоскасцях. Начальнік разумее, што маскіроўка была непатрэбнай. Пілот добра ведае месцазнаходжанне пляцоўкі, ён вядзе машыну проста на яе. Над самай пляцоўкай «Таубе» выраўноўваецца і ўзлятае ўгору. Ад яго адрываецца нешта і ляціць уніз.

— Вымпел, — гаворыць Бірг. — Пакет!

Ён праводзіць машыну вачыма. Яна хутка, набіраючы вышыню, аддаляецца.

Услед ёй глуха бубніць кулямёт.

— Спазніліся. Псуюць толькі патроны.

Яны заварочваюць за вугал двухпавярховага разбуранага дома. Тут, пад сцяной, на высокім стаяку стаіць кулямёт. З боку яго звісае выбітая істужка. Навокал, па снегу — поўна выстраленых гільз.

— Чаму вы гэта ў хвост смаліце? — пытаецца Бірг.— Спазніліся, няма чаго і страляць. Што за карысць?

Кулямётчыкі абодва маўчаць. Адзін з іх спрабуе выцягнуць з прыёмніка скамечаны канец істужкі. У гэты момант з'яўляецца Заяц.

— Пакет!

Начальнік бярэ яго і адыходзіць з Біргам.

Бірг панура глядзіць, як ускрывае начальнік нажом парусіну, у якую зашыты пакет. Нарэшце, вылузваецца канверт з белага цырата. З яго выцягвае начальнік паперку.

— Зараз пачытаем. Глядзі, пісьменна напісалі.

— Гляджу, гляджу, — адказвае Бірг. — Прахвоста Руніча работы першыя вынікі!

— Немагчымая нагласць! Садзіцца, як на свой аэрадром. Ну, чытай!

Старынны, канцылярскі почарк:

*«Камандаванню Н-скага авіяцыйнага атрада.*

*Панове афіцэры!*

*Мне вядома, у якім становішчы знаходзіцца Ваш атрад. Горад будзе заняты войскамі імператара ў бліжэйшы час. Прапаную здаць машыны ў поўным парадку і запэўніваю вас, што камандаванне будзе здольна ацаніць гэтую Вашу паслугу, як вышэйшага парадку афіцэрскі ўчынак. Папярэджваю Вас ад знішчэння машын. Гэтае готэнтоцтва, спадзяюся, — неўласцівая культурнаму чалавеку рэч. І адначасова павінен давесці да Вашага ведама: такія ўчынкі не сустракаюць літасці з боку вайскова-палявога суда імператарскай арміі».*

— Хто падпісаў? — пытае Бірг пасля таго, як начальнік, скончыўшы чытаць, складвае паперку на чатыры, потым на восем частак, акуратна загладжваючы яе куты.

— Нейкі вышэйшы чын падпісаў. Неразборчывы подпіс на нямецкай мове. От, што азначае папасці ў падобнае становішча і пры гэтым яшчэ дрэнна страляць. Таварыш Заяц!

— Я!

Дзяжурны, што стаяў воддаль, падыходзіць:

— Да кулямётаў пастаў больш паваротлівых людзей. Нельга цярпець такой работы.

— Таварыш начальнік, не быў яшчэ замацованы кулямёт. Стралялі без упора.

— Тады няма чаго страляць. Прыляцяць у наступны раз — мы павінны даць добрую сустрэчу! Пойдзем, таварыш Бірг!

І вось яны зноў удвух з Біргам ідуць, узнімаючыся на ўзгорак па вузкай вуліцы. Абодва панура маўчаць. Бірг паёжваецца ад холаду і кідае час-ад-часу кароткія погляды па баках, туды, дзе з-за светлых шыб размалёваных мяшчанскіх домікаў выглядаюць зацікаўленыя твары.

Выходзячы на пляц, Бірг спыняецца.

— Ведаеш што, начальнік, — гаворыць ён ціха: — пры гэткіх абставінах нам нічога не застаецца больш, як везці машыны на конях.

— Гэта яшчэ горш. Нас возьме ў палон першы, які пападзецца, раз'езд праціўніка. У такім выпадку мы — бяспомачны абоз. І, акрамя таго, памятай: да П. — дзвесце пяцьдзесят кілометраў!

Бірг сціскае кулакі. Усё яго вялізнае цела падцягваецца. Так ён крочыць побач з начальнікам, гэты вялікі, дагэтуль заўсёды спакойны чалавек. Ён робіць намаганні над сабой для таго, каб стрымаць выбух унутраных сіл, захаваць роўнавагу, быць здольным для далейшай цярплівай барацьбы.

— Увечары мы зробім сход, — кажа ён, нарэшце. — Мы правядзем работу сярод лётнага складу, выявім слабых, падтрымаем іх. Нагласць ворага, якая выразілася ў гэтым дакуменце, павінна выклікаць узмацненне духу, узняць маральнае становішча атрада. Дрэнна толькі тое, што я вось ледзь стрымліваю сябе. Ты разумееш, Аперан, што гэтае становішча ёсць самая сапраўдная пятля. Дрэнна, калі пачынаюць падгульваць нервы.

— Гэтае параўнанне мне самому прыходзіла ў галаву, — кажа начальнік. — Але кожная пятля мае ўласцівасць раздавацца. Мы будзем вышукваць сродкі.

— Мы павінны ратаваць машыны, Аперан.

— Правільна. Мы павінны знайсці выхад.

Яны ўсходзяць на ганак штаба.

— На многія дзесяткі вёрст, над аснежанымі палямі, працягнуліся і гудуць тэлеграфныя правады.

— Пры апараце камандуючы паўночнай групай...

— Пры апараце начальнік Н-скага авіяатрада.

— Абрысуйце становішча атрада.

— Усе машыны ў парадку, але гаручага няма... Асабовы склад, за выключэннем дэзертыраваўшага пілота Руніча, — у наяўнасці. Трымаем сувязь з петраградскім батальёнам, што знаходзіцца ў пятнаццаці кілометрах на захад. У горадзе эвакуіраваны грамадскія ўстановы. Пяхотная часць, з якой складаўся гарнізон, далучылася да батальёна па распараджэнню штаба. База атрада эвакуіравана ў тыл.

— Вы канчаткова ўпэўнены, што ніякіх рэсурсаў гаручага няма?

— У горадзе і ваколіцы, не занятай акупантамі, ніякіх рэсурсаў гаручага няма?

— Камандаванне вам паведамляе: абходны рух працїўніка з правага фланга стрыманы. Падмацованы петраградскі батальён, які знаходзіцца на заходнім кірунку. Дзякуючы небяспечнасці ўчастка, камандаванне не бачыць магчымасці ўтрымліваць яго больш за трое сутак. Загадваю на працягу двух сутак знайсці сродкі эвакуацыі і прыбыць усяму атраду ў горад П.

Начальнік пытае ў тэлеграфіста:

— Як сказана? За двое сутак?

Тэлеграфіст хутка праглядае істужку.

— Так. Загадана: на працягу двух сутак.

— Перадайце: будуць прыняты ўсе меры.

Стракоча апарат. Спрытныя пальцы тэлеграфіста ўжо папраўляюць істужку, якая нясе адказ.

— Што адказваюць?

— Адказваюць: усяго добрага.

— Адкажыце: усяго добрага.

Строкат апарата змаўкае.

Размова скончана.

Над аснежанымі палямі на многія дзесяткі вёрст працягнуліся і гудуць тэлеграфныя правады.

Начальнік спіць. Ён зняможана схіліў галаву над сталом і спіць, але ён бачыць, як уваходзіць Бірг у пакой, бачыць, што ўсміхаецца суровы Біргаў твар. Як гэта можа быць? Сон, не інакш! І начальнік робіць намаганні, каб прачнуцца. Ён хоча скінуць з плеч утому, хоча развеяць агідны яе туман з павек, хоча пазбавіцца яе гіпнозу. Начальнік робіць намаганні і прачынаецца.

Ён прачынаецца, ён перамагае, нарэшце, палон сну. І ён бачыць — стаіць Бірг проста супроць яго. І... усміхаецца. І начальніку здаецца зноў, што ён спіць. Спіць на пасту, спіць тады, калі няможна спаць. І ён зноў робіць намаганні...

Але Бірг, жывы, сапраўдны, высокі, вялізны Бірг са смехам кажа:

— Ну, чаго ты вырачыў вочы, старычок? Ну, чаго ты перапалохаўся?

І ад гэтых недарэчных, як здаецца начальніку, сказаных не да месца слоў гнеў нараджаецца ў грудзях. Начальнік устае, выпростваецца ва ўвесь свой маленькі рост.

—Ты не можаш знайсці лепшага часу для жарта, Эрнст?!

Але Бірг замест адказу адварачваецца да дзвярэй.

— Заходзьце сюды, хлопцы!

У калідоры грукаюць крокі. У пакой адзін за адным уваходзяць людзі. Начальнік бачыць іх усіх да аднаго. Ён разумее, што гэта не сон, і безразважны гнеў гасне ў ім гэтак-жа раптоўна, як і ўзнік. Ён садзіцца за стол і аглядае прышоўшых.

Усе яны — рабочыя. Двух з іх начальнік ведае. Вось гэты высокі і гэты нізенькі, шырокаплечы — гэта камуністы, члены невялікай арганізацыі ў дзесятак таварышоў. Яны вылучаны для сувязі з атрадам і бывалі тут дагэтуль не раз. Ім холадна: абодва яны ў сініх абшмальцованых ватоўках, з кароткімі, абдзёртымі рукавамі, яны хаваюць рукі ў гэтыя кароткія рукавы, яны пераступаюць з нагі на нагу, і паскрыпваюць іх старыя, аўстрыйскага ўзору бутсы, і карпацкія шэрыя папахі наязджаюць ім на вочы. Гэта Бегельман — высокі і Арндт— нізенькі. Ім холадна, хлопцам. Гэтак-жа холадна, як і начальніку...

Астатніх двух начальнік не ведае. Гэта рабочыя таксама. І ім таксама холадна ў худзенькай адзежыне. Усе пераступаюць з нагі на нагу і глядзяць на начальніка. Начальнік-жа глядзіць на іх, і калі, нарэшце, ён пераводзіць погляд на Бірга, то бачыць, што Бірг усё яшчэ смяецца. Начальнік абураецца зноў, але не паспявае сказаць і слова, як велізарныя клешні Бірга хапаюць яго за плечы, і ўсё маленькае цела начальніка ўздрыгаецца. Бірг яго трасе за плечы. Гэты Бірг такі ўжо мае характар. Ён заўсёды лёгка пераходзіць ад стану панурага спакою да стану вялікай узбуджанасці. Гэтага начальнік не адабрывае, хаця вельмі паважае камісара Бірга.

— Ды прачніся ты, нарэшце, таварыш начальнік!

І начальнік прачынаецца канчаткова. Усе ў пакоі стрымана смяюцца.

— Чатыры ночы не спаў чалавек, — тлумачыць Бірг. — Можна ачумець!

— А ты спаў? — пытае начальнік,— ты спаў хіба?

— Не важна. Ты паслухай, што скажуць хлопцы! Ты

паслухай, што яны надумалі! Гэта, Аперан, сур'ёзна, шыкарная рэч!

І зноў, зноў са здзіўленнем бачыць начальнік усмешку Бірга.

У гэты момант выступае наперад даўжэразны Бегельман.

— Няма часу, — гаворыць ён. — Досыць! Прачнуліся ўсе. Цяпер можна пагутарыць.

І ён садзіцца на крываногае крэсла супроць начальніка. Кульгавае крэсла рыпіць, як прамёрзлыя бутсы самога Бегельмана.

— Мы з Арндтам былі ў свой час у лапах карнай экспедыцыі Мелер-Закомельскага, — кажа Бегельман. — І нас з Арндтам павялі ў адзін прыемны вечар на полі размяняць на дробную валюту. Так, Людвіг?

— Правільна.

— І вось, нас вядуць. І мы адзін аднаму кажам... Як мы сказалі, Людвіг?

— Мы сказалі, што не варта рэвалюцыянеру гінуць, не паспрабаваўшы сродкаў ратункаў.

— Правільна! І мы паспрабавалі. І дзякуючы гэтаму мы маем магчымасць ускінуць вас пад хмары, чэрці вы, у скуру зашытыя! Хэ-хэ-хэ.

Бегельман смяецца. Начальнік бачыць: у гэтага чалавека надзвычайна добры, надзвычайна прыязны твар і лагодная ўсмешка. Але тут-жа бачыць начальнік, што погляд воч ацэньваюча цвёрды, ён ацвярожвае лагоднасць твару, вялікая і дужая воля праглядае ў вачах. І начальнік бачыць, што злятае ўсмешка, што яе няма. Ён бачыць суровы, пажылы твар.

— Нас арганізацыя вылучыла для сувязі з вамі, начальнік. Жартаў даволі. На жарты мы калі-небудзь выберам час. Нам даручана дапамагчы вам узляцець у паветра. А мы не маглі прыдумаць сродкаў для гэтага! Мы пачалі з таго, што абшукалі аптэкарскі склад. Знайшлі толькі бутэльку бензіну. Акрамя пастаўкі харчавання атраду, мы не змаглі нічога зрабіць. І толькі цяпер мы знайшлі сродкі, знайшлі выхад. Слухай, начальнік!

Бегельман нахіляецца бліжэй да начальніка.

Спірт! Дзевяноста градусаў, дзевяноста пяць градусаў, ліха яго матары! От што нам патрэбна! Гнаць спірт самагоннымі апаратамі, рэквізаваць у кулакоў і купцоў

муку, квасіць яе, сто чартоў у зубы, гнаць спірт вёдрамі, наліваць бакі і...

Бегельман робіць выразны жэст, спіраль угору.

— Во!!!

І тады начальніку зноў прыходзіць у галаву недарэчная думка:

— Я сплю!

І ён робіць рух, ён робіць над сабой тую самую аперацыю, пра якую не раз чытаў у кніжках авантурных раманістаў. Ён шчыпле сябе за руку. Аказваецца, ён не спіць. Аказваецца — гэта ява. І тады вялікая радасць, велізарнейшае аблягчэнне зыходзіць на яго змучаную істоту, што напружаннем нерваў несла на сабе гэтыя дні цяжар вялікай адказнасці за людзей і баявыя машыны рэвалюцыі. Начальнік робіць самому сабе незразумелы рух. Ён сціскае галаву аберуч. Патрэбна ўтрымаць нервы.

І ў гэты час бярэ слова Арндт.

— У нас, у майстэрнях, ёсць катлы. Іх патрэбна толькі прывесці ў парадак, даць ім належную форму і прыгнаць да іх накрыўкі. Ёсць арматурныя трубкі, дасканалая медзь. Ёсць усё для апаратаў. Мы зараз ад'язджаем за мукой. Я за чатыры гадзіны дастаўлю з хлопцамі два вазы найлепшай мукі. Не будзь я Людвіг Арндт, мы вас ускінем у паветра!

Глухі голас начальніка:

— Патрэбен вельмі добры спірт, хлопцы. Трэба абдумана паставіць справу!

Спосаб Бегельмана і Арндта — адзіны выхад. Начальніку страшна падумаць аб зрыве гэтай справы.

І вось яна, пагроза. Яна тут.

— Я не ведаю, хто дасць добры спірт, — кажа адзін з рабочых.— Я магу зрабіць кацёл, трубкі, пабудаваць апарат, як належыць. Гэта кожны з нашых слесароў і кацельшчыкаў патрапіць. Але мы можам рабіць, калі ёсць чарцяжы. Я ніколі ў вочы не бачыў гэтага праклятага катла. Каб хто паказаў, як ён выглядае,— я-б зрабіў яго. Але хто заквасіць брагу і выганіць спірт — не ведаю. Як тут быць?

— Ох, т-ты... — закусвае губы Арндт.

Бірг глядзіць на начальніка. Начальнік на Бірга.

Цяжкая ціш.

— От аб чым не падумалі,— заканчвае рабочы.— Аб самым галоўным не падумалі.

І тады, ужо цвёрды голас начальніка:

— Адступаць нельга, хлопцы. Думайце!

Ён устае і аглядае ўсіх па чарзе.

Але ў гэты момант устае і Бегельман.

— Думаць тут асабліва няма чаго, — кажа ён. — Я ўспомніў. Міцька Дзюбніглаз, з Крапіўнай слабодкі. Прафесар гэтай справы. Ён дасць такі спірт, які ніхто ў свеце. Кропка. Даволі гэтых гутарак. Арндт, забірай хлопцаў, бярыце коней з пастаялага двара і жарце за мукой. Каб а другой гадзіне ночы былі тут! Толькі далёка не ад'язджаць! Вы, слесары, ідзіце ў камітэт, там вам дадуць людзей, распальвайце качагарку. Апалу няма? А парканы нашто? Мала дроў, сто чартоў у зубы? Увесь горад дзеравяны! А я зараз прыганю сюды Міцьку. Пойдзем з табой, камісар! Ну, пайшлі!

І Бегельман крута заварачваецца на месцы. Усе ідуць да дзвярэй.

І начальнік застаецца адзін у пакоі. Ён праходзіць па ім раз і два. Ён мерае яго ўздоўж і ўпоперак, як гэта рабіў ён на працягу чатырох начэй. Тады была безвыходнасць, цяпер недзе ўперадзе, далёка недзе, глянуў агеньчык. Да яго патрэбна дайсці праз дзесяткі перашкод і магчыма не дойдзеш. Але гэта ёсць выхад. І яго патрэбна скарыстаць. Як гэта сказаў Бегельман?

— Не варта рэвалюцыянеру гінуць, не паспрабаваўшы сродкаў ратунку!..

У пакой следам за Бегельманам уваходзіць нізкая, прысадзістая постаць у фантастычным адзенні з ласкутоў аўчыны і featureрознафарбнага рыззя. Яна знімае касматую аўчынную шапку, і попельнашэрыя віхры ўстаюць з-пад яе гэткай-жа несуразнай капой.

— Дазвольце прадставіцца,— сіплай фістулай гаворыць чалавек.— Міцька Дзюбніглаз... Па хімічных і ювелірных справах. Самагоначку можам выціснуць — божая сляза!..

Гэтыя людзі любяць бравіраваць. Начальнік аглядае яго.

Азызлы твар, чырвоны, з пляценнем сіне-багровых жылак на шчоках, нос круглай цыбулькай, хітрыя вочкі ў нездаровай пухліне і чорныя пакрышаныя зубы ва ўсмешцы. Начальнік бачыць: рукі гэтага чалавека ледзь

не дасягаюць зямлі. Страшная сіла ў іх. Толькі хрусне шыйны пазванок ад такіх рук пры сустрэчы дзе-небудзь у цёмным завулку.

Бегельман робіць папярэджваючы жэст. Часу няма!

— Вы ўмееце абыходзіцца з апаратам?

Дзюбніглаз адстаўляе нагу ў стаптаным валёнку ўбок. Раздумна лезе пяцярнёй у віхры і ўзнімае ўгору праніклівыя шчыліны воч.

— Та-а-ак сказа-а-ць... Гледзячы, колькі будзе заплочана...

— Ну, Міцька! — заахвочвае Бегельман. — Хутчэй!

— ... І гледзячы, якімі грашыма. Паважаю срэбраную міколкіну галаву, што азначае руб! На ночку работы — дзесяць срэбрам. Работа чыстая. Божая сляза з макам!

— Трэба змайстраваць апараты.

— Бож-жа-ж мой!.. Змайстру-у-уем!

Дзюбніглаз прыціскае шапку да грудзей.

— Што значыць апарат змайстраваць! Цьфу! Кацёл. Дудка туды, дудка сюды! Але трэба плепорцыю ведаць. Плепорцыю катла і плепорцыю дудкі. А за гэта — дваццаць пяць рублёў кацялочак, ваша благароддзе, гас-спадзін палкоўнік.

— Мне трэба ведаць, зможаце зрабіць спірт у дзевяноста пяць градусаў моцы?!

— Дзевяноста пяць? Сто дзевяноста пяць, ваша благароддзе... Гледзячы, колькі будзе заплочана. Божая сляза, можна сказаць, чыстаты і моцы вялікай!

— Мы вам заплацім за работу, — кажа начальнік. — Вядзіце яго ў майстэрню, хлопцы.

Бегельман заварочвае Міцьку да дзвярэй. Але ён выкручваецца ў яго з-пад локця.

— Абавязкова срэбрам, вашбродзь.

Рабочы цягне Міцьку за рукаў.

— Скажы дзякуй, што на губу дагэтуль не трапіў!

І лахматы ком выкачваецца за дзверы. Яго трымае за каўнер рука рабочага. Бегельман застаецца на хвіліну ў пакоі.

— П'яны Міцька, у дым. Але працверазіцца — будзе працаваць. Мы яму зараз балду снегам намылім. Майстра добры! Аднаго баяўся, што не знайду. Ну, я пайшоў. Камісар у майстэрнях. Туды вядуць тэлефон.

Бегельман выходзіць.

— Начальнік зноў ідзе ўздоўж і ўпоперак па пакоі. Ён пазірае на замарожаныя вокны, што заплылі лёдам. Густая цемра ночы лягла на гэты лёд. Пятая ноч з той пары, як знізіліся на полі за горадам машыны атрада, маючы ў баках кроплі гаручага, мізэрныя кроплі таго, што дае сілу і жыццё машыне. Што прынясе пятая ноч?

— Пятая ноч і шосты дзень павінны прынесці шаснаццаць вёдзер гаручага! Інакш...

Раней, калі не было тут фронту імперыялістычнай вайны, ад горада да захопленай зараз немцамі станцыі ішла так званая рамонтная ветка. У горадзе былі чыгуначныя майстэрні, і сюды, за семдзесят кілометраў ад галоўнай магістралі, прыводзілі хворыя паравозы. Але за месяцы ўпартых баёў 1917 года не стала веткі. Яна разбурана ўшчэнт, узарваны масты, і зараз, на ўсю даўжыню апоўзлага насыпу, пад глыбокім снегам, ляжаць скруткі пагнутых, скамечаных, іржавых рэек.

Гарадок аказаўся адрэзаным. Нізкія карпусы майстэрняў, чорныя і абкураныя, стаяць пустымі, у іх змрочным нутры, пранікаючы цераз разбітыя вокны, шугае вецер, ён грыміць у пустых чэравах даўно мёртвых паравозаў, што адзінкамі прыржавелі да рэек майстэрняў. Вецер ганяе пыл іржаўкі.

У гэтую ноч асвятліўся адзін з панурых карпусоў майстэрні, слясарна-такарны цэх. Святло бегае па закураных вялікіх вокнах. Бразгае метал. Шыпяць паяльныя лямпы. Кіпіць работа. У праходзе, паміж абмёрзлых, іржавых, пакінутых варштатаў, сярод хаосу металовага ламачча стаіць Бірг. Ён задумана глядзіць на агні горнаў, на ажыўленых рабочых. Пад цёмнай столлю калыхаюцца велізарныя прасцірадлы павуціння, у халодным нутры майстэрні — кіслы пах цэлых тон іржаўкі. Усюды запусценне жудаснае, як папялішча.

Але рабочыя завіхаюцца хутка. Полымя ў горнах танцуе, рассяваючы сінія, чырвоныя, рознакаляровыя іскры, і водблескі горнаў асвятляюць худыя, змарнелыя, але задаволеныя твары рабочых. Гэта ўсё-ткі работа.

Дробна грукаюць малаткі. У куце майстэрні склёпваюць катлы. Недалёка ад Бірга некалькі рабочых выгінаюць медзяныя трубкі.

— Яшчэ! — крычыць Дзюбніглаз.— Яшчэ, яшчэ! От, змеявік будзе, у нос тваёй маме!

Дзюбніглаз першы раз на жыцці распараджаецца.

Ён — гаспадар гэтай майстэрні. Яго ўказанням падпарадкоўваюцца ўсе. Ён пабудуе чатыры такіх апараты, якіх яшчэ не бачыў свет!

Дзюбніглаз мітусіцца па майстэрні. Ён наглядае за тым, як бушуе полымя ў горнах, ён заглядае ў качагарку і загадвае не шкадаваць апалу, бо інакш у майстэрні будзе холадна і брага застыне. Цэлыя парканы паглынае качагарка. Пакрыху трубы паравога ацяплення пачынаюць грэцца. Дзюбніглаз бяжыць туды, дзе выгінаюць трубкі, потым спяшае глянуць на клёпку катлоў. Тут ён знаходзіць непарадкі.

— Ты куды сценку выгінаеш! — крычыць Дзюбніглаз. — Чорт! Гора з такім народам! Ты куды, габляваная скура, гоніш болт! Га? Куды, я цябе пытаюся!

Пажылы рабочы выпроствaецца. На яго жоўтым твары качаюцца жаўлакі.

— Ты гавары толкам, чаго крычыш! Што гэта значыць скура?! Я рабочы, а ты п'яная сцерва, бандыт! Адыйдзіся прэч, бо як цяпну гэтым ключом паміж вушэй, дык...

Бірг асцярожна прабіраецца цераз ламачча.

— Таварыш! — гаворыць ён да рабочага. — Не зважай. Працуй спакойна. А вы, грамадзянін, стрымлівайце свой язык!

Дзюбніглаз чухае ў сваіх лохмах і заклапочана нырае пад локаць Бірга.

Работа кіпіць. Ажывае старая майстэрня.

Досвіткамі перад варотамі спыняюцца дзве падводы. Арндт спазніўся. Яны з Бегельманам заклапочана бегаюць ад майстэрні да вазоў, дапамагаюць рабочым насіць мяхі. Нарастае тэмп работы, нарастае напор.

Два гатовыя апараты стаяць пасярэдзіне майстэрні на расчышчаных для гэтага пляцоўках.

На ўскраіне ў гэты час, навокал машын, акрытых брызентамі, і ўводдалі іх, у дазорах, стаяць з аружжам напагатове лётчыкі атрада. Узброеныя патрулі рабочых кружаць навокал пляцоўкі.

Начальнік авіяатрада ходзіць узад і ўперад у пакоі. Час-ад-часу ён падыходзіць да тэлефона, і тонкі голас зумера ледзь чутна азываецца ў майстэрні. Бірг бярэ трубку. Ён перагаварваецца з начальнікам.

Паступова праходзіць бялёсая раніца.

Абывалі гарадка ідуць на раку па ваду.

Прыязджаюць першыя падводы на базар. Гаспадары таўкуцца на пляцы насцярожанымі гурткамі.

І ад падваротні да падваротні чыноўнікі, гаспадыні, божыя старушкі, з вуліцы ў вуліцу, на базарны пляц, па ўсім горадзе, па ўсіх дамах, дзе толькі ні чакалі з радасцю востраверхіх касак акупантаў — чуткі:

— Чулі?

— Гоняць чырвоныя самагонку!..

— Хі-хі-хі! Перад пагібеллю!

— Абрабавалі ўночы фальваркі, родныя вы мае!

— І не кажыце, мамачка! Дзюбніглаз камандвае!

— Прыдзе пагібель, прыдзе. Немцы, казалі, ужо ў пяці вярстах...

— Нап'юцца... П'яным не так страшна паміраць. Для гэтага і гоняць.

— Пабяруць галубцоў і з арапланамі!

— Ого! Немцы! Куль-ту-ра!

— Пагібель ім будзе ўсім! Тэлеграфных слупоў хопіць!

— Па-гі-бе-ль!

Так прыходзіць дзень. Але неўзабаве чуткі заміраюць, ападаюць спуджаным шолахам. Цераз горад ідзе ўзвод чырвонаармейцаў. Гэта падмога ад петраградскага батальёна. Узвод зменьвае пасты, што стаялі двое сутак.

У майстэрнях кіпіць работа. Зусім гатовыя стаяць чатыры апараты. Дзюбніглаз уласнай рукой выпраўляе дробныя дэфекты. У катлах пачынае брадзіць рашчына.

Аб гэтым Бірг паведамляе начальніка па тэлефону.

І начальнік дыктуе тэлеграму.

У далёкім горадзе, у адным з пакояў вялікага дома, тэлеграфны апарат пачынае развінаць істужку. Тэлеграфіст запісвае на бланк:

> «Камандуючаму паўночнай групай. Прыняты канкрэтныя меры па здабыцці гаручага з мясцовых рэсурсаў. Вынікі будуць далажаны а дванаццатай гадзіне ўночы. Аперан».

У поўдні над краявідам рассоўваюцца воблакі. Выглядае нізкае і цьмянае сонца, затуманенае і непрыветнае. І тады людзі, што ходзяць па сцежках навокал машын, чуюць далёкі гул матора.

Да кулямёта кідаюцца два: Заяц і Дубінін.

Яны здзіраюць чахол. Істужка ўпраўлена. Кулямёт падрыхтаваны.

Дубінін глядзіць у бінокль. Тры стрэлы гулка ўсплываюць над лагерам. Нарастае гул матора.

— Дзе ён падзеўся?

Дубінін акідвае поглядам неба. То там, то тут яму здаецца чорная кропка. Але калі ён нацэльваецца на яе біноклем, — у лінзы ўціскваецца дакучная вата воблакаў.

Самалёт грыміць, набліжаецца.

Заяц прыпадае да кулямёта. Яго ўспаленыя ад бяссонніцы вочы выражаюць усю засцярожанасць, усю пільнасць падрыхтаванага, упраўнага стралка.

— Ён, відаць, маскуецца за воблакамі, — цэдзіць скрозь зубы Дубінін.

— Вось... ён... — адказвае Заяц.

Машына, шырока распластаўшы крыллі, як і ў мінулы раз, імкліва падае над пляцоўкай. Перакаты вінтовачнай страляніны пакрывае чоткая дроб кулямёта.

І шматгалосы крык разлягаецца на пляцоўцы.

— Па-а-а-дае!

Самалёт слізгаецца на крыло, матор сціхае, машына ныркае носам, робіць два віткі, і зноў прарываецца гул матора. У дзесятках метраў ад зямлі выраўніваецца самалёт. І тут канчаецца істужка ў Зайца.

Машына брэючым лётам, з нябачанай хуткасцю знікае ў полі.

Дубінін кладзе бінокль у футляр.

— Замаляваў ты яму, — гаворыць ён. — Добрая машынка «Альбатрос». От, падраў полем. Ах, завіруха закруціла.

Заяц, сціскаючы ручкі затыльніка, заваражана глядзіць налітымі крывёй вачыма ўслед самалёту. Потым рассоўвае ва ўсмешцы абсмяглыя губы.

— Другі-б не выкруціўся. Добры пілот, я табе скажу.

На ганку Бірг пытае ў начальніка:

— Ну, што ты скажаш?

— Ён прыляцеў праведаць, — кажа начальнік. — Яны ўсё-такі непакояцца, баяцца, каб мы не ўзняліся. Калі мы не ўзляцім назаўтрае раніцой — нас задушаць.

Бірг ідзе ў майстэрню.

Цяпер у майстэрні цёпла. Чатыры катлы з цэлай сістэмай медзяных трубак стаяць у рад. Кіслы, цёплы хлебны пах запаўняе пракураную майстэрню. Рэзкі смурод іржаўкі затушаваны, выціснуты гэтым дамавітым пахам сытасці і хмелю.

Бірг сцягвае свае вялізныя пярчаткі і адразу адчувае прыступ здрадніцкай млявасці, за якой звычайна пачынаецца сон. Ён абходзіць катлы. У праходзе паміж варштатамі, на зямлі, тлее невялікае вогнішча. Вакол яго сутуляцца тры постаці: Арндт, Бегельман і Міцька Дзюбніглаз.

Бірг прысланяецца да варштата. Ён не хоча ісці да вогнішча. Зморыць сон. Ён нахіляецца над варштатам... і...

... бачыць сябе ў паветры.

Пад ім калышацца шырачэзная зямля...

У святле паходняў вырысоўваецца сілуэт лёгкакрылага «Н'юпора». Каля яго капошацца людзі. Над маторам нахіліліся двое. Булькае вадкасць, уліваючыся ў бак. Спірт яшчэ цеплаваты, і калі пілот папраўляе замшу, праз якую працэджваецца вадкасць, яна мякка, масляна лашчыць руку.

Навокал адкопваюць снег. Некалькі чалавек стаяць пад прапелерам. Святло паходняў сціскае начная муць, яна душыць няпэўнае, дрыглівае святло, і лёгкакрылая птушка то вырысоўваецца ў чырвоным асвятленні, то зарываецца ў змрок.

Начальнік стаіць воддаль, па калена ў снягу. Зараз будзе вырашаны лёс авіяатрада. Зараз будзе спрабаваны спірт як гаручае.

— Запускаць? — чуе начальнік прыглушаны голас пілота.

— Давайце! — адказвае начальнік.

— Гэй, там, пад вінтом!

Некалькі секунд.

— Кан-такт!

— Ёсць кантакт!

Махае прапелер раз і другі. Зноў бяруцца за яго. І зноў не запускаецца матор. Начальнік да болю сціскае зубы.

Яшчэ раз...

І яшчэ раз у святле паходняў замаруджана мільгаюць лопасці вінта. І раптам...

Коратка фыркае матор. Людзі адбягаюць з-пад прапелера. Ён круціцца самастойна, бліскае вялікім празрыстым дыскам, мяце снег.

Яшчэ момант....

І матор узнімае гул з кожнай секундай, павышаючы

свой голас. І вось ён ужо раве на поўную сваю сілу, вые прапелер у начным паветры ў блеску і тумане ўзнятага снегу.

Матор працуе дасканала. Людзі спрактыкаваным слухам адрозніваюць рытмічную работу поршняў. Самалёт можа ісці ў паветра. І ён уздрыгвае, як нецярплівы конь, ён гатовы сарвацца з месца, разбегчыся і ўзляцець у ноч.

Але пілот глушыць матор. Сціхае гул. Толькі прапелер круціцца яшчэ ў воблаку снегу. Пілот спаўзае па крыле на зямлю і ідзе да начальніка.

— З перамогай, таварыш начальнік!

— Яшчэ рана, — гаворыць начальнік. — Прымі зараз-жа меры, таварыш Туманаў, да ачысткі пляцоўкі. Трэба падрыхтаваць машыны і запраўляць іх гаручым па меры паступлення яго з майстэрні. Усім быць у поўнай баявой гатоўнасці.

— Будзе зроблена.

Начальнік ідзе ў штаб. На парозе яго сустракае тэлеграфіст і падае паперку. І як толькі начальнік кідае погляд на яе, лёгкі румянец збягае з яго твару. Ён хутка ідзе да тэлефона.

— Майстэрня! — адказвае густы голас.

— Бірг! Нашы войскі знімаюцца з гэтага ўчастка. Камандаванне катэгарычна загадвае ўзмацніць падрыхтоўку да эвакуацыі. А першай гадзіне ночы адыходзіць петраградскі батальён, і мы пасля гэтага ўжо ў мяшку. Мы абсалютна адрэзаны. Зараз спробвалі спірт. Выдатныя рэзультаты. Патрэбна ўсямерна ўзняць выхад спірту. Больш нічога не застаецца. Усе сілы на гэта!

Некалькі секунд Бірг маўчыць. Потым зноў густы бас яго даносіцца з трубкі:

— Я думаю, патрэбна зараз-жа адаслаць узвод на злучэнне са сваім батальёнам, і зноў атрад рабочых майстэрні няхай займе пасты. Акрамя таго, патрэбна падрыхтаваць усе да адной машыны. Тады на запраўку пойдзе некалькі хвілін. Думаю, што да золаку мы ўправімся.

— Прымай усе меры да павелічэння выхаду спірту. Немцы прасоўваюць артылерыю, перайшлі ў наступ.

— Добра, я прыму меры.

— Колькі ў вас вёдзер?

— Вышла толькі чатыры яшчэ! Але выпуск павялічваецца. Самавары працуюць добра!

— Ну, усё!

Начальнік кладзе трубку і ідзе на пляцоўку. Там кіпіць работа. З машын зняты брызенты, машыны выстраены ў рад. Каля іх капошацца цёмныя постаці людзей, невыразныя ў святле паходняў. Ноч шчыльна абступіла асветленае кола пляцоўкі, замыкаючы ў ім рад крылатых машын і заклапочана перабягаючых людзей.

Начальнік абыходзіць машыны, пільна аглядае ўсё ў дробязнейшых дэталях. Дзве машыны стаяць крыху наперадзе іншых. Яны ўжо запраўлены гаручым, падрыхтаваны да лёту, могуць кожную хвіліну ўзляцець у чорныя, панурыя прасторы.

Цемра пагрозна абступае пляцоўку. Яна насядае на агні паходняў, імкнецца затапіць іх святло ў сваіх чорных хвалях, задушыць яго сваім цяжарам. Там, уночы, спешна адыходзяць чырвоныя часці і цераз некалькі гадзін знімецца з пазіцый петраградскі батальён. Застанецца адрэзаным атрад. Там, уночы, ідуць абыходным рухам калоны нямецкай дывізіі. Часткі чырвоных яшчэ здолеюць прарвацца, але атрад да раніцы акажацца ў шчыльным акружэнні ворага. Патрэбна дабіцца таго, каб на золаку, над ланцугамі праціўніка, на недасягаемай вышыні, з пераможным гулам матораў пайшоў авіяатрад, каб акупанты замест машын знайшлі-б на пляцоўцы толькі пакінутыя бляшаныя бідоны з-пад масла.

Але калі-б і зараз наблізіўся вораг да горада, калі ўзлёт машын, акрамя тых двух, стаў-бы немагчымым, і тады ворагі рэвалюцыі не ўбачылі-б яе машын. Толькі абгарэлыя кавалкі дрэва, скарэжаныя скруткі дрота і разбітыя кавалкі матораў знайшлі-б акупанты на гэтай пляцоўцы.

Выхад усё-ткі яшчэ ёсць. Шансы яшчэ захоўваюцца. Не павінна быць таго, каб давялося знішчаць машыны, як не будзе і таго, каб яны папалі ў лапы ворага. Кожныя поўгадзіны, можа цераз крыху большы адрэзак часу, становіцца ў строй аэраплан. На золаку ўсё будзе вырашана.

Так, думае начальнік, абыходзячы машыны.

А ў майстэрні Міцька Дзюбніглаз адводзіць убок Бірга.

— Ваш-шбродзь, — крыўляецца ён. — Га-спадзін палкоўнік! Дазвольце маленькую за жабры запусціць!.. Поўбаначкі кансервнай! Су-умна!

Бірг думае.

— Не давай яму, камісар! — крычыць з кута Арндт.— Можа ўпіцца кудлаты чорт!

— Гэта я ўп'юся? — крывіць твар Міцька. — Слаба ты ведаеш!

І зноў да Бірга:

— Вашбродзь! М-маленькую! Для паддачы ахвоты, для душы адвядзення... За жабры... Ва-ш-шбродзь!

Бірг, нарэшце, ківае галавой. Згаджаецца.

— З поўшклянкі ты, мабыць, і сапраўды не ўп'ешся. Што-ж! Я не супярэчу.

— Ого!

Міцька ўзрадавана хапае банку з-пад кансерваў, занурае яе ў вядро. Пазірае на банку і адлівае назад крыху гэтай сіняватай вадкасці. Міцька не хоча лішняга.

— Ваша здароўе, вашбродзь, гаспадзін палкоўнік!

І тут Бірг нечакана бярэ Міцьку за абшарпаны рукаў.

— Яны не ўбачаць! — шэпча Міцька і міргае ў бок рабочых. — Я хутка! Я за адзін секунд!

— Не ў гэтым справа, — адказвае Бірг, — пастаў сваю банку сюды, на варштат. Паспееш выпіць яшчэ, хопіць табе часу. Хадзі са мной на адну хвіліну.

І ён вядзе Міцьку за сабой, трымаючы яго за руку. Той ідзе баязліва, упіраецца, аглядаецца на бакі.

Яны спыняюцца ў цёмным куце.

— Слухай, як цябе...

— Дзюбніглаз, Міцька...

— Прозвішча... Прозвішча, пытаюся!

— Казлоў Змітра Філімонавіч.

— Мне здаецца, Змітра Філімонавіч: ты не ўсё разумееш, што навокал цябе дзеецца. Як ты думаеш, куды мы падзенем гэты спірт?

Міцька задаволена ўсміхаецца. Ён-то, ва ўсякім разе, разумее, куды падзене начальства спірт. Гэта ўжо не так і цяжка зразумець, хіба не гнаў Міцька для начальства самагонку і спірт, калі тут быў фронт імперыялістычнай вайны? Нават дамскую гарэлку з мятай гнаў Міцька для шпітальных сясцёр! Ого! Міцька ведае, што адказаць. І ён усміхаецца яшчэ больш задаволена.

— Навошта вам спірт?

Міцька выцягвае шыю і робіць інтэрнацыянальны жэст, зразумелы для алкаголікаў усяго свету. Міцька шчоўкае пальцам пад падбародкам і падміргвае.

Але твар велізарнага чалавека, зашытага ў чорную скуру, застаецца суровым.

— Ты не ўгадаў, — гаворыць ён. — Мы не царская афіцарня, Казлоў. І я не палкоўнік і не вашбродзь. Дзіўна, як ты гэтага не разумееш. Калі ласка, не ламайся.

Міцька прыкметна ўгасае.

— Нічога я не разумею. Для мяне што ні начальства, то ніжэй палкоўніка не велічаю. Калі меншае акажацца начальства — здаволена будзе за палкоўніка званне, а большае — не пакрыўдзіцца, чын не малы. Мне з вамі наогул дзяцей не хрысціць. Вы туды, я сюды. Вы людзі вайсковыя, а я чалавек цывільны. Патрэбна вам гарэлка — магу выгнаць, патрэбен спірт — дам і спірт, трэба новыя прылады зрабіць — зраблю. Міцька Дзюбніглаз усё патрапіць зрабіць, адно мікалаеўскую срэбную галаву каціце сюды на рабры! От што!

Міцька пераступае з нагі на нагу, і зноў твар яго расплываецца ва ўсмешцы.

— Дык я пайду, вашбродзь! Барачка застыць можа!

— Пачакай! — сурова кажа Бірг. — Цяпер паслухай, што я табе скажу.

І Міцька застаецца на месцы. Бірг апіраецца на рог варштата і пачынае гаварыць. Міцька перамінаецца з нагі на нагу, добрасумленна стараючыся захаваць на твары выраз увагі. Ён разумее, чаму гаворыць зараз з ім гэты чалавек. Ад няма чаго рабіць ён гаворыць! Ценькімі струменьчыкамі цячэ спірт з апаратаў, цэлая ноч яшчэ наперадзе. І вось гаворыць з ім гэты важны чалавек, які невядома чаму асабіста прысутнічае пры здабыванні спірту. Ён гаворыць з Міцькам ад няма чаго рабіць. Так іншы раз гаворыць чалавек з сабакам. Што-ж! Пацерпіць Міцька!

І Міцька перамінаецца з нагі на нагу, выразна пазіраючы ў той бок, дзе на варштаце стаіць банка з-пад кансерваў.

Але вось узнікае з гутаркі начальніка гэтага цікавая дэталь. Ён, аказваецца, не афіцэр. Аказваецца, яго бацька быў слесарам у дэпо ў Рыге. Аказваецца яшчэ, што камісар Бірг быў качагарам на паравозе, затым механікам, затым матарыстам, што ён толькі ў Чырвонай Арміі атрымаў права быць камандзірам самалёта. Гэта — цікава. Гэтага Міцька ніяк не чакаў. Можа паслухаць?

І Міцька адводзіць свой погляд ад кансервнай банкі. Ён пачынае слухаць.

У гэты пагрозны час, калі ідуць недзе ўночы на горад часці нямецкай дывізіі, калі нечалавечае напружанне застыла на тварах людзей там, на пляцоўцы, калі апараты, будзь яны пракляты, цэдзяць немагчыма тонкія цурочкі спірту, у якіх увесь выхад з пятлі, — суровы пілот Бірг расказвае п'яніцы, Дзюбніглазу, чалавеку, які згубіў нават сваё імя, апавядае гэтай закінутай і забітай істоце аб вялікай барацьбе пролетарыята з адвечнымі сваімі ворагамі і прыгнятацелямі. Аб тым, як узняўся высока чырвоны сцяг пролетарскай рэволюцыі над агромністай краінай, аб тым, якая зацятая, смяротная барацьба кіпіць у краіне, акружанай раз'яранымі ворагамі, апавядае пілот Бірг Міцьку Дзюбніглазу.

Моцны голас Бірга, яго суровае аблічча — прымушаюць слухаць. І Міцька слухае, слухае ўжо ўважліва. І чым далей, чым больш гаворыць Бірг, тым больш яскрава, больш выразна адчувае Міцька, што ёсць нейкая сувязь, ёсць нейкая ніць, нейкі масток паміж ім і гэтым вялікім і важным чалавекам. Нешта сваё тут ёсць, нешта роднае, нешта зразумелае. Што гэта такое?

І Міцька думае. І яго апухшы ад п'янства і хваробы твар становіцца сур'ёзным, чалавечым тварам. Міцька думае і, нарэшце, пачынае разумець, у чым агульнае паміж ім і камісарам Біргам. Ворагі ў іх агульныя! Хіба не ворагі для Міцькі таўстапузыя гарадскія купцы, якія мазалі не раз яго гарчыцай у карчмах і на рынках, якім вышукваў Міцька жывы тавар, якія заўсёды пхалі яго на зладзейства?! Не ворагам для Міцькі быў галоўны інжынер, важны пан, які адмовіўся заплаціць пасля смерці Міцькавага бацькі хаця тыя грошы, якія бацька зарабіў? Хіба не памятае Міцька, як ён малы, трымаючыся за матчын падол, ішоў па даўгім калідоры ўпраўлення майстэрнямі, як маці вёў за каўнер барадаты швейцар і кляўся апошнімі словамі тады, як плакала Міцькава маці! Хто-ж яго ўтаптаў у гразь, прымусіў поўзаць па дну, зладзействаваць, прасіць кавалак хлеба альбо красці яго? Яны, ворагі! Яны, таўстапузыя! І вось, гэты вялізны чалавек, надзвычайна дужы, надзвычайна разумны, большэвік, чырвоны лётчык, аказваецца — вораг для Міцькавых ворагаў, друг для Міцькі, і ў гэтым іх

сувязь, у гэтым яны разумеюць адзін аднаго. І Міцька адчувае радасць. Чаму не радавацца? Вялізнейшая ўзнялася сіла супроць заклятых Міцькавых ворагаў! Такія людзі вядуць барацьбу, як камісар Бірг, у іх машыны, у іх вінтоўкі і кулямёты, у іх мільёны байцоў і ўсе яны — ворагі для Міцькавых ворагаў. Як тут не ўзрадавацца?

Але Міцька прыпамінае некаторыя абставіны, і пануравецца галава Міцькі! Позна, позна, Міцька Дзюбніглаз! Позна ты пачаў думаць! Позна ўзвялі цябе на шлях!

І Міцька аглядае чорную, абкураную сцяну. Водбліскі агню бродзяць па ёй, і касматая, расшохраная, несуразная постаць Міцькі калышацца і ўзнімаецца часам аж пад самым скрыжаванні рэек пад столлю, дзе некалі была трансмісія.

— Ці разумееш ты, аб чым я гавару? — пытае Бірг.— Хіба зусім ужо загасла ў цябе класавая свядомасць, таварыш Казлоў? Ты-ж пралетарый, у гэтай-жа самай майстэрні працаваў твой бацька! Мне расказалі аб табе многа ўжо! Хіба не здолееш ты, Казлоў, устаць на барацьбу, хіба так цябе засмактала дрыгва? Таварыш Казлоў!

Таварыш Казлоў! Хто і калі так зваў чалавека, прозвішча якога — Міцька Дзюбніглаз!

— Разумею я,— ціха адказвае Міцька.— Усё разумею цяпер я!

І яшчэ ніжэй ён нахіляе галаву.

— Дык сказаць табе, навошта нам спірт? — пытае Бірг.

І ён расказвае аб тым, як у ціскі варожага акружэння папаў чырвоны авіяатрад, аб тым, што зараз, магчыма ў дзесяці-пятнаццаці кіламетрах ад горада, галопам ідзе нямецкая конніца, набліжаецца з кожнай хвілінай вораг.

Бірг расказвае далей аб тым, як спірт ульюць у бак самалёта, як у цыліндрах атрымаецца рабочая сумесь, як атрымаецца ўспышка, як ад гэтага рухнецца поршань, як узвые прапелер, пабяжыць машына, адарвецца ад зямлі і паляціць. Паляціць атрад на страх ворагам, паляціць на службу пралетарскай рэвалюцыі!..

І тады здзіўленне, а потым непадроблены страх з'яўляецца на твары Міцькі.

— Дык гэта... значыць... я... Дык гэта мой спірт?!..

— Так. Ты! Вялікая на цябе ўскладзена адказнасць, таварыш Казлоў!

Міцька адступае на крок і разводзіць рукамі.

— Яшчэ два вядры! — абвяшчае Бегельман.— Хлопцы, хадзіце несці!

— Зразумеў, таварыш Казлоў?

— Зразумеў! — гэтак-жа ціха, як і раней, адказвае Міцька. — Як-жа не зразумець... Тут... Усё зразумела.

І ён стаіць перад Біргам нахілены, як-бы плечы яго ацяжарвае адказнасць, якую ўсклаў на яго камісар Бірг. Вельмі мала ўсё-ткі думаў над сваім жыццём, і зусім, зусім не думаў над жыццём другіх Міцька Дзюбніглаз!

— Ну, дык спяшайся, брат! — гаворыць Бірг, канчаючы гутарку.

Цераз поўгадзіны Міцька ідзе да варштата, на якім стаіць банка з-пад кансерваў. На варштат абапёрся Бірг. Міцька бярэ банку, падыходзіць да апарата і вылівае спірт у вядро.

— Чаму ты выліваеш? — мякка гаворыць Бірг.— Выпі, пагрэйся, ад гэтага вялікіх страт не здарыцца!

Міцька глядзіць на Бірга. Што ён, смяецца, ці што?

— Ну, не, брат! — гаворыць Міцька, нарэшце. — Гэтага я не зраблю, хаця-б мне тут і смерць прышла!

Ён кідае пустую банку на зямлю. Ён робіць парывісты крок да Бірга.

— А як табе гэтай поўшклянкі няхопіць у матор? Гэтае... у цыліндру няма чаго будзе пхнуць на пяць сажняў даляцець?! А я вып'ю, ды ўсё гэта на вугал? А ты з-за воблакаў, ды каменем на зямлю?! Так, ці што?!

І Міцька чакае, што скажа Бірг. А той — маўчыць.

І тады Міцька хапае Бірга за рукаў.

— Вось, ты... Вочы мне адкрыў... Адкрыў вочы, а нутро ў мяне гнілое. Позна мне ўжо... Сілы няма, камісар! Ты чалавек, ты за ўсіх змагаешся, а я і за сябе самога змагацца не мог, а пра другіх і думаць не думаў. Загубіў я сябе... Як бацьку зарэзала паравозам, ад той пары не ўстаў з гразі, са шмарамі ды з гарэлкай загубіў сябе я, камісар!.. Позна мне!.. І хвароба ў мяне, от што!.. Я толькі магу здохнуць... Толькі... здохнуць...

Міцька задыхаецца. Пасля таго, што ён сказаў, не адважваецца ўзяць камісара за руку, дакрануцца да яго. Міцька адступае на крок і ўзмахвае рукой,

— Спірт найлепшы дам... Ляці, камісар! Бі пузаноў, крывасосаў, сцерваў! Найлепшы спірт, на ветры гарэць будзе... Ляці, камісар! Не бойся! Не здасць Міцькаў спірт!.. Калі-б карысць была, крыві-б сваёй, гэтай гнілой, я ў спірт даў-бы, жыцця не пашкадаваў-бы я, камісар!.. Шкода... Позна мне...

І вось — плача Міцька Дзюбніглаз. Па васпаватых апухшых шчоках цякуць струменні слёз. Сатрасаюцца плечы Міцькі і нахіляе ён галаву. І тады — моцная рука сціскае яго руку, і моцны, цвёрды голас гаворыць да яго:

— Ніколі не позна, Казлоў, узяць у рукі аружжа і стаць у строй! Усё можна паправіць!

— Міць-ка-а-а! — разлягаецца ў глыбі майстэрні. — Хутчэй сюды!

Міцька ацірае слёзы і напоўбегам накіроўваецца на голас.

— Ну, і варона-ж ты! — чуе Бірг нечакана мяккі і дакорлівы голас Міцькі. — Так, братуха, не спірт, а квас будзе. Дроў многа класці нельга, брага пойдзе. Лёду хутчэй давай!

— Яшчэ адно вядро! — разлягаецца голас Арндта.

Бірг стаіць, абапёршыся на варштат.

Якімі ты далей шляхамі пойдзеш, Міцька Дзюбніглаз?

У напружанай рабоце праходзяць апошнія гадзіны ночы. Паўстаюць у змроку белыя цені, досвіткі зараджаюцца ў золкім тумане. Ціха. Ветру няма. Адліга стаіць.

Ад майстэрні ідзе група людзей. Наперадзе размашыста крочыць Бірг. За ім маўкліва ідуць рабочыя майстэрні, сярод якіх Арндт і Бегельман. Ззаду ледзь паспявае Міцька. Ён беражна нясе поўнае вядро сіняватага, маслянiстага спірту. Гэта апошняе вядро, і гонар несці яго Міцька не саступіў нікому.

— Ну, вось,— гаворыць Арндт.— Яшчэ крыху, і ўсё скончана. Мы яшчэ не ў такіх пераплётах бывалі. Правільна, Бегельман?

Бегельман усміхаецца і пахлопвае Арндта па плячы.

У гэты момант гул матора даносіцца з пляцоўкі. І калі яны падыходзяць да лагера, першая машына выходзіць на старт. Міцьку накіроўваюць да аднаго з самалётаў. Ён падае вядро лётчыку і адыходзіць убок, не зводзячы воч з самалёта. Ён першы раз у жыцці бачыць на зямлі спакойнай і нерухомай гэтую вялізную птушку. Ён, Міцька, выканаў сваю задачу, знята адказнасць з яго, адна за

адной зрываюцца з месца машыны і, перавальваючыся, няспрытныя на зямлі, рухаюцца па пляцоўцы, выходзячы на лінію старта. Ён, Міцька, адыграў тут не малую ролю. Гэта ён ажывіў машыны, ён не спаў дзве ночы, гэта ён пільнаваў, як сваю кроў, кожную кроплю спірту.

Віхрыць прапелер апошняй машыны. Міцька зрабіў сваю справу і можа адыйсці ўбок. Да таго-ж яшчэ пад вінт патрапіш... І Міцька адыходзіць убок.

— Дзе-ж камісар? Развітацца-б хаця з ім? — з тугой думае Міцька і азіраецца.

— Самалёт! — крычыць адзін з рабочых, прабягаючы міма, і паказвае ўгору. — Самалёт там!

Міцька разумее. Схаваны ў знобкіх туманах раніцы недзе над лагерам пралятае варожы нямецкі самалёт. Яны, ворагі, наступаюць!

Трымаючы вінтоўкі наперавес, міма прабягае група рабочых. У аднаго з іх — дзве вінтоўкі.

Насустрач ім бяжыць адзін, высокі, і вымахвае рэвальверам.

— Хутчэй! — крычыць ён.— Хутчэй, нямецкая кавалерыя ў горадзе! Заслону ад шасе! Абараняць пляцоўку!

Міцька пазнае гэтага чалавека. Гэта Бегельман.

Рабочыя кідаюцца за Бегельманам. І на адзін момант, на адну толькі секунду затрымліваецца Міцька. У наступную секунду ён ужо зрываецца з месца, бяжыць ззаду за рабочымі і наганяе таго, што нясе дзве вінтоўкі.

— Дай вінтоўку!

— Навошта?

— Дай, у цябе дзве... Ну, дай, чорт! Давай сюды!

І Міцька з сілай вырывае з рук рабочага вінтоўку.

— На шасе! — крычыць ён на бягу. — Усе на шасе! Уварвецца кавалерыя!

Міцька некалі ваяваў у акопах імперыялістычнай вайны. Ён ведае вінтоўку, яго не здзівіць бой. Умее яшчэ ваяваць Міцька Дзюбніглаз. Яшчэ не позна стаць у строй, як сказаў камісар!

— Усе на шасе! Самалёт над горадам!

Людзі бягуць адусюль. Тут амаль усе рабочыя майстэрні. Міцька бяжыць ужо наперадзе іх і пападае ў віхор прапелера адной з машын. Ён на адзін момант, на адно толькі мгненне бачыць шырокія плечы пілота і здагадваецца, што гэта Бірг. Пілот махае рукой.

Рабочыя дабягаюць да шасе. У гэты момант чуе Міць-

ка дробны грукат конскіх капытоў, бачыць, як вырваўся з вуліцы ў шалёным галопе атрад людзей на рослых конях. Людзі прыгнуліся да конскіх шый, храпуць коні, грымяць падковы, хлёсткія флажкі трапечуцца на піках баварскіх уланаў. Яшчэ атрад! Яшчэ атрад вырываецца з вуліцы. Блізка! Блізка!

На момант азіраецца назад Міцька і бачыць: адарвалася ад паверхні пляцоўкі апошняя машына атрада.

— Па нас-ту-па-ючай ка-ва-ле-рыі! — камандуе Бегельман.

Міцька прыпадае шчакой да прыклада. Ён ловіць у прорэзь шырокія грудзі пярэдняга каня.

— Плі!

Коратка штурхнула вінтоўку. Гэта стрэл.

А што гэта?! Што гэта?! Чаму воблакі ўнізе?! Чаму стала цёпла на грудзях?! Чаму-ж, чаму так лёгка і прыемна Міцьку па празванню Дзюбніглаз?!!

У гэтую хвіліну пад крылом пярэдняй машыны начальніка з шалёнай хуткасцю праносіцца награмаджэнне гарадскіх дахаў. Аэрапланы, набіраючы вышыню, робяць другі круг, узбоч горада, і калі пралятаюць над шасе, бачыць начальнік, як на белай шасейнай істужцы разбягаюцца, рассыпаюцца жвавыя кучкі людзей і коней. Гэта, збітая залпам, адыходзіць у бязладдзі назад баварская конніца.

Начальнік вызначае курс. Ён бачыць, як ззаду выраўноўваецца атрад. Машыны плаўна ідуць у бялёсай муці раніцы, упэўнена грымяць маторы. І тут заўважае начальнік, як Бірг крута заварочвае і выходзіць са строю.

— Назад! У строй! Назад, Бірг! — сігналізуе начальнік, разумеючы, у чым справа.

Машына Бірга рэзка ўзмывае ўгару.

Нямецкія ланцугі, што рухаюцца на горад, чуюць пагрозны гул у паветры. У страху разбягаюцца салдаты, хаваючыся па лагчынах і ямах, па канавах дарог, чакаючы згубнага кулямётнага агню і бомб згары. Але сілуэты машын праносяцца высока і хутка і знікаюць у напластаваннях туманаў.

Так, усюды ўносячы паніку і замяшанне, высока над варожым фронтам праходзіць чырвоны авіяатрад.

Цераз некаторы час машыны робяць шырокі і спакойны круг над вялікім горадам. І адна за адной садзяцца

яны на аэрадром. І перш чым паспявае начальнік вылезці з кабіны, да яго машыны падбягае Заяц.

— Загінуў, відаць, Бірг. Ты заўважыў управа ад нас «Таубе»?

І перш чым начальнік паспявае адказаць, перш яшчэ, чым падбягаюць да машын людзі з аэрадрома, якія лічылі атрад даўно загінуўшым, у малочна-белым небе, воддалі, вырысоўваецца самалёт.

— «Сопвіч» Бірга!

Машына робіць апошні заход, і вось ужо навісаюць яе лыжы над утаптанай снежнай паверхняй аэрадрома. Самалёт бяжыць па снягу. Бірг рулюе да атрада. Нарэшце — спыняецца.

Начальнік бачыць шырокія, крутыя плечы Бірга, які намагаецца ўстаць. І ўбачыўшы, як цяжка ўстае ён, апіраючыся рукамі аб барты кабіны, і балюча горбіць пры гэтым плечы, начальнік разумее, што Бірг ранены ў нагу.

Так, праз напластаванні гадоў і падзей заглянуў Сяргей Пятровіч у мінулае. І не бледныя цені далёкіх і мёртвых дзён прайшлі перад яго вачыма, а вечна маладое кіпенне жыцця ў напружанні жывых мускулаў і цвёрдай волі палам барацьбы дыхнула яму ў твар.

Некалькі нязвыклым быў пераход з марозных палёў грамадзянскай вайны ў гэтую залу. І яшчэ доўга ўспрыймаў Сяргей Пятровіч знешнюю абстаноўку, як ілюстрацыю да сваіх успамінаў, дум і адчуванняў. Стракат праекцыйнага апарата нагадваў стук таго абмарожанага «Юза» ў далёкім гарадку. Аксамітная цемра, што рассечана струменем святла, была ценню, далёкім падабенствам цёмнай ночы, у якой блукае, абмацваючы воблакі, струмень пражэктара, ловіць у свае светавыя цянёты адзінокую машыну ў надхмарнай вышыні.

Усё гэта было там, далёка... Але ці-ж меншай сілы, ці-ж меншай упартасці і самаадданасці патрабуе сучасны этап барацьбы, дадзены ўчастак сацыялістычнага фронту?

І рэальнасць уцвярдзілася ў сваіх правах, і Сяргей Пятровіч правёў простую і непарыўную лінію ад гарадка В. да гарадка Б., ад 1918 года да першага года другой пяцігодкі.

Напрыклад, вясна. Над горадам, прыбраная ў зоры, нахіляецца зараз ноч. Калі ўстане сонца — на рыштаванні ўзыйдуць будаўнікі. Якімі звонкімі бываюць галасы іх высока над вуліцамі, пад ранішнім сонцам! Якім пераможным бывае покліч сірэн і гудкоў нашых заводаў, калі ціхімі яшчэ вуліцамі спяшаюць на голас іх рабочыя дзённых змен. Якім высокім тэмпам б'ецца творчы пульс нашых гарадоў і якім ажыўленым бывае вячэрні адпачынак, калі ў горадзе гаспадарыць ударніца-вясна. Такой радаснай бывае яна толькі ў нашай краіне.

Вясною нястрымна буяніць пад ветрам цёмная зеляніна калгасных масіваў. У ясныя вясновыя вечары, калі гасне малінавая зара, мяккі вецер прыносіць з палёў нямоўчны гул машын, заглушаючы лірычнае турканне жаб, дашчэнту знішчаючы зялёную тугу вячэрніх палёў. І да новай зары не сціхаюць галасы людзей і машын на палях...

Так паўстае перад вачыма Сяргея Пятровіча жыццё, так вырысоўваецца профіль вялікай будаўнічай эпохі. І разумее Сяргей Пятровіч, што радасныя вёсны будаўніцтва — гэта барацьба, прасякнутая сонцам, не менш зацятая, чым у акопах, не менш пагрозная і руйнуючая для варожых класаў, чым грандыёзны штурм пад незмаўкаемую кананаду. Яна змяніла твар краіны, яна змяняе чалавечы матэрыял...

У гэткім-жа кіпенні, у гэткім-жа напружанні сіл усталі перад вачыма Сяргея Пятровіча сённешнія дні, як і заснежаныя тыя ночы 1918 года. І не зазнаў Сяргей Пятровіч гаркавага смаку тугі, бо прыходзіць яна тады, калі чалавек ізаляваны ад калектыва, калі ён адзінокі на ўсім сваім жыццёвым шляху, і як аб цяжкой страце, думае ён аб днях сваёй маладосці. Але той, хто ўліў кроплю сваёй істоты ў магутны паток калектыва, — той ніколі не будзе адзінокім і ніколі не будзе старым. У гэтым невычэрпным патоку сіл — заўсёды зарад маладой энергіі атрымае чалавечая адзінка.

Так перайшоў Сяргей Пятровіч з гарадка В. у горад Б., з 1918 года ў першы год другой пяцігодкі. Быў Сяргей Пятровіч на адным участку барацьбы, апынуўся на другім. І ад гэтага паглыбілася адчуванне віны за сённешні прарыў, за сённешнія памылкі.

Пагас экран. Святло заліло залу.

Сяргей Пятровіч у вялікім сціску павольна рухаўся да дзвярэй, не спушчаючы воч з нахіленых плеч вялізнага пілота. Дагнаў Сяргей Пятровіч яго ўжо на вуліцы. Чалавек ішоў размераным важным крокам, заклаўшы рукі за спіну, глядзеў сабе пад ногі і нешта, відаць, думаў. І такім незвычайна вялізным быў ён, зашыты ў чорную скуру, магутны і спакойны ад захаванай у ім сілы, што ўсе, хто праходзіў міма яго, аглядаліся ўслед. А пілот усё ішоў і ішоў, ні на што не зважаючы.

Сяргей Пятровіч абагнаў яго і крануў за рукаў.

— Бірг.

Ён убачыў блакітныя пятліцы, знакі вышэйшага камандавання на іх, ён убачыў матава-белы твар з цвёрдай рыскай губ, з крутым падбародкам, суцэльны зараснік брывей і пад імі — нязвыклую сінь воч. Гэта — Бірг.

А той спыніўся, углядаючыся ў Сяргея Пятровіча, і не мог успомніць, дзе іменна бачыў ён некалі гэтага маленькага чалавека. І вось ледзь прыкметна ўздрыгнуў халодны твар Бірга, і сінь вачэй праяснела цяплом.

— Гэта начальнік? — спытаўся ён. — Гэта Аперан? Сяргей?!

— Дык чаго-ж ты стаіш поўгадзіны, каланча? — крыкнуў Сяргей Пятровіч.

І тады вялізныя рукі Бірга схапілі Сяргея Пятровіча за плечы. Так заўсёды меў прывычку вітацца Бірг.

— Не веру! — крыкнуў Бірг. — Не веру! Ты, Аперан?

Хістаючыся, як цявінка, у магутных руках Бірга, Сяргей Пятровіч упэўніўся, што Бірг застаўся тым-жа самым: ад стану панурага спакою надзвычайна лёгка пераходзіў ён да вялікай узбуджанасці.

— І от ад той пары, як паправіў нагу — не злез я з пілоцкага сядзення. Зараз камандую эскадрылляй. Цяпер не тое, цяпер, ты сам ведаеш, інакшая работа на машынах...

Бірг заглянуў у твар Сяргею Пятровічу і рассмяяўся.

— Гэта не тыя парусінавыя туфлі, на якіх мы з табой узляцелі ў свой час на спірце! Ад той пары мы і не бачыліся. Пакуль я выбраўся з шпіталя, цябе перакінулі на другі фронт. Я часта сустракаў у тэхнічнай літаратуры тваё імя, але аб табе — не падумаў.

Бірг адкінуўся на спінку лаўкі.

— Выветрываецца ўсё пакрыху з памяці. Дробныя

дэталі цяжка запамінаюцца. Вось добра, на ўсё жыццё запомніў цябе, а як ты выглядаеш, забыўся. Адно ведаю, што ты малы. Хэ-хэ-хэ!

Бірг кінуў акурак. Ён апісаў парабалу ў цёмным паветры і рассыпаў іскры на пяску дарожкі.

— Атрад зрабіў пасадку на вашым аэрадроме. Заўтра ідзем далей. Я пайшоў у горад і от... сустрэча. Я рад, Сяргей!

— Слухай, Эрнст. Мне помніцца, ты тады прышыў гэтага «Таубе»?

— Прышыў. І самае цікавае тут у тым, што на месцы лётнаба аказаўся на ім Руніч. Гэта ўстанавілі потым. Ён наводзіў машыну на месца нашага лагера. Наогул, карысным для немцаў аказаўся на той час. І... заплаціў па векселю, які табе пакінуў. Цікава, праўда, Сяргей?

— Цікава, Эрнст... Надзвычайна цікава! — задумана адказаў Сяргей Пятровіч. — Я так і думаў, што калі-небудзь давядзецца расплачвацца. Вексель аказаўся кароткатэрміновым. Добра, Эрнст.

— Добра, — згадзіўся Бірг. — Бясспрэчна, добра!

Абодва змоўклі.

На цёмным небе было шмат зор і толькі на краявідзе, далёкім і невыразным, паўзлі чорныя воблакі.

А мажліва — гэта быў туман. Горад сціхаў. Па дарожках скверу праходзілі рэдкія пары, і абрыўкі галасоў даносіліся выразна і звонка, па-начному. Сяргей Пятровіч запаліў сярнічку. Прыкурыў.

— Я цябе ўбачыў у кіно. Паглядзеў і думаю: што гэта за морж? Гляджу, — ты. Гэткі дзядзя ты ў нас адзін на ўвесь Саюз. Больш я нідзе нічога падобнага не бачыў. От, вынесла-ж цябе, брат ты мой! Я раней, прыпамінаю, заўсёды дзівіўся, як усё-ткі такая далікатная машына, як тагочасныя самалёты, — магла цябе ўзняць у паветра. Ведаеш што?.. Пакуль ты глядзеў на экран, я ва ўсіх дробязях успомніў тое, што адбылося з намі ў кастрычніку восемнаццатага года...

Сяргей Пятровіч змоўк. Яны сядзелі зноў моўчкі, прыслухоўваючыся да начнога шуму горада.

— Я быў у тым гарадку потым, калі адкаціліся немцы, пасля Брэста ўжо, — сказаў Бірг, — і аб некаторых з нашых даведаўся.

— Ну?

— Бегельман расстраляны немцамі. З ім разам яшчэ

адзін комуніст, рабочы. Памятаеш, можа, высокі такі? Катлы ён склёпваў і цярпець не мог нашага інжынера Дзюбніглаза... Інжынер наш таксама загінуў. Калі мы ўзляталі, немцы, калі памятаеш, уварваліся ў горад, і кавалерыя спяшыла на пляцоўку. Рабочыя арганізавалі заслону ад шасе. І я на ўзлёце на самым бачыў Міцьку ў апошні раз. Ён бег з вінтоўкай наперадзе ўсіх. Да гэтай пары добра памятаю яго... Урэзаўся ў памяць ён мне. Хутка знайшоў сваё месца сын пролетарыя... Добры хлапец з яго вышаў-бы, не сумняваюся.

Бірг памаўчаў.

— А ў мінулым годзе ў Севастопалі нечакана сустрэў я Арндта. Ён мяне пазнаў і схапіў за руку на вуліцы. Першым-жа яго словам было: «А памятаеш?»

Бірг задумёнпа засмяяўся.

— Ён сказаў мне: «А памятаеш, як мы з Бегельманам... Памятаеш, што мы з Бегельманам прыдумалі? Гаварылі-ж мы з Бегельманам, што выведзем вас у людзі!» І мы з ім успомнілі Бегельмана. Моцны быў комуніст, сапраўдны рэволюцыянер-рабочы!.. Арндт кіруе зараз буйнай гаспадарчай арганізацыяй на поўдні Саюза.

І Бірг змоўк на хвіліну і потым пахлопаў Сяргея Пятровіча па плячы.

— Прайшло пятнаццаць гадоў, і мы з табой сустрэліся. Прыгожае жыццё, Сяргей! Паглядзіш навокал, удыхнеш у сябе паветра — гадоў не адчуваеш за плячыма! Маладое паветра наша, Сяргей!

І Бірг сапраўды ўдыхнуў у сябе паветра, удыхнуў прагна, усімі шырокімі сваімі грудзьмі.

— Э-э-эх! Чорт!

І зноў весела і зычна рассмяяўся Бірг.

— Мяне ва ўпадніцтве дагэтуль не абвінавачвалі, Эрнст. Але я табе магу пазавідаваць. Моцны ты. Загартаванасць твайго класа ў цябе стопроцантная. І я думаю, не здарыцца з табой такога прарыву, такога вывіху, які, напрыклад, сёння здарыўся са мной. Ты добра сшыты, Эрнст. А я, што там ні гавары, — усё-ткі інтэлігент.

— Ты, я бачу, не пакінуў яшчэ калупацца ў сабе, — засмяяўся Бірг.

— Пачакай, Эрнст. Самаправерка патрэбна для мяне, як для кожнага комуніста. І ў тым выпадку, калі цёмныя, індывідуальныя сілы перамагаюць мяне і я губляю сувязь з калектывам, гэта асабліва неабходна. Сёння я,

Эрнст, не магу пахваліцца сваёй вытрыманасцю. Ты мяне ўважліва паслухай.

І Сяргей Пятровіч расказаў Біргу аб ты, што з ім здарылася, пачынаючы ад таго моманту, калі ён увечары вышаў на балкон. Бірг слухаў уважліва, не азваўся ні словам, нават не крануўся.

— Законная рэч пасумаваць крыху, калі адчуеш ты, што не ўзляцець табе ўгору, што згубіў ты сілу кіраўніцтва машынай. Ты-ж ведаеш, якім я быў пілотам? Я зрастаўся з машынай, я адчуваў вібрацыю яе сваімі нервамі, я лётаў так, як-бы крыллі машыны былі маімі крыллямі. І тут выяўляецца, што я ўсё згубіў. Прычын для гэтага было шмат і перш за ўсё — узрост. Але аб прычынах мы не будзем гаварыць. Мы будзем гаварыць аб тым, што вышла. А вышла тое, што я страціў усе перспектывы, усю арыентыроўку, я адразу адарваўся ад усяго, што мяне акружае, што мне дорага, за што я змагаўся і змагаюся, я паглыбіўся ў сябе і прышоў да вываду... Ну, як-бы табе сказаць... Карацей кажучы, такое адчуванне было, што ад мяне як-бы нешта незаслужана адабралі, сілай вырвалі маю сілу... Ты ведаеш, што гэта азначае? Гэта мешчанін забунтаваў.

Сяргей Пятровіч пасунуўся бліжэй да Бірга.

— Няхай цябе гэта не здзіўляе, Эрнст! Забунтаваў мешчанін, абражаны згубай сваёй маёмасці. Ён не хацеў, ідаць, аддаць яе рэвалюцыі, і калі ўсё-ткі неяк аддаў яе, то пачуў сябе абражаным! Ён пачаў крычаць, што яго абрабавалі. От што здарылася са мной! Я не падумаў, што партыя дала мне сілу стварэння машыны, што я патрэбны ёй, што я павінен да канца служыць ёй! Ашалелы мешчанін дзіка закрычаў аб тым, што яго абрабавалі! Разумееш, Эрнст? Я аддаў свае сілы, не ўсе, а частку іх, на барацьбу! І калі пачуў іх некаторую растрату — патрабаваў іх назад! Ці-ж гэта не агідна? Гэта недапушчальна для комуніста, Эрнст! Тым больш, што на справе большую сілу дала мне партыя, чым я аддаў ёй!

Сяргей Пятровіч памаўчаў.

— Калі я сёння ў кіно ўспомніў кастрычнік восемнаццатага года, зразумеў, што змяніліся этапы, а барацьба засталася той-жа самай, — я здзівіўся. Я не пазнаў сябе ў вобразе начальніка атрада. Там я спраўляўся з работай на не менш важным участку. Тут на тых-жа пазіцыях не спраўляюся. Так ганебна сарвацца, як сёння, —

гэтага нельга было чакаць! Эпоха будаўніцтва і перапрацоўкі чалавечага матэрыялу аказалася мне не па плячу. Мне патрэбны рамонт. Я не вытрымаў іспыту ў новай, складанай абстаноўцы.

Сяргей Пятровіч узяў Бірга за плячо.

— Ты зразумей, якая сіла ў калектыве, Эрнст! Не згубіцца ні адзін чалавек, кожны будзе на сваім месцы! Калі ён патрэбны калектыву — яму нават дзіцянё пакажа месца і кірунак. І я заткнуў горла мешчаніну. Але пачуццё таго, што я парушыў сваю ўнутраную дысцыпліну комуніста, засталося. Гэтага я не магу сабе дараваць.

Неба выразна зелянела на ўсходзе. Зоры павольна гаслі. Над краявідам яснела белая палоска, павольна разрасталася і шырылася адценне блізкай зары на начным небасхіле.

— Я не мог самастойна адшукаць пункт апоры, каб выбрацца з прарыву. І дрэнна тое, што не разумеў я, дзе яе шукаць. Пункт апоры — калектыў. А я шукаў яе ў сабе ўнутры, дзе нічога не было, акрамя пратэсту акцыянера-мешчаніна. Гэты пратэст быў афарбованы ў мяккія таны лірыкі на рамантычнай грунтоўцы. Тут былі думы аб паветранай героіцы, аб высокім мастацтве лёту. Я, да сораму свайго, не мог успрыняць нутром той простай праўды, што калі ты прышоў служыць партыі, — аддай ёй усяго сябе, да кроплі, дарэшты, ідзі нага ў нагу з іншымі, куды вядзе яна. І калі перамагае калектыў — значыць, перамагаеш і ты, і ў гэтым тваё адчуванне жыцця і твая поўнакроўная радасць. А я... прад'явіў іск на проценты па... акцыях. І бачыў, што гэта злачынства, і не знаходзіў пункта апоры для таго, каб стаць цвёрдай нагой на цвёрдую глебу і заткнуць мяшчанскае горла!

Сяргей Пятровіч змоўк. Маўчаў і Бірг. І так яны сядзелі доўга. Потым Бірг ледзь прыкметна варухнуўся.

— Пункт апоры... Іменна ў калектыве пункт апоры... — сказаў ён. — У цябе сапраўды сур'ёзна было. Вывіх! Ты пункт апоры ўсё-ткі знайшоў. Гэта не дрэнна. Але ўнутранай капаніны ў цябе шмат. І істэрыкі крыху ёсць. Памятай. Не выбрацца-б нам тады з таго гарадка, каб не рабочыя майстэрні, каб не калектыў. Памятай, Сяргей! Уся сіла ў калектыве! І яшчэ я напомню табе...

Бірг выпрастаўся, падабраўся. І мужны, густы голас яго ўрачыста сказаў у начной цішы.

— «Нам істэрычныя парывы не патрэбны. Нам патрэбен мерны поступ жалезных батальёнаў пролетарыята».

Гэта сказаў Ленін. І ты аб гэтым памятай. Ты мужны чалавек і вялікай волі. Ты ўмееш змагацца, і ты дысцыплінаваны. Добра, што ты правяраеш сябе, добра, што ты вучышся, маючы сівыя валасы, Сяргей! Я гэтаму рад. Але памятай аб небяспецы істэрыкі і залішняй капаніны! Толькі з пазіцый сувязі з калектывам патрэбна зыходзіць, непарыўнай, арганічнай сувязі. У гэтым — уся сіла. І ты атрымаеш мерны поступ высокай, большэвіцкай чаканкі!

І Бірг падаў руку Сяргею Пятровічу.

На ўсходзе святлела ўсё больш.

На ўскраіне горада, на высокім пясчаным беразе, яны развіталіся. Бірг пайшоў вузкай сцежкай, што вілася над ракой, і хутка знікла яго постаць у хмызняку. Сцежка вяла на аэрадром. Сяргей Пятровіч застаўся на месцы. Тут шырокая пляцоўка разбівалася пад гарадскі сад. Правільнымі радамі былі рассаджаны маладыя дрэўцы, ляжалі кучы бочак і будаўнічых матэрыялаў. Былі зусім гатовы толькі лаўкі, пафарбаваныя на зялёнае, і на адну з іх прысеў Сяргей Пятровіч.

Сонца ўжо ўзышло. Іскрылася срэбрам рачная плынь, і толькі пад супроцьлеглым крутым берагам ляжала глыбокая, зялёная засень. Свежая зеляніна палёў размахнулася ўдаль на тым беразе суцэльнымі масівамі. Гэта былі землі прыгараднага соўгаса. Ужо ішла ўгору сакавітая зеляніна яравых. А на самым краявідзе, далёка, — сінелі лясы, і над усім узнімалася сонца.

Улева ад таго месца, дзе сядзеў Сяргей Пятровіч, — раскінуўся велізарны горад. Над ім слаўся дым высокіх заводскіх комінаў, блішчэлі тысячы вокнаў, глухі, нутраны гул даносіўся адтуль. І вось убачыў Сяргей Пятровіч, як на рыштаванні новага элеватара, на велізарную вышыню, пачалі ўзбірацца рабочыя. Яны былі далёка, толькі бясформнымі кропкамі выдаваліся людзі, але Сяргею Пятровічу здавалася, што ён чуе іх галасы над ранішнім горадам, пад вясновым сонцам.

Сяргей Пятровіч не адыходзіў з пляцоўкі. Ён хацеў паглядзець на ўзлёт атрада, ён хацеў праводзіць Бірга.

І хутка паблізу разлёгся магутны гул. Пераможна раўлі маторы. Сяргей Пятровіч паглядзеў у бок аэрадрома, але атрад з'явіўся з другога боку. Машыны ішлі пра-

вільным касяком, у стройным ладзе, яны забіралі шыро-кі поўкруг над горадам, увесь час ідучы вышэй і вышэй. Паветра дрыжэла ад грому матораў, паблісквала сонца на крыллях машын, віхрылі ў бляску прапелеры.

Сяргей Пятровіч глядзеў на пярэднюю машыну, на флагман атрада. Там, у кабіне, спакойна сядзіць ссутулены Бірг і паглядае на стрэлкі прыбораў. Так ён і сядзіць, як прыкуты, гэты Бірг, гэтая каменная глыба.

Атрад зрабіў поўны круг над горадам, узяў курс і пачаў аддаляцца. Стройна ішлі металёвыя птушкі, сонца блішчэла на крыллях іх, і высокі, пераможны гул матораў, гул, як музыка, стройны і горды, плыў над горадам, аддаляўся флагман, крыху пакалыхваючыся на барты, лавіў сонечны бляск на свае крыллі.

А Сяргей Пятровіч стаяў на зямлі і глядзеў на гэтую чараду сталёвых птушак, што ляціць у сіні неба, у полымі сонечных праменняў, насустрач гэтаму палаючаму дыску. Ён быў захоплены вольным лётам машын, ён, як спецыяліст, адчуваў, як чотка працуюць механізмы, якая гэта гордая і магутная сіла ляціць высока над зямлёй...

Так стаяў Сяргей Пятровіч і глядзеў угору. І не было ў яго ранейшага тужлівага адчування ад усведамлення таго, што не пазнае ён больш радасці лёту, адчування ўлады над машынай, калі яна паслухмяна падпарадкуецца кожнаму руху рукі. Сяргей Пятровіч адшукаў пункт апоры. Ён стаяў цвёрда на зямлі, гэткім-жа ўпэўненым быў, як некалі ў паветры. У суровай рабоце, у цішы чатырох сцен кабінета, будзе яшчэ доўгія гады працаваць Сяргей Пятровіч. І калі прыдзе такі час, што над граніцамі Краіны Сацыялізма з хрыплым гулам, пабліскваючы металёвымі пузамі, з'явіцца зграя драпежнікаў, з зямлі Саветаў узнімуцца ім насустрач чароды крылатых машын для таго, каб высока ў паветры, над рубяжамі двух светаў даць рашучы бой ворагам, раскідаць іх, знішчыць, збіць на зямлю, не пусціць у прасторы сваёй краіны. І там, сярод тых машын з чырвонымі зоркамі на крыллях, што з гнеўным рыканнем узляцяць насустрач ворагу, там, у чародах гэтых сталёвых сокалаў — будуць машыны канструкцыі інжынера Аперана.

Для гэтага ён доўгія годы будзе хадзіць па кабінеце ад сцяны да сцяны, будзе вылічваць і вымерваць, падпарадкаваць сваю фантазію суровай навуцы формы і па-

меру, і чарцёжнае пяро ў руках большэвіка будзе не менш пагрозным для ворага, чым штурвал паветранага карабля.

Сяргей Пятровіч углядаўся ўдаль. Але ўжо не відаць было роўнага касяка машын. Яны расталі ў сонечным бляску, у сіні шырачэзнага неба. Тады Сяргей Пятровіч прыслухаўся. І здалёк, як дальняе курлыканне пералётнай жураўлінай стаі, данеслася музычнае гранне матораў.

*1933 год,*
*лістапад.*

## *Паляўнічае шчасце*

Увечары Лаўрэн і Мікола выпушчалі коней на двор. Шырокія вароты стайні расчыняліся тады наўсцяж, і па калідоры паміж стойлаў, грукаючы капытамі, з надзвычайным форсам выгнуўшы сваю шыю, першым ляцеў да дзвярэй невялікі мышасты жарабок. У варотах ён на момант спыняўся, патрасаў грывай, фукаў у ноздры, усхрапваў і з месца даваў такі галоп, што Мікола, які стаяў звычайна ля варот і кожны дзень бачыў гэткія фокусы, нязменна ўскрыкваў:

— Ах, ты-ж, мяшок травяны!

А мышасты-ж жарэбчык у гэты час ужо выбрыкваў на выгане за поўвярсты ад стайні, і Мікола, не адводзячы вачэй ад яго зграбнага лёту, крычаў:

— Пушчай, дзядзька Лаўрэн!

— Ага! — даносілася з цёплага поўзмроку стайні, якія церпка пахнуў конскім потам, гноем і сенам. Лаўрэн ішоў у кут і адкладваў папярэчыну ў стойле гнедай маладой кабылкі. Кабыла выбягала са стайні, і гэтак-жа, як і мышасты, на момант стрымлівалася ў варотах і, пераступаючы ценькімі, стройнымі нагамі, уцягвала ў сябе марознае, вячэрняе паветра. Высокае, залівістае іржанне даносілася з выгану. Кабыла ўзмахвала галавой, і праз момант яе стройнае, даўгое цела пласталася ў імклівым лёце, ахутаным воблакам снежнага пылу.

— Самалёт! — у захапленні крычаў Мікола.

— Каб не засеклася! — гучэў з нутра стайні Лаўрэнаў голас. — Снег нямелкі... Каваная на ўсе чатыры!

Ён адчыняў па чарзе адно стойла за другім. Кудлатыя пярэзімкі, прысадзістыя, няскладныя жарабяты прыплоду гэтага года, якія памяталі яшчэ мяккае вымя і цёплы бок маткі, гуртом, доўга цясніліся ў варотах. Яны былі кволымі ў сваім дзіцячым узросце, нясмелымі і нязручнымі ў рухах. Яшчэ толькі ўзгадоўваўся конь, яшчэ быў неўмацаваны арганізм, раслі яшчэ і наліваліся магутныя мускулы будучага работніка. І таму, у большасці сваёй спакойнымі, нязграбнымі былі жарабяты, і гэта ім даравáў нават Мікола.

Лаўрэн адчыняў стойлы, і на дварэ з'яўляліся рабочыя коні. Старыя брылі спакойным, дружным натоўпам на выган. Рабочы-ж маладняк, наадварот, назлом галавы ляцеў туды, дзе на снежным прасторы выгану бушавалі мышасты жарабок і гнедая кабыла. Рознагалосае іржанне, усхрап, ценькі зазлаваны піск разлягаўся ў паветры.

Потым са стайні выходзілі маткі. Яны асцярожна брылі па снягу, доўга тапталіся на месцы, старанна абнюхваючы снег, і калі, нарэшце, пачыналі качацца, дык нават і ў гэтым прасочвалася баязнь пашкодзіць жыццю, што вырастае ўнутры і ўвясну ценькім, доўганогім, звонкагалосым жарабёнкам з кучаравай грыўкай і хвастком будзе ўжо знадворку апірацца і штурхаць у бок маткі.

Прыглядаючыся да таго, як качаюцца маткі, Мікола разважаў прыкладна так:

— І што ты ні кажы, а жывёліна, брат, разумее сваё таксама! Ці ты бачыў калі, дзядзька Лаўрэн, каб конь кусануў, альбо, скажам, убрыкнуў жаробную кабылу? Далікатнасць, дзядзька Лаўрэн, і жывёліна мае. Ужо на што шэльма, гэты мышасты! Проста злодзей, а не жарабок! А ніколі матку не зачэпіць. Разумная жывёліна — конь

У гэты час, звычайна, Лаўрэн выпіраў са стайні тоўстага і грузнага буланага каня. Ён заўсёды заставаўся апошнім, рухі яго былі маруднымі і морда нібы заспанай. Калі яго Лаўрэн гнаў па калідоры са стайні, конь злаваўся, уцягваў ноздры, стульваў вушы і стараўся завярнуць то ў адно, то ў другое адчыненае стойла. Калі Лаўрэн забягаў яму наперад, буланы з нечаканай хуткасцю заварочваў назад. Гэта быў стары конь. Ён не меў ніякага жадання гойсаць па выгане і супраціўляўся Лаўрэну, наколькі ставала характару. Выходзіў буланы са стайні толькі тады, калі бачыў, што чалавек пайшоў

у кут шукаць дубца. Перакрочыўшы парог стайні, буланы адразу валіўся ў снег і, не спяшаючы, са старэчай разважнасцю, пачынаў качацца. Калі з дубцом у руках, распараны і зазлаваны, з'яўляўся на парозе Лаўрэн, усё было ў парадку.

— Ужо заваліўся, воўчае мяса! — казаў Лаўрэн. — От-жа хітрая падла, от лянівая шкапіна, каб ты здох! I як гэта людзі мелі на такой свінні хлеба здабываць!

Мікола, які да ўступлення ў калгас быў гаспадаром буланага каня, адчуваў сябе крыху абражаным. Ён вылязаў на памост, атрасаў снег з ног і казаў:

— На гэтым кані тышчу пудоў можна павезці. Гэта вазавы конь, на ім ластавак не лавіць.

Але ў Лаўрэна ўжо сунімаўся гнеў. Ён знімаў сваю зайцавую шапку, рукавом аціраў з лысіны пот і адказваў:

— Што дужы конь, то гэта праўда. Закурым, ці што, Мікола?

Інцыдэнт быў ліквідаваны. Абодва стаялі на памосце, перад дзвярыма стайні, і курылі. У гэты час цямнелі польныя далі, краявід зліваўся з шэрымі сценамі наўкольных лясоў. Канчаўся кароткі зімовы дзень. Чарнелі платы і сцены хат, і голыя дрэвы садоў. Па сцежцы, міма стайні, ішлі за вадой жанчыны. Звінелі і бразгалі вёдры, і звонка пераклікаліся жаночыя галасы.

З комінаў хат да панурага неба ўзнімаўся белы дым. Адыходзіў дзень.

Лаўрэн вытрасаў люльку і старанна зацiскаў попел нагой. Потым апраўляў бараду і пытаўся ў Міколы:

— Ці будзем вывадзіць варанога?

— Каб-жа Васіль падышоў, — адказваў Мікола.

Тады Лаўрэн хітра падміргваў з-пад сівога брыва.

— Прыдзе! Калі ўжо Алена пайшла за вадой, дык Васіль зараз тут будзе. Ого!

— А хіба ўжо Алена ішла?

— А хіба ты не бачыў?

— А чаму я павінен абавязкова за Аленай глядзець? Мне адна бяда — ці Алена, ці варона.

I Мікола ішоў у стайню па ўздзечку з выглядам поўнай абыякавасці, а Лаўрэн хітра яму ўслед усміхаўся. Васіль, старшыня калгаса, меў сардэчныя дачыненні да Алены, і гэткія-ж дачыненні меў да яе і Мікола, а Лаў-

рэн лепш за ўсіх гэта ведаў, бо былі яны ўсе найлепшымі сябрамі.

Мікола выходзіў са стайні і разбіраў павады вуздзечкі.

— Кусліва ты чалавек, дзядзька Лаўрэн, — казаў ён. — Нехта язык табе падмазвае.

— Кусліва, як там кусліва, але што навокал дзеецца, дык бачу. У мяне паляўнічае вока. А вунь і Васіль ідзе.

Сапраўды, той-жа сцежкай, міма стайні, якой прайшла да ракі Алена, ішоў і Васіль. Гэта быў шырокаплечы, ладны хлапец. Ён здалёк яшчэ, як толькі вышаў з вуліцы, махаў рукой.

Тады Мікола адчыняў другія, значна меншыя дзверы стайні, і адразу разлягаўся пагрозны ўсхрап.

— Ну ты, гад! — крычаў Мікола, вымахваючы вуздзечкай.

Яны хутка, адзін за адным, уваходзілі ў стайню, і цераз некалькі хвілін рослы вараны жарабок вылятаў на двор, і на ім, учапіўшыся за вуздзечку, віселі па баках Лаўрэн і Мікола. Жарабок біў нагамі, усхрапваў і квічэў. Бархацістая, ценькая скура, якая ільсніла глянцам, уздрыгвала працяглымі хвалямі дрыжыкаў. Хмарай разляталася чорная раскошная грыва. Дзікія вочы звера з крывавымі бялкамі выпукляліся на сухой, гарбаносай мордзе, і пена пузырылася ў кутах пагрозна ашчэранай пашчы. У жарабка быў віслы зад, шырокія, магутныя грудзі і гэткая-ж магутная шыя. Жарабок памыкаўся стаць дыбам, біў нагамі, узмахваў галавой, але двое людзей віселі на ім, учапіўшыся за вуздзечку, і ўпіраліся, колькі было сіл.

— Ч-ч-чорт! — хрыпеў Лаўрэн.

— Г-гад! — выў Мікола. — Трымай, дзядзька Лаўрэн, у дым разнясе...

Але ў гэты момант падбягаў Васіль. Ён чапляўся за холку і ў вокамгненне ўзлятаў на каня. На момант жарабок сціхаў, застыгаў у адрантвенні, адчуўшы невымоўную абразу.

— Пушчай! — крычаў Васіль.

І тады Мікола з Лаўрэнам адбягалі прэч. Жарабок спачатку ўзнімаўся на дыбы. Потым — магутны скачок уперад і шалёны галоп. Доўга віўся ценькі снежны пыл па сляду шалёнай скачкі.

— Чорт на чарту і паехаў, — гаварыў Мікола. — Гэта трэба наперад з мамкай развітацца.

— Натое чалавек у кавалерыі служыў, — адзываўся Лаўрэн. — Натое чалавек і зграбны. Глядзі, Алена ідзе.

— Цьфу! — адказваў Мікола. — А мне да гэтага якая справа? Хай сабе ідзе.

Лаўрэн працягваў усміхацца. Ён ведаў, што Васіль ніколі не сядзе на жарабка да тае пары, пакуль Алена не ўзнімецца на ўзгорак ад рэчкі. Гэта быў манеўр, якім забіраў Васіль у палон дзявочае сэрца. І гэта, з другога боку, было вузкім месцам Міколы, бо ён ніколі не адважваўся не толькі аб'язджаць жарабка, але падыйсці да яго ў адзіночку. Такім чынам Васіль забіваў адразу двух зайцоў. І яшчэ таму ўсміхаўся Лаўрэн, што быў задаволены жарабком, лепшым канём у ваколіцы. У калгасе жарабок лічыўся канём Чырвонай Арміі, і яго выпеставаў Лаўрэн. Вараны жарабок быў для Лаўрэна пытаннем гонару.

Праходзіла міма Алена з поўнымі вёдрамі вады, і Мікола ў гэты час быў асабліва заняты тым, што падмятаў памост. Коні збіраліся да варот стайні ў прадчуванні вячэрняга корму. Лаўрэн і Мікола ішлі ставіць коней. Усё больш гусцеў змрок. У хатах запальваліся агні. Тады прыязджаў Васіль і потнага, угамаванага варанога доўга вадзілі на паваду перад тым, як паставіць яго ў стойла.

— Хутка паспрабваем запрэгчы, — гаварыў Васіль, агладжваючы жарабка.

Потым коням давалі корм. Потым прыходзіў начны вартаўнік з ліхтаром і калатушкай. Тады Лаўрэн, Мікола і Васіль выходзілі са стайні. У хатах ужо ясна гарэлі агні. Ужо зімовая ноч ляжала на зямлі.

І ўжо час быў адпачынку.

Улеце тут засень ад глухіх зарасляў лазняку, чаромхі, крушыны, вольхі і хмелю, што наглуха сшывае гушчар сваімі цопкімі ніцямі. Зялёная засень ляжыць на ціхай вадзе амутоў, мочыць у вадзе гнуткае вецце лазняк, паўзе да вады, выцягваючы свае парасткі, хмель. Ад таго, што на абодвух крутых, абрывістых берагах непрахадзімы гушчар і суцэльнае спляценне зяляніны — вада ў рацэ зімная, выдае зялёнай, рака не перасыхае, і ў амутах праз цэлае лета можна лавіць шчупакоў, якія ў сваім на-

сцярожаным, паляўнічым адрантвенні не чуюць, як падсоўваецца да драпежнай морды ценькая пятля з конскага воласу. Зрэдку трапляюцца сюды і брухатыя, пудовыя самы, паўзуць па самым дне, завальваюцца ў амуты і сядзяць там у суседстве з карчамі, нагульваючы на прыволлі тлушч. Галавень, лешч, акунь тут буйны, адкормлены.

Берагі ў рацэ абрывістыя, слізкія, ключавыя, небяспечныя, амуты глыбокія, вада зялёная, гушчар непрахадзімы, і ад таго тут шмат рыбы, што чалавеку цяжка даступіцца да вады. Нельга выцягваць на берагі невад, няспрытна ўпраўляцца з вудамі. Толькі адзін Лаўрэн з калгаса «Іскра соцыялізма» адчуваў сябе гаспадаром на гэтым участку ракі. Але пра яго наўкольныя рыбакі казалі так:

«Лаўрэн — вадзяны чорт. Ён валавяны гузік на нітку начэпіць і выцягне на дзесяць фунтаў шчупака».

З гэтага відаць, што ў рыбалоўстве Лаўрэн стаяў па-за канкурэнцыяй. І не толькі ўлеце гаспадарыў у рачных зараслях Лаўрэн, але і ўзімку часта наведваў ён раку, з той толькі розніцай, што замест вуды ці астрогі — трымаў у руках стрэльбу. Гэта была аднаствольная пістаноўка, перарobленая з дапатопнай крамнёвай стрэльбы. Ствол у яе быў даўгі, гранёны і мушка папросту нябачаных была памераў. Гэтаю стрэльбай Лаўрэн не асабліва быў здаволены і аб якасцях яе апавядаў наступныя гісторыі:

— Ішоў я на золаку па рэчышчы. Так. Сонейка яшчэ далёка, туман па зямлі пацягвае... Гляджу — сядзіць пад кустом, сукін сын, заяц, вочы вылупіўшы. Так. Я, значыць, стрэльбу з пляча. Сядзіць... Я, значыць, злажыўся... Сядзіць. Ну, думаю, што рабіць? Блізка занадта, адна сапля ад зайца застанецца. Аднак, думаю, з краю вазьму, далікатна. К-а-алі змазаў! Толькі снег стоўпам угару, як ад бомбы. Падыходжу, гляджу: галава прэч, ногі прэч, кішкі вон і тут табе і ўсё... Я-б гэтую фузію даўно змяняў-бы ці прадаў, але вось, капіталаў нехапае. Гэта старая качарэжына, даўнейшая. Тады і звер быў вялікі, і народ, мусіць, дужы быў, што мог з гэтакай штукі ўзапар страляць. Як дасць другі раз у пляча — з ног далоў збівае. І заяц дагары нагамі, і ты дагары нагамі. Кацярынінскі самапал... Адным канцом на ваўка, другім на стралка...

Тэхнічны бок справы кульгаў у Лаўрэна. У асноўным-жа паляўнічым ён быў добрым.

Узімку рака мае інакшы выгляд. Яе наглуха забівае снегам. Цэлыя гурбы снегу ляжаць на кустах, звешваюцца з берагавых абрываў. Снег усюды белы, сыпкі, неба гэткае-ж малочна-белае, шчыльна кладзецца на ўскрай берагоў, і калі чалавек трапляе ў рэчышча, яму здаецца, што трапіў ён у нейкі інакшы свет, на інакшую планету, дзе бель снегу ўгары і ўнізе і ўрачыстае маўчанне зімы.

Але ў гэтым белым свеце ёсць цікавае, непрыкметнае на першы погляд жыццё. Сюды прыходзіць звер. Тут шнырають тхары, гарнастаі, шкалдыбаюць зайцы, крадуцца лісы, тут поўна ўсялякага дробнага звера, і нават, часам, трапляе ў рэчышча разважны воўк. І нават не адзін, а больш іх прыходзіць шукаць спажывы. Зацішна ў рацэ, кожнаму звяру прытулак.

І вось, са стрэльбай у руках брыдзе па рэчышчы, разгадваючы мову слядоў, Лаўрэн.

Ён бачыць:

Прыходзілі ўначы пажывіцца горкай крушынай асцярожныя зайцы. Яны ўзнімаліся на задні лапкі, стаялі стаўпкамі, грызлі мёрзлую кару, перабіраліся з куста ў куст, ныраючы пад снежныя шапкі гурбаў, што ляжаць на спляценнях гушчару, і пакідалі за сабой несуразны след. Калі глядзіш на яго, здаецца, што ішоў звярок на пяці лапках.

Крыху ў бок ад зайцавага следу лёг чоткі, роўны след: лапа за лапу. Гэта падкрадвалася да зайцоў лісіца. Яна балансавала пушыстым хвастом, падрыхтоўваючы пружкі скок, усё яе цела было наструненым, выцягнутым, падрыхтаваным. Вось тут яна стаяла, магчыма, дзесяткі хвілін, чакаючы таго, пакуль захоплены смакам крушыны шэры камок неасцярожна падкоціцца бліжэй. Адгэтуль — скачок. Далей ідзе блытаніна заячых і лісічых слядоў і вось, на завароце ракі — развязка. Аб ёй сведчыць чырвона-бурая пляма на снягу і рэдкія кавалачкі шэрага пуху.

Роўненькая сцежка дробных слядкоў прашыла раку ад берагу да берагу. Гэта бегла звычайная мыш-палёўка. А з боку гэтага следа — двайны след. Гэта імкнуў услед за мышшу люты драпежнік тхор. Лаўрэн ідзе і

бачыць глыбокі, грузны след. Гэта бухнуў пад абрыў непаваротлівы воўк. Ён меў на ўвазе ўсіх: і лісаў, і зайцоў і, магчыма, меркаваў падыйсці рэчышчам пад калгасную абору, адкуль нясе сытным мясным духам і адкуль даносіцца кволае бляянне ягнят.

Жоўтыя чарвячкі з белымі галоўкамі — гэта памёт цецеравоў. Сядзелі грузныя, шэрыя і сінія птушкі на гнуткім вецці маладога беразняку, вольхі і асінніку, адшуквалі, выглядалі ў гушчары крывава-чырвоныя кроплі змерзлых ягад каліны, якія колерам сваім падобны да колеру грэбняў адважных цецеравіных самцоў. Густая сетка дробных птушыных слядоў сведчыць аб тым, што тут нядаўна дружным шэрым табунком прабягала стада курапатак.

Усё бачыць Лаўрэн. І на ўсё па-свойму рэагуе. Ён правярае пасткі каля нор тхароў і гарнастаяў, нахіляецца і асцярожна, здалёк, аглядае капкан на ліса. Капкан ужо засыпаны снегам. Ён аглядае сляды курапатак і мяркуе пра сябе, угадваючы месца, дзе яны павінны зараз знаходзіцца. На месцы пагібелі зайца ён доўга стаіць, аглядаючы чырвона-бурую пляму, ківае галавой і ўпоўголаса лае лісіцу.

У Лаўрэна своеасаблівыя метады палявання ў рэчышчы. Ён кліча сабаку і накіроўвае яго на след толькі тады, калі выберацца з ракі. Лаўрэн заўсёды прыносіць з палявання зайцоў, удаецца яму і на птушку, трапляе Лаўрэну ў рукі і ліс, і тхор, і гарнастай. І бывалі выпадкі, што сядзеў Лаўрэн уночы і на ваўкоў у гэтым-жа самым рэчышчы, толькі бліжэй да вёскі меркаваў ён пакласці прыманку. І калі прыходзіў галодны звер, бліскаючы фосфарам вачэй, — гучна біла стрэльба Лаўрэнава, і гаспадар начнога поля падаў на бок, адбегшы з дзесятак крокаў. Падаў з шырока раззяўленай пашчай і ў сударгах агоніі, у спазмах распачлівага і бездапаможнага гневу — звонка шчоўкаў зубамі, угрызаючыся ў снег.

Лаўрэн быў старым і ўпраўным паляўнічым. Даводзілася яму забіваць усялякага звера. Але ўсё-ткі не быў здаволены Лаўрэн. Ён чакаў нейкага незвычайнага паляўнічага шчасця. Аб гэтым ён так і гаварыў:

— Кожны лавец павінен мець сваё шчасце. Кастусь Цыбук у чатырнаццатым годзе мядзведзя забіў. Хто

мядзведзя ў нас бачыў? Няма такога чалавека ў нашай ваколіцы, дробналессе ў нас. Ад дзядоў толькі байкі пра мядзведзяў чулі. А Кастусю — мядзведзя паднесла. Чалавеку шчасце ў руку. Апанас, што Гарлачом завуць, у мінулым годзе рысь запаляваў. Палясоўшчык Ахрэм колькі куніц і выдраў здабыў! Вось яна, удача! А я зайцоў гэтых, мусіць, тысячу перадушыў не адну, лісы там зрэдку трапляліся, барсукоў капаў, ваўка ўдавалася ўзяць — і ўсё. Адна драбяза. Праўда, вяпра падбіў яшчэ змоладу. Але і тады гора нацярпеўся, што і не рады быў. З панскім аб'езчыкам ледзь да суду не дайшло, даказваў, што з-пад яго стрэльбы вяпра ўзяў. Добра, свае хлопцы падтрымалі, адвялі бяду. Ці-ж гэта ўдача? У дзіравым карабе я, відаць, радзіўся...

Але здарылася вось што.

* * *

Аднаго разу марознай раніцой брыў Лаўрэн па сыпкім снягу на шырокіх лыжах-снегаступах. Уставала сонца, палымнела на ўсходзе пурпуровая зара, яе ружовыя блескі ляжалі на ўскраях абрываў берагоў і на буграх гладка абмеценых гурбаў. Толькі на самым дне рэчышча, дзе брыў Лаўрэн, снег быў сталёва-сінім, і гэткай-жа была калматая інь на кустах.

Мароз быў моцным. Здавалася, у паветры праносяцца яго празрыстыя іглы і балюча колюць у твар. Лаўрэн замерз і без усялякага задавальнення выняў з пасткі застыглы трупік тхара. Звярок быў задушаны сталёвай хваткай капкана. У апошнім капкане Лаўрэн таксама знайшоў тхара.

— Нічога сабе. Паглядзець лісіную пастку, ці што? — падумаў Лаўрэн.

І вырашыў ісці далей. Там, на завароце ракі, у закругленні амута, пад кустом, старанна замаскаваны, стаіць лепшы капкан Лаўрэна, падрыхтаваны для ліса. Ён накіраваўся туды. Не даходзячы з дзесятак крокаў, Лаўрэн спыніўся, як урыты, і скінуў стрэльбу з пляча.

Варухнулася сэрца...

У капкане сядзеў ліс. Попельна-руды звер, пушысты і прыгожы, распрасцёрся на снягу мяккім бездапаможным комам. Узвёўшы курок, Лаўрэн падыходзіў бліжэй, але хутка ўбачыў, што звер мёртвы. Ён браў прыманку,

і сківіцы капкана змыкнуліся, сціснуўшы горла. Ліса сустрэў лёс тхароў.

Лаўрэн забыўся на мароз. Ён завіхаўся над капканам, не адчуваючы таго, што да жалеза прыклейваюцца пальцы і знобкі холад абпякае іх. Нарэшце, звер быў вызвалены, і Лаўрэн, трымаючы за карак, устрахнуў яго на выцягнутай руцэ.

— Серабранка! Удача!

Сапраўды, цераз хрыбет ліса цягнулася шырокая, блакітна-сярэбраная пасма і ценькаю ніццю гублялася ў хвасце. Звер быў пышным у сваім дасканалым, зімовым уборы.

— Удача! — паўтарыў Лаўрэн і пачаў завязваць лапы для таго, каб было зручна несці. Ён нахіліўся над зверам і выпадкова кінуў кароткі погляд пад куст. Глянуў і так і застаўся стаяць углядаючыся. Пад кустом была нара. Невялікая, круглая дзірка ззяла чарнатой, слаба замаскаваная ў хворасце. Але не яна прыкавала ўвагу Лаўрэна. Ён глядзеў на незвычайны след, на цэлую дарожку, якую вытаптаў звер.

— Гусіная лапка! — прашаптаў Лаўрэн.

След сапраўды быў падобны да гусінай лапкі.

— Мацерая! — уздыхнуў Лаўрэн. — Як-жа я гэта не бачыў!

Доўга стаяў пад кустом Лаўрэн, доўга абмяркоўваў. Потым, уважліва аглядаючы абодва берагі, пайшоў далей па рацэ. Ён не абмінуў поглядам ніводнай нары, ніводнага следа, ніводнай рыскі на снягу, ніводнай шчыліны ў лёдзе. І так прайшоў ён блізка кілометра і гэтак-жа павольна, аглядаючы берагі, звярнуўся назад. Потым ён накіраваўся ў адваротным напрамку, дайшоў да самых калгасных гародаў і зноў звярнуўся назад да нары.

І тут Лаўрэн падагуліў вынікі сваіх пошукаў:

— Не іначай — няма ў яе інакшага выхаду, як гэты.

У блытаніне вялікіх і малых слядоў, у ямах пад абрывамі, у гушчары кустоў, — больш не было следа, падобнага да гэтага. Звер выходзіў на недалёкую адлегласць; прабіраўся паўз бераг, крыючыся пад навесам кустоў, да шчыліны ў лёдзе, і гэткім-жа парадкам звяртаўся назад. З гэтага Лаўрэн і зрабіў свой вывад.

І яшчэ некалькі хвілін стаяў Лаўрэн над нарой, раздумваючы.

* * *

Апоўдні міма жанчын, якія мылі бялізну на рацэ, прайшоў Лаўрэн. Ён накіроўваўся некуды ўздоўж рэчышча і трымаў пад пахай абцёсанае бярозавае палена, на адным канцы якога было накручана рыззё. Адна з дзяўчат, аціраючы змерзлыя рукі аб падол, крыкнула ўслед Лаўрэну:

— Куды ты, дзядзька Лаўрэн, пайшоў!

Лаўрэн паказаў палена і зазлавана прабурчэў:

— Ты, сарока, не ўтыкайся, куды не трэба. От што! Чалавек цябе не чапае, і ты чалавека не чапай!

І пайшоў, набаўляючы кроку. Быў Лаўрэн прысадзісты, каржакаваты стары. Не гледзячы на шосты дзесятак гадоў, быў у яго румянец ва ўсю шчаку і белы часнок здаровых зубоў, хаця барада сівела дымам.

Моцным і лёгкім быў Лаўрэн, і зараз хутка ішоў ён па рэчышчы, і снег, сыпкі ад марозу, абсыпаў яго ногі.

Марозная, ціхая ноч плыве над зямлёй. Ясныя зоры гараць на чорным небе. Іх шмат, і святло іх рознастайнае. Адны маленькія, але выразныя, чоткія кропкі на густа-чорным тле прабіваюць ноч ценькімі струменьчыкамі белага святла. Іншыя, больш буйныя, праменяць жаўтаватае святло. І адну зорку бачыць Лаўрэн буйнейшую ад усіх. Яму здаецца, што яна круціцца з шалёнай хуткасцю, яна то набліжаецца да зямлі і павялічваецца ў сваіх памерах, то адыходзіць далей, прашывае ў сваім лёце натоўпы іншых зор і робіцца меншай, далёкай, потым звяртаецца назад і зноў прыцягвае да сябе погляд чалавека нязвыклым сваім бляскам і памерамі.

Плыве ноч над зямлёй, маўчыць аснежаная зямля, спіць шырокая даль палёў, і ўрачыстая ціш, звонкая і чуткая, суправаджае павольны лёт ночы.

Лаўрэн сядзіць у кусце. Пацiскае мароз. Лаўрэн адчувае, як залязае пранiклiвы холад у валенкі, прабіраецца вострымі струменьчыкамі за аўчыну кажуха і рукавіц. Лаўрэн утульвае галаву ў плечы, але баіцца паварушыцца. Гэта немагчыма. У гэтай цішы выразным здаецца нават серабрысты звон іні на змерзлых кустах. А грубы чалавечы рух — грымоты для чуткага звярынага вуха.

Там, пад кустом, насупроць, тая самая нара, якую знайшоў сёння Лаўрэн. Адтуль на лёд выслізгнецца даўгое, гнуткае звярынае цела. Гэта выдра. Звер спыніцца, прынюхаецца да паветра, прыслухаецца насцярожана, гатовы кожную хвіліну кінуцца назад, у нару. І калі ўсё будзе ціха, спакойна ўночы, выдра, нязручна перавальваючыся на сваіх кароткіх лапах, будзе краспіся паўз бераг, хаваючыся пад кустамі, што навіслі над ракой і ўмерзлі ў лёд. Яна дойдзе да той шчыліны, што зігзагам расшчапіла лёд. Там ляніва булькоча вада. Выдра ўціснецца ў шчыліну, нырне ў амут і там, у поўнай цемры, звярыным нюхам адшукае і схопіць вострымі зубамі абамлелую рыбіну. Потым заплешча зноў вада, і са шчыліны на лёд выслізгнецца зноў доўгае, вужачае, гнуткае цела выдры. Зноў прыслухаецца, прынюхаецца звярок і, калі ўсё будзе ў парадку, той-жа сцежкай накіруецца назад.

Але гэтага не будзе чакаць Лаўрэн. Ёсць адзін момант, які патрэбна скарыстаць без промаху, інакш назаўсёды знікне асцярожная выдра. Гэта тады, калі яна выйдзе з нары і будзе прынюхвацца і прыслухоўвацца. Тады хуткім, бяззычным рухам ускіне Лаўрэн сваю стрэльбу, якая цяпер з узведзеным курком ляжыць на каленях, і сустрэне чалавека яго паляўнічае шчасце...

Прынясе Лаўрэн выдру дадому. Ільсняная каштоўная скурка будзе некаторы час вісець пад сталяваннем у яго хаце, як дыплом яго паляўнічага майстэрства, як пасведчанне нязвыклай удачы. І будуць зайздросна гаварыць наўкольныя паляўнічыя:

— Павязло Лаўрэну з «Іскры соцыялізма». Выдру забіў!

Але не толькі ў гэтым справа. Ёсць яшчэ матывы, з-за якіх сядзіць тут адзін, уночы, Лаўрэн. Але гэта звязана ўжо з тым новым, што ўвайшло ў істоту Лаўрэна. І аб гэтым — гутарка ўперадзе.

...Раз было так. Прывёз Лаўрэн разам з іншымі калгаснікамі хлеб, у чырвоным абозе, у горад. Гэта было ў мінулую восень. Начавалі ў «Доме калгасніка». У вялікай зале чыталі ўголас газеты, і да аднаго з гурткоў падсеў Лаўрэн. Так ён сядзеў увесь вечар. І калі ўжо пачаў падкрадвацца да Лаўрэна здрадніцкі сон, пачынаў

Лаўрэн дзёўбаць носам — нечакана зайграла музыка. Лаўрэн агледзеўся. Не было відаць, каб хто граў.

— Радыё! — сказаў нехта з калгаснікаў.

— Дзе?! — усхапіўся Лаўрэн.

Яму паказалі ў кут. Там сядзеў малады хлапец, уздзеўшы на вушы нейкі прыбор, і дотыкамі пальцаў граў на невялікай скрынцы. Лаўрэн накіраваўся туды. І, падышоўшы да хлапца, ён са здзіўленнем упэўніўся, што скрынка маўчыць. Толькі дзіўным, блядым святлом гараць, падобныя і непадобныя да электрычных, лямпкі. Што датычыцца музыкі, дык цяпер яна даносілася аднекуль з гары.

Тады, уціснуўшы ў кулак бараду, Лаўрэн папрасіў хлапца растлумачыць яму, што прадстаўляе з сябе радыё, бо чуць аб гэтай рэчы Лаўрэн чуў, і нават не адзін раз, але бачыць давялося ўпершыню, і ўсёроўна, Лаўрэн разабрацца тут (выбачайце, малады чалавек) самастойна не можа.

Хлапец зняў навушнікі і пачаў растлумачваць. Не выпушчаючы барады са жмені, Лаўрэн добрасумленна выслухаў усё, што датычыцца электрамагнітных хваляў, тыпаў прыёмнікаў, якасцей перадач і іх спосабаў, і стараўся зразумець, якім чынам усё-ткі хваля ператвараецца ў зык. І нельга сказаць, каб дэталёва ва ўсім разабраўся Лаўрэн. Ён задаў толькі адно пытанне:

— А колькі, галубок, радый каштуе?

— Адзін грам радыя — мільён рублёў, — адрэзаў хлапец.

— Мільён! — захлібнуўся здзіўленнем Лаўрэн.

— а... а гэты апарат з усім абарудаваннем — сто сорак рублёў, — дадаў хлапец.

І зноў усё стала рэальным.

— Мне за мільён не патрэбна, — аблегчана сказаў Лаўрэн. — Прах з ім, з мільёнам! А за сто сорак — прыдбаем, як разбагацеем. А то — мільён!

Праз цэлы вечар не адыходзіў Лаўрэн ад дзівоснага апарата. І з кожнай хвілінай ён упэўніваўся ў тым, якая карысная гэта рэч, радыё. Лаўрэн камячыў бараду, абдумваючы ўсе магчымасці калгаснага бюджэта, і ўвесь час прыходзіў да аднаго выніку: наадрэз адмовіць праўленне калгаса, не дасць грошай на прыёмнік.

І на самай справе, наадрэз адмовіла. Не ўсё праўленне, а адзін Васіль. Ён коратка сказаў:

— Няма грошай, дзядзька Лаўрэн. Каб хаця як на першую пару чырвоны куток абсталяваць!

І ўсё. І кропка. І нічога не засталося ад мар Лаўрэна аб прыёмніку для свайго калгаса...

Плыве чорная ноч і губляе зоры. Яны зрэдку падаюць, прабіваючы ў пагібельным лёце сваім натоўпы сабрацьцяў. Яны праводзяць светлую рысу на шляху сваёй пагібелі і знікаюць, нават, не дасягнуўшы граніц краявіду. Водзіць ноч карагоды зор, і яны дрыжаць, мяняюцца, праменяць зімнае сваё святло. Зрэдку ўзнімае галаву Лаўрэн і глядзіць на зоры.

Калі раней заставаўся Лаўрэн адзін уночы, і маўклівы ў суровай цішы абступаў яго няведамы, нязвычны начны свет, адчуваў Лаўрэн вялікі, незразумелы страх. І тады рабіў тое, што рабілі прадзеды яго і дзяды, усё адвечнае пакаленне земляробаў. І знімаў Лаўрэн шапку, і маліўся, упрашваў невядомыя, незразумелыя сілы памілаваць яго жыццё. Цяпер інакшымі вачыма глядзіць Лаўрэн на тыя самыя зоры. Яму вядома, што гэта планеты, а не душы жывых людзей. Гэтак-жа вядома Лаўрэну, што тыя зоры, якія падаюць, ёсць не душы людзей, якія толькі што памерлі, а звычайныя нябесныя целы, якіх называюць метэорамі. Гэтыя веды далі Лаўрэну новыя дні. Працей: растлумачыў яму гэта настаўнік і не толькі растлумачыў, а даказаў гэта на розных прыкладах і прыладах, і развеяўся перад вачыма Лаўрэна першабытны дым дзікунскіх забабонаў.

І вось, новымі вачыма глядзіць на старыя зоры Лаўрэн.

Ноч плыве над аснежанымі палямі, над цёмным гушчаром лясоў, дзе пульсуе ціхае, прыглушанае, насцярожанае начное жыццё, у якім звярыная радасць свежай крыві і немы страх смерці.

Плыве ноч і сыпле зоры. Маўчаць срэбныя ў снягах палі і лясы. Ясная ноч, прыгожая ноч...

Сядзіць у кусце, у рэчышчы, чалавек, Лаўрэн. Мароз ядраны, моцны мароз падкрадваецца да яго, пакусвае, знобіць. Лаўрэн баіцца паварухнуцца. Насу-

проць яго нара, дзе сядзіць асцярожны, насцярожаны, хітры і каштоўны звярок. Адзін неасцярожны рух... і ўсё... Толькі зрэдку дазваляе сабе Лаўрэн крыху прыўзняць галаву. Тады ён бачыць зоры. І яшчэ нешта, інакшае, не толькі бачыць, колькі разумее Лаўрэн. Там, у чорных надземных прасторах, з ціхім шолахам (не можа быць хвалі без шолаху) імкнуць электрамагнітныя хвалі і нясуць на хуткіх крыллях сваіх галасы далёкіх гарадоў краіны.

І гэтага раней не разумеў Лаўрэн.

І тады Лаўрэн сам думае аб тым, што-б гэта было, каб яму, Лаўрэну, маладому Лаўрэну, старых, мінулых гадоў, давялося сядзець тут аднаму ўночы. Зімнае святло зор сеяла-б каламутны страх у грудзях. Белае маўчанне палёў сціскала-б сэрца непрабраным жудам, дзікунскім, незразумелым страхам перад урачыстым тварам прыроды. А дванаццатай гадзіне выходзяць з магіл мерцвякі і плывуць над зямлёй, празрыстыя ў праменнях зор; а дванаццатай гадзіне вылазіць на лёд з той шчыліны, куды ныркае па рыбу выдра, калматы, аброслы водарасля́мі злы дух рэчных амутоў, вадзяны, у суправаджэнні белацелых, напалову рыб, напалову жанчын, русалак. Ад дванаццаці гадзін, ад поўначы, шалее ў ціхай ночы нячыстая сіла. Што-б тады рабіў Лаўрэн? Сядзеў-бы, аледзянелы ад жуду, і маліўся-б усім багам зямлі, вады і неба, усім, якіх ён толькі ведаў. Прасіў-бы, каб яны памілавалі грэшнае яго жыццё.

Але зараз сядзіць спакойны ў кусце Лаўрэн і новымі вачыма глядзіць на стары свет. Усё спакойна. Усё на сваіх месцах. Усё ў парадку. Толькі нельга варушыцца. Бо можна спалохаць выдру, і знікне паляўнічае шчасце. І не толькі гэта. Лаўрэн аддае дань новаму. Ён заб'е выдру, прадасць скурку і на вырučаныя грошы купіць для калгаса радыёпрыёмнік.

І таму — трэба быць асабліва пільным.

Маўчыць ноч. Ясны блеск зор, бель снягоў, чорнае неба над краявідам — і ціш. Такая ціш, што нават чуваць, як звоніць срэбным, ценькім звонам інь на кустах.

Так плывуць гадзіны. Так плыве ноч.

* * *

На золаку над лесам з'явіўся бераг хмары. Сіняя, магутная, грузнабрухая, паўзла яна над зямлёй, павольна гасячы зоры, засланяючы неба. І калі ўспаўзла над полем — закруціліся ў змрочным паветры белыя мухі, густа пайшоў снег.

— Гэта добра, — адзначыў Лаўрэн. — Ад слядоў дух будзе адбіваць.

Ізноў пацёк час. Прайшла гадзіна. Снег падаў. Адсеў мароз, стала цяплей у паветры, і святлела з кожнай хвілінай усё больш. Прыходзіў дзень.

Тады Лаўрэн устаў, абмацаў каля сябе ў снягу бярозавае палена, якое нёс увечары, і, падышоўшы да нары, старанна заткнуў яе, увагнаўшы палена ледзь не напалову.

— Сёння ты не вылезла, заўтра вылезеш, — сказаў Лаўрэн. — А пакуль што сядзі. Я цябе, падла, дапяку!

І, узяўшы стрэльбу пад паху, Лаўрэн пабрыў рэчышчам па глыбокім, сыпкім снягу.

Прайшло тры дні. І як толькі пазіраў у акно сіні вечар, злязаў з печы Лаўрэн і пачынаў абуваць валёнкі. Жонка Лаўрэна пачынала грукаць начыннем, дровамі, перакладваючы іх з месца на месца. Такім спосабам яна заўсёды выражала сваё нездавальненне. Нарэшце, да гэтых прызнакаў гневу і нецярпення дадаваўся і голас Тэклі, сварлівы, сухі голас:

— Зноў пайшоў цягацца праз ноч, стары валацуга ты, не дай бог. От, з'еў маё жыццё, от, выссаў маю кроў з паляваннем гэтым...

Лаўрэн, абкручваючы нагу суконкай, спакойна адказваў:

— Не твайго розуму справа, ты і не ўтыкайся! Бо-о-г! Дай, ды не дай. Нічога ён табе не дасць, нічога ён ад цябе не возьме. От што. Ты сабе сядзі на печы ды тараканаў слухай. Яны часам добра пяюць. А тараканы не дагадзяць — схадзі куды языком паласкачы. А мяне ты, брат Тэкля, не чапай. Не твайго розуму справа!

Тады на Лаўрэна абрушваліся грымоты. Але ён спакойна апранаўся, уздзяваючы кажух на кажух і зверху яшчэ сярмягу, не спяшаючы падпяразваўся, уздзя-

ваў на галаву цёплую шапку, абкручваў шыю башлыком, старанна падціскаючы канцы пад пояс, і тады знімаў са сцяны стрэльбу, зменьваў абкручаны пакуллем пістон і, нарэшце, ускідваў стрэльбу на плечы і накіроўваўся да дзвярэй.

— Каб хаця з'еў-бы што! — стагнала старая, калі Лаўрэн быў ужо на парозе.

— Каб ты была спачатку ласкавейшай, — адказваў Лаўрэн, — дык-бы чаго нібы і з'еў. А зараз лапатыту няма.

І зачыняў дзверы за сабой.

Ён ішоў проста на раку, каб перш яшчэ, як сцямнее зусім, выцягнуць палена з нары і прыстасавацца ў кусце так, каб не крануцца праз ноч. І таму Лаўрэн ішоў спяшаючыся. І калі ішоў, дык зусім не думаў аб калгаснай стайні, аб мышастым жарабку і гнедай кабыле, аб рабочых конях, аб матках і жарабятах, якіх зараз упарадкоўвае адзін Мікола. І нават аб вараным жарабку не думаў Лаўрэн.

Ён думаў аб тым толькі, якая сёння будзе ноч і ці хутка прыдзе той момант, калі выйдзе з нары насцярожаная, наструненая выдра, прынюхаецца да паветра, прыслухаецца і застыгне.

Тады Лаўрэн узніме стрэльбу і...

* * *

А ў калгасе ўсё ішло звычайным парадкам. Увечары, калі садзілася сонца за лес, ішлі на раку па ваду жанчыны. Курылі дымам хаты. Адпачынак прыходзіў у калгасны пасёлак, як толькі вечар пазіраў у вокны. Нават на гумнах сціхаў гул малатарняў, і толькі воблакі дыму слаліся па гародах ад сушняў. Гаманлівымі стайкамі бегала па вуліцы дзетвара.

Васіль паклаў асадку на стол. Ён спытваюча пагледзеў на рахункавода. Той таксама паклаў сваю асадку, папярэдне пасморгаўшы пяром па валасах. Рахункавод быў малады, нядаўна ўзяўся за работу.

— Ну, як? — спытаў Васіль.

— Выходзіць добра, — сказаў рахункавод. — Жыта выходзіць па чатыры з паловай кілограмы на працадзень.

— А ты не памыліўся?

На твары хлапца расплылася самазадаволеная ўсмешка.

— Кропля ў кроплю, таварыш старшыня!

Пазіраючы ў акно, Васіль задумаўся. Справа ішла аб размеркаванні ўраджаю. Папярэднія падлікі паказалі высокія лічбы норм на працадзень. Калгас вышаў перадавым, забяспечаным хлебам і кармамі. І ён, Васіль, які ў мінулую восень прышоў дадому дэмабілізаваным чырвонаармейцам, з'яўляецца зараз кіраўніком гэтага калгаса. Ён арганізаваў актыў, стварыў моцнае, надзейнае ядро з брыгадзіраў, якія ў сваю чаргу здолеюць сцэментаваць увесь калгас у адну дружную і моцную сям'ю. Ёсць, праўда, з боку паасобных калгаснікаў хістанні і нездавальненні, выразна адчуваецца падкусванне з боку падкулачніка Сідара Перапечкі, але гэтаму хутка будзе пакладзены канец.

Супраціўленне асноўнай групы шкоднікаў, якія на час прыходу Васіля з арміі трымалі ў руках кіраўніцтва калгаса, зломлена, і самой гэтай групы ўжо ў калгасе няма. Хутка будуць выкарчаваны і корні.

Год заканчваецца з перамогамі. Гэты год быў экзаменам для Васіля. Экзамен вытрыманы. Адно толькі, зацягваецца ільноапрацоўка.

Так думаў Васіль, пазіраючы ў акно. А за акном слаўся мяккі змрок зімовага вечара. Курылі дымам хаты. Дружнымі стайкамі бегала па вуліцы дзетвара. Па гародах, сцежкай да ракі, ішлі па ваду жанчыны.

Васіль задумана глядзеў у акно і нават не заўважыў, як вышаў з канцылярыі рахункавод. Але ён заўважыў, якая прыгожая ў чырвонай хустцы прайшла Алена. Яе хада была лёгкай, яна вымахвала вольнай рукой на хаду, другой падтрымлівала каромысла, і здалося Васілю, што, праходзячы міма, Алена кінула кароткі погляд на цёмныя, неасветленыя вокны калгаснай канцылярыі. Маладосць узяла сваё. Старшыня калгаса адчуў звыклае за апошнія часы прыемнае сцясненне ў грудзях. Думкі крута змянілі напрамак. Старшыня калгаса ўстаў і хутка вышаў з канцылярыі.

Коні ўжо былі выпушчаны са стайні. Але на памосце перад дзвярыма стайні, выдалася толькі адзінокая і панурая постаць Міколы.

— Сёння, мусіць, не паедзеш, Васіль, — сказаў ён сваім абыякавым голасам.

— Чаму?

— Таму, што мы з Лаўрэнам парадак змянілі. Да поўдня ён даглядае коней, а з поўдня я.

— Дык чаму-ж мне не ехаць?

— А таму, што я адзін жарабка не стрымаю, пакуль табе сесці.

— Ну, гэта байкі! — нецярпліва сказаў Васіль. — Я з ім адзін упраўлюся.

— І вуздзечка парвалася, — спакойна сказаў Мікола. — Цуглі не закладзеш.

Васіль хітра прыжмурыў вока і паглядзеў на Міколу. Той са спакойным, звычайна абыякавым выглядам твару перамінался з нагі на нагу.

— Неяк у ногі холад чуваць, — растлумачыў ён. — Спачатку на гной, потым на снег, потым яшчэ на гной, а снег растае, скура на ботах мокне, і ў ногі зімна.

Мікола замаўчаў.

У гэты час на ўзгорак, па сцежцы ад ракі, з поўнымі вёдрамі ішла Алена.

— А вуздзечка парвалася, — ажыўлена сказаў Мікола. — Вараны, гад, выгрыз цуглі. Гы-гы! От, воўчае мяса!

«Я зараз табе пакажу цуглі», — заўзята падумаў Васіль. А ўголас сказаў:

— Ну, дык я тады пайшоў!

— Парвалася вуздзечка, — уздыхнуў Мікола. — І рады няма. Хіба заўтра дзядзька Лаўрэн направіць.

Апошніх яго слоў Васіль не чуў. Ён ужо ішоў сцежкай насустрач Алене. Ад хуткай хады і нясомага цяжару на шчаках Алены палаў самы прыгожы ў свеце румянец, і русая пасма валасоў выбілася з-пад хусткі. Яна ўсміхалася да Васіля, і яны сышліся на вузкай сцежцы. Васіль загараджваў дзяўчыне дарогу.

— Алене Змітраўне добры вечар! — жартаўліва сказаў Васіль.

— Добры вечар, — адказала Алена. — Чаму ты сёння жарабка не аб'язджаеш?

— Не хочацца, — адказаў Васіль. — Так як вы, Алена Змітраўна, за дзень спрацаваліся, дазвольце мне за вас вадзіцы паднесці.

Алена не супярэчыла. Васіль спрытна зняў з яе пляча каромысла і прапусціў яе ісці ўперад. Некалькі часу яны ішлі моўчкі. Потым Алена спытала:

— Чаму ты ўчора ў чытальні не быў?

— А хіба там мяне чакалі?

Алена памаўчала ў ваганні.

— Чакалі!

— А хто?

— Не скажу!

— Я ўсёроўна ведаю, — сказаў Васіль. — Такая прыгожая, чырвонашчокая дзяўчына з нашага калгаса. А калі я сёння прыду, справу можна будзе направіць?

Алена хутка аглянулася цераз плячо. У яе шэрых вачах улавіў Васіль дрыжэнне смеху.

— Хто яе ведае. Думаю, што можна.

— От яна, стратэгія, — сказаў Васіль.

— Што ты кажаш?

— Я кажу — стратэгія. Гэта вайсковае слова. Я хацеў сказаць, што іншы раз у пешым страю хутчэй возьмеш патрэбную пазіцыю, чым коннай атакай.

— А ты што думаў, дзяўчат вараны жарабок цікавіць?

— Гм! — сказаў Васіль.

Алена зноў азірнулася цераз плячо. Васіль спатыкнуўся і расплёскаў ваду з вядра. Тады абодва яны спыніліся і нечакана радасна засмяяліся. Малады смех зазвінеў у цішы вечара.

Усё гэта не ўнікла ад пільнага погляду Міколы. Ён стаяў на памосце перад стайняй і глядзеў ім услед аж да тае пары, пакуль Алена з Васілём не зніклі на завароце сцежкі.

— А мне адна бяда, — упоўголаса сам да сябе сказаў Мікола, — ці Алена, ці варона. Усёроўна. Аднаму нават і лепш. Дзе пайшоў — там прайшоў, дзе лёг — там пераспаў! Цьфу, адным словам!

Пасля гэтага Мікола завярнуўся і накіраваўся ў стайню прыводзіць у парадак стойлы.

Гусцеў змрок.

У хатах запальваліся агні.

* * *

Позна ўвечары Васіль зайшоў у хату да Лаўрэна. Старая Тэкля, па звычаю, наводзіла парадкі каля печы. Капцеў саганок.

— А дзядзькі Лаўрэна няма ў хаце? — спытаў Васіль.

— Пайшоў сабакам сена касіць твой дзядзька Лаўрэн, — адказала Тэкля. — Заеў ён маё жыццё са сваім паляваннем, от што!

— На паляванне пайшоў?

— А то куды-ж! Як толькі вечар, дык ён сваю качаргу ў аберуч і праз усю ночаньку па лесе цягаецца. А тады на золаку з'яўляецца — і на стайню. А са стайні на печ. А з печы зноў у лес. І гэтак кругаваротам пайшоў і пайшоў. А я сяджу, гарую, думаю, што старога дурня дзе ў гэты час ваўкі дзяруць. От, з'еў ён мяне з гэтым паляваннем! Хаця-б вы яго як цераз праўленне, а, Васіль?

— Чаму цераз праўленне? Як чалавек хоча, так і робіць. На рабоце ён першы.

Старая Тэкля залемантавала зноў. Васіль пайшоў і хутка забыўся аб гэтым усім. Ён думаў аб сваім, уласным.

Ужо ноч была, і рэдка дзе ў вокнах пабліскваў агеньчык. У чорным небе, ушчэмлены паміж двума невялікімі хмаркамі, вісеў без усялякага блеску вузкі серп маладога месяца.

У канцы пасёлка недзе адзінока ўзбрэхваў сабака.

І вось, прайшло яшчэ два дні. Увечары Алена, як і звычайна, ішла за вадой. Яна паглядзела на вокны калгаснай канцылярыі. Яны былі цёмнымі. Алена спакойна пайшла далей, ведаючы, што Васіль зараз-жа будзе на сцежцы. Гэтага не здарылася. Толькі адзін Мікола стаяў на памосце калгаснай стайні і невядома чаму прарэзліва свістаў. Ці то ён склікаў коней, ці гэты рэзкі свіст меў іншае якое прызначэнне, але дзяўчына адчула сябе абражанай і пайшла хутчэй. Мікола працягваў свістаць, пахаджваючы на памосце, і вымахваў пры гэтым абroцьмі.

Вокны канцылярыі былі, як і раней, цёмнымі. Васіля нідзе не было відаць.

І першая, дагэтуль нязведаная, непрыемная і знобкая боль кальнула сэрца дзяўчыны. Тут было і пачуццё крыўды, і абразы, і разам з гэтым варухнулася гордасць. Васіля няма! Добра-ж! Ён сядзіць у канцылярыі

і лянуецца нават паглядзець у акно. Магчыма, ён гутарыць з кім-нібы ў гэты час, а, магчыма, пайшоў па якіх-нібы там справах?! Вельмі добра! Алена чакала той пары, пакуль ісці па ваду, з вялізнейшым нецярпеннем, у яе ўсё сэрца выбалела за гэты час, а Васіль нават і не паклапоціцца паглядзець праз акно. Ён нячулы, нетаварыскі, ён толькі сваёй выгады пільнуе! А, магчыма, ён ужо пазнаёміўся з якой-нібы там іншай дзяўчынай, як ездзіў учора ў сельсовет, і зараз пра Алену ані дбае? І гэта так, не інакш, бо чаго-б тады гэты дурань Мікола высвістваў ёй услед гэтак прарэзліва. Ён усё ведае і зараз смяецца з яе, Алены. Ну, дык добра, Васілёк! Не думай, што ты адзін на свеце!

І Алена крута завярнула са сцежкі ў вуліцу. А Мікола ўсё свістаў, невядома чаму. Магчыма, ён склікаў коней, а можа гэта было імправізацыяй вячэрняй песні яго мужнага сэрца, пакінутага каханнем? Як-бы там ні было — Мікола працягваў свістаць дзіка і прарэзліва.

У гэты час асвятліліся вокны калгаснай канцылярыі. Алена гэтага ўжо не магла бачыць. Але ўсе, хто бачыў, што ў канцылярыі запалілі вялікую лямпу, адзначылі:

— Будзе сход!

І ў сувязі з гэтым кожны, хто ішоў на гэтую пару міма канцылярыі, заварочваў даведацца, у чым справа, і там заставаўся. Таму, пакуль дзетвара аббегала ўсе двары пасёлка і пакуль прыйшлі калгаснікі з наўкольных хутароў, — у канцылярыі было сіне ад дыму, душна, цесна і стаяў нескончоны гоман.

Калі прышла ў канцылярыю Алена — ледзь можна было разабраць, хто сядзіць за сталом. А за сталом сядзеў Васіль і побач з ім нейкі яшчэ незнаёмы таварыш, відаць, з раёна. Васіль адразу ўбачыў Алену, напісаў нешта на аскутку паперы і перадаў яе цераз хлапчука, што стаяў блізка да стала. І калі Алена прачытала тое, што было напісана ў паперцы, — адразу ўсё прышло ў парадак, і патрабавалася вялікая вытрымка, каб абыякава скамячыць паперку.

А Васіль у гэты час устаў і пачаў гаварыць. Гаварыў ён адрывіста і чотка, адчувалася ў яго тоне канкрэтнасць мовы вайсковага чалавека.

— Так што, таварышы калгаснікі, — сказаў Васіль,— абвяшчаецца штурм. Мы здорава адсталі з ільноапрацоўкай. Задача такая: да новага года поўнасцю апрацаваць валакно і здаць яго на пункт. Лён у нас ёсць. Сіла таксама ёсць. Так што — выхад маецца. Патрэбна арганізаваць работу ў тры змены і даваць тэмпы паўдарнаму. От і ўся справа. У каго ёсць пытанні?

Але, перш чымся хто здолеў крануцца, цераз гушчу прысутных прапхнуўся доўгавязы ценькі чалавек і, вымахваючы даўгімі рукамі, загарлаў пісклявым голасам:

— Людцы, калгснічкі! Што-ж гэта ёсць! Ды што-ж гэта такое, браткі вы мае, таварышкі, калгаснічкі! Працуй, біся, як сабака аб дарогу, казаў той, і ўвесну, і ўлета, і ўвосень, і адпачынку табе няма, і ўздыхувыдыху табе няма, і на якога чорта гэтак лупіцца — дай, божа, рады, не разбяру! У зімовы час, калі добрыя людзі адпачываюць, дваццаць чатыры гадзіны ў суткі скуру габлюй! Людцы, калгаснічкі, таварышы! Мужчынкі! Здохнем ад гэткай работы, выцягнемся, тры аршыны гнойнай зямелькі атрымаем і ні сабе ад гэтага карысці, ні пролетарскай дзяржаве! Люд...

— Правільна! — гаўкнуў нехта, як з бочкі. — Правільна кажа Сідар Перапечка! На чорта па гэтай трасце душу вытрасаць! Хопіць нам часу, да вясны здолеем змяць, не возьме яе пад дахам ды ў даглядзе нячыстая сіла. От што! Дуй, Сідар!

— Няхай другія здаюць, хто з работай спраўнейшыя! — крычаў Перапечка, натужваючыся без усялякай патрэбы. — Мы хай пачакаем! Тыя выканаюць план — нам лянку застанецца. Малады наш старшыня, гарачы старшыня, таварышы калгаснічкі!

— Правільна, Сідар! — гуў бас. — Разумныя словы кажаш.

— Гэта Сідар разумна кажа? — спытаў жаночы голас. — Разумна, то як разумна, а што чалавек хоча ў кішэню лянку хапнуць, то факт!

— Не слухайце яе, калгаснічкі!

— Трэба паглядзець, магчыма, Сідар ужо на печы трасту сушыць! — крыкнуў нехта з кута ад дзвярэй.

— А ты бачыў?

— Затое яму душа і баліць аб ільну!

— Ціха, таварышы!

— Чаго там ціха! Што гэтая сволач горлам бярэ, дык ім і падавацца? Цярпення ўжо ад іх не стала!

— Даволі! Вон з калгаса абодвух, сукіных сыноў!

— Таварышы, супакойцеся!

— Як што трэба рабіць, дык яны тады кій у калёсы пхаюць!

— Сказана, сволачы!

— Хто, я сволач? — узвізгнуў Перапечка, узмахваючы рукамі, як вятрак.

— Ды няўжо-ж я!

— Таварышы, спакойна! — парываўся Васіль з-за стала.

— Я сволач? А хто першы ў калгас пайшоў?

— Бо думаў, што і ў калгасе на цябе будуць людзі працаваць.

— Садзіся, Перапечка! — закрычала адразу з дзесятак галасоў.

— Мы цябе ўжо чулі! Хапала!

— Горла шчупаковае!

— Хто жыта краў з бабак?

— Ты мяне не злавіў! — крычаў Перапечка. — Ты мяне за руку не злавіў!

— І шчасце тваё, што не злавілі!

— Ціха, таварышы!

Але ўжо загуў, заварушыўся сход. Людзі ўсхвалёваліся. Кожны гаварыў сваё, і наперадзе ўсіх, перад сталом, круціўся і ценька, візгуча крычаў, аціраючы пот з лысіны, Перапечка.

— Свае выгады не разумееце! — крычаў ён. — Добрай рады не слухаеце! Сваім дабром раскідваецеся!

— Гнаць з калгаса Перапечку! — дружна крычалі ад парога.

— Шкоднік, гад! Коні пазабіваў!

— Старшыня, кіруй сходам!

— Ціха, таварышы!

Гоман паступова пачаў ападаць. Васіль стаяў і чакаў, пакуль ён сціхне настолькі, што можна будзе гаварыць. Але ў гэты час да стала праціснуўся каржакаваты, прысадзісты мужчына. Гэта быў брыгадзір першай брыгады.

— Не будзе толку, — сказаў ён, аглядаючы сход. — Выгналі кулакоў, трэба выгнаць і падпявал іхніх. Гэта не работа. Даволі ад гэтага Перапечкі нацярпеліся. Досыць ягонага вэрхалу і звадак. Выгнаць яго вон, гада, з калгаса! А Арцёму даць папярэджанне. Яму сваяк Перапечка даражэй за калгас.

— Я, што! — загрукаў ад печы спуджаны Арцёмаў бас. — Я нічога! Халера на гэтага Сідара, ён усё жыццё мае вантробы круціць!

— Ты таксама добры! — сказаў брыгадзір.

Усе змоўклі. Стала ціха.

Перапечка крутнуўся на месцы і палез у натоўп.

— Падціснуў хвост! — сказаў нехта.

— Дабрахаўся!

— От шкодны чалавек!

Тады слова ўзяў Васіль.

— Безумоўна, таварышы, — сказаў ён, — мы павінны даць адпор кулацкай агентуры. І я падтрымліваю прапанову брыгадзіра першай брыгады адносна Перапечкі і Арцёма. А зараз слова мае прадстаўнік нашых шэфаў.

Так быў выключан з калгаса Сідар Перапечка. За яго выключэнне сход галасаваў поўнасцю.

Гаварылі аб арганізацыі ільноапрацоўкі доўга. Выступаў Васіль, гаварыў прадстаўнік шэфаў, гаварылі брыгадзіры, спрачаліся калгаснікі. У туманах махоркі, у душнай гарачыні хаты абгаварвалі людзі сродкі найбольш паспяховай арганізацыі работы для таго, каб у тэрмін выканаць загад партыі і ўрада. І дагаварыліся. Нават выклікалі на соцспаборніцтва суседні калгас і склалі тэкст умовы.

Перапечка больш не азваўся ні словам. Ён быў выкраслены з калгаснай сям'і. І на яго таксама ніхто не звяртаў увагі. Гэта была варожая, шкодная, непрыгодная для калгаса адзінка. Гэта выразна бачыў і разумеў Васіль, і ад гэтага ён адчуваў сябе яшчэ больш упэўненым і цвёрдым, бо змагацца з Перапечкай, які яшчэ нядаўна меў значны аўтарытэт і шмат старonнікаў, змагацца з гэтым хітрым, злым, праніклівым і дробным ворагам было куды цяжэй, чымся з акрэслена-варожай групай кулакоў, барацьбу з якой Васілю і гуртку

калгаснага актыва давялося вытрымаць з самага пачатку.

І ў тым, што выключэнне Перапечкі адбылося гэтак хутка і ўсе за гэтае выключэнне галасавалі, — бачыў Васіль залог таго, што калгас будзе самым здаровым, самым спаяным і працаздольным. У наяўнасці — канчатковы перелом.

Сход закончыўся тады, калі ўжо спявалі другія пеўні.

Васіль праводзіў Алену дадому. Яны ішлі побач. Снег пахруствау пад нагамі. Серп месяца быў больш шырокім, чым некалькі дзён таму назад, і месяц ужо схіляўся да краявіду. Марозная, звонкая ціш сустойвалася над пасёлкам.

— Заўтра пачынаем штурм, Алена, — казаў Васіль. — Цяпер не падкачайце вы, камсамолачкі. Гэта вам не на вечары самадзейнасці.

Алена ўсміхалася. А Васіль злаваў сам на сябе. Безумоўна, тое, што ён казаў, было патрэбным, але аб гэтым ужо шмат гаварылі на сходзе і кожнаму важнасць пытання была зразумелай. Зусім аб іншым хацеў сказаць Васіль Алене, але ён адчуваў, наколькі гэта цяжка, амаль немагчыма, і адважнае слова не мог Васіль адшукаць.

— Трэба націснуць будзе, — плёў Васіль, з укосу аглядаючы твар Алены. — Так што вы, камсамолачкі, не падкачайце.

Васіль адчуваў, што Алена разумее яго нясмеласць. Яна ўнутры, безумоўна, смяецца з гэтага. Нешта блізкае да гневу адчуў Васіль. Ён адчуў жаданне заступіць дарогу Алене, сціснуць моцна яе ў абдымках і адшукаць на яе твары сакавітую свежасць губ. Ён паглядзеў на Алену. Яна ішла простая, рослая, стройная. Пасма валасоў, як і заўсёды, выбілася з-пад хусткі, і ў вачах Алены, здалося Васілю, адбівалася дрыжэнне святла ўсіх ясных зор гэтай ночы. І, безумоўна, жаданне груба абняць Алену — бясследна знікла. Замест гэтага Васіль спытаў:

— Ты не злуеш на мяне, Алена?

— Чаго-ж мне на цябе злаваць? — проста, без ценю звыклай задорнасці, адказала Алена.

Васіль уздыхнуў.

— Чаго ты ўздыхаеш? — спытала Алена.

— Так, нешта непрыемнае ўспомнілася, — схлусіў Васіль.

І тут-жа ўбачыў, што яны падыходзяць да хаты Алены. Стала шкода, што вось, гэткі добры час, ледзь не поўгадзіны начнога адзіноцтва з Аленай змарнавалася дарэмна, а можна было шмат чаго добрага расказаць ёй. Але і цяпер не адчуваў у сабе такой сілы Васіль, і таму яшчэ раз беспарадна ўздыхнуў.

— Чаго ты сёння ўвесь час уздыхаеш? — спытала Алена. — Што табе, Перапечкі шкода, ці што?

— Так! — вяла адказаў Васіль і зноў уздыхнуў. Нават гневу і нецярпення і таго не было. Яны спыніліся. Далей ісці не было куды.

— Ах ты, адважны кавалерыст! — лагодна сказала Алена. — Ах ты, старшыня калгаса!

І тады здарылася нечаканае. Алена шырока развяла рукі, і Васіль адчуў гарачае дыханне і шоўк валасоў на сваёй шчацэ. Рукі Алены моцна абвілі яго шыю і сціснулі.

Апамятаўся Васіль тады, калі за Аленай грукнулі дзверы. Ён доўга стаяў на месцы.

Марозная ціш была навокал, сыпала зорамі шчодрая ноч і надзвычайна сімпатычны такі серп месяца, значна шырэйшы, чым у мінулыя дні, схіляўся да краявіду.

Ускрыкнуў певень.

— Гудуць, баба, мае косці, — азваўся Лаўрэн з печы. — Як ляжаш, дык здаецца, як на матчыным падале. Цеплыня ў мае астыглыя косці ўдарае. Прыемна, адным словам. А косці гудуць. Заходзяцца... Стары стаў. От яно што.

Тэкля не адзывалася.

— Засеклася гнедая кабылка, — працягваў Лаўрэн.— А буланы Міколаў, падла, каб ён здох, як шаснуў па холцы мышастаму жарабку — ледзь не да касці развярнуў. Дармо што стары — клык яры мае. А мышасты таксама падгадзіў: кабылу жаробную ўскубнуў. Недалікатны, змей. Дармо, што Мікола казаў... Адным словам — непарадкі.

Пасля гэтага Лаўрэн змоўк і пачаў разглядаць чор-

нае сталяванне з абшмальцаванай маціцай над печчу. У маціцы быў сук. Дрэва было сухім, прасмоленым, пракураным, і сук быў чорны, зярністы, як крэмень. Яшчэ ў дзяцінстве спробваў Лаўрэн калупаць яго ножыкам.

Сук пачынаў двaіцца ў вачах. Падступаў да Лаўрэна моцны сон, і Лаўрэн яму не супраціўляўся. Ён толькі зараз, не спаўшы ноч, прышоў са стайні.

Лаўрэн задрамаў.

... Вецер дзьме ў рэчышчы. Калышацца змерзлае мяшчацінне кустоў, атрасаючы з сябе снег. Шалясціць мяцеліца над полем. Падвывае вецер у кустах. Лаўрэн напоўзасыпаны снегам не пакідае свайго месца. Сядзець добра, утульна, цяпло разліваецца па целе. Воблакі снегу, якія ўзняты ветрам, праносяцца, як дым, у вачах Лаўрэна. Месяц зрэдку светлай плямай праступае ўгары і зараз-жа знікае.

Лаўрэн глядзіць пад куст. Ён бачыць, як з-пад яго выпаўзае і крадзецца, як яшчарка, выдра. Выдра не спыняецца, як раней меркаваў Лаўрэн. Яна ідзе проста да яго. Гэта нават лепш. Лаўрэн хапае стрэльбу, нацэльваецца. Палец сціскае курок... Асечка! (Пістоны за пазухай, няма часу выцягваць). Зноў узведзены курок... Зноў асечка!

— Ах, каб-жа ты згарэла... Ах, каб-жа ты... — шэпча Лаўрэн і дрыжачымі пальцамі ў ліхаманкавай паспешнасці адшпільвае гузікі сярмягі.

— Можа яшчэ паспею!

Выдра спыняецца якраз супроць Лаўрэна. Гэта надзвычайна вялікая выдра. Скрозь туманы снегу Лаўрэн распазнае яе круглую морду з жорсткімі вусамі. Выдра невядома каго чакае. Гэтага толькі і патрэбна Лаўрэну. Ён ужо насаджвае пістон на накавальню. Зараз! Зараз!

— Добры дзень! — кажа нейчы голас.

Выдра знікае адзіным скокам, перш чымся Лаўрэн паспеў стрэліць. Усё скончана. Толькі калышацца туманы снегу і хістаецца гнуткае галлё лазняку.

— А дзе-ж тут Лаўрэн? — пытае той-жа голас.

Дзікая злосць закіпае ў грудзях Лаўрэна. Каго тут не ў пару прынесла! Каму гэта Лаўрэн спатрэбіўся ўночы? Які тут у чорта «добры дзень»!

Той-жа голас выразна кашляе. Лаўрэн, непрытомны ад гневу, хапаецца за стрэльбу. Стрэльбы няма. Калышуцца снежныя туманы ў вачах, рассоўваюцца, разыходзяцца, раставаюць...

Праступае абшмальцаваная маціца са старадаўным суком.

У хаце гутарылі.

Лаўрэн павярнуўся на бок і глянуў на хату. За сталом сядзеў брыгадзір першай брыгады, перад ім ляжаў капшук з махоркай. Брыгадзір скручваў цыгарку рудымі, абкуранымі пальцамі. Ён убачыў сівую ўскалмачаную галаву Лаўрэна, які выглядаў з-за каптура печы, і ўсміхнуўся.

— Чаго ты там, дзядзька Лаўрэн, бубніў на печы? — спытаў ён. — Вяселле ў ва сне бачыў, ці што?

— Вяселле! — адказаў Лаўрэн. — Сем пар чартоў жанілася.

— Ага! — сказаў брыгадзір. — А я да цябе па справах прышоў.

— Добра, — адказаў Лаўрэн і сеў на печы. — Якія там такія справы?

Брыгадзір памаўчаў. Цыгарка тлела пад яго рудаватым вусам.

— Трэба на лён пераключыцца, дзядзька Лаўрэн, — сказаў ён, нарэшце. — Вось якія ў мяне справы. Ты ўчора на сходзе не быў?

— Не быў.

— Табе сёння трэба ў вячэрнюю змену лён трапаць ісці ў Гаўрылаў ток. Штурм абвясцілі мы. Каб да новага года ўвесь лён што да крышкі ўправіць. Так што збірайся надвечар. А я пайду, трэба яшчэ ў пару месцаў зайсці.

— А на стайні хто будзе, калі мяне на лён?

— Мы да Міколы хлапчукоў дамо на стайню коней даглядаць. А ты ў нас галоўны спец на лён. Так што, табе, дзядзька Лаўрэн, прыдзецца на гэты час ударна папрацаваць.

Брыгадзір устаў з-за стала і накіраваўся да парога.

І толькі тады Лаўрэн зразумеў, што ўсё гэта для яго азначае.

— Слухай, Яўхім! — сказаў ён рашуча. — Я трапаць лён не пайду.

— Як гэта так? — здзівіўся брыгадзір.

— Не пайду і ўсё. Я да стайняў прыстаўлены. Я старшы конюх.

— Ён лепш на паляванне пойдзе, — уставіла Тэкля. — Праз ноч.

— Хай сабе і на паляванне, ты не ўтыкайся! Мне трэба і на паляванні свой паляўнічы план выканаць. На трыццаць пяць рублёў пушніны. А я праз зіму трох паганых зайцоў забіў, ды вось, нядаўна, ліса. Не з маім здароўем праз ноч лён трапаць!

— З яго здароўем толькі праз ноч па лесе цягацца! — азвалася Тэкля.

— Не ўтыкайся, кажу! — у гневе закрычаў Лаўрэн. — Не твайго розуму справа! Старое ты каромысла, каб цябе чэрці пабралі!

— Як сабе хочаш, — сказаў брыгадзір. — Як хочаш. Я старшыні абавязан далажыць, а вы там сабе як хочаце разбірайцеся. Бывайце здаровы ўсе! Толькі яшчэ хачу сказаць, дзядзька Лаўрэн, — табе, як ударніку, гэтак рабіць непрыгожа.

— Чаго непрыгожа! Я не дзяўчына! Мне замуж не выходзіць! Непрыгожа, дык і непрыгожа!

Дзверы за брыгадзірам зачыніліся.

— Халера вас усіх бяры ад мае галавы! — зазлавана сказаў Лаўрэн і лёг на печы нічком.

Так ён ляжаў некаторы час і непрыкметна заснуў. Прачнуўся, як і заўсёды, над вечар. У хаце было напоўцёмна. Тэкля, як і заўсёды, нешта перастаўляла каля печы. Лаўрэн абмацаў каля сябе валенкі і злез.

У гэты час расчыніліся дзверы, і ў воблаку марознай пары з'явіўся Васіль.

— Добры вечар, дзядзька Лаўрэн! — сказаў ён, падыходзячы адразу да Лаўрэна. — Абувайся цяплей, на таку зімнавата!

Васіль прысеў насупроць Лаўрэна, на маленькі ўслончык.

Лаўрэн паглядзеў на яго.

— А чаго я там не бачыў, на таку? — спытаў ён сурова.

— Значыць, не змяніў рашэння? — спытаў Васіль. — Не пойдзеш на ток?

— Не пайду.

— Значыць, у злосныя зрыўшчыкі запісаўся? У адзін рад з Перапечкай стаў? Тут штурм, тут усе — і старыя, і малыя на работу сталі, а ты, дзядзька Лаўрэн, ударнік, і ў прагульшчыкі пайшоў? У зрыўшчыкі, у кулацкую агентуру?

— Як гэта так, у кулацкую агентуру? — устаў Лаўрэн. — Што ты гэта кажаш? А? Хто коней на ногі паставіў? Хто варанога гадаваў? Хто з саду прыбытак здабыў? Ці не я гэта, як кажуць, і з сахой, і з касой першым усюды быў? А мне як патрэбна паляўнічы план выканаць, дык і ўночы спакою не даюць.

— Як апрацуем лён — хоць два тыдні і ўдзень, і ўночы хадзі.

— А мне зараз патрэбна.

— А зараз нельга.

— Тэкля, запалі лямпу, — сказаў Лаўрэн. — Слухай, Васіль, малады ты чалавек! Зразумей ты мяне, старога... Не магу я зараз сваё паляўнічае шчасце, як кажуць, удачу сваю выпусціць!

— Якое гэта шчасце? Што ты кажаш, дзядзька Лаўрэн?

— Ат! — Лаўрэн махнуў рукой. — Ты паслухай!

І Лаўрэн пачаў апавядаць аб тым, як ён знайшоў нару выдры, што гэта для яго, як для паляўнічага, азначае, і як ён намерыўся выкарыстаць грошы, якія ён атрымае за скурку забітай выдры.

— Прыёмнік! — жахнулася Тэкля. — А бож-жа-ж мой! Што больш чалавек на свеце жыве, дык больш дурнее! А бож-жа-ж мой!

— Сціхні, Тэкля! — сказаў Лаўрэн. — Не твайго розуму справа!

Васіль працягнуў руку і дакрануўся да пляча Лаўрэна.

— Я цябе зразумеў, дзядзька Лаўрэн, — сказаў ён. — Я, брат, гэта ацаніў як належыць. Але зараз нам не час гэтым займацца. Фабрыкі чакаюць на сыравіну. Зразумеў? Гэта мне так і сказаў сакратар парт'ячэйкі, так задачай і паставіў. Каб не сарваць план фабрыкам, мы павінны зараз-жа выканаць планы ільнозагатовак. Наш калгас буйнейшы ў раёне. Ад нас залежыць многае. Кулацтва па калгасах агітуе, каб затрымаць лён, каб разбазарыць яго, прадаць спекулянтам. Учора і Пера-

печка гэтае-ж самае на сходзе крычаў. Мы яго выключылі. Увесь калгас арганізаваўся на работу, як ніколі яшчэ! Самы адказны момант, дзядзька Лаўрэн, а ты гэтага не хочаш разумець і ідзеш у прагульшчыкі. На гэтым кулацкая агентура спекуляваць будзе, ты на-руку кулаку граеш, а ты лепшы ўдарнік!

— Ты мяне не агітуй, як гэта кажуць, — сказаў Лаўрэн. — Я ведаю, што мне рабіць. Хопіць у вас сілы... А я на стайні буду, як і раней, а калі мне ўдасца — радыю здабуду для калгаса. Не для сябе — для калгаса начэй не сплю! От што! А ты гэтага не разумееш сам, а мяне ў дурні ўпісваеш!

— Не патрэбен нам зараз прыёмнік! — знецярпліві́ўся Васіль. — На чорта прыёмнік, калі патрэбна працаваць, каб не падвесці дзяржаву. Загад партыі дадзены, а ты ў балота? Ударнік! Калі ты заб'еш выдру, дык за яе прыёмніка не купіш, ды наўрад ці заб'еш яшчэ!

Лаўрэн шпурнуў нагой ката, які аціраўся аб валенак, і вышаў на сярэдзіну хаты.

— Не заб'ю, кажаш, выдры? — перапытаў ён. — Не заб'ю? Пабачым!

— Увесь свой аўтарытэт у калгасе папсуеш, дзядзька Лаўрэн, — сказаў Васіль, устаючы. — Мы цябе за разлажэнне дысцыпліны таксама па галоўцы не пагладзім. Справа сур'ёзная!

Але Лаўрэн ужо апранаўся, не звяртаючы ўвагі на тое, што гаварылі да яго Васіль і Тэкля. Ён схапіў стрэльбу са сцяны і вышаў з хаты.

— Пабачым, ці заб'ю, ці не!

Лаўрэн ішоў сцежкай да ракі. Ён адчуваў моцную крыўду.

* * *

І яшчэ адну ноч сядзеў Лаўрэн у рэчышчы, завеяным снегам.

Ад самай раніцы ў калгасе грукаталі ільномялкі. Папярэдне гэтаму ўсю ноч курылі дымам сушні. Распачаўся штурм. На работу былі вызначаны ўсе, хто толькі мог працаваць. Работы былі арганізаваны беспераобойна, круглыя суткі.

Рэха даносіла грукат ільнюмялак. Плыў дым па гародах ад сушняў і лазняў. Гоман разносіўся па калгасным пасёлку ў гэты марозны дзень.

Лаўрэн доўга стаяў на памосце ў парозе стайні, прыслухоўваючыся да таго, што дзеецца на гумнах. Ён адчуваў пульс гарачай, ударнай работы. Зазлаванае адчуджэнне раставала. Узамен яго нараджалася пачуццё вінаватасці перад Васілём, перад брыгадзірам, перад усім калгасам. Там працуюць людзі. Там патрэбны рабочыя рукі. Мала ў калгасе такіх спецыялістаў па тропцы ільну, як ён, Лаўрэн. А ён — адмовіўся ад работы. Што скажуць калгаснікі?

Лаўрэн сышоў з памоста і накіраваўся па сцежцы дадому. У стайні гулка разлягаўся голас Міколы, які крычаў на коней.

Увесь калгас дружна працуе на ільноапрацоўцы. Праўленне здолела арганізаваць людзей. Усе — і старыя, і малыя — на рабоце. Важная работа, адказная. Трэба забяспечыць сыравінай фабрыкі. Так і сказаў сакратар партыйнай ячэйкі. Але, вось, Лаўрэн, лепшы ўдарнік калгаса, заняты іншымі справамі, якія яшчэ невядома чым скончацца. Васіль расцэньвае гэтыя справы як прагул. А прагул — на руку кулаку, гэта зусім відавочна, бо тады, калі прагул становіцца масавым, падае дысцыпліна, падае вытворчасць, развальваецца гаспадарка, тады кулак можа красці, расцягваць, ірваць...

Што гэта было-б, калі-б зараз усе калгаснікі пайшлі на паляванне ў карысць калгаса?

— Не ўсе пайшлі, я адзін пайшоў, — суцяшае сябе Лаўрэн. — Такая справа здарылася. Абыйдуцца і без мяне. Што я адзін на ўвесь свет работнік, ці што? Я ўжо стары, мне ўжо ў пару і на печы ляжаць.

Але гэты довад суцяшае мала. Яшчэ там, у рэчышчы, адчуваў Лаўрэн сябе ніякавата. Нешта неспакойнае варушылася ў глыбі яго істоты. Зараз яно перарасло ў адчуванне простай неабходнасці ісці і далучыцца да іншых, стаць за стаяк і паказаць моладзі, як гэта патрэбна, сапраўды, па-ўдарнаму, трапаць лён. Адчуванне вінаватасці, бяздзейнасці, лодырніцтва — расло. Тое, чым жыў Лаўрэн за апошні час, губляла сваю прываб

насць, адступала прэч, і Лаўрэн ужо з высіленнем адшукваў апраўдальныя довады. Іх не было.

— Не заб'ю, кажаш? — мармытаў Лаўрэн. — Ах ты, сукін сын!

Але і адчуванне гэтай крыўды не магло раззадорыць Лаўрэна і немагчыма было пачэрпнуць, знайсці ў гэтым патрэбную ўпэўненасць у сваёй праваце. Бо і крыўды ўчорашняй не адчуваў Лаўрэн.

Грукаталі ільномялкі на гумнах. Гоман галасоў даносіўся адтуль.

— Ах, каб цябе трасца! — шаптаў Лаўрэн. — Ах, каб цябе-ж трасца!

Адчуванне адарванасці, адзіноцтва і пустаты было ўсё больш глыбейшым. Здавалася Лаўрэну, што і рукі яго лішнія, пустыя, непатрэбна боўтаюцца ўздоўж тулава. Пусты Лаўрэн стаў. І без яго зараз ударна працуе калгас.

— Ах, каб цябе-ж трасца! — шаптаў Лаўрэн, павольна брыдучы сцежкай. — Ах, каб цябе-ж трасца! От навязалася ліха на маю галаву! І Тэкля нават пайшла на ток... От яно як... Што-ж тут рабіць?!

І, магчыма, не прышоў-бы так хутка Лаўрэн да сталых вывадаў, але як толькі вышаў ён на вуліцу — сустрэў доўгавязага Сідара Перапечку.

— Здароў, сусядок! — запішчаў той, вымахваючы рукамі. — А я цябе, сусядок, шукаў. Быў у хаце — зачынена. Хацеў ужо на стайню па цябе ляцець. Я да цябе, Лаўрэнка, сусядок, калгаснічак ты мой, справу маю!

— Якую справу? — насцярожана спытаў Лаўрэн. Ён ніколі не быў з Сідарам у добрых адносінах, а ад той пары, як Сідара пачалі то на тым, то на другім у калгасе прыкмячаць, не гледзячы на тое, што Сідар меў шматлікую радню і апіраўся на многіх калгаснікаў, — не раз выступаў Лаўрэн проста перад сходам і патрабаваў выключэння Перапечкі.

— От якая справа, сусядок ты мой, — плёў Перапечка, вымерваючы цыбатыя крокі побач з Лаўрэнам. — Справа такая, браток ты мой, што мяне ўчора з калгаса выключылі. А за што выключылі? За пару слоў выключылі! Нічога я там дрэннага не сказаў, і трэсні мае вантробы, каб я з гэтага месца не сышоў, — і на душы нічога дрэн-

нага не меў. Сказаў толькі, што не пайду праз ноч па гэтым ільне лупіцца... От і ўсё! А мяне выключылі!

Перапечка хутка зазірнуў у твар Лаўрэну.

— А тут я чую, што і ты не пайшоў на лён. І правільна! Дзе тут з нашым здароўем гэтакую работу валачыць! І каб гэта для сябе яшчэ, а то нямаведама каму гэты лянок пхаць! От што, сусядок ты мой!

— Дык што ты ад мяне хочаш? — панура спытаў Лаўрэн.

— Мне, браток, тут паперку добрыя людзі напісалі. Абскарджэнне. Сям'я вялікая, дзеткі мае малыя, а мяне з калгаса вон нямаведама за што... Я сёння ўвечары ў раён паеду. Хадайнічаць. Дык ты, Лаўрэнка, браток, напішы на паперцы, што я правільна сказаў, што старыя мы з табой на такую работу, слабыя... Табе паверапь, пра цябе-ж столькі разоў газета пісала, і партрэт твой з жарабком... Так што напішы, што і табе гэтая работа не па плячу, што цяжка, безумоўна, але, калі патрэбна, дык пастараемся, і скажы, што па злабе чалавека выкінулі з калгаса! Дай сваю паруку, Лаўрэнка, сусядок!

Лаўрэн раптоўна спыніўся.

— Не дам я табе ніякай парукі, — сказаў ён з абурэннем. — Варта табе, сукінаму сыну, шкодніку, от што! Пайшоў прэч ад мяне! Хто коней біў, да абуха дабіўшы! Хто рукі аб калгаснае дабро грэў? А на баку не ты ўсё лета праляжаў?

— Я гультай? — замахаў рукамі Перапечка. — Я гультай? А ты хто? А ты па паляваннях не ходзіш? Га? Як Сідара, дык за гэта вон з калгаса, а як якому Лаўрэну, дык усё дазволена? Што? Ты мне не кажы!

«Кулацкая агентура спекуляваць будзе», — успомніў Лаўрэн словы Васіля.

— Пайшоў прэч ад мяне! — крыкнуў Лаўрэн на ўсю вуліцу. — Чаго ты, вужачая выпаўзіна, прычапіўся!

Перапечка азірнуўся, з'ёжыўся і, крыва ўхмыляючыся, падыбаў прэч. Лаўрэн некалькі часу глядзеў яму ўслед, потым зазлавана плюнуў і завярнуўся да сваёй хаты.

Ён аж да самага вечара ляжаў на печы, панура аглядаючы зярністы, як крэмень, сук у маціцы. І нават сон не ішоў да яго. Калі ўжо цямнела, прышла з рабо-

ты Тэкля. Тады Лаўрэн злез з печы і, апранаючы кароценькі кажушок, сказаў:

— Прыстрой мне, Тэкля, чаго-нібы пад'есці. Сёння нанач пайду лён трапаць.

— Ну, от і добра, Лаўрэнка! — узрадавалася старая, але Лаўрэн зазлавана абрэзаў:

— Не твайго розуму справа! — і вышаў вон з хаты.

* * *

Пад пушыстымі шапкамі гурбаў нахіліўся гонкі лазняк. Сінявата-белы, сыпкі снег ляжыць усюды, і толькі чыстае, чорнае неба чотка адцяняе лініі берагавых абрываў.

Лаўрэн узняў галаву і паглядзеў угору. Зоры цясніліся на недаступнай вышыні. Марознай будзе ноч!

Лаўрэн нахіліўся і выцягнуў палена з нары.

— Жыві, — сказаў ён з сумам. — Жыві, брат выдра, калі такая справа вышла!

І пабрыў прэч па сыпкім, глыбокім снягу, трымаючы палена пад пахай. Гэтае палена, прышоўшы дахаты, ён паклаў у акуратны кладок дроў на двярэ.

Лаўрэн умеў трапаць лён. Ён ніколі не перабіваў і не блытаў валакна, ён не сцягваў у пакулле ценькае ніцце валаконцаў, ён не прапушчаў прысмалля, і самы несамавіты сырэц ператвараўся ў яго руках у добраякасную ільносыравіну.

— Добры лён! — сказаў Лаўрэн. — Забіяцкае валакно! Сізае!

І фокусна ўстрахнуў жменю. Цэлая мяцеліца кастры ўзвіхрылася ў паветры. Лаўрэн перакруціў жменю і зноў устрахнуў. І зноў цэлы віхор кастры ўзвіўся ўгору.

— От як трэба, — сказаў Лаўрэн. — Усю кастру за адзін раз вытрас. Паспрабуйце, маладыя!

Маладняк зацята часаў трапачкамі, час-ад-часу паглядаючы на Лаўрэнаву работу. Лаўрэн-жа працаваў так, як рэдка хто ўмее.

У куце тока, паглынаючы трасту, грымела валікамі ільномялка. Разгарачаныя работай, завіхаліся людзі, зрэдку перакідваючыся кароткімі словамі. Ток быў ясна асветлены. З дзесятак лямп было паразвешана па сценах і па маціцах. Светла было на таку, весела ад шпаркіх рухаў, ад гонкай, ударнай работы.

І гэтая, радасная і лёгкая, дружная работа дружнай

сям'і ні ў якім разе не была падобна да той нечалавечай працы ў цёмным таку, дзе двое-трое людзей, нявыспаныя, стомленыя, грукалі цяжкім дрэвам мяліц-казлоў, грукалі праз ноч, адтрасаючы свае грудзі і косці рук, грукалі да сямі патоў, да болі галавы, да адрантвення. Слаба свяціў тады адзінокі саганец, чорныя цені поўзалі над ім, дусячы мізэрнае святло яго, і бясконцава цягнулася зімовая ноч, і бясконцава грукалі мяліцы, і маўчалі, працуючы, людзі, маўчалі панура, бяссільна, прыціснутыя ўтомай, адзіноцтвам, прыкрай работай.

Поўзалі цені па сценах. Без канца цягнулася ноч... Маўклівая, панурая ноч.

Так было раней.

А цяпер — малады ўзлёт працы. Цяпер нават і цені ночы выгнаны з асветленага тока. Цяпер шасцівальная ільномялка грыміць чыгуном у таку. Цяпер хутка, весела і шчыра працуюць людзі. Напорыста працуюць, ударна працуюць. І вязка за вязкай ільновалакна ўкладваецца паўз сцяну.

Гэтую розніцу лепш за іншых адчувае Лаўрэн.

І малады задор ахапіў яго, як і заўсёды, з той самай пары, як вышаў ён упершыню на поле з калгаснай брыгадай. Лаўрэн узмахнуў трапачкай і гучна, па-маладому, выкрыкнуў:

— Хадзі весялей, першая брыгада!

Смехам, жартамі, выкрыкамі адказала яму брыгада. Узмацніўся шолах тропкі, гучней загрымела машына, хутчэй пачалі працаваць людзі.

І тады — у адказ Лаўрэну — з кута крыкнулі:

— Выклікаць на спаборніцтва другую брыгаду!

І Алена дадала:

— Паслаць туды дзядзьку Лаўрэна!

Лаўрэн уткнуў трапачку ў кастру і на ўвесь ток загаварыў:

— На пуд валакна! Правільна?

— Правільна! — у адзін голас адказала брыгада.

Лаўрэн абтрос ад пылу шапку, паправіў пояс і пайшоў вон з тока.

І тут спаткаўся з Васілём.

— Ты тут? — спытаў Васіль.

— Тут! — адказаў Лаўрэн. — Іду другую брыгаду на пуд лёну выклікаць. Хадзі разам. Хадзі, хадзі... Нікуды

Алена не падзенецца. Мышы яе з току не вынесуць!

Ён пацягнуў Васіля за рукаў, і яны пайшлі па сцежцы, па гародах, туды, дзе ў глыбі ночы бліскаў агеньчык тока, дзе працавала другая брыгада. Агеньчык здаваўся далёкім, але на самой справе было блізка, і пакуль Васіль з Лаўрэнам дайшлі да тока, адбылася кароткая размова.

— Дзядзька Лаўрэн! — сказаў Васіль.

— А! — азваўся Лаўрэн.

— Табе душа па выдры не стогне?

— А што, хіба стогне? — спытаў нездаволена Лаўрэн. — Калі ты ўчуў што да стогну падобнае, дык ты, галубок мой, памыліўся.

— Эх ты, паляўнічы! — засмяяўся Васіль. — Паляваў, паляваў і не ведаў, што на выдру паляванне забаронена!

— Ну, ты! — узрадвана сказаў Лаўрэн. — Цяпер выдумляй!

— Я табе зусім сур'ёзна кажу. І за скурку яе ты прыёмніка не купіў-бы. Выдра каштуе шэсцьдзесят пяць рублёў!

— Ну, ты гэта ўжо брэшаш!.. Апанас у дваццаць восьмым годзе аж дзвесце рублёў узяў! Гэта табе не абы што!

— Я ведаю гэтую справу, — сказаў Васіль. — Ён прадаў спекулянту. Спекулянт табе і трыста заплоціць. Бо ў другое месца, куды завязе, і чатырыста зрэжа. Гэта таксама не абы-што, дзядзька Лаўрэн! Гэта прыватны капітал! Ты і разбірайся!

Некаторы час яны ішлі моўчкі. Потым Лаўрэн спытаў:

— Слухай, Васіль. А чаму ты мне гэта раней не сказаў? Тады, скажам, як мы з табой сварыліся.

— Я-б табе сказаў-бы ўсёроўна, — усміхнуўся Васіль. — Але я вырашыў так. Калі ты ўпёрся, як вол у гару, дык пасядзі яшчэ пару начэй. А потым-бы мы цябе звання ўдарніка пазбавілі-б за прагул, і тады-б я табе ўсё і сказаў.

Васіль пакляпаў Лаўрэна па плячы.

— Але ты ўдарнікам быў, ударнікам і застаўся. Табе калгасныя інтарэсы за свае даражэй. Так я разумею, дзядзька Лаўрэн?

— Ты мне тут кніжныя словы не закручвай, — сказаў Лаўрэн. — Я ведаю, што ў цябе язык на масле.

Яму было, невядома чаму, крыху аж крыўдна. Але гэтае адчуванне хутка знікла, бо яны ўвайшлі ў ток.

Машына маўчала. Каля яе завіхаліся людзі...

— Жменя валакна ў валікі ўблыталася, — растлумачыў брыгадзір. — Недагледзелі.

— То і вароны, — сказаў Лаўрэн. — Машына табе не конь. Скажаш «тпру», не стане. Гэта я да слова. Для таго, каб гутарку распачаць. А справа такая. Брыгада мая, праўда, адзін жыдкі маладняк. Але выклікае вас на спаборніцтва. Вы тут сабе разблытвайцеся, як хочаце, але каб пуд лёну на трапца паставіць, матары вашай агурок, як казаў мой дзед нябожчык, набожны чалавек — некалі разам з дзяком абразы прапіў.

Дружны смех грымнуў у таку.

Выклік першай брыгады быў прыняты.

Пад прыўзнятай крышкай апарата свецяць дзіўным, празрыстым святлом лямпкі. Нязвыклы, крыху чужы бляск, як намаляваны на чорных гузіках, з боку апарата.

І Лаўрэн папросту баіцца да ўсяго гэтага даткнуцца.

— Гэта радыёпрыёмнік «БЧС», — кажа Васіль. — Чатырохлямпавы. Вось гэта настройка. Гэта — рэастат накалу. Калі яго пакруціш — уключаецца прыёмнік. Ён пачынае работу. Тады ты злёгку пакручваеш настройку. І калі ў навушніках атрымоўваецца рэзкі гук, то крыху пакручваеш от гэты гузік, зваротную сувязь. Калі рэзкі гук знікае і ты чуеш зусім выразна, без хрыпаў і шумаў, альбо музыку, альбо спевы, альбо голас дакладчыка, значыць, ты настроіўся і можаш слухаць. Ты выключаеш навушнікі. От так. І ўключаеш рэпрадуктар. І ўсё!

Лаўрэн ўсхвалявана аглядае апарат.

— Ну, спрабуй!

У Лаўрэна ўздзеты навушнікі. У яго нязграбныя, нягнуткія пальцы. Ён злёгку пакручвае рэастат. Апарат ажывае. Лёгкі шум чуваць у мембранах навушнікаў. Лаўрэн дрыжачымі пальцамі абмацвае настройку. І вось — далёкі голас даляцеў да слуху Лаўрэна. Нават не разабраць выразна, што гэта такое. Лаўрэн вядзе настройку, голас нарастае, акрэсліваецца, і от, зусім

выразна, радыёхваля, злоўленая прыёмнікам, казытнула мембрану. І тады — гучная музыка ўрываецца ў навушнікі. Урачыстая, магутная сімфонія бушуе, скаваная мембранай. Гэта захапляючая, моцная мелодыя, чароўная камбінацыя зыкаў. Яе не зусім разумее Лаўрэн. І ён усё гэта ўспрымае па-свойму.

Над прасцягамі палёў, над соннымі ляснымі масівамі ў гэты ночны час, у зімным святле зор — з шэлестам імкнуць электрамагнітныя хвалі і нясуць на быстралётных крыллях сваіх галасы гарадоў краіны. І адзінокая антэна над дахамі калгаснага пасёлку, згубленага ў польных прасторах, ловіць гэтыя хвалі. Цудоўны апарат ператварае іх у музыку, у жывое, чалавечае слова.

І Лаўрэн чуе тое, што дзеецца за сотні вёрст ад калгаса.

Хвіліну сядзіць Лаўрэн у адрантвелым захапленні. Потым — несутрымная радасць ахоплівае яго істоту. І ён хоча крыкнуць на ўвесь голас і хоча, каб голас яго ператварыўся ў нешта, там, у надземных вышынях, каб даляцеў ён да далёкіх гарадоў, і там зноў стаў голасам Лаўрэна, і каб людзі ўчулі і зразумелі Лаўрэнаву радасць, учулі:

што калгас перавыканаў да тэрміну ільнозагатоўкі;

што калгас прэміраваны на дзве тысячы рублёў;

што маладзёжная Лаўрэнава брыгада ў апошнія суткі работы працавала тры змены без адпачынку;

што новая стрэльба вісіць над Лаўрэнавым ложкам;

што прыёмнік стаіць у канцылярыі калгаса;

што цудоўная музыка гучыць у цеснай хаце і ў сэрцах людзей.

— Уключай рэпрадуктар, — кажа Васіль.

Рэпрадуктар уключаны. Але ў гэты час музыка сціхае. Лёгкі шолах плыве з рэпрадуктара. Лаўрэн напружана чакае. На яго твары трывога. Цякуць хвіліны. Маўчыць рэпрадуктар. Але вось: гучны голас напаўняе хату.

«Алло! Алло! Гаворыць Мінская радыёстанцыя імя Соўнаркома БССР! Слухайце! Слухайце!..»

Лаўрэн адварачваецца да калгаснікаў, што абступілі апарат з усіх бакоў, і добрая, радасная ўсмешка з'яўляецца на яго твары.

*1933 год, сакавік.*

---

176

# „Тэорыя Каленбрун“

*Аповесць*

Галоўны кіраўнік металургічнага завода акцыянернага таварыства «Нептун» нерухома сядзеў у крэсле. Ён стараўся захаваць унутраную роўнавагу. Ён імкнуўся ўпэўніць самога сябе, што няма повады для выбуху гневу, пералічваў у памяці ўсе парады дактароў у той частцы, дзе яны рэкамендавалі пану галоўнаму кіраўніку не гневацца, але з гэтага нічога не выходзіла. Васьмі пудам гатунковага буржуазнага мяса пана галоўнага кіраўніка пагражала апаплексія. Старанна запакаваны ў тугое сукно фрака, забраніраваны манішкай, паддушаны гальштукам, пан галоўны кіраўнік задыхаўся, глытаў паветра і, вырачыўшы вочы, глядзеў на свайго памочніка. І ўвесь час думкі яго перапаўзалі ад становішча на заводзе да парадаў дактароў у той частцы, дзе...

— Маю гонар далажыць пану шэфу, — гаварыў гнуткі гутаперчавы чалавек па той бок стала, — маю гонар далажыць пану шэфу, што пагроза страйка ў наяўнасці.

Чалавек памаўчаў. Відаць, чакаў, што скажа на гэта пан галоўны кіраўнік. Пан кіраўнік нічога не сказаў. Тады гнуткі чалавек пацёр далонь аб далонь і, нахіліўшы наперад сваё даўгое тулава, зайшоў з другога боку стала.

— Гэта чуваць па настроі ў цэхах, — дадаў ён. — Аб гэтым і маю гонар давесці да ведама пана шэфа.

— Вы ў гэтым вінаваты, — асіплым басам сказаў пан кіраўнік.

— Прашу выбачэння пана шэфа...

— Вам патрэбна было быць больш пільным!

— Прашу выбачэння пана шэфа...

— Вы круціцеся перад маімі вачыма... як... як чорт ведама што! Прашу вас сесці.

Гутаперчавы чалавек паправіў акуляры і пераламаўся ў паклоне, як сцізорык. Пан галоўны кіраўнік убачыў дасканалы прабор на даўгім чэрапе памочніка.

— Вы круціцеся так, пане Зброчэк, як істужкавы гліст, якога ўсадзілі ў банку са спіртам. Гэта ў вас называецца энергічнай дзейнасцю.

— Але...

— У вас усе намаганні накіраваны на тое, каб нарабіць гвалту навокал сябе!

— Але-ж, пане кіраўнік...

— Гвалт і піск — гэта ваша стыхія. Такія людзі мне не падабаюцца. Вы чуеце, пане Зброчэк? Прашу вас памаўчаць. Я хвалююся. Мне шкодна хвалявацца...

Пан галоўны кіраўнік кінуў акурак цыгары на стопку акуратных сініх папак на стале. Гадзіннік паказваў дванаццаць. Бронзавая баядэрка ў нерухомым танцы з электрычнай лямпаю ў руках гарэзліва ўсміхнулася пану галоўнаму кіраўніку. Ён зморшчыўся і перавёў погляд на левы рог вялізнага стала. Там, на варце пісьмовага прыладдзя, мужна стаяў легіянер з ружовага мармуру.

Зброчэк пацёр далонь аб далонь і кашлянуў.

— Што?! — спытаў кіраўнік. — Вы нешта сказалі?

— Прашу выбачэння пана шэфа, — прыўзняўся ў крэсле Зброчэк. — Я маю гонар...

— Смялей, смялей, пане Зброчэк!

— Маю гонар прапанаваць пану шэфу... выклікаць войска.

— Пане Зброчэк, — нечакана спакойна сказаў кіраўнік, — гэта ідыёцтва!

— Пан шэф заўсёды любіць гучныя словы...

— І-ды-ёцт-ва!

— Я не прымаю гэты выраз да сэрца, пане шэф, — з французскім пранонсам адказаў Зброчэк. — Паважаючы патрыётызм пана шэфа, ведаючы эрудыцыю пана шэфа, — не саромлюся сказаць: я не абражаны гэтым!

— Памаўчыце, пане Зброчэк! — прахрыпеў кіраўнік. — Я хвалююся!

Маўчалі некалькі хвілін. Пан галоўны кіраўнік тлуміў гнеў. Зброчэк уціснуўся ў кут глыбокага крэсла, забыўшыся на беспарадную ўсмешку, што застыгла на твары.

— Пане Зброчэк! — нарэшце, сказаў кіраўнік, — вы самі не ведаеце, што сказалі. Вы труслівы, як заяц, і страх адбірае ў вас розум.

— Пан шэф памыляецца...

— Што?! Прашу не забывацца!

— Слухаю пана шэфа...

— У нас вайсковы заказ, пане Зброчэк. Вы разумееце, якія гісторыі могуць адыгрэцца ў сувязі з выклікам войска? Вы можаце сабе ўявіць, што гэта азначае для фірмы?!. Нарэшце, вы можаце сабе ўцяміць палітычную сітуацыю? Што?!

— Прашу выбачэння пана шэфа...

— От!

Пан кіраўнік разгарнуў адну з сініх папак і выцягнуў адтуль спіс.

— Ярош Гагай, Адам Турчын, Марцін Крамарчык... Дзе яны?

— У цэхах, пане шэф. На рабоце.

— Вам былі дадзены інструкцыі, Зброчэк?

— Так, пане шэф! — Зброчэк устаў і нахіліўся над сталом.

— Вы нічога не зрабілі?

— Я быў у паліцыі, пане шэф. Я патрабаваў арышту і прадставіў матэрыялы. Мне адказалі, што меры будуць прыняты. Аднак...

— От! — кіраўнік кінуў на стол спіс. — Неадкладна дабіцца арышту па гэтым спісу. І гэтых трох — у першую чаргу!

— Будзе выканана, пане шэф!

— Не-ад-клад-на!

— Так!

— Войска выклікаць толькі ў тым выпадку, калі становішча будзе пагражаць грамадскаму спакою па-за межамі заводскай тэрыторыі. Меры перасцярогі прыняты?

— Так, пане шэф! Заводскія вароты ахоўваюцца паліцыяй. Усе форткі пад вартай.

— Можаце зараз ісці. Папярэджваю вас, што я вамі нездаволены. Загладзіць віну — сёння шырокія магчымасці! Вы здольны малады чалавек, пане Зброчэк. Спадзяюся, памылак больш не будзе?

Зброчэк схапіў спіс і схаваў у кішэню.

— Маю гонар запэўніць пана шэфа, — сказаў ён, выпростваючы сваё гнуткае тулава, — маю гонар запэўніць пана шэфа, што больш не будзе неабходнасці пану шэфу пры ацэнцы маіх разумовых здольнасцей абражаць свае вусны непрыемнымі словамі. Добрага здароўя пану шэфу!

Бліснулі акуляры. Мякка захваляваліся парт'еры.

Пан галоўны кіраўнік застаўся адзін у сваім кабінеце. Ён закурыў сігару і крытычна агледзеў лёгкі стан бронзавай дзяўчынкі на стале.

Пан галоўны кіраўнік адчуваў золкі неспакой. Рабочыя патрабавалі зняць вайсковы заказ з завода і павысіць расцэнкі. Папярэдзіць забастоўку магчыма было толькі задавальненнем іх патрабаванняў. Але вайсковы заказ — гэта тое, чаго дабівалася фірма на працягу некалькіх месяцаў. Гэты заказ вырваны з-пад самага носа, з самых зубоў самага заядлага канкурэнта — трэста «Ролд, Славічэк і сыны — усё для металургіі». Забастоўка, хаця-б на самы кароткі час, дватры дні, паслужыць повадам да зрыву заказу. Задаволіць рабочых нельга ні ў якім разе. Не можа быць і гутаркі. Не можа быць і намёкаў. Не можа быць нават і думкі.

Тыя, хто кіруе забастоўкай, даб'юцца свайго так ці інакш. Калі фірма не пойдзе на зняцце заказу (а яна, безумоўна, не пойдзе), заказ будзе сарваны трыма днямі забастоўкі. Лёс заказу вырашаны загадзя.

«Магчыма гэта канкурэнты? Магчыма Ролд і Славічэк? — думаў пан галоўны кіраўнік. — Іх агентура? Не. Глупства. Гэта я ведаю хто... Гэта выразна! Гэта камуністы! Ім цікава сарваць вайсковы заказ».

І тады пану кіраўніку прышла думка, што калі страйк — справа рук комуністаў, дык і павышэнне расцэнак не ратуе заказ! Тупік!

— Тупік! — мармытаў пан галоўны кіраўнік. — Тупік!

Зняць заказ азначала канец дыктатуры пана галоў-

нага кіраўніка. Праўленне таварыства патрабуе яго адыходу. Гэта што-небудзь ды азначае!

Пан галоўны кіраўнік смактаў цыгару. У зашклёнай бакавой сцяне кабінета чотка ўставалі абкураныя, ахутаныя дымам чорныя карпусы цэхаў. Туды папросту баяўся глянуць пан галоўны кіраўнік. Ён сядзеў нерухома і смактаў цыгару. У кабінеце было ціха. На паркеце ляжала пляма скупога, аслоненага хмарамі сонца.

— Тупік! Трэба прымаць меры!

Восем пудоў варухнуліся ў крэсле. Палец з брыльянтам адшукаў на стале гузік званка. Пан галоўны кіраўнік сказаў служанцы:

— Зацягніце драпры на сценах. Запаліце люстру. Мяне непакоіць гэтае ідыёцкае, каламутнае святло. І праз дзесяць хвілін пазваніце ў гараж. Машыну.

Роўна а палове другой на парозе машыннага аддзялення з'явілася высокая постаць. Гэта быў Марцін Крамарчык. Ён зашпіліў брызентавую куртку, акінуў позіркам цёмнае нутро машыннага і, адшукаўшы ў поўзмроку старшага машыніста змены, накіраваўся да яго.

— Таварыш Кольбэ, — упоўголаса сказаў Крамарчык, — на заводзе абвешчан страйк. Пастановай камітэта страйка мне загадана даць гудок.

Машыніст Юльян Кольбэ, крыху нахіліўшы набок галаву, працягваў абціраць пальцы рук абмасленым жмутком рыззя. Прыглушана гулі катлы, плёскалі прыводныя рэмні, раскідваючы кроплі масла, рухаліся матылі магутных машын.

Падышлі двое рабочых і сталі побач з машыністам.

— Марцін, — сказаў Кольбэ, — ключа ад гудка я табе даць не магу. У мяне хворая жонка і трое дробных дзяцей. Давай гудок сваімі сродкамі, я гэтаму не супярэчу.

— Ты не далучаешся да забастоўкі? — спытаў Крамарчык.

— Магчыма. Я табе сказаў. Я не маю права рызыкаваць жыццём дзяцей.

— У мяне мала часу, — сказаў Крамарчык. — Няма чаго гутарыць. Я ніколі ад цябе гэтага не чакаў, таварыш Кольбэ! Дзе люк на дах?

— Там у куце, — паказаў рабочы, што стаяў побач. —

Там трап на гару. Я табе дапамагу, таварыш Крамарчык! Мы адчынім клапан.

З кучы вугалля, што ляжала ў куце, саскочыў качагар Бартош. Ён трымаў у руках лапату.

— Забастоўка, Марцін? — разлёгся яго моцны голас.

— Забастоўка, — адказаў Крамарчык. — Дзе люк, я пытаюся?

— Вядзі яго, — падштурхнуў Бартош рабочага. — Бярыце з сабою молат. Далоў шапку клапана! Я тут у дзвярах пастаю, Марцін. Спыняем машыны зараз...

Па чыгунных папярочынах трапа загрукалі крокі. Загрымела заслона люка. Цераз яго ў машыннае, дзе пад столлю слаба тлелі закураныя лямпкі, упаў сонечны прамень.

— Зачыняйце люк! — крыкнуў Бартош, ідучы да дзвярэй.

На парозе стаяў Кольбэ. Ён працягваў абціраць рукі. У яго быў жоўты, стомлены твар.

— У штрэйкбрэхеры пойдзем, бабуля? — спытаў Бартош.

Кольбэ нічога не адказаў.

— Гэта ўжо відаць па чалавеку, калі ў яго скурка пачынае дрыжаць, — працягваў Бартош.

Кольбэ зноў нічога не адказаў.

— Не паважаю трусоў, — закончыў Бартош.

Усё гэтак-жа ў поўзмроку машыннай гулі катлы і ляскалі прыводныя рэмні пад столлю. Машыны прадаўжалі сваю работу. Але людзі пакінулі ўжо яе. Каля машын збіліся ў цесныя гурткі качагары і памочнікі машыністаў. Нешта гаварыў напоўголаса, размахваў рукамі высокі і худы механік.

— У мяне жонка і дзеці, малады чалавек, — нечакана сказаў Кольбэ. — Зараз у сям'і асабліва цяжкае становішча. Калі згублю работу — канец... Я больш яе ўжо не атрымаю.

Ён сустрэў насмешлівы погляд Бартоша і адвёў вочы ўбок.

— Я не даў ключа, бо гудок можна адчыніць і інакш. А тое, што ключ пры мне, — гарантыя, што я буду мець работу. Але ў штрэйкбрэхеры не пайду. Я стары рабочы...

— Тым горш, — сказаў Бартош. — Тым і горш, што ты стары рабочы, а з тваіх паводзін гэтага не відаць!

Кольбэ не здолеў адказаць. На парозе з'явіўся Зброчэк.

— Дзе Крамарчык? — крыкнуў ён да Кольбэ.

Той адмоўна пакруціў галавой.

Зброчэк адвярнуўся:

— Хадзіце сюды!

На парозе з'явілася яшчэ чацвёра. Яны былі ў сініх гарнітурах і капелюшах. Усе чатыры трымалі правыя рукі ў кішэнях.

— Дзе Крамарчык, пане Кольбэ? — выгінаючыся на парозе, віскуча закрычаў Зброчэк. — Я ў вас пытаюся?!

— Шпікі! — крыкнуў Бартош. — Хлопцы, спыняйце машыны!

— Не чапаць машын! — завіскатаў Зброчэк і вырваў руку з кішэні. Бліснула сталь рэвальвера. Чацвёра выразна пераглянуліся.

— Крамарчык ішоў сюды? Я ў вас пытаюся, Кольбэ! Мы проста па яго слядах... Дзе ключ ад гудка?

— Ён пры мне, — адказаў Кольбэ. — Вось ён!

Гул машын пачаў сціхаць. Прыводныя рэмні з мяккім шолахам паўзлі пад столь павольна. І ў гэты момант угары засыкала, забулькатала пара. Сыканне пераходзіла ў рознагалосы, нястройны свіст. Ён гусцеў, рос, пашыраўся, набываючы голас, і, нарэшце, густа і пераможна, з нечаканаю сілаю зароў гудок.

— Крамарчык тут! — крыкнуў Зброчэк. — Выключыць пару! Стой!

Чацвёра выхапілі рэвальверы. Зброчэк сарваў акуляры і кінуў іх у кут. І ў гэты момант качагар Бартош заступіў ім дарогу, трымаючы ў руках даўгі жалезны прут. І аднекуль са змроку за яго плячыма выступіла поўдзесятка постацей у чорных робах.

— Вымятайся адгэтуль, паліцэйская шваль! — густым голасам, пакрываючы рык гудка, крыкнуў Бартош. — Вон, бо пакрышым чарапы ў дробязь!

Зброчэк разгублена ступіў крок назад. Адпаведна з гэтым адступілі малайцы ў капелюшах. Зброчэк усунуў рэвальвер у кішэню і нешта сказаў у бок шпікаў. Усе яны не адводзілі вачэй з цёмнага кута ў глыбі машыннага, дзе быў люк.

— Нам патрэбна бачыць Крамарчыка! — закрычаў Зброчэк. — Што вы, звар'яцелі? Хто адчыніў гудок?

— Марш вон! — гукнуў Бартош, узносячы ўгору прут.

Зброчэк адступіў яшчэ на крок. Шпікі былі ўжо на самым парозе. Бартош з узнесеным прутам стаяў перад імі, а за яго плячыма цесным гуртком насцярожана застыглі ўзброеныя малатамі і лапатамі рабочыя.

І ў гэты час Кольбэ, які стаяў збоку, на тым-жа месцы, дзе і быў, убачыў, што адзін са шпікаў, хаваючыся за плечы другога, уважліва і спакойна наводзіць маузер у шырокія і смелыя грудзі Бартоша.

Таварыш Кольбэ ацаніў момант. Недзе далёка мільганула думка аб сям'і. Важкі ключ бліснуў у паветры. Шпік выпусціў маузер, прыпёрся плячыма да сцяны і павольна з'ехаў на зямлю.

У гэты-ж час у твар Кольбэ ўдарыў агонь. І зараз-жа паветра прарэзаў прут Бартоша. Даўгавязае цела Зброчэка, здрыгваючыся, лягло побач з целам машыніста Юльяна Кольбэ.

Яны ляжалі разам. Кольбэ, пролетарый, нявольнік вялікіх машын, і яго прыганяты і забойца Зброчэк. Вочы машыніста Кольбэ шклянелі смерцю. Ён не бачыў, як цераз цела шпіка спрытна пераскочылі трое тых, што засталіся жывыя, а за імі Бартош і качагары. Ён таксама не бачыў, як сышлі па трапу і вышлі на двор двое. У адным ён пазнаў-бы свайго старога таварыша Марціна Крамарчыка.

Маўчалі машыны. Распасцёртыя на зямлі ляжалі тры трупы. Над імі пагрозна і ўрачыста равеў гудок. Ён клікаў людзей на барацьбу.

І людзі ішлі на яго магутны голас. Адзін за другім цэхі пакідалі работу. Рабочыя вялікімі групамі ішлі да цэнтра двара.

«Нептун» распачаў забастоўку.

Рэзка зазвінеў званок тэлефона.

— Камендант слухае.

— Пане камендант... — захрыпела трубка. — Пане камендант... Гаворыць галоўны кіраўнік завода «Нептун»... Сур'ёзныя непарадкі... Высылайце войска, пане камендант... Роту... дзве, пане камендант! Забіты мой

памочнік, забіты агент сакрэтнай службы, забіты машыніст змены пры... аказанні супраціўлення забастоўшчыкам. Пане камендант, хутчэй... На паліцыю слабая надзея... Паліцыя баіцца...

Камендант кінуў трубку. Прабег па пакоі. Да дзвярэй і назад.

— Што рабіць? Людзей няма... Хіба выклікаць новых? Ненадзейна...

Падышоў да стала і націснуў кнопку званка.

На парозе — веставы.

— Сержанта Дроба да мяне!

Праз хвіліну ў растворы дзвярэй з'явілася высокая постаць. Спакойны твар, падцягнуты рэменем шапкі. Пільны погляд шэрых вачэй.

— Слухаю пана каменданта!

— Сержант Дроб, вы бераце астатнія два ўзводы вашай роты. Вы накіроўваецеся на завод «Нептун». Па словах дырэктара, там непарадкі. Не сумняваюся, што гэтаму шпаку цяпер і заяц здаецца тыграй, аднак, патрэбна пільнасць, сержант. Калі там сур'ёзныя непарадкі, прыняць рашучыя меры!

— Слухаю пана каменданта!

— Чакайце, сержант. Мне не хочацца, каб на «Нептуне» нарабілі гвалту мае хлопцы. Там вайсковы заказ. Наогул, мне не падабаецца ўся гэтая гісторыя... Я ўпэўнены, што там не так страшна, як здалося гэтаму старому шпаку.

— Разумею, пане камендант.

Камендант павысіў голас:

— Не разважаць, сержант! Калі будзе патрэбна страляць, вы будзеце страляць! Але памятайце, трэба будзе давесці, што карабіны стралялі самі, як гэта кажуць... Вам зразумела напружанасць апошніх дзён?

— Так, пане камендант.

— Рэкамендую асцярожнасць... Трэба на месцы ўстанавіць, з кім маеце справу.

— Так, пане камендант!

— Ніводнага неасцярожнага руху, сержант! Разам з тым трэба папярэдзіць развіццё непарадкаў...

— Мне незразумела, пане камендант...

— Не разважаць, сержант! Прыбыўшы на завод, вы-

вучце сітуацыю і далажыце мне па тэлефону. Усяго добрага, сержант Дроб!

Сержант узяў пад казырок. Чотка завярнуўся кругом. За ім зачыніліся дзверы. На пляцоўцы сержант аправіў партупею і паціснуў плячыма.

— Недарэчнасць, а не інструкцыі. Пан камендант не ведае, як паставіць нагу.

А ў кабінеце з кута ў кут нервова крочыў камендант. Нарэшце, спыніўся супроць люстра. Агледзеў сваю постаць, пакруціў вус і прайшоў да стала, пабразгваючы шпорамі сваіх лакіраў.

І тут пан камендант грукнуў кулаком.

— Я-б з вамі пагутарыў, галганы, праклятая галота! Пан сержант Дроб не дыпламат! Мы ведаем дыпламатыю: гэта мова нашых кулямётаў! Мы-б вам паказалі, пся крэў!

Пан камендант зноў ударыў кулаком аб стол.

— ... Калі-б не палітычная сітуацыя. Калі-б не гэтая... палітычная сітуацыя...

Тры грузавікі спыніліся на рагу вуліцы. Адгэтуль успаўзалі на ўзгорак вузкія калідоры цесных і брудных завулкаў. На ўзгорку, над шэрымі дахамі вуліц і завулкаў ускраіны ўзвышаліся панурыя, чорныя карпусы цэхаў завода «Нептун». Высока ў неба ўспяліся стройныя коміны. З-за каменнай заводскай агароджы высоўваліся стрэлкі паравых кранаў і мачты высокавольтнай перадачы. Завод стаяў. Над комінамі не было звычайных воблакаў дыму, не чуваць было гулу машын. Пагрозна і моўчкі ўзнімаліся на ўзгорку заводскія карпусы, і цёмныя вокны нацэліліся на горад, як жэрлы гармат з фартоў цытадэлі.

Усё гэта ўмомант агледзеў і ацаніў сержант, які яшчэ на хаду саскочыў з аўто. Ён вёў атрад вузенькім завулкам, што ўзнімаўся да самых варот завода. Салдаты па двое ішлі за сержантам. На палове дарогі сержант азірнуўся цераз плячо. У людзей былі нахмураныя твары. Яны былі непранікнёнымі ў засені касак; сержант бачыў толькі падвязаныя рэмнямі падбародкі, але адчуў, як з кожным крокам узнімаецца напружанасць нерваў людзей.

Крок атрада быў важкім і марудным. Багнеты хісталіся ў такт хады. Глянула сонца з-за хмары, і сталь ба-

гнетаў заблішчэла ў вузкім завулку, які быў завалены цэлымі горамі шлаку. Людзі панура ішлі наперад. І спакойна і проста вёў іх высокі сержант у зялёным шынялі.

Каля варот іх сустрэў паліцэйскі афіцэр. Патруль паліцыянтаў разгублена мясіў гразь каля праходнай будкі. З-за варот наплываў пагрозны гул многіх галасоў.

— Не надта прыемныя справы, сержант, — стараючыся захаваць роўнавагу і надаць бесклапотнасць голасу, сказаў афіцэр-паліцыянт. У яго быў ценькі пісклявы голас.

— Ужо трох забілі, і невядома, колькі яшчэ будзе мяса да вечара... Заводзьце людзей на двор, сержант!

Сержант крута павярнуўся:

— Падпарадкуюся толькі загадам каменданта, пане падпаручнік!

І падаў каманду. Карабіны стройна ўзняліся з плеч і, бліснуўшы багнетамі, зніклі. Атрад трымаў стрэльбы «да нагі».

Паліцыянт збянтэжана лыпаў вачыма.

— Чакайце, сержант! Мне здаецца, што я афіцэр, што...

— Ведаю, пане падпаручнік!

— Мне здаецца, што мой загад...

— Гэта вам толькі здаецца. Капрал першага ўзвода! Застаецеся маім намеснікам! Толькі па майму загаду і непасрэднаму загаду каменданта!

— Слухаю!

— Мне здаецца, пане сержант...

Сержант прайшоў у вароты міма нацягнутых паставых паліцыянтаў. Ён спыніўся каля адной з будак, адразу-ж за варотамі, і агледзеў двор. Уся агромная плошча цэнтра двара, дзе скрыжаваліся шляхі вузкакалейкі, дзе ляжалі горы металічнага ламачча, уся гэтая плошча ў некалькі гектараў была затоплена шчыльным натоўпам. Тут былі дзесяткі сотняў людзей. У чорных замасленых робах, у скураных фартухах, у стракатых майках, абкураныя дымам і чадам горнаў, абсыпаныя металічным пылам, зліліся ў адно магутнае цела калектыва сотні чалавечых адзінак, знітаваныя адзіным жаданнем барацьбы. Гэта быў гатовы да бою пролетарскі атрад.

На стрэлцы аднаго з кранаў трапятаў чырвоны сцяг.

Абняўшы рукой пераплёт стрэлкі, невысока над натоўпам гаварыў прамоўца. Ён гаварыў зычна і горача, і словы яго разносіліся над сотнямі галоў. Натоўп то заціхаў, то гуў нізкім нутраным гулам.

Сержант прыслухаўся.

— Усю зіму мы галадалі! Сотні людзей не мелі кавалка хлеба і прытулку. Увесь такарны цэх пераабсталёўвалі, выкінуўшы на вуліцу сотні рабочых сем'яў... Таварышы! Мы ледзь не здохлі ад голаду за доўгую зіму. Зараз частку з нас прынялі на работу... І што-ж! Нам на грош павысілі расцэнкі, але прымусілі абточваць снарады.

Нешта незразумелае наперабой закрычалі дзесяткі галасоў. Вырасла пагрозная хваля гулу, пакацілася ад цэнтра і замерла на ўскраях.

— Гэтыя снарады — на нас саміх! Мы не будзем рыхтаваць самі сабе крывавую лазню! Мы не будзем рыхтаваць смяротныя падарункі для нашых братоў на Усходзе! Даволі! Мы патрабуем зняць з завода вайсковы заказ і павялічыць расцэнкі на ўсе гатункі работ!

І зноў — магутныя перакаты хвалі сотняў абураных галасоў.

Сержант зняў пальчатку і правёў далонню па твары.

... Гэтак-жа восемнаццаць гадоў таму назад грымелі галасы пратэстаў на адным з заводаў гэтага горада. Гэтак-жа стаяў напагатове пролетарскі атрад. Выразна запомніў гэта маленькі Стась, і сёння мінулыя вобразы з нязвыклай яскравасцю сталі ў вачах.

Увечары таго дня заплаканая, разбітая горам маці прывяла за руку малога Стася ў гарадскі морг. Там на мармуровым стале ў радзе з другімі мерцвякамі ляжаў з расшчэпленай галавой слесар Лукаш Дроб. Стась запомніў і лічбу, што была напісана сінім алоўкам на пяце мёртвай нагі бацькі. Яна і зараз у вачах, гэтая сіняя лічба «13».

... Сержант адзеў пальчатку.

Гаварыў другі прамоўца:

— Мы сёння павінны дэманстраваць супроць вырабу вайсковых заказаў. Мы павінны дэманстраваць супроць павелічэння вайсковага бюджэта! Мы павінны дэманстраваць сваю рэволюцыйную салідарнасць з пролетарыятам усяго свету, і ў першую чаргу з пролетарыятам СССР! І перад тым, як выйсці на вуліцу, мы павінны

ўшанаваць памяць таварыша Юльяна Кольбэ, першай ахвяры нашага завода ў сённешні дзень.

— Таварыш Кольбэ загінуў, абараняючы жыццё другога пралетара...

У натоўпе замільгалі шапкі. Людзі стаялі з адкрытымі галовамі, і велічная ціш уступіла на шумны дагэтуль двор.

Нервовая спазма сціснула горла сержанта. Па ўсім целе калючыя і зімныя прайшлі дрыжыкі. У гэтыя кароткія хвіліны ўстаў перад вачыма ўвесь шлях Станіслава Дроба, і сержант яскрава ўбачыў, як памыляўся Стась, убачыў, якой мізэрнай і недастойнай была мэта Стася, як, не гледзячы ні на што, мала ён меркаваў узяць ад жыцця...

— Што вам тут патрэбна? — спытаў побач непрыязны голас.

Перад сержантам стаяла двое рабочых.

Што патрэбна Станіславу Дробу? Патрэбна пайсці і стаць вунь туды, да стрэлкі, каб у часе дэманстрацыі апынуцца ў першых шэрагах дэманстрантаў і, магчыма, несці чырвоны сцяг. Што можа быць патрэбна Станіславу Дробу, сыну пролетара, слесара Лукаша, на гэтым двары, калі завод рыхтуецца да выхаду на вуліцу? Нават смешнае пытанне!

— Што вам патрэбна тут? мы пытаемся! Чуеце, сержант?

Сержант? Ага! Сержант... Сітуацыя... Давесці, што карабіны стралялі самі... так... Два ўзводы канвойнай роты пад камандай сержанта Дроба... Вось яно што...

Сержант засланяе твар пальчаткай. Ён збіраецца з думкамі. Куды зайшоў ты, маленькі Стасік Дроб?

І выразна ўсплывае план. Цяпер сержант ведае, што яму патрэбна.

— Мне патрэбен тэлефон. Я камандзір прысланага сюды атрада.

— Тэлефона няма, — адказаў адзін з рабочых, — заводскі камутатар выключаны.

— Ёсць тэлефон у канторы кіраўніка, — сказаў вартаўнік з бляхай на грудзях.

Адзін з рабочых сціснуў кулак і паказаў яго вартаўніку.

— Не раззявай дзюбку, варона! Пайшоў прэч адгэтуль!

Той нехаця адвярнуўся і паплёўся некуды ўздоўж агароджы.

— Правядзіце мяне ў кантору кіраўніка, — сказаў сержант.

— Нельга.

— Хто мне можа дазволіць дайсці да тэлефона?

— Член камітэта. Хіба паклікаць Крамарчыка? — рабочы ў ваганні паглядзеў на другога.

— Абавязкова паклічце. Мне патрэбен тэлефон. І чым хутчэй вы гэта зробіце, тым лепш для вас.

— Бяжы! — падштурхнуў адзін рабочы другога. — Няхай камітэт разбярэ.

Крамарчык прышоў хутка. З ім разам з'явіўся высокі, агромністы чалавек з жалезным прутам у руках. Крамарчык па звычцы адшпіліў і зноў зашпіліў гузік сваёй брызентавай курткі. Коратка агледзеў сержанта, крыху затрымаўшы погляд на наплечніках.

— Што вам патрэбна? — суха спытаў ён.

— Камандзір атрада. Патрэбна размова па тэлефону.

— Нельга.

Сержант аправіў кабуру.

— Прашу вас адыйсці са мной на некалькі крокаў у бок.

Шэрыя, цвёрдыя вочы Крамарчыка недаверліва глянулі ў гэткія-ж шэрыя вочы сержанта. І ў блеску вачэй Дроба Крамарчык адшукаў нешта такое, што прымушала верыць.

— Хадзем! — коратка сказаў Крамарчык.

Яны адышлі ўбок.

— Перамова па тэлефону дасць магчымасць на працягу пятнаццаці хвілін адвесці салдат у казарму і адчыніць вам дарогу ў горад, — сказаў Дроб.

— Або прывесці яшчэ два ўзводы? — насмешліва спытаў Крамарчык. — Магчыма, на кулямёт забыліся?

— У гэтым даю слова.

— Цяжка для рабочага верыць на слова чалавеку, які мяркуе начапіць афіцэрскія наплечнікі!

Дроб злёгку пачырванеў.

— Даю вам слова!

Зноў Крамарчык недаверліва і пільна паглядзеў у вочы сержанта. Твар Дроба ўжо быў зімным і спакойным.

— Хадзем, — сказаў Крамарчык. — Але папярэджваю, калі гэта правакацыя, яна вам дарэмна не пройдзе.

Абмінаючы натоўп, яны накіраваліся да асабняка, што стаяў на водшыбе, у куце двара. У пад'ездзе асабняка на асфальтавай дарожцы стаялі паставыя рабочага пікета. Па шырокіх усходах, што былі ўсланы чырвонай дарожкай, Крамарчык і сержант узняліся на другі паверх. Французскі замок у дзвярах быў вырваны. Сержант штурхнуў нагой дзверы і апынуўся ў зашклёным кабінеце. Крамарчык спыніўся ў дзвярах і стаў за парт'еру.

З-за прысадзістай камлыгі пісьмовага стала выкацілася круглая, таўшчэразная куля. Заблішчэла брыльянтамі персняў, каронкамі зубоў. Тры падбародкі пана галоўнага кіраўніка гвалтоўна калыхаліся, каўнер быў адшпілены, і ружовая шыя выпірала вон, разрываючы манішку.

— Якое няшчасце, пане афіцэр... Я вельмі рады вашаму прыбыццю!

Сержант казырнуў і прайшоў да стала. Двое рабочых, якія сядзелі на падаконніку, насцеражыліся, але, заўважыўшы знак Крамарчыка, пачалі зноў углядацца ў акно. Пан галоўны кіраўнік застаўся стаяць пасярод кабінета з шырока разведзенымі рукамі і раззяўленым ротам.

Сержант узяў трубку.

— Каменданта.

І праз момант учуў знаёмы, прарэзлівы каменданцкі голас.

— Пане камендант, — спакойна сказаў Дроб. — Прыбылі на завод. Каманда стаіць у варотах разам з патрулём паліцыянтаў. На двары адбываецца мітынг. У асноўным становішча прыблізна такое, як вы ўяўлялі яго, пане камендант.

— Так, — з выразным задавальненнем сказала трубка.

— Але мітынг шматлікі. Тысяч пяць людзей. Прамовы антымілітарыстычнага парадку, і людзей уводзіць на двор я асабіста не лічу мэтазгодным. Патруль паліцыі па сваёй колькасці дастатковы для блакады варот.

— Вашы меркаванні?

— На мой погляд нічога асаблівага няма.

Трубка памаўчала. І тады сержант учуў слова, якога напружана чакаў.

— Звяртайцеся.

— Цераз пятнаццаць хвілін, пане камендант!

Сержант паклаў трубку і сказаў кіраўніку:

— Загадана адвесці атрад у казарму.

У маленькіх сланёвых вочках адбіўся страх.

— Адыходзіце? Што гэта азначае?!

Сержант казырнуў:

— Загад каменданта!

І пайшоў да дзвярэй. Пан галоўны кіраўнік затупаў на месцы і падбег да стала. Але на тэлефонную трубку лягла рука рабочага. Пан галоўны кіраўнік упаў у крэсла.

На ўсходах сержант ціха сказаў:

— Паліцыянты для вас перашкоды не стаўляюць. Толькі не марудзьце.

І адчуў, як яго руку моцна паціснула рука Крамарчыка.

Калі яны вышлі на двор, Крамарчык упершыню ўбачыў, што ў сержанта яшчэ вельмі малады і вельмі ўсхваляваны твар.

Не азіраючыся, сержант прайшоў міма рабочых пікетаў да галоўных варот. І тут да яго адразу-ж падбег кароткі паліцэйскі падпаручнік, і следам за ім да твару яго чорнай хмарай падсунуліся вусы паліцэйскага капітана.

— Пане сержант! Я вам загадваю...

Сержант выцягнуўся ў струнку.

— Маю загад пана каменданта: звярнуцца!

І падаў каманду.

Карабіны паслухмяна ўзляцелі над шарэнгай.

Сержант кінуў косы погляд на паліцэйскіх. Яны ўтварылі затычку ў варотах.

— Выб'юць адным напорам, — падумаў сержант.

Атрад ішоў тым-жа завулкам, па абочынах якога ляжалі горы шлаку. Гразь хлюпала пад нагамі. Але цяпер у небе ясна свяціла сонца, перамагаючы напластаванні хмар. Яно ззяла на багнетах. Радасць была на змучаных салдацкіх тварах. Радасць ад таго, што не будзе крыві, ад таго, што свеціць сонца на шэрую зямлю, і радасць ад таго, што ў паветры зыкі спеву.

А стогалосы рэвалюцыйны спеў нарастаў з кожнай хвілінай. Ён узнімаўся над заводскай пляцоўкай, над чорнымі карпусамі, над вуліцамі і завулкамі ўбогай

ускраіны. Ён вясеннім ручаём разліваўся ў паветры, захопліваў з сабой людскія сэрцы так, як захоплівае трэскі вясенняя паводка, і ці пад рабочай блузай, ці пад салдацкім шынялём, ці пад шэрай сярмягай — аднолькава моцна здрыгалася сэрца і біла шпарчэй у краты грудзей. І шугала хутчэй па жылах кіпучая, вясенняя, прагная да барацьбы чалавечая кроў.

Нарастаў рэвалюцыйны спеў з-за агароджы завода. З радаснымі тварамі ішлі салдаты, а наперадзе іх — выпрастаны і спакойны чалавек у зялёным шынялі, сержант Дроб. Ён думаў аб тым, ці здолеюць выйсці за вароты рабочыя завода «Нептун» перш, чымся прымчаць паліцэйскія аўто.

На рагу вуліцы чакалі атрад тры грузавікі. На жоўтым борце першай машыны была сіняя лічба «13».

Сержант нахмурыў бровы. Недзе ў грудзях, глыбока пад сэрцам, варухнуўся золкі неспакой.

Прайшло два дні. Увечары сержант сядзеў у сваім пакоіку на ніжнім паверсе камендатуры і чытаў. За дашчанай перагародкай прыглушана гаманіла казарма. За акном, дзе гусцеў вячэрні змрок, шумеў вясенні горад. Быў ціхі вячэрні час кароткага салдацкага адпачынку. Там, за перагародкай, на вузкіх, цесных, смуродных нарах ляжалі людзі. Загнаныя ў душны каменны мяшок казармы, таміліся ў гэты вясенні вечар людзі, маўкліва ляжалі на нарах, слухаючы шум вясенняга ветру за сценамі казармы, прыслухоўваючыся да гоману вячэрніх вуліц горада. Кожны думаў аб сваім, але ўсе думкі зыходзіліся на адным. Гэта — убогія каморкі рабочых кварталаў. Гэта — убогія хаціны шэрых вёсак. Гэта — голад і беспрацоўе. Гэта — крыўды, прыгнечанне, цяжкая і дарэмная праца каля варштатаў і на палях. Думалі людзі і аб сабе, аб аглушаным муштроўкай, нявольніцкім, поўгалодным салдацкім жыцці...

Вясенні вечар сыходзіў на горад. Пад столлю казармы замігалі закураныя рэдкія лямпкі ў дзесяць свечак. Сержант паклаў кнігу. Гэта быў томік услаўленага нацыянальнага паэта. За гучнай прадмовай, якая выносіла аўтара ў геніі паэзіі, крылася мутная, дохлая вадзіца лірычных уздыханняў, істэрычных ускрыкаў, бясприкладнага містыцызма і беспадстаўных палётаў у міжпланетныя прасторы.

Гэта не ўвязвалася з жыццём. І ні ў якім разе не дапасоўвала да поўзмроку казармы, дзе змучана варушылася напоўзадушанае жыццё.

— Дрэнь! — зазлавана сказаў сержант.

І ў гэты час у дзверы пастукалі. На парозе стаяла постаць веставога.

— Да пана каменданта ў кабінет.

Сержант уздрыгнуў, але зараз-жа аўладаў сабой. Павольна ўстаў і аправіў пояс.

Ён ведаў, у чым справа, і таму на хаду паміж пляцоўкамі першага і трэцяга паверхаў абмацаў больш слабыя звенні ў ланцугу сваіх довадаў. Іх было нямнога, і таму ўжо спакойны сержант пастукаў у дзверы каменданцкага кабінета.

Гаўкнуў голас каменданта, і зараз-жа брахнуў сабака. Сержант усміхнуўся. Абодва галасы былі падобны адзін да аднаго.

Асляпіла святло. У кабінеце плаваў пах цыгары. Сержант выпрастаўся і казырнуў.

— Па загаду, пане камендант!

— Добра, сержант! Хадзіце бліжэй.

Твар каменданта стараўся набыць прыхільную ўсмешку. Вялізны аўчар падышоў да сержанта і абнюхаў край шыняля.

Камендант паказаў на крэсла супроць стала.

— Сядайце! У нас з вамі ёсць вельмі цікавая тэма.

Сержант сеў. Пад ногі яму лёг аўчар. Супроць яго за сталом сядзеў прарэзлівы, сухі, гарбаносы камендант з крута завітымі вусамі і бліскучым праборам. Ільснілі наплечнікі і срэбная мішура каўняра. Камендант адчуваў эфектнасць свайго выгляду і ўсміхаўся з лёгкай іранічнай ветлівасцю да сержанта.

Ён узяў асадку і пастукаў ёю па мармуровай дошцы стала. І адразу знікла ўсмешка, і твар стаў злым.

— Адкажыце каротка, на якіх падставах вы адвялі атрад з завода «Нептун»?

— На падставе вашага загаду, пане камендант.

Камендант пачырванеў і зноў пастукаў асадкай па стале.

— Сержант! — павысіў ён голас. — Вы паказалі непраўдзівую сітуацыю і вымусілі мяне даць загад на зварот. Калі вы гэта зрабілі з умыслам, вас чакаюць буйнейшыя непрыемнасці. Што? Не разважаць, сержант!

Я вас накіраваў на завод без афіцэра, даручыў вам палову канвойнай роты, а вы не зрабілі такой простай справы, як блакада заводскіх варот. Што? Не разважаць, сержант!

У гэты момант з-за шырмы, што стаяла ў глыбі кабінета, разлёгся кароткі, сухі, характэрны шолах. Аўчар павёў вухам.

— Сур'ёзная, відаць, справа, — падумаў сержант. — Мяне фатаграфуюць.

Камендант заікнуўся і зірнуў мімаволі ў бок шырмы. Заўважыў, што для сержанта быў прыкметны яго погляд, і разгублена забегаў вачыма. Потым бразнуў асадку на стол.

— Чаму вы не падпарадкаваліся афіцэрам паліцыі?

— Я меў ваш загад, пане камендант.

— Менавіта?

— Прыбыўшы на завод, перш за ўсё азнаёміцца са становішчам і далажыць пану каменданту па тэлефону.

— Так. А потым?

— Меў таксама ваш загад, пане камендант, звярнуцца ў казарму.

— Але вы далажылі мне, што мітынг меў спакойны характар!

— Наадварот, пане камендант. Я дакладваў вам, што мітынг у вялікіх памерах і прамовы такога характару, што небяспечна ўводзіць людзей на двор завода.

— Так. Вы аб гэтым мне сапраўды дакладвалі. А хіба вы не ведалі, што адбудзецца дэманстрацыя?

— Не меў такіх крыніц для арыентыроўкі, пане камендант.

Камендант зноў узяў асадку ў рукі.

— А зараз скажыце мне, пры вас памёр ад удару пан галоўны кіраўнік завода?

— Пры мне з панам галоўным кіраўніком здарыўся прыпадак. Нічым не мог яму дапамагчы, бо меў ваш загад...

— Аб чым?

— Звярнуцца ў казарму.

Камендант густа пачырванеў і паклаў асадку.

— Апошняе пытанне: аб чым вы гутарылі з рабочымі на двары?

— Дамагаўся атрымаць тэлефон.

— Дзіўна, чаму яны вам дазволілі дайсці да тэлефона?

— Я гэта ацаніў як факт іх мірнага настрою, пане камендант.

— Вы не чулі ў словах прамоўцаў закліку да дэманстрацыі?

— Я слухаў прамову толькі на працягу дзесяці хвілін. Рабочы пікет патрабаваў майго адыходу. Аб дэманстрацыі не чуў. А паліцыі ў варотах было досыць.

Камендант устаў.

— Цяжка выявіць праўду ў даным выпадку. Ва ўсякім разе, вы, лепшы службіст, трымалі сябе ў дзіўнай неадпаведнасці з вашымі папярэднімі паводзінамі. Загады вы і раней выконвалі акуратна, дакладна і хутка. Застаецца незразумелым, чаму вы не здолелі арыентавацца ў такім выразным становішчы і прымусілі мяне даць памылковы загад?

— Я не здолеў арыентавацца, пане камендант, таму, што я ўпершыню быў пасланы на ўхіленне беспарадкаў. Акрамя таго, там было пяць тысяч чалавек, і кожны крычаў сваё. Я трымаўся аднаго: нельга ўводзіць жменькі людзей у гэтую чалавечую кашу, бо іх у даным выпадку мог сустрэць лёс...

Сержант замаўчаў. На яго з чаканнем глядзеў камендант.

— ...лёс лыжкі масла, пане камендант!

Камендант паморшчыўся.

— У астатнім я кіраваўся вашымі загадамі...

— Добра, Дроб!

Камендант прайшоўся па пакоі.

— Пакінем гэтую непрыемную гутарку, сержант. Вы ў маіх вачах застанецеся тым-жа самым бравым легіянерам, дастойным арміі вялікага маршала.

— Рад служыць, пане камендант!

Камендант дайшоў да стала і спыніўся.

— Вы па адукацыі тэхнік, сержант?

— Так.

— Дзе ваша сям'я?

— Я не маю сям'і.

— Хто быў ваш бацька?

— Я не памятаю бацькі, пане камендант. Падобна да таго, што ён працаваў недзе ў прамысловасці.

— Маці?

— Яна памерла ў адзін год з бацькам.
— Хто вам дапамог стаць на ногі?
— Я гадаваўся ў ксяндза.
— Так. У вас адчуваецца добры тон. У вас старанна ўзгадоўвалі дух веры, кахання да айчызны, вернасці свайму народу. Я лічу, што на бліжэйшых вайсковых святах вам будзе дадзена права ісці ў афіцэрскую школу, і, калі вы толькі пажадаеце, прыдзе той час, што я пацісну вам руку, як роўнаму сабе, перад алтаром веры і айчызны.
— Рад служыць, пане камендант!
— З меркаванняў гэтых я і задаў вам шэраг пытанняў, якія вам маглі прыйсці не да спадобы. Натое я ваш начальнік. Вы вольны, сержант Дроб!
Сержант павольна сышоў па ўсходах у пад'езд і стаў у кут, у засень усходаў. Вартавы з вуліцы ўчуў яго крокі, заглянуў у пад'езд, нікога не ўбачыў і роўнадушна адвярнуўся, працягваючы мерную сваю хаду ўзад і ўперад перад дзвярыма казарм.
Чакаў сержант нядоўга. Неўзабаве грукнулі дзверы ўгары, і на ўсходах разлегліся лёгкія крокі са звонкім акампаніментам шпор. Міма сержанта прайшоў сярэдняга росту драбнаваты афіцэр у макінтошы французскага пакрою.
— От мой фатограф з дэфензывы, — зазначыў сержант. — Вось табе і «бравы легіянер»!
Сержант вышаў з-пад усходаў і ўвайшоў у казарму. Вартавы зноў заглянуў у пад'езд, сплюнуў і падаўся зноў на вуліцу.
У калідоры сержанта сустрэў паручнік канвойнай роты. Ён, гледзячы міма сержанта, нацягваў пальчаткі.
— Роўна а дваццаць чацвертай гадзіне, сержант, вы, па загаду пана капітана, накіроўваецеся на чале першага ўзвода ў штаб для ўнутранай аховы памяшкання. З'явіцеся ў распараджэнне дзяжурнага каменданта. Людзей узніміце за дзесяць хвілін да адыходу. Зразумела, сержант?
— Так, пане паручнік!
— Можаце ісці.
Паручнік усё гэтак-жа, гледзячы проста перад сабой, вышаў з казармы. Сержант накіраваўся да сваёй каморкі. І, увайшоўшы ў яе, як быў у шынялі і ў шапцы — лёг на цвёрды свой ложак.

Ён стомлена прымжыў вочы.

Рознакаляровыя ліхтарыкі пад распісным сталяваннем запаўняюць залю фантастычным святлом. Тут, у гэтым святле, якое нервуе людзей нязвыклым злучэннем фарбаў, у празрыстых воблаках тытунёвага дыму, павольна хістаюцца і, здаецца, плывуць задумёныя пальмы ў лямцавых адзеннях.

За мармуровымі столікамі — людзі. П'яныя ад він і наркотыкаў, з пашыранымі зрэнкамі мужчыны, што апрануты ў крылатыя фракі, хціва абмацваюць вачыма жанчын, угадваючы пад абалонкай адзення выпеставанае цела самкі. Жанчыны адказваюць гэтым-жа. У іх вачах, разбэшчаных і разам з тым пакорных, — жаданне. Жанчыны распрануты ў памерах магчымасці, і плечы іх ільсняць у фантастычным святле ліхтароў, і на гэтай гладкай, насычанай касметыкай скуры крыжуюцца ліпкія погляды мужчын.

Як толькі змеркне, у бары-дансінгу «Томі» збіраецца маклерская прылізаная банда, якая фрачным груганнём абсядае тлустыя тушы біржавых каралёў. З томнымі тварамі і падведзенымі брывамі сядзяць за чужымі столікамі модныя паэты. З громам шабельных похваў, бліскаючы мішурнай ганарыстасцю каўняроў і наплечнікаў, бадзяюцца, спатыкаючыся на кельнераў, непераможныя афіцэры, з задавальненнем пераймаючы на сабе ільсцівыя погляды жанчын.

Гэта — асноўны тон бара-дансінга «Томі». Бульварныя газеты назаўтра, аблізваючыся ў прадчуванні гаспадарскай падачкі, адзначаць прысутнасць у бары «фінансавых і вайсковых дзеячоў і дзеячоў мастацтва». Гэтак сама газеты адзначаць і тое, што пасля дванаццаці гадзін «пачалося нязвыклае ажыўленне».

На эстрадзе, што схавана ў глыбі залі, у цішы, якая задрапіравана парт'ерамі, настройваецца джаз. Бегаюць кельнеры. Істэрычна-высока звіняць галасы.

У адным з пустых кутоў залі, за столікам пад пальмай, сядзяць двое. Адзін — кароткі і грузны, туга зашпілены ў мундзір, мае ружовы, гладка выгалены твар, на якім з пухліны тлушчу выпінаюцца алавяныя маленькія вочкі. Гэта — маёр Пферц-Дабравольскі. Другі — малога росту, сухі, з даўгім змаршчастым тварам. Твар гэты — незвычайны, нечалавечы твар. Уздоўж яго, крыху

наўкос — шрам. Гэты шрам раскрышыў левую скулу, разбіў брыво і знізу ўгору, наўкос цягнецца яго ружовы накіп. Левая частка твара — сіняя. Вока няма. У ямцы сядзіць шкляная пратэза. Таму маёр Каленбрун устаўляе ў яміну манокль.

— Я слухаю вас, калега Дабравольскі!

Паміж імі на круглым мармуровым стале—гара фарфару, хрусталю, і ў цэнтры награмаджэння бакалаў, шклянак, кілішкаў, талерак і вазаў — срэбнае вядро з крышталем ільду і залатагорлай бутэлькай. Прыемны і ценькі пах ежы казыча нюх і горла Пферц-Дабравольскага. Акрамя гэтага, у яго зусім няма жадання гаварыць тое, чаго чакае Каленбрун. Аднак Пферц-Дабравольскі адсоўвае ад сябе адной рукой талерку, другой бакал.

Ён кажа з вымушанай абыякавасцю:

— Калега, навіна не асабліва прыемная, — наш паднаглядны знік.

Каленбрун вымае шкелка манокля з яміны вока і старанна працірае яго берагам беласнежнай сурвэты.

— Мы яго, бясспрэчна, адшукаем, — спяшае дадаць Пферц-Дабравольскі. — Бясспрэчна! Аднак, зараз — факт застаецца пакуль што фактам. Вышаў са сферы агентурнага нагляду.

— Ёсць магчымасць яго адшукаць? — голас Каленбруна рэзкі, з іржавай ноткай.

— Справа трох дзён, маёр. Я дзіўлюся, чаму вы не сказалі ўзяць яго раней. Мы столькі часу трымалі гэтага чалавека ў руках...

— На гэта былі вышэйшыя меркаванні.

— Не разумею!

Каленбрун упраўляе шкелка ў вока. Потым нахіляецца цераз стол і кажа:

— Пасля вячэры мы паедзем з вамі ў штаб, маёр. Там вам стане вядомым, навошта нам патрэбен гэты чалавек і навошта мы столькі яго трымалі на волі. Карацей, я вас увяду ў падрабязнасці плана. Тады, магчыма, вы прыкладзеце больш энергіі да таго, каб зноў атрымаць гэтага чалавека. Ён нам неабходзен менавіта зараз. Трэба яго выкапаць хоць з-пад зямлі. Спадзяюся на вашых дэтэктываў, маёр.

Пферц-Дабравольскі з аблягчэннем ківае галавой.

Шчылінкі вачэй знікаюць, заплываюць у складках тлушчу. Маёр Пферц-Дабравольскі ўсміхаецца.

Каленбрун узнімае бакал:

— Вашае здароўе, калега!

Цераз гранёны бок бакала Пферц-Дабравольскі бачыць скарэжаны ў прызме твар Каленбруна, які паставіў ужо свой бакал. Бліскаюць пратэза і манокль, шчыліна рота, што ашчэрылася ва ўсмешцы, зліваецца з накіпам шрама. Тоўстаму маёру здаецца, што ў Каленбруна палова галавы металічная і метал няўдала скляпаны з сухой жоўтай каробкай даўгога чэрапа. Каленбрун знікае, расплываецца ў прызме бакала. Таўсцяк ставіць пусты бакал на стол. І ў гэты момант за яго плячыма бязгучна, як цень, з'яўляецца кельнер. Шампанскае ільсніць у бакалах, адбіваючы ў сабе ўсе колеры асвятлення залі.

— Ваша здароўе, маёр Каленбрун!

Пферц-Дабравольскі аглядае скоса страшэнны твар Каленбруна.

— Кан'як, кельнер!

І адкідваецца на спінку крэсла. Ён адчувае прыемную млявасць. Бар гудзе нястройным гулам галасоў. У празрыстым дыме хістаюцца пальмы. У нішы аркестра прабуюць саксафон, і ён ускрыквае савіным голасам Пферц-Дабравольскі аглядае залю, бачыць, як яго погляд ловяць афіцэры і ўсміхаюцца гарэзліва жанчыны. Ён здаволена адварочваецца да стала.

З'яўляецца кельнер.

І яшчэ цераз дзесяць хвілін расквечаная дзівоснымі агнямі заля калышацца ў вачах Пферц-Дабравольскага. Нават скарэжаны твар Каленбруна здаецца яму прыгожым і прыемным. Маёр Пферц-Дабравольскі трымае ў руцэ ножку гуся і размахвае ёю ў паветры ў такт аркестра, які грае пікантнае танго — «Звярніся зноў да мяне!»

— Кельнер! — кажа Пферц-Дабравольскі, — загадайце аркестру, каб зайгралі марш *«Placówka ulanów»!*

Кельнер хутка звяртаецца і разгублена камечыць у руках сурвэтку:

— У аркестры не маюць такіх нот, пане генерал!

— Што-о-о-о?!. — вочы Пферц-Дабравольскага ў справядлівым гневе вылазяць на лоб, — што-о!?. Вы не падрыхтаваліся да прыёму вайсковых?!

— Пане генерал...

Коратка звоніць бакал.

— Маёр!

Пферц-Дабравольскі зусім блізка ад сябе бачыць знявечаную маску Календруна.

— Супакойцеся, маёр!

— Хай граюць... — не задецца таўсцяк, — хай граюць факстрот «Міс Эвелін»!

— Можаце не звяртацца, кельнер, — кідае ўздагон Календрун.

І налівае бакалы.

— За здароўе маршала, калега!

Аркестр пачынае факстрот. Пферц-Дабравольскі размахвае гусінай ножкай. І раптам гэтую ножку нехта вырывае з рук так нечакана, што маёр на працягу хвіліны недаўменна аглядае абпэцканыя ў тлушч пальцы.

— Кельнер! — кажа Пферц-Дабравольскі, — адшукаць гусіную ножку!

— Кельнер, не патрэбна, — разлягаецца рэзкі голас.— Я хачу пагутарыць з вамі, калега.

Пферц-Дабравольскі ўзнімае галаву і падаецца назад. На твары Календруна ззяе сінімі, жоўтымі, зялёнымі вар'яцкімі агнямі пратэза вока. Гэта нязвыкла і страшна. Календрун усміхаецца, і бліскаюць залатыя зубы. Яго твар пабялеў і, нібы ад цяжару шрама, скрывіўся набок.

— У мяне зараз выпаў манокль і пабіўся, — тлумачыць Календрун. — Цяглiцы брыва перабіты, і шкелка вылізгваецца вон. На дзень патрэбны два манoклі. Не паважаю шнурка. Гэтак ходзяць салонныя шпакі. Дарэчы, ведаеце, хто гэтак мяне размаляваў?

— Большэвікі, — асцярожна адказвае Пферц-Дабравольскі.

— Менавіта. Я прыняў удар на шаблю. Яна разляцелася ў дробязь, у пыл. Нібы фарфуровы поўмісак. Страшны, нечалавечы ўдар. Так можа сцебануць шабляй сам чорт. Я памятаю гэтага кавалерыста. Пад ім дубам стаяў конь, ашчэраны, як звер, і гэткім-жа зверам быў кавалерыст. Я парыраваў удар, але, як бачыце... гм... Гэтага я ніколі не забудуся. І каб не французскія хірургі, якія клеілі мне чэрап, сёння я на вас глядзеў-бы адтуль.

Вышыты рукаў выцягваецца ўгору, і палец маёра паказвае на распісаную столь.

Маёр Каленбрун уздыхае.

— Некалі я меў дваццаць тысяч дзесяцін зямлі ў Чэрнігаўшчыне. Гняздо маіх продкаў. Блізка адтуль былі мае два цукровыя заводы. Узамен гэтага я атрымаў чатыры шчыліны ў чэрапе, які трэснуў, што спелы гарбуз, атрымаў шрам і немагчымыя болі галавы. Да сваіх маёнткаў і заводаў я, акрамя ўсяго, дадаў і левае вока... Што вы кажаце, маёр?

— Кажу, што гэта вельмі непрыемна, калега.

— Гэтае кволае слова нічога не азначае. Ні-чо-га не азначае перад тсй нянавісцю, якую я ўзгадоўваю, вынешчваю для іх. Думаю, што хутка буду мець магчымасць аддзякаваць. Хэ-хэ... Вы не ведаеце, маёр, што азначае «Тэорыя Каленбрун»! Хэ-хэ... Вы павінны благаслаўляць свой лёс і заўтра даць на імшу ў капліцы святой Марыі за тое, што вам удалося мець справу з маёрам Каленбрун. У гісторыі гэта будзе адзначана. Хэ-хэ... «Тэорыя Каленбрун!»... Ведаеце што, маёр? Вып'ем!

Пферц-Дабравольскі абмякае, устанаўлівае кароткія локці тоўстых рук на бераг стала і падпірае імі тупы, масіўны падбародак. Рознагалоса гудзе бар. Недалёка ад іх рассаджваецца кампанія поўп'яных маладых людзей.

Джаз стогне танго.

Каленбрун сядзіць просты, як струна, і кусае цыгару. Дым ахутвае яго дзікі твар з шалёнымі агнямі шклянога вока.

— Уначы я прасынаюся, маёр, — хрыпіць ён напоўголаса. — Часамі мне здаецца, што я чую раскаты катастрофы, якая патрасае свет. Мне здаецца, што я чую за акном голас азлобленых мас, якія не ведаюць ні страху, ні літасці. Я, маёр Каленбрун, кавалер двух ордэнаў «Virtuti militari», я адчуваю ў сваёй душы нізкі страх!

— Гэта нервы, маёр! — бурчыць таўсцяк.

— Нервы?! Хэ-хэ-хэ... У мяне? Нервы? Мае нервы — жалеза! Мая воля — сталь, маёр Пферц-Дабравольскі! Але тым горш! Я магу арганізаваць удалую атаку, я магу праз цэлыя гады плесці ніці самых складаных разведачных аперацый, у мяне хопіць і вытрымкі і здоль-

насцей. Але, калі я гляджу навокал сябе і бачу ворага за кожным вуглом, чую яго крокі за сваім хрыбтом, калі я разумею, што кожны завод — гэта дывізія варожых сіл, кожная вуліца — іх акоп, калі я адчуваю, што фронта няма, але, разам з тым, вораг націскае з кожным днём усё больш, што гэты вораг на зямлі, пад зямлёй, у паветры, — тады я губляюся, маёр! Не саромлюся вам аб гэтым сказаць!

Каленбрун узнімае сухую руку і патрасае ёю ў паветры.

— Фронта няма, і мы ў агні. Клас супроць класа, маёр! Набліжаецца час вялікіх здрыгаў, але гэта прадбачаць толькі нямногія з нас. Нам патрэбна нязвыклая канцэнтрацыя сіл, надзвычайна ўмелая арганізацыя ўсіх баявых рэсурсаў і выходных вышынь, надзвычайна ўмелая палітыка з масамі, праўдзівей той іх часткай, на якую мы яшчэ не згубілі ўплыў! Нам патрэбна ўмелая работа ў стане нашага ворага. І нават пры гэтых умовах — перамога не забяспечана. Іх — мільёны! Мільёны мільёнаў на ўсёй кулі зямлі... А нас — толькі дзесяткі тысяч! Няма франтоў! Мы абкружаны! Іх воля вырашыць, калі менавіта нас задушыць, сцерці з твару зямлі... Вып'ем, маёр?

Ён прагна выпівае бакал.

Усё гэтак-жа назойна стогне джаз, і бяспечна смяюцца п'яныя людзі. Усё гэтак-жа ківаюць галовамі задумёныя пальмы, ахутаныя празрыстым тытунёвым дымам. Але да п'янага мазга Пферц-Дабравольскага даходзяць слабыя адценні грозных вобразаў, якія выклікаў у гэтую раскошную залю Каленбрун.

Пферц-Дабравольскі сціскае кулакі і кажа:

— Нервы, калега! Тэхніка вайны вырашыць барацьбу. Тэхніка ў нашых руках!

— Я не думаю здавацца на літасць пераможцаў, — адказвае Каленбрун. — Я буду, як тыгра, змагацца з ворагам сваім. Я гавару аб канцэнтрацыі сродкаў барацьбы значна ў большых памерах, чым вы гэта можаце, калега, выбачайце, зразумець. Тэхніка — адносная справа! Авіяцыя і артылерыя, газы і агнямёты патрабуюць людзей! Людзям не нашага класа нельга верыць, маёр! І я часта думаю аб тым, колькі-б я даў на тое, каб былі вынайдзены і дзейнічалі звышмагутныя агнямёты, марсіянскія цеплавыя праменні, машыны, якімі дзесятак

людзей мог-бы знішчыць мільёны... Колькі-б я даў за тое, каб бачыць, як гараць у моры агню гэтыя стотысячныя масы, як яны курчацца ў агні, як смуродзіць іх мяса, каб убачыць, як вее вецер іх попел па нашых палях, па нашай зямлі!

Каленбрун задыхаецца і прыўстае з месца. Па стале коціцца бутэлька і разбіваецца аб поручань крэсла. На белым твары Каленбруна выпінаецца наліты крывёй сіні шрам.

— І яшчэ мяне наведваюць вобразы, — задушана хрыпіць ён, — як сотні і тысячы тысяч душаць гіганцкія машыны, як пад іх гусеніцамі, пад іх жалезнай нагой гінуць яны, як клапы, лопаецца мяса, плыве рэчкамі праклятая, чырвоная кроў... І тады я адчуваю, маёр, як заходзіцца маё сэрца смагай, прагнасцю бою! Нянавісць мая святая! Гэта кроў маіх продкаў гаворыць у жылах маіх!

— Нервы, маёр! Супакойцеся, прашу вас...

— Магчыма гэта і нервы, як вы кажаце... Але толькі такая звышчалавечая тэхніка, і толькі такая нянавісць, і толькі такая класавая дысцыпліна можа стрымаць іх наступ. Але тэхнікі такой няма. Мы можам страляць з гармат, бамбардыраваць, касіць з кулямётаў, труціць газамі, усё гэта выпрабаваныя сродкі, але для выкарыстання іх павінны быць выканаўцы, людзі! Вось на гэтых людзей нам і цяжка разлічваць, маёр... У іх будуць людзі, якія павінны былі-б быць у нас. Яны сёння яшчэ носяць нашу зброю, падпарадкуюцца нашым загадам, але гісторыя ведае прыклады, калі наша зброя скарыстоўвалася супроць нас! Клас супроць класа, маёр! Надыходзіць катастрофа!

Каленбрун садзіцца ў крэсла і сціскае галаву рукамі.

І самае галоўнае ў тым, што я прадбачу гэтую катастрофу і не бачу сродкаў яе адвесці. Але Каленбрун будзе змагацца! Будзе змагацца Каленбрун!!

У гэты час згасаюць ліхтары, і сінія ўспыхваюць агні, замаскаваныя ў сценах.

— «Focstrott»... — разлягаецца голас. — Lady and lady! Gentleman and gentleman!

Завывае джаз. У сінім змрочным святле пачынаюць выгінацца пары. Мужчына танцуе з мужчынам, жанчына — з жанчынай. Гэткі «тон» бара-дансінга «Томі». Пачынаецца «ажыўленне».

— Супакойцеся, маёр, — нясмела шэпча Пферц-Дабравольскі. — Гэта дае сябе чуць вашая рана. Супакойцеся, скаштуйце вось гэтага... Яно ацвярожвае... Вынаходства гаспадара бара... манапольнае... Скаштуйце, вы на мяне нагналі страх.

Каленбрун выпростваецца. Злосная ўсмешка расшчэплівае твар.

— Вам страшна? Вы толькі цяпер глянулі наперад? Вы толькі цяпер падумалі аб дні, што прыдзе заўтра?!

Пферц-Дабравольскі маўчыць. Вые джаз. У сінім тумане выгінаюцца пары.

— Вам страшна, маёр?

Пратэза вока блішчыць сінім агнём, мёртвым і зласесным.

— Патрэбна вялікая актыўнасць, вялікая мабілізацыя сіл. А ў нас гэтую актыўнасць разлагае ведаеце хто? Канкурэнцыя! Вось і ўсё... І чым далей, тым глыбей і больш. За вынікі я не адказваю. Маёр Каленбрун добра адыграе сваю ролю і з гонарам сыйдзе са сцэны. З го-на-рам!!!

Цераз некалькі хвілін успыхвае святло. Людзі рассаджваюцца за сталы.

— Будуць танцаваць у чырвоным святле, — кажа Каленбрун. — А потым зусім без святла. І тады ўжо «Lady and gentleman», і зноў: сіняе, чырвонае і жоўтае святло. І факстрот. Англійскі метад...

Каленбрун голасна лаецца. За бліжэйшымі столікамі азіраюцца на іх.

— Дванаццатая гадзіна,— кажа Каленбрун. — Едзем, маёр. Кельнер! Запісаць на мяне.

У праходзе паміж столікамі ім дарогу заступае кароценькі чалавек у фраку і цыліндры, які ледзь трымаецца на патыліцы. Ён узнімае бакал і пішчыць:

— Прапаную піць за здароўе паноў маёраў, прадстаўнікоў высокага камандавання нашых баявых легіёнаў. Мы маем вялікі гонар бачыць сёння паноў маёраў у сваім коле, радуемся гэтаму, як і належыць шчырым патрыётам, і вітаем паноў маёраў ад чыстага сэрца. Ваша здароўе, панове!

Навокал эфектна бразгаюць шпоры афіцэраў. Звіняць бакалы. Каленбрун суха нахіляе галаву. Пферц-Дабравольскі кланяецца, шырока расставіўшы кароткія ногі.

У вестыбюлі Каленбрун кажа таўсцяку:

— Скурай пагрозу адчуваюць! Чапляюцца за нас! Што-ж, мы будзем змагацца! Хай будзе па калена крыві!

— Нервы, маёр! — бурчыць Пферц-Дабравольскі.

Залітая агнямі вуліца топіць у блеску электрычнасці ціхую вясеннюю ноч, што плыве над горадам. Супроць пад'езда бара паблісквае лакам вараны «Лінкольн».

Шофер адчыняе дзверцы.

— Праехаць маім маршрутам за горад, — кажа Каленбрун, падтрымліваючы пад локаць Пферц-Дабравольскага. — І роўна а палове першай у штаб!

Даўгая, нізкая машына бясшумна ляціць па ільсняным асфальце вуліцы, асляпляючы сустрэчныя машыны святлом сваіх фар. Паліцыянты казыраюць флюгеру з адмысловым вензелем на радыятары машыны.

Сержант Дроб закончыў развод. З усяго народу, што падпарадкаваны сержанту, застаўся адзін салдат. Ён заняў пост на пляцоўцы трэцяга паверха, перад дзвярыма, на якіх прыбіта мядзяная лацінская лічба.

Сержант паглядзеў уніз, у пралёт усходаў. Потым адчыніў дзверы з лічбай. Там быў даўгі калідор, з маўклівай шарэнгай зачыненых дзвярэй. У гэтым калідоры варта не прадугледжвалася. Ён павінен быў ахоўваць толькі ўваход у калідор. Сержант паглядзеў на гадзіннік. Было дваццаць пяць хвілін на першую. Рабіць пакуль што не было чаго. Ён увайшоў у калідор і пайшоў па гулкім паркеце. Дзверы былі зачынены. Сержант дайшоў да канца калідора і завярнуўся да таго, каб ісці назад. І тут убачыў, што дзверы аднаго з кабінетаў былі прычынены. У малочнае святло лямп у калідоры праз шчыліну дзвярэй ледзь прыкметная ўкліньвалася пасма зеленаватага святла.

Сержант асцярожна зазірнуў у кабінет. Ён быў пусты. На вялізным стале, што стаяў у цэнтры пакоя, адзінока свяціла лямпа пад зялёным абажурам. На стале было пісьмовае прыладдзе, і ценька стрыкаў гадзіннік, што быў устаўлены ў масіўны, ніколі нябачанай сержантам канструкцыі тэлефонны апарат. У глыбі пакоя шчыльная стаяла засень, і праз яе невыразным, светласінім колерам прасвечвала супроцьлеглая глухая сцяна.

Нейкі зімны, загадкавы блеск вылучала з сябе сцяна, і гэты блеск цьмяны, амаль непрыкметны, пранікаў

цераз афарбаваны абажурам поўзмрок кабінета і вабіў вока сваімі ценькімі, ледзь прыкметнымі праменнямі затуманенага крышталя. Здавалася, камлыга ільду стаіць у засені кабінета і час-ад-часу ўспыхвае, іскрыць і гасне на ёй невядомае святло.

— Паміж іншым, цікава, — падумаў сержант. — Паглядзець, ці што? — І ён увайшоў у кабінет.

«Лінкольн» прашурхаў шынамі па гравію прысад, асвятліў на завароце стракатую будку і вартавога пры ёй і праз момант спыніўся перад пад'ездам. Шофер выскачыў і адчыніў дзверцы. Ён выцягнуўся ў струну. Вартавыя ў пад'ездзе замерлі, гледзячы проста перад сабой у адну кропку, і стаялі нерухомыя, як статуі.

З аўто вышлі двое. Шпоры зазвінелі на ўсходах. Усюды па іх шляху выцягваліся ў струнку вартавыя. Зацінаючы дыханне, праводзілі іх вачыма.

Калі ў гары замёр звон шпор, вартавы ў вестыбюлі нахіліўся над вухам свайго таварыша і сказаў:

— Гэты кароткі і таўсты, як крывяная кілбаса, — з палітычнай паліцыі. Хлопцы казалі, звер. Уласнаручна скуру з жывога чалавека можа зняць. А гэты аднавокі, з гумалястым чэрапам — адгэтуль. Маёр разведкі. Крывамордая сука і апошняя ў свеце сцерва.

— Цішэй! — адказаў другі. — Ты тут цішэй, брат... У самой іх пашчы сядзіш! Глынуць — і ўсё.

І вартавыя распачалі сваю хаду. Узад і ўперад — узад і ўперад.

Тое, што загадкава паблісквала ў засені кабінета, аказалася сталёвымі сейфамі. Яны займалі ўсю сцяну, амаль не да сталявання, і былі распаложаны рысункам шахматнай дошкі. Сержант заклаў рукі за спіну і агледзеў шэрагі сейфаў.

Яны хавалі таямніцы штаба. Мёртвая магутная сталь апранала хрусткія паперкі планаў, фатаграфій, шыфраў, дакументаў, украдзеных і падробленых, дакументаў, на якіх скрыжоўваюцца ніці закулісных міжнародных інтрыг, дакументаў, кошт якім — кроў. Аб гэтым сержант мог толькі здагадвацца.

Варожа глядзелі на яго адмысловыя, складаныя замкі. Зімна паблісквала сталь...

— Пікантна, — падумаў сержант. — І пры гэтым—не

зачыняюць дзвярэй! — Ён адвярнуўся ад сейфаў, намерваючыся выйсці з кабінета. І... хуткія крокі і звон шпор разлегліся ў калідоры.

Момант... Адзін толькі момант затрымаўся ў ваганні сержант і за гэты час ацаніў усю небяспеку спаткання на парозе кабінета. У некалькі крокаў ён дасягнуў цёмнага кута. І ў гэтую-ж хвіліну белая пальчатка лягла на ручку дзвярэй.

— О-о-о! — разлёгся іржавы, скрыпучы голас. — Дзіўна! Адчынены кабінет. Гм! Дзіўна... Прашу, калега Пферц-Дабравольскі, сядайце! Дзіўна! Гм! Я не зачыніў дзвярэй!

— Няма чаго непакоіцца, маёр, — сказаў Пферц-Дабравольскі. — Варта ахоўвае калідор.

— Не, не! Не заспакойвайце мяне! Прашу сядаць, маёр!

Пферц-Дабравольскі грузна сеў у крэсла. Каленбрун нервова прабег паўз сталёвую сцяну, аглядаючы замкі сейфаў. Усё было ў парадку. Па дарозе ён зазірнуў за шырму ў дальнім куце кабінета і вярнуўся да стала. Пферц-Дабравольскі сцізорыкам адчыняў скрынку з цыгарамі. У яго быў зусім спакойны выгляд, і, наглядаючы за тым, як тоўстыя пальцы маёра намагаюцца пралезці ў вузкую шчылінку, пад пругкі лісток фанеры, Каленбрун адчуў, як звыклая роўнавага прыходзіць зноў да яго.

— Шчасліва! — сказаў ён. — Гэта папросту шчаслівы выпадак. У другі раз падобная няўважлівасць можа дорага каштаваць.

— У чым-жа справа, маёр? — сказаў Пферц-Дабравольскі. — Я-ж вам казаў. Ёсць-жа варта. Інструкцыі таксама ёсць.

Каленбрун засмяяўся.

— Я лепш буду разлічваць на добры японскі замок, маёр.

І як-бы жадаючы падкрэсліць тое, што сказаў, падышоў да дзвярэй і моцна груknуў імі. Звонка шчоўкнуў замок.

— Чулі? Аўтамат. Можна адчыніць або ключом... або пальцам. Больш сродкаў няма, за выключэннем, зразумела, піраксіліна.

— Пальцам? Вы жартуеце, калега?

— Або ключом. Або піраксілінам. Справа ў тым, што мне патрэбна выпрацаваць звычку шчыльна зачыняць дзверы. Вам падабаюцца цыгары, маёр?

Ценькім пружынным уздыхам азвалася другое крэсла. Каленбрун сеў.

Некалькі хвілін абодва маўчалі. Стрыкаў гадзіннік на стале.

— Ну, маёр, — азваўся Каленбрун, — цяпер прыступім да справы. Містыкай мы больш займацца не будзем. Паездка ахаладзіла мозг. Перш за ўсё аб гэтым... аб гэтым... Крамарчыку, ці што?!

— Так, — нездаволена адказаў Пферц-Дабравольскі.

— Як гэта здарылася?

Пферц-Дабравольскаму ў тоне Каленбруна здалася насмешка.

— Гэта здарылася таму, калега, — сказаў ён зазлавана, — таму, што вы не паклапаціліся арыентаваць мяне аб далейшым. Вы хацелі мець комуніста — я зрабіў вам такую паслугу. Мае дэтэктывы адшукалі вам патрэбную асобу. Але, што далей — для мяне невядома. Я не магу паручыцца за чалавека, які знаходзіцца доўга пад наглядам. Звычайна ён знікае, як толькі што-небудзь падазронае навокал сябе заўважыць. А тут, за такі час, ён мог пералічыць па пальцах усіх маіх малайцоў і, калі-б яму было цікава, запасціся на ўспамін іх фотакарткамі. Глупства. З-за гэтага аднаго чалавека мы правалілі значную справу. Важную справу правалілі, маёр Каленбрун!

— Вы больш падрабязна, калі ласка!

— Крамарчык быў адным з арганізатараў забастоўкі на «Нептуне». Мы яго не ізалявалі толькі таму, што вы мяне трымалі за рукаў. У чым справа!? Вам патрэбен гэты лайдак? Бярыце яго і вешайце на першай асіне! Вы гэтага не зрабілі самі і пры тым мяне трымалі за рукаў. Час ішоў. У мяне ў руках была цэлая група. Заводакіраўніцтва папярэдзіла мяне аб тым, што чакаць далей нельга, і прадставіла спіс. Там прозвішча Крамарчыка было на першым месцы. Потым — шмат іншых.

— Былі прозвішчы Турчын, Гагай?

— Здаецца, былі.

— Ха-ха-ха!

— Чаму вы смяецеся, маёр? Тут не да смеху... Я абмеркаваў усё і ўжо адчуваў, што позна. Сапраўды позна. Я аддаў загад арыштаваць усіх па спісе і ў тым ліку вашага. Нават у першую чаргу! З усімі перасцярогамі!

— Каб вы арыштавалі Турчына і Крамарчыка разам, вы зрабілі-б якраз тое, што патрэбна рабіць і зараз.

— Я ўжо рабіў на свой погляд, — зазлавана адказаў таўсцяк. — Але... было позна. Нашы агенты, якія былі накіраваны на завод, нічога не здолелі зрабіць. Распачалася забастоўка. Грандыёзны мітынг. Частка нашых агентаў паўцякала праз форткі. Адна група ўступіла ў бойку, і менавіта з-за вашага праклятага Крамарчыка, якога яны абмацалі. Панеслі страты. Адзін забіты.

— Шкода!

— Памочнік кіраўніка завода таксама застаўся ляжаць на месцы. Такі быў энергічны малады чалавек. Нам часта аказваў паслугі. Галоўны кіраўнік, чалавек масіўнай камплекцыі, — памёр ад удару. Сарвалі вайсковы заказ з завода. Дэманстрацыя і ў сувязі з гэтым — непарадкі ў горадзе, цэлыя два дні ўсё дагары дном. От, маёр, які правал!

— Хіба вы не зрабілі арыштаў?

— Некалькі нязначных. Па спісе заводакіраўніцтва. Асноўныя ўсе зніклі.

— А чаму вы дапусцілі да дэманстрацыі?

— Гэта ўжо справа рук каменданта. Гэты трус і бабнік паслаў туды два ўзводы з сержантам. Уявіце, без афіцэра! Інструкцый ён яму, як выявіла расследаванне, амаль ніякіх не даў. Той пакруціўся на заводзе, слепа трымаючыся каменданцкіх загадаў. А камендант — трус. У выніку — сержант адвёў атрад у казарму. Нарад паліцыі не здолелі ўзмацніць. У выніку — паліцэйскі патруль раскідалі ад варот, натоўп вываліў на вуліцу, і тады ўжо, пане мой, паспрабуйце стрымаць!

Пферц-Дабравольскі змоўк. Каленбрун запаліў цыгару.

— Але, мяне ўсё-такі цікавяць двое, — сказаў ён, — Крамарчык і Турчын!

Таўсцяк штурхнуў ад сябе скрынку з цыгарамі.

— Я ўяўляю сабе, якія будуць вынікі з двух. З аднаго мы ўжо бачылі.

Каленбрун адчыніў скрынку стала, выняў з яе манокль і ўставіў у яміну вока. Зялёны блеск пратэзы загаснуў. Каленбрун ветліва ўсміхнуўся.

— Дрэнна, калі чалавек не ведае. Я зараз перадам вам тое, на што намякаў за вячэрай. Вы будзеце ведаць аб тым, што называецца «Тэорыяй Каленбрун». І тады

вам будзе зразумела, чаму нельга было дагэтуль арыштоўваць Крамарчыка і чаму яго трэба арыштаваць абавязкова з Турчыным. Тое, што на «Нептуне» вынікла забастоўка, якая пацягнула за сабой некаторыя ахвяры, не гледзячы ні на што, з'яўляецца каштоўнай дэталлю да майго плана. Чым больш можна будзе прад'явіць да Крамарчыка і Турчына абвінавачванняў у антыдзяржаўнай дзейнасці, тым больш гэта забяспечвае поспех «Тэорыі Каленбрун». Нам патрэбна як мага больш шуму навокал гэтых імён. Вам незразумела?

— Не магу пахваліцца, — нездаволена прабурчэў Пферц-Дабравольскі.

Каленбрун адкінуўся на спінку крэсла.

— Пачнем здалёк, калега. Я вам гаварыў аб канцэнтрацыі сіл. Гэтае ўяўленне перарастае рамкі адной краіны. Яно павінна перарасці разуменні нацый, рэлігій, маралі. Яно павінна аб'яднаць увесь культурны свет супроць чырвонай здані большэвізма. І гэта не толькі здань. Там...

Каленбрун паказаў некуды ў кут кабінета.

— Там ляжыць краіна. Велізарнейшы цыклоп. Супроць яе павінны канцэнтравацца нашы сілы. І вось, маёр...

Каленбрун нахіліўся над сталом.

— І вось, маёр... Для таго, каб вялікія словы не засталіся без пацверджання справай, мы з вамі выступаем зараз, захоўваючы прынцып канцэнтрацыі.

— М-мы???

— Вы здзіўлены? Так, мы! Маштаб выступлення, хаця і не ўсясветны, аднак вынікі... вынікі, маёр... Хто ведае... Вынікі паводле плана павінны быць гістарычнымі. Трэба навучыцца з-за малога бачыць вялікае. І так, аб прынцыпе канцэнтрацыі зноў. Тут таксама на першы погляд нязначны маштаб. Але мы не будзем паўтараць сумнага вопыту былой Расіі, дзе гафтаваныя генштабісты звысоку паглядалі на «блакітныя мундзіры» і «гарохавыя паліто». Узаемнае супрацоўніцтва паміж разведкай і палітычнай паліцыяй і брацкае супрацоўніцтва двух родаў адной зброі — дасць пажаданы нам вынік. Гэта ў даным выпадку і будзе канцэнтрацыяй нашых сіл. Вам і зараз незразумела?

— Н-не маю гонару.

— А цяпер аб маёй тэорыі. Гэта кароткая, жалнер-

ская тэорыя. Наступаць так, каб вораг лічыў, што ты адступаеш. Усё! цяпер усё. Я вам, бясспрэчна, давяраю, маёр!

Таўсцяк нахіліў галаву.

— Адно пытанне. Вы ўпэўнены, што гэты... Крамарчык будзе ў вашых руках?

— Справа трох дзён, — з гатоўнасцю адказаў Пферц-Дабравольскі.

— Добра. Калі вы будзеце ведаць аб усім, што я маю вам перадаць, я думаю, вы прымеце ўсе захады да таго, каб гэты чалавек зноў апынуўся ў нашых руках.

— Спадзяюся, пане маёр!

Каленбрун пасунуўся са сваім крэслам бліжэй. Цяпер ён сядзеў якраз насупроць Пферц-Дабравольскага, і яго дробная худая постаць здавалася дзіцячай у параўнанні з таўшчэразным тулавам Пферц-Дабравольскага, чэрава якога выпірала гарой. Зняевечаная маска Каленбруна ашчэрылася ўсмешкай. Ён аглядаў кабінет адзіным сваім вокам, нешта абмяркоўваючы. Потым выняў манокль і паклаў яго на стол. Пратэза ўспыхнула зялёным агнём. Каленбрун пачаў гаварыць.

Утульны поўзмрок устойваўся ў абшырным кабінеце. Стаяла спакойная ціш. Стрыкаў гадзіннік, і голас Каленбруна, які быў паніжаны да шэпту, нагадваў спакойную сямейную гутарку ў позні вечар.

Але ў маленькіх вочках таўсцяка ўспыхнула зацікаўленасць. Ён варухнуўся ў крэсле і адклаў цыгару проста на бераг стала. Потым пачаў павольна нахіляцца да Каленбруна. Усё бліжэй і бліжэй сыходзіліся іх твары. Шырокі, адкормлены твар, які ільсніў тлушчам і кроплямі поту, амаль не датыкаўся сухой маскі скарэжанага чалавечага чэрапа. Едкі, хрыпаты, прыдушаны голас Каленбруна працягваў апавядаць. І, здавалася, што разяўлены здзіўленнем рот таўсцяка імкнецца глынаць адно за другім картавыя і сухія, як кавалачкі касцей, словы.

У зялёным поўзмроку кабінета нараджаўся ценькі, прадуманы ў драбнейшых сваіх дэталях, план. Адна за адной цяклі хвіліны, сцякаліся ў дзесяткі, і вось ужо кропля гадзіны дрыжыць на кончыку стрэлкі. Каленбрун працягваў развінаць план. Кропля сарвалася. Гадзіннік празваніў два разы.

Каленбрун гаварыў. А супроць яго нерухома, як ман-

гольскі бажок, сядзеў таўсцяк са складзенымі на круглым жываце рукамі.

Каленбрун скончыў нечакана адной фразай:

— Атрымлівае стрэл у патыліцу, — і адкінуўся ў глыб крэсла...

— Вашы пытанні, маёр?

— Значыць, прыгавор будзе прыведзен у выкананне?

— Ніводзін са здраднікаў сваёй краіны не павінен пазбегнуць кары.

— Так! А хто такі Рыдэль, маёр?

— Паручнік Рыдэль? Гэта — унікум. Англа-французская школа! Адвага, пільнасць, энергія, вынослівасць, вытрымка, — вось што прадстаўляе з сябе паручнік Рыдэль. І галоўнае — фанатычны патрыётызм. Полымя нянавісці да ворагаў сваёй нацыі! Я вас пазнаёмлю з паручнікам Рыдэль, калега!

— Вельмі ўдзячны. Больш пытанняў я не маю, маёр Каленбрун. — Пферц-Дабравольскі абцёр хустачкай пот на ружовай лысіне. — Дазвольце вам сказаць, маёр, што я ніколі не ўяўляў сабе нічога падобнага да гэтага. І сапраўды, забастоўка на «Нептуне» не здаецца ўжо гэткім няшчасцем.

— Усё залежыць ад таго, як паставіць справу.

— Гэта геніяльна, маёр Каленбрун!

— Хэ-хэ-хэ!

— Гэта найвялікшая і вытрыманая стратэгія!

— Хэ-хэ-хэ!

— Вы...

— Пакіньце, калега. Я толькі работнік разведкі, маёр Каленбрун!

Самаздаволеныя, сытыя людзі за сталом смяяліся і абменьваліся кампліментамі. Яны былі здаволены тым, што прайшло зараз тут, у кабінеце, на працягу цэлай гадзіны. План наглай і пачварнай правакацыі адпавядаў іх імкненням, і адзін з гэтых людзей быў аўтарам гэтага плана. Яны зараз абгаварвалі яго дэталі, уносілі новыя варыянты, зменьвалі старыя і зноў іх устанаўлівалі ў мэтах найбольшага ўдасканалення плана, дасягнення найбольшай яго эфектыўнасці і абсалютнага знішчэння зрываў. План у тэорыі не меў памылак.

У гэты момант за шырмай, дзе дыхала гарачынёй батарэя цэнтральнага ацяплення, чалавек вырашаў цяжкое пытанне. Сержант Дроб яшчэ бачыў у зялёным

змроку кабінета шчупальцы аднавокага спрута. Паўзлі гэтыя гнуткія шчупальцы, абмацвалі людзей, прысмокталіся да іх, і хутка яны выцягнуцца, выпрастаюцца, перакруцяць, перамяшаюць усё ў патрэбным Каленбруну парадку і пацягнуцца павольна і ўпэўнена туды, дзе лягла асноўная мэта плана.

— Выхаду няма, — думаў Дроб. — Адгэтуль толькі адзін выхад — на парапет цытадэлі з завязанымі вачыма. Яны замкнуць кабінет. Я гэтага не дапушчу. Я не дам жыць гэтаму плану... Я задушу гэтую правакацыю...

Апаляючым было дыханне батарэі. Душнай была атмасфера кабінета, насычаная дурманам цыгар. Кроў шумела ў вушшу, вялікае хваляванне зацінала дыханне сержанту Дробу. Ён стараўся быць спакойным, абмацваючы кабуру.

— Інакшага выхаду няма!

У гэтую хвіліну Каленбрун, праціраючы шкелка манокля, гаварыў са здаволенай усмешкай.

— Як бачыце, мая тэорыя знайшла сабе прымяненне?

— О, так!

— Таму мы і надамо гэтай аперацыі дэвіз: «Тэорыя Каленбрун».

— Гэта ганаровы дэвіз, маёр!

— Хэ-хэ-хэ! А паміж іншым, мне некалі адмаўлялі ў прызнанні маіх здольнасцей. У прыватнасці — прыпамінаю такі факт. Калі пачалося з берагоў Беразіны вялікае адступленне, я прапанаваў штабу план контр-наступу. Я тады камандаваў палком. Тупагаловыя «стратэгі» нават і не прынялі да абгаварэння мой план. А ён, паміж іншым, забяспечваў поспех. І вось прышоў той дзень, калі перадавыя атрады бальшэвіцкай конніцы дасяглі прыгарадных паркаў сталіцы. Была шалёная паніка. За бясцэнак прадаваліся маёнткі. Акцыі ператварыліся ў клазетныя паперкі, месца ў купэ цягніка за мяжу — было адзіным ратункам. Галота павылазіла тады з сваіх нор для таго, каб з хлебам і соллю сустрэць бальшэвікоў. Маршал зняў з сябе камандаванне і, грукнуўшы дзвярыма, накіраваўся да сябе ў кабінет для таго, паміж намі кажучы, каб пераапрануць маршальскія нагавіцы на порткі былога аўстрыйскага ваеннапалоннага. Хэ-хэ-хэ... Адбылося пасяджэнне штаба. І тады «стратэгі» ўспомнілі пра палкоўніка Каленбрун.

— І вы...

— А я ляжаў у гэты час з расшчэпленым чэрапам. І каб не гэта — я паспрачаўся-б яшчэ з гэтым надзьмутым французскім пеўнем — Вейганам! Я-б яшчэ паспрабваў яго зброю на полі аперацыйнай карты!

— Не сумняваюся, што...

— Але гэта паміж іншым. Гэта ўжо гісторыя. Але мы з вамі ўсё-ткі дакажам, маёр, малойчыкам, якія паначэплівалі генеральскія эпалеты, што яны супроць нас, ветэранаў, нічога не варты. У той час, калі стары Каленбрун адступаў у глыб краіны, абліваючыся крывёю, абараняўся ад цэлай дывізіі будзёнаўскіх д'яблаў, яны, — не ўсе, праўда, але многія з іх, — швэндаліся, трымаючыся за спадніцы жонак высокапастаўленых асоб, па тылавых шпіталях і інтэндантцвах. Мы з імі яшчэ пагутарым у свой час!

Каленбрун устаў.

— Дзесяць хвілін на трэцюю. Пара было-б нам і адпачыць, маёр!

Цяжка апіраючыся на поручні крэсла, узняўся і Пферц-Дабравольскі.

— Можна паручыцца, маёр, што за тры дні вы арыштуеце гэтага большэвіка?

— Бясспрэчна, — упэўнена адказаў таўсцяк. — Меры прыняты. У Пферц-Дабравольскага з лап не надта лёгка выкруціцца. Гы-гы-гы!

Чэрава маёра закалыхалася.

Яны стаялі каля стала адзін супроць другога, і твары іх знікалі ў поўзмроку, што паслаўся паверх абажура. Пазументы на мундзірах ясна ільснілі ў святле лямпы. І з левага боку грудзей кожнага паблісквала белая эмаль ордэнаў. І ніхто з гэтых самаўпэўненых людзей не ведаў, што на белы блеск эмалі нацэльваецца смерць.

Набягалі апошнія хвіліны...

І нечакана і проста, сам не ведаючы гэтага, удар адвёў Пферц-Дабравольскі. Спакойна, нацягваючы пальчаткі, ён сказаў:

— А цяпер прадэманструйце, калега, ваш замок. Палец і піраксілін... Гы-гы-гы! мне гэта падабаецца. І наогул, усё тут у вас — арыгінальна. Палец і піраксілін.

(Ствол рэвальвера адхіліўся ад папярэдняй кропкі прыцэлу.)

— Нічога дзіўнага, — адказаў Каленбрун. — Замок

без ключа можна адчыніць толькі знутры. Знадворку — толькі ключ, або, менавіта, хімія. Хадзіце сюды! Вось бачыце гэтую кнопку? От і ўсё!

Шчоўкнуў замок.

(Ствол рэвальвера апусціўся.)

— Калі ласка, маёр. Прашу!

Грукнулі дзверы. І зноў азваўся замок. Кабінет быў пусты. Свяціла адзінокая лямпа. І навокал яе сінімі смугамі пацягваўся тытунёвы дым.

Крокі замерлі ў калідоры. Глуха грукнулі дзверы.

І тады, з-за шырмы, што стаяла ў дальнім куце кабінета, вышла высокая постаць. Сяржант Дроб падышоў да стала і павольна апусціўся ў крэсла. У яго быў бледны твар. На шчоках рухаліся жаўлакі. У вачах жыў нездаровы, неспакойны блеск. Сяржант трымаў у руцэ рэвальвер і некалькі часу глядзеў проста перад сабой, у адну кропку. Потым перавёў погляд на дзверы. На белым тле выразалася жоўтае, мядзянае колца замка. І збоку гэтага колца — ледзь прыкметная паблісквала кнопка.

На змучаным твары сяржанта з'явілася ўсмешка.

Палец і піраксілін! Анекдот! Вашае шчасце, пане аэрастат, што гэты замок адчыняецца пальцамі!

Сяржант усадзіў рэвальвер у кабуру, старанна яе зашпіліў і аправіў шынель. Потым падышоў да дзвярэй. Шчоўкнуў аўтамат.

Цяпер кабінет зусім быў пусты.

У пад'ездзе сяржант спыніўся перад адчыненым акном. Па пляцоўцы за яго плячыма ўзад і ўперад хадзілі вартавыя. За акном драмала ціхая ноч. Чорная, мяккая цемра, настолькі густая, што, здавалася, можна было яе абмацаць, ляжала ў парку.

Дроб глыбока ўдыхнуў у сябе зімнае, начное паветра. Спакойная і густая цемра, лагодная ціша ночы былі самым выразным і прыемным адчуваннем жыцця, да якога зноў вярнуўся Дроб. Не было той нервовай паралізаванасці, глыбокай і бездапаможнай тугі, якую ён перажыў там, за шырмай, у прадчуванні дармовай і непатрэбнай пагібелі чалавека, які выпадкова пхнуў прычыненыя дзверы і апынуўся ў сакрэтным кабінеце.

І той рашучы гнеў, які пацягнуў за сабой беззваротнае рашэнне коштам жыцця трох чалавек ліквідаваць план пачварнай правакацыі, тое ні з чым непараўнанае

пачуццё, якое прымусіла яго ўзяць на прыцэл эмалевы крыжык на шырокіх грудзях і потым выстраліць сабе ў вісок, — гэты гнеў і гэтая цвёрдая рашучасць, якая стлуміла самае вострае пачуццё ў істоце чалавека, — інстынкт самаабароны, таксама зніклі. Гэта цяпер было непатрэбным.

Выкрыты сакрэт замка зрабіў гэтую меру лішняй.

Магчыма шляхі, якімі давядзецца Дробу ліквідаваць план, пацягнуць за сабой яшчэ больш сур'ёзныя ахвяры, чым яго ўласнае жыццё і жыццё двух паразітаў; аднак, ён рады тым, што глядзіць зараз у чорныя начныя прасторы, што зімнае, бадзёрае начное паветра казыча горла і лагодзіць твар.

Ён рады тым, што застаўся жыць. Якое шчасце — жыць! І падвойнае шчасце — жыць і змагацца! Дагэтуль ён толькі жыў. А цяпер ён будзе і змагацца, і жыць. Гэта азначае больш, чым проста жыццё. І першай задачай у яго барацьбе з'яўляецца — перашкодзіць развіццю плана Каленбруна. Ён звяжацца з падпольнай арганізацыяй комуністычнай партыі. Ён знойдзе спосаб папярэдзіць Крамарчыка. Калі будзе патрэбна, ён возьме на сябе ўсю цяжкасць гэтай задачы. Гэта-ж ён, сержант Дроб, узяў на сябе ўсю рызыкоўнасць адводу атрада з завода «Нептун». Гэта ён даў магчымасць вырвацца на вуліцу тысячам абураных рабочых, падпарадкаваны таму ўнутранаму штуршку, які вынік з далёкага вобраза забітага бацькі. Гэты штуршок ёсць магутны класавы інстынкт. Цяпер будзе змагацца сержант Дроб!

А што калі яму не паверыць суровы Крамарчык? Тады ён яму раскажа аб усім сваім жыцці. Раскажа, як ён блукаў з хворай маткай па дарогах, разбураных вайной, па палях, знявечаных снарадамі, блукаў ад вёскі да вёскі днямі і тыднямі, галодны і босы, не азіраючыся на пакінуты горад. Ён раскажа Крамарчыку аб тых невядомых могілках, дзе засыпалі зямлёй яго матку, і раскажа аб тых батрацкіх сямі гадах, якія ён правёў на ксяндзоўскім фальварку. Аб тым, які горкі быў хлеб яго дзяцінства, аб тым, якімі былі балючымі пабоі.

І яшчэ раскажа Дроб таварышу Крамарчыку аб тым, як прышоў і стаў на запасных шляхах вакзала гэтага горада таварны цягнік і беспрытульны чатырнаццацігадовы Стась саскочыў з тормазнай пляцоўкі аднаго з ва-

гонаў. І аб усіх днях і справах сваіх раскажа партыі сын пралетарыя Лукаша Дроба для таго, каб партыя паверыла яму. Але ён пачуе адказ — тое самае, што ўжо сказаў яму Крамарчык на заводскім двары:

— Цяжка верыць слову чалавека, які мяркуе начапіць афіцэрскія наплечнікі.

Тады зноў будзе гаварыць Дроб. Будзе гаварыць горача і ўпэўніваюча. Ён раскажа аб тым, як з беспрытульных нізоў выбіўся ён у шэрагі тэхнічнага студэнцтва, як батрак з ксяндзоўскага фальварка аўладаў вышэйшай навукай сучаснасці.

— Гэтага мала, Дроб! Гэтага мала для партыі.

І тады ён раскажа аб сваёй жыццёвай памылцы, аб тым, як марыў ён наконт славы выдатнага інжынера Дроба і на гэтае аддаў усе намаганні, усе свае дні. Раскажа аб гутарцы, якая адбылася аднойчы і якая паслужыла штуршком для паступлення ў вайсковую школу, з якой ён вышаў сержантам. Кіраўнік фашыстоўскага саюза моладзі абяцаў яму ўсялякую падтрымку ў тым выпадку, калі ён выйдзе з вайсковай службы афіцэрам запаса. Гэта азначала, што тэхнік Дроб будзе інжынерам Дробам, выдатным інжынерам Дробам, канструктарам нечуваных машын. І вось, ён, хаця і адмовіўся ад уступлення ў фашысцкія шэрагі, — заявіў сваю згоду наконт вайсковай школы і атрымаў наплечнікі сержанта для таго, каб потым атрымаць дыплом інжынера. Ён жыў толькі для сябе. Ён калі і змагаўся, дык толькі для сябе. І ў гэтым была яго памылка. І аб ёй ён шчыра раскажа Крамарчыку для таго, каб партыя паверыла яму. Ён бачыць зараз гэтую памылку. Ён выправіць яе.

— Мая заслуга, — скажа Дроб, — у тым, што я ўтрымаўся на гэтым коўзкім шляху, захаваў роўнавагу, цвёрда стаю на нагах. Настолькі цвёрда, што магу змагацца за справу партыі.

І партыя паверыць яму, Станіславу Дробу, сыну слесара Лукаша, які загінуў у часе рабочай стачкі. Безумоўна, паверыць. Суровыя вочы Крамарчыка ўбачаць шчырасць у яго вачах. Ён-жа паверыў яму там, на двары завода «Нептун»!

— Прыгожая ноч, сержант?

Дроб хутка азірнуўся і стукнуў абцасамі.

Па ўсходах уніз ішоў дзяжурны камендант.

— Надта прыгожая ноч, сержант, — працягваў афіцэр. — Вы марыце аб каханай дзяўчыне, сержант?

— Я не паэт, пане паручнік, для таго, каб зачароўвацца і марыць, — адказаў сержант.

Камендант спыніўся, падумаў і пакруціў светлы вус.

— Маеце рацыю, сержант. Салдат не павінен быць паэтам. Я задаволены вашым адказам, сержант.

Пышныя вусы, аксельбанты і наплечнікі пана паручніка важна праплылі міма сержанта. Варта прыставіла стрэльбы да нагі.

Сержант адвярнуўся да акна.

Вось яна, чорная вясенняя ноч за акном.

Зімнае бадзёрае паветра.

Якое шчасце жыць! Якое шчасце змагацца!

І сержант глыбока і заспакоена ўздыхнуў. Ён цяпер не заблудзіцца на шляхах свайго жыцця.

Было дзесяць гадзін вечара, калі Дроб спыніўся на рагу адной з вуліц. Насупроць панура чарнелі верхавіны дрэў вялікага парка. Высокія муры з безліччу цьмяных, слаба асветленых вокнаў, рэдкія пешаходы на тратуарах, падслепаватыя вулічныя ліхтары і самі цесныя, вузкія, дрэнна выбрукаваныя вуліцы, якія разыходзіліся адгэтуль у розныя бакі, у шэрую цемру ночы, сведчылі аб тым, што гэта адзін з рабочых кварталаў прадмесця.

Была непраглядная каламута навокал. З сутарэнняў камяніц пазіхала цвілай вільгаццю. На цагляных тратуарах пад нагой хліпала цяглая гразь. Нават неба над гэтым чорным кварталам было каламутным і панурым, расплаўленым заравам агнёў вялікага горада, які глуха шумеў недзе далёка адгэтуль. Тут, у цеснай цішы сумных муроў, толькі заглушана брадзілі адгалоскі вулічнага руху цэнтраў.

Змрок вясенняй ночы, якая была апаганена смуродным дыханнем сутарэнняў, быў іржавым у блеску рэдкіх ліхтароў.

Сержант паглядзеў на гадзіннік. У яго распараджэнні заставалася яшчэ даволі часу для таго, каб дайсці да супроцьлеглага ўскраю гэтага парка і адшукаць пешаходны масток цераз канал. Туды павінен быў прыйсці Крамарчык.

Цэлы дзень водпуску з казармы Дроб патраціў на тое, каб адшукаць Крамарчыка. Чатырнаццаць гадзін няўтомнай хады, язды на трамваях, аўтобусах, чатыр-

наццаць гадзін трывогі чакання і неаслабнай увагі ляглі свінцовым цяжарам утомы на плечы Дроба. Але зараз ён быў спакойны. Пад вечар, калі ён зусім страціў надзею знайсці Крамарчыка ў тысячным натоўпе, што навадняе гарадскія вуліцы, калі ён прышоў да вываду, што па меншай меры глупствам з'яўляюцца пошукі на вуліцах у вялізным горадзе, пошукі чалавека, які знаходзіцца ў падполлі і можа быць зусім у супроцьлеглым канцы горада, або зусім па-за яго межамі, калі ён уявіў сабе, што будзе азначаць тое, калі ён не знойдзе Крамарчыка, Дроб вырашыў пайсці на адчайны крок. Ён накіраваўся на завод «Нептун» і стаў чакаць у варотах выхаду дзённай змены.

Ён доўга ўглядаўся ў паток рабочых блюз, які доўга цёк з варот завода, і, нарэшце, яму здалося, што бачыць знаёмы твар. Гэта быў рабочы, адзін з тых двух, што былі ў забастовачным пікеце на двары завода. Дроб папайшоў ззаду за ім. Рабочы прайшоў некалькі вуліц, потым пачаў заварочваць з аднаго завулка ў другі і, нарэшце, спыніўся ў падваротні аднаго з маленькіх домікаў. Тады Дроб падышоў да яго.

— Вы ведаеце мяне? — спытаў ён.

— Здаецца, ведаю, — адказаў рабочы, азіраючыся.

— Як-бы мне ўбачыць таварыша Крамарчыка? — спытаў сержант.

Рабочы доўга вагаўся. Потым адчыніў падваротню.

— Заходзьце.

Сержант блізка гадзіны сядзеў у маленькім пакоіку. Нарэшце, рабочы вярнуўся. З ім прышоў яшчэ другі. І гэтага пазнаў Дроб. Ён сядзеў на падаконніку ў кабінеце галоўнага кіраўніка ў часе перамовы сержанта па тэлефону.

Яны сказалі Дробу, што Крамарчык прыдзе ў гэты парк паміж адзінаццатай і дванаццатай гадзінай ночы. Месца сустрэчы — пешаходны масток цераз канал.

Так вырашылася справа, якую Дроб лічыў амаль не выканальнай і пакладаўся толькі на спрыяючае злучэнне абставін. Але не толькі гэта радавала Дроба. У тым, што рабочыя без доўгіх ваганняў і допытаў згадзіліся арганізаваць сустрэчу з Крамарчыкам, — ён бачыў, што яму давяраюць, што адвод салдат з завода рабочыя высока ацэньваюць, як заслугу перад іх справай. І гэта ўзнагароджвала Дроба шмат за што. І зараз, пасля чатырнац-

цаці гадзін беганіны і трывог, стомлены сержант не адчуваў сябе разбітым маральна. Наадварот, зараз ён адчуваў у сабе высокі ўздым унутраных сіл. Ён нёс з сабой партыйную справу і адзнакі давер'я партыі да яго, сержанта Дроба.

Часу да моманту сустрэчы яшчэ заставалася шмат. І Дроб павольнай хадой чалавека, які адпачывае, накіраваўся да ўваходных варот парка.

Дрэвы стаялі маўклівай, замкнутай сцяной. У цёмным парку было ціха, і ў паветры прабіваўся пах прэлага мінулагодняга лісця. Зямля вясенняя, цяжарная сокамі жыцця, перамагала сваім урачыстым дыханнем атрутную вонь каналізацыі і сутарэнняў.

Ціха было і цёмна тут, і толькі зрэдку па ствалах дрэў пралятаді трапечучыя адценні невядомых і далёкіх водбліскаў. Сержант павольна ішоў вузкімі сцежкамі прысад, заварочваў з адной у другую і ішоў далей, не прытрымліваючыся кірунку, заслуханы ва ўрачыстае маўчанне дрэў, захоплены цішынёй і пахам вясенняй зямлі.

І раптам зусім блізка ад яго разлёгся стогн. Ён паўтарыўся зноў, працяглы і балючы, і тады роспачлівы крык, малады і звонкі, поўны болю, адчаю і гневу, востра разрэзаў маўчанне ночы. Дроб спыніўся, як урыты. Па скуры пасыпаліся мурашкі жуду. Рука разгублена абмацвала пояс у пошуках кабуры. Гэткім незвычайным і нечаканым быў крык.

А ён узняўся зноў, жаласны і балючы.

І цемра навокал заварушылася. Невядома адкуль з'явіліся людзі. Загаварылі прыглушаныя, трывожныя галасы. Зашуршала навокал лісце пад асцярожнымі, ціхімі крокамі. Дроб аўладаў сабой. Ён успомніў, што рэвальвера няма, і замест яго адшукаў у кішэнях электрычны ліхтарык. Ён выцягнуў руку з ліхтарыкам і ступіў уперад. Косы прамень святла слізгануўся па ствалах дрэў і на момант выхапіў з ночы постаць чалавека. Глянуў перакошаны, бледны твар і шырока расчыненыя, спуджаныя вочы.

— Паліцыянт! — голасна крыкнуў чалавек і кінуўся ўбок.

— Паліцыянт!

— Паліцыянт! — разлегліся навокал прыглушаныя галасы.

— **Паліцыянт!**

І нехта ўжо здалёк голасна крыкнуў:

— Уцякайце! Паліцыянт!

I ўсё сціхла. Уперадзе, проста перад Дробам, зноў разлёгся стогн. Дроб прабег навобмацак некалькі крокаў, і зноў успыхнуў ясны, вузкі праменьчык ліхтара. І тады Дроб адступіў на крок.

На зямлі курчылася ў сударгах плачу жанчына, якая была апранута ў лахманы. Распушчаныя валасы раскідаліся па плячах і закрывалі яе твар. Побач з жанчынай стаяў нехта з нахіленай галавой, абапёршыся плячыма аб ствол дрэва. На ім быў шырокі пінжак, што вісеў, як на калку, на яго высахлым тулаве, і цень ад казырка падала на яго сіні твар. Нешта бясформавае і белае ляжала на зямлі, каля ног у мужчыны.

— Што тут? — спытаў Дроб.

Жанчына рэзка ўзнялася. У раме бязладдзя валасоў Дроб убачыў вострыя рысы маладога, заплаканага, надзвычайна худога і прыгожага твару. Вочы жанчыны хвіліну глядзелі ў асляпляючую сэрцавіну ліхтара, і непрытомны гнеў і адчай бушавалі ў яе вачах. Потым твар яе сударажна ўздрыгнуў.

— Ты прышоў... — прашаптала яна, задыхаючыся, — ты прышоў... паліцэйскі сабака... па труп... майго Юзіка... Бяры!

Яна парывіста адсунулася ўбок.

— Бяры!

Ліхтар перамясціўся. На грудзе рыззя ляжала распрасцёртае і выцягнутае, высахлае дашчэнту, дробнае цела дзіцяці. Жоўта-празрыстая скура мерцвяка квола прасвечвала цераз дзіры сарочкі. З-пад павек, што былі прыўзняты, заблішчэў шкляным блескам прамень ліхтара.

— Бяры! — крыкнула жанчына зноў. — Чаго стаіш?!

Мужчына выцягнуў руку і асцярожна, папярэджваючы, дакрануўся пляча жанчыны.

— Я не баюся! — прашаптала жанчына непрытомна.— Я матка!

І зноў вырас пагрозны крык:

— Бяры!

— Супакойцеся! — мякка сказаў Дроб. — Я не паліцыянт. Я сержант пяхоты. Салдат.

Жанчына, не разумеючы, паглядзела на яго і зноў нахілілася над трупам свайго дзіцяці. Яе плечы задрыжэлі ў ціхім, няўцешным плачы. Навокал шчыльна і маўкліва

стаялі дрэвы, і густая цемра не менш шчыльна сціскала адзінокі праменьчык ліхтара ў руках Дроба.

Тады загаварыў мужчына. Голас яго быў глухі, абыякавы і роўнадушны.

— Юзік нядаўна памёр, пане сержант. Магчыма назад таму дзесяць або пятнаццаць хвілін. Каб у нас была хаця бутэлька малака, яго можна было-б выратаваць, бо ён памёр ад голаду. Мы з Мартай самі ўжо дні блізка тры як нічога не елі. А яго апошні раз накармілі ўчора ўвечары.

Ліхтарык Дроба абмацаў панурую постаць мужчыны. Ён гэтак-жа стаяў пад дрэвам, як і раней, і рукі яго безуладна і вяла звісалі ўздоўж тулава. Глухое мармытанне працягвалася:

— Ён паміраў павольна... Сёння ад раніцы ссінеў увесь. І ўжо не плакаў. Маўчаў. Я, колькі мог, хадзіў праз дзень, шукаў чаго паесці для яго, і нічога не знайшоў. І ён памёр... Слаўнае было дзіцянё... Добры хлапчук... Каб бутэлька малака і кавалачак хлеба...

Мужчына змоўк. Жанчына нерухома ляжала ў коле святла.

— Каб кавалачак хлеба... — нібы ў забыцці паўтарыў мужчына.

Нехта працягла ўздыхнуў за плячыма сержанта.

— Хто тут?!

— Гэта нашы... беспрацоўныя...

Цяпер людзі не ўцякалі. Яны стаялі навокал цесным гуртком. Брудныя лахманы, худыя, сінявата-жоўтыя, зямлістыя твары, ліхаманкавы блеск вачэй гаварыў аб голадзе і беспрытульнасці. Людзі ціснуліся адзін да аднаго, але ніводзін не падаўся назад перад святлом ліхтара.

Мужчына загаварыў зноў:

— Я металіст. Ужо хутка год, як без работы. Мы прадалі ўсё, што было можна, і плацілі за кватэру, а потым не стала чым плаціць. Нас выкінулі на вуліцу а палове зімы. Недалёка адгэтуль, у лазнях, працаваў мой таварыш. Дык ён пушчаў нас начач у лазню з дзіцянём. Уночы мы былі ў спякоце, а ўдзень ішлі на мароз. Потым і таварыш страціў работу. Мы зусім апынуліся на вуліцы. Хацелі ісці ў вёску. Але няма на што і там спадзявацца. І вось ад таго часу, як сышоў снег, мы тут, у парку.

— Хаця-б смерць на нас усіх прышла, ці што... — уздыхнуў нечый старэчы голас за плячыма Дроба.

— Смерць, кажаш? — перапытаў другі (у яго быў звонкі малады голас).

— Я паміраць не хачу. І не буду. Мне не многа трэба. Мне патрэбна работа. Будзе работа, будзе і хлеб. Навошта мне паміраць?

— А дзе ты работы здабудзеш?

— А не здабуду работы... дык няхай ад мяне нічога добрага не чакаюць. Выходзіць, усёроўна здыхаць. Так ці інакш. Дык тады паспрабуем па-другому. Мне патрэбен хлеб. І я яго здабуду. Усёроўна, — ці молатам і мазалём, ці ножыкам або дубінай... Няхай сцерагуцца, у каго тоўстае пуза і тоўстая кішэня!

— Не так трэба, Франц! — ціха сказаў нехта зусім блізка ад Дроба. — Не так трэба! Адзін загінеш. Аднаму няма куды ісці. Трэба ўсім за сваё жыццё змагацца. Трэба арганізавана, Франц! А адзін — ты загінеш...

— Ні хлеба няма, ні работы няма... — зноў уздыхнуў стары і ціхі голас. Людзі загаманілі, заварушыліся:

— Кожны дзень ганяе паліцыя, як сабак...

— Двое з моста ў раку ўкінуліся ўчора...

— Адзін брытвай зарэзаўся на мінулым тыдні. Сёння вось дзіцё ад галаду памерла...

— Чым мы вінаваты, што гэтак мучаемся?!

— Усім! — сказаў нехта цвёрда і спакойна. — Тым вінаваты, што пакорна хрыбты гнулі перад тоўстапузай сволаччу. Трэба было па-інакшаму! Трэба было...

— Мы яшчэ не згубілі часу!

— Так, так! Не згубілі... Мы яшчэ пагаладуем, перш чымся часу дабяром. Усё-такі трусасць мацней у лапах чалавека трымае, чымся голад! Не гэтак дабіралі час рабочыя ў Расіі!

— Праўда, Марк! Не гэтак. І не так трэба разважаць, як Франц. Аднаго буржуя зарэжаш — сам страціш галаву і нічым агульнай справе не дапаможаш. Толькі ўласную напхаеш кішку...

— Я не еў чатыры дні! — узняўся нечый высокі і нервовы голас. — Што яны робяць з намі, крывапіўцы, павуччо праклятае!? Я не магу больш цярпець...

— Адзін павесіўся на мінулым тыдні... — адзначыў стары голас. — Тры дні вісеў — ніхто не хацеў здымаць, пакуль адшукала паліцыя.

— Магчыма, вы з фашыстаў, пане сяржант? — спытаў

голас таго, каго называлі Францам. — Нешта вы маўчыце! Не да густу вам гэткія размовы?

— Мала дапаможаш словамі, таварышы! — сказаў Дроб. — Патрэбна справа, а не словы. Я не фашыст, таварыш Франц!

— Таварыш! Ён сказаў таварыш!

— Салдат рабочаму, безумоўна, таварыш! Гэтак было і ў Расіі.

— Правільна. Салдат рабочаму таварыш!

— Ты раскажы аб нас у казарме, таварыш... сержант! Чуеш? Раскажы ўсю праўду!

— Што бачыў, усё раскажы!

— Таварышы бяздомныя пралетарыі! — з вялікім хваляваннем сказаў сержант. — Я не толькі раскажу аб вас у казарме. Мы арганізуем дапамогу для беспрацоўных у Белым парку. Мы, салдаты, дамо з астатніх сваіх капеек на дапамогу сваім братам. Мы падзелімся з вамі, чым можам. Я думаю, таварышы, што нядоўга засталося вам чакаць. Мы сурова адпомсцім за голад і дарэмную смерць дзесяткаў тысяч людзей! Мы назаўсёды выкаранім прыгнёт і эксплаатацыю. Засталося нядоўга, таварышы! І майце на ўвазе, што салдаты пойдуць разам з вамі!

Сержант апусціў ліхтарык:

— Бо вораг у нас адзін, таварышы!

Ён змоўк і ўсхвалявана дыхаў. Гэта была яго першая прамова. Ён чакаў водгуку ад сваёй аудыторыі, што акаляла яго тут уночы, у цемры. Ён не бачыў і не ведаў, колькі людзей слухала яго першую прамову.

Нехта прабраўся да сержанта і паціснуў яго руку.

— Правільна, таварыш! Вораг у нас адзін!

І раптам паветра рэзнуў працяглы свіст.

— Паліцыя!

— Разыходзьцеся! — трывожна сказаў нехта.

Сержанта падхапіў нехта за руку і пацягнуў у бок ад таго месца, дзе яшчэ ўсхліпвала жанчына, якая яшчэ ляжала на зямлі. Сержант падпарадкаваўся настойлівым штуршкам сухой рукі, што моцна ўхапілася за яго рукаў. Яны хутка, амаль напоўбегам, ішлі, абмацваючы дрэвы, спатыкаючыся на пні. Навокал разлягаўся шолах крокаў. Ва ўсе бакі разбягаліся людзі.

Зноў разлёгся свіст. Гэта быў прарэзлівы, працяглы паліцэйскі свісток.

— Ну, от дарога, — сказаў той, хто вёў сержанта. Дроб

пазнаў голас Марка. — Трэба табе адгэтуль выбірацца, таварыш сержант!

— Мяне завуць Дроб, таварыш Марк! Скажы, як прайсці да канала, дзе пераходны масток?

— Адгэтуль проста ўніз. Гэтай-жа сцежкай. Ты з ліхтарыкам разбярэшся. З поўкілометра адгэтуль будзе... Ідзі хутчэй. Небяспечна!

Дроб адшукаў руку Марка і ўціснуў у яе некалькі паперак.

— Не крыўдзіся, Марк. Таварыская дапамога — не падачка. Пахавайце дзіцянё і падтрымайце жанчыну. Я прыду сюды дзён праз пяць-шэсць, што-нібы для вас арганізуем. Трымайцеся!

Жорсткая далонь паціснула руку Дроба.

— Бывай. Мы будзем чакаць! Ідзі хутчэй, таварыш Дроб! Аблава набліжаецца!

Марк растаяў у змроку. Дроб павольна, абмацваючы сцежку, пайшоў у напрамку, які паказваў Марк. Адышоўшы некалькі дзесяткаў крокаў, ён спыніўся і паслухаў. Цяпер дрэвы гулі. Гул быў роўны і спакойны, як нібы ціхай, бяскрыўдна-спакойнай была гэтая вясенняя ноч у парку, як нібы не мяталіся там, у глыбі гэтага акультываванага лесу, устрывожаныя, бяздомныя людзі, як нібы не шнырэлі ў пошуках іх раз'ятраныя паліцыянты з дубінкамі ў руках.

Гулі дрэвы пад лагоднымі хвалямі ветра ўміратварана і спакойна. Накрапваў рэдкі і дробны дождж. Але гэтая першабытная ціша, гэты першародны спакой зямлі, цяжарнай вясеннімі сокамі, ужо не мог больш абмануць Дроба. Ён ішоў, схаваўшы рукі ў кішэні шыняля, ішоў напружанай, асцярожнай хадой чалавека, які асцерагаецца ўдару знянацку. Час-ад-часу пабліскваў яго ліхтарык.

Ён хутка дасягнуў канала. Чыгунныя, літыя вільготныя краты ўзбярэжнай цьмяна ільснілі ад святла ліхтара, што нахіліўся звысоку над гарбатым, вузкім пешаходным мастком цераз канал. Дроб абапёрся аб паручні. На паверхні канала ўсплывалі масляністыя плямы. Яны знікалі і зноў усплывалі і зноў распадаліся ў цьмяным бляску, у павольным руху чорнай, лакіраванай вады. На супрацьлеглым берагу строма ўзнесліся ўгору дрэвы апошніх прысад парка, што ішлі паралельна канала. Там, за прысадамі, за сцяной дрэў пачыналіся ўжо больш ажыўле-

ныя кварталы горада. Адтуль даносіўся заглушаны, далёкі шум вулічнага руху: званкі трамваяў, сірэны аўто, гоман чалавечага натоўпа. Над верхавінкамі дрэў, у цёмным паветры калыхаліся і дрыжэлі водбліскі шматлікіх вулічных агнёў.

А тут, над змрочным каналам, у панурай засені дрэў, над тлустай ільсняна-чорнай паверхняй вады было ціха зусім, і калыхаўся цьмяны ліхтар над вузкім мастком. Абапёршыся на краты, нахілілася над вадой адзінокая нерухомая постаць чалавека. Рукі Дроба моцна сціскалі зноб кі метал. Перад вачыма ўсплывалі і расплываліся, з'яўляліся і знікалі масляністыя, рознафарбныя плямы...

... Гэтыя хвіліны — апошнія хвіліны чакання. Набліжаецца час прыходу Крамарчыка. Дроб раскажа яму аб усім, што прадстаўляе з сябе «Тэорыя Каленбрун». Гэта адзін асноўны бок справы. Другі-ж бок, — гэта экзамен Дроба, экзамен на вытрымку, энергію, сілу волі падпольшчыка, рэвалюцыянера, які адданы сваёй справе, справе сваёй партыі. Хутка не будзе сержанта Дроба. Будзе таварыш Дроб, комуніст. Ён распачне новы шлях і не зыйдзе ўжо з гэтага шляху. Не ў тым справа, што ён можа павольна ўзыйсці ў канцы свайго шляху на прыступкі эшафота. І не ў тым справа, што калі-небудзь да варштата на адным з соцыялістычных заводаў гэтай краіны падыйдзе інжынер Дроб. У абодвух выпадках ён будзе верны сваёй партыі, як-бы ні скончыўся яго шлях. Справа ў тым, што ён не можа больш чакаць, не можа больш заставацца ў баку ад барацьбы, ён, сын пралетара, Лукаша Дроба. Яго месца — у першых шэрагах ланцугоў, што ідуць на прыступ, і ён гэта месца зойме.

— Але што, калі Крамарчык не прыдзе?

... На самай справе. Што будзе тады, калі Крамарчык не з'явіцца, расцэньваючы яго запрашэнне, як правакацыйны манеўр паліцыі? Тады невядома, на які час аддаляецца магчымасць звязацца з партыйнай арганізацыяй, уключыцца ў арганізаваную палітычную барацьбу. Пасля гэтага пацягнуцца доўгія будні казармы, беспрасветная муштроўка і туга бездапаможнасці, і галоўнае — «Тэорыя Каленбрун» будзе дзейнічаць.

Дроб сціснуў рукамі зноб кі чыгун. Яму здалося, што ён здольны раскрышыць на хрусткія кавалкі масіўнае ліццё крат. Масляністыя плямы плывуць па паверхні канала, павольна рухаецца ўперад густая, чорная, смурод-

ная вада. Маўклівыя дрэвы цясняцца над вадой. Над грывай прысад парка калышыцца зарава агнёў горада. Ужо не чуваць паліцэйскіх свісткоў там, у глыбі парку. Ужо спакойнай стала вясенняя ноч...

«Тэорыя Каленбрун» не будзе дзейнічаць! Гэтага не дапусціць ён, Дроб! Так ці інакш — або будуць адрэзаны шчупальцы, або будзе знішчаны сам спрут! І шлях барацьбы прывядзе ў партыю, у шэрагах якой некалі стаяў Лукаш Дроб...

Стрэлка гадзінніка перакрочыла лічбу, якой з нецярпеннем чакаў сержант. Гарбаты, пешаходны масток быў пусты. Ніхто не з'яўляўся нават на ўзбярэжнай.

... А калі на шляху да партыі давядзецца загінуць Станіславу Дробу, дык што азначае смерць аднаго, калі застаюцца жыць і змагацца мільёны! Мізэрная, непрыкметная з'ява — смерць аднаго чалавека, адрантвенне маленькай чалавечай адзінкі.

«Тэорыя Каленбрун» — не будзе дзейнічаць! У гэтым рэвалюцыйны доўг сержанта Дроба!

І раптам сержант уздрыгнуў. Цераз пешаходны масток панура нахіленая, выразна акрэсленая ў святле ліхтара павольна рухалася высокая постаць. Гэта быў той чалавек, якога чакаў Дроб, за якім палююць у горадзе паліцэйскія філеры, у пошуках якога шныраюць праніклівыя банды агентаў палітычнай паліцыі.

Трымаючы рукі ў кішэнях, нахіліўшы тулава наперад, чалавек павольна ішоў цераз масток.

Дроб хуткім крокам накіраваўся яму насустрач.

— Таварыш Крамарчык!

Крамарчык спыніўся. Сержант прыкмеціў чоткі рух правай рукі ў кішэні. Але не стрымаў кроку, ідучы насустрач Крамарчыку. У адзін момант яны былі адзін супроць другога.

— Таварыш Крамарчык!

Зноў насцярожана варухнулася ў кішэні рука Крамарчыка.

— Я маю вам перадаць важную справу.

— Якую справу?

— ... Перадаць аб важнай справе. Вы мяне ведаеце, таварыш Крамарчык? — Крамарчык хутка азірнуўся на бакі. Усё яго вялізнае, касцістае цела было напружаным, гатовым адбіць удар.

— Кажыце, у чым справа!?

Дроб у сваю чаргу ўсадзіў руку ў кішэню. Але гэта быў жэст нецярпення і гневу.

— Таварыш Крамарчык, — раздзельна сказаў сержант. — У нас няма часу на цырымоніі. У нашым распараджэнні — хвіліны. У парку нядаўна адбылася паліцэйская аблава. Нашу размову могуць спыніць.

Гэта вышла шчыра і пераканаўча. Крамарчык у ваганні аглядаў высокую постаць усхваляванага чалавека, што стаяў перад ім. Потым сказаў:

— Па некаторых даных, я маю магчымасць давяраць вам. Аднак, ідзіце ўперад. І калі што-небудзь здарыцца, майце на ўвазе: у першую галаву будзеце цярпець вы.

Сержант зразумеў тое, на што намякаў Крамарчык. Ён завярнуўся і пайшоў першым. Услед за ім па жалезных плітах насцілу загрукалі важкія крокі Крамарчыка.

Над гарбатым пешаходным мастком, нахіліўшыся звысоку, адзінока свяціў цьмяны ліхтар. На лакіраванай, чорнай паверхні канала ў скупым, няпэўным святле расцвіталі рознафарбныя кветкі бруду — масляністыя плямы. Чорная смуродная вада павольна рухалася некуды ў глыб начнога парку.

Над сівымі грывамі прысадаў угары трапяталі бляскі вулічнага асвятлення.

Змрок і насцярожаная ціш былі ў парку.

Двое людзей спыніліся на рагу, дзе скрыжоўваліся дзве вуліцы. Крамарчык падаў руку, і Дроб моцна паціснуў яго шырокую, буграстую ад мазалёў далонь.

— Там, дзе ты быў сёння, людзі заўсёды ёсць. Ты будзеш звязаны з імі, — гаварыў Крамарчык. — Уступаючы ў партыю, ты зрабіў ёй дзве важныя паслугі. Гэта найлепш рэкамендуе цябе. Ты на верным шляху, таварыш Дроб!

Крамарчык памаўчаў.

— Вось яшчэ што, таварыш Дроб, што-б ты рабіў, каб я не з'явіўся ў парк?

Дроб дакрануўся да пояса.

— Я знайшоў-бы метады, таварыш Крамарчык.

— Добра. Я шчыра табе веру і спадзяюся, што з цябе выйдзе сапраўдны комуніст. Больш, магчыма, не ўбачымся мы з табой.

І далоні Крамарчыка яшчэ раз сціснулі руку Дроба.

— Бывай!

Крамарчык шпаркай, размашыстай хадою пайшоў па

вуліцы. Дроб застаўся на месцы і доўга глядзеў, як аддаляецца ад яго агромністая постаць гэтага нязломнага чалавека. Важкія гучныя крокі Крамарчыка паступова заціхалі ў воддалі. І калі яны замерлі зусім, Дроб успомніў пра гадзіннік. Стрэлка роўнадушна паказала, што сержант Дроб спазніўся з адпачынку ў казарму на цэлыя паўтары гадзіны.

Але непрыемнага знібення ў грудзях, якое з'яўлялася раней у прадчуванні сутычак з начальствам, цяпер Дроб не адчуў. Шэрыя казарменныя будні, тупая муштроўка, уся душная атмасфера казармы, якая раней была непераможнай і руйнавала волю чалавека, здавалася цяпер непрыкметнай плямай у перспектыве той будучыні, якая развіналася перад вачыма Дроба. Ён цяпер не быў бяззбройным. Ён ведаў, як узарваць панурую магутнасць казарменных сховаў!

— Ты на верным шляху.

Дроб хутка ішоў па глухіх начных вуліцах. Пругкі вецер цёк па вулічных рэчышчах насустрач яму і мякка лашчыў твар. Упэўненая хада, цвёрды крок Дроба быў яго першым пераможным маршам у жыцці.

— Загадана перадаць! — сказаў веставы.

Дроб развінуў акуратна складзены чатырохкутнік паперкі.

«За спазненне з водпуску сержанту Дробу пяць сутак суровага арышту. Капітан Свідр».

Дроб усміхнуўся, скамячыў паперку і кінуў яе ў кут.

— Хоць-бы пяцьдзесят год катаргі! — сказаў ён пра сябе.

... За маленькім столікам сядзяць чацвёра. Першы, злева, маленькі, худы, з дробным тварам і добрымі блакітнымі вачыма, — гэта таварыш Петрык, член раённага камітэта партыі. Побач з ім сядзіць прысадзісты, шырокаплечы, з грываю чорных валасоў. Гэта лепшы прапагандыст падполля, выдатны прамоўца, улюбёны аратар рабочых мітынгаў — таварыш Айзберг. З правага боку стала сядзіць таварыш з сухотным, жоўтым тварам і хвараавіта прыўзнятымі плячыма. У яго востры, праніклівы погляд. Гэта Врон, які нядаўна вышаў з турмы. Побач з Вронам нахіліўся над сталом магутны, нізкарослы чалавек з цяжкім поглядам вачэй і спакойным тварам.

Гэта — кіраўнік арганізацыі раёна тав. Чэст.

Супраць іх усіх сядзіць Крамарчык.

Таварыш Чэст выцягвае гадзіннік, кладзе яго на стол, павольна аглядае прысутных.

— Гадзіну таму назад таварыш Крамарчык паведаміў мне аб важнай справе. Для таго, каб высветліць, якую пазіцыю павінна заняць арганізацыя ў гэтым выключным па сваім змесце выпадку, я вырашыў склікаць вас усіх у тэрміновым парадку, паколькі гэта вымагае самое становішча справы. Слова для інфармацыі мае таварыш Крамарчык.

Крамарчык устае і пачынае сваю інфармацыю. І па меры таго, як ён гаворыць, твары прысутных хмурнеюць і насцярожваюцца. Цераз дваццаць хвілін Крамарчык канчае інфармацыю.

— Які твой уласны погляд, таварыш Крамарчык? — пытае Чэст.

— Паколькі справа датычыцца і мяне асабіста, я пакуль што ўстрымаюся, — кажа Крамарчык.

— Ты ўпэўнены, што чалавек, які табе паведаміў аб усіх, не правакатар?

— Упэўнены.

— Які твой погляд, таварыш Петрык?

— Пайсці на правал плана, — адказвае таварыш Петрык.

— Таварыш Айзберг?

— Прытрымліваюся погляду таварыша Петрыка.

— Таварыш Врон?

Врон моўчкі ў знак згоды ківае галавою.

— Так.

Чэст кладзе на стол вялізныя рукі. Гэта агромністыя клешні, рукі металіста, у скуру якіх глыбока ўеўся металічны пыл. Таварыш Чэст некалькі хвілін перабірае ў пальцах ланцужок гадзінніка.

— Я таксама гэткага погляду.

Ценькі, бліскучы ланцужок квола паблісквае ў цісках магутных пальцаў Чэставых рук. У маленькім пакоіку зусім ціха. Людзі напружана думаюць, абмяркоўваюць.

— Хто хоча выказацца? — пытае Чэст.

— Я, — ціха ўзнімаецца з месца маленькі Петрык. Ён гаворыць дзесяць хвілін. Пасля яго выступаюць таварышы Айзберг і Врон. Пасля іх бярэ слова Крамарчык. Кожная з прапаноў высоўвае асобныя пункты барацьбы

супроць правакацыйнага плана, аб якім нядаўна рабіў інфармацыю Крамарчык.

І зноў некалькі хвілін пасля слоў апошняга прамоўцы цягнецца маўчанне.

Тады таварыш Чэст адкладвае гадзіннік, і ланцужок ільсняным росчыркам стыгне на дошцы стала.

— Я, — кажа Чэст, — з таго самага моманту, як таварыш Крамарчык паведаміў мне сутнасць справы, якую мы цяпер абгаварваем, з усіх бакоў абмяркоўваю яе. Дроб, безумоўна, не правакатар. Верыць яму можна. Усе абставіны — за гэта. Пытанне аб гэтай асобе адпадае. Паўстае другое пытанне: як мы павінны рэагаваць? Мы можам адклікаць адгэтуль Крамарчыка, накіраваць яго ў другое месца і такім чынам ліквідаваць ім аб'ект. Мы можам не ўвязвацца ў гэтую справу, якая нагадвае авантуру, на першы погляд не з'яўляецца справай асаблівай палітычнай важнасці, і абмежавацца толькі адкліканнем Крамарчыка і ліквідацыяй правакатараў.

Чэст змаўкае і абводзіць поглядам прысутных. Таварыш Врон прыглушана кашляе. Яго вострыя прыўзнятыя плечы здрыгаюцца ад удушлівага кашлю. Чэст цярпліва чакае, пакуль магчыма будзе гаварыць.

— Але ці правільнай будзе такая пастаноўка пытання? — працягвае ён. — Няправільнай! Чаму? Вось чаму. Таварыш Крамарчык сам па сабе не адзіны комуніст, якому пагражае шыбеніца. І такім чынам — аб'ект хутка будзе знойдзены. З кожнай хвілінай нарастае рэвалюцыйны рух, па ўсёй краіне — несупынныя хвалі стачак і сялянскіх выступленняў, усё новыя і новыя наспяваюць падзеі, і тое, што Крамарчык выслізнецца ў іх з рук, не паставіць іх надоўга ў тупік. Праўда, ёсць адзін варыянт, на які для іх асаблівай надзеі быць не можа. Гэта — пункт плана, які прадугледжвае эміграцыю. Наша барацьба зацятая, несупынная барацьба. Комуністы не ўцякаюць з сваіх пазіцый. І калі мы зараз вынесем рашэнне, якое будзе ў некаторым сэнсе супярэчыць гэтым маім словам, дык гэта мы зробім...

Таварыш Чэст агледзеў усіх і ўсміхнуўся:

— ... толькі з пачуццяў пашаны да гэтага геніяльнага плана, як «Тэорыя Календбрун», і да гэткага заслужанага фашыста, як яго аўтар. І так далей. Калі нават і правалілца гэты пункт, дык магчымы змены. У прынцыпе ідэя плана застанецца непарушанай. Такім чынам, мы не ліквідуем

відуем план, а толькі ад яго абаронімся. Значыць, што? Значыць, такая пастаноўка пытання ёсць толькі акт самаабароны з нашага боку. А мы — комуністы. Мы павінны не абараняцца, а наступаць.

Таварыш Чэст зноў аглядае ўсіх прысутных.

— Аб Крамарчыку мы тут гутарыць не будзем. Канечны пункт плана ўпіраецца ў такое пытанне, якое перарастае значэнне жыцця кожнага з нас і ўсіх разам.

Чэст крыху павышае голас.

— У дадзеным выпадку мы не павінны дапусціць да таго, каб фашысцкае афіцэрства ў саюзе з белагвардзейшчынай выраблялі дыверсіі на тэрыторыі братняга Саюза. Ланцуг пролетарскага фронта пад сцягамі компартыі — адзіны і непарыўны на ўсёй кулі зямлі! Наша справа — адзіная справа пролетарскай рэволюцыі ва ўсім свеце! Вось дзе самы згустак палітычнага сэнсу той справы, якую мы тут абгаварваем. І на гэтай аснове мы павінны безагаворачна пайсці на ліквідацыю плана цалкам і поўнасцю. Гэткім павінна быць нашае рашэнне. І гэтае рашэнне мы павінны правесці ў жыццё, якіх-бы ахвяр яно ні каштавала.

Таварыш Чэст адрывае кавалак паперкі ад газеты, што ляжыць на стале, і скручвае цыгарку. Пануе маўчанне. Чэст запальвае цыгарку.

— Канкрэтна я прапаную наступнае.

І паніжае голас. Прысутныя нахіляюцца над сталом, прыціскаюцца бліжэй да Чэста. На іх тварах — напружаная ўвага, вялікая сур'ёзнасць людзей, якія вырашаюць важнейшую справу.

Цякуць хвіліны. Голас таварыша Чэста, беспрыстрасны, спакойны, упэўнены голас, разлягаецца ў цесным пакоіку. І раптам — глухі ўдар. Таварыш Чэст стукае кулаком па стале. План правакацыі пад дэвізам «Тэорыя Каленбрун» ліквідаваны.

У таварыша Петрыка ўсхваляваны твар і энергічны бляск вачэй. Крамарчык мерыць крокамі пакой уздоўж і ўпоперак. Таварыш Айзберг шырока і спакойна ўсміхаецца. Чэст сядзіць нахілены над сталом, і яго пальцы зноў абвінае бліскучы ланцужок гадзінніка. Таварыш Врон выцягвае хустачку, абцірае пот з твару і гаворыць сваім глухаватым голасам, крыху заікаючыся:

— Г-гэта шыкарна. Г-гэта, не гаворачы аб усім іншым, д-даволі глыбокая галёша для п-пана маёра К-каленбрун!

Усе стрымана ўсміхаюцца. Таварыш Чэст гаворыць:

— Я прапаную прыступіць да падрабязнага абгаварэння.

Разгортваюцца спрэчкі. І цераз поўгадзіны дэталёва абгаворана кожная дробязь.

— Апошняе, — кажа таварыш Чэст, — вызначэнне таварыша для кіраўніцтва гэтай справай. Я прапаную кандыдатуру таварыша Врона.

Узнімаюцца рукі. Таварыш Врон ківае галавою і выцягвае з кішэні хустачку.

— Цяпер усё, — кажа таварыш Чэст. — Застаецца развітацца з Марцінам. На ўсялякі выпадак. Ґарантый для таго, каб убачыцца, мала.

Таварыш Чэст устае з-за стала і падыходзіць да Крамарчыка. Яго зімны, масіўны твар святлее ад добрай таварыскай усмешкі. Ён падае руку Крамарчыку.

— А мы з табою-такі парадкам папрацавалі, Марцін, — кажа ён. — Ты прасмолены хлапчук, Марцін, і няма чаго цябе агітаваць, бо сваё месца ты заўсёды ведаў. Карацей — не памінай ліхам, Марцін, старога Чэста!

Таварыш Чэст нечакана і парывіста абнімае Крамарчыка. Двое суровых людзей сціскаюць адзін аднаго ў абнімках. Потым Чэст адрываецца і гаворыць:

— Ну, глядзі-ж, не падкачай, Марцін!

— Будзе зроблена, — адказвае Крамарчык.

Падыходзяць і падаюць рукі астатнія.

— Цяпер усё, — гаворыць Чэст. — Цяпер можна ісці, таварыш Крамарчык, не будзем траціць часу.

— Так, усё!

Крамарчык стаіць у дзвярах. Ён аглядае маленькі, цесны пакоік і людзей у ім, блізкіх, самых блізкіх таварышоў. І з адным з іх Крамарчык прайшоў ад самага пачатку ўсю суровую школу падпольшчыка-большэвіка, увесь свой рэволюцыйны шлях да самага гэтага дня. Ён стаіць цяпер, гэты чалавек, за сталом. У яго пануры, нахмураны твар. І здаецца, што ён усю ўвагу гэтай хвіліны аддае ільснянаму ланцужку, што абвінаецца навокал пальцаў.

— Бывайце, хлопцы! — кажа Крамарчык, дакранаючыся да казырка шапкі.

— Бывай, Марцін! — згодным хорам адказваюць усе.

Дзверы за Крамарчыкам зачыняюцца.

Калі ён выходзіць на вуліцу, над горадам, недзе далёка, пунсавее зара. Гэта надыходзіць новы дзень.

Над шэрымі дахамі ўскраіны расквітнела празрыстая сінь вясенняй раніцы, калі Крамарчык спыніўся на адной з вуліц. Ён стаяў супроць невялікага напоўразбуранага дома і некалькі хвілін аглядаў вуліцу. Па дашчатых тратуарах ішлі першыя рэдкія пешаходы. Гэта рабочыя дзённых змен спяшаліся на свае месцы. Яны ўсталі яшчэ досвіткамі і цяпер будуць чакаць першага трамвая на рагу гэтай вуліцы.

Трымаючы пад пахаю маленькія скруткі, усе, як адзін, нахіленыя наперад, падрыгваючы ад знобкага ранішняга халадка, ішлі нявыспаныя, змучаныя людзі, і крок іх быў спешны і нервовы. У цішы пустой вуліцы грукалі па дашчаных паходнях іх драўляныя чаравікі. Людзі спяшаліся, бо яшчэ не страцілі работы і горш ад смерці баяліся яе страціць. Беспрацоўе глядзела на іх галоднымі, прагнымі вачыма са змрочнай, вільготнай пустаты маленькіх домікаў, у якіх былі выстаўлены вокны, а дзверы зашчытаваны дошкамі.

На гэтай вуліцы ўжо выселены дзесяткі беспрацоўных сем'яў. Частка дамоў заплюшчыла глухія павекі акяніц. Тут яшчэ жывуць людзі, але ў іх няма работы, няма куды ім спяшацца, і яны спяць цяжкім, алавяным сном, каб хаця ў сне адпачыць, каб хаця ў цяжкім, непатрэбным сне забыцца на тое, што чакае іх уперадзе.

Аб усім гэтым добра ведаў Крамарчык. Ён стаяў задуманы і аглядаў гэтых сумных людзей. Потым павольна завярнуўся і, падышоўшы да акна, пастукаў у акяніцу. Праз некалькі хвілін бразнула клямка дзвярэй. Крамарчык пераступіў парог. У змрочных сенцах разлёгся здзіўлены і радасны крык:

— Марцін!

Жанчына прынікла тварам да брызентавай курткі Крамарчыка. Ён адчуў, як уздрыгнулі яе плечы. Яна плакала.

— Стася, — мякка сказаў Крамарчык, — вось цяпер менавіта ў нас менш за ўсё часу на меладрамы. Колькі разоў прыходзілі?

— Два, — ціха адказала яна. — Перавярнулі ўвесь дом. На Андрэя склалі пратакол за абразу паліцыянта.

— З нашых прыходзіў хто?

— Таксама два разы. Малады, светлавалосы такі. У апошні раз запіску пакінуў. Яна пры мне. Вось яна.

— Добра, Стася, цяпер дык пазнаю цябе. А спачатку неяк да цябе было непадобна.

— Я змучылася ўся. Заходзь у хату. Там яшчэ спіць Андрэй. Я табе кавы згатую.

Крамарчык увайшоў у маленькі пакоік, у якім панавала надзвычайная чыстата. Ён пасунуў да сябе крэсла і сеў. Развінуў паперку. Косым, няпэўным почаркам было напісана аб тым, што таварыш, які пазычыў яму грошай, цяпер адчувае вялікую патрэбу ў іх. Пры гэтым падрабязна апісвалася цяжкое становішча, у якім знаходзіцца сям'я таварыша. Крамарчык абмацаў у кішэні аловак і пачаў рабіць адзнакі над асобнымі словамі, літарамі. Цераз некалькі часу ён прачытаў:

*«Прыходзіў. Цябе няма. Я згубіў усіх, акрамя Г... З завода зволіўся сам. Небяспечна. Штодзённа і безупынна чакаю на бульвары С. Д. Упэўнены, што запіска цябе адшукае.*

А. Т.»

— Штодзённа і безупынна, — сказаў Крамарчык пра сябе. — Добра! — і падраў паперку. Ён пацёр далонню лоб і толькі цяпер адчуў стомленасць ад трох бяссонных начэй. Ён устаў для таго, каб расшпіліць куртку і зняць яе, і твар у твар сустрэўся з жонкаю.

У яе вачах была трывога.

— Марцін, — сказала яна, — я цябе заўсёды разумела з аднаго слова. Скажы мне, чаму ты прышоў проста дадому ў той час, калі табе пагражае гэтулькі небяспекі?

Крамарчык усміхнуўся.

— Вельмі проста, Стася, — сказаў ён з нацягнутай абыякавасцю. — Якраз я не адчуваю гэтай небяспекі. І ты можаш быць спакойнай. Асабіста для мяне небяспека значна зменшылася, хоць-бы нават у адносінах да ўчарашняга дня.

— Добра, — адказала жонка. — Зараз звару табе кавы.

І яна, ціха ступаючы, вышла ў другі пакоік. Крамарчык праводзіў вачыма яе дробную і простую постаць. Ён разумеў, якая туга, які неспакой трымалі ў лапах сэрца гэтай жанчыны ад таго вечара, як Крамарчык не з'явіўся дадому. Гэта было ў дзень забастоўкі «Нептуна». Тры дні прайшло ад тае пары. Тры ночы не спаў Крамарчык, увесь час пераходзячы з месца на месца. Тры ночы, мусіць, не спала і Стася, прыслухоўваючыся, ці не пастукае хто ў дзверы гэтага маленькага доміка. Але разам з тым Кра-

марчык ведаў, якая сіла волі тоіцца ў гэтай маленькай жанчыне. Ён быў упэўнены ў тым, што прайшоў-бы і тыдзень і месяц, і Стася не кранулася-б з месца для таго, каб даведацца аб лёсе Марціна. Гэтая маленькая жанчына была дысцыплінаваная. Яна ні разу не зрабіла памылковага кроку ад таго самага часу, як дваццацітрохгадовы Марцін упершыню пайшоў на паседжанне падпольнага рабочага гуртка.

Скрыпнулі дзверы. Увайшоў Андрэй.

У яго здароўем і сілаю праменіў твар. Сіла гэтая адчувалася ва ўсіх яго рухах. Ён шырока ўсміхаўся, калі адчыняў дзверы, але, убачыўшы шэры твар бацькі, стомлены і заклапочаны яго погляд, стлуміў усмешку. Падышоў сур'ёзны і падаў руку.

— Добры дзень, бацька! Вярнуўся?

— Як бачыш! — усміхнуўся Крамарчык. — Ты ўжо думаў, не вярнуся?

Андрэй сеў насупроць яго і некалькі хвілін маўчаў. Потым спытаўся:

— Ты хутка пойдзеш?

— Хутка.

— Надоўга?

— Цяжка сказаць. Магчыма надоўга.

Андрэй адвёў вочы ўбок. Па яго твары прайшоў цень.

— Горш за ўсё, бацька, — сказаў ён, — адчуваць няпэўнасць у тваім існаванні. За гэтыя дні мы шмат перажылі са старою. Маці мне не сказала ні слова, і гэтаксама я стараўся не напамінаць аб табе, але і яна, і я ні на хвіліну не пераставалі пра цябе думаць. Гэта цяжка. Сядзець і думаць аб тым, што ты ў гэты момант звязаны, збіты ляжыш у якім-небудзь сутарэнні... А можа яшчэ і горш. Можа...

— Памаўчы, Андрэй! — сурова сказаў Крамарчык, — не псуй мне настрою.

Андрэй пачырванеў і апусціў вочы.

— Цяжка перажываць, бацька... — прашаптаў ён. — Мы абое цябе занадта любім.

Крамарчык пацінуў плячыма. Яго твар нахмурыўся, і бровы ссунуліся да пераносіцы. Ён збіраўся сказаць Андрэю нешта жорсткае, такое, што мог сказаць толькі ён, Крамарчык. Але ў гэты час адчыніліся дзверы.

Маці прынесла каву.

Яны ішлі па вуліцы ў кірунку да цэнтра. Абодва шырока і павольна крочылі, падобныя адзін да аднаго, як дзве кроплі вады.

Марцін Крамарчык гаварыў Андрэю Крамарчыку:

— Фраза, поза і жэст — гэта эсэраўскія штучкі. Ты — комсамолец, малады большэвік. Ты павінен ведаць сваё месца. Што гэта за істэрыка? Што гэта за фасон такі лаяцца з паліцэйшчынай у той час, калі справа цябе нават і не датычыцца!? Мне апавядалі некалі аб курсістцы, што лічыла сябе народаволкай і ніколі не ўпускала выпадку падыйсці да гарадавога і сказаць яму: «Вы нахал, і навошта вы мучыце ў турме бедных студэнтаў?» Прыблізна гэтак-жа дапамог ты справе тым, што палаяўся ў час вобыску з паліцэйскім. Цяпер і пасядзіш у турме ў той час, калі патрэбна працаваць.

Андрэй Крамарчык не ўзнімаў вачэй ад зямлі.

— І яшчэ... гэтыя перажыванні. Ты бачыў, як маці развіталася са мною? От як трэба! А ты размазваеш слінкі... Ах, мне таты шкода! Ах, мне мамы шкода! Ніякіх татаў і мамаў. Ты — комсамолец! Твая справа — рэволюцыйная работа. І гэта ты памятай. Хто крычыць і стогне, той не сур'ёзны чалавек. Такія людзі нам не будуць патрэбны нават і тады, калі на гэтым месцы будзе шумець соцыялістычны горад. А цяпер — тым больш. Ты гэта добра запомні сабе.

Ён змоўк. Яны доўга ішлі, заварочваючы з вуліцы ў вуліцу, і, нарэшце, Марцін Крамарчык сказаў:

— На тым рагу мы развітаемся. Магчыма, мы ўбачымся цераз некалькі гадоў, а магчыма — не ўбачымся наогул. Але трэба развітацца так, каб гэта нагадвала на тое, што сустрэнемся мы сёння ўвечары. Зразумеў, сынок?

— Так! — ціха адказаў Андрэй.

— Вось! — голас Марціна стаў больш мяккі. — Жыві і працуй. І ніякіх там выкрунтасаў! Ніякіх нерваў і перажыванняў. Гэта размагнічвае чалавека, робіць яго няздатным да барацьбы. Калі-ж што здарыцца з табою, трымайся, як большэвік! А пра мяне табе паведамяць. Бывай!

Яны стаялі на рагу вуліцы. Іх абцякаў шчыльны струмень пешаходаў. Крамарчык убачыў блізка ад сябе вочы сына. У іх паблісквала сталь.

— Можаш быць спакойны за мяне, бацька! — сказаў Андрэй. — Можаш быць упэўнены, што сорамна за сына не будзе!

Ён адвярнуўся і пайшоў назад, туды, адкуль яны толькі што прышлі. Крамарчык зрабіў некалькі крокаў і азірнуўся ўпотай. Постаць Андрэя некаторы час узвышалася над натоўпам на тратуары і потым знікла на завароце.

— Будзе з хлопца сэнс, — адзначыў пра сябе Крамарчык. І пайшоў павольнаю хадою чалавека, якому няма куды спяшацца.

На бульвары, супроць помніка, Крамарчык убачыў знаёмую постаць. Адам Турчын сядзеў і чытаў газету. На ім быў зграбны гарнітур; шэры капялюш з'ехаў на патыліцу, і русыя валасы, што выбіліся на лоб, раздзьмухваў пышнаю капою жартаўлівы госць вясенніх бульвараў — мяккі і лагодны вецер. І акуратны гарнітур, і асляпляючы гальштук, і фетравы капялюш на патыліцы, і да бляску начышчаныя, модныя чаравікі — увесь выгляд чалавека гаварыў аб тым, што вось ён, прыказчык з моднага магазіна, ці цырульнік, ці банкаўскі пісарчук, — вышаў адпачыць на бульвар, цікавіцца пікантнага характару аб'явамі ў газеце і ў сувязі з гэтым крыху марыць аб маленькай чалавечай вясенняй радасці, наогул — адпачывае. І хоча, каб разам з ім адпачываў і радаваўся ўвесь свет. Гэткі выгляд меў чалавек.

Марцін Крамарчык усміхнуўся, аглядаючы здалёк гулівую постаць Адама Турчына. Яму было вядома, што ўяўляе сабою гэтая экзатычная асоба. Засунуўшы рукі ў кішэні, Крамарчык павольным крокам набліжаўся да яго па вузкай пясчанай дарожцы.

Турчын адразу заўважыў Крамарчыка, як толькі той з'явіўся на бульвары. Аднак ён не паказаў гэтага ніводным рухам. Сядзеў, закінуўшы нагу на нагу, крыху нахіліўшы галаву набок і, прымжыўшы вочы ад дыму папяросы, усю ўвагу аддаў газеце.

Крамарчык падышоў і сеў на лаўку, на якой сядзеў Турчын, побач з ім. Той перагарнуў старонку і працягваў чытаць. Крамарчык агледзеў бульвар. Людзей было шмат. Большасць іх абтрэпаным, пацёртым сваім выглядам паказвала на вымушанасць адпачынку, на беспрацоўе. Людзі сядзелі на лаўках, прахаджваліся па дарожках. Вецер калыхаў падстрыжанае галлё маладых дрэў, на якіх ужо развіналася бледнае, кволае лісце.

Крамарчык прыглядаўся да гульні дзяцей у горцы пяску недалёка ад таго месца, дзе сядзелі яны з Турчыным.

У гэты момант ён пачуў ціхі голас. Турчын гаварыў, не расціскаючы зубоў.

— Запіску атрымаў?

— Так, — адказаў Крамарчык, зацікаўлена аглядаючы гузік на сваёй куртцы.

— Я згубіў сувязь, — сказаў Турчын.

— Нічога. Наладзім.

— Ведаеш што? — Турчын пасунуўся бліжэй да Крамарчыка. — Мы зараз зойдзем у кафэ. Я маю крыху грошай. Гаспадар знаёмы. Там дагаворымся. Можна ісці разам. Паблізу нікога няма.

— Добра.

Турчын устаў. За ім узняўся з месца Крамарчык. Яны пайшлі ў напрамку да варот. Турчын выцягнуў папяросы і з вясёлай усмешкай, падаючы пачак Крамарчыку, паведаміў:

— За мною палявалі два дні. Жуд. Ледзь выкруціўся!

— І як выкруціўся? — спытаў Крамарчык, на хаду запальваючы папяросу.

— Прадаў усе свае манаткі. Усё, што меў. Вылупіўся ў гэты гарнітур, як індык на вялікдзень. Змяніў выгляд, змяніў кватэру на гасцініцу і на бульвар — і адчапіліся. Згубілі след. Удалося даць нырца.

— Добра, — заўважыў Крамарчык.

— Аднак было гіблае адчуванне. Нервы паскрыпвалі... Увесь час чакаеш...

— Гэта з маладымі бывае.

— Цяпер я спакойны.

Яны ўжо вышлі з бульвара і ішлі па вуліцы, гаворачы аб усім гэтым з ажыўленымі і вясёлымі тварамі. Капялюш Турчына пагражаў пакінуць сваё месца, а гальштук вылез з-пад пінжака, і вецер закідваў яго за плячо. Але гэтая бясклопатнасць была паказною. Крамарчык ведаў, колькі перажыў гэты чалавек у пошуках яго і якая патрабавалася і цяпер патрабуецца вытрымка. Толькі зрэдку ў вачах Турчына бліскаў затоены, насцярожаны выраз і зараз-жа знікаў.

— Завод стаяў толькі два дні, Марцін. Вайсковы заказ знялі. Мы выйгралі!

— Добра.

— Нагналі мы ім холаду за пазуху! Пачакай, яшчэ не гэткая ў свой час будзе ілюмінацыя!

Марцін усміхаўся. Забаўны быў і вясёлы гэты малады

токар Адам Турчын. Ніхто лепш за яго не мог рассмяшыць таварышоў у цэху.

Так яны ішлі, ажыўлёна, напоўголаса размаўляючы. І калі збіраліся перайсці вуліцу, абодва раптоўна спыніліся.

Ім загароджвалі дарогу чатыры ў чорных паліто.

Адзін з іх паклаў руку ў кішэню і сказаў спакойна:

— Рукі ўгору, панове!

Крамарчык ступіў крок назад. Турчын разгублена кінуў погляд убок, прыгнуўся і выхапіў рэвальвер. Сіняя сталь браунінга бліснула ў паветры. Турчына схапілі ззаду за руку. У Крамарчыка ад моцнага ўдару зазвінела ў галаве. Тупаносы рэвальвер маячыў перад яго вачыма. Яго трымалі пад рукі, ён слаба супраціўляўся. Але далі сябе адчуць тры бяссонныя ночы і нервовае напружанне гэтых дзён. Вочы заслала зялёная імгла. Крамарчык пахіснуўся.

Калі ён праз момант апрытомнеў, яго рукі моцна сціскалі цесныя нікеляваныя наручнікі. Яго цяпер ужо моцна трымалі двое ў чорных паліто. Ад скроні па шчацэ ліпкім, цёплым струменьчыкам сцякала кроў. На зямлі ў адзін клубок звіліся чорныя паліто і паліцэйскія мундзіры. Турчын адчайна абараняўся.

Гоман вуліцы рэзалі паліцэйскія свісткі. На тратуарах схлупіліся людзі. Зялёная імгла зноў калыхнулася ў вачах. Крамарчык пахіснуўся зноў.

Рэзка ўскрыкнула сірэна паліцэйскага аўто.

Ярош Гагай хутка ішоў па глухому завулку. Ён пераскакваў лужыны, што тлуста блішчэлі ў скупым асвятленні рэдкіх ліхтароў гэтага завулка. Тут, на гэтай глухой вулічцы ўскраіны, не было пешаходаў, рэдкімі былі агні ў вокнах. Кастлявая лапа крызіса прыдушыла мізэрнае жыццё гэткіх вулічак у першую чаргу. Але Гагай не думаў аб гэтым. Ён успрыймаў абставіны толькі з аднаго боку: асцерагаўся лужын і калючай агароджы з іржавага дроту, які сустракаўся тут на кожным кроку. Гагай ужо шукаў поўгадзіны дома пад нумарам 45.

Ён спыняўся пад хацінамі, углядаўся ў маленькія шыльды пад цьмянымі лямпкамі рэдкіх тут двух-трохпавярховых дамоў і брыў далей, спатыкаючыся на дрот і коўзаючы ў лужынах. Нарэшце, ён знайшоў дом пад нумарам 45. Гэта быў тыпічны домік гэтага завулка. Акяніцы яго

былі наглуха зачынены. Праз шчыліны іх слаба праліва-лася святло.

Гагай прыслухаўся. Недзе на пустэчы, за парканам, далёка адгэтуль, ашалела выў сабака. Вецер зрэдку данасіў аднекуль пыханне рухавіка. Наплываў удушлівы смурод з жывёлабойняў. Было цёмна і глуха. Там, угары, у вялікіх і чорных прасторах ночы, паўзлі брухатыя чароды хмар. Збіралася на дождж. Перакачваўся рык далёкіх грымотаў.

Гагай абцёр пот з твару і аблегчана ўздыхнуў. Цяпер можна быць спакойным. Дні трывогі і няўпэўненасці мінулі. Ён цяпер зноў звяжацца з арганізацыяй. Маленькая пісулька, якую ён сёння атрымаў, дае яму гэтую магчымасць у самы патрэбны момант.

Ён азірнуўся і пастукаў у акяніцу. Пачакаўшы, разлёгся гэткі-ж ціхі і кароткі стук адтуль, знутры. Гагай пайшоў да дзвярэй, і яны адразу адчыніліся. Нехта ў цёмных сенцах узяў яго за руку і правёў вузкім калідорчыкам да асветленых дзвярэй. Гагай увайшоў у пакой. За ім зачыніліся дзверы. Каля іх стаяў невялікага росту чалавек у сініх акулярах. Гагай ведаў толькі яго імя. І ён сказаў:

— Важныя навіны, таварыш Ян!

— Што? — трывожна сказаў чалавек у акулярах.

— Ты ўжо, магчыма, ведаеш, бо выклікаў мяне запіскаю...

— Я нічога не ведаю. Гавары хутчэй, у чым справа. Я выклікаў цябе, каб упэўніцца, што ты на волі.

— Дазволь мне сесці, таварыш Ян!

— Адкуль гэтыя цырымоніі?! Сядай!

Ярош Гагай сеў на адзінае крэсла ў пакоі і далонню адкінуў чорныя свае валасы назад. Гэта быў яшчэ малады чалавек, з правільнымі рысамі твару, сухою і выразнаю лініяй губ. Гагай уздыхнуў і сказаў:

— Таварыш Ян! Арыштаваны Крамарчык і Турчын.

— Што? Арыштаваны?

— Так!

Таварыш Ян сарваўся з месца і прайшоў у супрацьлеглы кут пакоя. Там ён спыніўся, маленькі, насцярожаны, і стаяў, заклаўшы рукі за спіну, утуліўшы галаву ў плечы. Яго змаршчасты, шафранавы твар крывіўся ў нейкай грымасе. Яе не мог зразумець Гагай. Сінія аку-

ляры былі абыякавы. Твар таварыша Яна захоўваў непранікнёнасць, як твар слянога.

— Я сам бачыў, як іх арыштавалі, — сказаў Гагай. — Абодвух пры арышце збілі. Асабліва абараняўся Турчын. Спрабаваў страляць.

— Гарачы гэты Турчын, — заўважыў таварыш Ян.

— Але і для мяне патрабавалася вытрымка для таго, каб не варухнуць пальцам і стаяць на месцы ў той час, як збіваюць таварышоў і ўздзяваюць ім наручнікі.

Твар Гагая ўздрыгнуў. Чорныя крыллі броваў пасунуліся да пераносіцы. Вочы заблішчэлі гневам. Ён грукнуў кулаком па стале і моцна вылаяўся.

— Асцярожна, Ярош! — спакойна заўважыў таварыш Ян. — Ты паб'еш лямпу і разальеш чарніла. Ты асуджаў запальчывасць Турчына, а сам падаеш у істэрыю.

— У істэрыю? Я-б хацеў паглядзець, як-бы ты трымаў сябе на маім месцы! Май на ўвазе, таварыш Ян, што я сам усе гэтыя дні з гадзіны на гадзіну чакаў арышту...

Гагай пацёр далонямі лоб.

— Што да перажыванняў, таварыш Гагай, — сказаў ціхім голасам Ян, — дык можаш быць упэўнены, што яны ў мяне таксама былі. Але я не пішчаў бабскім голасам і не дзёр на сабе валасоў. Я звычайна абдумваў сродкі выхаду з дрэннага становішча.

Таварыш Ян вышаў з кута і спыніўся на сярэдзіне пакоя, насупроць Гагая.

— Патрэбна вытрымка, Ярош, і канкрэтная дзейнасць. Што ты мог-бы ў дадзеным выпадку прапанаваць? Я ведаю аб табе, як аб рашучым і цвёрдым чалавеку, і не хачу думаць, што некалькі гадзін хвалявання пазбавілі цябе здольнасці цвяроза разважаць.

— Іх чакае шыбеніца, таварыш Ян, — глуха сказаў Гагай.

— Гэта мне вядома. Але што канкрэтна рабіць? Як ты думаеш?

Таварыш Ян стаяў супроць Гагая, крыху нахіліўшыся да яго. Непранікнёна паблісквалі сінія яго акуляры. Таварыш Ян чакаў.

Гагай некалькі хвілін маўчаў, паціраючы далонню лоб. На сцяне мерна шчоўкаў гадзіннік. У кучы газет, што былі складзены пад сцяною ў куце, варушылася мыш.

— Калі я ішоў да цябе, — пачаў Гагай, — я думаў аб арганізацыі ўцёку. Але як гэта зрабіць, я канкрэтна сабе

яшчэ не ўяўляю і цяпер. Ёсць нейкая думка, але яна яшчэ дэталёва не аформілася. Для гэтага патрэбен некаторы час.

— У чым, менавіта, справа?

Гагай устаў і пачаў хадзіць па пакоі. Пакой быў маленькі. Больш паловы яго займаў стол, на якім выпрацоўваў свае чарцяжы таварыш Ян. Некалькімі крокамі Гагай дасягаў супроцьлеглай сцяны і, ідучы назад, спатыкаўся на маленькага Яна, які ўсё яшчэ стаяў пасярод пакоя. Ад крокаў Гагая пабразгваў абажур лямпы. Таварыш Ян цярпліва чакаў, і, нарэшце, Гагай спыніўся перад ім.

— Мне крыху дзіўна, таварыш Ян, чаму ты гэтае пытанне ставіш менавіта перада мною. Хіба ў нас больш людзей няма?

Гагай неадрыўна глядзеў у твар Яна. Але ён, як і заўсёды, быў непранікнёным. У абодвух шкелках акуляраў адбівалася лямпа.

— Кожны павінен быць гатовы на ратунак таварыша, — адказаў старык, — і ты ў дадзеным выпадку не становіш выключэння.

— Так.

Гагай яшчэ некалькі разоў прайшоўся па пакоі і зноў спыніўся перад таварышам Янам.

— Вось што... таварыш, — сказаў ён, — іх патрэбна ратаваць, у мяне ёсць адна магчымасць. Як мне ўдасца яе рэалізаваць, яшчэ невядома. Але ва ўсялякім выпадку я прыкладу ўсе намаганні да таго, каб дабіцца дадатных вынікаў. Гэта даволі цяжка.

— Так!

— Я абдумаю ўсё і дэталёва прапрацую план. Потым паведамлю табе. Калі план будзе здатны,—мы возьмемся за справу, калі не — адкінем яго і будзем вышукваць новыя сродкі. Ва ўсялякім выпадку мы павінны выратаваць таварышоў...

Гагай скамячыў у руках абрывак паперкі і кінуў у кут.

— І ва ўсялякім выпадку, — дакончыў ён, — я не буду шкадаваць сябе. Вось і ўсё, што я магу табе сказаць. Гэткая мая прапанова.

— Добра, — сказаў таварыш Ян. — Пасля заўтрага, у гэты самы час, я буду чакаць цябе. А цяпер можаш ісці.

Цераз некалькі хвілін Гагай ізноў ішоў па драўляных паходнях завулка, спатыкаўся на калючы дрот і пападаў у глыбокія лужыны. Не было трывогі і неспакою. Перспектыва была выразная. Можна было дзейнічаць.

Крамарчык ачнуўся. У камеры быў поўзмрок. Паступова вызначаліся з цемры абрысы рэчаў: столік з вялікаю мядзянаю квартаю на ім, прысадзістая табурэтка і смуродная параша ў куце. Каламута рассейвалася. Крамарчык ужо бачыў цёмную, вільготную пляму ад парашы на сцяне. Акно было высока. Пераплёт кратаў выразна выступаў, асветлены знадворку ліхтарамі на турэмным двары.

Крамарчык паспрабаваў устаць. Прарэзлівы боль прайшоў па ўсім целе, галава была наліта алавяным цяжарам. Крамарчык сціснуў зубы і лёг на бок. Асцярожна абмацваў пальцамі галаву. Кроў запяклася. Валасы склеіліся, утвараючы балючую і цвёрдую скарлупу.

— Нічога сабе, — напоўголаса сказаў Крамарчык. — Адпаліравалі! — І зноў заплюшчыў вочы. Зялёная каламута зноў наступала на яго, зноў ахутвала мозг непрытомнасць.

— Яшчэ толькі тры дні... — падумаў Крамарчык, стараючыся ўтрымацца на грані свядомасці. — Яшчэ толькі тры дні... А яшчэ колькі? Трэба трымацца... Трымацца трэба...

Але чатырохкутнік акна, перарэзаны кратамі, бязгучна сарваўся з свайго месца і паплыў некуды ўгору. Пляма ад парашы паўзла на Крамарчыка, абдаючы яго сваім смуродным дыханнем... У яе былі крывыя, клапішныя лапы, празрыстыя, як у агіднага паразіта, што выклікае тыфус, у яе была шырокая чатырохкутная сківіца і алавяныя гузікі вачэй... Яна перабірала лапамі і павольна паўзла на Крамарчыка. Морда плюшчыла вочы і рухала сківіцай. Гэтая морда была падобна да таго, хто ўдарыў Крамарчыка. Гэта была яго морда.

І раптам навалілася нешта невымоўна цяжкое, прыціснула страшэнным грузам сваім, стлуміла дыханне... Акно шалёна круцілася ў вачах... У ціскак гэтага груза загасла прытомнасць Крамарчыка.

— Но, но! — сказаў нечы голас. — Но, но! Трымайцеся, я вам кажу!

Гэта быў турэмны доктар. Твару яго Крамарчык бачыць не мог. Перад вачыма заставалася вузкая шчылінка, цераз якую было відаць толькі шэраг бліскучых гузікаў на мундзіры таго, хто стаяў побач з доктарам.

— Ачнуўся? — спыталі ў доктара.

— Так, — адказаў доктар, абкручваючы бінтам галаву Крамарчыка. — Давядзецца яму паляжаць. Моцна яго, усё-такі, я вам скажу...

— Наглядчыку, мусіць, яшчэ больш?

— О, так, наглядчыку патрэбна аперацыя жывата. Гэта ўдар, я вам скажу.

— Шалёны чалавек.

Крамарчык знайшоў у сабе сілы ўсміхнуцца. Гэта было на допыце, тут-жа ў турме. Калі ён праходзіў у дзверы, адзін з наглядчыкаў пхнуў яго да другога. Той сустрэў ударам у твар, але праз момант ужо ляжаў на зямлі збіты з ног ударам нагі ў жывот. Бот Крамарчыка быў падкаваны на насок.

— Я вам, сволачы, не запазычуся! — сказаў Крамарчык.

— Што вы кажаце? — спытаў доктар.

— Я хачу піць.

— Дайце піць яму.

Крамарчык доўга і прагна піў.

— Цяпер ён можа ісці?

— Спадзяюся, — сказаў доктар. — Слухайце, нумар шэсцьдзесят тры, уставайце!

Крамарчык устаў. Яго падтрымалі пад рукі. Але ён вызваліў рукі і пайшоў сам няпэўным, хісткім крокам. Ішлі ўніз, мінаючы глухія, металёвыя дзверы калідораў. На трэцім паверсе Крамарчыка пхнулі ў бок, адчыніліся нейкія дзверы. Яны прайшлі вялікую залю і спыніліся. З-за плячэй Крамарчыка выступіў нехта ў мундзіры. Азваўся электрычны званок.

Першым у кабінет начальніка турмы ўвайшоў Крамарчык. За ім той, у мундзіры.

За сталом сядзеў вузкаплечы, зашпілены ў чорны сурдут чалавек. Яго доўгі чэрап ільсніў у святле пышнай люстры — тонкай камбінацыі крышталя, што, падобная да воблака, звісала над сталом. У чалавека быў скамечаны, змаршчасты твар, заспаны, вялы погляд вачэй. Ён сашчапіў пальцы рук на жываце і сядзеў, адкінуўшыся

на спінку крэсла. Губы яго ўвесь час варушыліся, як-бы чалавек бясконца нешта жаваў.

Супроць стала стаяла постаць у шэрай куртцы і шырокіх мяшэчных портках. Замест галавы на плячах быў вялізны клуб ваты, бінтоў, марлі. Клуб павольна пакруціўся. Крамарчык адшукаў далёкае падабенства заплюшчанага вока, пухліны і сінявата-чырвоных падцёкаў з рысамі твару Турчына. Турчын выцягнуў руку, і Крамарчык пацiснуў яе.

Пасля гэтага Крамарчык убачыў яшчэ адну постаць у гэтым утульным кабінеце, які нічым не нагадваў турмы. Гэта быў брухаты, нізкі ростам чалавек. Ён стаяў перад люстэркам у куце і закручваў вусы.

— Марцін Крамарчык і Адам Турчын! — азваўся густы металёвы голас.

Абодва азірнуліся. Гэта гаварыў чалавек, што сядзеў за сталом.

— Марцін Крамарчык і Адам Турчын, на папярэдніх допытах вы адмовіліся даваць якія-небудзь паказанні. Папярэджваю вас, што маўчанне на допытах будзе мець для вас самыя непрыемныя вынікі. Прашу ўзяць гэта на ўвагу. Я — вайсковы пракурор. І ў тым, што для вас маўчанне — не ратунак, можаце быць ўпэўнены.

Заспаныя вочы пракурора некаторы час абмацвалі абодвух.

— Вы не жадаеце і цяпер даць паказанні?

Маўчанне.

— Я вас выклікаў, безумоўна, не для таго, каб гэтыя паказанні ў гэтую-ж хвіліну атрымаць. Я хацеў вам напомніць толькі, што вы не на дачу выехалі, панове, і калі вы гэта ўсвядоміце, даць вам падумаць над сваім лёсам. А наконт паказанняў — ёсць следчыя. Ваша антыдзяржаўная дзейнасць зусім даказана. Сваімі паказаннямі вы маглі-б аблегчыць некалькі свой лёс. Я хацеў вам даць гэтую магчымасць. Ну, дык як? Будзеце адказваць на запытанні?

Два клубы ваты і бінтоў павольна паварушыліся. Гэта было адмаўленнем.

— Ваша справа перадаецца вайскова-палявому суду, які праз кароткі час яе разгледзіць. І жадаю панам здароўя! Пане начальнік! Яны ляжаць у бальніцы? Хворыя?

— Пане пракурор! — ценькім галаском адказаў начальнік, — арыштант нумар шэсцьдзесят тры, Крамарчык, меў сутычку з наглядчыкамі. Аднаго ледзь не забіў. Арыштант Турчын мае пашкоджанні пры арышце. Абодва знаходзяцца ў камерах.

Начальнік турмы зноў адвярнуўся да люстэрка і працягваў закручваць вус.

— Выводзьце, — сказаў пракурор і ўстаў.

Гарачыя пальцы Турчына сціснулі руку Крамарчыка. Чалавек у мундзіры пхнуў Крамарчыка да дзвярэй.

— Жадаю панам усяго добрага! — раздаўся ззаду металёвы пракурорскі бас. — Усяго найлепшага панам!

Маёр Каленбрун выгодна разлёгся ў крэсле і сачыў адзіным сваім вокам за тым, як цягнуцца ў паветры, насычаным празрыстым святлом, шызыя смугі дыму яго цыгары. Знявечаны маёрскі твар быў спакойны. Нават больш. На гэтай масцы было нешта такое, што можна было лічыць за ўсмешку, прыхільную і задуманую.

— Я часта думаю аб вас, паручнік Рыдэль, — гаварыў Каленбрун. — Вы, на мой пагляд, выяўляеце сабою квінтэсенцыю ўсяго, што можна чакаць ад афіцэра нашай краіны і, тым больш, ад афіцэра нашай зброі.

Паручнік Рыдэль сядзеў супроць Каленбруна, выпрастаны, зашпілены ў тугі мундзір. Вышыты каўнер пасаваў да яго ружовых, дзявочых шчок. На крутых плячах зграбна ляжалі ільсняныя наплечнікі. Раскошная капа завітых светлых валасоў паручніка завяршала яго цалкам эфектны выгляд. На маладым, суровым яго твары слаба, як прыклееная, трымалася ўсмешка, па магчымасці ветлівая. Паручнік карэктна слухаў тое, што гаварыў Каленбрун.

— Калі я часам гляджу на сябе, — працягваў Каленбрун, — я адрозніваю ў сваёй душы два пачуцці. Першае — гэта свядомасць таго, што мы, ветэраны, паслужылі айчызне сваёй. Некаторыя з нас ляжаць у сырой зямлі ўжо, другія, пакрытыя ранамі, часам з разбітай ударамі лёсу душой, мужна служаць яшчэ сваёй справе...

Маёр Каленбрун падумаў хвіліну.

— Безумоўна, не ва ўсіх скалечаны твар і знявечаны пачуцці. Гэтага нельга сказаць пра калегу Пферц-Дабравольскага.

Цыгара паказала на кароткую, распоўзлую тушу ў крэсле. Расшытая мішурой і прыбраная ордэнамі туша ценька высвіствала носам і час-ад-часу густа пахрыпвала.

— Гэтага нельга сказаць пра яго, але мы ўсе: і ён, і я, і іншыя — ветэраны. Мы крывёю сваёю і касцьмі абаранялі край свой і далі яму магчымасць выгадаваць замену сабе. Гэта дае пачуццё веры ў сілы зброі краіны маёй. І другое пачуццё — гэта чыстая, радасная гордасць. Гэта за вас, за маладых птушанят старога, арлінага гнязда. Ляціце, маладыя і мужныя, на прастор палёў боек, мы вас выгадавалі і чакаем ад вас перамог! — Маёр патэтычна выцягнуў руку ўгору.

Паручнік Рыдэль паглядзеў на гадзіннік.

— Я лічу, маёр, што апошні радок вашага лірычнага пралога датычыцца майго выступлення? Так? Вы хочаце даведацца, ці хутка я магу, ужываючы ваш фігуральны сказ, вылецець?

Каленбрун адчуў сябе крыху збянтэжаным і паправіў манокль. Маска ашчэрылася ўсмешкай.

— Прызнацца вам, паручнік, гэткая думка ў мяне была. Але я вас проста хацеў аб гэтым спытаць. Без афармлення. Афіцыйна.

— Гэта рабіць вам было няёмка. Я ваш госць. А за сталом і за бакалам шампанскага сціраюцца грані чыноў і розніца ў гадах. Вы будзеце гаварыць афіцыйна, а я падумаю: чаму арляняці ляцець першаму? Хай-бы ляцеў стары, выпрабаваны ў бойках, яшчэ магутны арол!..

Вочы паручніка насмешліва ўглядаліся ў пратэзу Каленбруна.

— Я магу вылецець, маёр, у бліжэйшы час. Адзін-два дні.

Маёр аўладаў сабою. Ён паправіў манокль і суха нахіліў галаву ў знак згоды.

— Я магу быць вольным, маёр?

— Гэта ваша жаданне.

— Мяне чакаюць. Заўтра а шостай гадзіне ўвечары дазвольце вас наведаць.

— Буду вельмі рад, паручнік!

— Гэта ўжо апошні раз. Там мы абгаворым падрабязнасці і закончым падрыхтоўку.

— Хутка ініцыятыва будзе ў вашых руках, паручнік!

— Гэта мяне не суцяшае. Працаваць пад кіраўніцт-

вам такога начальніка, як вы, — гонар для салдата. Шчыра дзякую за кампанію паноў маёраў. Прашу выбачэння!

Ён дайшоў да дзвярэй, адвярнуўся, рэзка нахіліў галаву і знік.

Каленбрун выняў манокль і пачаў старанна праціраць шкелка. Потым уціснуў яго на месца і хмура ўсміхнуўся.

— Далёка пойдзе. Нож, а не чалавек. Баг-нет!

У гэты момант прачнуўся Пферц-Дабравольскі. Ён азірнуўся навокал і падмігнуў Каленбруну.

— А з гэтай патэтыкай, маёр, — сказаў ён, — у вас сапраўды не зусім удала выходзіць. Сухі наш век! Людзі — механізмы! Кхэ! Толькі на мяне вы часам наганяеце холаду яшчэ... І пры гэтым кажаце, што ў мяне душа захавалася ў цэласці. Па бакальчыку, маёр! За гонар і славу нашай зброі. Так? Хоць вы ў зброю таксама не верыце... Ну, як, маёр? Па бакальчыку?

Каленбрун сціснуў зубы. Таўсцяк выразна здзекваўся з яго.

— Мне трэба ехаць, — сказаў ён. — Неадкладныя справы. Я вымушан ехаць.

— Кхэ! — сказаў Пферц-Дабравольскі. — Аднак вы злуеце. Як вам будзе да спадобы. Усё-ткі трэба прызнаць, што вы мастак апрацоўваць людзей. Толькі тут крыху сарвалася. Вы-б яму гэткі канцэрт, як мне ў бары. А? Маёр!

Каленбрун устаў, падышоў да дзвярэй.

— Вы тоўстая свіння, Пферц-Дабравольскі, — сказаў ён хрыпла. — Тоўстая свіння ў маёрскіх наплечніках. Вось гэткія людзі заўсёды здольны загубіць самую вялікую нацыю! Я шкадую, што звязаўся з вамі! Свін-ня!

Дзверы зачыніліся за Каленбрунам.

— Свіння? — спытаў сам у сябе Пферц-Дабравольскі. — Што-ж! І свіння — істота. Тым больш... у маёрскіх наплечніках. Гм! Загубіць нацыю? Кхэ! Мне здаецца, маёр Каленбрун, што і вы мала здароўя дадалі гэтай нацыі! Свін-ня! Гм! Мы наконт гэтага яшчэ пагутарым! Гм!

Праз некалькі хвілін ў кабінет увайшоў кельнер. У крэсле ляжала распоўзлая туша, прыбраная ў ордэны і расшытая мішурою. Туша пахрыпвала і час-ад-часу ценька высвіствала носам.

Кельнер задам выціснуўся ў дзверы.

А сёмай гадзіне ўвечары другога дня ў кабінеце Пферц-Дабравольскага зазваніў тэлефон. Маёр панура паскроб асадкаю за вухам і ўзяў трубку.

Цэлы дзень балела галава з пахмелля.

Сухі і выразны голас сказаў:

— Заўтра ўвечары, а дзесятай гадзіне, мы прыступаем да выканання пункта нумар пяць. Зрабіце адпаведныя захады. Тады-ж будуць дадзены і адпаведныя інструкцыі. Бывайце здаровы.

У трубцы шчоўкнула. Адбой. Маёр кінуў трубку.

— Чорт гумалястыкавы! Пабіты гаршчок! У Напалеоны лезе, якую авантуру заварыў! І гаворыць, як аўтамат. Як гэта ён называецца, дарэчы, гэты амерыканскі аўтамат... Гм... Паляруш яго матары... Пся крэў... А дрэнь кан'як!

Маёр пакруціў галавою і нічога не ўспомніў. Узяў трубку і назваў нумар.

У мембране заварушыўся ценькі голас.

— Падрыхтуйце людзей заўтра ўвечары да дзесятай гадзіны, — сказаў маёр. — Каб у мяне было ўсё як належыць! Інакш вы не начальнік турмы! Што? Пферц-Дабравольскі, пся крэў! Вам незразумела? Ага? Зразумела! Так! Будуць дадатковыя інструкцыі! Усё!

Маёр паклаў трубку і зноў пачухаў асадкаю за вухам.

— Гліняны Напалеон, — казаў ён. — Шкло, гума, косці, два фунты мяса. Канцэнтрацыя сіл! Барацьба класаў! Тэорыю прыдумаў! Генеральскія наплечнікі ў сне бачыць! Дэкламацыю разводзіць. Старая падла! Цьфу!

Ён пасунуў да сябе папку і пачаў перакідваць паперы. Потым кінуў і гэта. Падумаў і сказаў напоўголаса сам сабе:

— А ўсё-такі ў спрэчкі з ім ісці не варта. З'есць! Праглыне! Шчупак аднавокі! Тыгра! Душа ў яго тыгрыная, паляруш яго матары! Небяспечная гумавая камбінацыя. Кхэ! Не варта з ім заядацца, пся крэў!

Пферц-Дабравольскі ўздыхнуў і зноў пачаў перагортваць старонкі.

— Ты ўпэўнены, т-таварыш Гагай, што твой план не праваліцца? — спытаў Врон.

— Упэўнены, — адказаў Гагай.

Ён стаяў насупроць Врона — высокі, выпрастаны. Яго сухі твар быў спакойны. Вочы бліскалі рашуча і цвёрда.

— Упэўнены! У мяне двое надзейных людзей. Зараз я за іх магу паручыцца. Таварышы Крамарчык і Турчын будуць вызвалены. За гэта я ў поўнай меры адказваю.

— Толькі памятай, не трэба гарачыцца, Гагай, — сказаў таварыш Ян. — Ты гарачы. Гэта не зусім добра.

Размова адбывалася ў яго пакоіку. Врон сядзеў на крэсле і абціраў хустачкаю свой жоўты твар. Гагай хадзіў па пакоі. Таварыш Ян быў на сваім звычайным месцы, у куце блізка ля дзвярэй. Ён стаяў, як і заўсёды, заклаўшы рукі за спіну. У абодвух шкелках яго акуляраў адбівалася лямпа.

— Я не зраблю ніводнага лішняга руху, — сказаў Гагай. — Заўтра абодва будуць у гэтым пакоі.

Таварыш Врон нахіліў галаву.

— Д-добра. Мы д-даручаем табе гэтую справу.

Крамарчык размераным крокам хадзіў па камеры ўзад і ўперад. Падыходзіў вечар. Там недзе, за пераплётам турэмных крат, была глухая ціш. Каменныя, таўшчэразныя сцены старадаўняга турэмнага замка не прапускалі нават грымотных крыкаў пратэсту агульных камер у часы турэмных бунтаў. Яны не прапускалі ні стрэлаў, ні крыкаў, ні стогнаў. Заўсёды была чуткая, насцярожаная, нервовая і разам з тым тупая і глухая ціш, бо няма на свеце такой сілы зыку, каб перамагчы магутную тоўшчу трохсотгадовых гэтых сцен.

Там, на волі, за гэтымі сценамі цяпер надыходзіць вечар. Гэта вястун ночы, якая хутка прыдзе на горад і нахіліцца над ім, над яго вуліцамі. Палацы, тэатры, асабнякі багацеяў, цэнтральныя кварталы горада залпамі электрычнага святла будуць адганяць прэч лагодную вясеннюю ноч. Толькі на ўскраінах горада, у рабочых кварталах прадмесцяў, будзе гасцяваць яна, і будуць трывожна адпачываць змучаныя працаю і беспрацоўем людзі. Толькі там, на далёкіх, убогіх палях гэтай краіны, чакаюць ночы шэрыя хаціны гарапашных вёсак, бо яна прынясе ім кароткі адпачынак.

Для турмы ноч — гэта гадзіны напружанага чакання і несупыннай трывогі. Усім вядома: адчыняюцца вароты, і панурай жабай успаўзае на асфальт двара аўтамабіль з патушанымі фарамі. На двары да аўто вядуць маўклі-

вых людзей са звязанымі назад рукамі. Усім вядома: уночы шныраюць па калідорах банды наглядчыкаў са жмутамі ключоў у руках, і тады ў адзіночках разлягаюцца жудасныя крыкі і заглушаныя стогны. Усім гэта вядома, і напружана чакаюць людзі і прыслухоўваюцца да тупой казематнай цішы. Але нічога не ўчуць з-за тоўшчы турэмных сцен.

Падыходзіць ноч. Вечар, яе вястун, глядзіць з-за пераплёту крат. Крамарчык ходзіць узад і ўперад па камеры. Глуха стукаюць яго падкаваныя боты. Але толькі ён чуе свой крок. І ў сотнях камер, угары і ўнізе, таксама ходзяць, матаюцца з кута ў кут адзіночак зняволеныя людзі. І ім ніколі ніводнаму не ўчуць крокаў свайго таварыша.

Крамарчык падышоў да акна. Цямнела ўсё больш. У прасторы неба запальваліся першыя зоры.

— Два тыдні ўжо прайшло, — падумаў Крамарчык! — Няўжо я памыліўся? Чаму яны адцягваюць? Магчыма выкрылі ўсё? А магчыма тут усё, скрозь, без пачатку і канца правакацыя? А допыты? А пракурор? Злучэнне абставін? І я сеў ужо апошні раз?

Гэтулькі было пытанняў. І ніводнага з іх Крамарчык не мог вырашыць. Ён адышоў ад акна і зноў пачаў хадзіць па камеры. Цямнела ўсё больш. Лямпка пад стаяваннем, слабага святла якой чакаў Крамарчык, не запальвалася. Зоры ўжо ясна гарэлі за вузкім акном. І тады разлёгся слабы шолах. Гэта адмыкалі замок дзвярэй камеры Крамарчыка адтуль, з калідора. Дзверы адчыніліся з лёгкім скрыпам. Нехта ўвайшоў у камеру і зачыніў дзверы за сабою.

— Хто тут? — спытаў Крамарчык.

— Ціха! — азваўся стомлены голас. — Слухай, таварыш Крамарчык. Сёння цябе і Турчына пераводзяць у другую турму. Днямі адбудзецца суд. Сёння загадана адвесці вас у лазню. Яна знаходзіцца на двары і прымыкае фасадам да сцен агароджы турмы. Вас адвядуць у камеры для адзіночак. У лазні такія ёсць. Твая камера будзе побач з камерай Турчына. Не губляй тады часу. Пад паліцай ляжыць скрутак. Гэта цывільная вопратка. Бяры скрутак і адчыняй тым ключом, які я табе зараз дам, дзверы, што будуць направа. Гэта ў камеру Турчына. Там ёсць яшчэ адны дзверы. Яны адчыняюцца гэ-

тым-жа ключом. Трапіце ў калідор. У канцы яго — яшчэ адны дзверы. Вы здымеце з іх замок. Ён папсаваны. І вы будзеце на волі, за турэмнай сцяной, нават за горадам. Усе дзверы за сабою замыкайце. Дайшоўшы да ручаіны, хутка пераапранайцеся. Вопратку — у ваду. Туды-ж і ключ. Ідзіце правым берагам ручаіны ўвесь час, пакуль не дасягнеце невялікага моста. Два кароткія свісткі. Там вас чакае таварыш, які адвядзе вас у патрэбнае месца. Усё зразумела?

— Усё.

— Дзейнічаць хутка і асцярожна. Трымай ключ. Вобыску перад лазняй не будзе.

Чалавек падышоў да Крамарчыка. Упóцемках перадаў ключ.

— Хто ты? — спытаў Крамарчык.

— Можаш быць спакойным, таварыш Крамарчык! Дзейнічай смела. Бывай здаровы, таварыш Крамарчык!

Дзверы зачыніліся. Цераз некалькі хвілін пад столлю ўспыхнула лямпка. На далоні Крамарчыка ляжаў ключ.

— Аднак прыдумалі. Геніяльна! Нельга адмовіць у вынаходлівасці. — Крамарчык паклаў ключ у кішэню. Зноў пачаў хадзіць па камеры. Цяпер ён атрымаў адказ на ўсе запытанні, што ўзнікалі тут, на працягу гэтых двух тыдняў. Сержант Дроб сказаў праўду партыі. Гэта быў сапраўды шчыры і адданы чалавек.

У памяці Крамарчыка паўстаў малады твар, сур'ёзны, з цвёрдым поглядам шэрых вачэй. Смелы, адважны твар.

Сержант Дроб стаў таварышам Дробам...

Крамарчык падышоў да акна. На недасягальнай вышыні трапяталі далёкія праменьчыкі зор. Ноч панавала ўжо над зямлёй. Стаяла глухая ціш.

Ад самага вечара ішоў дождж. Цяпер ён шумеў на даху, а тут, у пакоіку таварыша Яна, было цёпла, прыемна, пахла свежай смольнай драўнінай. Пад нагамі блыталіся ворахі стружак. Сам таварыш Ян стаяў каля стала і, углядаючыся ў распасцёртую на дошцы кальку, праціраў чырвонай хустачкай свае акуляры.

Турчын увайшоў першы. Ён зняў шапку, трос яе. Кроплі дажджу пасыпаліся на падлогу. Турчын радасна рассмяяўся. Яго пышны чуб рассыпаўся жмутамі светлых валасоў. Ён падышоў да таварыша Яна і моцна абняў яго.

— Здароў, стары, — сказаў Турчын. — Не думаў ужо цябе ўбачыць.

Таварыш Ян паклаў акуляры на стол.

— Не трэба, таварыш Турчын, — сказаў ён. — Яшчэ не ўсё скончылася.

Але сухі голас не сагнаў радасці з твару Турчына. Ён смяяўся, як толькі можа смяяцца маладое жыццё, якое ўнікла пагібелі. Адам Турчын смяяўся і сціскаў у абдымках сухія плечы таварыша Яна. У сенцах загрукалі крокі. На парозе з'явіўся Крамарчык. Ён агледзеў пакой і звычайным сваім жэстам абмацаў тое месца пінжака, дзе на старой брызентавай курткі быў гузік.

Таварыш Ян адвёў ад сябе рукі Турчына і пайшоў насустрач Крамарчыку.

— Марцін! — сказаў ён, — вось цябе дык я не думаў ужо больш бачыць жывога!

— Убачыліся-б мёртвыя, — адказаў Крамарчык.

— З гальштукам пяньковага колеру, — дадаў Турчын.

Усе засмяяліся. Таварыш Ян надзеў на нос свае акуляры. У гэты момант у пакой увайшоў Гагай. На яго ўсхваляваным твары таксама была ўсмешка. Ён падаў руку спачатку Крамарчыку, потым Турчыну.

— Добрага здароўя, хлопцы! — сказаў ён. — Дагэтуль у нас часу не было на прывітанні.

І тады на парозе з'явіўся Врон.

— Усё спакойна, — сказаў ён. — Н-ніякіх адзнак небяспекі. Але я крыху прамок на дажджы. П-прыемна адчуваць цяпло.

Ён падышоў да стала. Выцягнуў рукі і пагрэў далоні над абажурам лямпы. Потым павярнуўся да прысутных у пакоі.

— Няма часу нам на доўгія гутаркі, таварышы, — сказаў ён. — Няма часу рассядацца. Т-трэба, як найхутчэй.

І ён адышоў ад стала.

— Пасля п-паведамлення аб арышце таварышоў Крамарчыка і Турчына, — сказаў ён, — пасля гэтага п-паведамлення мы адразу паставілі пытанне наконт арганізацыі ўцёку. Бо тое, што абодвум таварышам пагражае смерць, не падлягала ніякім сумненням. К-камітэт даручыў мне кіраўніцтва справай уцёку. Т-таварыш Г-гагай падаў просты і ў той-жа час выключны па злучэнні спрыяльных абставін праект уцёку і ўзяў на сябе ўсю ініцыя-

тыву ў яго правядзенні. Таварышу Гагаю было даручана аднаму правесці гэтую работу, бо п-праект сам па с-сабе не патрабаваў д-дапамогі. Т-таварыш Гагай выканаў д-даручанае заданне. Т-таварышы Крамарчык і Турчын в-вольныя.

Таварыш Врон памаўчаў.

— Ад-д-нос-на таварышоў Крамарчыка і Турчына камітэт пастанавіў: з прычыны п-поўнай немагчымасці п-працаваць ім у падполлі—прапанаваць абодвум эміграваць у Совецкі Саюз. Г-гэта б-бацькаўшчына п-працоўных усяго свету... Г-гэта б-бацькаўшчына і на-надзея ўсіх прыгнечаных. Т-таварышы Крамарчык і Турчын, адданыя партыі падпольныя работнікі, будуць т-там... карысны... там, на рыштаваннях соцыялізма! Т-там... пад сцягам Ленінскага ЦК! Т-там...

Таварыш Врон змоўк і некалькі хвілін цяжка і перарывіста дыхаў.

— В-выбачайце мяне, т-таварышы... Я сябе дрэнна адчуваю. Я п-пачынаю хвалявацца... Н-нервы. Т-такія в-выпадкі — не-не частая ў нашай рабоце рэч.

— Т-таварыш Крамарчык, у гэтым пакеце ўсё, што патрэбна для вас.

Ён перадаў Крамарчыку пакет.

— Распячатаць сёння, раніцой, за г-горадам. Д-дазвольце ад імя раённага камітэта партыі в-вітаць вас, таварышы, з вызваленнем з турмы. Д-дазвольце выказаць н-надзею, што в-вы дасягнеце сваёй мэты ў п-падарожжы і д-доўгія гады с-сумленна і ад-д-дана будзеце п-працаваць н-на тых пастах, куды пашле вас партыя!

Таварыш Врон скончыў. Ён цяжка, з высіленнем дыхаў, і ў вачах яго жыў ліхаманкавы бляск. Ён паспешна абцёр твар хустачкай і падышоў да Крамарчыка.

— У д-дарогу, таварыш К-крамарчык!

Але яшчэ некалькі хвілін былі ў задуме людзі. У Турчына быў сур'ёзны твар. Ён аб нечым думаў, нешта абмяркоўваў, абкусваючы мундштук папяросы, не зводзіў вачэй з адной кропкі, з аднаго пункту, які быў вядомы толькі яго думкам. Крамарчык стаяў спакойна і проста, як і звычайна, спакойны. Гагай уважліва склейваў цыгарку з газетнай паперы, яна не склейвалася. Таварыш Ян зноў праціраў хустачкай свае акуляры.

У гэты момант першы гром страсянуў шыбы ў вокнах маленькага доміка.

— Н-няма часу, таварышы! — сказаў Врон.

Развітанне было хуткае. Крамарчык і Турчын прайшлі ў дзверы, іх крокі загрукалі ў сенях, потым скрыпнулі дзверы і ўсё сціхла. Двое пайшлі ў ноч, і шлях іх быў даўгім.

Трое засталіся ў пакоі.

— Таварыш Гагай, — сказаў Врон, — я ніколі не спадзяваўся ад цябе такіх здольнасцей. П-па сваіх заслугах ты п-павінен атрымаць ад партыі ўзнагароду. І т-ты яе атрымаеш. Н-нам з табою пара ісці.

Шалела стыхія. Дождж залівал зямлю. Цяжкія ўдары грымотаў калацілі ноч, і сінія зігзагі бліскавіц, прабіваючы тоўшчу хмар, імкнёна падалі ўніз. Бушаваў вецер. Ён кідаў каскады вады на пакорную, бездапаможную зямлю. Была першая бура гэтай вясны.

Гагай ішоў уперадзе. За ім — Врон. Яны брылі, абмацваючы сцежку, цераз гароды туды, дзе блішчэў у цемры і занураўся ў яе хвалях маленькі агеньчык.

— Гэта на праспекце, — нахіляючыся да Гагая, сказаў таварыш Врон, — каля трамвайнай пляцоўкі...

Вецер ірвануў і парваў на шмаццё голас. Да Гагая даляцеў абрывак:

— ... Тут бліжэй... дзвесце крокаў...

— Зараз дойдзем, — адказаў Гагай.

І тады здарылася незвычайнае. Высокая постаць Врона заступіла дарогу. І зараз-жа развінулася полымя перад вачыма Гагая, і страшны ўдар у галаву адкінуў яе назад. Гагай адступіў на крок, прысеў, хіснуўся, шырока развёў рукамі і праваліўся ў ноч.

— Т-ты н-не дойдзеш да ліхтара... Г-гагай! — сказаў таварыш Врон.

Але гэта ўжо не ўчуў Гагай...

Бушавала навальніца. Таварыш Ян, які чутка прыслухоўваўся да зыкаў, што брадзілі ў гэтай вар'яцкай ночы, учуў два кароткія, далёкія стрэлы.

— Гм! — сказаў таварыш Ян.

Ён слухаў яшчэ. Але стрэлаў больш не было. Аглушалі раскаты грымотаў, узразаючы бліскавіцамі грузныя чэравы хмар. Густая цемра прыціскала зямлю.

Цераз некалькі хвілін уперадзе вызначылася постаць. Нехта ішоў сцежкай, набліжаючыся да таго месца, дзе стаяў таварыш Ян. Чалавек, які набліжаўся, некалькі разоў стрымана кашлянуў.

— Ты? — спытаў таварыш Ян.
— Я, — адказаў чалавек.
Гэта быў таварыш Врон.
Яны пайшлі назад, у напрамку да дома. Абодва маўчалі. Не азваліся ніводным словам і гэтак моўчкі ўвайшлі ў дом. Тут па-старому надзвычайна спакойна свяціла лямпа. Таварыш Врон падышоў да яе і выцягнуў далоні над абажурам. Нібы не было за сцяной навальніцы, нібы не было бліскавіц і стрэлаў і гэтай скарэжанай постаці, што падае ў ноч.

Цяпло ад лямпы грэла далоні.
— П-прыемнае цяпло, — сказаў таварыш Врон. — Надзвычайна прыемнае цяпло. Я адчуваю, як сціхае ў мяне пад скурай бунт п-палачак Коха!
Таварыш Ян, як і заўсёды, стаяў у кутку каля дзвярэй. І, як і заўсёды, у яго акулярах адбівалася лямпа.
— Табе патрэбна курортнае лячэнне, Врон, — сказаў ён. — Трэба ехаць лячыцца.
Врон памаўчаў, потым усміхнуўся.
— Правільна. У Швейцарыю. Не гавары глупства, Ян!
Памаўчалі яшчэ. Врон з відавочным задавальненнем грэў над лямпай рукі. Потым таварыш Ян спытаў:
— Як у цябе там вышла?
І выразна паказаў галавой у бок пустэчы за домам.
— Там? — перапытаў Врон, — акуратна. С-сабаку — с-сабачая смерць.
Пастаяў хвіліну яшчэ і адышоў ад лямпы.
— Ну, дык мы разлучымся, таварыш Ян?
— Разлучымся. Толькі трэба паведаміць Дробу, у казарму. Каб ён ведаў.
— Д-добра. Ты паведамі Дробу. Здаецца, усё акуратна. П-прамазалі, панове! Я пайду, Ян. Бывай!
Ян паківаў галавою.
Врон зашпіліў паліто і прайшоў у дзверы.

Ішла канвойная рота. Твары салдат, падцягнутыя раменямі касак, як і заўсёды, былі непранікнёнымі.
— Р-раз — два! Р-раз — два!
І ў такт крокаў у адзін бок і ў другі хадзіла шчаціна багнетаў.
Ішла канвойная рота. І наперадзе яе ішоў капітан Свідр, прысадзісты, шырокаплечы, магутны чалавек з цяжкою сківіцаю і лютымі маленькімі вачыма, што глы-

бока сядзяць над бровамі. У капітана Свідра гладка выгалены твар і чорныя чарвячкі завітых вусоў.

Капітан Свідр ідзе наперадзе роты, і ўсе бачаць яго шырокую, абшытую пазументамі спіну. Яна з манументальнай зграбнасцю калышацца, пасуючы да шыкарнага марша капітанскіх кароткіх ног у лакіраваных батфортах. Капітан Свідр дырыжуе сваёй шырокаю спіною і крутым бабскім задам воляй і крокам двух з лішкам соцень людзей. Капітанская спіна ўвасабляе сабою дух дысцыпліны легіёнаў маршала.

Малодшыя афіцэры дакладна капіруюць позу і хаду капітана.

— Р-раз — два! Р-раз — два! — разлягаецца пануры крок двух з лішкам соцень людзей.

Насустрач роце па рэчышчы вуліцы плывуць патокі людзей і машын. З гары, куды ўзбіраецца гэтая шырокая вуліца, адзін за адным паўзуць чарадою трамваі. Шуміць вуліца, гудзе горад...

Дзве з лішкам сотні ўзброеных людзей абасоблена і пагрозна ідуць адным механічным крокам за масіўным чалавекам, што наперадзе іх. Над імі калыхаюцца шарэнгі багнетаў, сталь цьмяна паблісквае ў шэрым паветры вуліцы.

— Р-раз — два! Р-раз — два! — мерна грукаюць па асфальце дзве з паловай сотні падкованых ботаў.

На прыкрытым тэнтам балконе трэцяга паверха асабняка, што ільсніць шклом, махае хусткамі кампанія жанчын і мужчын у фраках. Капітан Свідр эфектна салютуе стэкам. Белая лайкавая пальчатка і гнуткі англійскі стэк узвышаюцца на ўзроўні злавеснага блеску багнетаў. Малодшыя афіцэры казыраюць.

І тады сержант Дроб, што ідзе з боку роты, чуе ціхія, важкія словы, якія падаюць у такт кроку роты.

— Шалёныя сукі ў белых спадніцах... Матузы ад афіцэрскіх парток... Пачакайце... Чакайце... не да хустачак будзе...

— Другая шарэнга, — кажа сержант Дроб, — нагу!

Высокі салдат кідае погляд у бок сержанта. Гэта Дамянік Сякера, з другога раздзела. Сержант непрыкметна дакорліва ківае яму галавой.

— Нагу! — сурова і перасцярожліва кажа сержант.

Дамянік Сякера разумее сержанта. Ён старанна адбівае крок. Рота ідзе далей.

І раптам на завароце вуліцы вылецеў, кашляючы дымам, матацыкл. Ён прабіў сумятню вуліцы, вылецеў на сярэдзіну яе і імчаў насустрач роце. За дзесяць крокаў з кабінкі выскачыў паліцэйскі афіцэр і падбег да капітана. Капітанскі стэк узняўся ўгору.

— Рота! Стой!

І рота стала. І праз момант зноў зычная каманда капітана Свідра пакрыла гул вуліцы. Уздрыгнулі шэрагі роты, падаліся ў бакі, развінуліся, і патройны ланцуг людзей папоўз да правага і левага тратуараў, жывым бар'ерам перагароджваючы вуліцу. Зараз-жа спыніліся трамваі. Аўто заварочвалі ў бакавыя вуліцы. З трамваяў выскаквалі і беглі людзі. На тратуарах пачалася паніка. Людзі кідаліся ў вароты дамоў, пералазілі цераз чыгунную агароджу маленькага сквера, таўпіліся беспарадна, не ведаючы куды бегчы, на тратуарах, лезлі напралом у магазіны і пад'езды. Вуліца зашумела, загаласіла, іржава зарыпела жалезнымі павекамі вітрын, забегала, спалоханая тым, што павінна было адбыцца на гэтым гладкім асфальце, на якім маўкліва і нерухома стаяў ланцуг узброеных людзей.

І праз некалькі хвілін стала пуста і ціха на вуліцы. Нібы віхор здзьмухнуў і сагнаў некуды з асфальтаванага яе рэчышча спалоханыя камкі чалавечых цел.

Але вуліца слухала, вуліца бачыла. Дзесяткі соцень чалавечых вачэй спалохана ўглядаліся з вокнаў кватэр, магазінаў, кантор. Чуйныя вушы вуліцы слухалі.

І вуліца ўчула.

Коціцца гул галасоў, грае музыка. Урачыстая мелодыя грыміць у паветры, нарастае з кожнай хвілінай, набліжаецца з кожным момантам.

І вуліца ўбачыла:

З-за павароту выпаўзае галава шчыльнай калоны. Яе асланяюць чырвоныя сцягі. Бакавая вуліца вылівае на шырокі асфальт новыя дзесяткі і новыя сотні чалавечых цел, што зліты ў адзін баявы арганізм калоны дэманстрацыі. Бліскае медзь аркестраў. Побач з калонай бягуць гурткі людзей у мундзірах.

Ім не стрымаць руху калоны.

Глуха грымяць барабаны...

І вуліца банкаў, якія яшчэ засталіся жывыя, вуліца дзяржаўных і прыватных устаноў, вуліца раскошных магазінаў, кабарэ, дамоў сустрэч, вуліца аднаго з ажыўлё-

ных цэнтральных кварталаў гэтага старога горада застыгла ў страсе, зацiснула вушы, заплюшчыла вочы, утулiла ў плечы сваё шматгалоўе.

А музыка грымела ў вушах, узнiмаўся гул галасоў, грукаталi барабаны. Гэта быў баявы спеў, гэта была сiмфонiя паўстання, мелодыя, iмя якой «Iнтэрнацыянал», гiмн, страшней якога на свеце не было для гэтай вулiцы.

Наглуха зачынiлiся жалюзi, парт'еры, заслоны. На ўсе замкi былi замкнуты дзверы. Знобкi жуд ахапiў вулiцу, i яна застыгла ў адрантвеннi.

Рота перагароджвала вулiцу. Да яе наблiжалася галава калоны. Трапяталi чырвоныя сцягi, калыхалiся над калонай, павявалi крыллямi сваiмi.

Капiтан Свiдр узняў стэк.

Шэрагi роты ледзь прыкметна варухнулiся i застыглi.

Калона пасунулася яшчэ i стала за некалькi крокаў ад шарэнгi салдат. Ад яе адлучылiся некалькi чалавек, i яны накiравалiся да капiтана. Капiтан Свiдр стаяў, заклаўшы рукi назад, шырока расставiўшы ногi, пабычынаму нахiлiўшы галаву. Ён чакаў iх. Ззаду яго ў гэтых-жа позах стаялi афiцэры.

Капiтан не дапусцiў да сябе дэлегатаў. Ён зноў узняў стэк.

— Стаяць!

I дэлегаты спынiлiся.

— Куды вы накiроўваецеся? — спытаў капiтан.

— Мы дэманструем напярэдаднi Першага мая.

— Хто кiруе дэманстрацыяй?

— Гэта вас не датычыцца! — адказаў адзiн з дэлегатаў.

Салдаты бачылi, як чырванее павольна, налiваецца крывёй патылiца капiтана.

— Дэманстрацыi забаронены, лайдацтва! — крыкнуў капiтан. — Адказваць афiцэру як належыць!

— Свiнячая морда! — крыкнуў нехта з гушчы дэманстрантаў.

— Сам лайдак!

— Кныр паскарскi!

— Ганi яго з дарогi!

Калона пагражальна заварушылася. Ззаду напiралi. Калона ўжо толькi ўперадзе захоўвала строй. З бакавой вулiцы, адцiскаючы палiцэйскiх, абмiнаючы калону i ўносячы бязладдзе, рухалiся шчыльныя масы людзей.

Заднія шэрагі змяшаліся. Дэманстранты запаўнялі тратуары, запаўнялі вуліцу. Нарастаў пагрозны гул натоўпу.

— Апошні раз прапаную разыйсціся! — крыкнуў капітан.

Гоман заглушыў яго крык. Калона пасунулася ўперад. Капітан азірнуўся і ўбачыў, як на тратуарах замільгалі ў паветры дубінкі паліцыянтаў, палкі і кулакі. З дзесятак людзей у мундзірах адступалі левым тратуарам, абараняючыся дубінкамі. На правым тратуары паліцыянты беглі прэч і цягнулі за сабою тупаносы кулямёт.

— Рота! — крыкнуў капітан, — на руку!

Ён, не адварочваючыся ад дэманстрантаў, бокам пачаў рухацца да правага фланга роты. У першых шэрагах дэманстрацыі адбыўся трывожны рух. Людзі сачылі за тым, як у калідоры паміж фронтам дэманстрантаў і фронтам салдат крадзецца нізкі, шырокі, узброены чалавек, а за ім паслухмяны гурток людзей у мундзірах — малодшыя афіцэры.

Капітан, нарэшце, дабраўся да правага тратуара. Гэтак-жа, не адварочваючыся да салдат, ён узняў свой стэк:

— Па наступаючаму натоўпу! Ро-та...

І раптам нехта пацягнуў яго за рукаў.

— Па наступаючаму натоўпу... — працягваў капітан.

— Пане капітан... Пане капітан...

Капітан азірнуўся. Збялелы паручнік цягнуў яго за рукаў з усё большай настойлівасцю.

— Рота не падпарадкуецца, пане капітан!

— Плі! — гаўкнуў капітан, і гнуткі стэк разрэзаў са свістам паветра.

І стала нечакана ціха. Залпу не было. Крыкаў не было. Над шумнай дагэтуль вуліцай павісла незвычайная ціш.

— Пане капітан...

Капітан азірнуўся, нарэшце, і ўбачыў...

Рота стаяла, трымаючы стрэльбы пры назе. Стройнага фронта не было. Месцамі ў шарэнзе былі прарывы. Цераз іх далёка было відаць у пустой вуліцы. Салдаты збіліся ў гурткі, і ў самым цэнтры вуліцы быў асабліва вялікі гурток. Там збіўся ў шчыльную групу амаль увесь другі раздзел роты; і адтуль была парушана трывожная ціш, якая павісла над вуліцай. Выступіў уперад даўгі салдат другога раздзела Дамянік Сякера і зычна крыкнуў на ўсю вуліцу:

— Ад імя канвойнай роты! Мы не страляем у першамайскую дэманстрацыю рабочых! Рота дае дарогу дэманстрацыі!

Толькі тады прышоў у сябе капітан Свідр. Ён хутка расшпіліў кабуру і ўзняў рэвальвер. Але ў гэты час яго руку схапіў Нехта і сціснуў з вялікай сілай.

— Сержант! — загарлаў капітан. — Сержант Дроб! Загадваю пусціць маю руку! Пусціце! Панове афіцэры!..

Ужо было позна. Дэманстрацыя рушыла наперад. Капітан убачыў, як рассыпаўся фронт, і рота змяшалася з дэманстрантамі. Капітана падхапіла хваля і панесла ўперад. Нехта схапіў за плячо. Затрашчала сукно. Сарвалі наплечнік. Моцна штурхнулі ў патыліцу...

Нарэшце, капітана выштурхнулі на тратуар, і ён быў прыціснуты да сцяны паводкаю людзей, што заліла вуліцу. Апошнім уражаннем яго было: салдат ягонай роты з карабінам на плячы, трымаючы яго прыкладам угору, ішоў пад руку з нейкім старым рабочым.

Капітан утуліўся ў прасценак. Паўз яго, да ўскраёў, запаўняючы вуліцу, рухалася дэманстрацыя. Калыхаліся, плылі над галовамі чырвоныя сцягі, набягалі адтуль, спераду, радасныя гукі аркестра, выразную выбіванку рассыпалі барабаны. Грымелі спевы. Крычалі плакаты выразнымі літарамі па чырвоным тле:

«Хлеба і работы!»

«Першамайскае прывітанне гераічнаму пролетарыяту СССР!»

«Няхай жыве Комуністычны Інтэрнацыянал!»

Капітан непрытомна чытаў словы, што неслі на сабе транспаранты. Дэманстранты праходзілі доўга.

І раптам — вуліца стала пустая.

Капітан са здзіўленнем азірнуўся. У канец вуліцы аддаліліся апошнія групы дэманстрантаў. Следам за імі прайшоў значны атрад паліцыі. Капітану здалося, што паліцэйскі афіцэр з падкрэсленым спачуваннем усміхнуўся да яго.

У скверы насупроць і ў пад'ездах дамоў варушыліся нясмелыя групкі людзей.

Капітан стаяў. Ён быў без шапкі, у падраным мундзіры. Адзін наплечнік матляўся на рукаве на некалькіх нітках, другога не было зусім. У руках капітан трымаў непатрэбны цяпер рэвальвер і тупа аглядаў аглушаную вуліцу з

зачыненымі наглуха вітрынамі магазінаў і дзвярыма пад'ездаў і двароў.

— Дзе рота? — паўстала раптам пытанне. І гэтая думка сціснула горла, як пятля.

Сапраўды, дзе падзеліся дзве з паловаю сотні ўзброеных людзей дысцыплінаванай канвойнай роты, што яшчэ нядаўна пад яго камандай ішла жалезным, непераможным крокам? Ён прывёў сюды канвойную роту, маючы надзвычайна выразныя, яскравыя, дакладныя інструкцыі наконт разгону дэманстрацыі. Дзе рота? Дзе салдаты? Дзе афіцэры? Дзе малодшы камандны склад?

Іх няма. Капітан Свідр згубіў роту, якой камандаваў. І не на вайне згубіў, не ў бойцы, а тут, у цэнтры горада, на адной з самых ажыўленых вуліц. Рота змецена бязбройнай дэманстрацыяй. Салдаты бравай роты капітана Свідра далучыліся да дэманстрацыі. Афіцэры роты знесены чалавечаю паводкаю, і, магчыма, іх ужо няма ў жывых. Ці гэта не анекдот? Каго ён прывядзе ў казармы?

Салдат няма. Яны дэманструюць. Афіцэраў няма. Яны, магчыма, растаптаны дэманстрацыяй, там, унізе вуліцы, куды накіравалася дэманстрацыя. Капітан Свідр сам цудам застаўся жывы. І ён зараз павінен прыйсці ў казарму адзін, без шапкі, у падраным мундзіры, з адарванымі наплечнікамі, са збітым тварам, і далажыць камандаванню, што замест разгону дэманстрацыі адбылося братанне салдат з рабочымі.

... І замест атрымання ўзнагароды — пайсці пад суд. Яго разжалуюць. Здымуць наплечнікі з шырокіх плячэй капітана Свідра. Афіцэры зняважліва будуць глядзець на яго, і ніводзін не падасць рукі. У салонах будуць з абурэннем апавядаць аб капітане, які згубіў сваю роту цалкам і поўнасцю пасярод горада, на адной з яго галоўных вуліц.

Закруцілася галава. Капітан Свідр сціснуў зубы, заплюшчыў вочы і, прыткнуўшы дула рэвальвера да вуха, націснуў на спускавы кручок.

У цішы яшчэ насцярожанай вуліцы суха трэснуў стрэл.

Двое ішлі па лесе адзін за адным.

Крок іх быў павольны і асцярожны. Яны зануралісь ў гушчар маладняка, знікалі пад сховамі чорных прысадзістых хвой, прабіраліся цераз вязкія палянкі лясных балотцаў, і ўсё ішлі, ішлі, спатыкаючыся, абмацваючы

ў пацёмках кусты і пні. Ціха было ў лесе. Цёплая маёвая ноч, якая пахла свежымі сокамі дрэў, састойвалася ў гушчары шэрай імглой. І ўсё расплывалася ў гэтай імгле, было невыразным, і нельга было згадаць, ці чалавек стаіць пад чорнай раскідзістай хвояй на паляне, ці гэта абсмалены пень.

Той, што ішоў ззаду, ціха сказаў першаму:

— Тут недзе звініць ручэй, Марцін. Трэба напіцца. Я ўжо не магу ісці...

Яны завярнулі налева пад узгорак. Тут, на спадзе раўчука, густа расла чарэмшына. Яе дурманлівы пах запоўніў вузкую лясную лагчыну. Недзе ў чорнай глыбі, там, на дне раўчука, на чарэмшынавай эстрадзе, спрабаваў голас салавей... Ён учуў, як трашчыць галлё пад цяжкімі крокамі людзей, і насцярожана змоўк. Заплёскала вада. Потым стала ціха. Нарэшце, адзін з людзей шумна і аблегчана ўздыхнуў. Шэры камок сарваўся з галінкі і нырнуў у гушчар.

— Птушанёнак, — сказаў чалавек. — Ледзь мне ў рот не папаўся.

Турчын ціхенька засмяяўся.

— Гэта яшчэ нічога, — сказаў Крамарчык. — Вось як ты кулю сёння ротам ледзь не злавіў... Чэрці неслі цябе ў мястэчка!

— Не магу-ж я вандраваць два тыдні з пустым жыватом!

— Па-мойму, лепш вандраваць з пустым жыватом, чымся ляжаць на зямлі, маючы ў гэтым самым жываце кулю.

— Каб мы паехалі чыгункаю, дык не было-б ні пустога жывата, ні пагрозы кулі.

— Сказаў! Было-б горш. Нас-бы знялі на трэцяй станцыі пасля пасадкі. Не ведаю, наколькі гэта лепш. І так яшчэ невядома, чым скончыцца сённешняе паляванне за намі з прычыны таго, што табе напрыкрыла вандраваць з пустым жыватом. У цябе панскія замашкі, Турчын! Ты не мяркуешся з абставінамі. Ты захацеў есці — значыць, кропка. Значыць, ёсць падстава лезці на ражон праз хлебную скарынку, з'явіцца ў мястэчка, дзе поўна паліцыі, і пад пагрозай таго, што атрымаеш кулю і таварыша пад кулю падвядзеш, напхаць сваё пуза. Гэта не сур'ёзна, па меншай меры. Аднак, трэба ісці.

Пад нагой Крамарчыка хруснула галінка.

— Слухай, Марцін, — сказаў Турчын. — Не злуй. Я стаміўся. Давай адпачнем, набярэмся сіл. Усёроўна нам засталося ісці два дні. Дваццаць хвілін адпачынку можна сабе дазволіць. Хутар палясоўшчыка мы ўжо абмінулі. Досвіткі пачынаюцца а трэцяй гадзіне. Дваццаць хвілін можна адпачыць.

Крамарчык момант стаяў у ваганні. Ён сам адчуваў сябе надзвычайна стомленым. Потым рашыў:

— Добра. Дваццаць хвілін.

Крамарчык прысеў побач з Турчыным. Абодва некалькі хвілін маўчалі. Прыслухоўваліся. Было ціха. Высокія дрэвы цясніліся над раўчаком. Угары, паміж верхавін дрэў, падраным ашмоткам паблісквала шэрае неба. Густы змрок заліваў лагчыну. Журчаў ручай пад чарэмшынавымі кустамі.

— Чортава глухамень, — сказаў Турчын, — занесла нас з табой... Накрый мне галаву пінжаком, я запалю папяросу.

Задрыжэў маленькі агеньчык і загас, уціснуты ў зямлю. Крамарчык, закрываючы папяросу далоньмі, прыкурыў ад папяросы Турчына. Некалькі хвілін абодва сядзелі моўчкі. Потым Турчын, нахіляючыся да Крамарчыка, сказаў:

— Там, вёрст за некалькі сот адгэтуль, засталася мая старая маці. У яе няма ніякіх сродкаў да існавання. У апошнім лісце, які я атрымаў перад арыштам, яна паведамляла мяне аб тым, што ходзіць з торбаю па рабочым пасёлку, і ніхто ёй не падае ніводнага граша. Нават, ні кавалка хлеба. Не таму не падаюць, што не хочуць, а таму, што не маюць чаго падаваць. Гэты ліст прышоў якраз тады, калі ў мяне самога ў кішэні, акрамя гузіка ад штаноў, нічога не было. Калі я прадаў свае манаткі, унікаючы арышту, дык адлучыў некалькі грошай для маці. Але тут нас з табой прыціснулі. І старая засталася адна, без усялякай дапамогі. Засталася паміраць з голаду.

Турчын памаўчаў.

— Памрэ маці, і справа застанецца толькі за мною. Дзед мой загінуў ад абвалу ў шахце. Бацьку там-жа атруцілі газы. Адзін брат, старэйшы, памёр у нас ад сухотаў. Другога павесілі за дызертырства ў імперыялістычную вайну на румынскім фронце. Прышоў канверт з крыжыкам. Як бачыш — выміранне роду.

Турчын падаў Крамарчыку яшчэ адну папяросу.

— Усё мае свае прычыны. І ў дадзеным выпадку тое, што я ўспомніў аб сваёй сям'і, выклікана ведаеш чым? Пахам чарэмшыны. Я зараз табе раскажу цяжкую гісторыю. Ад тых часоў я не магу цярпець, калі смуродзіць гэтая кветка. Ад самага таго дня, як памёр мой брат. Да тых часоў я ставіўся да гэтага зелля абыякава. І было мне тады сем гадоў.

Турчын уздыхнуў.

— Было мне сем гадоў, а брату, што хварэў на сухоты, семнаццаць. Той брат, якога павесілі, жыў у горадзе. Мы існавалі тым, што маці, тады ўжо хворая на рэўматызм, працавала ў пральні. Праўдзівей, я жыў... А брат паміраў ужо. Ён ляжаў каля адчыненага акна нашай хаціны. Гэта было ўвесну. Насупроць акна, пад якім ляжаў брат, квітнела чарэмшына ў жывой агароджы саду нейкага чыноўніка. Чарэмшына ў тую вясну была пышная, пахучая. Хворы яе надзвычайна любіў і казаў, што яму лягчэй дыхаць ад яе паху. І я падкрадаўся да кустоў чарэмшыны, ламаў яе і прыносіў брату цэлыя букеты. Ён абнімаў жмуты чарэмшыны, прыціскаў яе да грудзей, удыхаў яе пах, апошнімі сіламі чапляючыся за жыццё. Чарэмшына абсыпалася, і я прыносіў усё новыя і новыя жмуты гэтага дурнап'яннага зелля. Брат з адчаем змагаўся са смерцю, з упартасцю семнаццацігадовага жыцця не хацеў паміраць, а я з няменшаю ўпартасцю лічыў, што вылечу брата чарэмшынай.

Турчын памаўчаў, зацягнуўся дымам папяросы і кінуў недакурак.

— І вось... калі я аднойчы раніцою ламаў чарэмшыну, за маімі плячыма разлёгся гучны стрэл. Я прыбег дадому з цалюткім зарадам дробнай солі за скураю. Гэта стрэліў гімназіст, сын чыноўніка.

Турчын змоўк і прыслухаўся. Навакол было ціха. Толькі журчаў ручай, і зноў свой голас спрабаваў салавей.

— Ты ведаеш, што гэта азначае соль за скурай? — працягваў Турчын. — На другі дзень, калі з нашай хаціны выносілі труну з братнім целам, я бег за ёю і крычаў, як вар'ят. Людзі, якія праводзілі брата на могілкі, плакалі, гледзячы на гора маё. А я сам не мог добра ўцяміць, што больш мяне дапякае... соль за скурай ці ўтрата.

Турчын падумаў хвіліну.

— ...І ад той пары я не выношу паху гэтай дурманнай кветкі.

— Цяжкая гісторыя, — сказаў Крамарчык. — Але, паміж іншым, нам трэба рухацца. Дваццаць хвілін прайшло.

— Зараз, — адказаў Турчын. — Яшчэ адну хвілінку. Я дакончу сваю думку. Усе загінулі з нашай сям'і. Застаўся адзін я. І калі мне давядзецца гінуць, дык я памру інакш. Людзям маёй сям'і было страшна паміраць. І дзеду пад пластамі вугалю, і бацьку ў хвалях газаў, і старэйшаму брату ў пятлі, і сярэдняму ад таго, што згнілі лёгкія, і, нарэшце, маці ад голаду. Бо жыццё было цяжкое і нікчэмнае, і смерць прышла непатрэбная, смерць знянацку, сабачая смерць нявольніка. Але, калі мне давядзецца паміраць, я памру інакш. Я застануся спакойны, бо тая справа, якая была справай майго жыцця, застанецца жыць. Значыць, мая смерць не азначае пагібелі маёй справы, а гэта і ёсць самае галоўнае. І я сустрэну смерць спакойна, як знаёмую дзяўчыну на заводскім двары.

— Не зусім выразна, — сказаў Крамарчык. — Неяк па-кніжнаму ў цябе выходзіць, Турчын. Рамантыкі шмат. У цябе гарачая галава, Турчын. Табе трэба ад гэтага адкаснуцца. Як мага менш рамантыкі. Аднак, мы павінны ісці.

Абодва ўсталі. Крамарчык пайшоў першы, за ім Турчын. Пад іх асцярожнымі крокамі ціха пахруствае хворост. Яны зноў вышлі на паляну, дзе стаяла высокая хвоя і каля яе — абсмалены пень. Тут было больш святла.

— Трэба глянуць на компас, — сказаў Крамарчык.

— Бліснуў ліхтарык.

Магнітная стрэлка дрыжэла на картушцы компаса.

— Туды, — выцягнуў руку Крамарчык. — На ўсход. Проста на тое ўзвышша!

Над суцэльнай, несканчонай грывай лясоў выпінаўся на шэра-малочным тле неба чорны, пануры хрыбет. Гэта на ўзгор'ях рос высокі, гонкі сасняк.

Ліхтарык загас.

Пад сховамі хвой паслаўся ціхі шолах крокаў...

...Дроб ведае гэтага таўстога чалавека, што сядзіць за сталом. Гэта Пферц-Дабравольскі. Ён таксама ведае маленькага афіцэрыка з худым тварам, што сядзіць побач з маёрам.

Афіцэр увесь час дыміць папяросай і не спушчае вачэй з Дроба.

Як-бы ўгадваючы думку Дроба, таўсцяк, перагортваючы старонкі яго справы, гаворыць:

— А вы ўжо знаёмы нам, Дроб. Ого-го-о!

Вочы таўсцяка заплываюць ружовым тлушчам.

Ён усміхаецца з ветлівасцю гасціннага гаспадара.

— У тым, што я вам знаёмы, — кажа Дроб, — я не сумняваўся. Я, напрыклад, ведаю гэтага афіцэра.

Афіцэрык уздрыгвае. Папяроса падае з яго пальцаў. Ён чырванее, лыпае вачыма і разгублена глядзіць на маёра.

— Дзе вы пазнаёміліся? — недаверліва пытае маёр.

— У кабінеце каменданта, — адказвае Дроб. — Пан афіцэр мяне фатаграфаваў з-за шырмы. І пры гэтым так няўмела сябе трымаў, што...

Маёр кідае красамоўны погляд на афіцэра. Той нахіляецца і паднімае з паркета недакурак. Кладзе яго ў вузкую вазачку на стале.

— Вы можаце ісці, ад'ютант, — суха кажа маёр,— калі будзе патрэбна, я пазваню.

Афіцэр зрываецца з месца і лёгкай хадой ідзе да дзвярэй. Дроб і маёр застаюцца ў кабінеце з вока на вока.

Маёр ставіць локці на бераг стала і апіраецца шырокім падбародкам на сашчэпленыя далоні. Яго алавяныя вочкі, утопленыя ў пухліне шчок, глядзяць на Дроба. Цяпер у вачах маёра, як у вачах тапельца, пуставатая, сівая каламута. Дроб аглядае круглы, азызлы твар з гладка выгаленай скурай, праз якую прасвечваюць спляценні сінявата-чырвоных, ценькіх жылак.

Некалькі хвілін у кабінеце ціха зусім. Нават чуе Дроб, як стракоча гадзіннік-бранзалетка на руцэ маёра.

— Станіслаў Дроб, — кажа, нарэшце, маёр. — Вам прад'яўляецца абвінавачванне ў прыналежнасці да камуністычнай арганізацыі і, такім чынам, у антыдзяржаўнай дзейнасці. Будучы камуністам, вы выкарыстоўвалі чын сержанта легіёнаў у мэтах разлажэння шэрагаў арміі.

— Так, — спакойна кажа Дроб.

— Канвойная рота, у якой вы былі сержантам, разложана выключна вашай дзейнасцю.

Хвіліну маёр маўчыць.

— Станіслаў Дроб! — зноў пачынае густы маёрскі бас. — Вы разлажылі канвойную роту. Рота далучылася

да дэманстрантаў. Камандзір роты, вечнай памяці, капітан Свідр пакончыў з жыццём, не ў сілах будучы знесці ганьбы!

— Я не адказваю за паводзіны капітана Свідра.

— Але вы адказваеце за свае паводзіны! — павышае голас маёр. — Вы павінны адказаць за здраду сваёй краіне! Вы зрабілі злачынства, Станіслаў Дроб! Здраду! Чаму вы не чырванееце перада мною, Станіслаў Дроб?

У шэрых вачах сяржанта — смех.

— Я — абсалютна чырвоны, маёр Пферц-Дабравольскі!

— Маўчаць! — гаўкае маёр і адвальваецца на спінку крэсла. Ён вырачанымі вачыма глядзіць проста ў твар Дроба, і каламутная нянавісць калышацца ў светлых, выпітых маленькіх вочках, раз'ятраных вочках вяпра.

Сяржант маўчыць. У яго вачах — стлумлены смех. І пад здзеклівым паглядам гэтых шэрых воч маёр набірае прытомнасць. Ён зноў нахіляецца над сталом, зноў ставіць локці і апіраецца падбародкам на рукі. Зноў нерухомы і пусты жабін погляд пустых вачэй упіраецца ў твар Дроба.

— Станіслаў Дроб! — хрыпла кажа маёр, — не прабуйце строіць насмешак. Зубаскальства не ратуе вас. Я працягваю. Канвойная рота далучылася да дэманстрантаў. Да канвойнай роты далучыўся батальён стралкоў.

— Я не адказваю за батальён стралкоў.

— Маўчаць! Вы адказваеце за разлажэнне канвойнай роты, за дэманстрацыю яе з прыкладамі ўгору па горадзе, за сумную смерць вашага камандзіра, за ўсе падзеі таго дня, уключаючы і тое, што батальён стралкоў дэманстраваў разам з вамі. Яму паказала прыклад канвойная рота. А канвойную роту разлажылі вы!.. і ваша група. Акрамя таго, вы адказваеце за тое, што вы комуніст! Вы адказваеце за тое, што ў Белым парку адбыўся мітынг беспрацоўных, на якім выступалі вы і салдаты канвойнай роты. Вашым злачынствам няма канца, Станіслаў Дроб!

Маёр нахіляецца цераз стол і хрыплым шэптам пытае:

— Вы ведаеце, што чакае вас, Станіслаў Дроб?

Дроб ківае галавою. Твар яго зусім спакойны.

Пферц-Дабравольскі адкідваецца ў глыб крэсла. На яго твары нечакана з'яўляецца ўсмешка.

— Вы цвёрды, самастойны чалавек, Дроб! Толькі гэта набліжае вас да чалавечага падабенства.

— Вельмі прыемна слухаць.

Твар таўсцяка робіцца смутным, наколькі можа. Ён апушчае вочы і аглядае пазногці, ружовыя, старанна зачышчаныя. У маёра дрыжаць прыпухлыя павекі.

— Мне, як старому чалавеку, шкода, што павінна гінуць такая цвёрдая, такая адважная моладзь. Вы заблыталіся, малады чалавек Дроб!

Дроб уздыхае.

— Мы можам аблегчыць ваш лёс. Такія цвёрдыя людзі патрэбны краіне. Вы можаце загладзіць свае грахі перад алтаром айчызны.

Пферц-Дабравольскі нахіляецца над сталом зноў. Сумная ўсмешка непрыстасавана блытаецца па яго ружовым твары.

— Некалькі адказаў на запытанні, Станіслаў Дроб. Хто быў ваш бацька?

— Гэта я паведамляў вам, так сказаць, неафіцыйна. У прысутнасці вашага ад'ютанта, праўда, таксама неафіцыйна, мяне дапрашваў камендант. Я думаў, вам гэта вядома. Аднак — з ахвотай. Мой бацька быў рабочы.

— Ён жыве?

— Ён памёр. Яго расстралялі вашы дастойныя папярэднікі, царскія жандармы.

Маёр чырванее, але намаганнем волі стрымлівае сябе.

— Вельмі добра. Выбачайце, я хацеў сказаць — вельмі шкода.

— Гэта ўсёроўна.

— Як вам будзе да спадобы. Ксёндз, у якога вы гадаваліся, быў вашым сваяком?

— Ён не быў маім сваяком. Я ў яго батрачыў.

— А потым?

— А потым я пайшоў у горад. Працаваў на заводах. Вучыўся.

— Дзе?

— У каморцы, якую займаў. Калі мне споўнілася дваццаць год, я экстэрнам атрымаў годнасць тэхніка. Потым мяне ўзялі ў армію.

— Вы скончылі школу і атрымалі чын сержанта?

— Так.

— Вы рыхтаваліся быць афіцэрам?

— Цяжка сказаць. Хутчэй за ўсё я застаўся ў казарме ад страху перад беспрацоўем. Я добра ведаю, што гэта азначае.

— Мы падыходзім да галоўнага. У вас былі ў той час інакшыя палітычныя погляды?

— Наўрад ці можна гэта было назваць поглядамі. Гэта былі абывательскія мары аб інжынерскім значку і інжынерскім заробку і ўсім, што знаходзіцца ў сувязі з інжынерскаю годнасцю. Гэтыя мары — хвароба нашай галоднай тэхнічнай моладзі, той моладзі, безумоўна, якая не мае ў кішэні чэкавай кніжкі.

— Вы хочаце папяросу, пане Дроб?

— З задавальненнем.

Маёр падае пачак папярос і запалкі. Дроб бачыць, як ажываюць дагэтуль мёртвыя вочкі маёра. Ён запальвае папяросу.

— Чаму вы змянілі вашыя погляды?

— Гэта мізэрная, недастойная чалавека рэч.

— Яшчэ адно пытанне. Я ўжо бачу шляхі вашага ратунку. Вы бедны, заблуканы чалавек. Я ўжо бачу перад сваімі вачыма таленавітага інжынера Дроба. Дадамо — вайсковага інжынера! Паўтараю, вы ратуецеся. Мы ўмеем адрозніць памылку ад абдуманага злачынства. Адно пытанне, — хто менавіта з людзей, асоб, падштурхнуў ваша мышленне ў адваротны бок?

Вочкі маёра ільсліва заглядаюць у твар Дроба. Дроб закідвае галаву і выдыхае пахучы дым папяросы.

— Пашукайце дурняў у другім вагоне, маёр. Я больш не адкажу вам ні на адно пытанне.

І бачыць, як паступова спаўзае ўсмешка з адрузлых маёрскіх шчок. У маёра густа чырванее твар, і акругляюцца па-жабінаму, вылазячы на лоб, гнойныя, маленькія вочкі.

— Ш-ш-то-о-о-о?! — задыхаецца маёр. Ён прыўстае з-за стала.

— Больш ні слова па вашых пытаннях! — рэзка адказвае Дроб і кідае недакурак на ільсняны паркет.

— Ш-ш-шыбеніца! — шыпіць маёр хрыпла. — Пятля, пся крэў!

Дроб маўчыць.

Маёр устае з-за стала і адшпільвае покрыўку кабуры. Заклаўшы рукі за пояс, ён ідзе ў кут кабінета. Пад яго важкім крокам патрэсквае паркет, маёр варочаецца назад.

— Ніводнага слова?

Дроб маўчыць.

— Добра!

Маёр зноў ідзе цераз кабінет па дыяганалі, з кута ў кут. Потым адчыняе адну з шаф і выбірае адтуль невялікі скрутак. Зачыняе шафу і ідзе назад. Ён развінае скрутак на стале.

— Азнаёмцеся! — падае хрыплы цяпер маёрскі бас.

У руках маёра тугая, брудная, з падазронымі плямамі бурага колеру вяроўка. Яна закладзена пятлёй.

— Бачыце?

Пятля выгінаецца, выкручваецца. Маёр узнімае руку з вяроўкаю.

— Вось! Гэты гальштук! — хрыпіць маёр. — Ён будзе хістацца на перакладзіне, а вы будзеце са страхам глядзець на яго. І ўсе вашыя ідэі, усе вашыя погляды раздзятуцца, як дым, перад тварам смерці. Вы будзеце адчуваць толькі адно: вам хочацца жыць... Вы гатовы купіць жыццё якой толькі можна цаною. Але позна ўжо... Вас цягнуць на памост... Вы не адчуваеце, як ступаюць вашы ногі... Ваша цела робіцца вялым... Але шалёна працуе мозг: жыць! жыць!

Хістаецца пятля ў руках маёра. Твар таўсцяка робіцца шызым ад напору крыві. Вочы вылазяць з арбіт. Ён хрыпіць, і пена пузырыцца ў кутах губ.

— Вы будзеце слаба супраціўляцца, страх смерці паралізуе ваша цела, але мозг будзе ліхаманкава працаваць: жыць! жыць! За якую цану купіць жыццё!? За што гінуць!? І вось вы ў апошні раз бачыце турэмную сцяну, у апошні раз бачыце зямлю і людзей. Вам накідваюць на галаву мяшок... З-пад вашых ног правальваецца дошка... Пятля моцна сціскае вашае горла, і вылазіць ваш язык... Вашыя вочы выпінаюцца з арбіт... Вашыя лёгкія разрываюцца ў грудзях... Вашыя рукі звязаны і ні ў чым не дапамагаюць... Вашы ногі дарэмна шукаюць апоры і не знаходзяць яе... Страшная боль... Муціцца мозг... Але вы яшчэ жывы!.. Павольна ірвуцца мускулы, але вы яшчэ жывы... Вывіхаецца, распаўзаецца пазванок, але вы яшчэ жывы... Вы яшчэ доўга, доўга жывы... І толькі цераз шмат часу гасне ваш мозг! Глядзіце, глядзіце, Станіслаў Дроб! Глядзіце сюды!

Крутая пятля хістаецца над сталом і, нарэшце, падае з глухім стукам.

Багрова-чырвоная морда з вырачанымі вачыма выскаляе зубы. Гэта — усмешка.

— Гэта ваш лёс. Або гальштук, або жыццё і воля!

Таўсцяк грузна асядае ў крэсла. Ён глядзіць з пільнасцю ў твар Дроба. Ён стараецца адшукаць адценні страху, разгубленасці. Але твар гэты — абсалютна спакойны. Шэрыя маладыя вочы глядзяць упарта, цвёрда, і нават усмешка, ценькая і зняважлівая, з'яўляецца на вуснах Дроба.

Маёр сціскае кулакі пад сталом. Ён траціць роўнавагу. Самы выпрабаваны з вынайдзеных маёрам сродкаў не даў ніякіх вынікаў. Эфект бруднай, акрываўленай пятлі і хрыпаў і ўскрыкаў маёра не атрымаў належнай ацэнкі з боку чалавека, якому гэтая пятля непасрэдна пагражае. Ён сядзіць супроць маёра і здзекліва ўсміхаецца. Ён абсалютна спакойны.

— Вы не скажаце нічога? — з адценнем бездапаможнасці пытаецца Пферц-Дабравольскі.

Дроб маўчыць.

Тоўсты палец маёра сударгава тыцкае ў цокаль электрычнага званка, адшукваючы кнопку.

Адчыняюцца дзверы. Афіцэр шчоўкае абцасамі на парозе.

— Узяць гэтую сволач!.. — хрыпіць маёр. — Узяць гэтую гадзіну, здрадніка, смуроднага вырадка... У казёмат! У карцэр! Аперацыю яму, пане ад'ютант! Як належыць!

Дроб устае.

— Ніякія аперацыі не дапамогуць. Няма такіх сродкаў у вашым распараджэнні, маёр. Хоць у вашых здольнасцях адмовіць нельга. Псіхалагічны садызм. Але вы мяне не прымусіце гаварыць!

— Падрыхтаваць яго справу! — задыхаецца маёр. — Ад'ютант! Вы чуеце?! Н-на ш-шыбеніцу! Здраднік!

На парозе Дроб спыняецца. Ён адварочваецца да маёра і кажа:

— Ад усёй душы жадаю вам, маёр, як найхутчэй надзець гэтую пятлю на ўласную шыю. Да пабачэння!

У адказ — даўгі, чыста звярыны рык.

Дзверы за Дробам зачыняюцца.

На дварэ слініць дробны дождж. Брук слізкі, і драўляныя падэшвы Дроба коўзаюцца па ім. Яго моцна трымаюць пад рукі двое ў чорных мундзірах. Вартавыя праводзяць вачыма постаць высокага чалавека ў шэрай курткы.

Таварыш Дроб глядзіць проста перад сабою. У калодзежы двара асядае вячэрні змрок. Над старым горадам, над старой зямлёй, ахутаны ў дымны вэлюм дажджу, зніжаецца гнілаваты вечар. Над вуліцамі, высока ў паветры, трапеча кволы водбліск электрычнасці. Глуха шуміць горад, там, за высокімі гэтымі сценамі.

Драўляныя падэшвы арыштанта грукаюць па бруку. Абцугі наручнікаў скавалі рукі. Таварыш Дроб высока трымае галаву.

Зараз, пасля таго, як яго ўкінуць у карцэр, у прасторны кабінет Пферц-Дабравольскага прывядуць таварыша Дамяніку Сякеру. Пасля яго правядуць па гэтым двары ўсіх, хто арыштаваны з канвойнай роты. Потым, калі справа канвойнай роты будзе скончана, будуць яшчэ шмат вадзіць у панурым змроку вечароў і начэй маўклівых людзей у мяшэчных адзеннях, і іх драўляныя падэшвы будуць важка і мерна грукаць па коўзкім, брудным бруку, будуць грукаць з выразнай асаблівасцю рэвалюцыйнага марша, які спыняць толькі ціскі пятлі — і не надоўга — глуш катаржнай адзіночкі.

Але потым (ці многа пройдзе часу?) не будуць людзей вадзіць маўклівыя турэмшчыкі па гэтым гнілым двары. Не будзе турэмшчыкаў, не будзе турмаў для пралетарыя. Будзе перамога пралетарскай рэвалюцыі! Бо:

«Няхай буржуазія яшчэ лютуе, няхай яна яшчэ забівае тысячы рабочых, — перамога за намі, перамога сусветнай комуністычнай рэвалюцыі забяспечана».

Так сказаў Ленін. Так сказаў вялікі правадыр сусветнага пралетарыята. І так будзе.

Будзе радасная вясна чалавецтва. Будзе радасная вясна нараджэння новай планеты. І на гэтым месцы, дзе цяпер у панурым вячэрнім змроку грукаюць драўляныя падэшвы арыштантаў, дзе стаяць панурыя вартавыя — магчыма, тут будзе пляц, на які ў дні святкавання працы будуць прыходзіць вызваленыя пралетарыі для таго, каб паўтараць імёны тых, хто аддаў жыццё за справу пралетарскай рэвалюцыі.

Грукаюць арыштанцкія боты. Набліжаецца нізкая пабудова з чорнымі, вузкімі акенцамі, якія забраны ў краты.

...Гэта не важна, што не ўбачыць Дроб, як будуць схіляцца чырвоныя сцягі перад велічнымі помнікамі афяр пролетарыята ў класавай барацьбе. Не важна для яго і тое, што ён загіне тут, у тужлівым адзіноцтве, з рукамі, звязанымі назад. Важна тое, што ён жыў і змагаўся, што застануцца сляды яго змагання! Гэта важна.

Звіняць ключы. Таварыша Дроба штурхаюць у плечы. Ён уваходзіць у цесны, смуродны калідорчык. З іржавым скрыпам расчыняюцца дзверы. Таварыш Дроб пераступае парог карцэра.

Ён абмацвае цвілую, вільготную сцяну. І даканчвае свае думкі.

— Што азначае смерць аднаго, калі застаюцца жыць і змагацца мільёны? Мізэрная з'ява! Непрыкметная з'ява! Адрантвенне маленькай чалавечай адзінкі! Я толькі адзінка калектыва — партыі. Застануся жыць — усяго сябе, да кроплі крыві, да астатку аддам справе партыі. Загіну — дык загіну за справу партыі, за справу пролетарыята, і смерць мая, такім чынам, будзе накіравана на тое, да чаго я імкнуўся пры жыцці. Але самы факт маёй смерці не зменіць абставін на карысць маіх ворагаў. Бо застануцца мільёны. Застанецца ўся партыя. Перамога сусветнай пролетарскай рэволюцыі забяспечана! І пры гэткіх вялікіх абставінах адрантвенне, распад матэрыі дробнай чалавечай адзінкі нічога не азначае. Вось у чым справа, таварыш Дроб!

Дзверы зачыняюцца з тым-жа іржавым скрыпам. Гулка шчоўкае замок.

Досвіткам Крамарчык і Турчын стаялі над ракой. Шырокая водная гладзь велічна абвінала круты лясісты бераг, ідучы вольным сваім шляхам туды, у невядомую далеч, адкуль прыходзіў новы дзень. Лес, што высокай сцяною ўзнімаўся на гэтым беразе, акрываў непранікнёнай засенню ўскрай ракі. Радзеў змрок. Паблісквала рачная шыр, адлюстроўвала бледныя фарбы неба, па якім блукалі адценні нясмелай зары. На паверхні ракі пацягваліся смугі туманаў, плылі і губляліся ў засені супроцьлеглага берага.

Крамарчык углядаўся туды, за раку. Там на многія дзе-

сяткі і сотні вёрст лягла агромністая Краіна соцыялізма. Застаўся яшчэ адзін апошні і завяршальны этап яго шляху.

Паблісквала рака. Абодва ўскраі яе танулі ў змроку. Плылі туманы па шырокай рэчнай гладзі. Там і тут у засені берагоў прытаіліся людзі. Яны пільнуюць раку, яны абмацваюць вачыма яе цьмяны бляск, апавіны вэлюмам туману. Глыбокая ціш тут, на рубяжы двух светаў.

Пацягнуў першы досвітны вецер. Зашумелі верхавіны дрэў.

Крамарчык азірнуўся на Турчына. Той таксама неадрыўна глядзеў на супроцьлеглы бераг. Яго постаць няясна абрысоўвалася ў поўзмроку, і твар выдаваўся надзвычайна бледным, з сінімі ямамі вачэй і губ.

— Падышлі ў самую пару, — ціха сказаў Крамарчык. — Пакідай тут вопратку. Хутчэй.

Цераз некалькі хвілін двое людзей пракрадваліся кустамі крутога, спадзістага берагу да вады. Крокі іх былі бяззычнымі. І кожны крок — набліжаў да мэты.

Размываючы бераг, плешча пад абрывам рака.

— Глыбока, — ціха прашаптаў Турчын. — Вір.

Цёмная вада плешча ў бераг.

— З берагу скакаць нельга, — кажа Крамарчык. — Пойдзем управа.

Яны асцярожна абмінаюць абрыў. Пясчаная маса ўрэзалася ў раку, і на ёй хістаецца рэдкая саломка мінулагодняга чароту. Двое людзей хутка прабягаюць па пяску. І вось...

Зімная вада лізнула падэшвы ног.

— Трымайся мяне, — ціха сказаў Крамарчык. — Паплывём наўкос.

Ён ціха пабрыў, стрымліваючы дыханне. За ім ішоў Турчын. Усё глыбей і глыбей уходзіла з-пад ног дно. Вада ледзянымі абдымкамі сціскала грудзі. Побач разлёгся ціхі ўсплёск. Турчын ужо плыў. Крамарчык зрабіў яшчэ крок і ледзь абмацаў дно. Тады ён зрабіў першы ўзмах. Яго падхапіла плынь. Бераг з высокаю грываю лесу пачаў аддаляцца.

Побач з Крамарчыкам над вадой узнімалася галава Турчына. Ціха ўсплёсквала вада пад ударамі рук.

Цяпер Крамарчык не адчуваў холаду. Яны ўжо набліжаліся да сярэдзіны ракі. Магутная плынь несла абодвух з вялікай сілай.

— Наўкос бяры, — час-ад-часу перасцерагаў Крамарчык. — Беражы сілы.

— Нічо-га! — натужана адказаў Турчын.

Крамарчык лёг на спіну. Проста над ім было шэрае неба з дымнымі плямамі воблакаў. Цёмная рачная глыб вішумела ў вушшу галасамі таямніц невядомых сваіх віраў. Бераг, на якім чарнела сцяна лесу, адыходзіў прэч, аддаляўся ўсё больш. Крамарчык спакойна ўзмахваў рукамі. Цяпер уся небяспека знікла. Цяпер ніводзін з самых упраўных стралкоў таго пакінутага берагу не здолее ўзяць на прыцэл дзве маленькія кропкі чалавечых галоў, што згублены ў рачной прастрані і замаскаваны туманам.

Крамарчык зноў перайшоў на «кроль». Мастацтва, якім аўладаў ён яшчэ ў дзіцячыя гады, цяпер служыла яму. Савецкі бераг наблізіўся нечакана хутка. Яны падыходзілі ўжо да кромкі яго засені.

І тады нечакана разлёгся над вадой ціхі ўсхліп:

— Памажы... Марцін!..

Крамарчык рынуўся ўбок. Галава Турчына знікла з паверхні і з'явілася зноў.

— Памажы!..

І зноў знікла галава. Некалькімі магутнымі ўзмахамі Крамарчык дасягнуў таго месца, дзе Турчына паглынуў вір. Гэта было ўжо ў засені савецкай зямлі.

Ногі абмацалі дно. Крамарчык падхапіў на рукі безуладнае цела Турчына і пабрыў да берагу. Ён хістаўся пад цяжкай сваёй ношай, але ўпарта брыў. І толькі, калі ўжо ступіў ён на самы бераг, рэштка сіл пакінула яго. Крамарчык спатыкнуўся і ўпаў на калені.

І ў гэты момант разлёгся кароткі, пагрозны крык:

— Стой!

Прыгінаючыся да зямлі, трымаючы вінтоўку напагатове, ад ракі забягаў чырвонаармеец-пагранічнік.

— Рукі ўгору!

І белая постаць, стоячы на каленях над распрасцёртым на зямлі целам, узняла рукі ўгору.

Рэзка зазвінеў званок.

Дзяжурны камендант зняў трубку.

— Дзяжурны камендант слухае!

— Прыбыла машына, — лаканічна сказала трубка.

Камендант паклаў яе і ўстаў. Ён аправіў рэмні і ад-

шпіліў кабуру. Засунуў рукі за пояс і прайшоў па пакоі. Так заўсёды рабіў камендант. Так ён заўсёды нагульваў настрой перад начнымі справамі. Камендант прайшоў па пакоі раз і два. Потым адкрыў невялікі шкафік у куце, выняў адтуль графін і напоўніў яго сіняватаю вадкасцю. Спірт апаліў горла, і камендант, апраўляючы вусы, доўга стаяў, не дыхаючы, з адчыненым ротам. Так заўсёды нагульваў настрой камендант перад начнымі справамі.

І настрой хутка пачаў прыходзіць. Узрок стаў няпэўным, недзе ў глыбі камендантавай істоты з'явілася спружынка, дужая і заўзятая, забушавала ўнутры зімная весялосць, і было такое адчуванне, што хацелася каменданту ўгрызці зубамі што-небудзь мяккае, хацелася рубануць клінком і бачыць, як павольна асядзе цела на зямлю. Без сумнення, настрой прыходзіў. З'яўлялася натхненне для начных спраў.

Спірт яшчэ раз апаліў горла. Цяжкая служба ў пана каменданта! Заўсёды мець настрой, нагульваць патрэбнае натхненне!

Зноў рэзкі званок.

Камендант узяў трубку.

— Прыбыла машына, — лаканічна сказала трубка.

— У вас ніякіх навін больш няма? — спытаў камендант з затоенай злосцю.

Трубка ведала характар каменданта. Трубка пакорна сказала:

— Айцец святы і доктар чакаюць, пане камендант...

— Айцец святы? Доктар? Я сам айцец святы!.. Я сам сабе доктар!!! Што? Маўчаць! Маў-чаць, калі гаворыць афіцэр! Няхай чакаюць да дванаццаці гадзін. Я тут распараджаюся, або ты, пацук турэмны!!! Я хачу, каб даўгаполы п'яніца і смуродны эскулап чакалі да дванаццаці гадзін!

Трубка спуджана маўчала. Камендант кінуў яе на вілку. Настрой быў папсуты. Натхненне было абражана... Паскудны які-небудзь турэмны наглядчык асмеліўся ўступаць у размовы і нават супярэчыць самому пану каменданту цэнтральнай ваеннай турмы. Нечуваная нагласць!

Спірт яшчэ і яшчэ раз апаліў горла. Пакрыху пачало звяртацца ўтрачанае натхненне. Камендант нават выцягнуў з похвы клінок. Выгнуты, хлёсткі, лёгкі на лёт і востры клінок быў смаглы, як бізун, ва ўпраўнай руцэ каменданта. Дэмакратычная рэспубліка, чарты іх матары!

Дурацкія рытуалы ваенна-палявога суда, галганства! Ксяндзы і дактары, паралюш на іх галаву! От!!! Шабля!!! Дзедаўская, усходняй работы, з узорамі на палатне! Шляхетная шабля ў шляхетных руках патрыёта! От, што патрэбна для галоў здрадцаў айчыны! Э-эх!..

І шабля творыць круг маланкавага лёту. Шляхетная сталь кружыць, са свістам рэжучы паветра над шляхетнай галавой пана дзяжурнага каменданта цэнтральнай ваеннай турмы.

Так гуляе камендант адзін у поўпустым пакоі з кратамі на вокнах. Але ён не захапляецца залішне. Ён памятае загад важнай і паважанай персоны. І як толькі стрэлкі гадзінніка напаўзаюць адна на адну на лічбе дванаццаць, пан камендант укладвае ў похву шляхетную шаблю, ён папраўляе вусы, шаўкавістыя шляхетныя вялікія вусы, ён паплёўвае на далонь і папраўляе такім спосабам прабор на нізкалобай, вузкай, шляхетнай галаве. Затым ён бярэ трубку. Толькі ў такім акуратным выглядзе дазваляе сабе пан камендант, выхаваны ў высокім стылі шляхетнай сям'і, гаварыць з лепшым з людзей айчыны.

Важным і прыстойным голасам камендант называе нумар.

Ён цярпліва чакае, пакуль там, у трубцы, ідзе кратаніна, пакуль шчоўкаюць ключы шматлікіх камутатараў, пакуль дабіраецца провад каменданта да стала кабінета аднаго з кіраўнікоў палітычнай паліцыі.

І вось сіплы бас у трубцы. Высокая персона слухае.

Камендант выцягваецца ў струнку. Камендант звініць шпорамі. Калі патрэбна, камендант будзе салютаваць шабляй, чорт пабяры! Дысцыпліна перш за ўсё!

І камендант гаворыць прыстойным і надзвычайна лагодным голасам:

— Маю гонар далажыць пану маёру: прыбыла машына на двор турмы. Асмельваюся далажыць: адміністрацыя і персанал з нецярпеннем чакаюць вашага да нас прыезду...

— Ні-ко-га!!! — раве трубка. — Вас не прасілі мне сустрэчы ўтвараць!

— Пане маёр...

— Вам было загадана далажыць а дванаццатай гадзіне! Што?!! Прашу ўстрымацца, калі гаворыць на-

чальнік... Ні-ко-га!!! Толькі асобы, што непасрэдна прысутнічаюць!

— Пане маёр... асмелюся...

Шпоры звякаюць і пачынаюць звінець. Гэта непрыгожа, калі шпоры звіняць ад таго, што дрыжаць шляхетныя афіцэрскія ногі.

— Асмелюся... пане маёр...

— Ну?!

— Ёсць так... як вамі загадана... Але я хацеў... думаў, вам прыемна будзе... Адным словам, вы так многа зрабілі для нас, для айчыны, для нашай установы... што... адным словам... пасля размовы з вамі... арганізаваць сустрэчу вас... Ніхто не ведае яшчэ... Нікога не будзе, пане маёр!..

— Вы-ж казалі... Як вы сказалі?

— З нецярпеннем чакаюць. Для праформы далажыў пану маёру. Яшчэ не чакаюць... Не ведаюць аб вашым прыбыцці. Для праформы, пане маёр... Будучы шчырым патрыётам і ведаючы значэнне вашай асобы...

— Цераз трыццаць хвілін прыязджаю. Ні слова. Арыштанта не выводзіць да майго прыбыцця.

У трубцы шчоўкнула.

Камендант беражна паклаў яе на вілкі і глыбока ўздыхнуў. Бура мінула. Не ўдарыў пярун. Грымоты замоўклі. Ох, цяжка гаварыць з начальствам! Ох, цяжкая работа пана каменданта! Цяжкі крыж усклала на яго плечы айчына!

Зноў парушаны настрой... Зноў разбурана натхненне... І камендант падыходзіць да шафіка.

Добры спірт! Добры бакал! За здароўе суровага маёра!

Потым камендант бярэ трубку.

— Цэнтральная брама? Пр-рапусціць машыну а дванаццатай гадзіне трыццаць пяць хвілін. Адчыніць вароты, салютаваць зброяй! Хто?! Маў-чаць, вас не пытаюць, чорт пабяры!

Камендант кідае трубку і накіроўваецца зноў да шафіка.

Потым выцягвае клінок. Добрая шляхетная сталь. І камендант гуляе з шабляй па пакоі да той пары, пакуль пад вокнамі не спыняецца нізкая бліскучая машына.

Чалавек сядзеў ссутулены на турэмнай койцы. Было зімна. Ён паставіў каўнер свайго арыштанцкага адзення з мяшэчнай матэрыі і падабраў пад сябе босыя ногі. Ён не чуў крокаў шматлікага канвоя ў калідоры і застаўся ў гэтай позе. Так ён сядзеў нават тады, калі бразнула засаўка «ваўчка» і камендант, размясціўшы канвой, зазірнуў праз шкелца ў камеру. Асуджаны сядзеў нерухома. Магчыма, ён нават асмеліўся спаць?!!

І камендант, адштурхнуўшы наглядчыка, які, спяшаючыся, адчыняў дзверы, — з громам шпор і похвы ўляцеў у камеру.

— Зва-а-а-жаць! — гаўкнуў камендант. — Ус-таць!

Ён узмахнуў рукамі, паслізгнуўшыся на цвілым асфальце.

— Зва-а-жаць!!!

Але асуджаны ледзь варухнуўся. На п'янага ўдрызг каменданта глядзелі яго халодныя шэрыя вочы.

— Зараз устану.

— Ус-та-а-а-ць! П-п-а-скуда! Здрадца! Зд-р-р-ад-нік, сук-кін-сын!

Асуджаны павольна спусціў з ложка ногі... Не зводзячы воч з каменданта, ён пачаў абмацваць босымі ступнямі халодны асфальт, адшукваючы грубыя чаравікі.

Камендант схапіўся за эфес шаблі.

— Не р-ра-змаўляць, калі гаворыць афіцэр! Ус-таць!

— Прашу не крычаць на мяне! — цвёрда сказаў асуджаны.

— Не хвалюйцеся, пане камендант, — падсунуўся збоку наглядчык.

Але камендант штурхнуў яго локцем у грудзі і ступіў крок наперад.

І ў гэты час устаў асуджаны, выпрастаўся і прайшоў міма каменданта ў калідор, запоўнены канвоем. Ён ішоў так, што адступілі перад ім двое канвойных, якія стаялі паабапал дзвярэй. Сколькі спакойнай і цвёрдай сілы было ў гэтым чалавеку.

— Наручнікі! — загарлаў камендант. — Стой! Уздзець наручнікі!!

Асуджаны спыніўся, і пакуль уздзявалі наглядчыкі яму на рукі ценькія сталёвыя, нікеляваныя бранзалеткі, што абцугамі ўпіваліся ў скуру, — гэткія-ж спакойныя вочы былі ў яго, як і раней, і так-жа цвёрда і зняважліва глядзелі яны. Як быццам не існуючымі фізічна былі

наглядчыкі і канвой, як-бы цераз вузкі чэрап камен-данта бачыў асуджаны сцяну і чытаў на ёй сумныя і гнеўныя надпісы, што пакінулі многія папярэднікі яго.

Камендант матляўся па калідоры, штурхаючы кан-войных і наглядчыкаў. Не было ніякага эфекта.

Не ўдавалася каменданту нагнаць страху на асуджа-нага. Ён хапаўся за эфес і зноў кідаў яго.

І, нарэшце, камендант звягнуў:

— М-марш!

Загрукалі крокі, забразгалі прыклады аб каменную падлогу калідора. Канвой рушыў наперад, сціскаючы з усіх бакоў высокую постаць чалавека ў шэрым адзен-ні, са скаванымі сталлю рукамі.

Яны ішлі несканчона даўгімі калідорамі паўз дзесят-кі жалезных дзвярэй, ацяжараных вялізнымі засовамі і замкамі. І па меры таго, як ішла наперад гэтая маў-клівая працэсія, з камеры ў камеру цераз тоўстыя сце-ны дробным перастукам прабіваліся трывожныя словы:

— П-а-в-я-л-і а-с-у-д-ж-а-н-а-г-а з д-з-е-в-я-н-о-с-т-а ч-а-ц-в-е-р-т-а-й. П-р-а-в-а-ж-а-й-ц-е я-г-о, т-а-в-а-р-ы-ш-ы!

І вось, калі даходзіла працэсія, з п'яным каменданта м у хвасце, да канца калідора, у адну з дзвярэй камеры моцна загрукалі, і глухі голас даляцеў да асу-джанага.

— Смела! Смела... таварыш!

І асуджаны ўздрыгнуў. Ён выпрастаўся... Ён варухнуў плячыма, як-бы спрабуючы парваць наручнікі.

І ў гэты момант — глухі гул пракаціўся па калідоры, нібы далёкія грымоты набліжаліся і аддаляліся. Гэта быў пратэст адзіночак. Гэта замураваныя ў камень, закаваныя ў жалеза людзі білі ў дзверы і ў сцены сваімі ланцугамі, табурэтамі, усім, што пападала пад руку. Гэта быў марш асуджанаму, марш провадаў на смерць. Яго на сваіх ланцугах гралі адзіночкі.

І асуджаны горда ўзняў галаву. Ён агледзеў свой канвой. І ён убачыў разгубленыя, спуджаныя твары наглядчыкаў, убачыў п'янага каменданта, які беспарад-на спрабаваў ацверазець.

— Выклікаць... каманду! — нарэшце, крыкнуў камен-дант.

Адзін з наглядчыкаў пабег уздоўж калідора.

А ў гэты час у ніжніх паверхах ужо ўчулі гул. І праходзілі цераз сцены палкія і трывожныя словы.

— В-я-д-у-ц-ь н-а с-м-е-р-ц-ь! П-р-а-в-а-ж-а-й-ц-е!

І хутка забушавала ўся турма. Глухі гул вырваўся на вуліцу.

У гэты час, нарэшце, ацверазеў перад тварам вялікай пагрозы камендант. Ён прымусіў цягнуць па калідоры асуджанага, які не хацеў прыбавіць кроку. На той момант, як уся турма далучылася да пратэсту, на той момант, калі з агульных камер у ніжнім паверсе данесліся грымотныя крыкі і грукат, сапраўды падобны да грымотаў, асуджанага выцягнулі на двор.

І ў тую-ж хвіліну ва ўсе ўваходы турмы з усіх бакоў яе пачалі ўрывацца групы ўзброенай турэмнай каманды на чале з наглядчыкамі. У гэтую хвіліну звінелі тэлефоны ва ўсіх паверхах і карпусах турмы. Бунтавала цэнтральная ваенная турма. Выклікалі з горада дапамогу.

Асуджанага працягнулі па двары да маленькага доміка, супроць якога стаяла нізкая бліскучая машына. Расшохраны камендант, спатыкаючыся на шаблю, пабег наперадзе, каб далажыць высокаму начальству аб выкананні загаду і аб тым, што з гэтага вынікла.

І ён далажыў:

— Выканана, пане маёр... Арыштант прыведзены, пане маёр... У турме бунт, пане маёр...

Высокая асоба грузна ўзнялася з-за стала.

— Прыняць усе меры... Усе меры!!! Чуеце?!! П-пад суд! Ідыёт!

Камендант вылецеў з пакоя.

Высокая асоба вышла з-за стала. Высокая асоба зрабіла жэст у бок свайго ад'ютанта:

— Прыводзьце!

І цераз парог перакрочыў высокі чалавек у мяшэчным адзенні арыштанта.

І шырокая ўсмешка расплылася на адрузлым твары высокай асобы.

— Ну, як сябе адчуваеце, Дроб?

Асуджаны выпрастаўся.

— Я думаю, што вы сябе горш адчуваеце, Пферц-Дабравольскі.

Яны стаялі адзін супроць другога.

Пферц-Дабравольскі заклаў свае кароткія ногі адну на другую, апіраючыся спіной на стол:

— Не думаю, што горш сябе адчуваю, чым вы, Дроб! Я зараз паеду дадому, на кватэру, я буду вячэраць і піць віно. У мяне, ведаеце, Дроб, ёсць прыгожая жанчына. У мяне добры аўтамабіль, у мяне пакорныя слугі, у мяне ўлада ў руках, і толькі пашана і прыемная пакорлівасць сустракае мяне, і слова маё — закон. Мае ворагі баяцца ўзняць галаву і паглядзець мне ў вочы... Хэ-хэ-хэ!!!

— Вашы ворагі трымаюць галовы ўзнятымі і смела глядзяць у свіныя, гнойныя вочкі вашы і вашага класа!

— ... Хэ-хэ-хэ!

— Вы не хочаце паказаць свайго страху! Вы чуеце, як шуміць турма?! Ваш смех — ненатуральны. Вы не вытрымліваеце сваёй ролі!

— ... Хэ-хэ-хэ! І калі я буду вячэраць з сваёй каханкай, вас павядуць страляць, Дроб. Хэ-хэ-хэ!.. А калі вы ўжо будзеце ляжаць зусім гнілым, я паеду ў падарожжа і праплыву на найлепшым параходзе па водах поўднёвых марэй і акіянаў! Я буду жыць! А вы, пане Дроб, будзеце гнісці! Хэ-хэ-хэ...

— Вы гніеце зажыва! Вы — закончаны прадстаўнік свайго класа.

— Хэ-хэ-хэ!

— Чаму вы азіраецеся? Вам не весела! Вам страшна!

І Пферц-Дабравольскі перарваў смех.

— Вашае жыццё вымерана хвілінамі, Дроб. Праз поўгадзіны вас не будзе на свеце. Падумайце: вас паставяць перад узводам, і кулі выб'юць дашчэнту мозг з такой разумнай галавы, як ваша. Вы ўпадзеце, каб больш не ўстаць... А я ў гэты час, у сябе на кватэры, буду абнімаць і песціць прыгажэйшую жанчыну. Вам, у знак пашаны мундзіра, які вы некалі насілі, здраднік Дроб, — павешанне заменена расстраляннем, але, прымаючы пад увагу і гэту аблягчаючую абставіну, — я з вамі не памяняюся, Дроб. Правядзіце паралель паміж сваім і маім становішчам. І вы ўбачыце, што ваша справа горш, Дроб!

— Вы што-ж, здзеквацца нада мной прыехалі?

— Бясспрэчна. Гэта дастаўляе асалоду. Бачыць чалавека жывым, гутарыць з ім, абменьвацца, так ска-

заць, уражаннямі і потым праз гадзіну атрымаць фатаграфію вашага трупа. У мяне, ведаеце, Дроб, — цэлая фотакалекцыя! І вы, завяраю вас, атрымаеце ў ёй адно з першых месц.

— Не магу вам гэтага забараніць.

— Я гэта ведаю. Таму я вам пра гэта і гавару. Хэ-хэ-хэ! Дрэнна вы зрабілі, Дроб. Вы не паслухалі старога Пферц-Дабравольскага, і толькі тое і змянілася ў вашым лёсе, што вы замест пятлі атрымаеце кулю.

— Я-б мог плюнуць у вашу морду, Пферц-Дабравольскі...

— Што-о-о?!

— ... але застанаўліваюся толькі таму, што некультурна карыстацца такім аб'ектам. Ёсць нешта больш гігіенічнае.

Пферц-Дабравольскі азірнуўся. Больш нікога ў пакоі не было.

— Я не крыўджуся, Дроб. Я-б мог аддзякаваць вам, напрыклад, тым, што загадаў-бы падрыхтаваць для вас шыбеніцу. Я гэтага не зраблю. Я хачу, каб вы загінулі ад шаблі. Тут ёсць такі адзін чалавек...

Зноў шырокая ўсмешка распёрла твар Пферц-Дабравольскага.

— І так, вас зарубяць шабляй. Вам не страшна, Дроб?

— Страшна.

— Вам страшна?

— Так. Страшна пры думцы, што па зямлі ходзяць яшчэ такія людзі, як вы, што так можа вырадзіцца чалавек... Вы, паўтараю, дастойны прадстаўнік свайго класа. Так згніць на корані! Так спаганіцца! Вам самім не страшна, Пферц-Дабравольскі? Па-мойму, вам павінна быць страшна. Вы павінны баяцца смерці. Людзі вашага класа баяцца смерці. Ваш клас баіцца смерці! А яна — блізка, пагібель ваша!

— Мне страшна ад вашай упартасці, Дроб. Нельга-ж так бравіраваць! Мне вас шкода. Яшчэ адзін раз настойваю на тым, што вы заблукаліся. Яшчэ раз гавару, што шкода мне вас. Такая моладзь можа быць вельмі карыснай айчыне, яе трэба ратаваць. Вы папалі ў сілок, Дроб.

Пферц-Дабравольскі нахіляецца бліжэй да Дроба і кладзе руку на адшпіленую кабуру.

— Вы можаце ратавацца, Дроб. Я вам адкрываю дзверы ратунку. Вы пайшлі не той дарогай. Інжынеру Дробу — не па дарозе з лайдацтвам. Скажыце толькі адно слова, адно прозвішча, і вы атрымаеце толькі некалькі гадоў катаргі. Скажыце, хто забіў рабочага Яроша Гагая?

— Дзіўна, што вас цікавіць нейкі рабочы. Я вам нічога не скажу. Вы ў мяне пытаецеся штодня. Я буду маўчаць, як і на папярэдніх допытах.

— Даю вам хвіліну. Думайце.

— Не намераны.

Пферц-Дабравольскі выцягнуў гадзіннік і, насвістваючы нейкі матыў, пачаў глядзець на яго.

Стала ціха.

Знадворку даносіліся ўзбуджаныя галасы. Бунт душылі.

Хвіліна прайшла.

— Усё! — сказаў Пферц-Дабравольскі. — Скончана. Мы самі знойдзем тое, што патрэбна, мы самі знойдзем забойцу рабочага.

І Пферц-Дабравольскі паклаў гадзіннік у кішэню.

— Ідзіце. Я вас адпраўляю ў пекла!

Дроб стаяў супроць яго, трымаючы рукі выцягнутымі наперад. Яны былі скручаны нікеляванымі бранзалеткамі.

— Я зараз вас адпраўляю на пагібель, Дроб.

— Адпраўляйце.

— Вы не шкадуеце свайго жыцця, Дроб?

Маўчанне.

— Скончана!

Палец маёра шукаў кнопку электрычнага званка на стале.

— Зараз вы пазнаёміцеся з адным добрым рубакам. Гэта, заўважце, мой уласны капрыз. Цікава, як вы будзеце потым выглядаць на фота.

Нарэшце, адшукалася кнопка званка. У дзвярах з'явіўся ад'ютант.

— Каменданта!

Ад'ютант знік.

— Традыцыі дзядоў! Здраднік атрымлівае смерць ад шаблі жалнера айчыны! Вам падабаецца такі метад, Дроб?

Маўчанне.

— I так, вы паміраеце, Дроб! Цераз поўгадзіны вас не будзе на свеце. Вас чакае страшная смерць. Заўважце, і на гэты раз я ратаваў вас ад пятлі. Гонар мундзіра, які вы насілі, ратуе вас ад ганьбы. Вы павінны быць удзячны айчыне, здраднік.

Маўчанне.

— Вы маўчыцё? Хай сабе! Яшчэ трыццаць хвілін — і вы замоўкнеце назаўсёды, Дроб! Думайце, бо калі, вышаўшы адгэтуль, хаця зрабіўшы крок за парог, вы захочаце гаварыць, — будзе ўжо позна. Вас павязуць на смерць. Скажыце, хто забіў Гагая, і вы атрымаеце нязначную кару. Мы з вамі нават на радасцях вып'ем бутэльку добрага віна. Не хочаце?

Маўчанне.

I ў гэты-ж час увайшоў камендант.

— Дазвольце далажыць: з'явіўся па загаду.

— Добра, камендант!

Пферц-Дабравольскі вагаўся яшчэ адзін момант.

Ён уважліва паглядзеў на Дроба. Той стаяў, нахіліўшы галаву, глядзеў на свае наручнікі, як-бы заваражаны іх бляскам.

— Нічога не выйдзе, — падумаў Пферц-Дабравольскі, — і няма чаго марудзіць. Ёсць-жа філеры, ёсць агентура... Досыць!

Ён паказаў на Дроба.

— Здайце канвою і звярніцеся назад.

I адвярнуўся плячыма да іх.

Камендант схапіў Дроба за плячо.

— Кру-гом!

Але Дроб не падпарадкаваўся. Ён адштурхнуў плячом каменданта.

— Я хачу гаварыць, — сказаў ён.

Пферц-Дабравольскі рэзка адвярнуўся і працягнуў руку да каменданта. Той адступіў на крок ад Дроба. Шырокі твар Пферц-Дабравольскага зноў расплыўся ва ўсмешцы.

— Надумалі? Ну, ну!..

Дроб з ног да галавы агледзеў маёра. Ён паглядзеў і на каменданта, што стаяў збоку.

... Давялося паміраць у акружэнні ворагаў са звязанымі рукамі. Што-ж!!!

— Успомніце, Пферц-Дабравольскі, — сказаў Дроб, — успомніце, што калі я ішоў на смерць, то мяне віталі і

праводзілі сотні людзей, не гледзячы на тое, што яны замураваны ў камень і закованы ў жалеза. Падумайце, што будзе, калі давядзецца паміраць вам?! Што будзе, калі рэвалюцыйны трыбунал вынесе вам свой прыгавор і ваша жыццё пачне вымярацца секундамі?! Што будзе тады, Пферц-Дабравольскі?! Хто вас будзе праводзіць на смерць?! А гэта блізка, Пферц-Дабравольскі! Блізка! Блізка пагібель вашага класа і вас разам з ім!

Дроб адвярнуўся.

— Больш я нічога вам не хацеў сказаць.

Маёр слаба махнуў рукой. Было такое адчуванне, як некалі пры гутарцы з Каленбрунам тады ў бары. Грозныя паўсталі цені так, як тады, адчуванне няпэўнасці, гідкае адчуванне гэтае ахапіла маёра... Чалавек-жа ідзе на смерць! Чаму так спакойны і цвёрды гэты чалавек?!

А Дроб азірнуў пакой. Дзіўна! Ён у апошні раз бачыць асветлены пакой. Ён жыве апошнія поўгадзіны. Потым — небыццё... Адсутнасць Дроба на планеце. Распадаецца адзінка чалавека. Што-ж, застаюцца жыць і змагацца мільёны людзей! Дроб ведае сутнасць жыцця і сэнс смерці.

Пферц-Дабравольскі яшчэ раз махнуў рукой.

— Вядзіце!

І калі звярнуўся ў пакой камендант — маёр сядзеў ссутулены ў крэсле.

— Пане маёр, рашучымі мерамі бунт ліквідаваны! У турме спакойна. З'явіўся паводле вашага загаду, пане маёр.

— Вазьміце асуджанага, камендант.

Пферц-Дабравольскі ўстаў і абапёрся абодвума рукамі аб берагі стала, нахіліўся над ім. У яго пачырванеў твар.

— Вазьміце асуджанага і... паспрабуйце на ім сваю шаблю, камендант!

— Слухаю, пане маёр! А як быць з доктарам і святым айцом?

— Пашліце іх...

Маёр пачырванеў яшчэ больш.

— Гэтага доўгаполага гультая адпраўце дадому. А доктара можна пакінуць тут. Ён павінен падпісаць акт аб тым, што асуджаны расстрэлены. Напішыце: пяць куль. І фотакартку мне, як і заўсёды. Вы здаволены, камендант?

—Вельмі. Мая шабля заржавела, пане маёр.

Камендант звоніць шпорамі і прыціскае руку да грудзей.

— Ідзіце, камендант. Я дараваў вам вашу віну.

Седзячы каля стала, Пферц-Дабравольскі слухаў.

Цераз пяць хвілін міма вокнаў прашумела машына. Дроба павезлі. Больш не будзе Дроба. Цікава, які атрымаецца фотаздымак. Ва ўсякім разе — нядрэнны экспанат у калекцыю маёра. Нядрэнны! Цікавы экспанат!.. Досыць! Даволі няпэўнасці! Для інстытутак страхі, а не для такіх людзей, як Пферц-Дабравольскі. Досыць страхаў і няпэўнасці! Гэта — для баб!

Маёр апрануў пальчаткі. Ад'ютант адчыніў перад ім дзверы.

Маёр вышаў на ганак, і нізкая машына бясшумна падышла да прыступкаў ганка. Шофер выскачыў і адчыніў дзверцы.

Але сесці маёр не паспеў.

На двор турмы, асляпляючы святлом, уляцела гэтакая-ж нізкая, бліскучая, бясшумная машына.

— Машына генеральнага штаба, — падумаў Пферц-Дабравольскі, — Каленбрун?!

Гэта быў Каленбрун. Ён саскочыў яшчэ на хаду.

— Дзе Дроб?

— Павязлі, — спакойна сказаў Пферц-Дабравольскі, — ён адмовіўся ад паказанняў.

— Неадкладна ўслед матацыкл! Неадкладна даставіць сюды!

— Дроба!?

— Дроба! — крыкнуў нечакана Каленбрун. — Дроба, гэтага лайдака, будзь ён пракляты!

І, штурхнуўшы плячом Пферц-Дабравольскага, Каленбрун прабег у дом.

Пферц-Дабравольскі пастаяў у нерашучасці і пацiснуў плячыма.

— Нічога не зразумець, што дзеецца...

І ён павярнуўся да дзвярэй. І тут зноў ледзь не збіў яго з ног Каленбрун, следам за якім бег начальнік турмы. Пферц-Дабравольскі адчуў сябе абражаным. Справы рабіліся так, як-бы маёр, па меншай меры, быў кавалкам дрэва. З ім яўна не лічыліся.

— Матацыкл! Рассыльны матацыкл! — загадваў Каленбрун, бегаючы па двары. — Хутка! Хутчэй!

Затрашчаў матацыкл. Святло яго фары лізнула асфальт двара.

— Заставайцеся тут, маёр! — крыкнуў на хаду Каленбрун з кабінкі матацыкла.

Матацыкл вылецеў з двара.

Пферц-Дабравольскі нездаволена паглядзеў на гадзіннік. Пара ўжо было ехаць дадому.

— Не магу сабе ўявіць, што тут робіцца. Там, дзе гэты Каленбрун, заўсёды няма спакою. Там заўсёды гвалт, трукі, чартаўшчына, паляруш яго матары! Геніяльны чалавек, але шум каля яго заўсёды, як на вакзале!

Пферц-Дабравольскі пастаяў яшчэ і павярнуўся да дзвярэй.

Як цень, мятнулася ўбок і застыгла каля сцяны постаць вартавога.

Ззаду хлопнула дзверка аўто. Ад'ютант дагэтуль трымаў яе адчыненай.

Пферц-Дабравольскі ўвайшоў у той-жа пакой, дзе і быў.

І тут яму прышло да памяці:

— ... Я адпраўляю вас у пекла, Дроб!

Гэта сказаў ён, Пферц-Дабравольскі. Яго слова закон. А вышла інакш. Аказваецца, Каленбрун змяняе закон. Каленбрун прывязе Дроба назад. Пферц-Дабравольскі ўбачыць Дроба, якога па свайму беспаваротнаму рашэнню паслаў на смерць. Значыць, ёсць людзі, якія маюць права адмяняць законы Пферц-Дабравольскага. Паглядзім! Убачым, сто чартоў вашай матары, выскачка, творца тэорый! Вашай геніяльнасці ніхто не адмаўляе, але не будзьце свіннёй, маёр Каленбрун! Не лезьце туды, куды не трэба! Памятайце, што Пферц-Дабравольскі не палена дроў! Прыміце пад увагу, што палітычная паліцыя — арганізацыя, з якой патрэбна лічыцца.

Пферц-Дабравольскі штурхнуў нагой крэсла, кінуў пальчаткі на стол і сеў на рог стала.

— Я вам пакажу, як спыняць прыгаворы ваеннапалявога суда!

І тут непрыемная дэталь ўключылася ў бег разгарачаных думак маёра.

— А шабля!?? А камендант? А доктар, які павінен падпісаць акт аб расстрэле тады, як Дроб будзе зарублены камендантам? А фотакалекцыя?! Што, калі ўсё гэта прасочыцца ў комуністычную прэсу? Што тады?

Маёр скрыпнуў зубамі.

Не! З гэтым Каленбрунам сапраўды нельга цягацца. Каленбрун не застановіцца ні перад чым. Хто іх ведае, як там павярнуліся справы, якую каштоўнасць набыў гэты Дроб, што Каленбрун паляцеў праз ноч, услед Дробу, на злом галавы!

— О-о-о!! — прастагнаў маёр скрозь зубы.

У гэты момант — матацыкл ляцеў шалёным ходам па шашы. Каленбрун, кусаючы губы, углядаўся ў ноч, і яна ішла насустрач яму з густым ветрам і пылам з-пад калёс матацыкла.

— Газ! Газ, шофер!

І шофер даваў газ...

І вось — Дроб увайшоў у пакой, у той самы пакой, з якога выходзіў поўгадзіны таму назад. Ён увайшоў у пакой хісткім крокам. Ён быў бледны, і кроплі поту яшчэ не высахлі на скронях. Гэта быў не той Дроб, які поўгадзіны назад выходзіў з пакоя для таго, каб зрабіць крок у вечнасць. Гэта быў чалавек, які сваімі вачыма бачыў сваю смерць і прышоў назад з небыцця.

Следам за Дробам увайшоў Каленбрун.

Бледным быў і Каленбрун. Шрам выпінаўся шырокім, сінім пісагом наўкос твара. Не было манокля і мёртва паблісквала непрыкрытая моцным шклом пратэза. Каленбрун сарваў з галавы шапку і кінуў яе некуды ў кут. Падбег ад'ютант Пферц-Дабравольскага, падняў яе і беражна ачысціў рукавом.

— Вон!!! — хрыпла сказаў Каленбрун. — Усе вон!

Ад'ютант, камендант, двое вартавых — бяззычна зніклі з пакоя. Каленбрун падышоў да дзвярэй і пакруціў гузік французскага званка. Потым адвярнуўся ад дзвярэй, стаў, шырока расставіўшы ногі, і, схіліўшы галаву, глянуў шкляным сваім поглядам на Дроба. Той стаяў каля сцяны, прысланіўшыся да яе, і зноў ужо спакойна глядзеў на Каленбруна. Дроб убачыў, як скрывілася знявечаная, дзікая маска, як бліснулі ўсмешкай крывыя залатыя каронкі зубоў.

— Ну, Дроб?

Дроб маўчаў.

— Ну-у-у-с, Дроб?

Пферц-Дабравольскі грузна варухнуўся ў крэсле. Ён маўкліва сачыў за ходам падзей.

— Н-ну-у-с, Дроб!! — нарэшце, сказаў Каленбрун. —

Сядайце, сядайце, паважаны пане Дроб! Мы будзем з вамі мець размову!

— Спадзяюся, вы не будзеце распытваць мяне аб уражаннях, як ваш дастойны калега?

Дроб паказаў у бок стала.

Адрузлы твар Пферц-Дабравольскага стаў багрова-чырвоным. Ён сапнуў носам, але нічога не сказаў.

— У нас з вамі будзе цікавая размова, Дроб, — паўтарыў Каленбрун. — Прашу вас, сядайце.

Ён яшчэ бліжэй пасунуў крэсла да Дроба.

І Дроб сеў, выцягнуўшы наперад рукі, скручаныя нікеляванымі бранзалеткамі. Ён сядзеў каля стала паміж Каленбрунам і Пферц-Дабравольскім. Каленбрун, схіліўшы галаву набок, аглядаў адзіным сваім вокам сухаваты, нахілены профіль Дроба.

— І так, Дроб, — сказаў Каленбрун, — у нас ёсць да вырашэння пара пытанняў. Спадзяюся, вы на іх адкажаце.

Пферц-Дабравольскі зноў варухнуўся ў крэсле. Ён быў абсалютна нездаволены сваім становішчам, абсалютна не ведаў, як уключыцца ў ход падзей, бо нічога не разумеў з таго, што адбывалася перад вачыма.

— Першае пытанне: вы не знаёмы, Дроб, з мерапрыемствам, што носіць назву «Тэорыя Каленбрун»?

Востры погляд адзінокага вока ўсё-ткі не заўважыў лёгкай цені на твары Дроба.

Але ў гэты момант ускочыў у крэсле Пферц-Дабравольскі.

— Вы... Вы ненармальна адчуваеце сябе, маёр? — спуджана спытаў ён хрыплым голасам. — Вы... Вы...

Каленбрун падняў руку.

— Спакойна, калега! Паручнік Рыдэль і яго праважаты дасяглі мэты!!!

І ў гэты момант выразна ўздрыгнуў Дроб і глянуў у бок Каленбруна. Але ні Каленбрун, ні Пферц-Дабравольскі не заўважылі яго руху. Каленбрун самаздаволена ўсміхаўся, выцягваючы далонь да Пферц-Дабравольскага, а ў таго зыходзіў з твару зазлаваны і нездаволены выраз. Пферц-Дабравольскі ўжо ўсміхаўся, паглядаючы на адточаныя, шліфованыя пазногці маёрскай рукі. Гэтыя людзі былі заняты сабою ў той момант, калі ўздрыгнула радасцю ўся істота Дроба. А Дроб уважліва агледзеў

абодвух. Не было сумнення. Каленбрун гаварыў праўду. І Дроб з аблягчэннем уздыхнуў.

— Гэта — нябожчык, — працягваў Каленбрун, ківаючы ў бок Дроба.—Пры ім можна гаварыць усё, што хочацца. Вам падабаецца гэты камплімент, Дроб? Не падабаецца? Я бачу, што не падабаецца, хаця вы і маўчыцё.

Пферц-Дабравольскі ўсміхнуўся здаволены. Гэта быў яго, Пферц-Дабравольскага, тон. Гэта была яго школа. Усё-ткі, патрэбна адзначыць, Каленбрун — надзвычайна здольны чалавек. Ён умее выбраць каштоўнае і далучыць яго да сваёй практыкі.

— Я бачу, што вам не падабаецца, — працягваў Каленбрун. — Калега Дабравольскі паспяшыў пазнаёміць вас з вашымі прадзедамі. Мне прышлося праехацца на матацыкле. Рэкордная, ведаеце, работа, ехаць максімальным ходам па прасёлках. Па шашы — нічога яшчэ, а вось прасёлкамі — даволі рызыкоўна. Але, як-бы там ні было, я адтэрмінаваў вашае знаёмства з нябожчыцай-бабуляй, Дроб. У аддзяку вы павінны адказаць мне на пару пытанняў. Гэта важна для мяне, і вы павінны мне аддзякаваць, Дроб. Нельга-ж дапусціць, каб пасля вашай смерці стары Каленбрун нерваваўся і непакоіўся пасля ўсяго таго, што ён для вас зрабіў. Старых патрэбна шанаваць, малады чалавек!

Пферц-Дабравольскі падпёр кулакамі пухлыя шчокі, і твар яго расплыўся ў здаволенай усмешцы. Абсалютна здольны, геніяльна-здольны чалавек гэты Каленбрун!

— Я зараз вазьму быка за рогі, калега, — сказаў Каленбрун і павярнуўся да Дроба. — Адкажыце, малады чалавек, на мае пытанні, і ўсё будзе ў парадку. Вы, дарэчы, можаце пастарацца захаваць сваё жыццё. Мы гэта прымем да ўвагі. Адкажыце, дзе вы былі цэлыя дзве гадзіны, калі з'яўляліся ў штабе начальнікам унутранага каравула трэцяга паверха; затым адкажыце мне яшчэ: ці ведалі вы адну асобу па прозвішчы Марцін Крамарчык, ці сустракаліся вы з ім уночы ў Белым парку на пешаходным мастку і ці заходзілі вы перад гэтым у пошуках Крамарчыка ў той-жа дзень у маленькі домік на вуліцы святога Францыска; і, акрамя таго, адкажыце на тое пытанне, якое я вам задаваў спачатку: ці ведаеце вы што-небудзь аб мерапрыемствах пад агульнай назвай «Тэорыя Каленбрун», і ці не знаходзіцца ваша адсутнасць у час каравула ў штабе і вашы сустрэ-

чы з Крамарчыкам у якой-небудзь сувязі з «Тэорыяй Каленбрун»?

І тут Дроб таксама вырашыў узяць быка за рогі.

— Я адкажу, — сказаў Дроб, — хаця не думаю, што вы ад гэтага супакоіцеся. Вам нельга адмовіць, Каленбрун, вы адшукалі ніць. Усё гэта знаходзіцца ў самай блізкай сувязі з «Тэорыяй Каленбрун». Я адкажу вам на пытанні. Мая адсутнасць у штабе тлумачыцца тым, што я стаяў за шырмай у вашым кабінеце, калі вы знаёмілі вашага калегу з планам...

— Што-о-о?!!

Каленбрун устаў. Мертвенная бледнасць заліла твар. Шрам набрак сіняй крывёй. Трэсліся рукі і губы дрыжэлі.

— Што-о-о?!!

Пферц-Дабравольскі асеў грузнай кучай за стол. Ён ціскаў тугое сукно мундзіра, стараючыся стрымаць гвалтоўнае біццё сэрца.

—... я нават сядзеў на канапцы за шырмай і, калі-б не ваш японскі замок, я-б пастраляў вас там, панове. Потым сустрэў Крамарчыка ў Белым парку і перадаў яму змест вашага плана.

Каленбрун шалёна кусануў губы і ўпаў у крэсла. Яго шкляны погляд сустрэўся з перапуджанымі, вырачанымі вачыма Пферц-Дабравольскага.

— Вы, бясспрэчна, не маглі быць спакойнымі пасля маёй смерці, Каленбрун. Ваша агентура ўстанавіла, што я ведаў Крамарчыка, што я знік недзе ў штабе ў час дзяжурства, і гэта магло мець сувязь з вашым кабінетам. У вас былі падставы для неспакою. Гэта сапраўды пагражаючыя дэталі. Я выпадкова трапіў у кабінет, Каленбрун. Але я не выпадкова аформіў свае палітычныя погляды ў тую ноч, не выпадкова стаў комуністам.

Каленбрун і Пферц-Дабравольскі маўчалі. Па сіняму, голенаму падбародку Каленбруна сцякаў ценькі струменьчык крыві ад закушаных губ. Пферц-Дабравольскі глыбока і цяжка дыхаў, расціраючы грудзі пад расшпіленым мундзірам...

— Я зраблю ўсё для таго, каб вы былі спакойны пасля маёй смерці, панове! — сказаў Дроб. — Я скажу вам яшчэ больш: вы памыліліся, Каленбрун. Не паручнік Рыдэль дасягнуў мэты, а Крамарчык, яго праважаты, як вы сказалі. Там, куды яны прышлі, можаце быць

упэўнены, ужо добра ведаюць, што Адам Турчын, рабочы, металіст, ёсць на самай справе шпіён, афіцэр контрразведкі — паручнік Рыдэль.

Каленбрун выцягнуў руку ў бок Дроба, як-бы абараняючыся ад яго слоў. Дзікі твар яго карэжыла сударага.

— Усе вашы махінацыі з арыштамі, з допытамі дзяржаўных пракурораў, якія на самай справе былі звычайнымі шпікамі, усе маскарады Рыдэля-Турчына, які прыязджаў у турму з нагрыміраванымі сінякамі на машыне ў той час, як Крамарчык збіты ляжаў у камеры; уся гэтая хітрая і глыбока задуманая махінацыя «Тэорыя Каленбрун» была выкрыта намі, пачынаючы ад забастоўкі на «Нептуне» і канчаючы арыштам Рыдэля-Турчына, які, дарэчы, так «мужна» абараняўся. Мы ведалі ўсё аж да таго моманту, пакуль не быў «арганізаваны» вашымі філерамі, Пферц-Дабравольскі, так званы пабег і пакуль Крамарчык і Рыдэль-Турчын не накіраваліся па маршруту. Мне невядома было, ці дайшоў Крамарчык да мэты, і я, безумоўна, у такім выпадку вам нічога не сказаў-бы. Але вы, Каленбрун, любезна мяне аб гэтым паведамілі, і от я зраблю ўсё, каб вы былі спакойны пасля маёй смерці.

Дроб выпрастаўся.

— Вы хацелі пад шыльдай Крамарчыка, Каленбрун, закінуць як мага глыбей свайго шпіёна на тэрыторыю Саюза рэспублік. Вы ўпіхнулі Рыдэля на «Нептун», папярэдне прымусіўшы яго вывучыць такарную справу ў вайсковых лабараторыях. Ён улез у рабочае і партыйнае асяроддзе для таго, каб фігураваць як комуніст, каб набыць такую палітычную вагу ў вачах партарганізацыі, каб было гарантавана не толькі поўнае давер'е з боку падполля, але і тое, што яго прымуць як друга і баявога таварыша Крамарчыка з распрасцёртымі абдымкамі пролетарыі СССР. Ён працаваў пад вашым непасрэдным кантролем, баяўся зарывацца, але вы не пазбеглі яго ўдзелу ў забастоўцы «Нептуна». Ён быў вымушаны ўдзельнічаць, бо масы прышлі ў рух. Дорага вам гэта абышлося! Усё, усё ад пачатку да канца было вядома нам. Авантура ў класавай барацьбе бяссільна. Яе выкрываюць масы. І яе выкрылі.

Дроб усміхнуўся.

— Я магу задаволіць вашу зацікаўленасць, Пферц-

Дабравольскі. Падручны правакатар Ярош Гагай расстраляны, як шалёная сабака, адным з членаў партарганізацыі. Пасля таго, як Рыдэль-Турчын павінен быў прывесці Крамарчыка ў СССР і цераз шэсць месяцаў застрэліць яго там...

Дроб адвярнуўся да Каленбруна.

— ... Памятаеце, Каленбрун, пункт плана: «стрэл у патыліцу»?!

Дроб паглядзеў на Пферц-Дабравольскага.

— Але раней яшчэ, як толькі Рыдэль-Турчын дасягнуў-бы сваёй мэты, — Ярош Гагай аддаў-бы ў вашы рукі, Пферц-Дабравольскі, партыйную арганізацыю «Нептуна». Гэта была ваша доля здабычы. Не сталася ні таго, ні другога. Гагай ляжыць з прастрэленым чэрапам, і не Рыдэль, а Крамарчык дасягнуў мэты з усімі выцякаючымі з гэтага вынікамі для Рыдэля. Мы бачылі ваш наступ пад сцягам адступлення, Каленбрун. Мы забяспечваем свае тылы ў класавай барацьбе, ахоўваем іх. Ваша салдафонская догма, Каленбрун, абанкроцілася.

І Дроб змоўк. Ён агледзеў абодвух. Яны сядзелі аглушаныя, у тых-жа позах.

— Вось усё, — сказаў Дроб. — Я зрабіў усё для таго, каб вы былі спакойнымі.

Стала ціха. Потым Каленбрун працягнуў руку да электрычнага званка. У пакой уляцеў камендант.

— Узяць... — хрыплым шэптам, паказваючы на Дроба, сказаў Каленбрун. — Узяць... Трымаць... да загаду...

Дроба вывелі.

І тады ўстаў Каленбрун. Ён тросся ў ліхаманцы. Ён прыціскаў далонь да галавы. У склёпках чэрапа страшная гнездзілася боль.

— Іх нельга было знайсці... — задушана хрыпнуў Каленбрун. — Крамарчык выбраў маршрут, які дагэтуль не ўстаноўлены... Крамарчык вёў Рыдэля так, што абмінуў усе засады і пасты, якія былі выстаўлены. Падазрэнне з'явілася ў мяне, як толькі быў знойдзены труп Гагая і было высветлена, што Рыдэля на маршруце няма. Аказалася, другім маршрутам вёў яго Крамарчык... правёў за максімальна кароткі час... Аказалася... тапіўся знямоканы Рыдэль пры пераходзе граніцы, і яго ратаваў Крамарчык для таго... каб... для... для таго, каб... О-о-о! Бедны... бедны юнак, паручнік Рыдэль!!! Яго сустрэў трагічны лёс!!!

Каленбрун схапіўся за галаву і застагнаў.

— І самае страшнае, самае страшнае падазрэнне было ў мяне, калі выявілася, што... Дроб... мог быць у маім кабінеце і пасля гэтага гаварыць з Крамарчыкам. Страшнае падазрэнне... Страшнае падазрэнне... апраўдалася...

І тады грузна, апіраючыся на стол, устаў Пферц-Дабравольскі. Знікла здань славы ў сакрэтных архівах, зніклі мары аб высокіх узнагародах, аб шырокіх генеральскіх эпалетах.

— У мяне самае страшнае падазрэнне апраўдалася,— сказаў Пферц-Дабравольскі. — Падазрэнне, што вы — дурань! Што вы — вар'ят, Каленбрун! У вас кабінет — для адпачынку дзяжурных сержантаў... У вашых сакрэтных сейфах, чорт вашу душу пабяры, мабыць, куры нясуць яйкі! У вашым гумовым чэрапе — павуцінне і смецце! Дурань! Ідыёт! Пустышка! Тэорыі прыдумаў!.. Пагубіў людзей! Паручніка Рыдэля пагубіў!.. Шпора Рыдэля варта вашай дурацкай гумовай балды!.. «Тэорыя Каленбрун»! Імшу я за яе павінен быў ставіць!.. Стары дурань, развесіў вушы... Ганьбай сябе пакрыў разам з вамі!.. Што-о-о!!? Маўчаць!!!

І тады Каленбрун кошкай скочыў да стала.

— Што-о-о!!! Мне маў-ча-а-аць?? Я ідыёт?! З кім вы гэта?!! Са мной?!

Каленбрун сударагліва ірвануў кабуру. Сіне бліснуў рэвальвер.

— В-вон! В-вон у адну секунду! Абраза майго мундзіра! Маіх ран і ордэнаў абраза! Вон, тоўстая смуродная свіння! Заўтра — афіцэрская дуэль! Вон, або здохнеш!

Рэвальвер глянуў у багровую ашчэраную морду Пферц-Дабравольскага. Каленбрун тросся і ляскаў зубамі, цэлячы ў яго. Вочкі Пферц-Дабравольскага заліла жудасць. Ён сарваўся з месца, куляй вылецеў з-за стала, ударыўся аб дзверы і ўспацеў смяротным потам, адшукваючы гузік замка. Ён, нарэшце, адшукаўся. Стрэла не паследавала. Пферц-Дабравольскі вырваўся ў поўцёмны калідор, наступіў на ногі ад'ютанту і памчаўся па калідоры, кідаючы аб сцены сустрэчных вартавых. За ім, прытрымліваючы шаблю, зграбна бег бліскучы ад'ютант.

— Машыну! — загарлаў Пферц-Дабравольскі на два-

ры. — Машыну сюды, галганы, лайдацтва, чорт душу вашай матары!!!

Бясшумна падкацілася машына.

У гэты час у пакой да Каленбруна прывялі Дроба. І зноў яны засталіся ўдвух. Каленбрун падышоў да Дроба.

— Вы мужны чалавек, Дроб, — сказаў ён. — Вы больш мужны, чым усякі іншы нябожчык. Я не дапушчу, каб вас рубілі шабляй, як гэта хацеў зрабіць садыст Дабравольскі. Вам патрэбна паставіць помнік як чалавеку, што знішчыў вялікага Каленбруна.

Знявечаная маска з зялёным злавесным бляскам пратэзы, скарэжаная ўздутым сінім шрамам, нахілялася над бледным тварам Дроба. Мужна глядзелі шэрыя зімныя вочы насустрач ёй.

— Вы павінны загінуць ад кулі, Дроб! — сказаў Каленбрун.

Дроб глядзеў на яго, у зялёны шкляны погляд сваёй смерці. Зараз будзе смерць. Што-ж! Дроб ведае сутнасць жыцця і сэнс смерці сваёй! Ён аб гэтым думаў многія дні і ночы да прысуду і пасля. Што азначае смерць, адрантвенне і распад матэрыі дробнай чалавечай адзінкі тады, як застаюцца жыць і змагацца мільёны!

— Бывайце, Дроб! — сказаў Каленбрун і пайшоў да дзвярэй.

Дроб застаўся на месцы. Ён сядзеў бокам да дзвярэй, на крэсле, выцягнуўшы перад сабой скаваныя рукі.

Каленбрун вышаў у калідор і зачыніў за сабой дзверы. Каля дзвярэй стаяў вартавы.

— Вон! — ціха сказаў Каленбрун скрозь зубы.

І вартавога, нібы віхрам, змяло з месца.

Тады Каленбрун хутка адчыніў дзверы, выкінуў уперад руку, і ў пакоі гулка грымнула. Каленбрун зараз-жа зачыніў дзверы і праз момант зноў адчыніў іх. Усё было скончана. Яшчэ ніколі не прамахваўся «Кольт» Каленбруна.

Дроб сядзеў у крэсле ў той-жа позе. Ён выцягнуў перад сабой скаваныя рукі свае і звесіў на плячо белакурую галаву. Так загінуў сержант Дроб, комуніст Станіслаў Дроб, сын пролетарыя Лукаша. Так прышло адрантвенне дробнай чалавечай адзінкі для таго, каб яшчэ больш узмацніўся грандыёзны штурм мільёнаў.

Каленбрун некалькі хвілін стаяў у дзвярах, потым зачыніў іх. Ён пайшоў па калідоры без шапкі, хісткім, няпэўным крокам. Страшная боль гняздзілася ў чэрапе, там, дзе завіхлястыя шчыліны яго склёпаны выдатнымі французскімі хірургамі.

Падышла машына.

Каленбрун упаў на пругкія падушкі сядзення.

Пагроза!!! Страшныя кашмары!!! Кожная вуліца — іх акоп, кожны завод — іх цытадэль і дывізія варожых сіл! Няма сродкаў барацьбы! Вораг навокал, на зямлі, угары і ў паветры. Чырвань полымя навокал... Чырвань! Чырвань полымя, крыві, сцяга! Бяспомачны Каленбрун... Няма сродкаў барацьбы... Няма нічога... Пустата... і пагібель...

. . . . . . . . . . . . . . .

Машына ляцела па пругкаму асфальту шырокага праспекта. Нізкая, бліскучая, бясшумная машына віхром пралятала міма пастоў паліцыянтаў, асляпляючы іх святлом сваіх фар. І яны, асепленыя, казыралі ўслед машыне, бо на яе радыятары трапятаў сцяжок з адмысловым вензелем генеральнага штаба.

Вёў машыну шофер Каленбруна, бравы капрал, перавязаны рэмнямі са значком свастыкі на кабуры. Умеў вадзіць машыну шофер Каленбруна і ведаў, што падабаецца высокай персоне захапляючы ход машыны, хуткі, маланкавы лёт яе. І ён чакаў заахвочваючых рэплік шэфа. Але іх не было. Было цёмна ў пасажырскай кабіне. Шэф, відаць, адпачываў.

І нездаволены шофер узнімаў максімальны ход. Скрозь люстравое шкло наперадзе ён бачыў пусты начны праспект. Пралятаў скрыжаванні вуліц, нарасталі ўперадзе і праваньваліся некуды назад агромністыя глыбы камяніц. Шофер узнімаў ход. Казыралі паліцыянты.

І раптам — маланка асвятліла машыну, гулкі ўдар разлёгся ззаду. Шофер рэзка затармазіў.

— Шына! — падумаў ён і выскачыў з машыны.

Шыны ўсе былі ў парадку.

Шофер пастаяў адзін момант, мяркуючы, і тады едкі, саладкаваты пах дыму ўпоўз яму ў ноздры. Паралізаваны страхам шофер ірвануў да сябе дзверку пасажырскай кабіны. І адтуль безуладна вывалілася рука і на падножку бразнуў рэвальвер.

Шофер, удалы капрал, кінуўся бегчы ад машыны. Але паліцыянт з паста ўжо бег насустрач шоферу. Гэта быў таксама капрал, паліцэйскі капрал.

— Засведчыце, пане капрал... — задыхаючыся, сказаў шофер, — толькі што, на хаду машыны... пакончыў з сабой стрэлам у галаву... начальнік аддзела разведкі генеральнага штаба... маёр Каленбрун... Выклікайце начальства...

Так прайшла і загінула, не дасягнуўшы мэты сваёй, класавая авантура пад дэвізам «Тэорыя Каленбрун».

*1933 г.*

## *Герой нацыі*

Каб гер Отто Шульц не курыў сігарэты, можна было-б палічыць яго за манекен, што дэманструе вячэрні гарнітур. Ён быў выпрастаны ў такой ступені, як гэта толькі магчыма для чалавека наогул. Пагардлівыя лініі губ і рэзкія складкі на шчоках, упэўненымі і раз назаўсёды застылымі штрыхамі нязломнай волі, сцягнулі сухаваты твар. Сінія акуляры хавалі яго вочы ад дзённага святла і ад поглядаў людзей. Так выглядае чалавек, што з дзяцінства прывык загадваць; такі выгляд меў чыстакроўны арыец, дырэктар канцэрна, кавалер і айцец нацыі гер Отто Шульц.

Як сказана вышэй, гер Шульц курыў. Сіняе воблака дыму было фіміямам богу чорнай індустрыі над алтаром яго — тоўсталапым, прысадзістым рабочым сталом. Як сказана вышэй, галоўны жрэц гэтага бога, гер Отто Шульц, стаяў нерухома.

Перад ім знаходзіўся чалавек, якога звалі проста: Штангe. Ён стаяў на адной назе і глядзеў у сіняе шкло. Было зусім ціха ў кабінеце. Косыя праменні сонца ўсцілалі паркет.

Штанге балела галава. Востры боль узняўся да такой ступені, што здавалася: папіскваe, віскоча ціхенька тоненькая дрыготлівая жылка ў левым віску. Але Штанге цярпліва стаяў і пакорна глядзеў у сіняе шкло.

Геру Шульц нічога не балела. Яму проста, мабыць, падабалася гіпнатызаваць гэтага калеку, што асмеліўся ўступіць у святая-святых храма грознага і магутнага бога. А, магчыма, гер Шульц у гэты час думаў, і сінія аку-

ляры яго, як непранікнёныя застылыя вочы ўдава, чыста выпадкова накіраваны былі на няшчаснага труса.

Адным словам, прайшло досыць часу, пакуль сеў у крэсла манументальны гер Шульц. І яшчэ хвіліна прайшла, пакуль расклеіліся вусны патрона і кавалера, і голас яго разлёгся ў глухой кабінетнай цішы:

— Я вас памятаю, Штанге. Вы тады былі юнаком і гэтак-жа, як цяпер, стаялі супроць майго стала. Вы некалькі змяніліся... Але не змяніліся, відаць, абставіны. Вы зноў стаіце супроць майго стала. Чым стары Шульц можа быць вам карысны?

І перш чым Штанге здолеў адказаць — жэст:

— Дарэчы, сядайце!

Штанге ступіў крок назад, спаткнуўся на крэсла і ўпаў у яго вельмі нязграбна. Звычным рухам ён адшукаў вышэй калена металічны гузік. Пружына суха шчоўкнула. Нага сагнулася. Маршчыны на ілбе дырэктара ўзняліся і апалі, як узнімаюцца і ападаюць складкі шторы.

— Пратэз?

— Пратэз, — прашаптаў Штанге.

— Дзе?

— Пад горадам Мерыкур. Я служыў у пятнаццатым Браўншвейгскім палку.

— Пятнаццаты Браўншвейгскі полк?!

— Так. Я салдат гэтага палка, гер Шульц.

Сонечны зайчык успыхнуў на сінім шкле.

— Мой сын, афіцэр вашага палка, Гастон Шульц, у пачатку вайны атрымаў цяжкае параненне. Адзін з салдат вынес яго на плячах з зоны бою. Што вы кажаце, Штанге?

— Выбачайце... Я кашляю...

— Гэта геройскі ўчынак: вынесці на плячах свайго афіцэра. Вы памятаеце гэты выпадак, Штанге?

— Памятаю, гер доктар.

Дырэктар адкінуўся на спінку крэсла і крыху падумаў.

— Вы, бясспрэчна, прышлі прасіць работу?

І рукой папярэдзіў Штанге, калі той паспрабаваў устаць.

— Немагчыма. Металургіі патрэбны здаровыя людзі.

Штанге дакрануўся рукой да потнага віска. Вісок быў ліпкі, як-бы акрываўлены.

— Я... мог-бы выконваць чарцёжныя работы... гер

доктар. У мяне пры смерці жонка... Я два гады без работы...

— Вы атрымоўваеце дзяржаўную субсідыю, Штанге.

— Але... гер доктар...

— Я разумею. Вы павінны таксама разумець. Дзяржава — не гадавальнік для людзей, што па тых ці іншых прычынах страцілі працаздольнасць. Дзяржава вылучае частку сродкаў. Трэба мужна пераносіць іспыты лёсу!.. Што-ж датычыцца чарцёжнай работы, то заўважце: яны ў нас надзвычай скарочаны, і пры тым яшчэ, — мы маем поўны камплект абсалютна працаздольных людзей. Усё. Я скончыў, Штанге...

На ілбе дырэктара апалі складкі. Заслона апушчана.

— Публіка пакідае тэатр задаволенай, — успомніў Штанге. Так гаварыў Эрнст Вількe, той самы, што вісеў два з паловай месяцы на дроце французскіх акопаў... Калі нямецкія часткі дарваліся, нарэшце, да першай лініі ворага, ашчэраны страшнай усмешкай вітаў іх Эрнстаў чэрап. Гэта было ўсё, што засталося ад вясёлага сына панурых Саарскіх шахт.

— Спектакль скончыўся. Публіка пакідае тэатр задаволенай.

Так гаварыў Эрнст, калі праязджалі грузавікі, напоўненыя трупамі германскіх і французскіх салдат. Мусіць, і сам Эрнст быў задаволены тым, што прышла яго чарга... Інакш чаго смяяўся лысы чэрап, калі прабіваліся да яго таварышы, перамагаючы ўраганныя смерчы агню французскай артылерыі, і пераможаныя самі падалі дзесяткамі і сотнямі!!!

Зазвінеў тэлефон. Дырэктар узяў трубку. Складкі ўзняліся і застылі, падабраныя адна да адной: гэта была гафрыраваная сталь.

Штанге сядзеў у крэсле згорблены. Ён прыціскаў пальцамі дрыготлівую жылку віска. У грудзях, нібы волавам налітыя, пахрыпвалі прабітыя лёгкія. Падцягнуты пусты жывот скручваў усю істоту ў суцэльны ком болю і цярпення.

... Цяпер зразумела, чаму смяяўся Эрнст... Весела было гойдацца на дроце яго лёгкаму шкілету пад гвалтоўнымі вятрамі мёртвых палёў вайны... Для яго спектакль быў скончаны. Для другіх-жа ён яшчэ пачынаўся. І от, цяпер толькі, праз дваццаць гадоў, прысутнічае Штанге на апошняй дзеі свайго спектакля...

Але Штанге паспрабуе змяніць фінал! Гэтаму аддасць ён у ахвяру ўсё, што насіў, хаваючы ад другіх, каб у патрэбны час адпомсціць за цяжкае і непапраўна знявечанае жыццё.

Дырэктар паклаў трубку.

— Вы яшчэ тут, Штанге? Я вам сказаў: размова скончана.

— Гер доктар!

— Вы не павінны злоўжываць маёй увагай, Штанге!

— Гер доктар!

Штанге павысіў голас. Яму здавалася, што ён крычыць.

— Гер доктар! Гэта я вынес вашага раненага сына... лейтэнанта Гастона Шульца!

Складкі пераблыталіся. Гэта не была гафрыраваная сталь. Гэта было здзіўленне і разгубленасць.

— В-вы? Нічога не разумею!

Штанге, спяшаючыся, дастаў з кішэні скрутак папер, адшукаў пажоўклую газетную выразку з шэрай плямай фото.

Дырэктар пасунуў акуляры на лоб, і цвёрдыя сінявата маленькія вочкі прыжмурыліся ў пухліне павек.

Герой нацыі

... Такі загаловак мела заметка.

«Нашы салдаты — узор баявога германскага духу. Наша армія — жалезная сіла, што змяце ворага з твару зямлі. Патрыятызм нямецкага народа, вялікае нацыянальнае еднанне ў суровы час богам пасланых іспытаў — залог перамогі Германіі і саюзных дзяржаў.

На вышынях 106, якія атакоўваў 15 Брауншвейгскі полк, знаходзячыся наперадзе сваіх салдат, амаль ужо дасягнуўшы загараджэнняў французаў, упаў цяжка ранены лейтэнант Гастон Шульц. Не спыняўся агонь артылерыі... Камандаванне змяніла кірунак націску, засяродкаваўшы цэнтр удару на іншы сектар французскай абароны. Ранены лейтэнант застаўся адзін у сферы ўраганнага артылерыйскага агню, які не спыняўся потым на працягу многіх гадзін. Лёс лейтэнанта, здавалася, быў вырашаны загадзя...

Але па полі поўз салдат гэтага палка Франц Штанге. Ён бачыў, як упаў яго афіцэр, і пастанавіў вынесці лейтэнанта на сваіх плячах. Рваліся снарады. Град асколкаў, грандыёзныя выбухі, феерверк агню і жале-

за!! Франц Штанге ішоў ратаваць раненага альбо хоць вынесці яго цела, рызыкуючы сваім жыццём».

— Гм!!!

Дырэктар перавёў погляд на фото. Так! Гэта той самы Штанге, некалі студэнт-стажор на заводзе Шульца. Гэта той самы белакуры юнак, які стаяў часта на тым самым месцы, дзе стаіць зараз сівы, бледнатвары калека. Гэта ён. У доктара Шульца добрая памяць. Ён памятае.

Акуляры апусціліся. Але цяпер нават сіняе шкло паўтарала грымасу, якую можна было расцэньваць, як прыветную ўсмешку.

— Вы дрэнна сябе адчуваеце, гер Штанге? Сядайце, прашу вас!..

Штанге сеў. Дыхаў цяжка і часта.

— Не дзіўна, што вы хвалюецеся. Незабыўныя часы! Аб вас правільна сказалі: «герой нацыі»... Вы член нацыянальнай партыі, гер Штанге?

— Я калека, гер доктар.

— Нічога... Вы зоймеце сваё месца. Вы апраўдаеце па меры сіл ганаровае званне, што вам дала нацыя ў свой час. Будзем спадзявацца: наша краіна ідзе зараз у патрэбным кірунку... От што, гер Штанге: мы падшукаем для вас месца на ўрадавай радыёстанцыі. Дырэктар станцыі — той чалавек, якога вы неслі на плячах. Вы сустрэнецеся зноў. У іншакшых, зразумела, абставінах. Хэ-хэ...

Гэта было нязвыклым. Смяяўся і паблажліва глядзеў на Штанге сам гер Отто Шульц.

Потым Шульц працягнуў руку да званка.

— Вас правядуць. Я паведамлю вам аб выніках размовы з сынам. Да пабачэння, паважаны гер Штанге!

З'явіўся слуга. Ён адсунуў парт'еру і чакаў, пакуль дакульгае Штанге да дзвярэй. І калі, нарэшце, той дабраўся да парога, дырэктар узняў галаву.

— Чакайце хвілінку, паважаны Штанге. Чаму вы... за доўгі час такіх цяжкіх умоў толькі зараз звярнуліся да мяне з гэтым... пытаннем?

Штанге адказаў, пачакаўшы:

— Я не хацеў ставіць пытанні матэрыяльнага парадку ў сувязь... з гэтым учынкам, гер доктар.

Дырэктар нахіліў галаву, і парт'ера апусцілася.

Пачыналася заключная дзея спектакля пад назвай: «Жыццё і смерць патрыёта Франца Штанге».

От, усё і скончылася...

Завяршылася кола, па якім спачатку бег, а потым кульгаў Франц Штанге, дабіраючыся да пэўнай мэты, якую пры ўсякіх умовах і палажэннях вызначае сабе кожная чалавечая істота. Вельмі мала на свеце людзей, якія не маюць ніякай мэты. Для такіх людзей жыццё канчаецца раней, чым падыйдзе яго фактычны канец. Заўсёды меў тую ці іншую мэту і Франц Штанге.

Калі ён бег, пераскокваючы перашкоды хутка і смела, калі ногі былі здаровыя і цела было маладое, калі да станцыі «Тэатр вайны» было яшчэ далёка, Штанге ставіў сваёй мэтай дасягненне славы вучонага і для гэтага быў гатовы аддаць да астатку ўсе сілы свае. Гэтыя перспектывы зніклі, заслоненыя дымамі вайны, і не з'яўляліся больш з тае пары, як надышоў яшчэ адзін этап. Ад тае пары Штанге ўжо не бег, як гэта было ў гады юнацтва, не поўз, як гэта было ў акопах, а валачыўся на адной назе. Знікла ўсякая мэта. Нічога, што служыла-б на карысць і здавальненне істоты Франца Штанге, ужо немагчыма было дасягнуць. Для гэтага патрэбна было бегчы і скакаць, а Франц Штанге меў толькі адну нагу, і лёгкія былі прастрэлены.

Мэта з'явілася пазней. Праз шмат год. І яна ні ў якой ступені не магла пасуліць Францу Штанге нават дабрабыту, на што ён згаджаўся ўжо ўзамен славы і вялікага багацця, — дасягненне якога лічыў некалі за рэальную задачу. Ні першага, ні другога, ні, тым больш, трэцяга апошняя мэта Штанге даць не магла, таму нават яму самому спачатку здалася непатрэбнай па сваёй нікчэмнасці.

Але гады ішлі, і з кожным годам выразна бачыў Штанге, што мэта гэтая ёсць акт вялікае важнасці.

Яна знікла сёння. Больш нічога не можа быць у жыцці Франца Штанге абяззброілі іменна ў той час, калі ўзняў сваю зброю нікому невядомы калека для таго, каб грозныя цені з палёў чужых краін прайшлі засведчыць праўду і паклікаць на суд. Мэта знікла, Франц Штанге няздольны больш нічога зрабіць. Канец існаванню надышоў раней фактычнае смерці.

У прысадах парку зялёная засень высокіх ліп. Ціш. На пясчаных дарожках — цьмяныя плямы сонца. На ад-

ной з зялёных лавак сядзіць ён, сівы, хворы калека, Франц Штанге. Тут ён сядзіць таму, што трэба падумаць, падлічыць, наколькі яго абрабавалі, вырваўшы раней зброю з рук. Сума павінна быць вялікай, бо для гэтага трэба глянуць туды, назад, адкуль пачыналіся дні Франца Штанге.

І ён убачыў...

. . . . . . . . . . . . . .

Маленькі Франц стаяў побач з высокай жанчынай на самым краі партовай узбярэжнай. Важкія, гладкія хвалі шырачэзнай ракі набягалі на каменную сцяну ўзбярэжнай і з шумам разбіваліся аб яе, знікалі, а адтуль, з сярэдзіны ракі, ішлі ўсё новыя і новыя шэрагі хваль. Чарэдзіны ракі... сам адна шарэнга даганяла другую, яны сутыкаліся, і тады пена ўскіпала на паверхні вады. Але пагоджаныя сутычкай дзве хвалі зліваліся ў адну, і, хваля гэтая, гладкая, ільсняная, цяжкая, з сілай біла ў цёсаны камень узбярэжнай.

Франц зацікавіўся бутэлькай. Яна плыла тарчком, да паловы пагружаная ў ваду. Яна была ўстойлівай: самая моцная з хваль магла толькі крыху пасунуць яе да сцяны. Бутэлька спакойна калыхалася на вадзе, хвалі падкідвалі яе на месцы, яна зручна сплывала з аднаго спада на другі, а Франц з нецярплівасцю чакаў таго моманту, калі бутэлька, нарэшце, ударыцца аб сцяну. Гэтага яна, бясспрэчна, не вытрымае.

Пагібель бутэлькі ўсё-такі надышла. З самай сярэдзіны ракі прышла самая большая, самая магутная хваля. Нарадзілася яна пад стромым носам велізарнага жалезнага парахода, услед якому маці Франца махала хусткай. Хваля падышла пад самы бераг. Яна захапіла бутэльку з сабою і рынулася на сцяну. У шуме вады Франц адрозніў сухі трэск шкла і задаволена ўсміхнуўся.

Руслам шырачэзнай гэтай ракі ішоў пругкі, свежы вецер з мора. Насустрач ветру, аддаляючыся ўсё больш і больш, плыў велізарны параход. З яго вялізных труб узнімаліся цэлыя хмары дыму. Параход ішоў у мора. Цяпер маці ўжо не махала хусткай, а прыціскала яе да воч. І калі Франц весела засмяяўся, яна са здзіўленнем і крыху сурова спыталася:

— Чым ты ўзрадаваны, маленькі? Тым, што бацька пайшоў у далёкі рэйс?

— Бутэлька ўсё-ж затапілася! — паведаміў Франц.

У гэты момант веліч-параход знік на завароце ракі. Толькі хмара чорнага дыму доўга яшчэ стаяла над лесам мачт у гавані. Маці яшчэ глядзела туды, адкуль ішоў саланавы свежы вецер, туды, дзе мора злівалася з небам на далёкім гарызонце, што прасвечваў праз верхавіны мачтавых лясоў і перапляценні канатаў.

Потым узяла маці Франца за руку, і яны пайшлі назад, насустрач грукату кранаў, перакліку гудкоў, насустрач нямоўчнаму гулу вялізнага парта.

Больш не ўбачыў Франц свайго бацькі — капітана Карла Штанге. Вялізны жалезны параход вышаў з гавані і пайшоў, дні і ночы разбіваючы магутнымі грудзямі грозныя сівыя хвалі мораў, і прышоў, нарэшце, такі час, што ў невядомых шыротах далёкага акіяна сустрэла параход самая вялікая хваля. Параход трэснуў і знік у пене і шуме вод. Так уяўляў Франц пагібель свайго бацькі.

Увосень, у той-жа самы год, маці, убраная ў чорнае, суровая і маўклівая, прывяла ў школу вясёлага, лёгкадумнага хлапчука Франца. Яго запісалі ў кнігу, і з тае пары звалі ўжо Франц Штанге. Гэтыя два словы не разлучаліся потым ні ў спісах універсітэта, ні ў спісах фабрыкі, ні ў вайсковых, ні ў шпітальных рэестрах. Разлучыліся яны толькі тады, калі Франц стаў інвалідам, і замест слова Франц людзі гаварылі: «калека». Атрымоўвалася: калека Штанге. Магчыма, калі над целам Штанге вырасце груда зямлі пад чорным крыжам, тое першароднае слова, якім звала яго маці, зноў сустрэнецца са словам «Штанге». Сапраўды, не напішуць-жа яны: тут ляжыць калека Штанге.

Шумелі высокія ліпы. Вечар прыходзіў на горад, менш станавілася сонца ў пахучых прысадах, у засені старых ліп. Якраз у гэтым парку пачаўся рашаючы этап жыцця Франца Штанге. Адгэтуль ён пабег небяспечнымі цяжкімі дарогамі і да фініша гэтага этапа прывалокся на адной назе.

... Была маладосць. Студэнт-тэхнолаг, стыпендыят, кожны вечар, акуратна а сёмай гадзіне, з'яўляўся ў парк і прыносіў з сабою флейту ў аксамітным футляры. На эстрадзе адкрытага рэстарана флейтысту было адведзена спецыяльнае месца: у кутку каля бар'ера. Седзячы там,

ён бачыў усіх, што праходзілі бліжэйшымі прысадамі парка, і ўсе бачылі белакурую, кучаравую галаву студэнта Франца Штанге, калі ён, апіраючыся локцем на бар'ер, выводзіў найпрыгажэйшыя трэлі. Высокі, чысты голас флейты панаваў у аркестры. Лепшага флейтыста было цяжка знайсці. Таму гаспадар лічыў сваім абавязкам, праводзячы аркестрантаў, паляпаць флейтыста па плячы:

— Вы сёння асабліва добра гралі, гер Штанге. Маладыя фрэйлейн будуць сніць шчаслівыя сны, што навеяны вашай флейтай. Фрэйлейн у захапленні вашай музыкай...

Таўсты Кац паблажліва падміргваў:

— І вамі, гер Штанге, захапляюцца маладыя фрэйлейн. Хэ-хэ-хэ...

Франц з натугай усміхаўся. Граць на флейце шэсць гадзін у запар гэта вельмі многа, хоць-бы і для такіх шырокіх грудзей, як у яго. Але затое стыпендыя, што атрымліваў студэнт Штанге, нічога не азначала ў параўнанні з яго апетытам і жыццёвымі патрэбамі. І Штанге ўсміхаўся:

— Мне прыемна, гер Кац!

Такое было лета, калі Франц упершыню ўбачыў Эльзу.

У рэстаран з'явілася вялікая кампанія студэнтаў-тэхнолагаў. Яны праходзілі міма эстрады, узнімаючыся па ўсходах. Толькі некаторыя з іх заўважылі Франца. Абменьвацца паклонамі з рэстаранным аркестрантам — не асабліва прыстойная рэч для членаў студэнцкай карпарацыі «Маладая Германія»! Франц не крыўдзіўся. Ён сам на іх месцы рабіў-бы так.

Апошнім ішоў лейтэнант Гастон Шульц, сын фабрыканта, на прадпрыемстве якога стажыраваўся Штанге. Побач з ім ішла вельмі прыгожая стройная дзяўчына. Франц абыякава паглядзеў ім услед, потым глянуў на палачку дырыжора і падрыхтаваўся да складанай партыі. Флейта ўступіла ў хор інструментаў.

Праз некалькі часу Франц кінуў погляд у залу. За адным з бліжэйшых столікаў сядзеў Шульц. Ён гаварыў нешта да дзяўчыны, што прышла з ім. А яна глядзела не на яго, не на Шульца. Яна глядзела на флейтыста ў аркестры. Франц заглянуў у шчырую глыбіню чароўных воч, і кроў гарачай хваляй прайшлася па целе. Франц павінен быў уздыхнуць, каб прывесці сябе ў парадак і не сарвацца на нізкіх нотах.

У гэты момант дырыжор пастукаў палачкай аб пульт.

Франц паднёс флейту да губ. І прыгожы інструмент заспяваў цудоўным голасам аб толькі што разбуджаным, нязведаным дагэтуль пачуцці чалавека.

Потым яшчэ прыходзіла дзяўчына. Некалькі вечароў засаб. Прыходзіла адна. Яе стройную постаць адразу пазнаваў Франц у гушчы пар, што запаўнялі дарожкі прысад. Яна знікала гэтак-жа раптоўна, як і з'яўлялася, але флейтыст адчуваў сябе ўзнагароджаным і гэтым. І флейта спявала так, што таўсцяк-гаспадар, вядомы скнара, не мог стрымацца і бег да эстрады ў перапынках.

— Цудоўна, цудоўна, гер Штанге! Па сканчэнні прашу ў кантору!

Так было некалькі вечароў. А потым усё змянілася.

Зеляніну прысад залівала электрычнасць. Тысячы лямп асвятлялі парк. У зялёным поўзмроку трапяталі палотнішчы сцягоў імперыі. Яны ўзнімаліся на флагштоках, на дроце, нацягнутым паміж дрэвамі, як ветразі. Яны луналі чорныя на кволым тле ясна асветленай зеляніны, яны бясшумна плавалі ў паветры, — чорныя ветразі, — над галовамі тысяч людзей, над гулам, над гоманам велізарнага чалавечага натоўпу.

Так, Штанге прыпамінае... Чорнымі былі яны, сцягі імперыі Крупа і кайзера. На іх як-бы ўжо засохла тая кроў, што павінна была праліцца і надала ім чорны колер. Але тады Францу сцягі выдаваліся яснымі. Праменні славы і велічы Германіі сыходзілі з іх. Тады здавалася Францу, — не тысячы лямп да апошняга лістка асвятляюць стагодні гушчар ліп і дубоў, а сцягі імперыі з чорным арлом. Такі быў моцны патрыятычны чад, так п'янілі галаву гімны і прамовы.

У гэты вечар флейтыст Штанге не граў мелодый Моцарта і Шопэна. У гэты вечар не было вальсаў Штрауса, полек Офенбаха, шансанетак, венскага папуры. Быў гімн «Германія, Германія»... І гул тысяч галасоў.

П'яны уланскі афіцэр, балансуючы на плячах натоўпу, крыкнуў:

— Мы адбярэм Белград ад праклятых сербаў! Мы, нарэшце, пакончым з імі! Праўда, хлопцы?

І рык сіпатых горлаў быў яму адказам.

Гэтага Франц не вытрымаў. Ён схапіў флейту, пераскочыў цераз бар'ер і змяшаўся з натоўпам.

Яго насіла праз усю ноч усхваляванае чалавечае мора. Часамі ён сам нёс на сваіх плячах разгарачаных потных

прамоўцаў, часамі аказваўся над натоўпам і крычаў нешта пра Парыж, пра ненавісных французаў, пра барадатых рускіх, што стаяць з нажамі ў зубах за плячыма забойцаў-сербаў. Ён упэўніваў усіх, што бранявы кулак Германіі пакончыць і з тымі, і з другімі, і з трэцімі. І калі, канчаткова зняможаны, ён саскочыў у апошні раз з нейчых плячэй, ужо святлела ў парку, і ашалелы натоўп густа валіў да выхаду.

Тут, пад аркай, і сустрэў Франца высокі малады чалавек. У яго быў бледны твар і жорсткі, суровы погляд. Такім ён здаўся тады Францу пасля вар'яцкай ночы, у бледным асвятленні досвіткаў. Гэта быў Генрых Гутман. Але Франц яшчэ не ведаў Генрыха Гутмана. Ён стаяў пусты, загаслы, ахрыплы і глядзеў на незнаёмага недаверліва і насцярожана. А той сказаў, не расціскаючы зубоў:

— Цяпер вы радасна крычыце... Вы захапляецеся. Але прыдзе такі час, што вы будзеце раўці ад страху, як жывёла... І будзе такі час, што вы будзеце стагнаць, як самая апошняя істота на свеце. І ні ў адным, ні ў другім, ні ў трэцім выпадку голас ваш не здольны будзе ні стрымаць, ні разгарнуць падзей...

Франц моўчкі глядзеў на незнаёмага. Што гэта? Што гэта за прарок? Што гэта за думкі! Франц азірнуўся.

Ці не варта паклікаць жандарма?

Але замест гэтага ён толькі прашаптаў:

— Што вы гаворыце!.. Прычым тут я?..

— Не вы асабіста. Ваш клас. Правільней — ваша класавая праслоечка.

І чалавек дакрануўся да казырка кепі. І пайшоў просты і спакойны — Генрых Гутман, з якім потым ляжаў Франц разам у акопах пятнаццатага Брауншвейгскага пяхотнага палка.

Франц нічога не зразумеў. Ён глядзеў услед незнаёмаму, потым пацiснуў плячыма:

— Вар'ят, ці п'яны!?

Узнімалася над горадам ружовая зара.

... Потым стаяў Франц перад сталом патрона, гер Отто Шульца. Кавалер і айцец нацыі тады толькі яшчэ пачынаў кар'еру. Ён быў яшчэ на першых прыступках усходаў, што вялі ў храм вялікага бога. Але ён і тады быў упэўнены і смелы, дужы і наглы пад маскай абсалютнага

спакою і непагрэшнай карэктнасці. Гер Отто Шульц сказаў:

— Я з радасцю выслухаў вашыя словы. Усё жывое, маладое, энергічнае павінна быць там!

Ён паказаў некуды ў кут. Потым устаў, узяў Франца пад локаць і павёў да дзвярэй:

— Вы вернецеся героем, дарагі Штанге. Нашы дзверы заўсёды адчынены для вас. Жадаю найлепшых поспехаў, паважаны Штанге!

І Франц апынуўся на вуліцы. У кішэні ён абмацваў мабілізацыйную карту. Там напісана: пятнаццаты Брауншвейгскі полк. Усё ў парадку. Франц Штанге ідзе абараняць сваю вялікую радзіму.

...— Эй вы! Калі намерваецеся тут заначаваць, то памыляецеся, мой дарагі!

Паблісваючы лакам краг, пояса, каскі, памахваючы дубінкай, па дарожцы ішоў паліцэйскі.

— Вы чулі, што я вам сказаў?

Штанге ўстаў. Працэс уставання заўсёды суправаджаўся звонам металу на грудзях: чатыры крыжы і адна медаль. Потым тонкі хруст спружыны пратэза. І Штанге — на нагах.

Паліцэйскі пастаяў крыху, недаверліва паглядаючы на яго, і ўпэўніўся, што ён і сапраўды намераны пакінуць парк, — аддаліўся ў другім кірунку.

Быў вечар. Амаль цёмна было ў парку. Цяпер можна ісці. Адпачыў і галава ўжо не так баліць.

І, паскрыпваючы коркам пратэза, пазвоньваючы металам узнагарод, Штанге пакульгаў да выхаду з парку.

Потым ён ішоў ціхімі, пустымі вулічкамі ўскраіны.

Ісці было далёка.

... У ясны дзень жніўня тысяча дзевяцьсот чатырнаццатага года пятнаццаты Брауншвейгскі пяхотны полк маршыраваў па галоўнай вуліцы гэтага горада. Наперадзе палка над галовамі салдат плыў у паветры штандар, развінаючы свае крыллі ацяжараныя важнай бахрамой і срэбнымі кутасамі. Аркестр у шэсцьдзесят чалавек, палкоўнік і яго штаб на конях, мерная хада ўзводаў, рот, батальёнаў, мернае хістанне штыкоў над роўнымі шэрагамі гладкіх касак, што цьмяна пабліскваюць, адбіваючы праменні сонца...

Грозна грымяць басы, глуха грукочуць барабаны, вы-

сокімі, радаснымі і дужымі галасамі пяюць кларнеты, флейты, барытоны. Рой кветак, пахучых, цёплых ад сонца матылёў, трапеча над галовамі салдат. Кветкі ўсюды! Іх кідаюць з вокнаў і балконаў, іх кідаюць з тратуараў, кветкі ўсыпаюць вуліцы, па раскошнай дарозе кветак ідзе полк. За паясамі салдат — кветкі, на перавязях касак — кветкі, трубы аркестра перавіты кветкамі, нават тоўсты барабаншчык нясе не барабан, а цэлую клумбу хрызантэм.

Ідзе пятнаццаты Брауншвейгскі пяхотны полк. Маршыруюць роты, батальёны, у салдат — суровыя твары. Гэта адпавядае важнасці моманту. Яны ідуць абараняць вялікую Германію. Іх праводзіць на справу геройства германскі народ. Нацыя кідае кветкі на іх шлях. Гэта ўрачыста. Тут не павінна быць лёгкадумнай весялосці.

Дзявочыя ўсмешкі — гэта таксама кветкі. Нават больш, чым кветкі. Ах, саксонскія дзяўчаты! Ах, цудоўныя фрэйлейн. Колькі гэтых мілых усмешак на шляху бравых салдат! А кожная дзявочая ўсмешка, заўважце, камрад, азначае больш, чым вялізны букет хрызантэм, прыкладна, у дзесяць разоў! Гэта цёпла і радасна. Крыху весялей, камрад! Тут суровасць не зусім да твару! Хто зможа ўсміхацца суроваму германскаму салдату!

— Левай, правай! Левай, правай! Раз-два, раз-два! Трымайце раўненне, баявыя сыны Германіі! Вышэй галовы! Цвёрды крок! Раз-два-тры!

О, якая высокая, урачыстая, баявая музыка!

О, які марш!

Патрыёты выходзяць з піўных. Яны высока ўзнімаюць бакалы, у якіх пеніцца шляхетнае баварскае. За ваша здароўе, героі! Калі будзе патрэбна, мы прыдзем да вас, мы возьмем вінтоўкі і выкурым праклятых французаў і варвараў рускіх, і злачынцаў сербаў, і гэтых факстэр'ераў італьянцаў, і гэтых бульдогаў англічан з іх паскудных нор! Бр-рава, хлопцы!

. . . . . . . . . . . . . .

Штанге ідзе з правага фланга ў першым радзе сваёй роты. Крыху ўперадзе маршыруе лейтэнант Гастон Шульц. Ён выпрастаны, ён падцягнуты, ён бліскучы ў гэтым мундзіры. Ён маршыруе, і гэта не марш, гэта балет!

Штанге паглядае на нясцерпны бляск батфортаў Шульца. На ўзроўні з лейтэнантам, зусім блізка ад яго, па-

вольна рухаецца шыкарны аўтамабіль. Гер Отто Шульц з сям'ёй праводзіць сына.

Франца Штанге не праводзіць ніхто. Няма ніводнае роднае душы. Маці яго, суровая, высокая жанчына, не прыдзе развітацца са сваім Францам на пероне вакзала. Ніхто не будзе махаць хусткай услед цягніку. О, маці.

Сумна і тужліва на душы салдата Штанге

І раптам...

Азірнуліся салдаты ўсёй роты. Азірнуліся салдаты ўсіх рот, што ішлі за ёй. Афіцэры кінулі косыя погляды. Гэтак-жа скоса азірнуўся лейтэнант Шульц і спачатку гнеўнай, потым зняважлівай і, нарэшце, насмешлівай стала ледзь прыкметная ўхмылка. Салдат Штанге асмеліўся выйсці са строю! Ён гаворыць з той яснавокай дзяўчынай, Эльзай Розэ. Ну, ну! Калі ласка!

— Мяне завуць Франц Штанге...

Задыхаючыся, усхваляваны сказаў Франц.

— ... Франц Штанге, трэцяя рота...

Дзяўчына з незразумелым для Франца сумам, з вялікай тугой, без усялякага здзіўлення, якое, бясспрэчна, павінна было быць, — глядзела на яго.

— Скажыце... скажыце сваё імя, свой адрас... Скажыце хутчэй...

Франц са страхам і надзеяй глядзеў на яе. Міма праходзілі апошнія шарэнгі палка. Навокал цясніліся зацікаўленыя людзі.

— Скажыце хутчэй... Я адзін... Зусім адзін...

Ён гаварыў яшчэ нешта незразумелае, сам не ведаў што.

І тады нейкае падабенства ўсмешкі асвятліла яе бледны твар.

— Мяне завуць Эльза Розэ... Кенігштрасе, 138...

І яна падала яму руку. Маленькую, кволую руку.

Лейтэнант азірнуўся яшчэ раз.

Франц Штанге быў ужо на сваім месцы. Ён крочыў, старанна адбіваючы такт. Яго твар быў радасным, такім радасным, як-бы надзвычайнае шчасце ішло насустрач салдату Штанге адтуль, куды плыў цяжкі штандар, куды рухаўся полк.

— Ну, ну! — падумаў лейтэнант. — Жадаю вам поспехаў, гер Штанге!

На пероне, калі рота стаяла ў дзве шарэнгі, падышоў

лейтэнант Шульц. Ён паправіў манокль, агледзеў салдат з галавы да ног і сказаў:

— Франц Штанге! Два крокі ўперад!

Штанге паслухмяна зрабіў два крокі наперад.

Лейтэнант зноў паправіў манокль.

— Па загаду капітана, Франц Штанге за самавольны выхад са строю арыштоўваецца на пяць сутак з утрыманнем у карцэры. Пасля пасадкі з'явіцца да каменданта цягніка. Кру-гом! Два крокі ўперад! Кру-гом!

І Штанге зноў апынуўся ў страі.

Пасля пасадкі, калі ён намерваўся ісці да каменданта, нехта злёгку крануў яго за плячо.

— Не пазналі? А мы ўжо два дні былі ў адной роце... Вы змянілі трыбуну на штабны нужнік. Непрывабная рэч! Пазнаёмімся: Генрых Гутман. Ваша прозвішча ўжо вядома.

Франц высока ўзняў галаву.

— Усялякае парушэнне дысцыпліны павінна быць пакарана. Спачуванні мне абсалютна не патрэбны. Прашу больш са мной не размаўляць!

— Як хочаце... Толькі мне здаецца, што далейшыя вашы ператварэнні будуць мець яшчэ горшыя вынікі.

— Гэта вас не датычыцца.

Вусатая морда зазірнула ў вагон.

— Франц Штанге! — здзекліва сказаў фельдфебель. — Камендант з нецярплівасцю чакае вашага візіта. Будзьце ласкавы!

У вагоне грымнуў рогат. Штанге выцягнуўся ў струнку, вышаў.

Так па ўсёй форме, ва ўсеўзбраенні патрыятычных перакананняў дысцыплінаваны салдат Франц Штанге з'явіўся на баявыя пазіцыі, дзе ў брудных канавах, у норах і бліндажах у славу Германіі і на страх ворагам залёг пятнаццаты Браўншвейгскі полк...

І як толькі трапіў ён у прызначаную для яго нору, убачыў, што адгэтуль два выхады: альбо ў магілу, альбо ў шпіталь. І цвёрды крок заваяваценя Штанге стаў мяккім, зыбкім, бязгучным, нясмелым. Ён хадзіў, утуліўшы галаву ў плечы, ён поўзаў па зямлі, па халоднай, размешанай асенняй гразі, ён гадзінамі стаяў на каленях у прыкрыцці і праз маленькую шчыліну ў байніцы назіраў мёртвае поле, узрытае снарадамі, на якім там і тут ляжаць трупы людзей і коней. Безупынна ўзнімаліся пра-

стрэленыя бліскавіцамі высокія чорныя фантаны. Страшна з глухім гулам уздрыгвала зямля, і здавалася, што перамяшчаецца гэта поле, як-бы сплывае яно, рухаецца некуды цяжка і павольна, як рухаліся дагістарычныя леднікі.

Начамі, калі злавесныя заравы ўставалі над зямлёй, калі ўзляталі ў чорнай вышыні асляпляючыя праменні пражэктараў, калі ўспыхвалі і рассыпалі іскры сотні рознаколерных ракет і з несцярпімым громам высока ўзляталі агні снарадных выбухаў, Штанге поўзаў па полі ў разведку, правяраў правады сувязі, сядзеў у дазоры.

Поўзаў Франц Штанге... А калі ўставаў на ногі, то стаяў так няўмела, так няўпэўнена, як-бы гэта быў не чалавек, а чацвераногая істота, што ў сілу біялагічных законаў толькі от цяпер, праз тысячагоддзі, наважылася стаць на дзве нагі і можа ўтрымацца ў такім палажэнні пэўны час.

Штанге атрымоўваў акуратна канверты ружовага, блакітнага і іншых колераў. Нарэшце, ён атрымаў і пасылку, невялікі пакецік, у якім было ўсё, што магла па сваіх дастатках пераслаць Францу Эльза, маленькая чарцёжніца.

Штанге хацеў жыць. Ён прыкмячаў, што і яго таварышоў не вабяць ні скромны геройскі крыж братняе магілы, ні нават санітарная двухколка. Людзі хацелі выйсці жывымі і здаровымі з пекла вайны. І кожны быў упэўнены: ні ў якім разе не можа стацца, каб якраз ён, Іоган, Якоб ці Фрыдрых, ляжаў за калючым дротам з расшчэпленай галавой, з разарванымі, наскрозь прабітымі грудзямі. Людзі на краі пагібелі сцвярджалі сваю бяссмертнасць. А потым іх везлі на грузавіках, на фургонах, іх неслі на насілках, і былі яны астылыя, жоўтыя, спакойныя, яны пазналі смерць, і страх яе больш ніколі не прыдзе да іх.

Штанге думаў так, як іншыя. Але, падпарадкуючыся грозным законам вайны, ён усё-ткі ўжыў меры перасцярогі. Яму здавалася, што калі ён будзе паўзці, шчыльна прыціскаючыся да зямлі, калі ён будзе хадзіць ціхенька, бязгучна і хутка, — не прыляціць па яго жыццё зацятая куля, не грымне над ім снарад. І сам таго не прыкмячаючы, ён стаў бледнай акопнай зданню, з запалых воч якой глядзеў вечны і непераможны страх. І ўсе былі такімі. Яны беглі ў атаку, яны стралялі з вінтовак, яны кі-

далі гранаты, яны займалі акопы ворага, а потым пакідалі іх, ідучы наперад ці ўцякаючы назад. З гэтага складаліся грандыёзныя аперацыі дзейнічаючых армій, ад гэтага зменьваліся карты дзяржаў і нават самы твар зямлі.

Германія павінна была перамагчы. І для гэтага Штанге перамагаў страх і не быў горшым за іншых.

Ішлі дні. Іншы дзень выдаваўся за гадзіну, іншая ноч, даўгая, асенняя, цягнулася, як год. І калі-б прайшоў сапраўдны год, тыя, што правялі яго ў акопах, былі-б здзіўлены. Можна падумаць, што гэта была адна толькі ноч, даўгая ноч артылерыйскага бою.

Штанге не дачакаўся, пакуль пройдзе год. Ён стаў героем нацыі.

... Было без пяці хвілін дванаццаць. Лейтэнант Шульц узяў у адну руку гадзіннік, у другой трымаў рэвальвер. Ён стаяў каля штурмавога выхаду, і ўсе бачылі, што з лейтэнантам дрэнна. Ён неяк дзіўна хістаўся, твар яго быў у чырвоных плямах. Калі ён паспрабаваў стаць аднэй нагой на першую прыступку, яго павяло ўбок. і ён прыпёрся плячом да выступа акопа, заплеценага фашынай. Лейтэнант адчуваў сябе дрэнна перад атакай.

Французская артылерыя брала на прыстрэлку першую лінію германскіх акопаў. Цяжка ўзнімаліся чорныя слупы выбухаў, успыхвалі воблачкі шрапнелі. Высока над шэрым асеннім небам разбуранай французскай зямлі, распрасцёршы драпежныя крыллі, ішлі нейкія самалёты. Мабыць, звярталіся з разведкі. Трывожная ціш ляжала на ўсім працягу лініі акопа. Зараз будзе атака!

Дванаццаць гадзін...

Лейтэнант цяжка ўзабраўся па ўсходах і на момант затрымаўся на брустверы, выцягнуўшы ўперад руку з рэвальверам. Следам за ім рынуліся салдаты...

І людзям, што прывыклі да вільгаці акопных нор, неабсяжна шырокім здаўся прастор поля...

Атака!

Беглі рэдкімі ланцугамі. Грозны вал уздыбленай зямлі, агню і жалеза бушаваў на полі, суцэльнай сцяной пераразаючы яго напалам. Салдаты беглі насустрач гэтаму пагібельнаму ўрагану, задыхаючыся ў чорным дыме, падалі, уставалі нямногія, натыкаліся на заграмаджэнні.

Першы рэдкі ланцужок дабег да самага таго месца, дзе бушаваў агнявы смерч. Людзі зніклі ў чорным дыме.

Вал каціўся бліжэй да нямецкіх акопаў, і другі ланцуг, наступаючы, знік. Смерч уцягнуў людзей і паглынуў да астатку.

У гэты момант Штанге ўбачыў, як упаў лейтэнант Шульц.

Ён азірнуўся. Амаль нікога не было на полі. Патрасаючы чорнай грывай дыму, ускідваючы хмары зямлі, узрэзаны ломанымі лініямі агнявых успышак, няўхільна каціўся наперад страшны вал, змываючы ўсё на сваім шляху. Зямля ўздрыгвалася і гула, і зноў здалося Штанге, што паплыло поле некуды, закруцілася галава, ён упаў на калені, потым лёг і нешта цяжкое ўзвалілася на яго. Штанге задыхнуўся...

Калі ачнуўся, — не было ўжо страшнага вала загараджальнага французскага агню. Недзе злева грымелі гарматы, бой перакінуўся на левы фланг. Віскаталі час-адчасу кулі, — невядома адкуль і куды стралялі. Штанге працёр вочы, доўга сплёўваў зямлю, што набілася ў рот. Нарэшце, асцярожна ўзняў галаву і агледзеў поле.

Ляжалі нямецкія салдаты... Сярод бугроў, свежых варонак, адкуль яшчэ цягне ледзь прыметны, удушаючы дымок, кучамі навалены трупы. Воддаль ад Штанге — роўны ланцуг... Можна было-б падумаць, што зараз ускочыць рота, ускіне вінтоўкі наперавес, рынецца наперад, закідваючы гранатамі французскія загараджэнні. Але салдаты ляжалі ў розных палажэннях. Смерць нагнала іх усіх разам, кожны падаў па-свойму: некаторыя галавой да французскіх акопаў, другія — да сваіх.

Ні адзін з сённешняй атакі не прабіўся праз смертаносную сцяну, праз страшны шквал агню, жалеза і зямлі.

Там, дзе сплёўся непраходным гушчаром дрот першых загараджэнняў французаў, знаходзіцца толькі адзін нямецкі салдат. Гэта — Эрнст. Ён ужо два з паловай месяцы вісіць там, гушкаецца на дроце, спакойны і абыякавы, сярод пекла безупынных штурмаў. Германскаму камандаванню патрэбны гэты ўчастак. Гэта ключ да варот Францыі. Французскае камандаванне ні ў якім разе не намерана аддаць ключ у распараджэнне германскаму камандаванню.

Эрнст і пасля сваёй смерці служыць сваёй радзіме, распяты на дроце. Яго чорны сілуэт вісіць на загараджэнні, але ён не падобны на муху, што заблыталася ў павуціні. Ён выцягвае косці рук над французскімі акопамі, ён

глядзіць у вочы ворагаў, прадвяшчаючы помсту з халоднай і грознай усмешкай няўмольнай смерці. Калі паблізу ірвуцца снарады, імпэт паветра паварочвае труп, і тады Эрнст глядзіць у напрамку да нямецкіх акопаў, як-бы кліча таварышоў на новы штурм у апраўданне сваёй і другіх пагібелі. І потым зноў паварочваецца тварам да ворага.

Французы спрабавалі скінуць яго з дроту, але як толькі каска французскага салдата з'яўляецца на брустверы — валавяны віхор нямецкіх кулямётаў вые над французскімі акопамі. І Эрнст застаецца на сваім пасту, надзвычайны і поўнамоцны пасол германскіх мерцвякоў.

Вунь ён і цяпер там, караючая здань, вяшчун пагібелі злачынцаў-французаў!..

Потым толькі праз многа часу зразумеў Штанге, што труп няшчаснага нямецкага салдата пагражаў і крычаў аб помсце не тым, хто са страхам глядзеў на яго з ям французскіх акопаў.

Штанге папоўз і адразу-ж наткнуўся на цела лейтэнанта. Ён ляжаў ніц. Штанге дакрануўся да яго рукі і адчуў цяпло жывое істоты.

Вечар... Цёмныя хмары імчалі над гэтым полем. Змрочныя цені выпаўзалі са смуродных варонак, змрок акрываў награмаджэнні чалавечых цел, бугры, канавы акопаў, залівяў шэрымі фарбамі аголены жуд знявечанае зямлі.

Злева грымелі гарматы, трашчала страляніна. Там ішоў бой, там бліскалі маланкі выбухаў. Штанге падумаў аб тым, што яго абавязак вынесці свайго афіцэра не толькі ў тым выпадку, калі афіцэр паранены, але і ў тым нават выпадку, калі гэта ўжо труп. Цела начальніка не павінна служыць аб'ектам здзекаў ворага. Штанге вырашыў...

І тады там, за сітоўем заграджэнняў французаў, чалавек у срэбных наплечніках апусціў бінокль і сказаў некалькі слоў па тэлефону. Недзе далёка, за кілометр, можа за два, на французскіх батарэях заварушыліся людзі. Узняліся ствалы гармат. Іх разгарачаныя жэрлы глянулі ў вячэрні змрок, нацэленыя пад такім кутом, каб снарад ударыў на тым іменна месцы, дзе рухаецца маленькая чалавечая постаць, ссутуленая пад цяжарам чужога цела.

Бліжэй, за самымі заграджэннямі, кулямётчыкі, спяшаючыся, вылічвалі дыстанцыю.

Чалавек у срэбных наплечніках зноў прыставіў бінокль да вачэй і сказаў некалькі слоў.

Уздрыгнулі гарматы французскай батарэі, агонь залпа, як выбух вулкана, узарваў вячэрні змрок.

Грымоты ўстрасянулі смяротнае маўчанне поля, заглушаючы водгулле далёкай кананады, і тоны зямлі, і жалеза ў бляску гіганцкіх зарніц узляцелі ўгару і рынуліся ўніз. Бездапаможны камок двух чалавечых цел знік у чорнай хмары.

Чалавек сказаў яшчэ некалькі слоў.

Зноў уздрыгнулі гарматы французскай батарэі.

І калі развеяўся дым, у шэрым змроку лінзы бінокля адшукалі той самы камок, якому Францыя адпусціла адразу вагон метала, пуды тротыла і дынаміту. Камок рухаўся і аддаляўся. Камок хацеў жыць.

Тады едкія вочкі лютых кулямётаў прайшліся па полі і вызначылі рысу, за якую не павінна пераступіць нага чалавека.

Камок знік на момант, потым з'явіўся зноў, безупынна аддаляючыся.

Францыя адпусціла адразу два вагоны жалеза і яшчэ некалькі пудоў добраякаснага выбуховага матэрыялу. Камок упарта аддаляўся.

Кулямёты захліпнуліся, не ў сілах будучы выплюнуць адразу ўвесь свінец.

Франц Штанге адчуў пякучы боль у баку толькі на самым брустверы пакінутага пустога нямецкага акопа. У гэты-ж момант агонь дыхнуў яму ў твар. Выбуха ён не ўчуў, і праваліўся некуды ўніз, цягнучы за сабою лейтэнанта. Потым Эльза пяшчотна працягнула да яго рукі, і шчаслівы Франц прытуліўся да яе.

Аб усім гэтым, за выключэннем радаснай сустрэчы Франца з Эльзай, пісалі газеты. Паведамлялася, што герой Штанге і выратаваны ім лейтэнант Шульц былі падабраны цяжка параненымі ў пустым акопе. Іх знайшлі санітары.

І яшчэ шмат аб чым пісалі газеты...

Штанге ачнуўся і са здзіўленнем убачыў над сабою не цвілыя дошкі зямлянкі і нават не накаты бярвенняў бліндажа. Асляпляючая белая столь, роўная і гладкая, з прыгожым, пазалочаным карнізам па краях, была такая вялікая, што Франц, не паварочваючы галавы, не мог

нават акінуць вокам яе ўсю. І калі ён павярнуў галаву, здалося, што ён спіць.

Вялікі букет цудоўных, свежых руж ляжаў на маленькім століку побач з ложкам. На пялёстках кветак дрыжэлі кроплі. Штанге ўдыхнуў у сябе паветра і адчуў тонкі пах. Тады Штанге ўзняўся на ложку, апіраючыся локцямі, і адразу ўсё знікла.

Калі ён другі раз адкрыў вочы, то ўбачыў жаночую постаць у белым, з нашытым на грудзях чырвоным крыжам.

— Шпіталь... — падумаў Штанге. — Я ў шпіталі.

— Вам няможна варушыцца, — ангельскім голасам сказала жанчына. — Вы атрымалі сур'ёзную рану.

Яна паправіла коўдру і знікла недзе ў белых прасторах зала.

Штанге не варушыўся. Ён хацеў жыць.

І магчыма таму, што гэта было самым большым жаданнем, стала загойвацца небяспечнейшая, безнадзейная рана. І хутка Штанге мог ужо апірацца на локаць.

Тады, аднаго дня, выцягнуліся ў струнку санітары, замерлі сёстры ў простых і прыстойных свецкай жанчыне позах. Яны трымалі рукі сашчэпленымі перад сабою і нахіліліся ў лёгкім паклоне.

Па паркеце калідораў зазвінелі шпоры, разлёгся шолах крокаў. Па калідорах прайшоў шырокаплечы не стары генерал з імператарскімі вензелямі на эпалетах, з імператарскімі крутымі вусамі, з уласным чырвоным тварам забіякі-кавалерыста, з двухскладчатай ружовай патыліцай аматара піва. За ім пранеслася расшытая гусарскімі шнурамі, абвешаная аксельбантамі, апраўленая ў мішуру наплечнікаў і пазументаў світа, а ззаду беглі спрытныя людзі ў фрэнчах і крагах, на хаду правяраючы фотаапараты. У аддаленні, дапушчальным паводле этыкета, плылі высокапастаўленыя фрау і фрэйлейн, а за імі плёўся ашалелы ад шчасця кіруючы персанал у асобе начальніка шпіталя.

Усё гэта спынілася каля ложка Франца Штанге.

Генерал паварушыў пікамі вусоў і кінуў устрашаючы погляд у бок сваёй світы. Там лёгкім шолахам прашамацелі шнуры, ледзь чутна празвінелі шпоры. Стала так ціха, што можна было ўчуць, як цяжка дыхаў ранены ў канцы зала.

Штанге глядзеў на генерала і млеў са страху, як-бы ён

першы раз у жыцці бачыў малінавыя адвароты генеральскага мундзіра. Гэта быў сам камандуючы арміяй.

Генерал ускінуў руку да казырка бліскучай каскі і потым працягнуў яе да Штанге. Ззаду зашалясцелі ўгодліва і ўзрушана, шчоўкнулі шпоры, забразжалі наканечнікі аксельбантаў — Франц глядзеў на рукі генерала з такім выглядам, як-бы гэтая мясістая валасатая рука намервалася яго задушыць.

— Герою! — гучна сказаў генерал, вачыма загадваючы Штанге паціснуць руку. — Герою вышынь 106 — удзячнасць камандавання і ўзнагарода нацыі. Герою абавязка, адважнаму германскаму салдату!

Штанге з цяжкасцямі выдабыў руку з-пад коўдры. З-за бліскучых плячэй світы глянулі пранырлівыя вочкі фотааб'ектываў.

Генерал эфектна выгінаўся, і тоўстыя генеральскія пальцы ціскалі потную руку Штанге роўна столькі, колькі патрабавалася часу, каб фото ўвекавечыла гістарычны момант.

— За раны ў імя абавязка! За кроў у імя нацыі!

Генерал крута павярнуўся. Нечая рука падала яму аксамітны футляр. Світа выпрасталася і ўзяла пад казырок. Генерал адчыніў футляр і выняў адтуль бліскучы крыжык.

Апараты шчоўкнулі.

Потым над Штанге нахілілася жанчына ў чорным. Густа запахла парфюмерыяй, і сухія губы дакрануліся да яго ілба.

Апараты шчоўкнулі яшчэ раз.

Потым на Франца навалілася цэлая гара кветак.

Апараты затрашчалі трэці раз.

І потым Штангеastaўся адзін пад прыемным пахучым цяжарам. У палаце было ціха. Усхваляваны, абязволены Франц ляжаў без руху.

Гэта нацыя ў асобе высокага начальніка падала ўдзячную руку свайму ваяўнічаму сыну! Гэта нацыя вуснамі прыгожай жанчыны падаравала яму пацалунак маці! Яе ганаровыя знакі на яго грудзях — гэта ўзнагарода за ўсё, што ён прынёс ёй. О, вялікая Германія!

І Штанге заплакаў, тулячы твар у падушку.

— Раскіс герой! — сказаў нехта з раненых не то зайздросна, не то спачуваючы.

Назаўтра Францу прынеслі жмут газет. Усюды на пер-

шай старонцы — шырокая, грузная генеральская постаць, шыкарная світа, і ён, Франц, на ложку ў кветках. Газеты друкавалі ўсемагутныя партрэты Франца. Ён дзівіўся, адкуль былі здабыты ўсе гэтыя фатаграфіі. Штанге здаровы ў форме, Штанге ранены ў шпіталі, Штанге ў кругу сваёй сям'і побач з маці. Дзіўна!

Франца безупынна апаноўвалі карэспандэнты. Франца наведвалі госці, такія людзі, аб знаёмстве з якімі ён і не думаў ніколі. І кожны раз — фото, фото і фото.

Штанге купаўся ў праменнях славы, якую мелі толькі вялікія палкаводцы. Імя Штанге вымаўлялі дзесяткі тысяч людзей.

І нарэшце прышоў ліст:

... Маленькая Эльза чакае з нецярпеннем свайго слаўнага і дужага героя.

Ці мог марыць аб усім гэтым бедны студэнт-стыпендыят Штанге?

Ішлі дні. За гэты час не толькі прышоў да памяці, але нават мог сядзець на ложку салдат з забінтаваным тварам, якога прывезлі пазней за Франца, які кідаўся ў гарачцы ў памятную гадзіну ўзнагароды Штанге.

І аднойчы гэты ранены прышоў і прысеў на бераг ложка.

— Папраўляецеся? — спытаў ён дзіўна знаёмым голасам.

Франц адказаў вачыма.

Ранены агледзеў ложак. Тут усё было лепшае ад іншых. І сам ложак і бялізна. Пах кветак і чыстата.

— Гэта добра, Штанге, што вы папраўляецеся, — сказаў ранены. — Але помпа вам, мусіць, ужо напрыкрыла. Даліся, мусіць, вам у знакі гэтыя кветкі. Вагон руж на вас пасавалі!

Штанге маўчаў. Ён ніяк не мог прыпомніць, дзе бачыў гэтага чалавека.

— Генрых Гутман, — сказаў ранены, як-бы ўгадаўшы яго думкі. — Даводзіцца трэці раз знаёміцца. У мяне шрапнельная рана галавы, і я думаю, калі здымуць павязкі, вы мяне і чацверты раз не пазнаеце. Слухайце, Штанге...

Ён падсунуўся бліжэй да Франца.

— Я прышоў вас папярэдзіць: вы знаходзіцеся зараз у такім недарэчным становішчы, што нават і ўявіць сабе цяжка.

Франц глядзеў на яго з адкрытай нянавісцю. Зноў гэты чалавек! Зноў гэты насмешлівы погляд! Што яму патрэбна ад яго, гэтаму д'яблу!

— У Расіі ёсць Кузьма Кручкоў, — працягваў Гутман. — У нас ёсць Франц Штанге. У кожнай дзяржаве, якая хоць крыху паважае сябе, павінен быць герой у салдацкім шынелі. І Кручкоў і вы — марыянеткі. Я не ведаю, ці разумее гэта Кручкоў, але вы — яўна не разумееце. Справа ў тым, што вы зрабілі не геройскі ўчынак, а глупства. Карацей: вы неслі на сваіх плячах лейтэнанта Шульца не раненым, а мярцвецкі п'яным. Вы рызыкавалі жыццём, атрымалі рану, згубілі шмат крыві і здароўя, сталі героем нацыі, а лейтэнанту Шульцу ў шпіталі паставілі зонд, выкачалі алкаголь са страўніка, і, калі ў ход былі пушчаны грошы, ён атрымаў белы білет і выехаў адпачываць у нейкую нейтральную краіну. Адным словам — на поўдзень. Ён не памяняецца з вамі, калі вас зноў загоняць у акопы. Будзьце ўпэўнены!

Бледны Франц з жахам глядзеў у твар Гутману.

— Агульныя вывады: вас без сумнення зноў загоняць у акопы. На кручок, дзе вы знаходзіцеся ў якасці прынады, клюне дзесятак тысяч добраахвотнікаў. Гэта па меншай меры. Калі ўлоў абяднее, вас пашлюць у акопы, вы будзеце непатрэбны. А гэты дзесятак тысяч прыкончаць ужо без вас, можаце быць спакойны.

— Доказ... — прашаптаў Франц. — Дакажыце, што лейтэнант быў... п'яным...

— Я думаў, вы паверыце і так. Усю справу разнюхалі два санітары, яны ведаюць Шульца, працавалі на заводзе яго бацькі. Хлопцы шустрыя... Мне шкода вас, Штанге, і таму я сказаў вам усё, хоць гэта для мяне і небяспечна. Санітараў-жа клікаць не буду: хочаце — дайце веры, не хочаце — не! Папраўляйцеся, Штанге! Падумайце над усім гэтым!

Гутман цяжка ўстаў і павольна пайшоў да свайго ложка. Але не дайшоў. Пахіснуўся і цяжка ўпаў на падлогу.

Пад столлю трывожна зазвінеў званок.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Штанге ў здзіўленні спыніўся. Няўжо ён галюцыніруе?! Трывожна звінеў званок... Іменна такі званок, як там, у шпіталі, калі ўпаў Генрых Гутман.

У глухім завулку было зусім цёмна. Ніводнае душы нідзе. Што гэта такое?

І раптам неразрыўная срэбная трэль распалася на звычныя медныя такты. У канцы завулка бліснулі агні. Асляпляючае святло хутка набліжалася, праменні яго імчалі па сценах і востраверхіх дахах. Штанге пакульгаў да варот нейкага дома і прытуліўся ў нішы. Міма пранеслася чырвоная машына, бліснулі каскі людзей, і голас звана пачаў аддаляцца.

Пачакаўшы, Штанге пакульгаў далей. Ён быў крыху занепакоены. Пажар, відавочна, быў недалёка, інакш машына пайшла-б не гэтым вузкім завулкам, а праспектам, які вёў на мост, за раку. Што, калі гарыць той дом, дзе жыве Штанге? Там-жа засталася адна хворая Эльза ў маленькай каморцы!

Штанге спяшаўся. Праўда, гэта мог быць чысты выпадак. Але хто-ж гарантаваны ад выпадкаў? Ён спыняўся некалькі разоў і аціраў пот з твару. Як цяжка і прыкра, як пакутна хадзіць на гэтай штучнай назе. Нарэшце ён дабраўся да скрыжавання завулкаў і спыніўся заспакоены. Нідзе не было ніякіх адзнак пажару. Яшчэ дзесяць хвілін, завярнуць направа, і — ён прышоў дадому.

... Так. Ужо блізка дваццаць год жыве ён там, у каморцы, на чацвертым паверсе. Ён існаваў на сродкі жонкі і на мізэрныя пфенігі ўласнай пенсіі. На работу яго не брала ніводнае прадпрыемства, ён не меў інжынерскага дыплома. Ён ведаў чарцёжную справу, але якой гэта фірме патрэбны скрып пратэза ў строгай цішы кантор ці лабараторый? Голад, жабрацтва... Хлеб, зароблены рукамі слабай жанчыны. Усё прынесла яму Эльза. І каханне сваё, і сілы свае, усё да астатка, і от цяпер яе з'ядае хвароба, імя якой кароткае і злавеснае.

Больш ні на што не будзе здольны Франц Штанге. Адзінай надзеяй застанецца тое, што Эльза, магчыма, паправіцца. І няхай гэта будзе аплатай за тое, што ён стаў пустым і нікчэмным, што ён страціў апошнюю мэту свайго існавання, што жыццё яго больш нічым не апраўдваецца ні перад людзьмі, ні перад ім самім. Хай потым будзе яшчэ горш, але ён аддаў ёй усё, што мог!

— Франц... Я, мусіць, хутка памру... У мяне мала зусім засталося сіл, нехапае паветра... Я-б хацела, Франц, памерці, ведаючы, што ты застаешся забяспечаным, што табе будзе сыта і спакойна жыць пасля мяне... што ты не

будзеш галодным, як сёння... і як учора... І ты не сумуй... Мы з табой убачымся ў тым, у лепшым свеце, там нам будзе добра... Там так добра, што для гэтага варта перацярпець усе мукі...

Яе вочы, цудоўныя, цяпер пагасаючыя вочы, асвятліліся ўнутраным святлом ціхай радасці і надзеі. Яна верыць у бога, бедная Эльза! У таго самага бога, што знаходзіцца на небе, адкуль падаюць на грэшную зямлю вялізныя бомбы і снарады саракадвухсантыметровага калібра!

— Мне будзе вельмі сумна, Франц, калі ты застанешся пасля мяне гэткім галодным і няшчасным, як сёння... Шлях у той свет, дзе мы сустрэнемся, цяжкі... але... я не хачу, каб ты прайшоў туды праз галодную смерць...

Не! Лепш галодная смерць! Лепш смерць у агні! Штанге прыткнуўся ў кутку і абціраў халодны пот. А яна не заўважала гэтага, яе вялікія вочы, напоўненыя болем і пакутай, глядзелі некуды ў далячынь.

— І яшчэ мне-б хацелася, каб ты прынёс мне белыя ружы, калі я буду мёртвай, і памаліўся-б за маю грэшную душу... Каб адзін толькі быў ты пры мне... Я ўчую твой голас там! І табе і мне будзе добра...

Яна была сантыментальная, бедная Эльза!

За якія злачынствы гэтая помста, Франц Штанге!

— ... Я вельмі грэшная, Франц... і самы цяжкі мой грэх — перад табою.

Штанге сціснуў галаву рукамі і не вышаў—ываліўся з каморкі.

Гэта было сёння раніцою.

Эльза там засталася адна...

Ну, от. Яшчэ некалькі крокаў...

Эльза!.. Чым-жа апраўданы нашы пакуты? Тым, што мы трапім у лона бога? Эльза, я быў кулямётчыкам і не хачу зменьваць кваліфікацыю. Бог носіць супроцьгаз і кідае бомбы вагой у пяцьсот кілограм страшнай выбуховай сілы. Твой бог не існуе зусім. Бог дзікуноў скончыў акадэмію генеральнага штаба па класу паветранай бамбардыроўкі і перакваліфікаваў святых. Я не згодзен быць святым, не жадаю быць бамбамётчыкам! Я не сантыментальны, Эльза, але і гэта не дапамагае мне, бо тое, апошняе, што апраўдала-б нашы пакуты, я страціў, каб цябе адратаваць альбо аблягчыць тваю смерць...

І раптам Штанге спыніўся на завароце.

Асветлены злавесным дрыготлівым агнём паходняў па-

жарнай машыны каля варот вялікага дома цесна стаяў маўклівы натоўп. Было зусім ціха, жудка ціха... Трапятала крывава-чырвонае полымя, чорныя цені поўзалі па сценах муроў, багровыя водбліскі коўзаліся па цёмных вокнах, блішчэлі каскі пажарных...

Сэрца ўдарыла гвалтоўным штуршком...

— Што тут!.. Што... тут... здарылася!!!

У натоўпе яму растлумачылі:

— Кажуць, што мужчына скончыў самагубствам. Беспрацоўны... Выклікалі пажарных, каб дэгазавалі дом, бо ён атруціўся свяцільным газам.

Штанге пачаў прабірацца да варот. Яму загарадзіў дарогу шырокаплечы пажарны. У гэты момант разлёгся жаночы голас:

— Пусціце, пусціце! От ён прыйшоў. Гэта калека Штанге! Слухайце, Штанге, ваша жонка...

Больш нічога Штанге не чуў. Паходні выбухнулі вялікім агнём, і полымя схавала ўсё, усё знікла ў воблаках іскр і дыму, усё сціхла...

Усё скончылася...

* * *

Гаспадар майстэрні агледзеў пратэз.

— Я павінен сказаць вам, што гэта некалі была добрая штука. Але, калі добрая штука замяняе нагу дваццаць гадоў, яна робіцца дрэннай штукай. Пяць марак!

— Дзякую, — адказаў Штанге. — Дзе атрымаць грошы?

Гаспадар моўчкі выкінуў на стол паперку. Штанге ўзяў яе і паклаў у кішэню.

Гаспадар пасунуў акуляры на лоб і глядзеў услед.

— Пакульгаў на кастылях, а пратэз прадаў за пяць марак. Пяць марак! Хо-хо! Вар'ят нейкі!

* * *

Фрэйлейн смяялася, прыціскала букет белых руж да грудзей.

— Бачыце, як прыгожа! І зусім танна... Зусім, зусім танна... Цудоўныя, свежыя кветкі!

Штанге панура глядзеў проста перад сабою. Ён вісеў на кастылях, выцягнуты, як на дыбе. Ён даўно адвык ад кастылёў.

— Вам падабаюцца кветкі! Зусім, зусім свежыя... От, бачыце? На іх яшчэ раса.

Штанге выкінуў на стол паперку і працягнуў руку па букет. Дзяўчына падала кветкі, але тут Штанге ўбачыў, што ісці з букетам не здолее, бо абодвума рукамі трэба апірацца на кастылі. Ён разгублена азірнуўся і ўбачыў зацікаўленыя твары прадаўшчыц і наведвальнікаў, пераважна наведвальніц. Сталічныя дамы зняважліва глядзелі праз ларнеты і без іх на абшарпанага калеку, які купіў букет пышных белых руж. Нейкі галадранец! Яўны п'яніца!

— Калі ласка, рэшта.

Дзяўчына несла ад касы рэшту.

Тады Штанге здагадаўся. Ён паклаў кветкі, акуратна паставіў кастыль да прылаўка, узяў у левую руку букет, апіраючыся на адзін толькі кастыль, дабраўся да дзвярэй. Яго скурчаная постаць знікла.

Дамы былі шакіраваны: гэты смуродны жабрак не ўзяў нават рэшты! Ён хоча набыць свецкі тон! Гаспадар быў абражаны. У яго, нарэшце, павільён кветак, а не склад для кастылёў.

* * *

... Ну, от і ўсё, Эльза... Я прынёс табе кветкі, як ты і хацела таго, хоць гэта яўнае глупства... Я добра ведаю, што мёртваму нічога не патрэбна. Па сутнасці ты зараз не Эльза. Ты была Эльзай, а цяпер ты не Эльза. І я мог табе не прынесці кветак, бо за іх я зноў-такі заплаціў дорага. Але паколькі абрабавалі ўсё маё жыццё ад пачатку да канца, то цяпер ужо і гэта не важна.

...На небе цябе няма, Эльза... На небе — эскадрылля многаматорных бамбавозаў, якія пабудавалі зусім нядаўна. І з імі — цэлыя стаі знішчальнікаў. Я ўсё гэта бачыў зараз, як хадзіў за кветкамі. Гэта манеўры, забава. Але як толькі хлопчыкі ў скураным адзенні пачнуць гуляць усур'ёз, то тады, я думаю, няхопіць кветак на кожнага мёртвага. Гэтак ужо не адзін раз было. Кветкі растуць толькі пасля вайны і перад вайной. Перад вайной асаб-

ліва. Гэта неабходна, каб напусціць фасону каля першага мерцвяка і першага героя нацыі. Потым ужо справа абыходзіцца без кветак.

... Так што, Эльза, я маліцца не буду. Бог носіць генеральскія эпалеты, яму не да таго. Зараз ён прысутнічае на манеўрах, а потым будзе заняты на нарадзе генштаба. Тое, што ты лічыш за грэх супроць мяне,—дробязь. Мяне, Эльза, не так яшчэ абрабавалі. Ты-ж для мяне была заўсёды дарагім і мілым другам, і каб на тваім шляху не папаўся герой на адной назе, то, магчыма, і цяпер твае ясныя вочы радаваліся-б на гэтай праклятай зямлі. Мяне абрабавалі, і ў першую чаргу паплацілася ты... Але... што-ж гэта я з табою размаўляю?! Ты-ж мёртвая!..

Цябе-ж няма...

Штанге сціснуў галаву рукамі і абапёрся локцямі на падаконнік.

... Ціха, Штанге! Супакойся! Гэтак можна звар'яцець!

— А можа я ўжо зараз вар'ят? А? Эльза?

Было ціха.

Штанге сціскаў галаву рукамі.

Прайшоў час. Можа дзесяць хвілін, можа пяць гадзін.

І раптам Штанге азірнуўся.

— Хто там? Што? Уваходзьце!

У дзверы не пераставалі стукаць.

Штанге ўзяў кастыль. Але перш чым ён дайшоў да дзвярэй, яны адчыніліся. На парозе стаяў высокі, шырачэзны чалавек у капелюшы. З-за яго плячэй выглядвалі яшчэ двое.

Штанге адразу пазнаў: гэта быў Гастон Шульц. Зусім не такі, зусім не той — у спрытным мундзіры лейтэнанта. Стаяў грузны, таўсты чалавек у акулярах і глядзеў, блізарука прыжмурыўшы вочы, у кут, міма Штанге. Пакоік быў цёмны, і нельга было разабраць, што такое белае ляжыць у куце.

Штанге адступіў з дарогі.

— Прашу заходзіць!

Зашалясцелі плашчы. Людзі адзін за другім прабраліся ў вузкія дзверы. І Шульц, а за ім другія, адразу знялі капелюшы. Цяпер Шульц убачыў, у чым справа.

— Я вас пазнаў, гер Шульц, — сказаў Штанге. — А гэта от мая жонка Эльза Штанге... Эльза Розе...

Шульц стаяў выпрастаны, нерухомы. Штанге здалося, што твар Шульца пабялеў.

Тады агледзеў двух астатніх. Яны былі незнаёмыя. Пры іх былі фотаапараты.

Шульц зрабіў нейкі незразумелы жэст рукою. Ці то хацеў прыгладзіць валасы, ці то направіць акуляры. Потым адступіў на крок і павярнуўся да Штанге.

— Сумна... Вельмі сумна, дарагі Штанге. Бедная жанчына. О, гэтыя хваробы! Яны без часу...

— Эльза скончыла самагубствам, — адрэзаў Штанге. Шульц змоўк на поўслове. Тыя два пераступілі з нагі на нагу і пераглянуліся. Цяпер не было аб чым гаварыць.

Стаялі доўга.

Потым Шульц уздыхнуў і перахрысціўся.

Вечная памяць...

І павярнуўся да Штанге зноў.

— Мы хацелі... Мы просім увагі на некалькі хвілін.

І пакуль Штанге збіраўся адказаць, Шульц аўладаў сабою зусім.

— Мы не павінны парушаць спакой нябожчыцы. Мы маглі-б выйсці хоць на пляцоўку: некалькі слоў.

Штанге згадзіўся. Яму ўсёроўна, куды ісці і што слухаць. Яны дапамаглі яму выйсці з каморкі і на пляцоўцы шчыльна абступілі яго. Штанге зразумеў толькі адно: ён зноў становіцца героем нацыі.

— Пяцьсот марак за выступленне...

— Інтэрв'ю ў газеты...

— Фото...

— Уваскрошванне славы нацыі...

Гаварылі доўга.

І, нарэшце, Штанге працягнуў руку.

— Потым! Усё потым... Не цяпер... Не зараз...

— Мы разумеем, гер Штанге. Але ўсё неабходна зрабіць як мага хутчэй. Праз тыдзень нацыянальнае свята. Асаблівых намаганняў ад вас не патрабуецца. Вы прачытаеце напісаны тэкст. І ўсё. Мы прыедзем да вас зноў. Потым у вашым распараджэнні будзе аўто. От гер рэдактар ласкава прадастаўляе вам машыну. А цяпер...

Паперкі зашалясцелі ў руках Шульца.

— У вас выдаткі... Помнік вашаму цудоўнаму другу жыцця... Вянок ад прыязных вам братоў па зброі...

Але Штанге рашуча адхіліў руку Шульца і рэзка адказаў:

— Сваю жонку, гер Шульц, я пахаваю сам!

Той пацізнуў плячыма, скамячыў грошы і ўсунуў іх у

кішэню. Губы сцягнуліся ў зняважлівай грымасе: цяпер Шульц быў падобны да свайго бацькі, патрона і кавалера.

Так ён стаяў цэлую хвіліну.

Штанге скурчаны вісеў на кастылі.

Потым твар Шульца зноў стаў прыветлівым.

— Я разумею становішча вашай душы, гер Штанге. Але вы дарэмна адмаўляецеся ад дапамогі рукі вашага баявога таварыша. (Ён памаўчаў). Усё-такі спадзяюся, я знайду магчымасць быць карысным вам. Значыць, як умовіліся?..

Усе трое прыўзнялі капелюшы.

У пакоі Штанге сказаў:

— Яны зноў аблытваюць мяне, Эльза... Мабыць, у мяне яшчэ засталося крыху сокаў...

Ціхія вячэрнія цені туліліся па кутках каморкі. Штанге дакульгаў да акна, сеў на табурэтку і больш не варушыўся.

Шчоўкаў маятнік гадзінніка. Ён адлічваў час.

* * *

Генрых Гутман хадзіў па маленькім сваім пакоіку і курыў кароткую люльку. Ён быў падобны да бывалага матроса ў гэтым паласатым цельніку, высокі, сухаваты, шырокаплечы, па-юнацкаму спрытны. Наогул ён мала змяніўся з тых часоў. Толькі сівыя пасмы ў валасах, і твар стаў яшчэ больш суровым, скура сцягнулася рубцамі на падбародку ад даўнейшай шрапнельнай раны.

— Ну дык што-ж у цябе за навіны, Франц?

Штанге маўчаў. Сядзеў ссутулены, апіраўся на кастыль і глядзеў некулы за акно. Там, уначы, вялізным сузор'ем раскінуліся агні горада.

Гутман падышоў да Штанге і паклаў руку на яго плячо.

— Здарылася што-небудзь дрэннае?

Штанге ўздрыгнуў і з намаганнем праглынуў сухі камок, што захрас у горле.

— Эльза... Эльза скончыла самагубствам ..

Гутман завярнуўся і пачаў зноў хадзіць па пакоі. Ён забыўся на тое, што люлька загасла, і час-ад-часу пацягваў яе, і не прыкмячаў, што дыму няма.

Штанге не адрываў вачэй ад агнёў, што дрыжэлі далёка ўначы.

Цераз некаторы час ён сказаў:

— Сёння я завёз яе на могілкі.

Гутман хадзіў.

— Я прышоў да цябе, Генрых, каб атрымаць параду. Больш я не маю нікога. Ты адзін...

Зноў маўчалі доўга. Потым Штанге выпрастаўся і пачаў гаварыць спакойна, аднатонна, з поўнай абыякавасцю, што зноў прышла да яго, як у той вечар, калі ўбачыў мёртвую Эльзу.

— Мне хочацца прыпомніць, Генрых, нашу першую сустрэчу дваццаць гадоў таму назад. Я памятаю твае словы так, як-бы яны сказаны сёння: — Цяпер вы радасна крычыце, потым будзеце раўці ад страху і, нарэшце, будзеце стагнаць, як апошняя істота на свеце. Гэта не проста словы, гэта прароцтва...

— Гм!!!

— Я радасна крычаў, ап'янёны патрыятызмам, а потым я роў ад вар'яцкага страху перад усім гэтым жахам вайны пасля таго, як знік усялякі повад для радасці... І, нарэшце, Генрых, пасля таго, як пачуццё страху знікла (бо не было чаго шкадаваць у жыцці), я стагнаў, як апошняя на свеце істота, і нават не адчуваў усёй мізэрнасці сваёй...

Гутман запаліў люльку і абапёрся плячом аб сцяну. Ён таксама глядзеў на акно, дзе ў чорнай начы дрыжэлі сузор'і агнёў. Штанге гаварыў далей:

— Ты яшчэ сказаў: ні ў тым, ні ў другім, ні ў трэцім выпадку не здольны вы будзеце стрымаць альбо разгарнуць ход падзей. Я выступаў з патрыятычнымі прамовамі, а ў гэты час маё імя запісвалася ў вайсковых рэестрах пад адпаведным нумарам. Я палаў найлепшымі пачуццямі і думаў, што на мяне глядзіць з любоўю і ўдзячнасцю ўся краіна, а мяне, аказваецца, расцэньвалі ў тых самых рэестрах, як нікчэмную адзінку, як грам гарматнага мяса... От як, Генрых. Я думаў, што раблю высокі геройскі ўчынак, а аказалася, што я вынес п'яную свінню з зоны боя проста на пляж нейкага курорта, а на біржу ён дабраўся ўжо без маёй дапамогі... Я плакаў над сваімі ордэнамі радаснымі ўсхвалёванымі слязьмі, бо гэта была мая кроў, якую я праліў за нацыю. А ў гэты час

іх, мае ордэны, кроў маю куплялі і прадавалі на біржы і, калі яны страцілі каштоўнасць, мяне выкінулі ў акопы, і адтуль я прыпоўз калекай...

Штанге закашляўся. Ён кашляў доўга, згорблены, і яго вострыя лапаткі ўздрыгвалі ў сударгах.

— У мяне быў талент... У мяне былі здольнасці... Ад мяне адабралі ўсё гэта. Мяне зрабілі пустым і непатрэбным калекам. Я доўга і многа думаў. І я надумаў адпомсціць. Усе пасляваенныя гады я збіраў дакументы... аб тым, як зарабіў свае ордэны герой нацыі Штанге і як гэтыя ордэны і сам Штанге былі скарыстаны на тое, каб яшчэ больш даць мяса французскім гарматам. Я сабраў шмат дакументаў і ўстанавіў прыблізна колькасць добраахвотнікаў, што пайшлі за маімі ордэнамі. Я паказаў гэтую подлую механіку правакацыі і забойстваў дзеля нажывы. Я напісаў добрую кнігу: у мяне нечакана выявілася здольнасць літаратара... і кнігу гэтую я хацеў прынесці вам, комуністам. Толькі вы не прадалі-б яе за золата! Вы заўсёды былі правымі і праўдзівымі, як ты, Генрых... Толькі вам я мог даверыць яе, бо гэта быў вынік усяго майго няшчаснага, абрабаванага жыцця. Гэта было ўсё, што я мог зрабіць...

Гутман адышоў ад сцяны.

— Дзе кніга? Ты прынёс яе?

Штанге маўчаў, нахілены над сталом.

— Я пытаюся, ты прынёс гэтую кнігу, Франц?

— Я... прадаў кнігу сам... Генрых...

— І прышоў плакаць мне ў жылетку?

Штанге маўчаў.

— Называецца адпомсціў... — насмешліва сказаў Гутман. — Што карысці з тваіх енкаў?

— Эльза карміла мяне ўсе гэтыя гады, усё нашае сумеснае жыццё я быў яе ўтрыманцам, бо мая субсідыя — гэта капейкі. Нарэшце, яна захварэла. Голад... убоства... Яна мне аддала ўсе сілы, яна заплаціла жыццём за каханне да калекі. Я вырашыў, што павінен яе ўратаваць. Я пайшоў да старога Шульца і сказаў яму: я вынес вашага раненага сына, я некалі зрабіў вам паслугу, цяпер дапамажыце мне вы... Я прадаў сваю кнігу сам дзеля ратунку Эльзы. Я сказаў: вынес вашага раненага сына. Раз я сам прызнаў гэта, то хто-ж паверыць маёй кнізе? І калі я прывалокся дадому, то там былі пажарныя, мёртвая Эльза і яе ліст да мяне. От ён...

Штанге разгладзіў паперу.

— Яна піша: «...мне нехапае паветра. Я стамілася і больш не магу. Я не хачу працягваць сваю агонію і адбіраць ад цябе апошні кавалак хлеба... Я бяру на сябе смяротны грэх самазабойства, як і той грэх, што маім першым мужам быў Гастон Шульц. Яго дзіця нарадзілася мёртвым. Даруй мне, Франц...»

Штанге паклаў паперку на стол.

— Ты бачыш, Генрых, як мяне абрабавалі?

Гутман маўчаў.

— І што мне рабіць, я больш не ведаю.

— Ты адзін-на-адзін гаварыў з Шульцам?

— Так. Але потым яны прыехалі да мяне: Гастон Шульц і нейкія рэдактары. Яны хочуць, каб я выступіў на радыёстанцыі ў дзень свята.

— Ты, безумоўна, адмовіўся.

Штанге апусціў галаву.

— Мне было не да таго. Магчыма, я адмовіўся, можа і згадзіўся. Не ведаю... Не памятаю... Усё загінула.

Штанге ўздрыгнуў і прыкрыў вочы рукою.

— Я паказаў мёртвую Эльзу гэтаму лейтэнанту... Ён і брывом не павёў.

— А ты думаў, ён будзе плакаць разам з табой?

— Я прышоў за парадай, Генрых... Што мне рабіць?

Гутман маўчаў. Ён глядзеў на Штанге, на згорбленага калеку, ад якога адабралі ўсё, што ён меў. Сівы Штанге, стары ў сорак гадоў, — змучаная і нікчэмная істота — яшчэ спрабаваў знайсці нейкую апору і застацца жыць.

— Памятаеш, Франц, — нарэшце сказаў Гутман, — памятаеш, мы з табою гаварылі ў шпіталі?.. Я цябе клікаў за сабою, на сваю дарогу. Ты сказаў: навошта я буду клапаціцца аб другіх, коштам свае галавы і пакуты ствараць для іх шчасце, калі для мяне прыдзе канец свету разам з маёй пагібеллю. Я лепш буду клапаціцца аб сабе... Ты хлусіў! Ты змагаўся за буржуазію і ведаў гэта, бо яе інтарэсы былі табе блізкімі. І цябе абабралі, знявечылі, цябе выкінулі вон, ты прайшоў праз гады цярпення, аддаўшы кроў для нажывы сытых, і от цяпер ты прышоў да нас пытаць парады! Што я табе магу параіць? Ну, скажы мне, якой парады ты ад мяне чакаеш?!

Штанге маўчаў.

— Ты гаворыш — прынёс для Эльзы ўсё. Ты на гэта не меў права. Для карысці аднаго чалавека ты прынёс тое,

што належала мільёнам людзей. Ты знішчыў рэвалюцыйную думку, створаную табою самім. Ты не мог знесці пакуты блізкага чалавека і паставіў на карту тое, што магло аблегчыць пакуты тысячам людзей.

Гутман зрабіў некалькі крокаў да Штанге і падняў руку, паказваючы на акно.

— Сябе лягчэй прынесці ў ахвяру, чым ахвяраваць другога. Але ці ведае хто такі выпадак, каб маці-пралетарка стала на калені перад катамі і сказала: аддайце майго сына, я ўсё жыццё буду служыць вам за гэта? Ці была хоць адна рэзалюцыя рабочага сходу аб тым, што пралетарыі адмаўляюцца ад барацьбы пры ўмовах выдачы іх правадыроў?! А людзі, што ў турмах, людзі, якіх вешаюць і расстрэльваюць, — кроў і косць рабочага класа! Што я табе магу параіць!

Гутман павярнуўся і прайшоў па пакоі. І адтуль, ад парога, крыкнуў:

— Выбірай сам сваю дарогу, Франц Штанге!

Штанге сядзеў усё гэтак-жа згорблены. Што ён можа цяпер зрабіць? Па якой дарозе можа ён пайсці цяпер, калі пазбавіўся сіл? О, каб ён тады ўсё разумеў так, як разумее цяпер! Тады, калі ў яго былі сілы, калі ў яго быў цвёрды крок і здаровыя лёгкія! Тады, у тыя гады, якія зніклі пад попелам вайны, якія апаганены агіднай справай забойства ў імя нажывы другіх!

Маўчалі і думалі двое людзей, што разам прайшлі цяжкімі дарогамі вайны і пакут і засталіся рознымі ў той-жа меры, як і ў дзень першае іх сустрэчы.

Дальнім прыбоем шумеў горад...

* * *

У ціхі дзень верасня срэбнае павуцінне аблытала жоўтагрывыя клёны, лапчатае лісце каштанаў, сіняя далеч нагарызонта была яснай, сонца лагодна грэла зямлю. Нават вялізны горад дымным сваім дыханнем не ў сілах быў затуманіць лагодную яснасць верасnёвага дня.

У гэты дзень Штанге адчуў спакой. У чым-жа справа? Адзін Шульц няздольны будзе абвергнуць усёй сумы абвінавачванняў, што ўзняў супроць іх усіх Штанге! А тое, што потым можа здарыцца з ім, гэта ўжо не важна. Ва ўсякім выпадку, менш важна.

І Штанге ішоў маленькімі завулкамі ўскраіны зусім спакойны і нават крыху радасны. Ён упросіць Гутмана ўзяць рукапіс, ён нікуды не паедзе з Гастонам Шульцам, ніякіх патрыятычных прамоў больш не ўчуе нацыя ад свайго гаротнага героя. Досыць! Трэба, каб людзі дазналіся аб праўдзе. Ім раскажа аб ёй от гэты скрутак папер. А пасля — няхай сабе і скончацца дарогі Франца Штанге. Усёроўна, больш ён ні на што няздатны.

Замурзаны дворнік чысціў сточную канаву. Ён убачыў, што калека з медалямі, пастукваючы кастылём, затрымаўся ў варотах, нешта паправіў за пазухай і намерваецца ўвайсці ў двор. Дворнік вырашыў, што трэба ўмяшацца.

— Т-с-с-с!

Штанге азірнуўся.

Дворнік падышоў да яго.

— Вы, здаецца, бываеце ў 75-й? У Гутмана?

— Так.

— Учора яго павезлі, — сказаў дворнік, аглядаючыся на вуліцу. — Штурмавікі яго павезлі...

— А-а-а?.. — сказаў інвалід. Яго твар стаў шэрым. Ён абапёрся рукой аб сцяну. — Па-везлі...

— Раю не хадзіць туды... — сказаў дворнік, — бо, відаць, вам і так ужо дасталося... Ну, хутчэй адгэтуль!

І Штанге пайшоў. Ён не разумеў, куды і навошта ідзе. Ён глядзеў проста перад сабою і час-ад-часу паўтараў:

— Генрых... А-а-а!.. Генрых!!!

Ён не ведаў, колькі прайшло часу, пакуль ён дабраўся да ўзбярэжнай. Ён убачыў чыгунныя пераплёты ў нейкім няясным асвятленні, як у гурме. І толькі пасля зразумеў што ўжо надышоў вечар.

Хвалі набягалі на цёсаны камень сцяны ўзбярэжнай. Разбіваліся аб яе, ускідваючы пырскі, і адступалі назад. Пасярэдзіне ракі ішоў параход. Так было ў дзяцінстве. Разбіваліся хвалі аб цёсаны камень. Яны падхапілі бутэльку і ўдарылі яе аб сцяну. Бутэлька трэснула. Так некалі трэснуў параход, якім кіраваў Карл Штанге, і капітан загінуў разам са сваімі матросамі, не давёў параход да гавані, і гаспадар не атрымаў ад гэтага прыбытку. То было ў дзяцінстве...

Недалёка ад Штанге, на прыколе, стаяў транспартнік. Тут, мусіць, глыбока, бо гэткі вялікі параход стаіць каля самай сцяны...

... А заўтра нацыянальнае свята.

І тады Штанге паглядзеў на раку, як на лужыну, і ўсміхнуўся. І гэтак, усміхаючыся, пайшоў прэч.

* * *

Каля пад'езда, прыбранага сцягамі, спынілася чорная бліскучая машына. Падбег швейцар і адчыніў дзверцы. Адтуль высунуўся кастыль. Швейцар дапамог Штанге выйсці з машыны. Штанге быў у форме, у шэрай тужурцы, на зялёных наплечніках — трафарэткі «15». Штанге паправіў круглую шапку-бесказырку і пачаў узбірацца па ўсходах. Яго падтрымліваў швейцар.

Потым яго вялі па войлачных дарожках даўгіх калідораў. І, нарэшце, Штанге ўвайшоў у вялікі пакой. Сцены тут былі задрапіраваны. Пакой быў падобны да глухой скрынкі. Вялікі светлы круг нябачаных памераў лямпы праменіў роўнае, мяккае святло. На бліскучай падстаўцы за сталом узвышаўся маленькі чатырохкутнік мікрафона. Адгэтуль герой нацыі будзе гаварыць да яе. Адгэтуль тонкія ніці правадоў працягнуліся да рупараў на вуліцах і пляцах горада. Шкода, што гэта толькі трансляцыйная падстанцыя, што голас Штанге не дасягне зарубежных краін...

Штанге доўга чакаў. Потым прыйшоў чалавек і прынёс некалькі лістоў паперы.

— От тэкст вашага выступлення. Азнаёмцеся. Праз дзесяць хвілін уключаць мікрафон.

Штанге прачытаў першыя роўныя радкі, надрукаваныя на машынцы.

«У гэты вялікі дзень — шчыры прывет ветэрана. Я бачу адгэтуль асветленыя радасцю вашы твары. Вы глядзіце на слаўных сыноў Германіі, вы глядзіце на шэрагі штурмавых атрадаў, што маршыруюць міма вас, вы бачыце новую зару, што ўсходзіць над Германіяй...»

— Добра, — сказаў Штанге. — Толькі прашу вас пакінуць мяне аднаго ў пакоі, калі я буду чытаць. Я баюся збытацца.

— Калі ласка...

І калі прайшло дзесяць хвілін, калі ўспыхнуў сігнал над мікрафонам, чалавек вышаў. Штанге праверыў, ці замкнёны дзверы, і падышоў да мікрафона.

* * *

На пляцы нечакана ўзнялася паніка. Зблытаўся чоткі рытм маршыруючых калон. Фанфары гралі нешта, і іх медныя горлы не маглі перакрычаць басавых галасоў шматлікіх магутных рэпрадуктараў, што былі расстаўлены па ўсіх кутках пляца.

... — Вам няма чаго радавацца!.. — грымелі рэпрадуктары. — З вас цягнуць жылы, вас абкрадваюць на кожным кроку, а потым вас пагоняць пад кулі для нажывы другіх, вас зробяць калекамі, з вас па кроплі выціснуць душу. Гэта гавару я, Франц Штанге, які на ўласным вопыце ведае, чым канчаюцца нацыянальныя святы з фанфарамі! Вам няма чаго радавацца, кажу я! У вас сёння адбіраюць апошні кавалак хлеба, а потым адбяруць саміх вас ад вашых дзяцей...

Гул галасоў заглушыў ускрыкі фанфар, велізарныя натоўпы скучыліся каля слупоў з рэпрадуктарамі, паліцэйскія і штурмавікі энергічна працавалі дубінкамі і кулакамі, недзе разлёгся стрэл. Не было роўных калон... На пляцы ўсё кіпела, бяспомачнымі шматкамі матляліся над натоўпамі сцягі.

— Чаму не выключаюць станцыю!

— А навошта яе выключаць?..

— Што-о-о? Паліцэйскі!

— Глядзіце, глядзіце! Палез на слуп!..

— Э, з'ехаў далоў!

— Слухайце, слухайце!

— ... ёсць праўдзівыя, сумленныя людзі! Яны ведаюць, што робяць, іх ніхто не купіць за золата. Сілу іх не зломіць ніякая сіла. Яны ведаюць, куды павесці вас, тых, хто рукамі сваімі зарабляе хлеб свой. Гэта — комуністы! Так гавару я, Франц Штанге, што праліў кроў за Германію і крывёй якога гандлявалі...

Рэпрадуктары сціхлі. З іх даносіўся шум і глухія ўдары...

— Слухайце, слухайце!

— Там ломяць дзверы!

— ...Я не хачу вас абманваць... Я хачу... адкрыць вам вочы!!!

І ўсё сціхла.

Адразу з трох вуліц на пляц вылецелі аўтамашыны. Атрады паліцэйскіх беглі, размахваючы дубінкамі. Натоўп

шарахнуўся прэч ад рэпрадуктараў. Зноў усё змяшалася, закіпела, заварушылася...

* * *

— Як ты думаеш, яны ўжо задушылі яго?

— Па-мойму, яго задушылі раней, чым выключылі станцыю...

— А па-мойму, наадварот.

— Та-а-ак!

— Памаршыравалі!

На пустым амаль пляцы абвіслі сцягі. Апошнія групы людзей расцякаліся па вуліцах. Свята было скончана.

... У гэты ясны вераснёвы дзень, сатканае недзе ў сонечных прасторах, асядала на зямлю срэбнае павуцінне.

*1934 год,*
*жнівень.*

## *Урачыстая месса*

Усё вышла ад залішняе набожнасці генерала Лопеца, камандуючага калонай. Набожнасць была адной са шматлікіх генеральскіх цнот. Пад тугім, расшытым мундзірам генерал насіў медальён, у якім знаходзіўся талісман, сухая маслінавая ягадка з Віфлеема, і перад тым, як падпісаць чарговы прыгавор, генерал заўсёды цалаваў крыж. Але ў даным выпадку з-за генеральскае благачэснасці здарылася бяда.

Ужо некалькі дзён на сектары генерала Лопеца ішлі ўпартыя баі. Рэспубліканцы націскалі так, што вымушаны былі адыйсці самыя надзейныя часці, і становішча пагражала катастрофай, не гледзячы на падмацаванні з чужаземнага легіёна: Рэспубліканцы занялі пазіцыі на спадах гор, выбіць іх адтуль не было ніякай магчымасці, бо ў генерала не было авіяцыі. Салдаты генерала Лопеца штодзённа ішлі ў атаку пад незмаўкаемыя громы артылерыйскае кананады з абодвух бакоў, і кожны раз генерал бачыў праз бінокль, як бравыя мараканцы, ахопленыя панікай, натоўпамі бягуць у даліну і шмат з іх застаецца на месцы. Фронт пасоўваўся ўсё бліжэй, грымотнае рэха рэспубліканскіх батарэй сатрасала сцены генеральскай штабкватэры. Рэспубліканцы імкнуліся абкружыць горад, і хаця ў іх таксама не было авіяцыі, поспех быў на іх баку. Прыслухоўваючыся да грознага рэха, што, набліжаючыся, грымела ў цяснінах гор, генерал адну за другой пасылаў радыёграмы ў галоўны штаб. Генерала мучыла бяссонніца, і калі ўдавалася заснуць, ён бачыў у сне эскадрыллі самалётаў. Яны лёталі над гарамі, і генерал бачыў праз бінокль яркія зарніцы вы-

бухаў па лініі рэспубліканскіх акопаў. Мараканцы ішлі ў атаку, рэспубліканскія байцы пакідалі пазіцыі і беглі натоўпамі, і, націскаючы іх, скрозь па спадах гор, узрываліся бомбы, высока ўгару ўзнімаючы зямлю. Але сон, гэта толькі сон, і генерал абуджаўся ад першага-ж залпу рэспубліканскай батарэі.

Нарэшце, галоўны штаб прыслаў радыёграму:

«Генералу, камандуючаму калонай. У Ваша распараджэнне высланы тры цяжкія бамбардыроўшчыкі «Капроні».

Далей генерал не чытаў. Ён, спяшаючыся, расшпіліў мундзір, здабыў медальён і пацалаваў масліну. Дзень пачаўся шчасліва. Ад самае раніцы рэспубліканцы маўчалі. Генерал аддаў патрэбныя загады і разам з ад'ютантам вышаў у сад.

Неўзабаве пачуўся цяжкі гул. Ён мацнеў з кожнай хвілінай, і хутка генерал убачыў тры вялізныя машыны, што плылі высока ў лазурным небе. Яны прайшлі над горадам, зрабілі разварот і з глухім рычаннем пачалі зніжацца. З-пад крыла вядучай машыны пырснула ракета. Гэта азначала, што камандзір карабля прыняў генеральскі загад аб пасадцы. Генерал загадаў ад'ютанту падаць аўтамабіль. Ён быў усхваляваны так, што не мог спакойна стаяць на месцы, і сам пайшоў следам за ад'ютантам.

На аэрадроме лётчыкі былі прадстаўлены генералу. Разам з імі генерал абышоў самалёты. Ён быў у захапленні. Вялізныя машыны стаялі ў рад, шырока распластаўшы магутныя крыллі. Гулка працавалі маторы, па крыллях гэтых грозных караблёў поўзалі механікі.

Генерал успомніў: некалькі месяцаў таму назад адзін такі «Капроні» на працягу некалькіх мінут дашчэнту знішчыў шведскі шпіталь у Абісініі. Генерал глянуў на грэбні высокіх гор, дзе былі пазіцыі рэспубліканцаў, і ўсміхнуўся. Потым ён паглядзеў на «Капроні» і нечакана адчуў у сваёй рэлігійнай душы моцны наплыў экстазу. Ён адвярнуўся і аддаў ад'ютанту загад. Камандзір флагманскага карабля нездаволена пацісную плячыма. Ён крыху ведаў іспанскую мову, зразумеў, што сказаў генерал ад'ютанту, і лічыў, што генерал сказаў глупства. Камандзір флагмана адышоўся ўбок, зняў свае цяжкія рукавіцы і намацаў пад камбінезонам флягу. Зрэшты, яму добра плацяць, і калі ягоную машыну

хочуць пакрапіць святой вадою, матэрыяльная частка ад гэтага не папсуецца. Да вылету заставалася яшчэ пара гадзін, машыны былі ў парадку, і калі генералу прыспічыла памаліцца, калі ласка!

Генерал паехаў у штаб, ад'ютант званіў у загарадную рэзідэнцыю біскупа, а па астатніх тэлефонах супрацоўнікі штаба запрашалі найбольш паважных грамадзян горада прыбыць на ўрачыстую мессу, якая мела адбыцца на аэрадроме.

Тут патрэбна ўказаць на адну нязначную акалічнасць. Каб генерал ведаў, што рэспубліканцы за поўгадзіны да таго, як прыляцелі «Капроні», занялі загарадную рэзідэнцыю біскупа, зайшоўшы ў тыл яго войскам, яго не ахапіла-б такая набожнасць, і «Капроні» даўно былі-б у паветры. Але генерал аб гэтым не ведаў, бо сувязь у тыле была дрэнная, рэспубліканцы трымалі сябе пакуль што спакойна, і з гэтага ўсяго, нарэшце, выйшла шмат непрыемнасцей.

— Патрабуюць рэзідэнцыю біскупа. З штаба калоны, — сказаў баец народнай міліцыі, які дзяжурыў на камутатары.

— Злучай, — адказаў другі і ўсміхнуўся. Ён усміхнуўся таму, што ў біскупскім палацы знаходзіўся штаб атрада.

— Яго эксцэленцыя? — спытаў ад'ютант генерала Лопеца.

— Я слухаю, — без запінкі адказаў начальнік рэспубліканскага атрада (яго эксцэленцыя на тую пару знаходзілася ў каморы, разам з двума прэлатамі і вікарыем пад надзейнай вартай). — Я слухаю вас!

— Гаворыць ад'ютант генерала Лопеца, камандуючага калонай. Генерал просіць вас, ваша эксцэленцыя, прыбыць на аэрадром і асабіста служыць мессу. Акрамя таго, генерал просіць аб цырымоніі хрышчэння бамбардыроўшчыкаў, якія прыбылі сёння...

— Прызываю на вас божае бласлаўленне, — адказаў начальнік рэспубліканскага атрада. — Я буду маліць бога, каб ён умацаваў зброю вашу, сын мой... Але, на жаль вялікі, я сам прыехаць не магу... Перадайце генералу, сын мой, што я папрашу айца прэлата... Сын мой, пачакайце хвіліну.

Начальнік атрада паклаў трубку, глянуў на анямелых

ад здзіўлення таварышоў, што сядзелі вакол манументальнага біскупскага стала, зрабіў ім знак, каб было ціха, і задумаўся. Ён быў начальнікам передавога атрада. Яго заданне было трымаць заслону да тае пары, пакуль не падыйдзе суседні атрад і яны не злучацца, такім чынам, з правым і левым флангамі. Тады калона генерала Лопеца будзе акружана. Але начальнік атрада бачыў «Капроні» і ведаў, што гэта азначае. У яго адразу пасля першых-жа слоў ад'ютанта ўзнік план. У яго не было магчымасці абсудзіць яго з таварышамі, бо ад'ютант чакаў. Ён вырашыў ісці на рызыку і ўзяць на сябе адказнасць.

— Сын мой! — сказаў начальнік атрада. — Айцец прэлат і два вікарыі прыбудуць на аэрадром, як таго жадае генерал. Хай з вамі будзе міласць боская. Амен.

Начальнік паклаў трубку і адвярнуўся да сваіх здзіўленых таварышоў. Ён расказаў ім план. План быў настолькі зразумелым і настолькі смелым і простым, што ён быў прыняты без супярэчанняў. І адразу прыступілі да яго выканання.

— Па-мойму, — сказаў начальнік аднаму з камандзіраў, — ты можаш пайсці за вікарыя. Згодны?

— Згодны! — адказаў камандзір.

Хутка быў знойдзен і другі вікарый.

— Толькі лапы ў цябе занадта мазольныя, — сказаў начальнік. — Ты іх памый і вельмі з імі не вытыкайся.

Затрымка вышла з прэлатам. Прэлат, па замыслах начальніка, павінен быць таўстым. Такога ён у сваім атрадзе не памятаў.

— Хуан! — раптам успомніў адзін з камандзіраў. — Повар Хуан! Ён служыў у рэстаране ў Мадрыдзе. У яго ёсць нешта падобнае да папоўскага бруха...

— Але ці ёсць у яго адвага? — спытаў начальнік.

— Я думаю, — адказаў камандзір. — Ён два дні карміў атрад пад агнём.

— Давайце сюды гэтага Хуана, — загадаў начальнік. Хутка з'явіўся Хуан. Гэта быў высокі, немалады чалавек з шырокім нездаволеным тварам. Ён быў нездаволены тым, што яго не пушчаюць у акопы. Байцам падабаюцца ягоныя абеды, якія ён майструе з кансерваў і іншых няхітрых прысмакаў, і яго не бяруць у строй. Усе кажуць, што ён добры повар, але Хуан хоча быць страявым байцом. Разноска абедаў пад ураганным агнём у

разлік не прымаецца. Ён усё-такі не баец, а повар. Хуан падышоў і стаў па правілах.

— Ты хочаш быць прэлатам? — спытаў начальнік.

— Досыць з мяне і повара! — панура адказаў Хуан. Але калі яму расказалі, у чым справа, Хуан ажывіўся.

— Я паеду! — сказаў ён. — Са здавальненнем паеду. Толькі вось... я не ўмею маліцца. Ніводнага слова не ведаю...

Усе засмяяліся.

— Гэта не важна, — сказаў начальнік. — Табе мессы служыць не трэба. Ты будзеш махаць крапідлам. На ўсякі выпадак, пастарайся запомніць пару слоў... Паўтарай: Confiteor Deo omnipotenti... Bentae Mariae... Semper et virgini...

— Confiteor Deo... — пакорна паўтарыў Хуан, — ... omnipotenti...

— А цяпер пойдзем у папоўскі гардэроб, — сказаў начальнік.

Праз некалькі часу прэлат і два вікарыі селі ў машыну, і шофер, зашпільваючы на хаду ліўрэю, заняў сваё месца. Шыкарная машына з біскупскімі гербамі выехала з двара рэзідэнцыі і паімчала па дарозе ў горад. Рэспубліканскія пікеты яе не затрымоўвалі.

На аэрадроме ўсё было гатова. Супроць флагманскага карабля, пад самым яго агромным носам, быў пастаўлены паходны алтар. Экіпажы «Капроні» былі выстраены пад крыллямі. Генерал Лопец стаяў акружаны світай, трымаючы пад руку жонку банкіра. Генерал быў хрэсным бацькам, банкірша — хрэснай маткай вядучага бамбардыроўшчыка. За імі стаяў натоўп фракаў, цыліндраў і ўсяго астатняга, чым адрозніваюцца паважаныя грамадзяне горада ад іншых людзей. Чакалі ўжо некалькі хвілін. І вось, на шасе з'явілася чорная біскупская машына. Яна павярнула і знікла на завароце. Хутка машына імчала па аэрадрому, і ўсе бачылі біскупскія гербы. Ад'ютант генерала Лопеца падбег і адкрыў дзверку. З машыны вышлі тры духоўныя асобы. Адзін з патэраў асцярожна нёс срэбнае вядро са святой вадою і крапідла.

— Confiteor Deo, — густым басам сказаў прэлат. — ... Omnipotenti...

І тады здарылася нечаканае. У першы момант публіка

была шакіравана, бо ўсе тры духоўныя асобы пазакасвалі сутаны, і пад імі аказаліся даволі непрэзентабельныя штаны. У наступны момант публіку паралізаваў жах. Патэры, як па камандзе, размахнуліся і... страшэнны ўдар грому пакрыў аэрадром. Полымя ўспыхнула ў зашклёнай гандоле пярэдняга бамбардыроўшчыка, у паветра паляцелі абломкі, рэха гор паўтарыла цяжкі гул, і не сціх ён яшчэ, як патэры зноў дружна ўзмахнулі рукамі...

Наступныя тры гранаты трапілі ў самы цэнтр анямелага натоўпу. «Капроні» гарэлі яркім полымем. Вялізны слуп агню ўзняўся ўгару, потым нахіліўся і лізнуў пажоўклую траву аэрадрома.

— Confiteor! — крыкнуў прэлат, кідаючыся да машыны. — Назад! Поўным ходам!

У паніцы і замяшанні ніхто не ўбачыў, куды падзелася аўто з біскупскімі гербамі.

Яе затрымалі толькі на шасе. Шофер рэзка затармазіў.

— Нашы, — сказаў ён, адварачваючыся да патэраў.

— Нашы, — пацвердзіў Хуан. — Гэта, мусіць, першы батальён. Па полі беглі рэспубліканскія байцы. Яны ўмомант акружылі машыну.

— Папы! — крычалі байцы. — Вылазьце, даўгаполыя!

Хуан вылез і пачаў знімаць сутану. Пад сутанай аказаўся «маузер». Потым камандзір, які хадзіў за вікарыя, растлумачыў байцам, у чым справа. Праз момант аўто імчала да біскупскай рэзідэнцыі. Атрад, які ішоў на злучэнне, прыбыў. Горад быў акружаны, і фашысцкая калона сядзела ў мяшку.

Хутка загрымела артылерыя. Ланцугі рэспубліканцаў ішлі з гор проста на горад. Увечары ён быў узяты. Генерал Лопец не бачыў разгрому сваёй калоны. Ён быў забіты ў час урачыстай мессы.

*30/X 1936 г.*

## *Сустрэча*

Быў свежы вецер. Па неагляднай раўніне мора, ад сіняй далечы гарызонта ішлі зялёныя зыбкія хвалі, і чайкі ўзляталі ўгару і падалі ўніз, зрываючы смелымі дужымі крыллямі белую пену неспакойных вод. Іх весяліў свежы вецер, іх цешыла родная стыхія.

А хвалі ўсё ішлі адна за адной, узнімаліся і распадаліся шумнымі каскадамі над стромкім носам парахода. Ён лёгка раскідваў іх. Грузны транспартнік мерным ходам, роўна і ўпэўнена ішоў наперад. Высока над морам, на стройнай мачце, трапятаў сцяг. Пад вольным ветрам, у блакітнай вышыні, над бурнымі прасторамі ўспененага мора палымнеў сцяг Саюза Рэспублік. Гэта быў совецкі параход. Ужо многа часу прайшло ад тае пары, калі ён пакінуў берагі свае радзімы, і ўжо многа дзён горда нясе ён яе слаўны сцяг. Калі ён уваходзіць у порт, хутка падаюць уніз рознакаляровыя сцягі дзяржаў, і сцяг краіны соцыялізма прымае салют сяброў і народаў. Многа дзён ідзе параход, і над ім трапеча, парываючыся ў прасторы, дзе пануе голас бур і вятроў, сцяг яго магутнай радзімы. Многа дзён ідзе параход...

* * *

Яша — маладзейшы ў камандзе, але, не гледзячы на гэта, яго ўсе паважаюць. Нават стары капітан кажа пра яго:

— Яша малайчына і сапраўдны механік.

Капітану можна верыць. Трыццаць гадоў салёныя вя-

тры мора авяваюць яго твар, штормы трыццацігадовага падарожжа загартавалі яго дух. У яго адкрыты і праніклівы погляд, ён добра пазнае людзей.

Яша — комсамолец. Ён вывучае мовы. Ён — рэдактар насценгазеты. Першы шахматыст на параходзе і арганізатар музычнага гуртка, якому не сорам выступіць у лепшым з клубаў. Капітан не памыліўся, калі сказаў, што Яша сапраўдны механік, і, безумоўна, не памыліўся, калі сказаў, што Яша малайчына.

У пачатку гэтага рэйса сябры адзначылі дваццацічатырохгадовы жыццёвы юбілей Яшы. Яны адыгралі туш і падаравалі яму мандаліну, якую купілі ў складчыну ў Гамбургу. У пачатку рэйса ў насценгазеце з'явіліся вершы. Аўтарам быў Яша. Калі старшы памочнік сказаў аб гэтым капітану, той адказаў, што гэта яго не здзіўляе. Узрост. Нічога не зробіш. Капітан сказаў, што і ён, калі не памыляецца, у гэтым самым узросце накрэмзаў пару дрэнных вершаў аб нейкіх там розах і салаўях, і гэта было тым больш смешна, што ён на тую пару якраз служыў на броненосцы ў ваенным флоце. Усё-такі капітан прышоў у кают-кампанію, уздзеў акуляры і пачаў чытаць вершы. Там і словам не ўпаміналася пра салаўёў. Вершы былі прысвечаны Іспаніі, і капітан падзівіўся той сіле пачуццяў, якая была ў нязграбных радках першых вершаў Яшы.

— Не зусім гладка яшчэ... — падумаў капітан, — але ёсць агонь, ёсць!

І ён вышаў задаволены.

Ад таго дня ў насценгазеце сталі часта з'яўляцца вершы Яшы. У іх гаварылася пра змаганне гераічнага народа, пра ахвяры і самаадданасць, пра песню перамогі, якая вырываецца з вуснаў смяротна раненага байца. Вершы чыталі з захапленнем.

Параход ішоў наперад. І з кожным днём набліжаўся да ахопленай пажарам краіны. Ён павінен быў абмінуць берагі Іспаніі, і аб гэтым шчыра шкадавалі ўсе. Яша часта наведваўся да радыста, патрабуючы навін. У вольны час ён памногу стаяў на палубе, і яму здавалася, што ён чуе далёкі гул гармат. Ён уяўляў сабе, як ідуць у атаку калоны мяцежнікаў, як рухаюцца іх танкі, як нізка над зямлёй праносяцца іх самалёты і як успыхваюць сізыя дымкі з рэспубліканскіх акопаў, як узнімаюцца высока ўгару чорныя слупы выбухаў, а ланцугі п'янага зброду

ўсё ідуць і ідуць наперад у засені шырокіх крылляў бамбардыроўшчыкаў, пад грымотны гул цяжкай артылерыі, пад аховай танкаў. І вось сціхае агонь рэспубліканцаў, усё радзей успыхваюць сізыя дымкі з іх акопаў, вецер носіць густыя воблакі дыму і пылу...

Але ў гэты час... У гэты-ж самы момант, калі апошні баец з прастрэленай галавой падае на дно акопа, нечакана спыняецца першы ланцуг наступаючых, потым другі... Хвіліна... і яны бягуць... назад. З хмары дыму і пылу, адтуль, дзе бліскае агонь і асыпаецца зямля, з'яўляюцца другія танкі і за імі ідуць байцы ў блакітных шапачках. І вось асеў на бок адзін з варожых танкаў, вось заварачвае назад другі, і мяцежнікі бягуць натоўпам. І тады з'яўляецца конніца... Ва ўвесь мах імчаць коні, гул капытоў сутрасае зямлю, і маланкамі бліскаюць клінкі... І вось, схапіўшыся за галаву, падае афіцэр.

Яша ведае яго... Ён памятае яго ашчэраны рот і белыя мутныя вочы, і рэдкія вусы, і перакрыўлены шырокі рабы твар.

... Маленькі Яша знайшоў прыгожую штучку, падобную да цвіка. Не іначай, яе згубілі людзі, якія зараз былі тут, у гэтым пакоі. Яны, мусіць, яе і шукалі, бо абярнулі ложак, адсунулі камод, поўзалі па падлозе, вытраслі зямлю з вазона, у якім расла кветка, і ўсё крычалі на бацьку, патрабуючы, каб ён ім нешта аддаў. А гэтая штучка якраз і ляжала на падлозе, у шчыліне між дошкамі, і блішчэла адтуль. Яша заўважыў яе адразу. Як толькі маці прывяла яго ў гэты пакой і пакуль тыя людзі шукалі ў гэтым пакоі і грукалі там, і стукалі, і крычалі, Яша знайшоў запалку і выкалупаў гэтую бліскучую штучку са шчыліны. Вось ён яе зараз аддасць гэтым злым і крыклівым людзям, і ўсё будзе спакойна.

— Так што, нічога няма, вашбродзь, — сказаў з-пад ложка натужлівы голас.

Афіцэр кінуў косы погляд на чалавека, што стаяў перад ім, і скамячыў у руках пальчатку.

— І друкарскі станок, і шрыфт, і прылады, — сказаў ён скрозь зубы.

— Усё тут было, а цяпер няма. Ты мне ўсё скажаш.

Чалавек пацісnуў плячыма.

— У мяне ніколі гэтага не было, — спакойна адказаў ён.

Афіцэр сеў пісаць пратакол. Ля дзвярэй моўчкі стаялі

салдаты. У пакоі было ціха, толькі скрыпела пяро. Афіцэр пісаў пратакол аб тым, што пры вобыску нічога знайсці не ўдалося. І ў гэты момант скрыпнулі дзверы, і спакойны твар чалавека, што стаяў ля стала, збялеў, а жанчына, якая тулілася да сцяны, коратка ўскрыкнула. У пакой увайшло дзіцянё ў даўгой кашулі. Дзіцянё трымала ў руках бліскучую штучку. Яно падышло да афіцэра.

— Дзядзя... на!

І на шырокую мужчынскую далонь кволая дзіцячая рука паклала маленькую літару.

— Вось і шрыфт! — сказаў афіцэр. — Вельмі ўдзячны, малады чалавек. Літара «р». Першая літара ад слова «расстраляць». Ну, апранайцеся. І вы, мадам, таксама.

Ён устаў і парваў пратакол.

Гэтага ўсяго Яша нічога не памятае, акрамя твару афіцэра: шырокі, рабы твар, мутныя вочы і рэдкія вусы. Усе вышлі, у пакоі стала цёмна, і пасля гэтага для Яшы пачалося новае жыццё. Бацьку свайго і маці ён больш не ўбачыў, яны загінулі ў тую-ж ноч. Аб усім гэтым Яша даведаўся, калі ўжо быў юнаком. І тады ён зразумеў, чаму дзіцячая памяць захавала злы выраз мутных вачэй, ашчэраны рот, перакрыўлены рабы твар...

Дзіцячы дом, школа, піонератрад, комсамол і вучоба. Партыя і краіна вырасцілі дзіця, пакінутае ў цёмным пакоі, і вось на палубе совецкага парахода стаіць малады совецкі марак.

Можа той калчакавец даўно ўжо сатлеў на снежных палях Сібіры, на шляхах пагібельнага адступлення разгромленых банд, але замест яго падаюць ад мяча гісторыі гэткія-ж, з перакрыўленымі тварамі, з нянавісцю і страхам у звярыных зрэнках, падаюць, каб не ўстаць больш ніколі, найміты і здраднікі, каты і забойцы.

Аб гэтым усім ты напішаш у сваіх вершах, Яша.

* * *

У час начной варты нечакана зазвінеў машынны тэлеграф.

— Стоп!

Яшу паклікалі наверх. Ён вышаў на палубу і спыніўся, аслеплены. Магутны прамень пражэктара ўдарыў у вочы, і Яша адступіў на крок.

— Фашысты, — сказаў нехта побач. — Фашысцкі крэйсер патрабаваў спыніцца.

— Наперадзе падлодка, — сказаў другі. — Прайшла ўпоперак нашаму курсу.

Калі вочы Яшы прывыклі да гэтага асляпляючага святла, ён убачыў, што на трапу ўзнімаецца група людзей, убачыў капітана і памочнікаў капітана і ўсіх сваіх.

— Мы іх павыкідваем за борт! — сказаў Яша, сціскаючы кулакі. — Мы іх...

Нехта схапіў яго за руку. Гэта быў прыяцель Яшы.

— Падпарадкуюся сіле, — учуў Яша гнеўны голас капітана.

— Перакладчык! — сказаў нейчы рэзкі голас.

— Не патрэбна перакладчыкаў, — адказалі яму на добрай іспанскай мове.

Яша ўбачыў за спіной фашысцкага афіцэра чалавека ў цывільным адзенні. Гэта быў перакладчык. Ён не выходзіў наперад і ціснуўся ля поручняў.

— Белагвардзеец... — падумаў Яша. І больш не спушчаў з яго вачэй. Астатняе было, як у тумане. Шырокі рабы твар, рэдкія вусы і метныя вочы. Ён?

— Можа ты і загінуў, гад... — думаў Яша. — Можа, твае косці спарахнелі ў зямлі... А можа гэта і ёсць ты, і ты стаіш тут на палубе нашага парахода... Усёроўна пагібель твая... пагібель твая блізка... Ты прыляцеў з харбінскіх прытонаў, крывавы груган, выдзёўбваць вочы байцам за свабоду Іспаніі! Ты адважыўся ступіць, вырадак, на палубу савецкага карабля!.. Памятай, над ёй сцяг маёй радзімы... Памятай, мы сустрэнемся з табой!

І можа так думалі астатнія. Чалавек у цывільным туліўся за плячыма фашыстаў, ён не адыходзіў ні на крок, і толькі тады, калі ўся банда накіравалася да трапа, каб пакінуць параход, ён азірнуўся.

Прапітыя вочы забойцы і какаініста сустрэліся з гордым поглядам пагардлівых і гнеўных вачэй савецкіх маракоў. І ён не стрымаў, як не маглі стрымаць гэтых поглядаў астатнія піраты. Нянавісць і страх бліснулі ў мутных зрэнках, ён адвярнуўся і знік у цемры за бартом.

— Мы сустрэнемся з табой!

Праз некалькі гадзін радыёстанцыі паведамілі свету аб нападзе фашыстаў на савецкі транспартнік.

*1937 г.*

## *Дачка эскадрона*

Пачатак гэтай кароткай гісторыі сумны.

... Быў ясны летні дзень. Сонца высока ішло над зямлёй, сівыя хвалі каласістага жыта хадзілі па полі ад краю да краю, падступаючы да самых агародаў маленькай вёскі. Жаўранкі, вясёлыя і нястомныя песняры поля, плавалі ў затуманеным гарачынёй паветры. Зямля млела пад сонцам, на дарогах вецер замятаў пыл. Вось у такі час поўдня прышла бяда ў маленькую і ціхую вёску, што ляжала між палёў, на ўзбярэжжы вялікай сажалкі.

Старыя вербы нахіліліся над зялёнай вадой, дзе плавалі вёрткія таўстыя жукі. Яны ўсплывалі на паверхню і спрытна давалі нырца. Маленькая Марыся любіла глядзець на гэтых вясёлых жукоў, якім добра было жыць у цёплай вадзе, у зялёнай засені пад старымі вербамі, у прыемным суседстве з пахучымі жоўтымі кветкамі стаўбункоў і прыгожымі белымі ліліямі. Глыбей, ведала Марыся, жылі карасі, лянівыя і тлустыя рыбы. Іх жыццё было для Марысі невядомым і недаступным. У таямнічых глыбінях сажалкі былі русалкі і далей, за памост, на якім бабы мылі бялізну і бялілі палатно, ісці было нельга.

У гэты дзень Марыся ад самай амаль раніцы была ля сажалкі. Іншыя пайшлі ў поле шукаць на межах ягад, а Марысі было добра тут, на памосце, пад вербамі. Жукі гулялі як ніколі, і раз нават Марыся на ўласныя вочы бачыла карася. Ён недалёка ад берагу бліснуў залатой луской і знік над шырокім лісцем лілей.

Раптам, як-бы гром праграмеў недзе за лесам. Потым зусім блізка гаўкнулі нейкія злыя сабакі:

— Гаў-гаў-гаў!..

І Марыся ўчула гул далёкі і працяглы, як-бы шмат раёў пчаліных ляцела над сажалкай, як-бы віхор ішоў над полем... і тады — цёмны слуп зямлі ў зялёным бляску нябачанага, страшнага полымя ўзняўся на агародах, там, дзе высокая расла канапля, і павольна апаў. Воблака цёмнага дыму паплыло над берагамі сажалкі.

Марыся, дрантвеючы ад страху, збегла з памоста і прытулілася да вярбы. Зноў брахнулі басавітыя сабакі, і тады прыўзняўся дах адной з хат, хмара дыму ўсплыла над вёскай, высока ў паветры ўзляцела салома і жэрдкі, і ўсё адразу ахапіў агонь.

Марыся закрычала і заплакала, тонкі дзіцячы голас зазвінеў і сціх, бо ў гэты момант снарад ударыў у памост, высачэзным фантанам узляцела ўгару вада, затрашчала старое дрэва, расшчапляючыся напалам, і ў гэтым громе і гуле загінулі маленькая Марыся, старое дрэва і вясёлыя таўстыя жукі.

* * *

Марыся ляжала на стале, тоненькая і спакойная. У прыгалоўі гарэла свечка. Белыя Марысіны валасы былі прыбраны ў кветкі. Іх шмат расло ў жыце, у пахучай цеплыні, пад бярозкамі на ўзмежжах. Кветкі прынесла Зося, старэйшая сястра Марысі, і яна стаяла цяпер ля стала, на якім ляжала Марыся. Зося трымала за руку малодшую сваю сястру Надзю і плакала паціху, слёзы цяклі па яе бледных шчаках, слёзы збалелага дзіцячага сэрца, якое ўпершыню пазнала цяжар няшчасця. Трохгадовая Надзя нічога не разумела. Яна глядзела на спакойную Марысю, на кветкі і жоўты агеньчык свечкі, і ў яе шырока адкрытых сініх вачанятах было здзіўленне.

Суседка моўчкі стаяла ля парога. Змарнелая ад гора, маці Марысі ляжала на ложку. У хаце было ціха. Надыходзіў вечар, сонца зайшло, і зара ў дыме пажарышча была крывавай і страшнай. На вуліцы порскалі ад дыму коні, гаманілі чужыя і злыя людзі. На пажарышчы тлелі галоўні, вецер перавейваў попел, і ад попелу была шэрай

дарога, зеляніна садоў і агародаў, стрэхі і сцены будынкаў, якія засталіся цэлымі. У дыме і попеле, у крывавым бляску зары прыходзіў пануры, журботны вечар, загасаў нешчаслівы дзень.

— Мой ты саколік, Яначка... — зашаптала маці Марысі. — Ляжыш ты ў чужой зямельцы, на чужой старонцы, сатлелі твае костачкі, і не ведаеш ты, родны мой, што сталася з тваімі дзетухнамі... А-ах, божа, божа!..

Жанчына, параненая няшчасцем, плакала аб сваім дзіцяці, аб сваім мужы, які загінуў недзе на палях Галіцыі, аб сваім гаротным, бяздольным жыцці...

Але няшчасце не хацела пакідаць цёмных, пракураных сцен хаціны. Яно было ў вёсцы і не выходзіла з яе. З вуліцы данасілася рэзкая і кароткая каманда, іржалі коні, тупалі цяжкія салдацкія боты, п'яныя галасы спявалі працяглую і незразумелую песню.

Нехта прышоў у сені, наткнуўся на вядро, прабурчэў нешта і доўга намацваў засаўку. Суседка адчыніла дзверы. На парозе стаяў салдат, перавязаны рамянямі, з вінтоўкай у руцэ. Ён быў велізарны і шырокаплечы, ён быў грозны і страшны ў маленькай хаціне, асветленай трапяткім агеньчыкам свечкі. Салдат мутнымі, цяжкімі вачыма агледзеў усіх, затрымаў погляд на кветках, на жоўтым спакойным тварыку Марысі, пераступіў з нагі на нагу і пахіснуўся. Салдат быў п'яны.

— Крова!.. — сказаў ён.

Жанчына ўзнялася з ложка і са страхам глядзела на салдата.

— Крову... — растлумачыў салдат. — Для плютону...

І звярнуўся, каб выйсці з сяней. На дварэ, каля абгарэлага хлева, прывязаная да плота стаяла карова. Толькі цяпер зразумела жанчына, у чым справа.

— Не дам каровы! — закрычала яна, кідаючыся ў сені. — Не дам! Паночак, даражэнькі, што робіце!..

Салдат адпіхнуў яе плячом і вышаў на двор. Ён падышоў да каровы і спрытным, гаспадарскім рухам скінуў вяроўку з рог. Карова адышла ад плота, жанчына пабегла да яе і схапіла карову за рогі. Салдат, не спяшаючыся, падышоў, павольна адвёў руку і кароткім ударам у грудзі збіў жанчыну з ног.

— Ма-а-ама! — закрычала Зося з парога. Суседка, лементуючы, пабегла з двара. Жанчына хутка ўзнялася на ногі і кінулася на салдата.

— Я табе вочы паганыя выдзеру! — крычала яна. — Не дам каровы! Пусці...

Яна схапілася за рамяні, якімі быў перавязаны салдат, яна трасла яго за грудзі, у яе быў скарэжаны грымасай адчаю твар, расшохраныя, ускудлачаныя валасы. Яна была незвычайнай і страшнай. Такой яна засталася ў памяці Зосі назаўсёды. Салдат зноў, без усякага высілення, павольным і моцным штуршком збіў яе з ног, ускінуў вінтоўку, паглядзеў на затвор і прыцэліўся ў карову, якая бегла па дварэ да варот. Жанчына ўскочыла і зноў кінулася на салдата. Салдат азірнуўся і зноў прыцэліўся. У гэты момант ён пахіснуўся. Жанчына схапілася за вінтоўку. Салдат паспрабаваў адпіхнуць яе ўбок, і зараз-жа грымнуў стрэл.

Карова выбегла за вароты, жанчына, прыціскаючы рукі да грудзей, пахіснулася, зрабіла два-тры павольныя крокі і са стогнам лягла на зямлю. Працяглы, звонкі дзіцячы крык запоўніў раптоўную, жудасную цішыню. Салдат зноў азірнуўся і, утуліўшы галаву ў плечы, хутка пайшоў з двара.

Назаўтра, на могілках, за разбуранай вёскай, хавалі загінуўшых яе жыхароў. Прыбітыя горам, нешчаслівыя людзі апусцілі ў адну шырокую яму маленькую труну дзіцяці і вялікую труну яе маткі. Людзі плакалі і бедавалі над сваім і чужым горам. Над свежым насыпам стаялі двое сірот. Зося выглядала дарослай. Смутак змяніў дзіцячы твар. У шырока раскрытых сініх вачах Надзі паранейшаму было спакойнае здзіўленне. Яна нічога не разумела. У яе быў свой, асаблівы свет, у які яшчэ не прыходзілі няшчасці.

У той-жа дзень пачаўся бой за маленькую вёску над сажалкай. У полі, у жыце і на агародах вёскі, дзе была засень канаплі, у садах, пад разветлымі яблынямі стагналі і паміралі людзі. Вёска згарэла дашчэнту, жыхары паразбегліся. Зосю і Надзю, разам са сваёй сям'ёй, калі сціх бой, увечары сусед павёз у мястэчка.

Яны прыехалі туды раніцой. Скрозь па дарозе ішлі фурманкі. Ваенныя абозы скідалі з дарогі ў канавы нагружаныя ўбогім скарбам падводы ўцекачоў. Ліхія панскія уланы спявалі песні, гойдаючыся ў сёдлах, стогн і лямант, і лаянка і крыкі стаялі над мястэчкам, дзе здарыўся затор, трашчалі аглоблі, іржалі і храплі коні. Уланскі полк пракладаў сабе дарогу.

Тады здарылася нечаканае. Ліхія уланы раптам пачалі з'язджаць з дарогі. Яны пераскоквалі праз канавы і, азіраючыся, шпорылі коней. Адны ляцелі ў поле, другія ўзбоч дарогі імчалі ў мястэчка. Некаторыя з іх завязлі між падвод і працавалі клінкамі. Узмацніліся трэск і грукат, і крыкі, каманда і лаянка. Афіцэр на рыжым жарабку махаў шабляй, склікаючы сваё войска. Недзе застукаў кулямёт, затрашчэлі стрэлы вінтовак.

Моцны гул набліжаўся аднекуль, як надземны гром. Людзі ўбачылі з дарогі нешта падобнае да чорнай хмары, што хутка імчала па полі.

— Чырвоныя! — закрычалі людзі. — Чырвоныя ідуць!

У фланг уланскаму палку, які расцягнуўся на дарозе і заблытаўся ў падводах, шырокім велізарным поўкружкам, ахопліваючы поле, са страшным гулам конскіх капыт, без адзінага стрэлу і выкрыкаў, бліскаючы клінкамі, ішла ў атаку чырвоная конніца, і над ёй шматком чырвонага полымя трапятаў сцяг.

Гул узмацняўся, чутно было храпенне коней. Па дарозе кацілася частая, бязладная страляніна. І тады, пакрываючы стрэлы і крыкі, загрымела над полем:

— Ур-р-ра-а!..

Зося памятае кавалерыста, які першым дасягнуў дарогі. З выскаленай зяпы каня падала пена, конь храпеў, раздзімаючы ноздры, налітыя крывёй вочы былі вачыма звера. Коннік дагнаў афіцэра, які махаў шабляй і склікаў салдат. Сталася нешта такое, ад чаго шыкарны улан адкінуўся назад і, схапіўшыся за галаву, недзе знік. Больш нічога не захавала дзіцячая памяць Зосі.

Не памятае яна і таго, якім чынам яна апынулася ў мястэчку, з якога былі выбіты белапалякі адным ударам будзёнаўцаў. Не памятае яна і таго, дзе падзеліся суседзі і, галоўнае, дзе і калі знікла маленькая Надзя. Зося захварэла ў той-жа дзень, і, калі паздаравела, прайшло два тыдні. Змарнелая дзяўчынка доўга хадзіла па мястэчку, распытваючы пра сястру. Ніхто нічога не мог ёй сказаць. Была вайна, людзі з'яўляліся і знікалі назаўсёды, былі пажары і разбурэнне і смерць.

Зося не ведала, што Надзю знайшоў на дарозе чырвоны камандзір і ўзяў яе да сябе на сядло. Ён даведаўся ад дзіцяці толькі імя. Больш Надзя нічога не магла яму расказаць. Ён гладзіў сваёй жорсткай рукой светлыя валаскі дзіцяці, у вачах якога быў сіні і чысты спакой. Байцы на-

сілі дзіця на руках, здабывалі для яго прысмакі, і, калі часць выходзіла з мястэчка, камандзір зноў узяў Надзю на сядло. Ён аддаў яе потым у дзіцячы дом пад сваім прозвішчам, і ад імя байцоў папрасіў добра даглядаць дзіця. У тым-жа выпадку, калі дзіця згубіцца, ён сказаў, што знойдзе вінаватых хоць-бы на дне мора. Пасля гэтага камандзір сеў на каня, і часць пайшла цяжкімі сваімі баявымі дарогамі.

А гаротныя дарогі сірот, адзінокіх і абяздоленых, прывялі-б іх у горкае, беспрасветнае жыццё, якім жылі іх дзяды і бацькі. Але год, у які разлучыліся Зося з Надзяй, быў апошнім годам цярпення і пакут народа.

Гэта быў 1920 год.

* * *

Прайшло шмат гадоў... Краіна, на палях якой некалі грымеў пажар вайны, расквітнела бязмерным багаццем здабыткаў, вялікай радасцю свабоднага жыцця. У сталіцы рэспублікі адкрыўся з'езд Советаў, для таго, каб прыняць закон, вышэйшы за ўсе чалавечыя законы, падараваны народу яго мудрым правадыром. Дэлегаты з'езда ў дзівосным палацы, пабудаваным працай і талентам сваіх майстроў мастацтва, былі законадаўцамі і гаспадарамі сваёй краіны, і іх вітаў шчаслівы народ.

Аднойчы група дэлегатаў наведала дзяржаўны тэатр. Артысты з захапленнем сустрэлі сваіх гасцей. Канцэрт, утвораны для іх, быў выключным па таленавітасці выканання, па сіле мастацтва. Асаблівым было выступленне маладой спявачкі. Стройная, яснавалосая дзяўчына спявала некалькі разоў, яе выклікалі і зноў прымушалі спяваць.

— Артыстка Вароніна, — сказаў дырэктар тэатра, — у заключэнне праспявае ўласную сваю песню «Дачка эскадрона». Тэкст напісаны самой артысткай, музыку напісаў кампазітар...

Прозвішча кампазітара ўчулі не ўсе. Словы дырэктара патанулі ў шуме апладысментаў. Артыстка пачала песню. Гэта была песня радасці і ў той-жа час поўная лёгкага смутку, калі высокі голас спявачкі гаварыў людзям аб тых, хто аддаў жыццё за шчасце свайго народа. Калі артыстка скончыла — некаторы час у велізарнай зале

тэатра была цішыня. Гул авацыі ізрынуўся ў гэтую цішыню, як горны абвал.

Пасля артысты запрасілі сваіх гасцей на абед. Артыстка Вароніна сядзела за сталом побач з нейкім пажылым камандзірам. Ён не адносіўся да дэлегатаў і, тым больш, да актораў. Спявачка была ў цэнтры ўвагі. Хутка ўсе даведаліся, што пажылы камандзір — бацька артысткі.

Калі абед заканчваўся, з падзякай ад імя дэлегатаў з'езда выступіла жанчына. Яна была сярэдніх гадоў, апранутая проста. На яе грудзях быў ганаровы знак краіны.

— Я не магу без хвалявання ўспомніць песню артысткі Воронінай, — сказала дэлегатка. — Гэтая праўдзівая песня ўзята з жыцця нашай таленавітай спявачкай і паэтэсай.. Гэта — чыстая праўда, таварышы... Совецкія жанчыны былі і байцамі і дзецьмі байцоў. Мы дорага заплацілі за сваю свабоду, мы шмат памятаем ахвяр!.. Наша шчаслівае і творчае жыццё мы здабылі ў цяжкіх баях, коштам вялікіх утрат... І калі вораг памкнецца ступіць сваёй паганай драпежніцкай нагой на нашу дарагую зямлю, мы, свабодныя жанчыны Краіны Советаў, дзеці байцоў, станем побач з нашымі бацькамі, мужамі і братамі. І мы яшчэ раз адплоцім ворагу за пагібель нашых дзяцей, матак і сясцёр... Я хвалююся, таварышы, але я хачу вам расказаць аб тым, што навеяла на мяне песня артысткі Воронінай...

— Гэта дырэктар фабрыкі, — гаварылі пра дэлегатку за сталом.

І яна пачала расказваць. Яна не заўважала, як пад канец яе расказу змяніўся твар Воронінай, як усхваляваўся спакойны, нават флегматычны камандзір.

— ... так я згубіла сваю маленькую Надзю... — задумана, у глыбокай цішы гаварыла жанчына з ордэнам, — і мне хочацца думаць, што яе ўзяў да сябе на сядло камандзір, што яна была дачкой эскадрона і засталася жывой і шчаслівай, бо ў нашай краіне няма нешчаслівай жанчыны.

У гэты момант нехта дакрануўся да пляча дэлегаткі. Перад ёй стаяла артыстка Вароніна. У сініх, шырока адкрытых вачах спявачкі былі слёзы і радасць і боль.

— Сястра!.. — ціха сказала яна. — Сястра мая!

*1937 г.*

# *Апавяданне пра гуманізм*

Спачатку размова ішла аб дробязях. Госць Іван Іванавіч, дробненькі стары, хадзіў па пакоі. Гаспадар маўкліва сядзеў за сваім прасторным рабочым сталом. Павольна шчоўкаў маятнік, з сумежных пакояў даносіўся гоман і смех.

— Вось і яшчэ гадок пражылі мы з табой, Ефім Сцяпанавіч... — уздыхнуў госць, падыходзячы да акна.

Ефім Сцяпанавіч моўчкі паківаў галавой. У прыхожай азваўся званок. Па калідоры нехта прабег. Раздаліся радасныя воклічы, прывітанні. Потым усё гэта рушыла ў пакой. Збіраліся госці.

Іван Іванавіч доўга стаяў ля акна, пазіраючы ў цемру, дзе шырока раскінулася велізарнае сузор'е агнёў горада, потым падышоў да стала.

— Ведаеш, Ефім Сцяпанавіч, што я хачу зрабіць? — спытаў ён.—Я хачу сказаць нашаму маладняку навагодні тост.

— Ну, ну!.. — заахвочваючы ўсміхнуўся гаспадар.

— Я ім скажу так... (Іван Іванавіч прыняў позу аратара). Маладыя таварышы, маладыя сябры нашы...

— Ну, ну...

— ... Год — гэта трыста шэсцьдзесят пяць дзён, плюс шэсць гадзін. Гэта мера, устаноўленая чалавекам для вызначэння адлегласці часу і напоўненая жыццём, натхненнем творчасці, радасцю перамог, адчаем няшчасцяў, спакоем сілы, парывамі шуканняў, усім, што ўласціва жыццю. Для мяне і для майго паважанага калегі і старога друга Ефіма Сцяпанавіча шмат гэтых мерак заста-

лося ў мінулым. Перад вамі-ж — нязведаная і светлая далячынь будучыні. У сувязі з гэтым я хачу сказаць, што вы, маладыя таварышы нашы,—самыя шчаслівыя людзі на свеце ў разуменні мінулых часоў і сучаснасці. Вы, іменна, совецкая моладзь... Мы з Ефімам Сцяпанавічам не толькі адлічылі дастатковую колькасць памянёных вышэй мерак, але і грунтоўна азнаёміліся з іх, так сказаць, начынкай. І з усяго добрага і дрэннага, што здараецца ў жыцці чалавека, на нашу долю прыпадала ў пераважнай большасці апошняе. Ефім Сцяпанавіч напісаў сваю выдатную працу ва ўмовах жабрацкага, галоднага побыту, а вынаходніцтва вашага пакорнага слугі нарадзілася ў начлежным доме, хаця вы не ведаеце, што такое начлежны дом... Я жыў па чужым пашпарце з прычыны разыходжання маіх поглядаў з поглядамі ўрада яго вялікасці... Мы можам расказаць вам аб разгонах паліцыяй студэнцкіх сходаў, аб пагромных аперацыях мітрапаліта Сергія, нарэшце, аб Монпарнасе і запэўніць вас, што, не гледзячы на рамантыку, якой авеяла літаратура гэты квартал Парыжа, ён быў і застаецца галодным светам сутарэнняў і мансард. Аб гэтым вы таксама не ведаеце, як і аб астатнім. За вамі не гнаўся конны паліцэйскі і вас не лупцавалі чорнасоценцы ўладыкі Сергія...

Усмешка знікла з твару Ефіма Сцяпанавіча, і ён задумаўся. Гэта прамоўца заўважыў.

— Жыццё ў тых умовах было прыніжэннем, творчасць — геройствам... Цяпер пад словам «геройства» разумеецца нешта такое, што немагчыма абсалютна нідзе на свеце, і магчыма толькі ў краіне, якая ўзнікла на той частцы планеты, дзе некалі была імперыя Расія. І цяпер мы з Ефімам Сцяпанавічам на геройства, у новым сэнсе слова, не здольны, з прычыны зношанасці механізмаў. І гэта не па сутнасці маёй прамовы. Сутнасць яе ў тым, што я яшчэ раз і яшчэ раз хачу сказаць: вы самыя шчаслівыя людзі на свеце. Вы жывеце ў краіне, законы якой з'яўляюцца марай лепшых людзей усіх часоў і эпох. Вы нарадзіліся ў гэтай краіне, і ваша маладосць расквітнела ў ёй. Для вас першы дзень новага года — гэта новая ступень да вышынь чалавечага шчасця, вольнай творчасці, радасцей жыцця. Вы моладзь, якая не ведала жудасці прыніжэння, роспачы жабрацтва, тугі адзіноцтва... Дарагія сябры мае! Заканчваючы сваю пра-

мову, я хачу даць вам адну параду: ідучы сваімі дарогамі, абмінаючы знакі гадоў, назаўсёды запомніце дату сённешняга дня. Яна завяршыла год, у які адбылася значнейшая гістарычная падзея. Гэты год падараваў чалавецтву Сталінскую Канстытуцыю! Назаўсёды запомніце гэта і аберагайце, як лепшы ўспамін вашай маладосці. За радасць і шчасце нашай краіны, за лепшых яе людзей, за бясцэннае здароўе дарагога і любімага, вялікага нашага правадыра! З новым годам, таварышы!

Іван Іванавіч памаўчаў.

— Ну, а ты, Ефім, адыграеш на раялі туш. Такім парадкам мы з табой удвух віншуем маладняк.

Ефім Сцяпанавіч павольна ўстаў і вышаў з-за стала. Ён быў сівы, плячысты і высокі, на галаву вышэйшы за Івана Іванавіча.

— Іван! — сказаў Ефім Сцяпанавіч. — Іван, я здзіўлены і ўзрадаваны. Ты застаўся маладым. Людзі, якія ў твае гады гавораць аб жыцці так, як ты, доўга жывуць і добра працуюць.

І ён падаў Івану Іванавічу шырокую далонь.

У гэты-ж момант зазвінеў тэлефон. Ефім Сцяпанавіч падышоў і ўзяў трубку. Хвіліну ён стаяў моўчкі і слухаў. Іван Іванавіч заўважыў, як сышліся яго сівыя бровы і рыска заклапочанасці лягла на маршчыністы лоб.

— Я... — сказаў Ефім Сцяпанавіч і скоса зірнуў на акно, — словам... вось што... прысылайце машыну!

І паклаў трубку.

— Што там такое?.. — спытаў зацікаўлены Іван Іванавіч, разглядаючы кнігу. — Паедзеш куды-нібы?

— Не зусім, — сурова ўсміхнуўся Ефім Сцяпанавіч. — Я палячу на самалёце.

— Што?

— Мне трэба ляцець на самалёце. Званілі ад наркома аховы здароўя... Патрэбна неадкладная аперацыя. Захварэў значны работнік, інжынер, кансультант будаўніцтва.

— Далёка?

— Трыста кіламетраў... Мне сказалі, што аэраплан гатовы і чакае на гэтым, як яго... старце. Зараз прыдзе машына, дапамажы мне сабрацца.

— Ефім... А сэрца?

— Што сэрца?

— А сэрца тваё... Твая хвароба... Ты-ж ніколі не лётаў!.. Ты ведаеш, чым гэта можа скончыцца?

— У кожнага сэрца...

— Ефім, дай паглядзець пульс...

— Іван, — знецярпліваўся раптам Ефім Сцяпанавіч. — Пакінь!

Ён крута завярнуўся і вышаў з пакоя. Іван Іванавіч схапіўся за галаву, пастаяў так нейкі момант, потым кінуўся да акна.

— Ноч, цемра... — залемантаваў ён. — Што ты робіш, Ефім! Ці ў твае гэта гады!

Ефім Сцяпанавіч увайшоў у кабінет, апранаючыся на хаду.

— Не будзем строіць трагедый, — цвёрда сказаў ён. — Мне трэба ехаць. Гэта чалавек, які пабудаваў гіганцкі завод, цуда тэхнікі. Яму пагражае пагібель і, відаць, я адзін толькі магу выратаваць яго. Да таго-ж у нас з ім ёсць і асабістая справа. Ён быў некалі маім другам. Я шчыра дружыў з ім адзін год і ненавідзеў яго потым трыццаць гадоў. Сёння надышоў час скончыць нашы спрэчкі. Словам, больш няма аб чым гутарыць... Трэба спяшацца. Будзь ласкавы, там, на шафе, скрынка з інструментам.

Праз нейкі час Ефім Сцяпанавіч зусім падрыхтаваны стаяў ля дзвярэй.

— Я павінен перагледзець тэзіс аб геройстве, — ціха сказаў узрушаны Іван Іванавіч. — Я скажу...

— Толькі паспрабуй! — пагрозна зашаптаў Ефім Сцяпанавіч. — Ты што, не ведаеш становішча Надзі? Ты хочаш мяне пазбавіць унука? Ты глядзі ў мяне, аратар! Скажы, што я на ўсю ноч паехаў да хворага, будзь за гаспадара, і больш нічога ад цябе не трэба. Ну, я пайшоў... Правільней, паляцеў!

І з гэтым Ефім Сцяпанавіч вышаў.

— Прафесар хірургіі... — з захапленнем сказаў Іван Іванавіч. — Лётчык! Ах, Ефім, Ефім!

Ля пад'езда стаяла аўто. Калі Ефім Сцяпанавіч падышоў, дзверка адчынілася. Там сядзеў швейцар інстытута, Максім.

— Футру для вас прывёз... — зашаптаў стары, беручы ад Ефіма Сцяпанавіча скрынку з інструментам. — Дзеля такой справы...

— Ну, ну! — коратка адказаў Ефім Сцяпанавіч.

Машына рушыла.

Ярка асветленыя вуліцы цэнтра, цёмныя завулкі ўскраіны і, нарэшце, шасе, простая дарога і змрочныя прасторы поля.

На аэрадроме Ефім Сцяпанавіч упершыню глянуў угару і ўбачыў чорную непранікнёную прастрань. Гэта была бязмерная вышыня, запоўненая цемрай.

У святле пражэктара наперадзе вырысоўваўся нізкі, шырокакрылы птах. Чалавек у скураным адзенні падышоў да Ефіма Сцяпанавіча і нешта падаў.

— Шлем і акуляры, — сказаў ён. — Апранайце, калі ласка.

Ён павёў Ефіма Сцяпанавіча да самалёта. Тут прафесар спыніўся.

— Не зашпільваецца шлем, — збянтэжана сказаў ён. — У мяне барада...

Крылатая машына сарвалася з месца, паімчала па полі і з гулам пайшла ўгару. Недзе збоку праплылі агні, глыбокая цемра ахапіла Ефіма Сцяпанавіча, і ён адчуў, як сэрца цяжка варухнулася і стукнула ў грудзях. Цыферблаты прыбораў, запоўненыя бледным фасфарычным святлом, паплылі перад вачыма цьмянымі плямамі.

— Нічога, нічога... — прашаптаў Ефім Сцяпанавіч.

Люта рычаў матор. Ефім Сцяпанавіч бачыў шырокія, спакойныя плечы лётчыка. Адзін раз ён азірнуўся і зрабіў жэст, якога Ефім Сцяпанавіч не зразумеў. Навокал была цемра і здавалася, што машына без руху вісіць у паветры. Але нечакана недзе далёка ўнізе з'явіўся агеньчык, мільгнуў і знік. Ефім Сцяпанавіч адчуў млосны ўдар сэрца, дакрануўся рукой да грудзей, і тады надышла глухая цішыня.

Абудзіўся Ефім Сцяпанавіч ад моцнага штуршка. Самалёт імчаў па зямлі ў зыбкім святле пражэктараў, цёмныя фігуркі людзей беглі побач і адставалі. Ефім Сцяпанавіч знайшоў сілы ўздыхнуць і адчуў сябе лепш.

Лётчык вылазіў з кабіны, азіраючыся на Ефіма Сцяпанавіча. Нехта падышоў да самалёта. Воддаль бліснуў агонь і хутка пачаў набліжацца. Па аэрадроме імчала аўто. Ефім Сцяпанавіч хацеў паварушыцца і не здолеў. Яму стала страшна, але потым ён здагадаўся, што прывязаны.

— Вы дрэнна сябе адчуваеце, прафесар? — спытаў лётчык. — Нічога, гэта пройдзе! У наступны раз...

— У наступны раз можа быць яшчэ горш... — адказаў прафесар. — Мне шэсцьдзесят пяць гадоў і зношанае сэрца. Ну, таварышы, хто тут з бальніцы? Я баюся, мы спознімся.

* * *

Так, Ефім Сцяпанавіч ведаў гэтага чалавека. Нездаровы старэчы тлушч, сівізна і бледнасць твару не перашкаджалі бачыць здаўна знаёмыя рысы. Гэта быў ён, Леанід Паўлавіч Клёнскі. Ён ляжаў непрытомны, паралізаваны цяжкой хваробай, і Ефім Сцяпанавіч павінен быў яго выратаваць. Ён стаяў моўчкі, углядаючыся ў памярцвелы твар гэтага чалавека, і панура слухаў тлумачэнні ардынатара. Некалькі ўрачоў, сярод якіх былі і яго вучні, шапталіся воддаль. Ефім Сцяпанавіч вырашыў, што дыягназ правільны. Ён адвярнуўся ад хворага і сказаў:

— Падрыхтуйце... Я пайду, адпачну крыху.

Ён пайшоў у сумежны пакой і пачаў мыць рукі.

... Гэта было даўно, трыццаць гадоў таму назад. Малады ўрач земскай бальніцы дружыў з маладым інжынерам вялікага металургічнага завода. Леанід Паўлавіч Клёнскі быў багатым чалавекам, жыў шырока і служыў толькі таму, што хацеў «быць у народзе». Ён быў вольнадумцам і за гэта трапіў у правінцыю. Мясцовыя зубры коса пaглядалі на прыгожага і багатага малойчыка, які красамоўна разважае аб альтруізме, гуманізме і іншых высокіх рэчах. На гэтай глебе і пачалася дружба інжынера і ўрача, які нядаўна скончыў універсітэт.

— Калега! — гаварыў Клёнскі, — пачуццё гуманізма ёсць вышэйшая адзнака культуры. Гэтая рыса паспяхова развіваецца і ў гэтым заключаецца прагрэс чалавецтва.

— Гледзячы які гуманізм... — адказваў Ефім Сцяпанавіч. — І гледзячы, хто яго выказвае і да каго выказвае.

Ён не згаджаўся з павярхоўнымі інжынерскімі рацэямі, якія разважаў аб чалавецтве наогул, і яны спрачаліся і нават злавалі адзін на аднаго.

Але праз тыдзень Ефім Сцяпанавіч чысціў бензінам

свой сурдут і ехаў да інжынера за пятнаццаць вёрст па каляістай, немагчымай дарозе. Дружба была, аднак, нядоўгай і скончылася адным навагоднім вечарам.

Ефім Сцяпанавіч быў у ліку гасцей на вечары ў інжынера. Ён сядзеў у кутку, стараючыся не паказваць сваіх парадкам-такі зношаных бацінак, і рабіў выгляд, што цалкам захоплены музыкай пышнай дачкі суседняга памешчыка. На самай-жа справе яму было няёмка. Госці інжынера, людзі добра апранутыя, адкормленыя, недалёкія і самаздаволеныя, былі яму чужымі, і ён быў для іх чужы. Ефім Сцяпанавіч шкадаваў, што прыехаў, і суцяшаўся толькі думкай, што будзе добрая вячэра. У доктарскім целе жыў студэнцкі апетыт. Але да вячэры было яшчэ далёка. На шляху да яе была абшырная музычная праграма. Доктару надакучыла сядзець, ён вышаў у калідор, і зараз-жа да яго падышла жанчына.

— Доктар, даражэнькі, я вас прашу, — трывожна зашаптала яна, азіраючыся. — Я сястра пакаёўкі пана інжынера. Працую тут на фабрыцы... Доктар, у мяне сын памірае, будзьце ласкавы, дапамажыце... Тут недалёка, у бараках... Ратуйце, даражэнькі, пашкадуйце бедных людзей... Сем гадкоў яму...

Жанчына ўсхліпнула. Ефім Сцяпанавіч, моўчкі і спяшаючыся, пачаў апранацца. Праз некалькі хвілін ён хутка ішоў па дарозе, і за ім спяшалася жанчына, ахопленая трывогай маці. Калі Ефім Сцяпанавіч адчыніў дзверы, то нейкі момант затрымаўся на парозе, не адважваючыся ступіць наперад. Душнае, цёплае паветра, цяжкі пах густа ішоў яму насустрач.

— Зачыняй дзверы! — крыкнулі з барака.

Калі доктар ішоў міма нар, ад падушак узнімаліся ўскалмачаныя галовы. Людзі сонным, затуманеным і роўнадушным поглядам сустракалі яго і тут-жа засыналі зноў. Гэта быў зусім іншы свет, чым той, дзе ў блакітнай інжынерскай гасцінай спявае абшырная памешчыцкая дзева.

— Вось тут... — сказала жанчына. — Наш фабрычны доктар казаў, што трэба аперацыя, што яго трэба ў земства завезці... А мене з фабрыкі не пушчаюць.

Доктар нахіліўся і ўбачыў у кучы лахманоў васкаважоўты дзіцячы твар. Ён пачаў агляд. Праз некалькі

часу Ефім Сцяпанавіч, спяшаючыся, ухутваў дзіцянё ў лахманы, якія пападаліся пад руку.

— Хутчэй, — гаварыў усхваляваны ўрач. — Хутчэй, аперацыю неадкладна... Мы яго выратуем...

І ў наступную хвіліну ён ужо бег па дарозе з дзіцянём на руках.

Калі ён увайшоў у калідор інжынерскай кватэры, са сталовай даносіўся голас Клёнскага:

— ... І расквітнеюць, панове, высокія ідэалы гуманізма і чалавечнасці. За новы год, за будучыню!

Ён вышаў у калідор, калі яго паклікаў Ефім Сцяпанавіч, ажыўлены і здаволены. Вочы яго блішчэлі, ад яго пахла віном і парфумай.

— Дзе ты падзеўся, мы проста прыдумаць не маглі! — з дакорам сказаў ён. — А гэта што ў цябе на руках?

— Хворае дзіця, — паспешна адказаў Ефім Сцяпанавіч. — Леанід, загадай закласці тройку, я павязу яго ў больніцу... Патрэбна зараз-жа аперацыя... А то....

Ён сустрэўся з поглядам жанчыны і змоўк.

Парт'ера заварушылася, і жаночы голас паклікаў:

— Леанід!

І Ефім Сцяпанавіч учуў, як маладая, прыгожая, абаяльная жанчына голасна шаптала мужу:

— Мой вазок не для таго, каб на ім вазіць усякіх карослівых байстручкоў. Чуеш? І не думай у мяне! Мы пасля вячэры праедземся з гасцямі, іх коні адпачылі... Я не хачу хварэць на скарлатыну... Ты чуеш, Леанід?

Клёнскі вышаў у калідор, крыва ўсміхаючыся і хаваючы вочы.

Ефім Сцяпанавіч моўчкі завярнуўся і вышаў, беражна трымаючы сваю ношу.

... За паўтары гадзіны яны прайшлі крыху больш паловы шляху. Ефім Сцяпанавіч зняў паліто, аддаў жанчыне і ішоў цяпер у адным сурдуце. У ясным святле месяца маўкліва ляжалі снежныя прасторы. Далёкія лясы хмурнелі на гарызонце... Навагодняя ноч была светлай і спакойнай. Доктар ішоў, ён стаміўся, але страшнае было не ў гэтым. Страшнае было ў тым, што ён адчуваў, як у яго на руках згасае жыццё. Ён баяўся глянуць на маленькі, худы тварык, ён баяўся ўбачыць смерць... Ён ішоў і ішоў, і жанчына спяшалася за ім. Яны падышлі да лесу, і тады

недзе ў срэбных прасторах зазвінелі далёкія званкі і пачалі набліжацца. Па дарозе імчала тройка інжынерскай кампаніі.

Пачулася ўсхрапванне коней, выкрыкі і песні. Званкі звінелі зусім блізка. Доктар сышоў з дарогі, прайшоў некалькі крокаў, спатыкнуўся, але ўстаяў на нагах і потым асцярожна паклаў сваю ношу на снег.

— Усё... — сказаў ён. — Мы спазніліся...

Жанчына ўскрыкнула і схапіла яго за руку. У гэты момант чатыры тройкі праімчалі па дарозе адна за адной і, абмінуўшы маўклівую групу, зніклі ў лесе. Ефім Сцяпанавіч скрыпнуў зубамі і адвярнуўся.

Жанчына плакала. Тонкія галасы званкоў заміралі ў гушчары лесу. Урачыстае маўчанне, глыбокая цішыня зноў сышлі на снежныя прасторы палёў...

Ефім Сцяпанавіч ішоў па ўсходах і за ім маўклівай групай — яго вучні. Выдатны знаўца таямніц чалавечага цела, які не раз перамагаў смерць, ва ўсеўзбраенні сваіх ведаў і вопыту ішоў ратаваць жыццё. Дзверы аперацыйнага пакоя адчыніліся.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Пасля аперацыі Ефім Сцяпанавіч прайшоў у кабінет дырэктара бальніцы, сеў за стол і пачаў пісаць.

«Леанід! — пісаў ён. — Я ратаваў тваё жыццё, рызыкуючы сваім. На гэтым нашы спрэчкі скончаны. Я ненавідзеў цябе шмат гадоў і, каб ты застаўся такім, якім быў, я не кранууся-б з месца для таго, каб цябе ратаваць. Але я ведаю, хто ты. Я ведаю, што ты адным з першых прышоў на дапамогу Савецкай краіне ў гады грамадзянскай вайны, ты не прадаўся ворагам за золата, ты змагаўся са шкоднікамі і пабудаваў завод, якіх мала ў свеце.

Так, Леанід, мы прайшлі даўгі жыццёвы шлях і шмат чаму навучыліся. Ты мог праз цэлыя дні гаварыць аб высокіх ідэалах маралі і гаварыць шчыра, ад сэрца, а на справе не мог супроцьстаяць выпадковаму капрызу жанчыны, і ад гэтага загінула маладое жыццё. Я цябе ненавідзеў, і ты заслужыў гэта. Але і я не зусім быў правы: я гатовы быў тады загінуць сам, каб ратаваць адно

жыццё, але ні на адну хвіліну не думаў аб тысячах гэткіх-жа самых дзяцей, якія гінулі пры такіх-жа ўмовах.

Леанід, тая будучыня, аб якой ты марыў, з'яўляецца сённешнім днём. Я шчаслівы, што мы дажылі да гэтых дзён. Я першым падаю табе руку прымірэння, і нашы даўнія спрэчкі скончаны, бо спрачацца нам няма аб чым. Жыццё, якім мы жывем, прасякнута тымі вышэйшымі ідэаламі, аб якіх мы маглі толькі марыць. Мы калі-нібы ўбачымся з табой і будзем гаварыць аб гэтым. Бывай. Твой Ефім».

— Перадайце хвораму, калі ён паздаравее, — сказаў Ефім Сцяпанавіч, падаючы дырэктару канверт.

*1937 г.*

## *Сон*

Тоненькая жылка над брывом набракла цягучым болем. Тупымі ўдарамі адзываецца сэрца, цела стала чужым і вялым. Абапіраючыся на падаконнік, Міронаў глядзіць у мутны, няпоўны поўзмрок. Вечар сыходзіць на вялізны горад, моцны вецер, ідучы з узмор'я, запаўняе вуліцы і плошчы, кружыць у глухіх дварах, над адталымі гурбамі. Хістаюцца дрэвы, скрыпяць вароты, грымяць дахі. Трывогу і неспакой прыносіць вецер.

На шырокай плошчы перад казармай вядуць гульню маленькія фігуркі. Іх выразна яшчэ можна бачыць з вышыні чацвертага паверха. Яны сыходзяцца і разыходзяцца, бягуць ланцужком, падаюць на снег і хутка ўзнімаюцца і зноў бягуць, маленькія, рухавыя і забаўныя. Але Міронаву не падабаецца гульня фігурак. Ён ведае, што на плошчы, пад праніклівым, знобкім ветрам, месяць адталы снег пажылыя і стомленыя людзі, апранутыя ў падраныя шынялі і разлезлыя боты. Гэтая гульня называецца вучэннем ратнікаў.

Боль узмацняецца. Часцей ударае сэрца, шум запаўняе вушы. Гэта ад гранаты, ад той круглай штучкі, якую некалі падкінуў пад ногі Міронаву спуджаны барадаты аўстрыйскі салдат. Міронаў азіраецца. На нарах цішыня. Людзі спяць, нядаўна быў абед. Па той бок нар чуваць крокі дзяжурнага. Раптам над шэрай столлю ясныя маленькія пузыркі лямпачак запаўняюцца цьмянай жаўцізной. Па кутах кладуцца цені, за акном робіцца ўраз цёмна, і маленькія фігуркі знікаюць. Міронаў украдкай адчыняе фортку, і струмень воглага паветра плыве ў душную казарму і разам з ім — звонкія словы:

— Пр-р-равае плячо! Аць-два!..

І роўны тупат ног. Гульня скончана. Ідуць у казарму.

... Так, так было два гады таму назад, на ўзбярэжжы ракі Стаход. Міронаў бег, навокал падалі людзі. Барадаты салдат са скарэжаным тварам размахнуўся і кінуў пад ногі Міронаву круглую штучку. Яна пакацілася па зямлі, страшная, круглая смерць. Міронаў пераскочыў праз яе, і яна грымнула за яго плячыма, і пасля гэтага ўсё знікла. Ад той пары ў тоненькай жылцы над брывом гнездзіцца пякучы боль і мярцвее сэрца.

Міронаву робіцца лепш пад воглым подыхам свежага ветру. Ён глядзіць у акно і бачыць там астрыжаную галаву, худы твар з нейкімі плямамі на шчаках, з земнымі ямінамі вачэй. Гэта — ён сам. За ім — ярусы нар, нейкія скруцікі, клумкі і куфэркі, на цвічках вісяць кацялкі, з-пад шынеляў там і тут высоўваюцца босыя ступні з пакрыўленымі, растапыранымі пальцамі. Усё гэта асвятляюць жоўтыя пузыркі цьмяных лямпачак. У кутах засень, у праходах між нар вымеценая пустата. Усё гэта бачыць Міронаў, не адварачваючыся. І гэтак-жа, стоячы тварам да акна, бачыць ён постаць салдата, які вышаў з-за нар і набліжаецца да яго. Міронаў хутка ўзнімае руку, каб зачыніць фортку, але тут-жа пазнае салдата. Гэта свой. Ён падыходзіць і моўчкі становіцца побач з Міронавым. Усё гэта Міронаў бачыць і адчувае, як праз сон. Боль сціхае, але цела адрантвела і думкі вялыя і паслухмяныя. Салдат зачыняе фортку, і Міронаў толькі праз хвіліну знаходзіць сілы сказаць яму:

— Не... трэба.. не... чапай...

— Ты хворы? — пытаецца салдат.

— Я... хворы... — пачакаўшы, адказвае Міронаў.

— Мне... стане... лепш... Адчыні...

Салдат разважае. Усё-такі чацверты паверх, наўрад ці хто падслухае. Лепш асцерагацца нар. Ён азіраецца. Але там усё спакойна: куфэркі, клумкі, кацялкі і голыя пяты. Салдат адчыняе фортку, азіраецца яшчэ раз і паціху пытае Міронава.

— Ты зусім хворы?

— Не... — падумаўшы, адказвае Міронаў і прагна ўдыхае зімняе паветра. — Мне... зараз... палепшае...

— Дык слухай...

І салдат пачынае гаварыць. Тое, што ён кажа, хвалюе Міронава; вязкі туман, што ахінаў яго розум, паступова

разыходзіцца. Ён забываецца на тонкую жылку над брывом, якая, здавалася, аж пішчэла некалькі часу таму назад. Цяпер млявы цяжар павольна пакідае яго, і ён хутка робіцца тым-жа Міронавым, якім быў да прыпадку. Яны шэпчуцца ля акна, устрывожаныя і ўсхваляваныя, і не прыкмячаюць, як да іх падыходзіць дзяжурны.

— Настрой у роце востры... — гаворыць салдат да Міронава. — Я сказаў у камітэце...

Дзяжурны пры выкананні службовых абавязкаў не хоча слухаць пра такія справы.

— Усеагульная забастоўка... — гаворыць салдат далей.

— Зачыніце фортку, гаспадзін ефрэйтар... — кажа дзяжурны. — Не дай бог фельдфебель прыдзе.

Абодва ўраз адварачваюцца. Міронаў зараз-жа зачыняе фортку. Яны праводзяць вачыма дзяжурнага, які павольна ідзе праходам паміж нар.

— Па-мойму, не чуў, — кажа Міронаў.

— Нічога, ён надзейны, — адказвае салдат.

І яны прадаўжаюць гутарку.

* * *

Досвіткам, калі за вокнамі змрок стаў сінім, на калідоры загрукалі крокі, і тупую цішыню казармы парушыў вар'яцкі крык дзяжурнага:

— Трэ-цяя рота! У ружжо! Па-ды-майсь!

Праз некалькі хвілін шуму, лаянкі, грукату ў праходзе між нар маўкліва стаялі дзве шарэнгі. Фельдфебель Паляшчук прайшоўся паўз фронт, агледзеў устрывожаныя твары салдат і пакруціў вус. Усё было ў парадку. Людзі стаялі нерухома. Фронт быў правільны. На сініх джалах штыкоў успыхвалі жоўтыя водбліскі святла. Рота выглядала прыстойна.

— Н-ну, трэцяя рота, — пачаў фельдфебель заспаным голасам, — мацеры вашай агурок... Хіба так у ружжо ўстаюць? — Ён не ўтрымаўся і пазяхнуў. — Формельнае га... Смір-р-на! — раптам загарлаў ён. — Р-раўненне...

З калідора ішоў камандзір роты, паручнік Ізямаў і за ім яшчэ афіцэры.

— Здр-ровы, р-р-бяты... — кінуў, сцяўшы зубы, паручнік на хаду.

Рота згодна раўнула ў паўтары сотні глотак, і толькі нехта з левага фланга — спазніўся:

— ...бродзь... — у адзіночку, стомлена, сказаў ён. І ўсё сціхла. Паручнік зморшчыўся. Фельдфебель вырачыў вочы і нешта праглынуў. Паручнік прайшоў да сярэдзіны фронта і спыніўся. Афіцэры засталіся на правым флангу.

— Р-рэбята! — сказаў паручнік, сцягваючы з рукі пярчатку. — Вы п-мятаеце пр-рысягу гасудару імпр-ратару?

Рота маўчала. Яна стаяла «смірна».

— Пмятаеце! — пераканана адказаў сам сабе паручнік. — А раз так...

Далей паручнік гаварыў ужо нармальна.

— А раз так, то прышоў час яшчэ да таго, як сустрэцца аружжам з ворагам знешнім, павінны мы, па доўгу прысягі, перамагчы ворага ўнутранага.

Рота стаяла нерухома. У казарме было ціха. Комкаючы ў руках пярчатку, паручнік Ізямаў гаварыў аб доўгу прысягі і аб тым, што з гэтага вынікае.

— Наш полк, па загаду начальніка Петраградскай ваеннай акругі генерал-лейтэнанта Хабалава, — павысіў голас паручнік, — выступае на вуліцу супроць непарадкаў. Слухаць каманду, па першаму загаду адкрываць агонь!

Паручнік адступіў на крок і агледзеў роту.

— Кожны, хто пасмее не падпарадкавацца загадам, падлягае ваенна-палявому суду. У час пасланых нам госпадам богам іспытаў...

Набожную частку прамовы паручніку скончыць не ўдалося. Нехта на левым флангу стукнуў прыкладам у падлогу.

— Хто стукае? — спытаў паручнік.

Па шарэнгах прайшоў нейкі рух. Зноў стала ціха.

Фельдфебель намагаўся нешта праглынуць і ўжо не мог. Ён глядзеў на людзей страшнымі вачыма.

Паручнік вырашыў, што прамоў ужо досыць. Ён здагадаўся, што стук прыкладам — рэч не выпадковая.

— Па пар-радку нумароў... — пачаў паручнік каманду...

І зноў нехта стукнуў гулка, два разы ўзапар. Паручнік задыхнуўся. Афіцэры, на правым флангу, пераглянуліся. Фельдфебель сарваўся з месца і, ступаючы мякка, як кот, пабег на левы фланг.

— Хто стукнуў?! — бабскім голасам закрычаў паручнік. — Ну?

І з левага фланга данёсся глухі, усхваляваны голас:

— Я!

Шарэнга варухнулася. Фельдфебель стаў, як слуп.

Паручнік Ізямаў адчуў знобкі халадок унутры. Голас з левага фланга выдаўся яму страшнейшым за раптоўны стрэл.

— Хто там? — спытаў ён высокім тонам. — Што такое?! Прэтэнзія?

На левым флангу маўчалі.

— Прэтэнзія?! — паўтарыў паручнік, і гэта вышла ў яго неяк узрадавана. Сапраўды, добра, калі толькі прэтэнзія! Паручніку хацелася верыць, што гэта так і ёсць.

— Выходзь! — скамандаваў паручнік. — Два крокі наперад!

З шарэнгі вышаў салдат, зрабіў два крокі і стаў, трымаючы вінтоўку пры назе. Сотні вачэй глядзелі на яго.

— Ефрэйтар Міронаў? — здзіўлена спытаў паручнік. — Не ведаеш, як заяўляюць прэтэнзіі? А? Пры камандзе «смірна»? У час каманды начальніка? А? ш-што гэта! У чым твая прэтэнзія?

— Прэтэнзія ў тым, што не пойдзем на вуліцу, — адказаў Міронаў. — Не выходзім з казармы!

— Не будзем праліваць рабочую кроў! — крыкнуў з шарэнгі звонкі голас.

— Не дзевяцьсот пяты! — падтрымаў яго другі.

Паручнік збялеў. Гэтак-жа выглядалі і астатнія тры афіцэры. Фельдфебель стаяў у той-жа скамянелай позе, як і раней. Але шарэнга ўжо не была нерухомай. Адзін з салдатаў падаўся наперад, другі адступіў назад — гэта парушыла фронт. Адзін паправіў пояс, другі азірнуўся, трэці нешта сказаў да чацвертага — гэта распадалася магічная сіла каманды «смірна». Паручнік Ізямаў зразумеў, што зараз ён павінен зрабіць нешта рашучае, інакш праз хвіліну надыйдзе катастрофа. Ён зрабіў знак афіцэрам і паклаў руку на кабуру, але ў гэты-ж момант са строю вышлі два салдаты, потым яшчэ тры. З шумам раскідалася шарэнга, потым другая, натоўп шынеляў адлучыў паручніка Ізямава ад афіцэраў і фельдфебеля, узняўся гоман і шум, стукалі прыклады, бразгалі затворы, гулка крычалі дзесяткі галасоў.

— Хадзем у другую роту! Хто ў другую роту?!

— Даволі папралівалі, сволачы, у душу іхнюю...

Фельдфебелю нехта спрытна даў нагой пад зад, і ён, падхапіўшы на ляту шапку, вылецеў у калідор. Следам за ім выбраліся афіцэры. Іх праводзілі смехам, свістам і лаянкай. Трэцяя рота ўзбунтавалася.

Але неўзабаве настрой апаў. Пакуль абралі дэлегацыю, каб ісці ў другую і чацвертую роты, раскватэраваныя ў гэтым-жа будынку, аказалася, што ў калідоры стаіць кулямёт і ля яго — патруль афіцэраў з палкавой школы. Як толькі нехта з салдат адкрыў дзверы, адзін з афіцэраў моўчкі стаў на калена і ўзяўся за рукаяць смертаноснай машыны. Усе адразу падаліся ад дзвярэй, і больш ніхто не адважваўся заглянуць у калідор.

Гоман пачаў сціхаць. Людзі пачалі збірацца ў гурткі і пaціху шаптацца. Некаторыя палезлі на нары. Гэта была дрэнная адзнака. Да Міронава падышоў Маслаў, той, што гаварыў з ім увечары ля акна.

— Эх, Сёмка... — сказаў ён. — Прапалі мы з дурнымі галовамі! Нам трэба пачынаць было на дварэ, калі раздалі-б патроны, а цяпер нас тут перадушаць, як мышэй. Глядзі, сібіракі на нары палезлі! Уся наша надзея на другую роту... Васька Вінаградаў можа разумнейшы акажацца.

Але калі развіднела, пад вокнамі пратупалі другая і чацвертая роты. Іх павялі ў горад. У казарме адразу стала ціха. У праходах між нар не засталося нікога.

— Ляжыць рыба на паліцы!.. — сумна ўсміхнуўся Маслаў, пазіраючы на нары. — Апошні наш дзянёк. Дваццаць шостае лютае! Так госпаду богу і даложым: камандзіраваны ў царствіе нябеснае дваццаць шостага лютага дзевяцьсот семнаццатага года. Успакой, госпадзі, душы нашы! Эх, м... тваю... Паспрабуй, Сёмка, пагаварыць... Можа што выйдзе...

Міронаў узлез на табурэтку:

— Хлопцы, — гаварыў ён.—Што мы — упершыню кулямёт убачылі? Народ выходзіць на вуліцу... Нам дапамогуць!.. Зараз афіцэрыкаў адгэтуль, як вадой змые! Калі ў другой роце цыкорыя, то гэта не факт, што ва ўсім гарнізоне скуркі дрыжаць! Даволі над намі афіцэры здзекваліся, даволі мы крыві сваёй за багацеяў папралілі! Хай не страшаць нас кулямётам, мы не такія штукі ню-

халі! Правільна я кажу, хлопцы? А ну, варушыся там, барадатыя!..

— А як яны зараз у дзверы агню дадуць? — спытаў нехта з нараў.

— Трэба было адразу на двор вылятаць... — сказаў другі. — Куды цяпер з голым кулаком супроць кулямёта памкнешся?! А?..

— Нязручна неяк! — уздыхнуў трэці. — Эх, каб мы адразу на вуліцу выскачылі!

Настрой ападаў. Людзі, дагэтуль рашучыя і адважныя, гатовыя дзейнічаць, наткнуліся на маленькую машыну ў калідоры. Яны, лежачы на нарах, пільна прыслухоўваліся, што робіцца за дзвярыма. Міронаў кінуў гаварыць і злез з табурэткі. Цяпер яны стаялі з Маславым ля таго самага акна, дзе гаварылі ўвечары.

Так прайшло з гадзіну часу. Потым раптоўна раскрыліся дзверы, і тупы нос кулямёта вытыркнуўся з калідора. Следам за ім зазірнуў у казарму фельдфебель.

— Здавайся, тут, каторыя! — загарлаў ён. — Ефрэйтар Міронаў, сукін сын, георгіеўскі кавалер!.. Вінават, вашбродзь!

Фельдфебеля адштурхнулі. Замест яго на парозе стаялі афіцэры з вінтоўкамі.

— Рукі ўгару! — крыкнуў адзін з афіцэраў. — Злязай з нараў!

* * *

Грузавік імчаў праз мост. Па Неве цямнелі палынні, дарогі і сцежкі крыжаваліся на бурым, як-бы запыленым снягу. Блізка ля моста тырчэлі са снегу рэбры раскіданай баржы. Горад, атулены хмарамі дымнага туману, маўкліва ляжаў уздоўж берагоў мёртвай ракі. Грузавік звярнуў з маста на шырокі памост. Шэрыя сцены Петрапаўлаўскай крэпасці былі блізка. Вось арка, ля варот вартавы. З шафёрскай кабіны нехта паказаў паперку. Вароты адчыніліся наўсцяж з іржавым скрыпам.

Грузавік прашумеў пад гулкай аркай, дзе ў нішах застыглі чорныя, нібы аблітыя смалой, арлы з двума галовамі.

Над купалам сабора, на тонкім шпілі ўзвышаўся чорны анёл. Раскрыўшы свае крыллі, ён стагоддзі ўжо лунае

над крэпасцю, над казематамі і грабніцай цароў. І цяпер ён праплыў высока ў шэрым небе і знік.

Грузавік спыніўся.

Першым саскочыў Міронаў, за ім Маслаў, пасля Вінаградаў — той, што з другой роты.

Іх правялі вузкім, светлым калідорам.

І вось яны ў вялікім кабінеце.

— Так! — сказаў генерал і пастукаў ручкай аб звонкую бронзу пісьмовага прыбора. — Значыць, ты, ефрэйтар Міронаў, піцерскі? З Пуцілаўскага завода? Таварыш?! Вінаградаў!

— Ты з Масквы? Таксама рабочы?

— Я працаваў у эканоміі, — адказаў Маслаў. — Быў батраком у князя Мансырава.

— Укамплектавалі роту! — з дакорам сказаў генерал афіцэру, які сядзеў побач.

— Там усе такія, — смела ўсміхнуўся Вінаградаў. — Генералаў у трэцяй роце няма.

Адрузлы, мясісты генеральскі твар перасмыкнула лютая грымаса

— Р-робесп'еры! — закрычаў генеральскі бас. — С-санкюлоты пскоўскай губерні, мяр-рзота, сволачы! Ваеннапалявы суд! Па законах ваеннага часу — у дваццаць чатыры гадзіны!.. Вывесці.

Арыштаваных вывелі. У калідоры афіцэрскі канвой змяніўся. На арыштаваных уздзелі наручнікі. Яны панеслі іржавае і звонкае жалеза ланцугоў даўгімі калідорамі, паўз нескончоны рад нізкіх дзвярэй. Яны ўзняліся па вузкіх усходах на другі паверх. Іх вялі маўклівыя нейкія шэрыя людзі ў чорных мундзірах. Адзін з іх забег наперад і адамкнуў дзверы. Яны адчыніліся з візгучым скрыпам і, калі арыштаваныя ўвайшлі ў камеру, дзверы ляснулі, як сківіца невядомага, магутнага пачвара. Шчоўкнуў замок.

— Прыехалі! — сказаў Маслаў і наткнуўся на маленькую лаўку, прымацаваную да сцяны.

У камеры было амаль цёмна. Высока, над самым скляпеннем столі, была цьмяная пляма. Людзі маўчалі. Не было аб чым гаварыць. Кожны думаў сваё, і ўсе думалі аб адным. Толькі праз некалькі часу Вінаградаў сказаў:

— Калі і будзе выступленне, то для нас усёроўна позна...

... Прайшло шмат гадзін. Глухая цішыня была над схо-

вамі казематаў. Загасла за акенцам далёкае святло дня. Міронаў учуў павольнае, спакойнае дыханне таварышоў. Яны спалі. Але Міронаў не мог заснуць, хоць і быў страшэнна стомлены. Цішыня не была поўнай. Яму здаваліся нейкія шолахі, ціхія крокі, нехта шаптаўся за дзвярыма, нехта прабег у калідоры і стаў ля іх камеры. Міронаў успомніў жудкія гісторыі, якія расказвалі пра крэпасць, і яму стала страшна. Надыходзіў сон і зараз-жа знікаў. У стане цяжкага адрантвення і поўсну быў Міронаў, ён баяўся паварушыцца, каб не звінелі ланцугі. Ён чакаў: вось шчоўкне замок, загрукаюць крокі, і грубы голас падасць каманду:

— Выходзь!

А там, пад старымі сценамі крэпасці, начная цемра, адталыя гурбы, знобкі вецер і змерзлыя камякі зямлі...

Але ніхто не ішоў. Толькі шапталася цішыня, таемная і чорная, страшная цішыня старой крэпасці. Зняможаны, Міронаў заснуў. Ён не бачыў, як прышоў дзень, і ружовы водбліск праменняў сонца на нейкі момант афарбаваў панурае скляпенне каземата. Спаў Міронаў доўга. Ён прачнуўся, абуджаны размовай. Гаварыў Вінаградаў:

— Учора не прышлі!.. Значыць, сёння!..

Міронаў устаў. Ад наручнікаў зацяклі рукі, асабліва знямела правая рука ля самай кісці. У той самы момант, калі ён устаў, нейкі далёкі гул, як-бы з-пад зямлі ўзняўшыся, дайшоў да сцен, і ўздрыгнула шыба.

— Што гэта? — спыталі ўсе ўтрох у адзін голас.

Ім ніхто не мог адказаць на пытанне. Гул паўтарыўся зараз-жа. Яшчэ заенчыла высока пад столлю запыленая шыба за кратамі.

— Гарматы, — першым здагадаўся Міронаў. — Гарматны стрэл! Бой ідзе ў крэпасці!

І ён кінуўся да акна.

Туды дабрацца было цяжка. Ён узлез на столік пад акном, яго падсадзілі вышэй, але ён усё яшчэ не мог дабрацца да падаконніка. Тады Вінаградаў узлез на столік, абхапіў Міронава рукамі і прыўзняў. Падаконнік быў касым і гладкім, не было за што ўчапіцца. Міронаў, апіраючыся локцем левай рукі ў стромы скат падаконніка, правай сабраў у жменю ланцуг і з усяе сілы кінуў гэтую жменю звонкага жалеза ў акно. Зазвінела шкло, струмень свежага паветра авеяў твар Міронава, і ўсе ўчулі

далёкія гукі аркестраў, незмаўкаемы гул галасоў, трэск стрэлаў, і ўсё гэта накрыў блізкі гарматны стрэл.

— Народ! — закрычаў Міронаў. — Ура! Народ, таварышы!

...А шкло ўсё звінела, падаючы з акна, звінела і звінела...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... І палкоўнік Міронаў прачнуўся. Звінеў тэлефон на яго шырокім стале. За акном быў вечар, сіні змрок плыў за шырокімі шыбамі. Палкоўнік устаў і ўзяўся быў за тэлефонную трубку, але не ўтрымаў яе. Знямела кісць правай рукі, там, дзе быў браслет гадзінніка. Ён узяў трубку ў левую руку.

— Таварыш палкоўнік! — учуў Міронаў. — Гаворыць начальнік клуба. Усе ў поўным зборы. Час пачынаць вечар. Зараз дзевятнаццаць гадзін сорак пяць хвілін.

— Добра! — адказаў палкоўнік і паклаў трубку.

Ён сабраў у сумку паперы, якія ляжалі на стале, а канспект даклада на тэму: «Лютаўская рэвалюцыя 1917 года» паклаў у кішэню. Пасля гэтага ён пацёр брыво. Трапяткая балючая жылка знікла.

— Сон! — сказаў палкоўнік пра сябе. — Ад сну яна сціхае...

І вышаў са свайго кабінета.

*14/III 1937 г.,*
*г. Мінск.*

# *Пагібель воўка*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Бокуць Мірон Андрэевіч — калгаснік (65 год).
Буйко Міхась — старшыня калгаса, комсамолец.
Усенка Пятро — лейтэнант, начальнік пагранзаставы, (25—30 год).
Дабрынін — сакратар райкома партыі (год 30).
Рабічка Лук'ян Фаміч — калгаснік, загадчык конефермы (60 год).
Нічыпар — брыгадзір паляводчай брыгады (45 год).
Язэп — калгаснік (45 год).
Дзед Анісім — калгаснік, рыбак (65 год).
Даніла — загадчык МТФ калгаса (40 год).
Сцепаніда — яго жонка, загадчык птушкаводчай фермы (38 год).
Ліда — настаўніца калгаснай школы (23 гады).
Насця — студэнтка інстытута ў Маскве (19 год).
Першы баец-пагранічнік.
Другі баец-пагранічнік.
Абабурка Дзям'ян Сымонавіч — старшыня РВК. } нацдэмаўска-трацкісцкія паследышы-дыверсанты.
Французевіч Антон — загадчык райза. } нацдэмаўска-трацкісцкія паследышы-дыверсанты.
Харкевіч Багдан — ляснік (55 год).
Шышка Апанас — паэт-нацдэм (30 год).
Мікола — разлажыўшыйся тып (25 год).
Шабінскі — шпіён-дыверсант, былы памешчык (40 год).
Вырвіч Сільвестр — палявод калгаса.
Машыністка Абабуркі.
Калгаснікі, госці, пагранічнікі.

Дзея адбываецца ўвесну 1937 года.

Тэкст калгаснай песні напісан А. Русаком.

## АКТ ПЕРШЫ

### I

Ля калгаснага клуба: абшырны двор, чысты, з трох бакоў агароджаны акуратнымі, нізкімі парканамі, над імі звесілі галлё квітнеючыя дрэвы саду. Відаць рады выбеленых яблынь, вуллі, ягадныя кусты. Клуб — у глыбіні двара: шырокі ганак, тры вялікія акны, занавешаныя фіранкамі, — астатняе скрыла зеляніна саду. Адгэтуль адкрываецца прыгожы пейзаж: поле, рэчка ў кустах, недалёкі лес. Утульнае месца. Раніца. Мірон сядзіць на лаўцы, чытае газету. Уваходзіць Харкевіч у плашчы, з бярданкай.

Харкевіч. Рана-ж ты за газеты ўзяўся, Мірон Андрэевіч!

Мірон *(узняў галаву, убачыў Харкевіча)*. А, Харкевіч! Адкуль ты гэта, увесь у расе?

Харкевіч падыходзіць, моўчкі вітаецца з Міронам за руку, садзіцца побач.

Харкевіч. Такая, брат, служба наша: вецер павеяў, гром загрымеў — лесніку клопат.

Мірон. Прапала што-небудзь з лесу?

Харкевіч. Глупства. Пагранічнікі кляніну ссеклі, пры дарозе. Учора нешта везлі на заставу і дышла ў іх зламалася. Нічога не скажаш: людзі ў патрэбе ўзялі. Начальніка заставы шукаю. Ты яго не бачыў?

Мірон. Не, не было...

Харкевіч. Трэба, каб ён акт надпісаў. А ты сам даўно тут сядзіш?

Мірон. Я толькі сышоў з варты. Міхась наш прыехаў досвіткамі з раёна, даў газету.

Харкевіч. Дык ты чуў, што ўначы дзеялася?

Мірон. Чуў. Некаторых мужчын пабудзіў нават. Ён можа і ў калгас убегчы.

Харкевіч. І цяпер яшчэ вялікі рух па лесе. Шукаюць... *(Пауза.)* Я так думаю: ці не збег парушальнік?

Мірон. Далёка не збяжыць. Не ў такія рукі папаўся!

Пауза. Харкевіч вымае тытунь, частуе Мірона. Распаліўшы цыгарку, Мірон спрабуе заглянуць у газету, але Харкевіч гаворыць зноў.

Харкевіч. Мікола тут, часам, не праходзіў?

Мірон. Не было. Учора ўвечары з гармонікам валокся з мястэчка п'яны. Выгналі з комсамола, дык цяпер казырыцца. Навошта ён табе?

Харкевіч. Узяў сець рыбы палавіць і ўжо два тыдні як ні сеці, ні рыбы. Кінуў, напэўна, у кустах, згніе сетка.

Мірон. Удаўся хлопец проці ўсяго свету, няма што казаць! Ён-жа да цябе ў зяці мерыўся, праўда гэта?

Харкевіч. А хто іх, маладых, разбярэ! Мая надта вучоная, дзе яму! Учора-ж прыехала!

Мірон. Насця прыехала?

Харкевіч. Надвечар учора прыбыла вучоная асоба. На летні адпачынак.

Мірон. Слаўная ў цябе дачка, Багдан.

Харкевіч. А як-жа! Кінула бацьку аднаго ў лесе. Выгадаваў!

Мірон. Не варта маладым людзям свой талент марнаваць. Гэта, Багдан, такія людзі вырастаюць, што мы проці іх — дзецьмі горкімі будзем.

З'яўляецца Ліда з ручніком на плячы. Спяшаецца. Убачыла Мірона і Харкевіча.

Ліда. А, вось яны дзе, прыяцелі! Добрая раніца вам!

Мірон. Добрае ранне!

*(Прыўзнімаюць шапкі.)*

Харкевіч. Добрага здароўя! Куды гэта вы так спяшаецеся, Ліда Пятроўна?

Ліда. На рэчку іду. Сённешняя газета ў вас?

Мірон. Сённешняя. Міхась казаў, пра калгас наш тут напісана.

Ліда. Дайце, я пагляджу. *(Бярэ ад Мірона газету, разгортвае.)*

Харкевіч. Што-ж там такое?

Ліда *(чытае)*. «У калгасе «Чырвоная Ніва» не ўзышло шэсцьдзесят гектараў ячменю. Калгаснікі патрабавалі неадкладнага расследавання, але яно не дало ніякіх

вынікаў: насенне, пакуль райземаддзел збіраў камісію, пагніло ў зямлі.

Увесь клін узараны і засеяны нанава. Але на гэтым супакойвацца нельга. Страта дзесяткаў цэнтнераў высокаякаснага насення не няшчасны выпадак, а рэзультат абдуманага шкодніцтва. Калгас «Чырвоная Ніва», лепшы ў нашым раёне, трэба ачысціць ад ворагаў». *(Ліда скончыла чытаць.)* Проста сорам... Заўсёды ў нас што-небудзь здарыцца... *(Падае Мірону газету.)*

Харкевіч. Што раз, то новае бедства. У той год — свіран хлеба згарэў, летась лугі заліло, цяпер ячмень з зямлі не вылез. Але-ж паспрабуй — знайдзі вінаватага! Усе як-бы і шчырыя, і працавітыя, і ў згодзе жывуць.. А тымчасам то там, то тут шкода! Можа і старшыня, Міхась наш, занадта мяккі...

Ліда. Старшыня ўсюды не патрапіць. Трэба ўсім глядзець. *(Пауза.)* Ну, выбачайце, я пайду. Сонца ўжо высока.

Харкевіч. Ідзіце, ідзіце... Самая пара цяпер... Пад абрывам, пасля дажджу. Ах! — вада халодная!

Ліда ўсміхнулася, пайшла.

Харкевіч. Слаўная настаўніца ў нас. Каб маладыя мне гады, я тут, каля школы, яму капытамі выбіў-бы... От, забыўся ёй сказаць, што Насця прыехала. Яны-ж — прыяцелькі!..

Пауза.

Мірон. Людзі шчырыя, працавітыя і ў згодзе жывуць... А між імі звяры хаваюцца. Ох, якая-ж нянавісць! Аблічча светлае, усмешачка вясёлая, голас, як у таго салаўя, а душа воўчая, звярынае нутро, нажывы прагне! Даўней такі чалавек свет увесь пераджэрці мог, усміхаючыся!.. Ён — воўк, ён мусіць з разбою жыць. Але цяпер на ўсіх дарогах ягоных пасткі пастаўлены. Вось ён і ходзіць, да зямлі прыгінаючыся, чарвяка крывавага ў сэрцы хаваючы... І цяжка яго распазнаць між людзей.

Харкевіч. Ёсць на каго падазрэнне?

Мірон. Гэта я так сказаў. А за ячмень, па-мойму, трэба паляводу Вырвічу адказваць. Чаму так вышла, хай апраўдаецца!

Харкевіч. Вырвіч? *(Падумаў.)* Вёрткі мужчына Вырвіч... *(Памаўчаў.)* А як ты, і раней прыкмячаў яго на чым-небудзь? *(Мірон не адказвае.)* Тут, Мірон Ан-

дрэевіч, гарачыцца не варта. Як толькі ён заўважыць, што да яго прыглядаюцца... *(Ад клуба па сцежцы ідзе Вырвіч.)* А вось ён і сам, Вырвіч. Глядзі, цяпер яго не чапай, усё адразу зглуміш!

Падыходзіць Вырвіч, нешта нясе ў жмені, бярэ па драбінцы, есць.

Вырвіч. Здарова, партызаны! *(Вітаецца.)* І ў вас газета? Вось цяпер і Сільвестра Вырвіч па крайнасці славу займеў!

Мірон. Ужо-ж і слава!

Харкевіч нездаволена глянуў на Мірона.

Вырвіч *(як-бы не чуў Міронавых слоў)*. Журавінкай займаюся. Падснежная... Ах, кіслая, шэльма, ажно ў вушах пішчыць! Але з пахмелля добра... Мы-такі ўчора ірванулі як мае быць з Міколам у мястэчку. Год не пі, два не пі, а перад выходным днём — трэба!

Харкевіч. Слухай, а цяпер ты Міколу не бачыў?

Вырвіч. Ішоў Мікола нядаўна з аброцьмі. Коней шукаў, паразбегліся нечага. Лук'ян кульгаў, кульгаў, дзе яму! Звяры!

Мірон. У добрых руках, таму і звяры... З тваёй ласкі, дык пэўна ўсе на вяроўках віселі-б!

Вырвіч *(бярэ яшчэ адну журавінку)*. Ах, якая-ж квасласць! *(Да Мірона.)* А ты што маеш да коней. Табе што абыходзіць? Ты пільнуй, каб вераб'і канаплі не вымалацілі, і ўся твая работа! Ён яшчэ тут!

Мірон *(моцна)*. Я не толькі ад вераб'ёў пільную. Я і ад ваўкоў пільную!

Вырвіч *(нібы не чуе)*. Ах, ах... Трэба-ж, каб такая кіслая фрукта на балоце ўрадзілася!

Харкевіч. Ты на старога чалавека вельмі не агрызайся. Вунь аборы, фермы, новы svіран — Мірона Андрэевіча праца! Калгас вартуе, ночы не спіць, а ты яму пра вераб'ёў глупства пляцеш! Іш, ты!

Вырвіч. А што я такое сказаў? Я Мірону Андрэевічу дарогі не зайшоў, а ён мне з-за гэтага ячменю жываты ад'еў! *(Раптам захваляваўся.)* Чорт яго ведае, чаму ён прапаў! Чаму гэта, канешне, Вырвіч нашкодзіў? Я ў калгасе не першы год за палявода! Я ўдзень і ўначы, як мыш у карабе, кідаюся! Ён ужо мяне ў ваўкі ўпісаў! Гэта мне добра слухаць?..

Харкевіч *(да Мірона)*. Вось тут і разбірайся цяпер...

Мірон маўчыць. Вырвіч раптам астыгнуў, сеў на лаўку, мацае лоб.

Вырвіч. Галава раскідаецца... Баба яшчэ як завяла фіцгармонік — з хаты ўцёк. Вышаў на людзі, і тут цябе ледзьве не тое, што з кіямі па вуліцы ганяюць. Хоць ты ідзі ўтапіся, пакуль яшчэ рэчка не перасохла!

Харкевіч. Ты пра гэта не бядуй. Для цябе вады і ў жбане хопіць.

Вырвіч. А што ты думаеш! Абы вусы памачыў — і гатоў. Колькі таго чалавека, а жыць яму не даюць!

Мірон устаў.

Харкевіч. Куды ты? Пасядзі!

Мірон. Надакучыла мне Сільвестравы хітрыя ляманты слухаць!

Мірон пайшоў. Вырвіч з Харкевічам пазіраюць яму ўслед.

Вырвіч. З'есць ён мяне, гэты куслівы чорт! Ну-ж чалавечак! Што гэта за цаца была змоладу!

Харкевіч. За тое-ж дванаццаць гадоў ланцугі цягаў на катарзе. З такім характарам, пры старых парадках, толькі там яму было і месца.

Вырвіч. Ён урадніка нейкага скантузіў, ці што?

Харкевіч. Такі быў Збышка-ўраднік. Мірон тады ў цяслярскай арцелі працаваў, у мястэчку царкву будавалі. Вось і зайшло ў яго нешта з ураднікам, ён за некага заступіўся. А Збышка і яму нагайкай цераз лоб. Тады Мірон як спляжыў, дык з таго Збышкі і пара вон. З год ці два пакашляў Збышка і ляснуў да сцяны. А Мірона сагналі ў Сібір, там ён дванаццаць гадкоў і адзваніў. Не жыў тут пасля катаргі: толькі на магілу бацькаву крыж дубовы з панскага лесу паставіў, узяў сякеру пад паху, сказаў, што праўду нейкую пойдзе шукаць. І як сышоў — дык толькі перад самым калгасам з'явіўся. Гэты ў крыўду не папусціцца... Але ў нас з ім добра. Паважае, што я партызан. *(Пауза.)* Мікола табе нічога не казаў?

Вырвіч. Казаў, каб ты тут сядзеў і нікуды не ішоў. А што?

Харкевіч. Нічога. Сетку мне прынясе. А начальніка заставы ты не бачыў?

Вырвіч. Паехаў дарогай пад Азярышча. А што?

Харкевіч. Трэба, каб ён акт падпісаў. Пагранічнікі кляніну ссеклі. На дышла.

Вырвіч. А-а-а!...

Чуваць галасы. Ідуць: *Міхась, Мірон, з імі двое калгаснікаў— Язэп і Нічыпар.*

Язэп. Ты толькі закамандуй, мы самі тады... А то на гэтыя анжынерныя штукі проста галава мая не служыць.

Падышлі да лавак, прывіталіся з Харкевічам і Вырвічам. Нічыпар сеў побач з Язэпам, выняў кісет, падаў Язэпу.

Харкевіч. Ну? *(Да Язэпа.)* Якія пытанні вырашаеце?

Язэп *(сквапна пасліні́ўшы паперку)*. Пра браму вырашаем. Для гасцей. Дай, Нічыпар, яшчэ каліва.

Міхась. У раёне зацвердзілі наш юбілейны план. У той выходны — свята, папросім Вас, Харкевіч, у госці. А пакуль размяркоўваем, што каму рабіць. Вось, браму будаваць трэба. Паслухаем, што скажа Мірон Андрэевіч.

Мірон. Па-мойму так: брама — гэта ёсць гаспадарскі прывет, шырока адкрытыя дзверы ў гасцінную хату. Зробім браму такую, каб відаць было, што калгас наш не дарма дзесяць год пражыў, што багацце мае і гасцям сваім рады. Браму зробім чыстай разьбой, з такарнай тонкай аздобай, з карнізамі і па рысунку.

Язэп. Во!

Міхась. А ці не многа будзе работы?

Мірон. Што нам работы баяцца... Матэрыял ёсць, інструмант ёсць, станем з хлопцамі і за дзень-два ўсе формы вытачым. А Нічыпар з Язэпам хай пра бярвенні пастараюцца...

Язэп. Гэта ўжо, як бачыш. Калі сказаць, дзве хвойкі па пяць вяршкоў у пні, па паўтары сажні ўздоўжкі, без сукоў, дробна-слойныя, гэта выходзіць такой манерай...

Міхась. Пачакайце, дзядзька Язэп...

Язэп. Ну, не.. *(Курыць.)*

Мірон. Так што, мы ўсё гэта зробім. Але вось бяда, таварышы дарагія... *(Вымае з кішэні газету.)* Тут напісана, што ў калгасе «Чырвоная Ніва» завёўся злодзей Што мы скажам гасцям нашым, калі яны спытаюць, а ці можна ў вас коней добрых без апаскі паставіць, збрую багатую на ваш догляд пакінуць? А ці знайшлі вы злодзея, які хлеб ваш змарнаваў, абкрадае вас і нам бяды можа нарабіць? *(Пауза.)* Дык што-ж мы гасцям сваім адкажам?

Міхась хацеў нешта сказаць, але Вырвіч схапіў яго за руку.

Вырвіч. Гэта зноў пра мяне песня? (*Устаў.*) Што ты ездзіш навокал, як п'яны цыган па возеры?! Скажы проста: я хачу, каб Сільвестру Вырвіча ў турму пасадзілі! Ты-ж гэтага хочаш! Дакажы, што гэта я змарнаваў ячмень! Ну?

Мірон (*устаў*). Цяпер я ўжо не дакажу! Але я ўсёроўна ведаю, што ты ў гэтым вінаваты. Вось тут Міхась — старшыня і Нічыпар — брыгадзір, я пры іх кажу табе: не хадзі больш уначы замкі правяраць! Знайду — дрэнна будзе!

Мірон завярнуўся, пайшоў. Пауза. Вырвіч раптам сарваў з галавы шапку, кінуў вобземлю, хутка пайшоў сцежкай да клуба.

Харкевіч. Пагаварылі! Ах, што толькі гэта робіцца...

Міхась падняў шапку Вырвіча, абтрос пыл, паклаў яе на лаўку.

Міхась (*да Язэпа*). Дык вы, дзядзька Язэп, пра бярвенні пастарайцеся.

Язэп. Во! Чаму-ж не? Мы з Нічыпарам зараз і скочым. Адна нага тут, другая, гэтае самае... Дзве хвойкі,— так, вяршкоў пяць у пні... Але-ж, Мірон! Як устаў — проста страх. Я ўжо думаў: згняце Сільвестру пад ногі!

Харкевіч. Па-мойму, цяпер нельга Вырвічу брыгадзірам быць. Зняць яго трэба.

Міхась. Пра гэта праўленне будзе вырашаць.

Нічыпар. Нешта ты, Багдан, адступаешся ад прыяцеляў! Вырвіч-жа друг твой!

Харкевіч. З гэтай прычыны я роднага брата не пашкадую. Па старому нашаму партызанскаму правілу.

Чуваць галасы. З'яўляюцца Даніла і Сцепаніда.

Даніла (*бяжыць ззаду за Сцепанідай*). Ты глянь на паперу, чортава ты баба! А? Што напісана? Пяцьдзесят курэй і дваццаць індыкоў напісана... Па распараджэнню праўлення табе загадваю! Як член рэвізійнай камісіі!

Сцепаніда грозна азірнулася, і Даніла стаў, як урыты. Язэп з Нічыпарам засмяяліся, але сціхлі, калі падышла Сцепаніда.

Сцепаніда (*упёрлася рукамі ў бокі*). Даніла! Падай сюды паперу!..

Даніла. Не выпушчу з рук! Гавары на словах, басэтля!

Міхась. Ды што ў вас такое?

Д а н і л а. Нарад! Пяцьдзесят курэй і дваццаць індыкоў! Для гасцей. *(Падбягае і, абышоўшы Сцепаніду, падае паперу Міхасю.)* Праўленне даручыла выбраць пад маю адказнасць!

М і х а с ь *(праглядае паперку.)* Усё па форме, цётка Сцепаніда! Па плану трэцяе мясное блюда — птушка.

С ц е п а н і д а. Няма ў мяне дваццаць індыкоў! У мяне індычкі! Чаму гэта ўсё ад мяне? Чаму крывога бычка не зарэжуць?

Д а н і л а. А навошта яго рэзаць?

С ц е п а н і д а. Ён няздатны.

Д а н і л а. А ты адкуль ведаеш? У цябе індыкі равуць, як звяры, колькі гароху паражэрлі, каб іх каршун драў! Да майго бычка чапляецца, каб сваіх індыкоў адстаяць?! Іш, ты!.. Каб ён столькі хлеба з'еў, колькі твае індыкі, ён рогам неба дастаў-бы.

Я з э п. Не паддавайся, Даніла!

Д а н і л а. Я з яго практыку знімаю!

С ц е п а н і д а. А якое ты маеш права без дазволу на ферму лезці? Чую — гвалт, крык, пер'е лётае! Што такое? Людзі добрыя! Прыбегла, аж ён тут арудвае! Ён ужо выглядае, цішком прабраўшыся, каторае птушанё пад нож пусціць! Ты гаспадар на маёй ферме? Гэта ты яе выгадаваў? А? *(Падступае да Данілы, той адыходзіць на крок.)* Ён мне ўсю ферму растрывожыў! У мяне каторыя нясуцца, каторыя на яйках сядзяць! У мяне птушка далікатная! У мяне птушка ў доглядзе жыве! А ён, як тхор, ён рады птушанятка беднае прырэзаць! Ах ты, гад ты! Як гэта я за цябе замуж, ашалеўшы, вышла!

Усе смяюцца.

М і х а с ь. Дык у чым-жа справа, цётка Сцепаніда!

С ц е п а н і д а *(супакойваючыся)*. Не дапушчаю яго на ферму! Ён гатовы мне ўсіх курэй перарэзаць. У яго сэрца каменнае. Перадайце другому нарад.

М і х а с ь. А мы так зробім. *(Падае Сцепанідзе нарад.)* Бярыце нарад і выконвайце самі. Навошта лішняя работа.

Д а н і л а. Яна табе набярэ інвалідаў, — не тое што госць — сабака не ўгрызе!

Усе засмяяліся.

С ц е п а н і д а *(грозна)*. Даніла, адыйдзіся!..

Д а н і л а *(адыходзячы, асцярожна)*. Яна там усякіх

выраԁкаў нагадавала, брыдка глядзець. Некаторыя нават з голымі гузнамі ёсць. Я як глянуў, браткі вы мае! От, птушка! На ёй пер'е не расце!

Язэп. Цьфу, поскудзь!

Сцепаніда *(беручыся ў бокі)*. Даніла, не ўводзь мяне ў гнеў!

Даніла. Яна да майго бычка прычэпліваецца... *(Адыходзіць далей.)*

Міхась. Ну, дык што-ж? Усё ў парадку, цётка Сцепаніда?

Сцепаніда *(хавае паперку ў кішэню спадніцы)*. Канешне, усё! Я сама ведаю, каторае птушанё куды пусціць, а то прышоў тут, начальнік!

Даніла. А такі вось начальнік, што я цябе з хору выключу!

Сцепаніда. Паспрабуй, выключы!

Даніла. Вельмі простая штука. Вазьму і р-раз *(паказвае на далоні)*, выключу! Ты як завядзеш сваім голасам, дык госці паразбягуцца. Я да цябе, як да жонкі, знісхаджэнне меў... А цяпер — выключаю.

З'яўляюцца дзве групы калгаснікаў. Ідуць некалькі чалавек злева, з саду. З імі — Мікола. Ад клуба ідзе Ліда, разам з ёю Лук'ян-конюх.

Першы калгаснік. Крыху позна напісалі, вось што... Каб раней напісалі...

Другі калгаснік. Прайшоў я сёння полем. Ах, жыта грыміць! Аўсы якія, лён узышоў і разлапушыўся, што канюшына...

Трэці калгаснік. Калійная соль... Яна зямлі вялікую сілу дае!.. І другі факт: машынная апрацоўка.

Лук'ян. А-а-а, Мірон Андрэевіч!

Падышлі. Вітаюцца, рассаджваюцца на лаўкі, Сцепаніда з Данілам адышліся ўбок, гутараць, відаць, не зусім мірна. Харкевіч падышоў да Міколы.

Харкевіч. Што-ж, брат Мікола: узяў сетку і не аддаеш?

Мікола. А я і не лавіў. Вісіць у пуні.

Харкевіч. У спраўнасці?

Мікола. У спраўнасці, а як-жа!

Харкевіч. Добра, малайчына! А я ўжо бедаваў...

Харкевіч непрыкметна падміргнуў Міколу, адышоў і сеў на сваё месца.

М і к о л а. Слухай, Міхась! Дай мне выпіску з пратакола, дзе мяне сключылі. У раён паеду!

М і х а с ь. Пасля... Зараз праўленне збярэцца.

Л у к ' я н. А пра што, Міхасёк, гаварыць будзем?

М і х а с ь. Пра тое, што ў газеце напісана. Чыталі?

Л у к ' я н. Чытаў, як-жа!

Мікола адышоў, сеў воддаль, закінуў нагу за нагу. У яго бліскучыя боты. Ён аглядае іх, курыць, прыгладжвае валасы. Уваходзіць Усенка, начальнік заставы.

Л у к ' я н. А-а-а! госць да нас... Устаць! Смірна! — *(Спрытна стаў «смірна». Калгаснікі загаманілі.)*

У с е н к а *(вітаецца з калгаснікамі)*. Сцепанідзе Сымонаўне прывет. Вы ўсё папраўляецеся, прыгажэеце!

С ц е п а н і д а *(засаромілася)*. Ай, што вы гэта кажаце! Ці-ж можна так... Куды ўжо мне...

Д а н і л а. Іш, ты, яешня! Заспявала!

У с е н к а. Добры дзень, Ліда... Старшыні калгасу прывет і пашана. Мірону Андрэевічу! *(Вітаецца.)* Дзядзькам Язэпу і Нічыпару добры дзень... *(Убачыў Лук'яна.)* От, вайсковая костачка! Грэнадзёрская выpraўка! Хвацкі дзід!

Л у к ' я н *(вітаючыся)*. Будзьце ўпэўнены! Мне гэтую выпраўку ўсталявалі як мае быць. Пачакай! *(Трымае Усенка за рукаў. Зноў становіцца «смірна».)* Ты хто такі? *(Гаворыць вельмі хутка.)* Першага аддзялення, другога ўзвода, чацвертай роты, трэцяга батальёна, трынаццатага пяхотнага стралковага фальдмаршала князя Міхаіла Галіцына палка, ніжні чын Лук'ян Рабічка! А ну, паспрабуй? За адзін дых!

Калгаснікі і Усенка смяюцца. Падыходзяць яшчэ некалькі чалавек.

Х а р к е в і ч. А ў мяне справа ёсць да цябе, таварыш Усенка. Бачыш ты, хлопцы тваё там клянінку ссеклі...

У с е н к а. Пачакай, брат... Дай, я спачатку пра сваё скажу. *(Звяртаецца да калгаснікаў.)* Таварышы! Сёння ўначы праз рубеж прарваўся парушальнік... Устаноўлена, што ў тыл ён не выйшаў, а знаходзіцца недзе паблізу, тут, у прыгранічных лясах. Ён не павінен больш зрабіць ніводнага кроку ні назад, ні наперад. Ну, дык як, шаноўні таварішы? Што вы на гэта скажаце?

Л у к ' я н. Выступіць усім, як адзін, вось што скажам!

К а л г а с н і к і. Правільна...

— Аблавай!.. Як на ваўка!

Язэп. Калі ён з-пад Чаплішча бег, то...

Нічыпар. Пачакай, Язэп...

Усенка. Так... Прашу таварышоў комсамольцаў і калгасны актыў зайсці на хвілінку ў клуб.

Усенка першым рушыў да клуба. За ім пайшлі калгаснікі. Апошнім ідуць Міхась і Мікола. Міхась азірнуўся, убачыў Міколу, стаў.

Міхась. А ты куды?

Мікола. Куды людзі, туды я... А што?

Міхась. Ты чуў, што сказаў начальнік заставы? Актыў і члены комсамола! А?

Мікола. Нічога... Паеду ў раён, ты мне ў зубах комсамольскі білет прынясеш. Сыйдзі з дарогі!

Яны глядзяць адзін на аднаго.

Міхась. Ты падужацца са мной хочаш?

Мікола *(павёў плячом)*. Ну-ну, Міхал!.. Ну-ну, глядзі!

Міхась не адказаў, пайшоў да клуба. Мікола пазірае яму ўслед, потым зноў павёў плячом, узняў галаву і ўбачыў гурток моладзі, што наглядае за гэтай сцэнай. Пайшоў проста на іх. Перад ім расступіліся.

## II

Схавалішча ў лесе, паблізу хутара Харкевіча. Зямлянка, выкапаная пад вялізным карчом-вываратнем. Па сценах гэтай зямлянкі звісаюць карнявішчы, асыпаецца з іх пясок. Цьмяна гарыць ліхтар. Ахапка сена ў куце, на ёй сядзіць чалавек. Твар яго спачатку нельга разгледзець, толькі калі Харкевіч, перавязваючы незнаёмаму руку, пасоўвае ліхтар бліжэй — асвятляецца твар незнаёмца. Гэта — парушальнік граніцы, дыверсант Шабінскі.

Харкевіч. Горкае гэта жыццё, пане, калі злоснікі мае над светам запанавалі, а сябры ў магілу паляглі. Вось зараз ручку вашу праўлю і даўнейшае мне ўспамінаецца. Дзед ваш, генерал і граф, вечнае памяці, пан Шабінскі, дзіцятка малое, вас, значыцца, на тэрасу вынеслі... Вось кажуць, Харкевіч, пан твой малады; служы нашаму роду шчыра, як бацька твой і дзед служылі... Таго я датрымаў... шчыра служу... *(Завязвае бінт.)* Ах, божа мой, божа мой!.. Як давялося сустрэцца...

Шабінскі. Маўчы! Я прышоў сюды не для таго, каб у гэтай яме з табой плакаць.

Харкевіч. З ямы вам, пане, вылязаць нельга...

Шабінскі. Як гэта нельга?

Харкевіч. Яны цяпер усе ўзняліся: войска і па ўсіх калгасах людзі, па ўсім прыгранiччы... Цяпер зайца ў лесе

зловяць, не тое, што чалавека. Лісце, што на зямлю пала, на другі бок перавернуць.

Ш а б і н с к і. І доўга мне тут сядзець?

Х а р к е в і ч. А хто-ж ведае...

Пауза.

Ш а б і н с к і. Ты, Харкевіч, — баба старая. За дзесяць гадоў нейкі там хлеў спаліў!..

Х а р к е в і ч. Што магу — тое раблю, пане... Сказаць папраўдзе, каб гэта найбагацейшы чалавек быў, — мы яго ўжо даўно з торбаю па свеце пусцілі-б. Але тут не адзін чалавек, не адны рукі. Сто вачэй пільнуюць, сто рук працуюць. Яны не нанятыя, яны для сябе стараюцца... Гэта вялікая сіла народа, проці яе цяжка, пане мой, ісці, а папаўся — прапаў, ураз цябе на зямлі не будзе!

Ш а б і н с к і. А грошы, Харкевіч?

Х а р к е в і ч. Не гневайся, пане: калі, не дай бог, вам адгэтуль добра выйсці не ўдасца,—паспрабуйце грашыма адкупіцца... Тады ўбачыце самі, чаго яны варты.

Пауза.

Ш а б і н с к і. Дык што-ж?.. Значыць, нічога з імі зрабіць нельга?

Х а р к е в і ч. Небяспечна гэта, пане мой міласцівы!

Пауза.

Ш а б і н с к і. Яны цябе не рушаць? Ты-ж не на падазрэнні?

Х а р к е в і ч. Яны вераць мне. Спачатку было так сабе: служба мая пану, ойцу вашаму, усім была ў памяці. Але як толькі я, пры дапамозе добрых людзей, партызанскую паперу сабе выстараўся — усё як рукой зняло. Ды ўжо і гады прайшлі...

Пауза.

Ш а б і н с к і. Ад нашага маёнтка што-небудзь засталося?

Х а р к е в і ч. Амаль што нічога не засталося. Палац самы снарадамі разбілі, як войска вашае з-пад Барысава бегла, выбачайце... а цэглу мужыкі пасля парасцягалі... У капліцы, дзе вяльможны дзед ваш, святое памяці, генерал і граф, маліліся — цяпер электрычная машына стаіць...

Ш а б і н с к і *(перабівае)*. Ты ведаеш, Харкевіч, што

бацька мой на нейкім фальварку ў нахлебніках жыў і памёр?

Харкевіч. Божа мой, божа!..

Шабінскі. Ты ведаеш, што я, граф Шабінскі, у чужаземным легіёне, у нейкіх паганых арабскіх мястэчках пяць гадоў прападаў?

Харкевіч. А, божа мой!

Шабінскі. Страцілі ўсё: землі, багацце, а з ім — і тытул і славу роду... (*Памаўчаў.*) І от, я для таго прышоў, каб у пэўны час, на схіленых хрыбтах рабоў устаўляць сваё права ўладара законнага. Харкевіч, верны слуга, тады ты пазнаеш маю ўдзячнасць...

Харкевіч. Дай то, божа...

Шабінскі (*адпіў з флягі*). А яны... багатыя? гэтыя... калгаснікі?

Харкевіч. Багатыя! Поўныя аборы жывёлы, птушыная ферма, малочны завод. Аўтамабілі маюць, усякія машыны. А коней такіх рэдка дзе ўбачыш. Чыстапародныя арлоўскія, чатыры жарабцы асобна трымаюцца для арміі, няма ім ніякай цаны. Такія коні хіба толькі ў дзеда вашага, пана генерала былі... Яны коней паважалі... Бацька мой казаў, што яны, граф стары, некалі дзве вёскі мужыкоў на жарабка прамянялі.

Шабінскі. Пачакай, Харкевіч! Цяпер мяне паслухай, досыць тваіх глупстваў! Першае — гэта коні! Памятай: конь — не толькі кляча з хвастом. Конь — зброя, конь — гэта салдат! Ніводнага каня ва ўсёй ваколіцы не застанецца, калі добра сваю работу зробіш... Маеш! (*Падае Харкевічу маленькую каробку*). Гэта трэба падмяшаць у корм.

Харкевіч. Але-ж, мой пане!

Шабінскі. Чакай! Калгас — спаліць дашчэнту, як хочаш, так рабі... Я помсціць прышоў, хай гэта пазнаюць! І хай другім будзе прыклад. Пару тыдняў назад, калі я спрабаваў прайсці граніцу, яшчэ на тым баку будучы, уначы мужыкоў на полі знаходзіў. У чым справа? У вас тут трактары па палях хадзілі з ліхтарамі. Вось і стаіць галота на тым баку, ёй цікава: трактары аруць зямлю, а большэвіцкія мужыкі спяць. Пан староста ўзнагародзіў іх за цікаўнасць, але гэтага мала. Трэба яшчэ ім паказаць пажар! Значыць,не ўсе здаволены, калі мужыкі спяць, а машыны ўначы іхняе поле аруць. Дзве

карысці, Харкевіч: гэтым помста, тым — навука! Ну, што ты хочаш сказаць?

Харкевіч. У мяне-ж усяго два чалавекі... Адзін за грошы служыць, другога, так сабе, па дурноце ягонай звёў.

Шабінскі Я табе загадаў, больш паўтараць не буду. Ты не хочаш адпомсціць за дабрадзеяў сваіх?

Пауза.

Харкевіч. Слухаю, пане.

Шабінскі. Цяпер — апошняе: вось табе пісьмо. *(Дастае з адзення вельмі маленькі кавалачак паперы.)* Даставіш яго праз тых-жа людзей і тым-жа спосабам, як і раней, без мяне, было.

Харкевіч. Слухаю, пане. *(Бярэ паперу і хавае ў сябе.)*

Шабінскі. Мне пра ўсё далажыш, як далей будзе. Можа мне глыбей і не трэба ісці, і я тады назад пайду.

Харкевіч. З гэтым не спяшайцеся, пане. Не дай бог! Тут за кожным дрэвам вока пільнае.

Шабінскі. Досыць енчыць, Харкевіч. Слухай, ледзьве не забыўся табе сказаць: я на тваім хутары ці нелзе поблізу згубіў свой нож. Тай самы, якім забіў сабаку.

Харкевіч *(прыўзняўся)*. Што вы кажаце?! На хутары?!

Шабінскі. Ці поблізу ад яго...

Харкевіч. Трэба ісці шукаць... Ай-я-яй, няшчасце!.. *(Устаў.)* Які ён, гэты нож?

Шабінскі. Звычайны паляўнічы кінжал... З рогавай рукаяццю...

Харкевіч. Трэба ісці... Пайду...

Шабінскі. Пачакай, а калі прыдзеш?

Харкевіч. Апаўдні заўтра, калі будзе спакойна. Удзень я заўсёды сюды прыходзіў... Уначы — сам нічога не бачыш, а цябе якраз убачаць.

Шабінскі. А зараз, які час?

Харкевіч. Самы палудзень цяпер... Я пайду, пане...

Шабінскі *(адкрывае сваю сумку)*. Бяры грошы, Харкевіч...

Харкевіч. Ах, грошы, грошы... Хай яны паляжаць пакуль што... Можа ў мяне хто ў хаце будзе, ды ці мала што... Пры такім неспакоі... Пасля, мой пане... Калі ўсё сціхне... Пасля...

Шабінскі. Баязлівы ты, Харкевіч... *(Чуваць нейкі далёкі голас.)* Гм! *(Выразна спалоханы.)* Што гэта?.. А?.. *(Прыўзняўся.)*

Харкевіч *(спакойна.)* На хутары певень крычыць... *(Памаўчаў.)* Ну, адпачывайце сабе... Сядзіце ціха, агню паліць, асабліва ўначы, — сцеражы вас бог! Тут яшчэ дачка мая неспадзявана прыехала, дзеўка шалёная, усюды яе чэрці носяць... Ах, бяда... Заставайцеся здаровыя, пане... Як гэта вы свайго нажа не дагледзелі...

Шабінскі маўчыць. Харкевіч выпрастаўся на ўвесь рост, упёрся рукамі ў корані, частка іх падалася ўгору. Наверсе адкрылася шчыліна, глянула праз яе святло дня. Шабінскі схаваў ліхтар. Харкевіч прыслухаўся і, чапляючыся за карэнні, хутка падняўся ўгору, агледзеўся, спрытна праціснуўся праз шчыліну і знік. Цёмна. Нерухомая постаць шпіёна.

## АКТ ДРУГІ

Хата Харкевіча, даволі прасторная. Стол, лавы паўз сцены, камод. На сценах групамі паразвешаны сямейныя фотаздымкі пад шклом. Над камодам, акрамя фатаграфіі, — раскрыты веер з каляровай паперы і гадзіннік, пры вокнах — вазоны з фікусамі. На вокнах — фіранкі з выстрыжанай паперы. У куце над сталом — партрэт Ільіча, крыху ніжэй у рамцы — грамата. Чыста выбеленая печ, стол накрыты абрусам. Шафа. Апрача фотаздымкаў, на сценах прыбіты накрыж крыллі глушцоў, каля ложка вісіць ваўчыная скура і тут-жа дзве стрэльбы: бярданка і ўласная, паляўнічая.
Ля стала сядзіць задуманы Вырвіч. Курыць. Адчыняюцца дзверы, уваходзіць Харкевіч з сякерай.

Вырвіч. От ён, гаспадар, ліха тваёй галаве. Дзе-ж ты гэта быў?

Харкевіч. А тут, каля хутара... Платы паабвальваліся, рады няма. *(Ставіць сякеру ў кут.)*

Вырвіч. Сядзеў, з дачкой тваёй гаварыў.

Харкевіч. Хіба яна ў хаце? *(Азіраецца.)*

Вырвіч. Да рэчкі пайшла, пад калгас. Кажа: кветачак назбіраю. Далікатнасць, брат...

Харкевіч *(падыходзіць да стала).* Ну, як маешся?

Вырвіч. Добра маюся. З брыгадзіраў прагналі.

Харкевіч. Жартуеш?

Вырвіч. Каб табе такія жарты! Узялі мяне на праўленні: і тое, і другое, і туды, і сюды... Я думаў, што Міхась так сабе хлапец, а гэта — гад! першай маркі! Ды яшчэ Лук'ян пачаў бурчэць са сваёй гэтай барады, што чорт

з лесу, а тады Мірон... Добра, што ў ворагі не ўпісалі, а прыпяклі толькі вымову за нядбайства. А я ўжо думаў — да таты пацягнуць!

Харкевіч. Дык ты адразу сюды і прыляцеў з праўлення? Не мог да вечара пачакаць? Мала я табе казаў: асцярожна трэба! Лезеш, як парасё пад матку!

Вырвіч. Ну, калі і ты да мяне такі ласкавы, то я магу — за шапку ды і дахаты... Толькі мне за клопат заплаці.

Харкевіч. Я-ж табе заплаціў, што ты хочаш.

Вырвіч. Ты-ж казаў, прыплоціш зверху, калі што якое... Дык ты, брат, плаці, бо я здорава пацярпеў. А пасля і размінемся, каб чубы не блытаць. Хай яно згарыць!

Харкевіч. Раз угаварыліся, я слова датрымаю. Колькі ты хочаш?

Вырвіч. Ну, там... Адным словам... Як-бы табе сказаць... Пару нейкіх сотняў, ці што...

Харкевіч *(сеў за стол)*. Добра. А дахаты не спяшайся. Пагаворым.

Вырвіч. Пра што?

Харкевіч *(памаўчаў, пастукаў пальцамі па стале)*. Пра гэтае самае...

Вырвіч. Не, брат! З мяне досыць... Пагаварыў.

Харкевіч. Чаму так?

Вырвіч. А вось так, Багдан... Я табе зараз пра ўсё пашчырасці скажу. *(Пауза.)* Ты памятаеш, калі нас на пасёлкі разбілі, якая мне сядзіба слаўная ў Прырэччы вышла?.. Пра што я тады думаў? Пра багатую хутарскую гаспадарку, як у немца Мункі, у Прусіі, дзе я ў палоне служыў. Думаў я, што праз гады адбудую сабе хату пад чарапічным дахам, напушчу трусоў у канюшыну, а сам з люлькай у зубах, як той немец Мунка, на ганку сяду. А тут, — не туды пайшло — калгас арганізаваўся. І я ўступіў. А чаму я ўступіў? Скажу пашчырасці: не думаў я, што калгас утрымаецца, і ў згодзе хацеў з сельсоветам жыць. Бачыш, памыліўся Сільвестра Вырвіч: утрымаўся калгас. Ну, а пасля ты да мяне пад'ехаў, завялі мы з табою, бо ўсё-ж такі я думаў: раскідаецца калгас, калі ўсё наўскасяк пойдзе. А ён і ад гэтага не раскідаўся. Цяпер я што бачу? Я ў калгасе брыгадзір, сын мой на тэхніка вучыцца, маю хлеба і да хлеба. Можа я таго і пад чарапічным дахам не меў-бы...

А? Дык што выходзіць? Выходзіць, папраўдзе сказаць, што я аказваюся свіння і дурань. Я сам сваё дабро з чужое ласкі раскідаю. І вось ужо маю раз па патыліцы: з брыгадзіраў мяне вон, вымову мне прысмалілі, у газеце надрукуюць... А калі, не дай бог, што-небудзь адкрыецца? Гэта-ж ай-да люлі, салавей-птушачка! А што я зарабіў? Нейкіх там рублёў зарабіў. Згары яны сінім агнём! *(Пауза.)* Так што, няма ніякай рацыі. Даплаці мне што трэба і тымчасам... Далей свае печы Сільвестра Вырвіч не паткнецца!

Х а р к е в і ч. І ўсё?

В ы р в і ч. Канешне, усё!

Х а р к е в і ч. Дык ты і сапраўды дурань. Ён сіран хлеба спаліў, ён зерне патруціў, ён ліха яго ведае што за дзесяць год выробляў, а цяпер яму рацыі няма, і ён ужо на печ сабе палезе. Не, браце! Так лёгка мы цябе не выпусцім.

В ы р в і ч *(разгублена)*. Хто гэта «мы» такія? Што ты, Багдан? Ты-ж адзін быў!

Х а р к е в і ч. Гэта цябе не абыходзіць. Будзеш ты рабіць усё, што табе скажуць, не толькі за грошы, а задарма, калі трэба, а што не так — тады, пане-браце, знойдзецца на цябе спосаб. *(Пауза.)* Ну, пагаворым папрыяцельску: брыгадзірам ты будзеш, як і быў. Гэта раз. Другое — без капейкі не застанешся. Я цябе, Сільвестра, ведаю... Ты чалавек прагны, ты капейку любіш. А цяпер, каб часу дарэмна не марнаваць, вось, браце, што. *(Вымае з кішэні каробачку, што даў Шабінскі.)* З гэтай цацкі парашочак трэба высыпаць у авёс Лук'янавым жарабкам. *(Харкевіч пасунуў каробку да Вырвіча, той адхінуўся ад стала.)* Дык што я цябе буду, як дзеўку, угавараць?.. Глядзі, Сільвестра! Ну, чаго ты носам круціш?

В ы р в і ч *(вылез з-за стала, хапаючыся за галаву, прабег па хаце)*. Што гэта робіцца! Ай-яй-яй!.. От ускочыў, дык ускочыў!.. А, божа мой! А, каб цябе чэрці! *(Спыніўся.)* Ты хто такі! Д'ябал ты ці чалавек?!

Х а р к е в і ч *(падышоў да Вырвіча, паклаў яму каробачку на далонь, сціскае яму жменю)*. Увечары падыйдзі пад стайню ад рэчкі, там у сцяне аконца без шкла, з кратамі, невысока ад зямлі. Яно якраз над засекамі з аўсом. Цёмная такая каморка. Раскрый гэтую штучку

і праз акно высып. Як будзеш сыпаць — не дыхай і пасля памый рукі. А то і сам яшчэ там апруцянееш. І глядзі: будзеш енчыць яшчэ, а ці, не дай божа, каму паскардзішся — ну-ж, тады, Сільвестра! *(Пamaŭчaŭ.)* Схавай цацку — і сып! А то зараз Насця прыдзе...

Пакуль Харкевіч гаворыць, Вырвіч стаіць панурыўшыся, пакорна трымае ў руцэ каробачку з атрутай.

Вырвіч. Звязала нас нячыстая сіла... *(Схаваў каробку ў кішэнь.)* Адступішся ты некалі ад мяне? А можа ты мяне пасля на асіне павесіш?..

Харкевіч *(глянуў у акно)*. Вось табе маеш! Мікола валачэцца сюды. Ідзі, Сільвестра... Усё рабі, як трэба... Свой маеш розум... Ідзі, ідзі... і каб заўтра, не пазней... Калі Мікола спытаецца, чаго прыходзіў, — скажы грошы пазычаў. *(Папіхае Вырвіча да дзвярэй.)* Дай божа шчасліва...

Вырвіч. Ай-я-яй-я-яй. *(Выходзіць.)* От ускочыў, дык ускочыў!

Харкевіч хутка ідзе да стала, мімаходам бярэ з камода скрынку з тытуном. Стаў ля стала, паправіў абрус, узяўся скручваць цыгарку. Выгляд спакойны. Уваходзіць Мікола.

Харкевіч. Што ты гэта, позна так?

Мікола. Нічога не позна. *(Ідзе да стала.)* Сільвачка прыходзіў?

Харкевіч. Прыходзіў.

Мікола *(садзіцца, пасоўвае да сябе скрынку)*. Чаго гэта ён?

Харкевіч. Дзясятку ў мяне пазычаў. А ты, брат, гляджу, ужо гэтае самае...

Мікола. Нічога не гэтае... У мястэчка яшчэ пайду...

Харкевіч. Вельмі не раскашуй там, у мястэчку. Яны, брат, глядзяць! Спытаюць: адкуль у цябе грошы?

Мікола. Скажу: зайца забіў, скуру прадаў. Не вучы.

Харкевіч *(падышоў да дзвярэй, зашчапіў іх, стаў ля акна)*. Ну, як было?

Мікола. А так было, што каб ён сабаку не забіў — узялі-б яго адразу. Сабака быў сарваўся ў правадніка і наскочыў адзін. А ён яго — кх-х! *(Паказвае рукой — правёў далонню па горлу.)* Гэтым і ратаваўся. Яны яго так

гналі, што ажно мне страшна стала, як стаяў у сасонніку, у Чаплішчы. Хацеў ужо ходу даваць. Але як ён толькі сабаку рэзнуў, след і згубіўся. Пакуль яны другога направілі — фі-іць! *(Свіснуў.)* Чыста! *(Мікола сплюнуў.)* Бо яшчэ такі дождж даў на тую пару, што не тое след, каляіны на дарогах пазамывала.

Харкевіч. Ну, а як ты папаўся, што на заставу звялі?

Мікола. Нічога я не папаўся. Ён у Чаплішчы прыбег, я падхапіў яго за фалды і ручаём уброд на хутар, ды ў яму. А сам тым-жа следам назад, і яны мяне ўжо каля могільніку — цоп! Стой! І на заставу. А там пытаюць: чаго ты хадзіў па лесе? Коней шукаў. Якіх коней? Кабыла, кажу, «Манька» і стары «Сівер» некуды ў лес сышлі з лугоў. Трымалі да дня, а потым Усенка прыехаў — кажа: «праўда, у Круглым балоце пара коней». А гэта я іх туды з вечара і адвёў, каб потым зачэпка была. Мяне і выпусцілі! Х-ха! *(Сплюнуў.)*

Харкевіч *(пайшоў да шафы, адкрыў дзверку, нешта там робіць, не відаць за дзверкай)*. Малайчына, Мікола. Усё вышла як трэба, і чалавек важны неспадзявана прышоў. Ну, скаштуй! *(Нясе срэбны кубак, поўны да ўскраёў.)* Панская чарачка! Яшчэ стары пан мне падараваў. *(Ставіць на стол.)*

Мікола моўчкі сядзіць, з-пад ілба пазірае на кубак.

Харкевіч. Ну?

Мікола. Пачакай... *(Пауза.)* Чаму гэта Насця на мяне глянуць не хоча?..

Харкевіч *(пацісную плячыма)*. А я ведаю?.. Ты ў яе і пытайся! Дзе ты бачыў яе?

Мікола. У калгас пайшла.

Харкевіч. Ты-б яшчэ болей гарэлкі ўрэзаў, тады да цябе дзяўчаты ласкавейшыя былі-б!

Мікола. І ўрэжу! *(Узяў кубак, хутка выпіў, узяўся скручваць новую цыгарку.)* Звёў ты мяне, Харкевіч... Ты казаў — я гаспадаром тут буду, на хутары, Насця жонкай будзе...

Харкевіч. Не брашы, Мікола! Яна ў горад проці маёй волі паехала. Гэта Лідкі-настаўніцы работа.

Мікола. Ты — бацька, ты павінен быў закамандаваць!

Харкевіч. Паспрабуй, пакамандавай! Што ты хочаш, каб я цябе да дзеўкі пасадзіў? Жаніх! *(Памаўчаў.)*

Мікола *(на яго ўздзейнічае хмель)*. Мікола, схадзі туды, Мікола, прывядзі таго. Усюды Мікола ідзе... Ад людзей адцураўся... Харкевіч яму і за бацьку і за матку... І лес, і балота, і ночка цёмная, і куля ў лоб — нічога! Мікола не баіцца!.. Я-ж думаў, што гаспадаром тут буду, на хутары... Сам — гаспадар, Насця — жонка маладая... Звёў ты мяне, Харкевіч... Гад ты!

Харкевіч. Калі я гад, то ты дурань!

Мікола. Нічога, не дурань! Ты рады быў, што яна паехала. Ты-ж сам яе баішся! Каб яна пра твае штукі ведала, ты... *(склаў пальцы ў краты, паказаў)* — во дзе ты ўжо быў-бы!

Харкевіч. Ну, дык і ты разам са мной! Пра што-ж ход?

Мікола. Пра тое ход, што ты мне казаў: будзеш ты, Мікола, з Насцяй тут гаспадарыць. *(Пауза.)* Ты мне гэта ў суботу сказаў, а ў нядзелю паехаў чамадан купляць.

Харкевіч. Мей ты сябе за чалавека, Мікола. І што ты тут знайшоў такое, дальбог, што яна табе свет закрыла. Адна фанабэрыя, увесь характар матчын... Я тую, што сноп, малаціў, і рады не даў, а гэтая, відаць, — яшчэ мудрэйшая!

Мікола. Але чаму ты мяне за нос вадзіў? Ты казаў: будзеш ты тут, на хутары, гаспадар... Я два гады цярпеў... Усё цяпер прапала... і я прапаў.

Харкевіч. Чаго ты прапаў, што ты! Ідзі ты, Мікола, лепей праспіся...

Мікола *(схіляючыся над сталом)*. Сёння на заставе пагранічнікі мяне чаем частавалі. Частуюць, гавораць... А самім, відаць, горка... Парушальнік збег... Тэлефоны гудуць, той туды, той сюды... А мяне частуюць... Яны мяне за добрага чалавека маюць... А я для іх — першая сволач... Я сяджу і ўсё ведаю... як і што.. А яны мне вераць... Чаму я не такі, як людзі?.. І завошта я такі? Ты мяне звёў... З-за цябе я ў балота ўлез.

Харкевіч. Маўчы, шчанюк! Ты каго шкадуеш, сцерва? *(Падышоў, схапіў Міколу за плячо.)* Ты з-за бабы гатовы і сваю галаву і мяне загубіць! *(Моцна тузануў Міколу за плячо. Той безуладна бойтаецца ўсім тулавам пад рукой Харкевіча.)* Ты святы быў? Хто коні

з Пагулянкі ўкраў? Я можа? Не ты з Палясоўцамі кантрабанду вазіў?.. Ты ўжо тады на дзве вісельні зарабіў! *(Адштурхнуў Міколу, адступіў ад стала.)* Ты ў мяне ў руках, памятай гэта! А не, дык сабакі касцей тваіх не пабяруць! *(Мікола моўчкі пакруціў галавой, пацёр далонню лоб, як-бы апрытомнеў.)* Што? Адышло? *(Пауза. Харкевіч прайшоўся па хаце, відаць, супакойваецца.)* Гэтакі хлапец! Звер, проста! Франт! *(Пауза. Харкевіч падумаў.)* Я табе так скажу: адпраўлю я цябе ў горад. Заробіш ад мяне грошы, ад'язджай ты сабе куды хочаш, на ўсе чатыры дарогі.

Мікола *(узняў галаву)*. А што-ж... і паеду... Да брата паеду.

Харкевіч. Хоць сабе і да свата... *(Падышоў да Міколы, пастаяў моўчкі, хацеў нешта сказаць, але на дварэ забрахаў сабака. Харкевіч глянуў у акно, хутка пайшоў да дзвярэй, адшчапіў іх.)* Мікола? Марш адгэтуль! *(Падышоў да стала, змятае рукавом нацярушаны тытун.)* Мікола, ты чуеш, што я сказаў? *(Пацягнуў яго за рукаў.)* Уставай! *(Амаль што выцягнуў Міколу з-за стала, даў у рукі шапку. У сенях чуваць жаночыя галасы, мужчынскі смех.)* Глядзі, не разяўляйся тут... Ідзі дахаты, прашу цябе, Мікола! *(Пачуўшы галасы, Мікола неяк падабраўся, стаў проста.)*

Адчыніліся дзверы, уваходзяць: Насця, Ліда, за імі Усенка і Міхась.

Харкевіч. Госці дарагія!.. Што значыць — дачка прыехала: год сядзеў стары адзін, каб хто вокам глянуў! Заходзьце, будзьце ласкавы... *(Бярэ крэсла, паставіў яго ля стала, потым адсунуў, пайшоў насустрач, развёўшы рукі.)* Ах, слаўна, што зайшлі... *(Падхапіў яшчэ адно крэсла, узяў Усенка пад руку, павёў да стала.)* Міхасёк, а ты сюды... Дзяўчаты як хочуць. Я для іх не кавалер...

Усенка і Міхась селі на крэслы. Насця падала свой букет Лідзе, прайшла да акна. Мікола стаіць ля стала. Насця абышла яго, як-бы не заўважаючы.

Мікола. Ганарыцеся, Насценька?..

Насця *(адсоўвае ад акна вазон з фікусам)*. Колькі дыму ў хаце?..

Харкевіч. Хе-хе... Падкурылі мы тут... Чыста памужыцку...

Насця адчыніла акно. Відаць кусты ў палісадніку, блізкі лес.

Н а с ц я (*бярэ Ліду пад руку*). Мы на адну хвілінку, таварышы...

М і к о л а. Ганарыцеся, Насценька? Што-ж, дзе нам, дурням, тут... павярнуцца. (*Націснуў шапку на вочы, рукі глыбока ўсадзіў у кішэні, прыўзняўшы плечы, вышаў, цвёрда ступаючы. Грукнуў дзвярыма.*)

Н а с ц я (*адпусціла руку Ліды*). Які тып... Што гэта з ім стала?

Х а р к е в і ч. Нічога такога і не стала. Нап'ецца і бадзяецца, людзям галовы дурыць. Адным словам — фулюган! Добра зрабілі хлопцы, што прагналі з комсамола.

Н а с ц я. Ну, пойдзем, Ліда.. А то кветкі звянуць...

Дзяўчаты вышлі. Харкевіч глянуў на дзверы, падміргнуў.

Х а р к е в і ч. Сказаць папраўдзе, ён за дзяўчынай маёй палюе... Кавалер з чырвоным носам. Ну, дарагія мае, чым-жа вас частаваць? Можа па чарцы зробім? А ці не?

М і х а с ь. Мусіць, што не...

У с е н к а. Нават напэўна не. Не ўсе-ж госці, таварыш Харкевіч, у вас павінны быць п'яныя?

Х а р к е в і ч. Папраўдзе сказаць — сам не паважаю. Але-ж — звычай такі: гаспадар частуе, а госць — як хоча...

У с е н к а (*разглядзеўся па хаце, убачыў зашклёную рамку пад партрэтам Ільіча*). Гэта партызанская грамата ваша, Харкевіч?..

Х а р к е в і ч. Яна самая. (*Знімае са сцяны грамату, падае Усенка.*) Некалі і мы тое-сёе рабілі...

У с е н к а (*прачытаў грамату моўчкі, перадаў Міхасю*). Салідны дакумент... Чырвоны партызан — слаўнае званне... Што-ж, цяпер вам прыемна жыць, Харкевіч! На заваяванай, адбудаванай сваёй совецкай зямлі!

Х а р к е в іч. Хто-ж пра гэта кажа... Багацце, прастор! Вось і ўспамянеш хлопцаў сваіх, камандзіраў... (*Прымае з рук Міхася грамату, вешае на сцяну.*) Мала іх ужо засталося...

У с е н к а. Дык вы тут у лесе гэтым і ваявалі?

Х а р к е в і ч. Не тое, што тут, а так, вёрст за восемдзесят адгэтуль... А камандаваў нашым атрадам вядомы чалавек. Ён цяпер высокі начальнік...

У с е н к а. Так, та-ак...

Уваходзяць дзяўчаты. Насця трымае над пахай альбом. Ліда нясе букет. Кветкі пастаўлены ў гарлач.

Насця. Тата! Хто там скрабецца ў скрыні, у сенях?

Харкевіч. А гэта — зайчык маленькі. Марцовік... На балоце я знайшоў увясну... Быў застудзіўся, бядак... Шкадую я звяркоў малых... Другі раз выскачыць вось такі з-пад куста, і рука на яго не падымаецца...

Ліда ставіць кветкі на стол. Міхась пасоўваецца з крэслам. Насця кладзе альбом, раскрывае яго.

Насця. Вось наш інстытут увесь. (*Паказвае фотаздымак.*) Ну, дзе я тут?

Усе разглядаюць здымак. Харкевіч таксама нахіліўся здалёк.

Харкевіч. А разбярэш тут... Як гароху насыпана... (*Махнуў рукой.*) Вы сабе забаўляйцеся, а я тымчасам... Сорам-жа мне: госці за сухім сталом сядзяць! (*Выйшаў.*)

Насця (*паказвае здымкі*). Падругі мае. Вось — Фацьма, я табе пісала пра яе, Ліда. Слаўная, праўда? Яна ўсё прасіла, каб я да яе паехала. Ну, і самае галоўнае. (*Падае здымак Лідзе.*) Мы на першамайскай дэманстрацыі.

Ліда (*здзіўлена*). Таварышы! Гляньце: ля самай трыбуны...

Насця. Гэта было надрукавана ў журнале. Мы выпрасілі здымкі ў рэдакцыі.

Усенка. А пакажыце-ж бліжэй!.. (*Бярэ здымак, яны з Міхасём глядзяць.*) Вось гэта, дык памятка! (*Падае здымак Насці.*) Беражы, Насця!

Міхась. Што ты скажаш! Ажна зайздрасць бярэ!

Ліда (*зноў узяла здымак*). Як-бы я хацела быць там з табой побач... Дык раскажы, як гэта было? Што ты адчула, што думала?

Насця. Я вельмі хвалявалася. І асабліва тады, калі воддалі ўбачыла маўзалей, трыбуну і сярод людзей, што былі там, — знаёмую постаць... У той-жа момант нізка над намі пранесліся самалёты. Грымнула магутнае «ура». Я гэтага ўсяго як-бы не чула. Стала неяк ціха, ціха, толькі трапечуць нашы сцягі пад ветрам і чуцен роўны гул тысяч крокаў. І вось ён стаіць, наш правадыр... Ці думала я калі-небудзь, што буду так блізка ад яго, што ён усміхаецца нам. А гэта і было так. Калі мы праходзілі, таварыш Варашылаў нешта сказаў яму — яны ўзнялі рукі, вітаючы нас. Гэта было проста і захапляюча. Гэта

было так урачыста, нібы прысягу прынесла я там, на Краснай плошчы...

Л і д а. Як я рада за цябе, Насця...

Н а с ц я. А я табе ўдзячна. Каб ты не дапамагла падрыхтавацца, я не была-б у інстытуце.

Л і д а. Кінь, пры чым тут я?..

У с е н к а. Так, уражанняў многа. *(Пауза.)* Ты кажаш: «нібы прысягу прынесла я на Краснай плошчы». Дык ты памятай пра гэта, не забывайся! *(Насця крыху здзіўлена глянула на яго.)* Той, хто прынёс прысягу, павінен сумленна выканаць яе.

Н а с ц я. Чаму ты мне гэта кажаш? Я і сама гэта ведаю.

У с е н к а. Ну, калі ведаеш, то добра. Гэта да слова прышлося... *(Паглядзеў на гадзіннік.)* Мне, аднак, трэба збірацца... *(Устаў.)*

З'яўляецца Х а р к е в і ч.

Х а р к е в і ч. Госцейкі дарагія! Прашу... Паходным парадкам, я на ганку ўсё абсталяваў... Мядок яшчэ леташні захаваўся, малачко свежае. Насця, прасі людзей!.. *(Усенка зрабіў адмоўны жэст.)* Таварыш начальнік, не адмаўляйся, будзь ласкавы.

Н а с ц я *(устала)*. Пойдзем, пойдзем... Што вы? Так даўно бачыліся, сустрэліся, трэба-ж пагаварыць!

У с е н к а. Пяць хвілін, не болей.

Усе пайшлі да дзвярэй. Харкевіч першым вышаў у сені, за ім дзяўчаты. Усенка прытрымаў Міхася ля парога, прычыніў дзверы.

У с е н к а. Слухай! Завошта вы Міколу з комсамола выключылі?

М і х а с ь. За антысеміцкае хуліганства. І за сабатаж. Ёсць за што яго выключаць!

У с е н к а. А ты-ж усё-ткі з ім гаварыў? Чаму гэты чалавек з дарогі збіваецца!

М і х а с ь. Паспрабуй з ім пагаварыць... Толькі зубамі скрыгоча.

У с е н к а. А ты не ведаеш, чаго ён скрыгоча?

М і х а с ь. Чорт-жа яго ведае!.. І дзеўкі, і гарэлка, і гультайства. Гэткі дуб — начным вартаўніком пры конях! Я табе скажу проста: бандыт — і тут яму не месца... Вось і ўсё!

Усенка задумна паківаў галавой. Адчыніліся дзверы, выглянуў Харкевіч.

Х а р к е в і ч. Браткі мае! Што-ж вы! Трымайцеся кумпаніі...

Усенка і Міхась вышлі. Харкевіч на момант ускочыў у хату, агледзеў яе па ўсіх кутках.

Х а р к е в і ч. Ах, трасца тваёй галаве! *(Вышаў.)*

Заслона

## АКТ ТРЭЦІ

### I

Раённы цэнтр. Службовы кабінет Абабуркі. Прасторны пакой, вялікае акно, двое дзвярэй, пісьмовы стол з настольнай лямпай, вялізным пісьмовым прыборам. На стале ў непарадку ахапкі розных інструкцый, цыркуляраў, брашур, старых газет, шклянка з недапітым чаем, талерка з каўбасой *(проста на паперах)*, кавалак булкі. Тут-жа два тэлефонныя апараты. Побач за сталом — невялікі столік — на ім пішучая машынка. На сцяне — партрэты правадыроў, карта раёна, з выразнай чырвонай рысай дзяржаўнай граніцы. Вялікі каляндар з выразнай лічбай «1937». На падстаўцы ля акна — графін з вадою. У куце — незгараемая шафа, уздоўж сцен — крэслы.

А б а б у р к а *(ходзіць па пакоі, заклаўшы рукі ў кішэні. Падышоў да незгараемай шафы, пастаяў, калупнуў пальцам замок, зноў прайшоўся, спыніўся ля стала, пакруціў ручку тэлефона)*... Тры-ноль-пяць. Райземаддзел? Кабінет Французевіча? Здароў, гэта я, Абабурка. Ну, паслалі рапарт? Што?.. А чаму?.. Дабрынін упёрся?.. Што? *(Пауза.)* А ён адкуль ведае? Хто яму паказаў рапарт? *(Пауза.)* Ну, Антон — саступаць не будзем. На бюро, дык на бюро. Правільна. Спачатку па-добраму, а калі што якое... *(Пауза.)* Ну, дык вось што: я да цябе на абед прыеду, згаворымся. Добра. Галоўнае — не даваць яму ходу. Якраз на бюро мы яму рогі і саб'ем. *(Пауза.)* Учора? Так сабе... Селі па маленькай, а тым часам сто семдзесят пяць маіх рублікаў плакалі. Падкавалі Абабурку. Прыдзецца дзе-небудзь падзаправіцца... Ну, пакуль што. Бывай. *(Павесіў трубку, прайшоўся, адпіў чаю са шклянкі, зморшчыўся, перагарнуў паперы, выняў папяросу, закурыў, зноў прайшоўся. Стук у дзверы.)* Увайдзіце!

Уваходзіць Д а б р ы н і н.

Д а б р ы н і н. Добры дзень, таварыш Абабурка.

**Абабурка.** Прывет, прывет, таварыш Дабрынін. *(Пасоўвае крэсла, ачышчае рог стала ад папер.)* Загрузіўся я тут. Работы па самае горла. Сядай, друг.

**Дабрынін** *(аглядае стол).* Аднак-жа!.. *(Садзіцца.)* Колькі паперы сабралася.

**Абабурка** *(сеў у сваё крэсла).* А як-жа! На тое райвыканком! Кіраўнічаства ўсімі справамі раёна. Ну, што добрага скажаш? Як раёнчык падабаецца?

**Дабрынін.** Раён добры, багаты. Вось пра гэта я і прышоў з табой пагаварыць. За тры дні, што я тут, наколькі магчыма, я азнаёміўся са становішчам і...

**Абабурка** *(перабівае).* Не ўсё гладка? Не так, як за партай у Комвузе? Хэ-ха, друг! Практычная работа! Ну, нічога. Прывыкнеш.

Пауза.

**Дабрынін** *(вымае з кішэні паперку).* Мяне вось што здзіўляе. Сяўба па раёну далёка яшчэ не скончана, а ты пасылаеш рапарт аб выкананні пасеўнага плана на сто і восем дзесятых. Адкуль гэтая лічба? І чаму гэта робіцца паміма раённага камітэта партыі? Без яго ведама?

**Абабурка.** А таму, друг, што ты яшчэ толькі справы прымаў, яшчэ не разгледзеўся. За што ты хочаш адказваць, калі пазаўчора прыехаў? Вось мы з Французевічам і падпісалі рапарт паміма цябе.

**Дабрынін.** Я не пра гэта пытаюся. Мяне цікавіць, што можа даць вось такі беспадстаўны рапарт?

**Абабурка.** Ну, дык слухай, друг Дабрынін. Ты хлапец, відаць, з галавой, але вопыту ў цябе яшчэ малавата. Ну, нічога. Папрацуеш, навучышся, бо, саскочыўшы са школьнай лавы, не так-та лёгка мець правільную арыентыровачку. Я табе зараз раскажу, навошта гэты рапарт. Канешне, мы адсталі. Але, маючы розум, гэта не бяда. Мы даем рапарт аб выкананні, наш раён воддалі, і пакуль тое ды другое, сяўбу мы якраз і скончым. Калі-ж гэтага рапарту не даць, зараз прыедуць упаўнаважаныя, камісіі, карэспандэнты, цябе пачнуць распісваць у газетах, і каб ты пасля са скуры вылез — вымова табе забяспечана. А так — рапарт і ўсё ціха. Гэта і ў тваіх інтарэсах, таварыш Дабрынін. Не думаю я, што цікава табе спагнанні атрымліваць. *(Пауза.)* Бачыш? Я з табой адкрыта гавару. Ты — сакратар райкома партыі, я — стар-

шыня РВК. У нас павінен быць кантакт, друг, іначай ніякая работа не выйдзе.

Д а б р ы н і н (*устаў, паклаў рапарт у кішэню*). Так... Усё ясна... Я думаў, што гэта непаразуменне, памылка... А гэта — абдуманае злачынства, абман партыі!

А б а б у р к а (*устаючы*). Но, но!

Д а б р ы н і н. Толькі адзін калгас «Чырвоная Ніва» скончыў сяўбу, у МТС няма гаручага, запасных частак, інвентар параскіданы, машыны стаяць, калгасы сеюць уручную, снабжэнне брыгад прамтаварамі сарвана, а яны фабрыкуюць рапарт — сто і восем дзесятых! Ганьба! Злачынства!

А б а б у р к а. Но, но! Памалу, друг!

Д а б р ы н і н. Добра. (*Супакойваючыся.*) Сёння на пасяджэнні бюро райкома мы пра гэта пагаворым падрабязна.

А б а б у р к а. Памалу, памалу, друг. Абабурку не так лёгка пакрыўдзіць! Дарэмна заядаешся, дарагі мой! Са мной, друг, агрызацца не варта. Абабурку дзе-ні-дзе яшчэ ведаюць!

Д а б р ы н і н. Я ўсё сказаў.

А б а б у р к а. І я ўсё сказаў... Калі ласка, будзьце здаровы!

Дабрынін вышаў.

А б а б у р к а. Іш ты! Зубасты! (*Падумаў.*) Здаецца, прабрахаўся я ўсё-такі. Чорт-жа яго ведаў! А — нічога! Бачылі мы і не такіх. (*Падыходзіць да стала, бярэ паперку, праглядае, пасвіствае. Звоніць тэлефон.*) Алло! Адкуль? З якога сельсовета? Таварыша Абабуркі няма! Выехаў на раён. (*Кладзе трубку.*) К чорту! (*Стук у дзверы.*) Хто яшчэ там?

Уваходзіць Х а р к е в і ч у плашчы, з бярданкай, як звычайна.

Х а р к е в і ч. Добры дзень, таварыш Абабурка!

А б а б у р к а. Здароў, друг. Што-ж ты гэта? Я ўжо чакаў, чакаў. (*Вітаецца.*) Сядай! (*Харкевіч сеў. Абабурка падышоў да дзвярэй, замкнуў французскія замкі на кожных. Павярнуўся да Харкевіча.*) Ну?

Х а р к е в і ч. Прыбыў.

А б а б у р к а. І ўсё ў парадку?

Х а р к е в і ч. Пакуль што нічога сабе. Хаця не надта... (*Расшпільвае плашч.*) Дожджычак маленькі прысыпаў. (*Атрасае плашч.*)

А б а б у р к а (*абышоў стол, сеў у сваё крэсла*). Штонебудзь прынёс?

Х а р к е в і ч. Ёсць. (*Адвярнуўшыся, нешта дастае з плашча, праходзіць нейкі час. Абабурка пільна глядзіць на Харкевіча.*) От, ва ўласныя рукі! (*Падае пісьмо, маленькую складзеную паперку.*)

А б а б у р к а (*хутка ўзяў, адкрыў шуфлядку стала, пачуўся звон замка, закрыў.*) Усё. Ну, як? Толькі цішэй гавары!

Х а р к е в і ч (*устаў, перахіліўся цераз стол*). Сядзіць у мяне, у яме... (*Азірнуўся.*) Трэці дзень... Я прыйсці сюды ніяк не мог... Мне — бяда з ім. Ні сюды, ні назад... Як прышоў... вельмі рызыкоўны быў... а тры дні пасядзеў — і гэтае... Сам сябе баіцца, нанюхаўся нечага, як яно называецца... з ямы лезе... Уцякаць хоча... А куды яму цяпер уцякаць?.. (*Харкевіч нешта гаворыць паціху.*)

А б а б у р к а (*слухае*). Так... так.. (*Пауза.*) Што?.. Так... Ну, сядай. Дык гэта з коньмі, у «Чырвонай Ніве» ваша работа? Я так і думаў... (*Абабурка гаворыць упоўголас.*)

Х а р к е в і ч (*у тым-жа тоне*). Незадача вышла. Каб то коні, а то жарабяты...

А б а б у р к а. Трое ўсяго?

Х а р к е в і ч. Так сабе, недаросткі, яны іх аўсом падкармлівалі.

А б а б у р к а. Што-ж гэта вы!

Х а р к е в і ч. Проста няшчасце! Хто-ж бы падумаў, што яны жарабятам дадуць.

А б а б у р к а. А як настроі?

Х а р к е в і ч. Страх! Яны Вырвіча гатовы ў зямлю закапаць.

А б а б у р к а. Дык-жа яго не злавілі!.

Х а р к е в і ч. Сцеражы бог, каб злавілі! Яны яго за ячмень падазраюць, з брыгадзіраў выгналі, а тут яшчэ новае.., Трэба, Дзям'ян Сымонавіч, Вырвіча зноў на ногі паставіць. А то задзяўбуць хлопца.

А б а б у р к а. Паставім! Дык што, кажаш, той здрэйфіў?

Х а р к е в і ч. Нічога дзіўнага, на чужой старане чалавек!

Стук у дзверы. Абабурка адчыняе, з'яўляецца машыністка.

М а ш ы н і с т к а. Калгаснікі з «Чырвонай Нівы» прыехалі.

Абабурка. Ну?

Машыністка. Просяцца на прыём.

Абабурка (*падумаў*). Ну, добра. Хай прыдуць калгаснікі. (*Машыністка вышла.*) А ты, друг Харкевіч, пачакай вось тут... (*Адчыняе меншыя дзверы.*)

Харкевіч (*нездаволены*). А можа, яны пачакалі-б?

Абабурка. Не! Якраз і добра, што прыехалі. Я з імі коратка: — раз — два. Хто там загадчыкам конефермы?

Харкевіч. Лук'ян Рабічка. Той самы, што я вам казаў... Ён тут, прыехаў.

Абабурка. Ну, дык ідзі, ідзі, друг.

Харкевіч прайшоў у сумежны пакой, Абабурка замкнуў за ім дзверы, сеў за стол, націснуў кнопку на сцяне. Над дзвярыма ўспыхнула лямпа. Званок. Уваходзяць: Мірон, Міхась і Лук'ян. Абабурка піша, вельмі заняты.

Лук'ян. Добры дзень!
Міхась. Добры дзень! } разам
Мірон. Добрага здароўя!

Абабурка. Прывет, прывет, таварышы! (*Паківаў галавой, не пакідаючы пісаць.*) Сядайце! (*Пауза. Калгаснікі не спяшаюцца сесці. Коратка глянуў на іх.*) Сядайце... Я зараз... (*Міхась узяў крэсла, падсунуў яго да Мірона, Мірон сеў першы, побач з ім Лук'ян. Міхась адышоў да дзвярэй.*) Я зараз, таварышы... (*Пауза. Нарэшце, Абабурка скончыў пісаць.*) Ну, я слухаю... У чым-жа справа?

Калгаснікі пераглянуліся. Лук'ян устаў.

Абабурка. Сядайце, сядайце... Навошта ўставаць!

Лук'ян. Справа такая, што сказаць — язык не паварочваецца: коней у нас патруцілі. Трох жарабят. У корм атруты падсыпалі.

Абабурка. Хто патруціў?.. Хто падсыпаў?..

Лук'ян. Таго не ведаем.

Мірон. Але маем падазрэнне...

Абабурка. Пачакайце. Я буду гаварыць з адным. Хто загадчык конефермы?

Лук'ян. Я...

Абабурка. Дзе знаходзіўся корм?

Лук'ян. Пры стайні. У каморы.

Абабурка. У каго ключы былі ад каморы?

Лук'ян. Ключы?.. У мяне, у каго-ж яшчэ... Ад усёй гаспадаркі ключы заўсёды пры мне.

Абабурка. Та-ак... Што-ж, замок зламалі?

Лук'ян. Замкі цэлыя ўсюды.

Абабурка. То, пэўна, падабралі ключы?

Лук'ян. Не... У нас дзяжурства пры стайні.

Абабурка. Та-ак... Значыць, замкі цэлыя, пры стайні — варта, ключы ў загадчыка фермай, а корм патруцілі?

Лук'ян. Патруцілі... І гэта шчасце, што жарабкам племянным аўса не далі. Я ўжо быў у камору прышоў, а потым думаю сабе: «а — няхай на вольным корме паходзяць, выпушчу да полудня на атаўку»...

Абабурка. Пабаяўся, значыць?

Лук'ян. Што?

Абабурка. Закон ад сёмага жніўня прыпомніў? Ручка ўздрыгнула?

Міхась устаў. Мірон глянуў на яго.

Лук'ян. Што гэта вы гаворыце такое, таварыш Абабурка? Дальбог, не разумею...

Абабурка. Пачакайце! Прашу сесці, таварыш... *(Міхась разгублена глядзіць на Абабурку.)* Сядайце, сядайце... Ну? *(Міхась сеў. Мірон панура глядзіць на Абабурку.)* Будзем разбірацца далей. Хто-ж, па-вашаму, патруціў корм? Ангел божы?

Мірон. Ёсць такі ангел.

Абабурка. Я і сам гэта ведаю, што ёсць.

Мірон. Ён праз аконца атруту высыпаў.

Абабурка. А гэта адкуль вядома?

Міхась. Устаноўлена следствам. Была камісія.

Абабурка. Ну?

Мірон. Ды што там казаць. Хто патруціў ячмень, той і жарабят кончыў. Маем падазрэнне на Сільвестра Вырвіча. Ён у той дзень да позняе начы каля стайні аціраўся, у яры пры рэчцы лыкі драў. На ліха яму лыкі? Што ён — лапці будзе насіць? Тыя лыкі ў яго і цяпер пад паветкай ляжаць, а нашы жарабяты — у яме. Вось як.

Міхась *(устаў, падышоў да стала)*. Мы просім вашай дапамогі, таварыш Абабурка! Атрута, якую насыпалі ў корм, прызналі ветэрынары — страшная рэч, ад яе магла вынікнуць эпідэмія на коней... Яна замежнай работы, гэ-

тая атрута. Трэба, каб зараз-жа на месцы было суровае следства. І я дзіўлюся, што вы да таварыша Рабічкі *(паказвае на Лук'яна)* так аднесліся...

А б а б у р к а. Сядай. Следства, кажаш? Вось мы зараз і навядзем следства. Замкі цэлыя — раз. Ключоў не падбіралі — два. Дзяжурства было — тры. А корм патруцілі! Хто павінен адказваць? Загадчык конефермы! У даным выпадку — вось гэтая асоба. Ну? Іш, забегалі вочы!

Л у к' я н. Ды што вы!.. Таварыш Абабурка!.. Гэта-ж — праца мая! Коні нашы ўсе да аднаго маёй гадоўлі! Я ночы не спаў, гадаваў іх, пеставаў, сэрца маё і радавалася і балела, усяк было. Калі маладняк захварэў, я месяц у стайні спаў. Браткі мае, што-ж гэта!.. А!.. *(Глядзіць на Міхася. Той устаў, трымае рукі за спіной, глядзіць на Абабурку. Мірон сядзіць спакойны, усё так-жа пануры, Абабурка абыякава запальвае папяросу.)* Таварыш Абабурка! Я-ж за савецкую родную ўладу ваяваў, брата майго палякі расстралялі, мае два сыны — чырвоныя камандзіры. Ды што вы! Няўжо не ведаеце мяне?..

А б а б у р к а. Ведаем, ведаем... *(Бярэцца за трубку тэлефона. Круціць ручку.)* Аллё! Два-сем-пяць. Пракуратура? Абабурка гаворыць... Здароў... Слухай, падкінь сюды чалавечка. Тут адно пытанне сур'ёзнае. Матэрыялы пасля прышлю. *(Пауза.)* Так... Дык што-ж, што ты тую справу апратэставаў?.. Гэта яшчэ не значыць, друг, што ты правы. Так, так!.. Ну, пра гэта мы пасля пагаворым. А чалавечка — падкінь. Тут дыверсію раскапалі, а ты ўпіраешся. Матэрыялы дам — сам убачыш. Ну, усяго... *(Да Лук'яна.)* Выйдзіце, грамадзянін, у той пакой і пачакайце там. *(Лук'ян стаіць нерухома, моцна ўражаны.)* Хаця, калі ласка. *(Устаў, узяў Лук'яна пад локаць, вывеў за дзверы. Чуваць голас Абабуркі, які аб нечым распараджаецца. Мірон і Міхась моўчкі глядзяць адзін на аднаго. Уваходзіць Абабурка).* Пачатак следства ёсць. А то — на самай справе: такі калгас, і ўсё непарадкі. Тое, другое — проста абрыдла... *(Садзіцца ў крэсла за стол.)*

М і р о н *(устаў)*. Несправядліва судзіш, начальнік! Навошта ты гэтага чалавека арыштаваў?

А б а б у р к а. А гэта што яшчэ за адвакат! Ты глядзі, дзед! А то...

Мірон. Ты не страш мяне! Мы прышлі да цябе дапамогі прасіць, а ты за ворагаў нашых заступаешся...

*Мірон павярнуўся, уздзеў шапку, вышаў.*

Абабурка. Гэта што, вар'ят?.. Гэта што за выступленне? *(Стукнуў кулаком па стале.)* А ну, давай сюды гэтага дзеда...

Міхась *(падышоў да стала, вельмі ўсхваляваны).* Што вы робіце, таварыш Абабурка! Тут шнырадь шкоднікі, тут страты за стратамі, людзі хвалююцца, і амаль што ні адкуль, акрамя пагранічнікаў, дапамогі няма... А вы абвяшчаеце ворагам Лук'яна Рабічку, першага арганізатара калгаса... Гэта-ж проста ўдар па нас, па ўсіх. Што гэта робіцца, я не разумею! *(Міхась узяўся за галаву.)*

Абабурка. Вопыту, вопыту няма, таму і не разумееш... Першы арганізатар — іш ты! Цэлая барадатая стараверская арцель арудвае! Як гэтага прозвішча? *(Узяў асадку.)*

Міхась. Таварыш Абабурка! Яшчэ раз вам кажу: гэтыя людзі нам кадры вырасцілі!

Абабурка. Я пытаюся: як гэтага дзеда прозвішча?

Міхась. Мірон Бокуць ягонае прозвішча...

Абабурка. Бокуць... Гэта пра яго ў «Правде» пісалі? *(Міхась кіўнуў галавою.)* Вар'ят стары... Ну, чорт з ім, пасля разбярэмся... *(Паклаў асадку.)* Ты слухай: я з табой пакуль яшчэ па-добраму гавару. Ты нарабіў памылак. Завошта зняты з брыгадзіраў палявод Вырвіч? А?

Міхась. Ператручаны фармалінам увесь пасеў ячменю.

Абабурка. Даказана, што гэта ён зрабіў?

Міхась. Не даказана. Але ён — палявод.

Абабурка. Колькі гадоў ён палявод?

Міхась. Пяць.

Абабурка. За ім нічога не было?

Міхась. Па ягонай брыгадзе не было.

Абабурка. Дык якія былі падставы, каб зняць Вырвіча з брыгадзіраў? *(Міхась хоча нешта сказаць.)* Прапаную неадкладна аднавіць Вырвіча, як сумленнага калгасніка, на пасадзе брыгадзіра, і ўсякія такія размовы — рашуча спыніць! *(Хлопнуў далонню па паперах.)* Можаш ісці, друг!

Міхась. Таварыш Абабурка!

Абабурка. Можаш, друг, ісці. У мяне няма часу. Я, друг, — заняты чалавек!

Міхась пастаяў у нерашучасці, хацеў нешта сказаць, але павярнуўся і, не развітаўшыся, хутка вышаў.

Абабурка. Іш ты, чыжык... Х-ха, друг! *(Устаў, падышоў да дзвярэй пакоя, дзе Харкевіч. Раптам зазваніў тэлефон. Абабурка падышоў да стала.)* Аллё! Ты, Антошка? Ну, ну, я самы... Слухаю, слухаю... Ды што ты, нібы не еўшы! Ну?.. Так... Цяпер чую... Што?.. Што, што?.. *(Раптам тлусты твар Абабуркі змяніўся.)* А-рышта-ваны? Пачакай... Калі гэта... Як гэта... учора... Пачакай... *(Абабурка задыхнуўся, як-бы нешта праглынуў, грузна асеў у крэсла.)* Слухаю... Нічога не чую... Не чую... Так, так... А-арыштаваны... Прыходзь... *(Застыгнуў на месцы, трымаючы ў руцэ тэлефонную трубку. У гэтую хвіліну Абабурка напоўжывы. Адчай і здзіўленне, страх, разгубленасць, выраз напружанай думкі праходзіць па яго твары. Ён як-бы прыпамінае нешта, трымаючы палец ля губ. Так ён сядзіць нейкі час. Пасля кладзе трубку і расшпільвае каўнер гімнасцёркі, агладжвае горла, прыціскае руку да сэрца. Потым устае, павольна выходзіць з-за стала, натыкаецца на крэсла, ідзе па пакоі і спыняецца ля незгараемай шафы. Апіраючыся аб яе плячыма, нахіліўшы галаву, стаіць яшчэ некалькі часу.)* Каб толькі... не раскіснуць... Хвасты... хвасты... О, чорт! *(Сціснуў кулакі, узняў галаву. Прайшоў да стала і паклаў руку на трубку тэлефона. Пастаяў, падумаў, падышоў да графіна з вадой. П'е залпам адну, другую шклянку вады, пачакаўшы, трэцюю. Нарэшце, бярэцца за трубку.)* Тры-дваццаць-два. *(У яго змяніўся голас.)* Таварыш Дабрынін? Гэта я, Абабурка... Гм... Вось што, друг: параздумаў я над тваімі словамі. Прызнаю, друг, памылку. Сапраўды выходзіць як-бы абман. Так, так... Прашу: не варта ставіць гэтае пытанне на бюро. Бачыш ты, у нас, у старыкоў, такая лінія: абы толькі працаваць не перашкаджалі, а мы сваю работу зробім... *(Пауза.)* Ну, што-ж! Як хочаш... Значыць, дарэмна мяне пакрыўдзіш! Дарэмна, дарэмна! Я сваю памылку прызнаў. Так... *(Адбой)*. Ох ты, чорт! *(Звоніць зноў.)* Два-сем-пяць... Пракуратура? *(Пакашляў.)* Там я да цябе чалавека накіраваў, абяцаў прыслаць матэрыял... Так, з «Чырвонай Нівы». Памылка вышла. Наблыталі тут нашы, чорт іх, проста сорам перад калгаснікам. Што? Ну, добра, добра... І перадай яму,

будзь ласкавы, што я прашу выбачэння... Слаўны старычок, аказваецца... Так... так... Ударнік... І яшчэ: наконт той справы, што ты апратэставаў, — не супярэчу. Я разабраўся, ты правы. Што?.. Голас да майго не падобны?... А гэта, друг... занядужаў я нешта. Галава баліць, работы многа... Ну, усяго! *(Зноў пацісиуў на вілку. Адбой.)* Тры-ноль-шэсць. Сакратарыят? Гэта Абабурка. Вось што, дарагі... Знайдзі ты старшыню з «Чырвонай Нівы», Буйко, і скажы яму, што я свае ўказанні наконт брыгадзіра Вырвіча адмяняю... Што? Буйко ў Дабрыніна ў кабінеце?.. І хто яшчэ? Стары? Той, што ў мяне быў? Такі высокі? І ён там? *(Паклаў трубку.)* Н-ну, Дзям'ян... Трымайся! *(Вышаў з-за стала.)* Хвасты, хвасты... яшчэ гэты падзямельнік тут! *(Адчыняе дзверы пакоя, у якім Харкевіч. Той выходзіць.)*

Харкевіч. Аднак-жа доўга. Я ўжо і газеты чытаў... Што гэта вы, Дзям'ян Сымонавіч, спахмурнелі нешта?

Абабурка. Хадзі сюды, Харкевіч. *(Падводзіць яго да стала, вымае са стала паперу, якую прынёс Харкевіч, і запальвае яе.)* Бачыў? *(Расцёр нагою попел.)* Няма каму перадаць. Той высокі чалавек, што табе партызанскую грамату даў, арыштаваны. Ён наш быў. Гэта яму і ліст...

Харкевіч. Я гэта ведаю.

Абабурка. Што ты ведаеш?

Харкевіч. Які ён быў.

Абабурка *(са здзіўленнем)*. Іш ты! Чаму-ж ты не казаў?

Харкевіч. А навошта казаць...

Абабурка. Ну, гэта глупства... Слухай: цяпер жарты малыя. Выцягвай гасця свайго з ямы; хай ён нюхае, што хоча, і змываецца адгэтуль. Трэба, каб ніякіх не было хвастоў.

Харкевіч *(памаўчаў)*. Нельга... Як толькі ён з ямы вылезе, яго зловяць адразу.

Абабурка. Ну, дык і чорт яго бяры, калі зловяць у лесе. Не раз-жа лавілі?

Харкевіч. То была іншая справа. А гэта — інакшы чалавек. Я ў крыўду яго не папушчу.

Абабурка. Што ты гэта вярзеш?...

Харкевіч. Вы мяне паслухайце, Дзям'ян Сымонавіч. Я адразу пра гэта хацеў гаварыць: таго чалавека

вам грэба з хутара вывезці сюды, іначай яго ў яме знойдуць. Усё дагэтуль гладка было, а цяпер — недзе сарвалася. Усенка, начальнік заставы, амаль штодня да мяне на хутар прыязджае... Думаў я спачатку, што ён да мае дзеўкі падбіраецца, а як прыгледзеўся, то выходзіць, што ён да мяне падбіраецца... Бачыце, проста ў лоб ударыць яму няспрытна. Усё-такі, партызан я, чалавек вядомы. Ён яшчэ, відаць, і так, і гэтак думае. Пагранічнікі з калгаснікамі ўсе лясы і балоты рукамі перабралі... Яшчэ два дні, і ён якраз звядзе канцы і возьмецца за мяне. І адразу мы тут будзем. Голенькія... Трэба яго вывезці адтуль...

А б а б у р к а. Не хачу я нікога вывозіць на сваім хрыбце, хай самі поўзаюць! *(Абцірае лоб рукавом.)* Выпраўляй у лес, хай ідзе. Пройдзе — добра, пападзецца, — мне што да гэтага!

Х а р к е в і ч. Калі ён пападзецца, Дзям'ян Сымонавіч, я проста скажу: то і вам не на здароўе пойдзе.

А б а б у р к а. Ты што? Пагражаеш мне?

Х а р к е в і ч. Як хочаце, так і думайце.

А б а б у р к а. Хто ён табе? Сын? Брат?

Х а р к е в і ч. Гэта ўжо мне ведаць. Я пра вашыя справы не пытаюся... *(Пауза. Абабурка глядзіць з-пад ілба на Харкевіча. Той вытрымлівае погляд.)* Вы можаце прыехаць на машыне, так сабе, мімаходам, як раней заязджалі, прыцемкамі таго чалавека ў машыну ўкінуць і — чыста. Што вам! Едзе начальства па раёну, па справах сваіх. Хто на вас што падумае, хто зачэпіць? *(Пауза.)* А іначай — прапалі. Вось вы пра хвасты кажаце. А гэта-ж самы хвост і ёсць... І за яго якраз і бяруцца...

А б а б у р к а *(зноў абцірае твар)*. Чорт!.. Можа ты і праўду кажаш... Я падумаю...

Х а р к е в і ч. Тут доўга думаць не выпадае... Заўтра ехаць трэба, а то... *(робіць рэзкі жэст рукой)*.

А б а б у р к а *(прайшоўся па пакоі)*. Хм... Трэба, дык трэба... Але што-ж я з ім тут рабіць буду?

Х а р к е в і ч. Нічога... Хай перачакае дзе-небудзь, у зацішным месцы, пакуль уціхне...

А б а б у р к а. Якраз тут заўтра адзін чалавек прыязджае з Мінска, з нашых... Праехацца, нібы гэта раён паказаць... *(Ходзіць.)* Што-ж... Падумаем...

Харкевіч. Ну, думайце... Я тут яшчэ ў адно месца схаджу, а пасля зноў да вас забягуся. Трэба пра ўсё дагаварыцца.

Абабурка. Ідзі, ідзі...

Харкевіч. Праз гадзіны дзве, так... *(Ідзе да дзвярэй і сутыкаецца з Французевічам.)* Добры дзень... Выбачайце, таварыш Французевіч... *(Вышаў.)*

Французевіч *(замкнуў за Харкевічам дзверы. Абабурка стаіць ля стала. Французевіч моўчкі прайшоў па пакоі)*. Ну, што скажаш?..

Абабурка. Як другу табе скажу, Антон... Я хацеў-бы аднаго: зашыцца ў такую дзіру, каб ніхто і не ведаў, што ёсць на свеце Дзям'ян Абабурка. Дакапаюцца-ж!

Французевіч. Калі ў пару не схаваемся — дакапаюцца. *(Ходзіць па пакоі.)* Як у цябе з Дабрыніным? *(Абабурка махнуў рукой.)* Дрэнна! Я маю дакладныя звесткі: ён ведае, што ты быў у трацкісцкай групе ў дваццаць восьмым... І нешта пра краснянскія справы...

Абабурка. Хвасты... хвасты праклятыя... *(Хутка расшпільвае гімнасцёрку.)* Дай вады, Антошка...

Французевіч. Ну, ну... Абыйдзецца!.. *(Паглядзеў на Абабурку.)* Ты да гэтага не прывыкай. Не будзь бабай... Я ведаю! Цяпер возьмешся гарэлку піць! Глядзі ў мяне! *(Пауза.)* Трымайся, Дзям'ян!

Абабурка моўчкі падышоў да століка, узяў графін, п'е з горла.

Французевіч *(як-бы сам сабе, ходзячы па пакоі)*. Усё трэснула, усё паехала, зямля пад нагамі рушылася...

## II

У калгасе, на пляцоўцы перад клубам. Яшчэ недабудаваная брама. Яна аздабляецца прыгожым разбярскім арнаментам: снапы з калоссем накрыж, серп і молат, зоркі, народныя сялянскія ўзоры. Абшыўка адной калоны ўжо скончана. Усюды відаць адзнакі падрыхтоўкі да свята. Ганак клуба прыбраны ў гірлянды, частка іх, прызначаная для брамы, паразвешана на парканах. Раскіданы дошкі, стружкі і трэскі. Інструмант: абцугі, малаткі, два гэблі, долаты і інш. — акуратна пакладзены на адну з лавак, што стаялі тут раней, астатнія лаўкі знесены з пляцоўкі. У клубе чуваць галасы і прыглушаны спеў. Уваходзяць Ліда і Насця. Прынеслі гірлянду, развешваюць яе на паркане.

Ліда. Ты нешта сумная сёння, Насця. Што з табой?

Насця. Я, так... Дробязь.

Л і д а. З-за дробязі не варта сумаваць. Скажы, што здарылася?

Н а с ц я. Ды нічога не здарылася. *(Хоча ісці. Ліда стрымала яе.)*

Л і д а. Слухай. Гэта проста непрыгожа. Прыходзіць заплаканая, змарнелая і — нічога не здарылася! Дзе ты гэта скрытасці навучылася?

Н а с ц я. Ну, добра, скажу... З бацькам у нас нешта не зладзілася, вось і ўсё.

Л і д а. А што такое?

Н а с ц я. Ён нейкі незразумелы стаў. Глядзіць на мяне з-пад ілба, панура, гаворыць мала... Нібы я лішняя ў хаце, непатрэбная...

Л і д а. Табе гэта здаецца! Ён з самай вясны толькі і гаварыў пра тое, што ты прыедзеш, што ён вельмі па табе засумаваў. Кінь ты гэта, Насця! Дробязь!

Н а с ц я. Бачыш, Лідачка, ён у мяне адзін. Я ўсім сэрцам ірвалася да яго, мы ўпершыню разлучыліся на такі доўгі час. Прыехала — і аказваецца, ён зусім інакшы чалавек, зусім не той, да якога я прывыкла з дзяцінства. І мяне прыняў, як чужую, і я неяк не магу ўжо знайсці да яго ранейшай цеплыні. Дзіўна гэта... і цяжка...

Л і д а. Вось, убачыш — пройдзе! Проста, што-небудзь не сышлося ў вас з першай сустрэчы.

Уваходзіць М і р о н, нясе ахапку філёнак.

М і р о н. Ну, што вы тут шэпчаце, хітрыя вы лісічкі? Няйначай пра кавалераў пытанні вырашаеце?

Л і д а. Не, дзядуля Мірон! Насця наша нечага засумавала.

М і р о н *(паклаў ахапку на зямлю)*. Э, што ваш дзявочы сум! Сардэчка не так стукнула, хто-небудзь на яго быстрым вокам глянуў — вось і маркота ваша ўся. Вы на мяне паглядзіце: я колькі гадоў на катарзе ланцугі насіў *(паказвае на кісці рук)* блізка семдзесят год пражыў на свеце, успомніць пра ўсё — дык здавалася-б, сэрца не вытрымае!.. А я хаджу сабе вясёлы, і лёгка мне і добра. Не такое ў нас жыццё, каб сумаваць, галубкі вы мае... Да старых маладосць варочаецца!

Л і д а. Бачыш, Насця? А ты — кіснеш...

М і р о н *(разглядае дошчачкі)*. А ну, ідзіце, ідзіце сабе, не замінайце тут, маркотныя. Зараз Язэп прыдзе,

ён пры рабоце кампаніі не любіць. (*З'яўляецца Язэп з ахапкам дошчачак.*) Вось ён самы. Ён вам задасць!

Ліда. Ну, калі так, то пойдзем!

Мірон. Ідзіце, ідзіце... А ўвечары, як браму скончым, пра ўсё і пагаворым, хто пра што там зажурыўся!

Дзяўчаты пайшлі.

Язэп (*паклаў ахапку на зямлю*). Дык як будзе, Мірон Андрэевіч? Мне на памост лезці, ці гэта самае?..

Мірон. На памост. Будзеш прыбіваць дошчачкі, я іх па рысунку тут падбяру. (*Раскладае дошчачкі па зямлі ў такім парадку, каб атрымаўся патрэбны ўзор. Язэп узлез на памост. Мірон падаў яму дзве дошчачкі.*) Глядзі толькі, каб кожная акуратна ў закрой села.

Язэп. Ну, ну. (*Прыбівае.*)

Мірон. І не грукай так! Філёнку расшчэпіш!

Язэп. Ну, што ты скажаш?! Дык-жа расшчапіў!.. Проста пад руку.

Мірон. Пад руку... Адскочыла рэзьба?

Язэп (*аглядае сваю работу*). Рэзьба то не адскочыла... Але дошчачка, гэтае... расшчапілася...

Мірон. Пачакай, не руш! (*Лезе на памост.*) Пад руку... Безуважны ты чалавек, Язэп, вось што я табе скажу. (*Пауза. Мірон аглядае пашкоджанае.*) І добра, што не адскочыла. Дай малаток. (*Мірон асцярожна стукае.. Пасля аддае малаток.*) Памалу, не спяшайся... Да вечара два разы скончым. (*Злязае з памосту.*)

Язэп (*здаволены*). Ажно ў пот мяне ўдарыла. І што ты скажаш, Мірон Андрэевіч: хоць літоўскі вугол, хоць гладкі, альбо сточка, ці пярэруб — я гэта ўмомант. А як тонкая, анжынерная работа — няма ў мяне спрыту ніякага. Хай-бы ўжо Нічыпар прышоў.

Мірон. А дзе гэта ён?

Язэп. Гада таго ловіць. Раніцой нечы след аказаўся каля рэчкі на лугах. (*Вымае кісет.*) Нічыпар і некаторыя нашы камсамольцы вінтоўкі з заставы ўзялі, каб не з пустымі рукамі госця сустрэць. Што ты скажаш, Мірон Андрэевіч, якая бяда накасалася. Ну, скрозь зямлю праваліўся, усёроўна. Цяпер зноў-такі з жарабятамі... (*Падае кісет Мірону.*) Ай-я-яй! Дзіва, што я філёнку расшчапіў, калі нервы ў такім неспакоі. (*Паліць запалку, закурваюць.*) Што я думаю, Мірон Андрэевіч, іншым разам?

Мірон. Ну?

Я з э п. Няўжо гэта яны сілы нашай не разумеюць? Ім таварыш Сталін сказаў: вашай зямлі не хочам, сваёй вяршка не аддамо; і не лезьце лепей з лычам свінячым у наш совецкі агарод! Сказана гэта ім было? Сказана!.. Усёроўна паўзуць на жыватах. Ну, куды-ж ты проці ўсёй народнай сілы прэш, морда ты аблезлая! Перапаўзе, бадзяецца па лесе, пагранічнікам клопат, нам неспакой... Усёроўна-ж цябе, праклятага, зловяць! Ну, куды ты тут падзенешся? Значыць, у іх мазгі такія, што яны сілы нашай не могуць зразумець. І ад гэтага нам толькі лішні клопат. Дальбог, каб я на анжынерныя штукі быў майстар, я такую машыну зрабіў-бы: як толькі ён на наш бок пералез, хаця-б толькі галаву выткнуў — р-раз, галава прэч і трасца тваёй матары! Без клопату!

М і р о н (*усміхнуўся*). Гэта ты, брат, добра прыдумаў... Але ім і так будзе галава прэч, без тваёй машыны... Ну, што-ж... Рушым далей, памалу? (*Падае Язэпу дошчачку.*) Глядзі, толькі не зблытай! Па рысунку!

Я з э п. Ну, ну! (*Прыбівае.*) А то яшчэ ўсякія трацкісты, нацдэмы аказаліся... Правыя ды левыя... Чыталі ўчора мае хлопцы, я сядзеў, слухаў. Ну, нячыстая-ж сіла!.. Яны і паязды з рэек скідалі, і хлеб труцілі, і дзетак малых душылі... Як падумаеш — мароз па скуры ідзе. Паглядзіш навакол — жывуць людзі і добра, і весела, і ўсяго хапае... Усё на карысць чалавечую, на радасць. А ён туляецца недзе за вуглом, ён цябе зніштожыць хоча. Завошта-ж, сукін ты сын! Я таго трацкіста, чорта яму нанач, на свае вочы ніколі не бачыў, слова да яго не казаў, а ён мяне са свету звесці хоча. А? Што ён да мяне мае, паганец?

М і р о н (*падае дошчачку*). Ён тое да цябе мае, што воўк да авечкі.

Я з э п. І якія гэта могуць быць людзі, якое гэта можа быць сумленне!.. (*Бярэ дошчачку, прыстройваецца, прыбівае.*)

М і р о н. Хоча ён ад воўка сумлення... Ён-жа толькі жэрці прывык! Ты заробіш — ён адбярэ, ты здабудзеш — ён з'есць. Ён толькі ашукаць умее, абкрасці, забіць, адабраць... А нашы законы таго не дазваляюць... У нас на чужой працы ніхто не нажываецца!.. Дык куды-ж ім падацца з такімі талентамі? Вось і круцілі: і направа, і налева, і да немцаў, і да палякаў... Нічога! Цяпер за

іх добра ўзяліся. Адно слова: прышла воўчая пагібель! Доўга ехалі, але даехалі. Ну, бяры... (*Падае дошчачку.*)

Я з э п (*бярэ дошчачку*). Ён мяне польскаму пану ў няволю прадае. І называецца ён нацдэм... Іш ты, назва якая!.. Выпаўзень вужачы... Вашая мосць, сабачая косць! (*Грукае малатком.*) Гэта значыць, пан Шабінскі сюды прыехаў-бы? Ах вы, плюгаўцы вы! (*Моцна грукае. Паўза.*) Гатова...

М і р о н. Што, гатова? (*Язэп моўчкі падае зламаную дошчачку.*) От табе, маеш! (*Бярэ дошчачку.*) Ну, што ты гэта робіш, Язэп?

Я з э п. Рука ў мяне цяжкая, Мірон Андрэевіч... А тут у грудзях усё кіпіць, нервы ў неспакоі... Ах, ліха тваёй галаве! Залішне трапяткі я чалавек...

М і р о н. Што ты скажаш! От рэзнуў, дык рэзнуў... Адно шчасце, што ў майстэрні яшчэ такая засталася. Міхась запасную вытачыў. А то — на гадзіну работы. Больш я цябе на памост не пушчу, Язэп, як сабе хочаш! Пры рабоце маўчаць трэба...

Мірон пайшоў. Язэп сеў на памосце. Чуваць кашаль. Кульгаючы, з'яўляецца дзед А н і с і м.

А н і с і м. А, грэц вам на патыліцу! Якую штуку адгаблявалі! Ну, майстры!

Я з э п. А ты што гэта кульгаеш, Анісім?

А н і с і м. У рэчцы на корч нагу прасадзіў... Проста, можна сказаць, лытка адвальваецца... Курыць ёсць?

Я з э п. Ёсць!

А н і с і м. Што?

Я з э п. Ты аглух? Ёсць, кажу! (*Падае зверху кісет.*)

А н і с і м. Вады ў вушы забегла... (*Бярэ кісет, вымае з-за пазухі газету.*) От, брат Язэп, незадача.

Я з э п. Ну?

А н і с і м (*курыць*). У мяне цяпер такая лінія, каб добрай рыбы гасцям на стол даставіць. Вунь, калі ў «Чырвоным бары» свята было, Базыль іхні, які ўжо там рыбак, і той адменнай рыбы першага сорту здабыў. Дык што я, плоткі на стол насыплю, гаркушы гэтай? Мне-ж будзе сорам людзям у вочы глядзець! Я-ж першы рыбак на ўсю ваколіцу! Што, няпраўда можа?

Я з э п. Канешне, праўда...

А н і с і м (*падышоў да масткоў, азірнуўся, гаворыць ціхэй*). Толькі нікому не кажы. Акрамя ўсяго, сома хачу ўвабраць.

Язэп. Ну? А дзе ён?

Анісім. Ля лужка ў віры, пад абрывам. Шэсць пудоў, а можа і болей. (*Язэп свіснуў.*) Не бярэцца!

Язэп. На папяровага гусака браў?

Анісім. Не бярэ...

Язэп. А на баранняе лёгкае?

Анісім. Не бярэ...

Язэп. То паспрабуй на курыныя кішкі. Толькі не на ўсю курыцу, а чыста на кішкі...

Анісім. Усяк спрабаваў...

Язэп. А на смажаную жабу?

Анісім. І глянуць не хоча!

Язэп. Ды што-ж гэта за ліха такое?

Анісім. А я вось дазнаў, што за ліха. Гэта нашы дзеўкі ўсё нарабілі, настаўніца з лесніковай Насцяй... Я іх і шукаю, грэц ім на патыліцу! Тут іх не было?

Язэп. У яслях ярлянды плятуць. Наплялі гэтых ярляндаў, чатыры разы ўвесь калгас аперазаць можна — усё мала. Я тут адну штуковіну пры рабоце нагой крыху зачапіў — гвалту было... Дык што яны такое нарабілі?

Анісім. А два разы на дзень купаюцца ў віры, вось што нарабілі. Ды яшчэ не па-людску і купаюцца. Узлезе на самы абрыў і ляціць потырчам у ваду. Дык што ён, дурань, з-пад карча вылязаць?

Язэп. Ну, канешне, будзе сядзець! Растрывожаная рыбіна, яна не бярэ анічога!

Анісім (*кашляе, крычыць*). Яны мяне пад манастыр падводзяць, гэтыя дзеўкі! Паслязаўтра-ж свята! Дык дзе яны, у яслях, кажаш? Пайду!

Язэп. Пачакай, а што Ігнат твой піша?

Анісім. Ужо дагары нагамі лётае... Называецца мёртвая пятля!

Пракульгаў, кашляючы, праз пляцоўку.

У клубе пяе хор:

Не ў поле брыгады  
Едуць жыта жаць.  
То-ж к нам едуць госці,  
Званкамі звіняць.

Голас Данілы. Сцепаніда, цішэй! Ну? Ля-а-а-а! Пачынаем наступны.

Хор:

На стаелных конях
Ўз'ехалі на двор.
Аддаваў паклон ім
Жытні наш прастор.

Голас Данілы. Сцепаніда, ля-а-а-а-а-а!

Сцепаніда. Ля-а-а-а!

Голас Данілы. Упоперак музыкі. Ля-а-а-а, кажу табе!

Язэп (*сам сабе*). Бач ты, як муштруе. Ну, і Даніла! А слаўна пяюць! (*Слухае*).

Хор (*выразна чуваць голас Сцепаніды*):

Вітаем ад сэрца
Суседзей сваіх,
Шаноўных, пачэсных
Гасцей дарагіх.

Голас Данілы. Адставіць! Сцепаніда, хадзі сюды!

З клуба на ганак выходзяць Даніла і Сцепаніда. У руках Данілы камертон.

Сцепаніда. Ты толькі не крычы, Даніла, браток. А то я з тону збіваюся!

Даніла. Збіваюся! Даўней табе рэгент паказаў-бы, як гэта збівацца, капэлю блытаць! (*Стукнуў камертонам аб слуп ганку, паднёс да вуха Сцепаніды.*) Ну?

Сцепаніда. А-а-а-а!

Даніла. Чыстая басэтля, болей нічога!

З-за клуба выходзіць Мірон з дошчачкай. Спыніўся, слухае. Язэп смяецца, седзячы на памосце.

Сцепаніда (*узялася ў бокі*). Даніла! Не ўводзь мяне ў гнеў!

Даніла. Ну, ціха, ціха... Проста не ведаю, куды цябе ставіць: да басоў, ці да альтоў. Раз басам запяеш, раз альтам. (*Стукнуў камертон.*) Ну?

Сцепаніда. А-а-а...

Даніла. Цяпер нічога, можна жыць! А ты не гарачыся, калі спяваць вучышся... Пойдзем.

Пайшлі ў клуб.

Мірон. Што гэта яны? (*Ідзе да брамы.*)

Язэп. Чыстая камедыя... Гэта ён яе спяваць вучыць. А Спеніду спяваць навучыць — усёроўна, што мядзведзя на скрыпцы граць. Ужо дваццаць гадоў вучыць. Яна-ж

за яго і замуж таму пайшла, што ён добра на крыласе спяваў. А так-бы ён да яе і не даступіўся-б... Дзеўка была — першы сорт. Ступіць нагой — зямля ўгінаецца. Папраўдзе сказаць, Мірон Андрэевіч, я і сам змоладу меў да яе інтарэс, але Даніла-салавей падскочыў. Ну, і значыцца, мне вышла адстаўка... Вельмі-ж паважае музыку Сцепаніда. А так — жанчына сур'ёзная.

Мірон. Дык, можа, працаваць будзем? А ці гэта мы да вечара так сабе пагаворым? Злязай з памосту...

Язэп. Я тут застануся, Мірон Андрэевіч... Баюся па рысунку наблытаць...

Мірон (*падумаў*). Ну, добра. Але калі хоць слова скажаш — тады, брат, злязай!

Язэп. Тады злезу... Ну, ну! (*Бярэ дошчачку, прыбівае, Мірон падае другую. З'яўляюцца Нічыпар і Лук'ян. У Нічыпара вінтоўка.*)

Лук'ян (*ідучы*). А ў Гарэлым рове былі?

Нічыпар. Усюды былі... Нідзе нічога няма.

Лук'ян. Але-ж і браму адбудавалі! А што наверсе будзе, Мірон?

Мірон. Наверсе партрэт таварыша Сталіна, а над ім чырвоная зорка.

Лук'ян. Прыгожа! (*Яны з Нічыпарам селі на лаўку, дзе інструмант.*) Слаўна... Ну, Мірон! Прыехаў з раёна таварыш Дабрынін і за Вырвіча ўзяўся.

Мірон. А што ён з ім робіць?

Лук'ян. Расследаванне пра ячмень. Пабачыў-бы ты, як Сільвачка ў канцылярыі хвастом круціць!

Мірон. А чорт яго бяры...

Лук'ян. Ты скажы, як ён усіх аб'ехаў! Таварыш Абабурка — і той быў за яго заступіўся.

Мірон. Можа гэта дрэнна, можа добра, кажу, але як паглядзеў я на гэтага Абабурку, то ні ў чым ён за Сільвачку не лепшы.

Лук'ян. Ну, гэта лішняе, Мірон. Памыліўся чалавек, пасля сам прышоў, мяне за руку трос. З кім не бывае! Што ты! Партыйны пастаўлены чалавек...

Мірон. А чаму, ты думаеш, ён цябе за руку трос? Таму, што Дабрынін ва ўсім разабраўся, і яму ўжо не было куды ехаць. Вось Дабрынін, дык гэта відаць, што партыйны пастаўлены чалавек. Ён з табой гаворыць, і ў ягоных вачах душа чалавечая відна, шчырасць, ён цябе разумее, ты яго, і кожнае слова ягонае справядлівае.

Адно слова — комуніст! І Усенка наш такі. А гэты Абабурка — сапе, раве, кулакамі грукае... А, каб ты прапаў! За пяць гадоў першы раз яго ўбачыў і не рады быў...

Гаворачы, Мірон падбірае філёнкі, падае Язэпу. Той дбала працуе. Нічыпар моўчкі агладжвае ствол вінтоўкі.

Нічыпар. А я вось што думаю... Паслязаўтра свята, гасцей колькі прыедзе. Ну-ж, калі яны нам што-нібы падстрояць.

Мірон. Трэба пільнаваць!.. Я ўжо думаў пра гэта.

Лук'ян. А ў мяне так будзе: да стайні без майго пропуску ніхто і блізка не падыйдзе! Сцепаніда і тая ля сваёй курасадні пост ставіць.

Мірон. Так і трэба.

Хор у клубе:

Заходзьце ў хату,
Рады бачыць вас,
Не будзе вам сумна
У госцях у нас.

Голас Данілы. Добра. Паехалі далей!

Хор:

У новай святліцы
Будзем частаваць,
Пра нашае шчасце
Вам песні спяваць.

Нічыпар. Як хто, не ведаю, а я ўжо даўно такі неспакойны не быў. Проста з самай маладосці не прыпомню. Гэта якраз так выходзіць, як некалі з савой было. Прычапілася сава. Як толькі вечар — прыляціць на хлеў і скуголіць праз ноч. А каб ты здохла! Такое нуды наганяе, проста рады няма. Пайшоў я да Анісіма, пазычыў у яго стрэльбу і ўвечары сеў тую саву пільнаваць. Яна якраз і прыляцела, сава... як ударыў я па ёй, дык і сам не ўбачыў, дзе яна падзелася. Ажно гляджу — пыж ляжыць на страсе і тлее. А тут — сухата, вецер, перад жнівом гэта было. Я ўжо і не памятаю, як узляцеў на страху, той пыж у далонях расцёр. Ну, загасіў усё як след. Але пасля напаў непакой на мяне... Лягу спаць, і ўсё мне здаецца — недзе трашчыць, як-бы дымам пахне. Вось і цяпер так... Ні сну няма, ні спачынку. Усё думаю — ну, дзе ён мог падзецца, калі ў тыл не вышаў, і назад не прарваўся?

Я з э п (*стукаючы малатком*). Я адразу казаў, што калі ён з-пад Чаплішча бег, то...

М і р о н. Язэп! Забыўся?

Я з э п. Ну, ну. (*Прыбівае.*)

Чуваць дзявочы смех, кашаль Анісіма. Л і д а, Н а с ц я і дзяўчаты нясуць гірлянды і кветкі, складаюць іх на ганку клуба. Следам кульгае А н і с і м.

А н і с і м. Пачакайце! Грэц вам на патыліцу! (*Закашляўся.*) Пясочак, вадзіца чысценькая, цё-епленькая, самае, можна сказаць, дамскае месца... (*Прысядае, паказвае рукамі, нібы плёскае на сябе ваду*). Ах, прыемна! (*Раптам закашляўся. Дзяўчаты смяюцца.*)

Л і д а. А чым пад абрывам дрэнна, дзядуля Анісім?

А н і с і м. Дзікае месца! Там ключы на дне, з-пад кустоў. Я-ж пра ваша здароўе дбаю, а вы што думаеце!

Л і д а. Не, тут нешта ёсць! Вы нам праўду скажыце, чаму там нельга, а там можна?

А н і с і м. Глыбока! І ключы... Гэтае самае... халодныя... Мала што быць можа?

Л і д а. Нічога, мы выплывем! Пайшлі, дзяўчаты!

Дзяўчаты пабеглі, смеючыся.

А н і с і м. Пачакайце! Грэц вам на патыліцу! (*Закашляўся, пакульгаў следам.*)

Л у к ' я н. Дзівак гэты Анісім! Чаго ён за імі бегае?

Я з э п. Незадача ў яго, чалавеча, выходзіць з-за гэтых сарок! (*Мірон глянуў на яго.*) Ну, ну!

Уваходзяць У с е н к а і М і х а с ь. Аб нечым гутараць паціху. Падышоўшы, змоўклі.

У с е н к а. Добры дзень, таварышы! (*Вітаецца з Міронам і Лук'янам за руку. Язэпу кіўнуў галавой.*) З вамі, дзядзька Нічыпар, бачыліся... (*Дакрануўся да вінтоўкі.*) Вы з хлопцамі, дзядзька Нічыпар, можа падышлі-б калі-небудзь да нас на стрэльбішча? Патрэніравацца трэба.

Н і ч ы п а р. Ды яно-б не зашкодзіла. Хаця, каб толькі ён мне папаўся, я не прамазаў-бы! Усё-ж, як не кажы, усю германскую і ўсю нашу вайну (*агледзеў вінтоўку*) з гэткаю цацкаю гуляў. Нават нумар, той, старой, памятаю: восемнаццаць — дзевяцьсот восемнаццаць.

Л у к ' я н (*да Міхася*). А дзе таварыш Дабрынін?

М і х а с ь. Паехаў.

Л у к ' я н. Як паехаў? Ён-жа хацеў ферму паглядзець!

М і х а с ь. Увечары прыедзе зноў. Ён тут недалёка, у калгас паехаў.

Л у к ' я н. Ага! Ну, добра!

М і р о н. А што з Вырвічам вышла?

М і х а с ь. Пакуль што нічога. Так, толькі пазнаёміліся. (*Усміхнуўся.*)

У с е н к а. Арку адбудавалі слаўную... (*Прайшоў, аглядае.)* Гэта-ж містэцтво! Што далей, то большы клас Мірон Андрэевіч паказвае. Ну, дык як жывём? Як настрої?

Л у к ' ян. Жывем слаўна, сам бачыш. Але-ж трывожаць нас, вось бяда.

У с е н к а. А як-жа. На граніцы жывем... Гэта ўжо само за сябе гаворыць.

Я з э п. Я лепей злезу, Мірон Андрэевіч. (*Злязае з памоста, падыходзіць да Усенка.*) Слухай, браток ты мой дарагі, мы з табой даўнія прыяцелі... Скажы мне пашчырасці: зловяць гэтага гада ці не?

У с е н к а (*усміхнуўся*). А як вы думаеце, дзядзька Язэп? Калі мы не зможам затрымаць парушальніка дзяржаўнай граніцы, то якія мы пагранічнікі? Навошта мы тады тут? А?

Я з э п. Я табе пашчырасці скажу — работа з рук валіцца... Пра адно, другое падумаеш, і зноў на тое самае ўз'едзеш. Такая змяя недзе поўзае, а мы тут, склаўшы рукі, сядзімо!

У с е н к а. Ну, вось пра гэта і я прышоў пагаварыць. Скажыце мне, навошта нам гэтая нервовасць? Праўда, выпадак выключны, але што-ж з таго? Ці мала нечаканасцей можа быць? І ці такія могуць быць нечаканасці! Мы-ж не дачнікі тут, мы баявыя савецкія пагранічныя людзі. *(Пауза.)* Абсалютная спакойнасць, згуртаванасць, вялікая пільнасць! Працуйце, таварышы! Мы знойдзем спосаб абараніць вашу працу і ваш здабытак! *(Пауза.)* У чым-жа справа? У сваю сілу не верыце? Нашай зоркасці не давяраеце? Дзядзька Язэп! А ну, да работы! *(Падхапіў Язэпа пад руку, пасадзіў на памост, пляснуў далонню па плячы.)* Міхайла! А давай пройдзем з табой... Мірон Андрэевіч, я ўвечары яшчэ забягу, на арку гляну. Да пабачэння!

Усенка і Міхась пайшлі. Лук'ян і Нічыпар усміхаюцца, пазіраючы ўслед.

Я з э п. Ну, што ты скажаш? Які чалавек! Проста ў грудзях неяк пацяплела.

М і р о н. Адно слова — комуніст. Сапраўдны, значыцца, большэвік!

## АКТ ЧАЦВЕРТЫ

### I

У хаце Харкевіча. Тая-ж абстаноўка, толькі на вокнах фіранкі ўжо не з паперы, усё стала больш чыстым, утрымліваецца ў парадку. Вечар. Н а с ц я сядзіць за сталом, ля акна, чытае кнігу. Уваходзіць Х а р к е в і ч. Насця не ўзняла галавы.

Х а р к е в і ч. Што ты святла не паліш? *(Насця ўстала, запаліла лямпу, што вісіць над сталом, зноў села за кнігу. Харкевіч павесіў шапку на цвік, падышоў, пагля-дзеў на гадзіннік, скоса глянуў на Насцю, зноў пайшоў па хаце.)* Чаго ты гэта зажурылася? Можа пасля горада табе нудна тут? Пайшла-б у калгас, там дзяўчаты, хлопцы. Якраз сёння клуб прыбіраюць. Калі пойдзеш, то я праведу. А? *(Пауза.)* Ну, чыста ўся натура матчына: да яе гаворыш — маўчыць, як сцяна!

Н а с ц я *(закрыла кнігу)*. Я хацела-б з табой пагаварыць, тата. Але не ведаю... як пачаць. *(Памаўчала.)* Нешта ёсць такое... *(Насця падбірае словы.)* Ты інакшы стаў!

Х а р к е в і ч. Што-ж, дачушка! Ты маладая, а я састарэў, ты розуму набралася, а я, калі меў які, цяпер паманеньку раскідаю. Старасць... годы!

Н а с ц я. Не пра тое кажу, бацька. Не пра годы... Ёсць нешта другое... непрыемнае... Ты на сябе не падобны. *(Насця ўстала.)* Ведаеш, я табе скажу проста: ты на чырвонага партызана не падобны! Няўжо ты і раней быў такі, а я не заўважала?

Х а р к е в і ч *(злосна ўсміхнуўся)*. Такі і быў, а які-ж яшчэ! Дзякаваць богу, пяцьдзесят пяць гадкоў Харкевіч на свеце пражыў, перайначвацца не выпадае! А чым такім я на партызана не падобны? Медаль можа прычапіць які?

Н а с ц я. На душу медаль не прычэпіш, бацька!

Х а р к е в і ч. Ха! На душу... А большэвікі-ж у душу не вераць!..

Н а с ц я. Вось!.. Я — і большэвікі. Большэвікі тое ро-

бяць, большэвікі другое. Я — я, Харкевіч, гэта нешта інакшае. *(Пауза.)* Хто ты, бацька?

Харкевіч. А ты хто, поп? Што ты мяне спавядаеш? *(Пайшоў па хаце.)* Ганна, уся Ганна, чыста вар'яцкага роду! *(Павярнуўся.)* Ну, што ты хочаш ад мяне?

Насця. Ты як-бы ад людзей хаваешся, скажаш — дык так, што тры разы адно слова разумець можна, ходзіш, азіраешся, уначы праз вокны выглядаеш, як-бы пільнуеш каго. Ты рады, калі я з хаты іду, заўсёды стараешся мяне выправіць. Ты як-бы мяне баішся. Чаму гэта? *(Харкевіч заклаў рукі назад, панура глядзіць на Насцю.)* Ты не злуй, бацька. Ты скажы мне, можа я памыляюся, можа мне гэта здаецца? Ты скажы! Ты-ж бацька мне! *(Пауза. Харкевіч маўчыць, стаіць у той-жа позе.)* Што-ж мне рабіць? Што думаць?

Харкевіч *(павярнуўся, пайшоў)*. А, думай сабе што хочаш. Я дурням не ўказчык!

Насця *(пастаяла ў нерашучасці)*. Добра! *(Хутка вышла з хаты.)*

Харкевіч *(адзін)*. Гм! Няўжо што-небудзь такое... праскочыла... *Зрабіў некалькі крокаў да парога. Адчыняючы дзверы, уваходзіць Насця, адну руку хавае за спіной.)* Ну? Чаго ты лётаеш? Што гэта спакою ў хаце няма?

Насця. Бацька, скажы мне: з кім ты быў учора ўвечары ля балота? Хто гэта схаваўся за дрэва?

Харкевіч. Гэта як ты з калгаса ішла?.. Пастух каровы шукаў па лесе... Пяць кароў былі сышлі, сёння раніцой толькі аказаліся. А што?

Насця. Праўда?.. Пастух?.. А чаму ён уцёк?.. Забег за дрэва, а пасля неяк сеў ці лёг і знік, як пад зямлю праваліўся... Куды ён падзеўся?

Харкевіч. Сеў, лёг, пад зямлю праваліўся... Пастух Ніканор у мяне пра каровы пытаўся, а пасля пайшоў у лес. Зусім ужо ашалела?

Насця. Так! А гэта што? *(Паказвае нож, які дагэтуль хавала. Той самы нож, пра які гаварыў Шабінскі. Насця дапытліва глядзіць на Харкевіча.)*

Харкевіч. Вось ён дзе аказаўся! *(Узрадаваўся, засмяяўся.)* Насценька, дзе-ж ты яго знайшла? А я думаў — укралі! Дзе-ж ён быў?

Насця *(недаверліва)*. Дык гэта твой нож?

Харкевіч. Канешне, мой! Яшчэ з вайны застаўся. Кінжал аўстрыйскі.

Насця. З вайны? А чаму я ніколі яго не бачыла?

Харкевіч. Ну, дык слухай, дачка. Пакрыўдзіла ты мяне так, што сэрца крывёй абліваецца. Чаму ты мяне, бацьку свайго, дапытваеш?!. Але я табе на ўсё адкажу, бо інакшай, відаць, рады няма, іначай ліха ведае, што можа выйсці... Гэтым нажом я свіней калоў, ён заўсёды ў мяне ў хляве пад масткамі ляжаў, вось таму ты яго і не бачыла. А так, ён мне не патрэбны. Проста яго трэба будзе здаць на заставу, ды і ўсё. Бо ён лічыцца — халодная зброя. Дзе-ж гэта ён быў?

Насця *(ужо з меншым недавер'ем)*. На сцежцы, ля студні, у траве знайшла.

Харкевіч. Ну, то і чорт яго бяры! Давай сюды, гэтую дрэнь! *(Насця аддае Харкевічу нож.)* Куды яго? *(Агглядаецца.)* А, няхай тут паляжыць, каб не забыцца. *(Паклаў нож за веер, што над камодам. Відаць канец рукаяці)*. Ах, Насця, Насця!.. Ну, скажы, што ты падумала?

Насця *(узняла галаву. Іх погляды сустрэліся)*. Гэта — страшна, тата, што я падумала... Гэта проста страшна! Я змучылася... Учора той чалавек, што з табой гаварыў, неяк таемна прапаў, нож знайшла...

Харкевіч. Ах, Насця, Насця...

Насця. Бачыш, тата...

Харкевіч *(перабівае)*. Пачакай! Ты падумала, што я таго чалавека, які збег, хаваю?! Так? Сорам табе! Бацькаву сівую галаву ганьбіш! Узяць цябе за вушы і выкінуць вон, шчанё! З гэтых рук ты ўскормленая, пад гэтым дахам нарадзілася, якое маеш ты права быць тут, калі бацьку свайго так зневажаеш?! *(Пауза.)* Мала таго, што мяне ў адзіноце супроць старасці пакінула, па чужых кутах аціраешся?

Насця. Па якіх чужых кутах, бацька? Якія для мяне чужыя куты... У Маскве? У інстытуце?..

Харкевіч. Маўчы! Зноў не так сказаў?.. *(Пауза.)* Ты падумай толькі, як ты скрыўдзіла мяне, як зняважыла! Божа мой! *(Харкевіч сціснуў галаву далонямі, твар ягоны затросся, Харкевіч застагнаў, сеў на лаўку.)*

Насця. Тата! Што ты!.. *(Кінулася да яго, абняла, прытулілася.)* Гэта-ж няпраўда, сама я цяпер ведаю... Ах, якая я дурная! *(Харкевіч усхліпнуў.)* Ну, супакойся, су-

пакойся, мой родны... *(Пацалавала ў шчаку, гладзіць яго-ныя валасы. Харкевіч павольна адвёў яе рукі, выцер вочы рукавом, абапёрся на локці, глядзіць проста перад сабою.)* Тата! Я-ж так цябе люблю, ты-ж родны мой, адзін на свеце! Я ўсім пра цябе расказваю, я ганаруся табой, іншым разам сама сабе не веру: я — дачка партызана! Ты памятаеш, якое мы табе пісьмо прыслалі на Новы год? Ну, усміхніся-ж ты, кінем гэта... Было і прайшло... *(Абнімае Харкевіча.)*

Харкевіч. Іншым разам... бяжыш з абходу, снег па калена, брыдзеш, проста сілы няма, а сэрца як з грудзей не выскачыць: як там яна, сіраціна бедная, адна ў хаце, пад замком? Мала што?.. Агонь, віхор, ліхі чалавек... Ажно глядзіш — у ваконцы галоўка беленькая. Ах, дачка мая, Насценька! Пачаставала ты сёння мяне! *(Насця прыціскаецца да яго.)* Ты ў калысцы яшчэ была, а я пра жыццё тваё далейшае думаў. Я-ж табе пасаг быў сабраў, дочка, ніхто ва ўсёй ваколіцы таго не меў, што ты маеш!.. Э, што там! Паглядзі сама!.. *(Харкевіч устаў, хутка падышоў да ложка, выцягнуў з-пад яго нізкі, шырокі куфар.)* Хадзі сюды! *(Насця падышла зацікаўленая.)* Глянь!.. *(Харкевіч вымае пару бальных пальчатак, старую гаржэтку, некалькі старамодных сукенак, накідкі і іншыя рэчы, паказвае Насці.)*

Насця. О! Што гэта! Татачка ты мой, бедненькі! Ну куды-ж гэта мне? Родны ты мой! *(Усхваляваная смяецца, абнімае Харкевіча.)* Старэнькі ты мой!.. Якая я дурная... Як я цябе не разумела!.. *(Разглядае рэчы, якія вымае Харкевіч, смяецца, туліцца да Харкевіча.)*

Харкевіч *(вымае шырачэзную футравую ратонду)*. А во! Бачыла!

Насця. Ну, хіба-ж гэта я насіць буду? Адкуль гэта ў цябе?

Харкевіч *(беражліва кладзе ратонду на ложак)*. Гэта ўсё пані графіня Шабінская падаравалі.

Насця. Што?.. Графіня?.. *(Пауза.)* Падаравалі!..

Харкевіч. А, не чапляйся ты да слова кожнага... Не з якой ласкі падаравала, лётаў па лесе дзень пры начы... Ох, жыццё было, каб ім такое да смерці!

Насця *(спачатку гаворыць ціха)*. Графіня, падаравалі!.. Столькі год берагчы, хаваць! Бацька! Ты-ж сам сябе зневажаеш! Навошта гэтыя панскія абноскі табе! Дзе-ж твая гордасць? Як ты можаш казаць: графіня, па-

даравалі... Пані Шабінская?.. Якое халуйства! Сорам! Зараз-жа вон смуроднае атрэп'е! *(Схапіла ратонду, кінула на падлогу, штурхнула нагой.)*

Х а р к е в і ч *(крыкнуў)*. Падымі!

Н а с ц я. Вон гэтую дрэнь, кажу табе! Графіня! Падаравалі!..

Х а р к е в і ч *(зароў)*. Падымі! *(Сціснуў кулакі, зрабіў крок да Насці.)*

Н а с ц я *(выпрасталася, узняла галаву)*. Прэч! Ты што! *(Некалькі часу моўчкі стаяць, мераючыся поглядамі, пасля Насця павярнулася і вышла, грукнуўшы дзвярыма.)*

Х а р к е в і ч *(падышоў да акна)*. У калгас пабегла, да Лідкі. Гэта то і добра, што пабегла, зараз яны прыедуць. Але-ж усё добра ішло, чорт пацягнуў за язык пра паню сказаць. Хто-ж бы гэта думаў... *(Нахіліўся, складае ў куфар раскіданыя рэчы. Чуваць аўтамабільны гудок.)* Прыехалі. *(Папхнуў куфар пад ложак, аправіў коўдру, вышаў.)*

Чуваць голас Ababуркі за дзвярыма. Кашаль, чыёсьці мармытанне. Уваходзяць А б а б у р к а, Ф р а н т у з е в і ч, паэт А п а н а с Ш ы ш к а, следам за імі Х а р к е в і ч.

А б а б у р к а *(да Харкевіча)*. Вось табе — выдатная асоба — паэт, вершы піша... Бачыў такога, каторы вершы піша? Вось ён і ёсць самы: Апанас Шышка. Наш — да гроба!

Ш ы ш к а *(хістаецца, гаворыць гугнява)*. Будзем знаёмы... Шышка! То псеўдонім... А сапраўднае прозвішча — Барабаніч... Ік! Вось як... *(Падае руку.)*

Х а р к е в і ч *(бярэ яго за руку)*. Ну, дык прашу, заходзьце... Калі ласка. *(Глянуў на Абабурку.)* Не маглі вы як пацішэй прыехаць, Дзям'ян Сымонавіч... *(Вядзе Шышку да стала. Побач ідзе Абабурка, Французевіч застаўся стаяць ля парога. Ён цвярозы.)*

А б а б у р к а. А не хачу я ціха ездзіць! Дзям'ян Абабурка не прывык ціха ездзіць... Чаму на стале пуста? А? Ты не хочаш гасцей прыняць, Харкевіч? *(Садзіцца за стол, шапку кінуў некуды ў кут, пацягнуў Шышку за рукаў, той асунуўся на лаўку.)*

Ш ы ш к а *(дэкламуе)*:

Жабы — святыя песні пяюць, плача лясун над павешаным воўкам. Гэта з маёй паэмы «Крыжам паду ў балота»...

Ік! Гэта — крык маёй душы. Ік! У друк — не даю. Для сябе.

А б а б у р к а. Ты мне пра павешаных ваўкоў не чытай.. А ну, друг Харкевіч?!

Х а р к е в і ч *(які дагэтуль нерухома стаяў ля стала)*. Апамятайцеся, Дзям'ян Сымонавіч... Што гэта вы робіце?

Ф р а н т у з е в і ч. Харкевіч! Хадзіце сюды... *(Харкевіч хутка пайшоў да яго.)* Кіньце вы іх! Ён другі дзень без просыпу п'е... Нікуды не варты... *(Гаворыць ціхэй.)* Я сам вяду машыну, шофера няма. На мосце, праязджаючы міма калгаса, даў гудок, як угаварыліся...

Х а р к е в і ч. Ну, дзякаваць вам. А то прапалі-б мы тут, з п'янымі галовамі. *(Глянуў на Ababурку.)* Калі вы далі гудок, то Мікола ўжо каля ямы.

Ф р а н т у з е в і ч. Што рабіць далей?

Х а р к е в і ч. А як паедзеце, то тут яшчэ, на хутары, ціхенька дайце голас. Гудок, значыцца... Тады Мікола яго вам наперад на бальшак выведзе... Там такая разветлая яліна ля дарогі... Там і стрымайцеся. Толькі ліхтароў не паліце.

Ф р а н т у з е в і ч. Ну, гэта зразумела. Усё?

Х а р к е в і ч. Тут вам доўга быць не трэба... Мала што можа выйсці.

А б а б у р к а *(ад стала)*. Харкевіч! Што-ж ты гэта, друг?

Ф р а н т у з е в і ч. Дайце ім гарэлкі, не адчэпіцеся. Я ім доўга не дам рассядацца. Сволач! Запіў! *(Злосна глядзіць на Абабурку.)* Ну, ідзіце!

Харкевіч адкрыў шафу, выняў графін з настойкай, шклянкі, панёс да стала.

А б а б у р к а. Ого! Харкевіч даў іскру!

Ш ы ш к а *(дэкламуе)*. Месяц-вісельнік вокам крывавым на струхлелае поле глянуў... Ік!

А б а б у р к а. Ну, ты! Вісельнік! Досыць... Мы зараз ударым па басах! *(Налівае шклянкі.)* Рэж!

Ш ы ш к а. Вельмі проста. *(Выпіў шклянку, паставіў.)* Ік!

А б а б у р к а. А ўсё-ж — не датрываеш проці Абабуркі. Абабурку, друг, капаюць... Я цяпер — вядро магу...

Ф р а н т у з е в і ч. Дзям'ян! Памалу!

А б а б у р к а. Антошачка! Хадзі сюды! Прападаць, дык з музыкай.

Ф р а н т у з е в і ч *(моўчкі глянуў на хмурнага Харке-*

*віча, які носіць на стол ежу, падышоў да стала. Ва ўпор глядзіць на Абабурку).* Ну? Што далей? *(Паказаў вачыма на асавелага Шышку.)*

Абабурка. Нічога, нічога... Гэта — наш! Разумею, Антоша! Шышка! А ну, пра вісельніка як там?

Шышка. Ік!

Абабурка. Будзьце здаровы!

Шышка *(устаў з вялікім намаганнем. Падае Францу-зевічу руку).* Шышка! Паэт... сапраўднае прозвішча, ік!.. Барабаніч... Лірык!

Французевіч. Ідзіце к чорту! *(Шышка сеў.)*

Абабурка. Вершы піша... Чаму ты па-нашаму не напішаш? А?

Шышка. А ты мае вершы па адной літары пачытай... Ік! Зверху ўніз...

Французевіч. Вось што, досыць! *(Паказаў вачыма на Шышку.)* Прапаную спыніць. Зараз-жа!

Абабурка. А мы яшчэ па адной ударым. Трымайся, Шышка-вісельнік!

Французевіч *(выхапіў шклянку ў Абабуркі).* Досыць, кажу табе! Істэрычная баба! Ты ашалеў!

Абабурка. Аддай! І ты пад мяне капаеш? *(Францу-зевіч не аддаў шклянкі.)* Антоша! *(Шышка выпіў сваю шклянку і адразу лёг на лаўку.)* А, во! З пня далоў!

Французевіч. Вылязай з-за стала, жывёліна! Свіння! Вар'ят! Ты разумееш, што робіш? *(Узяў яго за грудкі.)* Я табе пушчу кулю ў лоб! Ідыёт! Ты разумееш, якая гэта работа, ці ўжо зусім са страху здурнеў? Марш! Харкевіч! Шапку яму!

Харкевіч замітусіўся, знайшоў шапку. Французевіч уздзеў яе на Абабурку.

Харкевіч. А з гэтым як? *(Паказвае на Шышку, які нерухома ляжыць на лаўцы.)*

Французевіч. Ён павінен застацца тут. Пасля адвязеш. Паехалі. А заўтра як, Харкевіч? *(Падышоў да яго.)*

Харкевіч. Так, як угаварыліся. На свята прыпазніцеся, калі добра сцямнее, памаленьку пад'язджайце, у у першым лесе ля азёрка пачакайце, пакуль гэтае не пачнецца... Ну, самі разумееце...

Французевіч. Разумею.

Харкевіч. А як гэтае будзе, яго высаджвайце, а самі, сваім парадкам... Да яго чалавек прыдзе.

Пакуль Харкевіч з Французевічам гавораць, Абабурка, які крыху працверазеў, стаіць ціха.

Ф р а н т у з е в і ч. Пайшлі, Дзям'ян!

Х а р к е в і ч. Дай божа... Дзякаваць вам, Французевіч.

Ф р а н т у з е в і ч *(выходзячы)*. Работа сур'ёзная.

Вышлі, Харкевіч за імі. Праз нейкі час Харкевіч уваходзіць. Чуваць аўтамабільны гудок.

Х а р к е в і ч. Ну, дай-жа божа шчасліва, матка боска! *(Знімае шапку, перахрысціўся.)* Ангелы божыя, святыя абаронцы! *(Зноў перахрысціўся, пастаяў моўчкі.)* А дзе-ж гэтая зараза падзелася? Ну-ж, сволач дзеўка! *(Падышоў да акна, адкрыў яго, слухае. Трывожная цішыня. Харкевіч усхваляваны, цяжка дыхае.)* Памажы, божа, нам... не дапусці!.. *(Зноў слухае.)* Ні то машына шуміць, ні то гэта вецер... Яны ўжо на бальшаку цяпер... Каб толькі добра пільнаваўся Французевіч, каб не наскочыў... Што гэта! *(Насцярожана слухае.)* Ні то крыкнуў нехта... Божа мой, божа! *(Слухае некаторы час моўчкі.)* Не... мусіць, здалося... *(Зноў насцеражыўся.)* Нехта ідзе, ці што? *(Прыслухаўся.)* Ідзе! *(Хутка зачыніў акно, падышоў да стала, сам не ведаючы навошта, узяў талерку, патрымаў, зноў паставіў. У яго дрыжаць рукі. Чуваць крокі, нехта бразнуў клямкай, дзверы павольна адчыняюцца. Уваходзіць Мікола. Усміхаецца. У Міколы на рамяні цераз плячо гармонік.)*

Х а р к е в і ч. Мікола, браток! Ну, што?

М і к о л а. Чыста! Паехалі!..

Х а р к е в і ч. Чыста? *(Падбег да Міколы, абняў)*. Ну, Мікола! Вылезлі!.. Чыста! Дзякаваць табе, божа! Ах, Мікола, цаны табе няма! І з гармонікам... Малайчына!..

М і к о л а. На ўсякі выпадак, гармонік. Калі што якое — на гулянку іду! *(Знімае гармонік, ставіць на лаўку.)* Ах гэта хто?

Х а р к е в і ч. З імі прыехаў. Выпіў лішняе... Ну, што-ж, Мікола? Бачыш, якія са мной людзі? *(Мікола з павагай пакруціў галавой.)* А ты яшчэ ўпіраўся, не слухаў, пасварыліся мы з табой... *(Глянуў на стол.)* Частаваць вельмі не буду, доўга табе нельга тут... Ну? Мімаходам! *(Наліў Міколу шклянку і сабе.)* Будзем здаровы, Мікола! Аб'ехалі мы іх акуратна! Хэ-э! *(Выпілі.)* На машыну якраз паспелі? Ціха было?

М і к о л а. Якраз... Як толькі ён загудзеў, я таго з ямы і на бальшак. Ссядзеўся ён, што гуска ў кошыку. Бяжыць, нсгі заплятаюцца... Аднак-жа, якраз паспелі. Машына стала, ён — туды і паехалі.

Х а р к е в і ч. Дзякаваць богу... (*Налівае. П'юць. Пауза.*) Ну, а пра тое, што я табе ўчора казаў, думаў?

М і к о л а. Думаў... Боязна...

Х а р к е в і ч. Што там боязна! Гэта-ж простая справа: сярнічку ўткнуў — і гатова!

М і к о л а. Яно то проста, але страшна... Будынкаў столькі... Баюся я... Агню вялікага не люблю... Страшна гэта...

Х а р к е в і ч. А, што там баяцца! Можа шкадуеш? (*Пауза.*) Чаго табе шкадаваць? Гаспадаркі ў цябе амаль што няма, радні — няма. Была матка і памёрла... Што табе! За тое-ж з усімі разбярэшся і Міхалку так солі падсыпеш...

М і к о л а. Гэтаму то я падсыпаў-бы...

Х а р к е в і ч. Ну, бачыш-жа? А там і ўсе цябе так любяць, што ай-я-яй! Чаго табе шкадаваць?

М і к о л а. Яно то, канешне...

Х а р к е в і ч. А пасля паедзеш у горад. Грошай дам — колькі панясеш! Я табе скажу, Мікола, усё папраўдзе. (*Харкевіч гаворыць ціішэй.*) Раней не казаў, што для чаго робіцца, а цяпер скажу. Слухай: калі мы аганьку не дамо, то таго чалавека назад не перакінем. А як будзе пажар, то ім не да таго стане, каб граніцу пільнаваць, яны амаль што ўсе ў калгас збягуцца. А яго загадзя павязуць да азёрка, ты яго адтуль на Белы роў і направіш. Бачыш ты, што без гэтага не абыйдзешся? Ну, Мікола!

М і к о л а. Ды яно, канешне... Работа, сказаць, простая...

Х а р к е в і ч. А ўжо заплочана будзе — сам здзівішся. І гэтыя людзі, што паехалі, на цябе не забудуцца... (*Налівае.*) А ну, Мікола! На добрае здароўе...

М і к о л а. Што-ж... (*П'е.*)

Х а р к е в і ч. Згаварыліся?

М і к о л а. Ды што-ж... Але як гэтага, каб спрытней...

Х а р к е в і ч. Пра гэта я да заўтрага падумаю. Ты пра гэта не клапаціся. А цяпер — слухай... (*Устаў, выняў нож з-за веера.*) Гэтую штучку ты заўтра таму чалавеку аддасі. Гэта ягоная.

Мікола. Ах, добры ножык! *(Хоча ўзяць, Харкевіч адвёў яго ную руку.)*

Харкевіч. Пачакай. Пры сабе яго не трымай. Схавай дзе-небудзь у добрым месцы і каб па дарозе да азёрка было. А як да яго пабяжыш, тады возьмеш і аддасі. Глядзі, так рабі, як я кажу!

Мікола. Ну, добра!.. А як-жа!

Харкевіч. Глядзі! *(Аддае нож.)*

Мікола. Хвацкае ўручышча! *(Спрабуе, ці востра.)* Загранічная, мусіць, работа. *(Хавае нож за пазуху, пад пінжак.)*

Харкевіч. А цяпер — ідзі!

Мікола. Іду. *(Узяў гармонік.)*

Харкевіч. На бальшак не ідзі... Сцежкай каля рэчкі.

Мікола. Добра! Дык я заўтра апоўдні прыду. Дабранач!

Харкевіч. Дабранач! *(Мікола вышаў. Харкевіч пастаяў, потым узяў з ложка падушку, падклаў пад галаву Шышку. Пастаяў моўчкі.)* А гэта што? Нехта конны прыехаў. А, вось табе маеш! *(У сенях чуваць праз нейкі час крокі. Бразнула клямка. Уваходзіць Усенка. У шынелі, узброены.)*

Усенка. Добры вечар!

Харкевіч *(кланяючыся)*. А-а-а... Просім вашай міласці! Спазніліся, спазніліся... А тут якраз таварыш Абабурка быў. Заехаў праведаць, ды нядоўга быў. Службовыя справы, часу няма, нічога не зробіш!

Усенка *(ідзе да стала ўсміхаючыся)*. Вось вы, Харкевіч, усё крыўдзіліся, што я забываюся на вас!

Харкевіч. Калі ласка, калі ласка... *(Падсоўвае крэсла.)* Сядайце!

Усенка *(сеў)*. Дзякаваць. Дык паехаў таварыш Абабурка? Шкада, якраз я хацеў з ім пагаварыць, спяшаўся, думаў, заспею. Быў у калгасе — кажуць, да вас паехала начальства... А гэта хто? *(Паказвае на п'янага.)*

Харкевіч. Гэта з імі таварыш прыехаў, з горада. Ён у газеты піша, і кнігі піша. Папраўдзе сказаць, яны падпілі недзе, ды тут яшчэ ўзялі памаленьку. Вось таварыш і занядужаў, відаць, з непрывычкі.

Усенка. Так, та-к...

Харкевіч. Можа чым-небудзь падмацаваліся-б? Вось вянглінка, кілбаска нядрэнная. Сваёй работы. Сам

майстар... Х-хэ... (*Ставіць талеркі бліжэй да Усенка.*) Сам і за гаспадыню...

Усенка. А дзе-ж Насця?

Харкевіч. Пайшла, мусіць, у калгас. Пасварыліся мы з ёй, сказаць папраўдзе.

Усенка. Што-ж вы гэта сварыцеся?

Харкевіч. Ды так іншым разам, што-небудзь перабяжыць! (*Пасоўвае талерку.*) Скаштуйце...

Усенка. Не, дзякаваць! (*Вымае папяросы, частуе Харкевіча.*)

Харкевіч (*прыкурыў*). А сварымся мы з ёй вось чаму. Да слова чапляецца: не так сказаў, не так ступіў... Ну, падумайце самі, дзе мне з ёй, вучонай, патрапіць! Зноў-жа, і я да яе крыўду маю. Хацелася-б і Харкевічу ўнукаў паняньчыць ва ўласнай хаце, старасць сваю сагрэць... Дык бачыце, не вышла гэтага.

Усенка. Ну, з унукамі, Харкевіч, можна яшчэ і пачакаць...

Уваходзіць чырвонаармеец-пагранічнік.

Пагранічнік. Дазвольце, таварыш лейтэнант!

Усенка (*устаў, зрабіў рукой папярэджваючы жэст*). Хадзеце сюды... (*Адводзіць чырвонаармейца ўбок. Харкевіч, стоячы ля стала, насцеражыўся ўвесь, але не змяніў позы, не павярнуў галавы.*) Слухаю... (*Усенка гаворыць вельмі ціха.*)

Пагранічнік (*у тым-жа тоне*). Таварыш лейтэнант... Машына прайшла па шасе на ўсход. Тры пасажыры.

Усенка. А прыехалі?..

Пагранічнік. Таксама тры.

Усенка (*павольна павярнуў галаву, глянуў на спячага*). Та-ак. (*Пауза.*) Ну, што-ж... Можам ехаць. Бывайце здаровы, Харкевіч. (*Казырнуў, ідучы да парога.*)

Харкевіч. Ах-ах, шкада! А мы толькі гэта разгаварыліся... (*Ідзе следам.*) Ну, што-ж рабіць, служба ваша неспакойная такая. Бывайце-ж здаровенькія! (*Вышаў разам з пагранічнікамі, пачакаўшы, зноў уваходзіць у хату. Стаў пры парозе. Слухае.*) Паехалі... Гэта яны недзе тут поблізу былі. Бачыш ты, пільнуе: як хто сюды, і ён тут. Цяпер ужо не ўпільнуеш... (*Падышоў да стала, глянуў на спячага.*) Спіць... і мне спаць трэба. Адтанцавалі... Мусіць, у Лідкі заначуе гая... А, глядзі!.. Спачатку нічога,

а цяпер зашумела ў галаве... Кроў рушылася. Выпіць хіба яшчэ? *(Налівае.)* Ну, дык заўтра за ўсё разбярэмся... За дабрачынцаў маіх, за дабрадзеяў высокародных, заўтра я вам адплачу! Будзеце вы памятаць Харкевіча! Дзесяць год будавалі, за адну ноч прагулялі... Вось як... А сам... А сам я, калі што якое, знайду сабе месца... Харкевіч і на гэтым і на тым баку сцежкі ведае. Харкевіча ў лесе вам не ўзяць! Ну, Багдан! *(Выпіў.)*

## II

Свята ў калгасе «Чырвоная Ніва». Прыгожая брама, абвітая гірляндамі, над ёй партрэт І. В. Сталіна, над ім гарыць чырвоная зорка. Упрыгожаны будынак клуба, на дрэвах у садзе паразвешаны каляровыя ліхтарыкі, пастаўлены накрытыя абрусамі падрыхтаваныя столікі і сталы. Парканы зняты. Па дарожках сада і цераз пляцоўку міма сталоў ходзяць госці, групамі і парамі: калгаснікі, пагранічнікі, рабочыя МТС. Каля клуба сабраўся калгасны харавы гурток. Даніла аддае распараджэнні, расстаўляе сваіх спевакоў. На першым плане — Сцепаніда, у яе ўрачысты і суровы выгляд. Ідзе група гасцей.

Адзін з гасцей. Што і казаць, гаспадарка... Нездарма — першы калгас на ўвесь раён.

— На раён! Ён на ўсю вобласць першы. Работнікі, дружная сям'я.

— Ёсць тут на што паглядзець. Стаіць бугай. Гара! Страх проста!

— Вунь той, што хорам кіруе, бачыш? Вунь, такі прынізісты чалавек... *(Паказвае на Данілу.)* Ён жывёлавод...

— От, табе і прынізісты... Ён то прынізісты, а кароўнікі ў яго...

*(Госці прайшлі.)*

Хор:

Не ў полі брыгады
Едуць жыта жаць,
То-ж к нам едуць госці,
Званкамі звіняць.

На стаенных конях
Уз'ехалі на двор.
Аддаваў паклон ім
Жытні наш прастор.

Вітаем ад сэрца суседзей сваіх,
Шаноўных, пачэсных,
Гасцей дарагіх.

Заходзьце-ж у хату,
Рады бачыць вас.
Не будзе вам сумна
У госцях у нас.

У новай святліцы
Будзем частаваць,
Пра нашае шчасце
Вам песні спяваць.

Пакуль хор пяе песню, уваходзяць новыя групы гасцей. Лук'ян, Нічыпар, Язэп вядуць іх, вітаюцца з некаторымі тут прысутнымі ўжо. Баец-пагранічнік, стоячы ля дрэва, спрабуе свой гармонік. Ля пагранічніка збіраюцца дзяўчаты. Уваходзяць яшчэ два пагранічнікі. У аднаго гітара, у другога балалайка. Дружна заігралі вясёлую песню. Зноў прыходзяць госці.

Язэп. Нічыпар дзе? (*Бяжыць, разглядаецца.*) Дзе Нічыпар, браткі вы мае!

Калгаснік. А вунь Нічыпар... (*Паказвае на Нічыпара, які гутарыць з гасцямі.*)

Язэп. Нічыпар? (*Падумаў.*) То-ж гэта не яго шукаю, а Міхася шукаю... Ну, чыста збіўся, што ты скажаш? (*Павярнуўся, каб ісці, убачыў Міхася.*) Міхась, браток! З «Чырвонага бору» прыехалі!..

Міхась. А дзе яны?

Язэп. Зараз сюды прыдуць. Ідзі, сустракай...

Міхась (*ідзе з Язэпам*). А таварыш Дабрынін дзе?

Язэп. Там, у садзе. (*Пайшлі.*).

Уваходзяць Харкевіч з Насцяй. Харкевіч добра апрануты Насця таксама.

Харкевіч (*адводзячы Насцю ўбок*). Ну, што ты гэта робіш, Насця. Хай сабе мы з табой пасварыліся, можа не тое слова сказаў, а яна дахаты не ідзе, па людзях начуе. Ну, ты падумай. Ці-ж гэта ў сям'і так жыць трэба?

Насця. Не ведаю я, не ведаю... Мне на душы цяжка!

Харкевіч. Э, глупства! Калі ўсякую драбязу да сэрца браць...

З'яўляецца Ліда.

Ліда. Насценька! Хадзі сюды на хвіліну...

Насця. Я пайду, тата...

Харкевіч (*лагодна ўсміхаючыся*). Ну, ідзі, ідзі... Усё добра, усё, весела, як належыць. Вось, мы з табой

польку пасля грукнем! (*Насця праз сілу ўсміхнулася, пайшла з Лідай. Харкевіч насцярожана праводзіў іх поглядам, адышоў убок, пастаяў крыху. Пагранічнікі граюць, дзяўчаты пяюць. Харкевіч падышоў да бліжэйшай групы гасцей, прывітаўся з імі.*)

З'яўляецца Усенка. Ён заклапочаны. У тую-ж хвіліну з другой паловы саду выходзіць на пляцоўку ўзброены пагранічнік. Усенка пайшоў яму насустрач, яны адышлі ўбок, баец коратка пра нешта далажыў начальніку заставы. Усенка пра нешта спытаў. Баец адказаў. Усенка ўсміхнуўся, моцна паціснуў руку байцу. Баец вышаў. Усенка павярнуўся да гасцей. Твар ягоны прасвятлеў. Харкевіч непрыкметна сочыць за ім. Да Усенкі падыходзіць Міхась.

Міхась. Проста не ведаю, што рабіць. Ужо час пачынаць і не едуць. Дабрынін ужо даўно тут.

Усенка. А ты гэта пра каго?

Міхась. Ну, прыедуць-жа: Абабурка, Французевіч... Распачаць без іх — тады-ж Абабурка на дыбы ўзнімецца! Ды, папраўдзе сказаць, і няёмка!.. А час ужо...

Усенка. А я табе якраз хацеў пра гэта і сказаць. Пачнем без іх. Яны не прыедуць.

Міхась. Чаму?

Усенка. Так... Яны занятыя...

Міхась. Ты гэта добра ведаеш?

Усенка. Ведаю. Толькі што мне паведамілі.

Міхась. Ну, калі так, то пойдзем.

Яны пайшлі. Насустрач Міхасю з усіх бакоў з'явіліся: Язэп, Нічыпар, Лук'ян, Сцепаніда, астатнія калгаснікі. Міхась ім нешта сказаў, і яны зараз-жа разышліся між гасцей, запрашаючы іх за стол. Увахсдзяць Мірон і Дабрынін. Спыніліся. Да іх падыходзіць Міхась. Госці садзяцца за сталы.

Міхась. Ну, Мірон Андрэевіч, вы з таварышам Дабрыніным побач. (*Паказвае на стол у цэнтры пляцоўкі.*) Калі ласка! Таварыш Усенка! Вы з імі... (*Азірнуўся, убачыў Харкевіча.*) Харкевіч, сюды, калі ласка.

Мірон, Дабрынін, Міхась, Усенка, Харкевіч, госці якіх падводзіць Лук'ян з Нічыпарам, ідуць за стол. Вясёлы Язэп вядзе пад руку Ліду і Насцю: «Зарэжа мяне старая!» — кажа ён. Цяпер усе сталы занятыя. Скрозь па садзе за сталамі, пад каляровымі ліхтарыкамі, поўна людзей. Шматгалосы гоман. Трое пагранічнікаў і моладзь — калгасныя дзяўчаты і хлопцы, прыстроіліся за круглым столікам пад яблыняй. Праз адкрытыя вокны клуба відаць музыкантаў, іх бліскучыя трубы. Даніла зноў збірае сваіх спевакоў. З'яўляецца Мікола. Ён ідзе праз пляцоўку, пакручваючы ў руцэ канцы пышнага пояса. Прышоў і сеў за адзін з суседніх сталоў. Стала цішэй.

Міхась (*устаў*). Таварышы! Ад імя калгаснікаў «Чырвонай Нівы» прывітальнае слова скажа старэйшы наш калгаснік, паважаны ўсімі намі Мірон Андрэевіч Бокуць!

Дружныя апладысменты. Музыка грае туш.

Мірон (*устаў*). Дарагія таварышы, пачэсныя госці нашы! Ад усяго сэрца вітаю вас у гэты радасны дзень. (*Апладысменты.*) Хацелася-б мне прыпомніць вам сёння старое, перажытае, бо калі старое ўспомніш, лепей новае разумееш; пасля цёмнай начы сонца яснейшым бывае. Дык вось, як мінулае мне ўспамінаецца... (*Пауза.*) Кожны ў душы ваўка насіў, кожнаму смага нажывы сэрца смактала, бо не нажыцца — значыла загінуць. А нажыцца — ад слабейшага адабраць. І толькі той не ваяваў, хто за ўсіх слабейшы быў, і той прападаў. І такіх было — многія тысячы. Са страхам глядзеў я на свет страшны, і дапамагчы ні ў чым і нікому не мог... І вось у тую нешчаслівую пару давялося мне чуць прарочыя словы. Паміраў у нашым цэнтрале чалавек адзін з рабочых. Катарга яму была без тэрміну, бо ён быў бальшэвік. А сказаў ён мне словы такія: «Ты малады, Мірон... Ты дажывеш можа да тых часоў, калі надыйдзе пагібель воўка і зломяць дашчэнту рабочыя рукі сілу багацця». Так ён сказаў мне... А на світанні закапалі яго турэмныя салдаты ў астрожным рове. (*Пауза.*) Ну... Тое, што ён казаў мне тады, я не зразумеў. Але словы ягоныя запомніў, яны да спадобы мне прышліся: пагібель воўка! — добрыя словы! (*Пауза.*) Многа ад той пары мінула гадоў. І прышла-ж пагібель воўка! (*Апладысменты.*) Вось, мы тут дружнай сям'ёй... Нам няма з-за чаго сварыцца, нам няма з-за чаго аднаму на другога нападаць, мы вольныя савецкія земляробы, багатыя ад працы сваёй, шчаслівыя людзі, мы зямлю сваю вольную, радзіму любім, смагі-нажывы мы не ведаем, багаццю прыяцеляў сваіх не зайздросцім, а радуемся, ворагаў народа працоўнага не баімося, а яны баяцца нас! (*Апладысменты.*) Дык слава-ж ім, вялікім сынам партыі бальшэвіцкай, якія ішлі на пакуты і смерць прынялі за нас яшчэ тады, калі мы, цёмныя, па гразі поўзалі, брат брату за горла ўчапіўшыся! Слава Сталіну, правадыру магутнай і markдзейнай сілы нашай, герою і першаму чалавеку ў нашым народзе і ва ўсім свеце, як вялікі ён і шырокі!.. (*Апладысменты. Усе ўсталі.*) За тое за ўсё,

што ў шчасці жыве, што магутным расце і здаровым, за тое, што ніколі народ наш працоўны прыгнёту і няволі не зазнае, за тое, што радзіма наша на дзіва ўсяму свету квітнее, прыміце нізкі наш паклон, слаўныя бальшэвікі! *(Мірон пакланіўся. Авацыя. Крыкі «ура». Зайграла музыка. Дабрынін і Усенка паціскаюць руку Мірону. Рух і гоман.)*

Міхась. Таварышу Сталіну — ура!

Усе. Ура-а!

Авацыя прадаўжаецца, пасля госці займаюць свае месцы, грае музыка. Ажыўлены гоман. Язэп ходзіць навокал стала, дапамагае гаспадыням частаваць гасцей. У час авацыі праз пляцоўку прайшоў скромненькі Вырвіч і, папраўляючы пінжак, азіраючыся, прыстроіўся да аднаго з сталоў. Насця і Ліда прывялі піянераў у гальштуках, з музычнымі інструментамі. Дзеці чакаюць свае чаргі, стаяць збоку. Раптам з-за сцяны высоўваецца галава дзеда Анісіма.

Анісім. Грыша! Грыша! Хадзі сюды, падшывалец! *(Піонер са скрыпкай нехаця падыходзіць.)* Сходзі, чуеш, пакліч мне Міхася! *(Кашляе.)*

Грыша. А навошта?

Анісім. Сходзі, скажы — сома ўвабраў Анісім, грэц яму на патыліцу! Пяць пудоў! На кухню не бяруць! Бабы кажуць, што позна. А? Такога сома ва ўсёй ваколіцы яшчэ не было, а яны — позна! А? Што такое!..

Грыша. Выступаць мне трэба...

Анісім. Не чую... Вады ў вушы забегла... Ідзі, ідзі!.. *(Папіхае хлопца ў плечы.)*

Язэп заўважыў Анісіма. Падыходзіць.

Язэп. Ну, як?

Анісім. Увабраў! Пяць пудоў! Вусач!

Язэп. На што ўзяў?

Анісім. На курыныя кішкі... Курыцу цішком ад бабы зарэзаў, грэц ёй на патыліцу!

Язэп. А я што казаў?

Анісім. Далажы Міхасю: бабы на кухню не бяруць, кажуць, позна. Дурныя! Сому ніколі не позна... Захоча возьме, не захоча — не! Я сам пайшоў-бы, але проці людзей няёмка, порткі мокрыя... Я толькі з рэчкі.

Язэп. Ну, а я гэтую бяду рукамі развяду! Я за сталом галоўны распарадчык. Бабам зараз скамандаваю — умомант! Адна нага тут, а другая — гэтае самае... Дзе сом?

Анісім. На кухні! Ледзьве прыпёр, цяжкаваты... Зважылі — роўна пяць пудоў і два кілаграмы.

Язэп. Ідзі на кухню. І маім словам скажы.

Анісім. Не, ты ўжо лепей сам... Бабы гэтыя, грэц ім на патыліцу...

Язэп. Ну, то бяжы, я зараз...

Анісім. От, дзякаваць! Удружыў! А то-ж мне сорам... Першы рыбак на ўсю ваколіцу... (*Знік.*)

Язэп, ідучы да стала, сустрэў Мірона.

Язэп. А ты куды, Мірон Андрэевіч?

Мірон. На дзяжурства. Мая-ж работа толькі і пачынаецца. Сюды ў клуб і стрэльбу сваю прынёс, каб далёка не хадзіць! Самая адказная сёння варта.

Язэп. Ах, сказаў-жа ты, Мірон Андрэевіч, слова сваё! Я ад шчырага сэрца заплакаў, ах ты, душа ты мая...

Мірон (*лагодна*). Ну, ну... (*Пайшоў.*)

Калгасны хор пяе песню. Насця і Ліда нешта гавораць да піонераў. Мікола вышаў з-за стала, пакручваючы пояс, павольна пайшоў у сад. Яго праводзіў вачыма Харкевіч з-за стала. Хор пяе. Пачакаўшы, адзін з пагранічнікаў устаў і, падыгрываючы на балалайцы хору, павольна пайшоў у тым-жа напрамку, што і Мікола. Праз хвіліну балалайку передалі па руках на стол, дзе пагранічнікі. Тады адзін з іх падаў дзяўчыне свой гармонік і, не спяшаючыся, пайшоў у сад. Усё прадаўжаецца ў тым парадку, як і раней. Песні, асобныя выступленні, гульні.

Міхась (*устае*). Таварышы, ціха! (*Гоман сціхае.*) Ад нашых шэфаў, ад рабочых МТС зараз выступіць...

Глухі недалёкі стрэл. Глыбокая цішыня. Усе ўсталі.

Усенка. Таварышы! Спакойна! (*Вышаў з-за стала, следам за ім Міхась.*)

Галасы. Што гэта?

— Тут, у калгасе, стрэлілі...

— Блізка!

— Ну, нешта ёсць такое...

Голас здалёк. Ідуць!

— Ідуць...

Цішыня. З'яўляецца Мірон, з ім камсамольцы. У Мірона стрэльба ў руках. Матляецца адарваны рукаў. Амаль што ўсе вышлі з-за сталоў. Моўчкі глядзяць.

Мірон. Злавілі воўка. Яслі хацеў падпаліць.

Шмат галасоў. Хто?

Мірон (*глянуў на Усенку*). Пасля разбяруцца, яго на заставу павялі... Бутэльку газы ўжо выліў на дах і з за-

палкай лезе. Тут мы на яго і ўсселі. *(Да Усенкі.)* I адкуль узяліся твае хлопцы, начальнік! Каб не яны, мы так скора з ім рады не далі-б... Ён мяне вось чым рэзнуць хацеў! (*Паказвае нож.*)

Насця. Ах! (*Схапілася за галаву.*)

Усенка. Што з вамі, Насця?

Харкевіч стаіць тут-жа, пазірае некуды ўбок. Насця павольна падыходзіць да яго і спыняецца. Глядзіць на яго ва ўпор.

Харкевіч (*глуха*). Што ты... дачка!

Насця (*задыхаючыся*). Я табе не дачка... Забойца!.. Гэта твой нож!.. *(Страшэннае ўражанне сярод прысутных.)* Гэта ты, значыць. *(Да Усенкі.)* Ах, што я нарабіла! Таварышы, што, што я нарабіла? Як я не разумела, як мне хацелася думаць інакш, апраўдаць яго... Таварыш Усенка! Ён хавае...

Усенка (*перабівае*). Ціха! Не хвалюйцеся! Вы чуеце, грамадзянін Харкевіч, у чым вас абвінавачвае дачка ваша? Яна кажа, што гэта ваш нож.

Харкевіч. Мала, што яна кажа. Вар'ятка... Маці яе кінулася ў пропруб, і яна той дарогай... Ні гаварыць, ні слухаць не хачу. (*Павольна павярнуўся, каб ісці.*)

Усенка (*стрымлівае яго*). Стойце спакойна, грамадзянін Харкевіч. Гэта ваш нож?

Харкевіч. Ніякіх я такіх нажоў не ведаю, глузды ў яе галаве змяшаліся... Вы-ж гляньце, чыстая вар'ятка. (*Насця стаіць бледная, з шырока раскрытымі вачыма.*) Ну, гляньце-ж, яна не ў сабе! Каму вы гэта верыце? *(Да Усенкі.)* I вы мяне, калі ласка, перад народам не ганьбіце! За гэта адкажаце потым!

Усенка. Ну, досыць, Харкевіч. Не будзем псаваць людзям свята. Пройдзем на заставу, там пакуль што са сваімі знаёмымі пагаворыце. Тут вам рабіць няма чаго. (*Харкевіч глянуў на яго.*) Ну, з тымі самымі знаёмымі, што ўвечары пад возера пад'ехалі, рыбкі палавіць...

Харкевіч *(глуха.)* А! *(Сеў на канец лаўкі, дакрануўся да ілба, глядзіць на Усенку, як непрытомны.)*

Усенка. Ну, вось і прыпомнілі. Цяпер усё ў парадку. (*Да пагранічніка.*) Выклікаць нарад!

Пагранічнік. Ёсць выклікаць нарад! (*Вышаў. Цішыня.*)

Усенка. Тут яшчэ вашы знаёмыя, Харкевіч. (*Голасна.*) Сільвестр Вырвіч, ёсць?

Вырвіч (*з натоўпу*). Ёсць (*прабіраючыся праз натоўп*). Ёсць, ёсць, ёсць... Ёсць, браткі, ёсць... (*Стаў перад Усенкам, аправіў пінжак.*) Ёсць, значыцца.. Сільвестра Вырвіч...

Язэп. Дык ты змей...

Вырвіч. Змей, браткі, змей, значыцца... (*Азірнуўся.*) І я... (*склаў рукі*). Браточкі! Даруйце! І свіран я, і жарабят я...

Усенка. Спакойна, грамадзянін.

Вырвіч змоўк, панурыўся. Гук абурэння.

Лук'ян. Харкевіч, Харкевіч! Цьфу! Слоў няма!..

З'яўляецца нарад. Усенка паказвае рукой.

Старшы нарада (*коратка*). Устаць!

Харкевіч (*павольна ўстае*). Ну... Крыўды няма... За дваццаць гадоў я вам даўся ў знакі... З самага партызанскага атрада...

Гул абурэння.

Галасы: — Гады!
— Мярзаўцы!
— Ваўкі!
— Папаліся!
— Сабакі шалёныя!
— Таварышы, маўчаць! Ні слова!
— Праўда!.. На такіх яшчэ слова траціць чалавечае!
— Ціха!
— Маўчыце!

У глыбокай цішыні Харкевіч і Вырвіч стаяць, акружаныя канвоем. На іх глядзяць з пагардай і гідлівай цікаўнасцю. Побач з Насцяй стаіць Ліда. Мірон, Язэп, Міхась, Нічыпар акружаюць іх.

Харкевіч. Ну, дачка...

Насця. Прэч! Ты не бацька мне! Забойца, воўк!

Харкевіча і Вырвіча павялі. Калгаснікі і госці расступіліся. Яны прайшлі, панурыўшыся, акружаныя канвоем, і зніклі. Цішыня.

Ліда (*абнімае Насцю*). Насценька, супакойся, дарагая...

Мірон. Не плач, галубка... Чымся такога бацьку мець, лепей ніякага...

Насця. У мяне не было бацькі... Ён памёр, калі я нарадзілася. У мяне маці была... Замучыў яе.. воўк... (*Плача.*)

М і р о н. Глянь, якая ў цябе сям'я... (*Паказвае на прысутных.*) Не плач, шчасце сваё чыстае наперадзе знойдзеш!

Усе цяпер глядзяць на групу каля Насці.

Д а б р ы н і н. Таварышы! Сёння жалезнай рукой слаўных чэкістаў ліквідавана варожая банда ў нашым раёне. Але вось там — застаўся варожы свет! Таварыш Сталін сказаў, што пакуль гэты свет будзе існаваць, будуць у нас і шпіёны, і дыверсанты і ўсякія, розных масцей і колераў, ворагі. Прэч залішнюю даверлівасць! Пільнасць, вялікая пільнасць патрабуецца ад нас. Будзем заўсёды памятаць словы нашага правадыра!

Сёння ворагі хацелі папсаваць нам жыццё. Дабіліся-ж яны толькі таго, што знізілі наш святочны, урачысты настрой. Ёсць добрая песня, таварышы! Ёсць гімн, які сілу дае пачуццям, адзінства сэрцам, смеласць думкам! З ім заўсёды перамагалі і заўсёды перамогуць большэвікі! (*Апладысменты. Апошнія словы Дабрыніна пакрывае магутны дружны спеў «Інтэрнацыянала». Усенка стаў побач з Насцяй і ўзяў пад казырок.*)

---

## ЗАЎВАГІ

**«Русалчыны сцежкі»** — апублікавана ўпершыню ў часопісе «Узвышша», № 5, 1931 г. Друкуецца па зборніку «Пункт апоры», ДВБ, Мінск, 1935 г.

**«Цагліна каземата»** — апублікавана ўпершыню ў часопісе «Маладняк», № 2—3, 1932 г. Друкуецца па зборніку «Пункт апоры», ДВБ, Мінск, 1935 г.

**«Пункт апоры»** — апублікавана ўпершыню ў часопісе «Полымя рэволюцыі», № 2, 1934 г. Друкуецца па зборніку «Пункт апоры», ДВБ, Мінск, 1935 г.

**«Паляўнічае шчасце»** — апублікавана ўпершыню ў часопісе «Полымя рэволюцыі», № 6, 1933 г. Друкуецца па зборніку «Дачка эскадрона», ДВБ, Мінск, 1937 г.

**«Тэорыя Каленбрун»** — апублікавана ўпершыню ў часопісе «Полымя рэволюцыі», № 8, 9, 10, 1933 г. Друкуецца паводле другога выдання ДВБ, Мінск, 1935 г.

**«Герой нацыі»** — апублікавана ўпершыню ў часопісе «Полымя рэволюцыі», № 10, 1934 г. Друкуецца паводле зборніка «Дачка эскадрона», ДВБ, Мінск, 1937 г.

**«Урачыстая меса»** — апублікавана ўпершыню ў часопісе «Полымя рэволюцыі», № 11, 1936 г. Друкуецца па зборніку «Дачка эскадрона», ДВБ, Мінск, 1937 г.

**«Сустрэча»** — друкуецца па зборніку «Дачка эскадрона», ДВБ, Мінск, 1937 г.

**«Дачка эскадрона»** — апублікавана ўпершыню ў газеце «Літаратура і мастацтва», 1937 г., № 13. Друкуецца паводле зборніка «Дачка эскадрона», ДВБ, Мінск, 1937 г.

**«Апавяданне пра гуманізм»** — апублікавана ўпершыню ў газеце «Звязда», 1937 г., № 2. Друкуецца па зборніку «Дачка эскадрона», ДВБ, Мінск, 1937 г.

**«Сон»** — апублікавана ўпершыню ў газеце «Літаратура і мастацтва», 1937 г., № 16. Друкуецца па зборніку «Дачка эскадрона». ДВБ, Мінск, 1937 г.

**«Пагібель воўка»** — апублікавана ўпершыню ў часопісе «Полымя», № 1, 1939 г. Друкуецца паводле асобнага выдання п'есы, ДВБ, Мінск, 1939 г.

## БІБЛІЯГРАФІЯ

### Асобныя выданні твораў Эдуарда Самуйлёнка

«Тэорыя Календбрун». Аповесць. ДВБ. Мінск, 1934 г., стар. 196, тыр. 10.000 экз. Ц. 1 р. 10 к., вокл. 40 к.

«Тэорыя Календбрун». ДВБ (Школьная серыя). Мінск, 1934 г., стар. 196, тыр. 10.000 экз. Ц. 1 р. 10 к., вокл. 10 к.

«Тэорыя Календбрун». ДВБ (выд. 2-ое), Мінск, 1935 г., стар. 198, тыр. 5.185 экз. Ц. 1 р. 25 к., вокл. 25 к.

«Тэорыя Календбрун», ДВБ, Мінск, 1935 г., стар. 200, тыр. 2.185 экз. Ц. 2 р. 25 к. На польскай мове.

«Пункт апоры». ДВБ, Мінск, 1935 г., стар. 277, тыр. 3.000 экз., Ц. 2 р. 75 к.

«Дачка эскадрона». ДВБ, Мінск, 1937 г., стар. 136, тыр. 10.000 экз. Ц. 3 р.

«Будучыня». Раман, кн. 1-ая. ДВБ, Мінск, 1938 г., стар. 399, тыр. 6.000 экз. Ц. 8 р. 25 к.

«Пагібель воўка». П'еса ў 4 дз., 7 карц., ДВБ, Мінск, 1939 г., стар. 55, тыр. 3.000 экз. Ц. 2 р.

«Гибель волка». Пьеса в 4 д., 7 карт. Перевод с бел. яз. И. П. Пикулёва. Москва, изд. «Искусство», 1939 г., стр. 122, тир. 1.075 экз. Ц. 4 р. 65 к. на правах рукописи (стеклогр. издание). На рускай мове.

«Гибель волка». Пьеса в 4 акт. Перевод в бел. яз. А. Глебова. Москва — Ленинград, изд. «Искусство», 1940 г., стр. 96, тир. 4.000 экз. Ц. 2 р. 80 к. На рускай мове.

«Выбраныя творы». Уступны арт. Ю. Дворкінай («Творчасць Эд. Самуйлёнка», стар. 3 —18). ДВБ (школьная бібліятэка), Мінск, 1940 г., стар. 196, тыр. 8.000 экз. Ц. 3 р.

«Будущность». Роман. Ред. и перев. с бел. Семена Родова. Предисл. М. Климковича, (стар. 3—4). Москва, 1941 г., стр 340, с иллюстр. (5 вкладок), тир. 10.000 экз. Ц. 7 р. 50 к. На рускай мове.

«Выбраныя апавяданні». ДВБ, Мінск, 1946 г., стар. 151, тыр. 10.000 экз. Ц. 7 р. 50 к.

«Будучыня». Раман. Уступны арт. Е. Замерфельда («Эдуард Самуйлёнак», 1907—1939). ДВБ, Мінск, 1947 г., стар. 363, з партрэтам, тыр. 10.000 экз. Ц. 13 р. 40 к. вокл. 60 к. З бібліяграфіяй: «Кнігі Эдуарда Самуйлёнка».

«Выбраныя творы». Уступны арт. Е. Зомерфельда. («Эдуард Самуйлёнак». ДВБ, школьная бібліятэка), Мінск, 1948 г., стар. 243, з партр., тыр. 15.000 экз. Ц. 4 р.

«Будущность». Роман. Перев. с бел. С. Родова. Иллюстр. А. Волкова. ДВБ, Мінск, 1948 г., стар. 363, тыр. 10.000 экз. Ц. 12 р. 75 к., на рускай мове.

«Гибель волка». Пьеса в 4 действ. Перев. с бел. П. Кобзаревского и Н. Вагнера. Ленинград — Москва, изд. «Искусство» («Белорусская драматургия». т. II.), тир. 5.000 экз. Ц. 16 р. 50 к. На рускай мове.

«Мисливське щастя». Пер. с бел. М. Рильский. Київ, 1949 г. («Білоруські оповідання»), стар. 32, с партр., тыр. 10.000 экз. Ц. 15 р. На украінскай мове.

«Паляўнічае шчасце». Апавяданні. ДВБ (школьная бібліятэка), Мінск, 1950 г., стар. 119, тыр. 20.000 экз. Ц. 3 р. 40 к.

## ЗМЕСТ




*На белорусском языке*

***Эдуард Самуйленок.***
**Собрание сочинений т. I**

Тэхрэдактар *Л. Прагін*
Карэктары *П. Галубцова і Н. Кузнік.*

АТ 74608. Падп. да друку 15 II 1952 г. Тыраж 15 000 экз.
Папера 84×108/32. Пап. арк. 7. Друк. арк. 22,96.
Вуч.-выд. арк. 25. Зак. 525
Цана 9 р. 50 к. (намінал па прэйскуранту 1952 г.)

Друкарня імя Сталіна. Мінск, Пушкіна, 55.